Г. Ф. ЮРЧАНКА

# НАРОДНАЕ ВЫТВОРНАЕ СЛОВА

**Р — Я**

З гаворкі Мсціслаўшчыны

Мінск «Навука і тэхніка», 1985

ББК 81.2Бел-4
Ю 83

Рэдактар
А. А. Крывіцкі,
кандыдат філалагічных навук

Рэцэнзенты
А. І. Падлужны, доктар філалагічных навук,
І. Я. Яшкін, кандыдат філалагічных навук

**Юрчанка Г. Ф.**

Ю 83 Народнае вытворнае слова: З гаворкі Мсціслаўшчыны. Р — Я.— Мн.: Навука і тэхніка, 1985.— 336 с.

У пер.: 1 р. 40 к.

Кніга з'яўляецца трэцяй, заключнай часткай збору дыялектнай лексікі. Папярэднія часткі выйшлі ў 1981 і 1983 гг. У слоўнік уключан багаты лексічны матэрыял, сабраны ў 50—80-х гадах на ўсходзе Беларусі, на мяжы непасрэдных кантактаў сучасных беларускіх і рускіх гаворак. Шырока паказана слова- і формаўтваральная сістэма гаворкі, яе сінаніміка і эмацыянальна-вобразная афарбоўка. Усяго прыведзена і растлумачана каля 6500 лексічных адзінак.

Разлічана на лінгвістаў, выкладчыкаў і студэнтаў філалагічных факультэтаў ВНУ. Карысны для сябе матэрыял знойдуць тут работнікі друку, пісьменнікі, журналісты.

**Ю $\frac{4602020000-042}{М316-85}$ 121—85**

**ББК 81.2 Бел-4**

*Светлай памяці маці*
*Васілісы Міхайлаўны*
*прысвячаецца*

# ПРАДМОВА

Кніга з'яўляецца трэцяй, заключнай часткай збору вытворнай дыялектнай лексікі, пашыранай у гаворцы Мсціслаўшчыны. Дзве папярэднія часткі апублікаваны асобнымі кнігамі пад гэтай жа назвай у 1981 і 1983 гг. Тут падаецца лексіка на літары Р—Я. Словы на літару Ф адсутнічаюць у сувязі з тым, што ў традыцыйнай мясцовай гаворцы няма гукаў, якія абазначаюцца гэтай літарай. Адпаведнікамі іх у запазычаных словах звычайна выступаюць гукі *х, х'*, спалучэнні *хв, хв' (хунт, хундамент, хурхуровый* 'фарфоравы', *Хлімон, хвабрыка, хванера, хвантан, хвартук, хворс, хвельчар, хверма, хвінскій, Сахвея),* у асобных словах *п, п', кв (Прося, Пёкла, Піліп, квасоля).*

Сабраная і пададзеная тут і ў папярэдніх частках вытворная лексіка досыць поўна раскрывае словаўтваральныя магчымасці гаворкі, іх сродкі і прадуктыўнасць. Сярод мясцовых вытворных слоў і іх груп нямала такіх, якія з цяжкасцю паддаюцца дакладнаму перакладу сродкамі літаратурнай мовы і нават апісальнаму тлумачэнню. Яны абазначаюць складаныя паняцці і розныя тонкія іх адценні, якія ў лексіцы літаратурнай мовы нярэдка адсутнічаюць.

У кнізе захаваны ранейшая будова слоўнікавых артыкулаў, адбор слоў і іх тлумачэнне. Гэтак жа, як і ў папярэдніх частках, падаюцца рэестравыя словы, розныя паметы, ілюстрацыйны матэрыял. Як і раней, усе паметы пры рэестравым слове або пры яго значэннях адносяцца да кожнага ўключанага ў артыкул слова ці да яго аналагічных значэнняў. Так, памета неадабральнасці да рэестравага слова *размантачываць* адносіцца таксама да яго зваротнай формы незакончанага трывання, да абедзвюх форм закончанага трывання і да формы дзеепрыметніка. Памета неадабральнасці да другога значэння

дзеяслова *ўспіраць* адносіцца і да другога значэння яго зваротнай формы абодвух трыванняў і формы дзеепрыметніка. Памета пераноснасці ў групе з пачатковым рэестравым словам *разяўліванне* адносіцца да ўсіх чатырох назоўнікаў. Як і раней, не пазначаецца род пры памяншальных, павелічальных, узмацняльных і іншых формах назоўнікаў, таму што ён супадае з родам рэестравага слова.

Націскі над рэестравымі словамі пазначаны ў ілюстрацыйных прыкладах; там жа пазначаны націскі і над тымі словамі, якія могуць быць няправільна прачытаны. Склады з *о, э, е, ё* ў гаворцы бываюць толькі пад націскам, таму націск над імі не пазначаецца.

Выбухное *г* паказваецца графічна: *ґанкі, джоґій, умазґоліваць, ґ бальшаку, ґ гораду, ґ другім, ґ душэ.*

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*Абраж.*— абражальнае, *адм.*— адмоўнае, *асудж.*— асуджальнае, *выкл.*— выклічнік, *выш. ст.*— вышэйшая ступень параўнання, *груб.*— грубае, *гумар.*— гумарыстычнае, *дзеепрым.*— дзеепрыметнік, *дзеепрысл.*— дзеепрыслоўе, *дзеясл.*— дзеяслоўны, *дзіц.*— дзіцячае, *ж.*— жаночы род, *жарт.*— жартоўнае, *займ.*— займеннік, *зак.*— закончанае трыванне, *зал.-бессуб'ект.*— залежна-бессуб'ектная форма, *зб.*— зборны назоўнік, *звыч.*— звычайна, *зл.*— злучнік, *знач.*— значэнне, *зніж.*— зніжальнае, *інш.*— іншае, *іран.*— іранічнае, *ласк.*— ласкальнае, *м.*— мужчынскі род, *мн.*— множны лік, *н.*— ніякі род, *-н.*— небудзь, *неадабр.*— неадабральнае, *незак.*— незакончанае трыванне, *паб. сл.*— пабочнае слова, *павеліч.*— павелічальнае, *пагардл.*— пагардлівае, *памянш.*— памяншальнае, *перан.*— пераноснае, *прым.*— прыметнік, *прыназ.*— прыназоўнік, *прысл.*— прыслоўе, *рэдкаўж.*— рэдкаўжывальнае, *узмацн.*— узмацняльнае, *экспрэс.*— экспрэсіўнае.

# Р

**Разбароннік** *м.* Той, хто разнімае забіяк. *Січас прібягіць іхный рызбароньнік, усіх зразу сьціхаміріць.* **Разбаронніца** *ж. Тута і біз рызбароньніцы дужа хырашо абойдзіцца, нечыга ўлізаць, куды ні нада.*

**Разбарсыванне** *н.* Выцягванне абор з лапцяў. *Кінь ты ета рызба́рсывыньня, садзіся есьць, ато ўсё стыніць.*

**Разбарсываць** *незак.* Выцягваць аборы з лапця. *Ці стоіць такую ірва́нь рызба́рсывыць, скруці ды кіда́й цыліком у печ.* **Разбарсывацца** *незак.* Выцягвацца з лапця (пра аборы). *Ні рызба́рсывыіцца і ні нада, выкінь і ўсё тут будзіць.*

**Разбіваннік** *м. перан.* 1. Той, хто растрасае (гной, сена, салому і інш.). *Ныработыліся рызьбіва́ньнікі, зымаріліся, гной рызьбіва́ць цяжола.* 2. Той, хто разлучае (хлопца і дзяўчыну, сям'ю, бацькоў). *Вот гіройскій рызьбіва́ньнік найшоўся, ныла́іць яго Дывыдзёнык і ні ў чужоя места будзіць. Будзіць етыму рызьбіва́ньніку, чаго яму ў чужую сям'ю лезьць.* **Разбіванніца** *ж.* 1. Тая, што растрасае (гной, сена, салому і інш.). *Ідзець рызьбіва́ньніца і вілкі вылакець зы сабою.* 2. Тая, што разлучае (хлопца і дзяўчыну, сям'ю, бацькоў). *Пупадзець тваёй рызьбіва́ньніцы большы некуды, ні яе дзела, калі Пылагін сын думыіць жаніцца.*

**Разбіваць** *незак. перан.* Рабіць вадкім. *Відна, мука была ні саўсім харошыя, што так цеста рызьбіва́іць.* **Разбіць** *зак.* Зрабіць вадкім. *Разьбіла цеста, што ні знаю, як яго ў печ укінуць, ну лупаці ня ўдзержыш.* **Разбітый** *дзеепрым. Ох, якоя цеста разьбі́тыя, зь яго ня хлеб печ, а бліны якея-небудзь.*

**Разбіндзюгацца** *зак.* Пачаць швэндацца, цягацца, лодарнічаць. *За лета рызьбіньдзюга́ліся, дзелыць нічога ня дзелылі. Ты зь яго вока ні спускай, рызьбіньдзюга́іцца, тады ня ўдзержыш у руках.*

**Разбіраннік, разбіральшчык** *м.* 1. Той, хто разбірае

(пабудову). *Твае рызьбіраньнікі як узяліся, дык зы два часы баньку рыскацілі. Даўно сідзяць рызьбіральшчыкі ны бярьвеньні, пра нешта талкуюць.* 2. Той, хто высвятляе што-н. *Калі жызьня ні склалыся, дык якей табе рызьбіраньнік паможыць. Пашоў Максімыў рызьбіральшчык двору сагнуўшы гылаву, нырызьбіраўся.* **Разбіранніца, разбіральшчыца** *ж.* 1. Тая, што разбірае (пабудову). *Якея ні рызьбіраньніцы, а сьценку ды абеда раськідылі, і нам трошку ляхчэй. Віджу, віджу, што сь цябе пулучылыся ладныя рызьбіральшчыца.* 2. Тая, што высвятляе што-н. *Як прібягіць яшчэ адна рызьбіраньніца, іна ўсё на места пыставіць. Што ж ты, рызьбіральшчыца, дренна міріла іх, нада було луччы.*

**Разбіраюшчый** *прым.* Такі, які разумее, разбіраецца. *Есьлі пупадзецца чылавек рызьбіраюшчый, будзіць дукуваць ны кажным шагу, дык будуць жыць.*

**Разблішчэцца** *зак.* Пачаць часта бліскаць. *Мылыдня як рызблішчэлыся ў поўныч, я думыла, быльшая грыза будзіць, — не, троху-патроху сьціхла.*

**Разблуканяцца** *зак.* Пачаць блукаць, хадзіць без справы і без мэты, увільваць ад працы. *Ну што ты рузблукуняўся, нійдзе сабе места ні найдзіш. Рузблукуняліся мальцы, слаба іх Навуміха к рукам прібіраіць.*

**Разблындацца** *зак. іран.* Пачаць бязмэтна бадзяцца. *Мальцы саўсім разблындыліся, паможч у дваре нічога ня хочуць, пад'елі і зысьвісталі пы дзярэўні.*

**Разборчывата** *прысл.* Разборліва. *Ты пішы разборчывыта, ато яны ні прычытаюць. Саўсім мыльгавінка, а так разборчывыта гаворіць, цябе такога саўсім ні рызбрацць было.*

**Разборчыватасць, разборчыстасць** *ж.* Разборлівасць. *Ніякія ў цябе німа разборчывытысьці, грязь, ні грязь — ні абойдзіш, лезіш. Каб у яго було троху разборчыстысьці, ён ба дайжа ні глянуў у тэй бок, айдзе Храсіньня стаіць.*

**Разборчыватый** *прым.* Разборлівы. *Большый напішыць абы-як, як куріца лапыю, а ў меншыга поччырк дужа разборчывытый.*

**Разбразкаць, разбразкатаць** *зак. перан. неадабр.* Разнесці чуткі, разбалбатаць. *На нохыць пачуюць, а тады прікладуць ніізьвесна сколька і пы ўсяму сьвету рызбрязкыюць. Етыя што хочыш рызбрязкочуць. Яны ўмеюць рызбрізкытаць, учыць іх ні нада.* **Разбразкацца, разбразкатацца** *зак.* 1. Пачаць доўга бразгаць. *Чым тама*

*рызбрязкыліся малыя? Ну й рызбрізкыталіся дзеці, крікні, каб успакоіліся.* 2. Разбалбатацца. *Твыя сьвякроўка як рызбрязкылыся: усё ні ыравіцца, што брігадзір скызаў. Ты ж луччы знаіш, чаго яны рызбрізкыталіся.* **Разбразканый, разбразкатаный** *дзеепрым. Ён ішчэ двору ні пасьпеў даехыць, а тута ўсё було рызбрязкына. Есьлі твыя кума пачула, то ўсюдых будзіць рызбрізкытана.*

**Разбрузнуць** *зак.* Моцна апухнуць, распаўнець. *Ты б толька відзіў, як у яго ныга разбрюзла, пасьці ды калена. Чый ета гарбуз, каб ён сам разбрюз.* **Разбрузлый, разбрузшый** *дзеепрым. Во такей во разбрюзлый ходзіць, ажно вочы запухлі. Нічога ён табе ні паможыць, у яго правыя рука разбрюжшыя.*

**Разбрусянець, разбрусянецца** *зак.* Моцна распухнуць і пацямнець. *Рука ў локці рузбрюсянела, ні знаю, што зь ёю случылыся, можа зьвіх якей ці рысьцяжэнія. Адз зубоў шчыка рузбрюсянелыся, зывязыный ходзіць.* **Разбрусянелый, разбрусянеўшый** *дзеепрым. Ці ета ён адж жыру такей рузбрюсянелый, ці што зь ім,— ідзець як пампушка. Куды ён пойдзіць с такою рузбрюсянелыю нагою.*

**Разбрухацець, разбрухацецца** *зак.* Распаўнець, раз'есціся. *Ні ўгыждай ты яму, ні ўгыждай, ён і так рузбрюхацеў большы некуды. Рузбрюхацелыся зу мужуковыю сьпіною, раншы такою ні была.* **Разбрухацелый, разбрухацеўшый** *дзеепрым. Ходзіць рузбрюхацелый, як бочка, яму пірідзьвігацца цяжола. Відзілі яе сьвякрову: стаіць рузбрюхацеўшыя на вуліцы.*

**Разбрыкацца** *зак.* Пачаць бегаць, гулліва насіцца. *Жырібяткі як рузгуляюцца на выгыні, як разбрыкыюцца, пуўдня носюцца. Дужа вы разбрыкыліся, мальчыкі, айдзе вашы сьвіньні будуць.*

**Разбрынкацца** *зак.* 1. Заладзіць надоўга няўмелую ігру на струнным інструменце. *Другей раз як разбрынкыюцца пыд вакном, дык спаць ні даюць. Адзін пірід адным разбрынкыліся ны былылайкых.* 2. Пачаць швэндацца, бадзяцца. *Разбрынкыўся і разбрынкыўся, цігаіцца с апушчыныю гылавою, нічога ні пымыгаіць.*

**Разбрытыванне** *н.* Зніманне аброці. *Што йта зы разбрытывыньня, што ты аброць с кыня ня зьдзеніш.*

**Разбрытываць** *незак.* Знімаць аброць. *Разбрытывыйця коні і пускайця, толька абізацільна спутыйця, ато тады ня зловіця.* **Разбрытывацца** *незак.* Скідаць аброць (пра каня). *Кабыла наўчылыся сыма разбрытывыцца: гылавою трецца ап што-небудзь, пакуля зьдзеніць аброць.*

**Разбрытаць** *зак.* Зняць аброць. *Чаго ты кыня ні рызбрытаў ні пусьціў, ніхай ба скубануў троху.* **Разбрытацца** *зак.* Скінуць аброць (пра каня). *Не, сам ён ня мог рызбрытацца, зьнізу я сам зышпіляў, ета нехта нарошня зьняў аброць.* **Разбрытаный** *дзеепрым. Коні ўжо рызбрытаныя ходзюць.*

**Разбубнецца** *зак.* Разбурчацца. *Ці доўга ёй рузбубнецца, зывілася і пышла грімець ні сьціхаючы. Рузбубнеліся ўдваіх, хуць с хаты ат іх бягі.*

**Разбузовываць** *незак.* Разварочваць, раскопваць, раскідваць, разношваць. *Нашто еткыю бальшую ямішчу рузбузовывыць? Што ты тут шукаіш — усё пыдряд рузбузовывыіш?* **Разбузовывацца** *незак.* 1. Разварочвацца, раскопвацца, раскідвацца, разношвацца. *Рузбузовывыіцца кулдобіна кыткамі, скора ні піряехыць будзіць. У яго ўжо ці ня трецьція кухваічка рузбузовывыіцца с таго ўремя.* 2. Пачынаць энергічна дзейнічаць. *Дос рузбузовывыцца, пысядзі ціха, паслухый, што табе скажыць Аўдзяёнык.* **Разбузаваць** *зак.* Развярнуць, раскапаць, раскідаць, разнасіць. *Хто тута вуюваўся лі етыга плітня. рузбузувалі увесь чыста.* **Разбузавацца** *зак.* 1. Развярнуцца, раскапацца, раскідацца, разнасіцца. *Так рузбузуваlыся ўсё ны дваре ні ступіць, нада пяску нывазіць ды троху засыпыць. Саўсім пінжак рузбузуваўся, ні ныдзівай большы.* 2. Пачаць энергічна дзейнічаць. *Ох, як ты рузбузуваўся, гатоў ноч тут кыпаць.* **Разбузаваный, разбузованый** *дзеепрым. Рузбузуваныя етыя калёсы, ныўряд ці прівязеш на іх што-небудзь. Саўсім рузбузовына кыпа, коні яе цэлыю ноч трясьлі.*

**Разбурбулецца** *зак.* Пачаць моцна кіпець. *Дыстывай чугункі, яны рузбурбулеліся, пывыкіпывыюць саўсім.*

**Разбурыванне** *н.* Разбурэнне. *Якоя ж разбўрівыньня у пысяўную, рузбуріць нядоўга, пірявезца січас будзіць дужа трудна, нада трошку пыдыждаць.*

**Разбухікацца** *зак.* Раскашляцца гучна, зацята. *Што ты разбухікыўся як стáрый дзед, злазь-ка сь печы ды пойдзім ны вічарінку.*

**Разбухыванне.** *н.* Раскопванне. *Нашто ўжо такоя разбўхывыньня, што ты дужа будзіш сыпыць у тэй погріб.*

**Разбяганне** *н.* Уцёкі ў розныя бакі. *Яны рызьбігáцца, ня будуць кыпаць, ах, пракўднікі, я ім дам рызьбігáння.*

**Разбязуліваць** *незак.* 1. Патвараць гультайству. *Ты яго сам рызьбязўлівыіш, пызвыляіш дзелыць усё, што ён хочыць.* 2. Разгультайвацца. *Я ўжо сам віджу, што*

*яны сталі рызьбязу́лівыць.* **Разбязуліваца** *незак.* Пераварацца ў гультая. *Змалку ні дывай рызьбязу́лівыцца, кылі хочыш, каб чылавекым вырыс.* **Разбязуліць, разбязульнічаць** *зак.* 1. У выніку патворства зрабіць гультаём. *Патворствым можна любога дзіцёнка рызьбязу́ліць. Хто ж, кылі ні сам ты яго рызьбязу́льнічыў.* 2. Ператварыцца ў гультая. *Ня хочыш ты за імі глядзець, рызьбязу́люць, што плакыць будзіш. Нічога быў маліц, а цяперя рызьбязу́льнічыў, што ніякыга зла́ду німа.* **Разбязуліцца, разбязульнічацца** *зак.* Ператварыцца ў гультая. *Нілізя було падумыць, што Кірэіў сын етык рызьбязу́ліцца. Каб бацька з маткыю большы глядзелі, так ба ні рызьбязу́льнічыўся, ато адна пра ўборы думыіць, а другей глядзіць, айдзе выпіць.* **Разбязуленый** *дзеепрым. Дайжа падумыць нілізя було, каб у Хвядосіхі тыкая рызьбязу́ліныя дычка вырысла.*

**Разбянтэжываць** *незак.* Распешчваць. *Дзьве бабы, два дзяды, ні прідумыюць, што яму ўперць, як зь ім гуляць, рызьбянтэжывыюць.* **Разбянтэжывацца** *незак.* Распешчвацца. *Калі дужа многа нянік, дзіцёнык рызьбянтэжывыіцца.* **Разбянтэжыць** *зак.* Распесціць. *Ні дывай столька пыта́чкі, ато рызьбянтэжыш, што ні сыўлыда́іш.* **Разбянтэжыцца** *зак.* Распесціцца. *Ах жа ты, неслух, рызьбянтэжыўся ў бабы, што нікога прізнываць ня хочыш.* **Разбянтэжаный** *дзеепрым. Дужа рызьбянтэжыный дзіцёнык, іна нікуды ня ходзіць, сядзіць у хаці, пряма трясецца над ім.*

**Разваджываць** *незак.* 1. Разводзіць, рабіць раствор. *Зьмітрок ны дваре мел рызва́джывыіць, нада троху хату пыбяліць к празьніку.* 2. Адводзіць кожнага асобна. *Ні пайду я іх рызва́джывыць, самі ніхай ідуць.* 3. Вырошчваць на развод. *Вутык у нас дренна рызва́джывыць, ім выда нада, а тут німа.* 4. Скасоўваць шлюб. *Яны адзін раз пыдывалі, іх нешта ня хочуць рызва́джывыць.* 5. Разнімаць пры бойцы. *Пітушыліся адзін піріда дным, а Хадос іх рызва́джывыў.* **Разваджывацца** *незак.* 1. Разводзіцца (пра раствор). *Нешта ета краска ні рызва́джыіцца, ня хочыць руспуска́цца.* 2. Разводзіцца, размнажацца. *Другей год столька мышэй рызва́джыіцца, што ўсюдых пряма пяшком ходзюць, а каторый год саўсім мала.* 3. Скасоўваць шлюб. *Нічога ў іх жызьні ні пулучаіцца, думыюць рызва́джывыцца.*

**Разваёвыванне** *н. перан.* Раскідванне, разбурэнне. *З вазок сена ліжала ў вугалку ў сяніцы, ты пыглядзеў*

*ба, што яны зь ім зьдзелылі: па ўсёй сяніцы рысьцігалі,— ну нада даць ім зы рызваёвывыньня.*

**Разваёвываць** *незак. перан.* Раскідваць, разбураць у гневе. *Нашто табе ету кучу рызваёвывыць, ніхай іна ляжыць як ляжыць.* **Разваёвывацца** *незак.* Бушаваць. *Ні далі яму рызваёвывыцца, скора ўнялі.*

**Развaжываць** *незак.* Супакойваць, займаючы размовамі. *Яе ўжо троху свае рызвáжывыюць, канешня ж, еткыя горя ў бабы. Іна такую бяду пірінісла, нада рызвáжывыць яе.*

**Развaжыста** *прысл.* Развaжна, разумна. *Іванёнык рызвáжыста руссуждаіць, а етый як вецір: абы ляпнуць.* *Выш. ст.* **развaжысцей.** *На етый раз і Коля рызвáжысьцій гаворіць. Памянш.* **развaжысценька.** *Ня дужа ў яго рызвáжысьцінька пулучаіцца.*

**Развалакыванне** *н.* Развалаканне, расцягванне. *Тама ўжо нічога ні асталыся посьлі рызвылáкывыньня. Далося нам рызвылáкывыньня, крепка ўбухыліся.*

**Разваліваццa** *незак. перан.* Празмерна тлусцець. *Калі харошый доглід, коні пряма рызвáлівыюцца.* **Разваліцца** *зак.* Празмерна растлусцець. *Ні знаюць, чаго ныпіхаць той дзяўчынкі, іна ажно рызвалíлыся, так дайжа нііздарова пірікармлівыць. Ішоў тута Аксюцін зяць: ну, рызвалíўся чылавек, хут ты зь яго жыр тапі.*

**Развалочца** *зак. перан.* Разысціся. *К поўнычы толька рызвылаклíся, усё сядзелі, успыміналі стáрыя. Загоніць зы бярезьнік і сам ляжыць, скот рызвылакецца пы ўсяму полю.*

**Развалтузіцца** *зак. неадабр.* Распачаць важданіну, баруканне. *Як рызвалтýзіліся, дык іх було ні ўняць, пакуля Прося зу рукаў свайго пыцягнула.*

**Разварзёкываць** *незак.* Размазваць, расквэцваць. *Ныляпіў цеста, дык ні нада хуць рызварзёкывыць.* **Разварзёкывацца** *незак.* Размазвацца, расквэцвацца. *Ніпацьцёртыя будзіць рызварзёкывыцца, тута нада пацьцерць, а ўсю хату замесьць.*

**Разварзёпыванне, разварзёпкыванне** *н.* Размазванне, пэцканне. *Дужа мне ні нырáвіцца глядзець ны ваша рызварзёпывыньня. Пу руках палучыш зы рызварзёпкывыньня, я доўга цáцкыцца ня буду.*

**Разварзёпываць, разварзёпкываць** *незак.* Размазваць, пэцкаць. *Ныляпіў кáшы, дык хуць ні рызварзёпывый, а пыдатрі акуратнінька. Што ён тама дзелыіць, што ён рызварзёпкывыіць! — дай пу руках ат тубурецiка.* **Раз-**

**варзёпываоцца, разварзёпкываоцца** *незак.* Размазвацца, пэцкацца. *Нешта ж рызварзёпывыіцца пы масту. Пыцьцірай, каб нічога ні рызварзёпкывылыся.* **Разварзёпаць, разварзёпкаць** *зак.* Размазаць, запэцкаць. *Ня дужа ён галодзін, ні паеў, а толька рызварзёпыў сьмітану. Рызварзёпкылі пы скыўрадзе бульбу і кінулі.* **Разварзёпацца, разварзёпкацца** *зак.* Размазацца, запэцкацца. *Дзелый так, каб нічога ні рызварзёпылыся. Як рызварзёпкыіцца, тады хужы пыччышчáць, луччы січас зьдзелый акуратнінька.* **Разварзёпаный, разварзёпканый** *дзеепрым. Пыглядзі кылі хочыш, рызварзёпыныя яешня астывáлыся ны скыўрадзе, дзеці кулупаліся. Нешта рызварзёпкына, цірні сьвежым лісьцікым ды выкінь.*

**Разваротліва** *прысл.* Энергічна, дзейсна. *Рызваротліва ў Сярьгея ні палучыцца, ён усігда як мяльля якоя.*

**Разваротлівасць** *ж.* Энергічнасць, дзейснасць. *І рызваротлівысьці хвытаіць, а вот нічога ня здзелыў, ні пулучаіцца і ўсё.*

**Разваротлівый** *прым.* Энергічны, дзейсны. *Каб быў рызваротлівый, ён ба і машыну найшоў, і пугрузілі б яму, а так ніізьвесна, калі етыя дровы пірівязуцца.*

**Разварчастасць** *ж.* Разварыстасць. *Ета як якей сорт, адна бульба пряма рыссыпаіцца, а ў другой рызвáрчыстысьці саўсім ні буваіць.*

**Разварчастый** *прым.* Разварысты. *Лета було дужа жаркім, дажджоў мала, дык бульба тыкая рызвáрчыстыя, ажно рыссыпаіцца.*

**Развірыдуваоцца** *зак.* Пачаць паводзіць сябе груба, нахабна, здзекавацца, самаўпраўнічаць. *Быў як рызьвірідувáўся, дык зьдзержу німа, пряма паверьх дзяреўні хадзіў.*

**Развіскатацца** *зак.* 1. Развішчацца. *Галодныя сьвіньні як рызьвіскочуцца, ажно двор ірвуць.* 2 *перан. іран.* Раскрычацца прарэзліва. *Нехта завёў, рызьвіскытáліся, што няскора ўнімуцца.*

**Развохкацца** *зак.* Развойкацца. *Во, і ты развохкыўся як старэй. Як развохкыіцца, тады ўжо зь яго работнік абычайный.*

**Развугнявіць** *зак. неадабр.* Выклікаць гугнявасць. *Чаго іх тамыцька рузвугнявіла?* **Развугнявіцца** *зак.* Пачаць гаварыць гугнява, пакрыўджана. *Як прішла, як рузвугнявілыся: ды што яны самі сабе думыюць, ды што яны ны мяне гаворюць, ды куды ета годна.*

**Развякываоцца** *незак. неадабр.* Пачынаць крык. *Нечыга*

*рызьвя́кывыцца, да шкоды тваім каровым ішчэ пуўвярсты. Каб ты меншы рызьвя́кывылыся, куды б луччы було.* **Развякацца** *зак.* Пачаць крык. *Нешта Ігнацёнык рызьвя́кыўся, відна, с кумою ні пыладзіў чаго-то.*

**Развярчыванне** *н.* Разгортванне, раскручванне. *Скарей ты іс сваім рызьвя́рчывыньнім вазіся, ато будзіш трі часы кулупацца.*

**Развярчываць** *незак.* Разгортваць, раскручваць. *Рызьвя́рчывый вузёл, што там іна прінісла. Нада рызьвя́рчывыць дзіцёнка, ён зыпаріўся.* **Развярчывацца** *незак.* Разгортвацца, раскручвацца. *Неік у цябе ні так рызьвя́рчывыіцца як нада.* **Развярцець** *зак.* Разгарнуць, раскруціць. *Рызьвярцелі бумагі, а тама пірог, харошый, толька пацсохлый.* **Развярцецца** *зак.* Разгарнуцца, раскруціцца. *Твой вузялок рызьвярцеўся, пыпраў ды пылажы луччы, каб ні зыіжджаў.* **Развярчываный, разверчаный** *дзеепрым. Відна, што твыя бумага рызьвя́рчывына. Чаго твой ма́лый разьверчын, ён можыць прустудзіцца голінькій.*

**Развяхываць, развяхкываць** *незак. перан. асудж.* Разносіць чуткі, балбатаць. *Ета Андряёўна ўсё ўсякыя рызьвя́хывыіць, у яе язык дужа нізыба́рсывыный. Каму ж пыныравіцца, што іна так ўсё рызьвя́хкывыіць.* **Развяхаць, развяхкаць** *зак.* Разнесці чуткі, разбалбатаць. *Пыла́га ніхай краім вуха пачуіць, усё рыўна рызьвя́хыіць. Луччы ні гыварі нічога, ато ня выціріпіць, рызьвя́хкыіць.* **Развяханый, развяхканый** *дзеепрым. Пакуля Купряёнык пачуў, тута усё було рызьвя́хына. Ета ня толька січас треплюць, ета даўно рызьвя́хкына.*

**Разгаворастасць, разгаворчастасць** *ж.* Гаварлівасць. *А мне дужа пыныра́вілысь яго рызгаворістысьць. У яе рызгаворчыстысьці ціряшчур многа.*

**Разгаворастый, разгаворчастый** *прым.* Гаваркі. *Ах ты, Коля колістый, якей ты рызгаворістый, кабы Коля ні рыдня, спулюбіла б Колю я. Яны хлопцы рызгаворчыстыя, зь імі табе скушна ня будзіць.*

**Разгайдачыванне** *н.* Марнатраўства, транжыранне. *Як ты цярыпіш такоя рызгыйда́чывыньня, чаму ты ня вучыш іх на сьвеці жыць?*

**Разгайдачываць** *незак.* Марнатравіць, транжырыць. *Што ня ўмеіць, а грошыкі рызгыйда́чывыць учыць ні нада.* **Разгайдачывацца** *незак.* 1. Марнатравіць, транжырыць. *Глядзі, так рызгыйда́чывыцца нечыга, ты дужа шурока паехыў.* 2. Марнатравіцца, транжырыцца. *Неік у яго дужа быйстра усё рызгыйда́чывыіцца.* **Разгайдачыць**

*зак.* Змарнатравіць, растранжырыць. *Яны ні пысьцісьняюцца, рызгыйдáчуць скора, кылі якія капейчыны асталіся ац старога.* **Разгайдачыцца** *зак.* 1. Змарнатравіць, растранжырыць. *Зы паўгода рызгыйдáчыўся, нічога німа, сыбіраіцца ехыць некуды.* 2. Змарнатравіцца, растранжырыцца. *Сколька ні було, дык у іх доўга ні задзержыцца, рызгыйдáчыцца скора.* **Разгайдачаный** *дзеепрым. Такоя хызяйства рызгыйдáчына, нічога ні асталыся.*

**Разгакываць** *незак.* Расколваць, разбіваць. *Ні табе еткія сукуватыя калодкі рызгáкывыць.* **Разгакывацца** *незак.* Расколвацца, разбівацца. *Што, і етый цяльпýх ні рызгáкывыіцца?* **Разгакаць** *зак.* Раскалоць, разбіць. *Я думыў, еткыю калодзішчу ніхто ў сьвеці ні рызгáкыіць.* **Разгакацца** *зак.* 1. Раскалоцца, разбіцца. *Пыдажджы, ціріс пляча як ударіць, рызгáкыюцца і етыя сукі.* 2. Распачаць грукат. *Што ён мысьцяріць тама, рызгáкыўся на ўсё раньня.* **Разгаканый** *дзеепрым. Рызгáкыныя зросткі адзьдзельна складзі, у бані спалюцца.*

**Разгалагалецца** *зак. перан. асудж.* Раскрычацца. *Другей раз як рызгылыгыляцца, дык я пряма ні знаю, што б зь імі зьдзелыла.*

**Разгалдамачыванне** *н.* Марнатраўства, транжыранне. *А каму ж ба пынырáвілыся такоя рызгылдымáчывыньня, усё дно як яны пасьледній год на сьвеці жывуць.*

**Разгалдамачываць** *незак.* Марнатравіць, транжырыць. *Айдзе яны што заробілі,—гатовыя б рызгылдымáчывылі, на ета дужа спасобны.* **Разгалдамачывацца** *незак.* 1. Марнатравіць, транжырыць. *Нечыга рызгылдымáчывыцца, пуруспускáіш, тады будзіш цыгыць, каб айдзе якей руб пытхваціць.* 2. Марнатравіцца, транжырыцца. *У іх усё рызгылдымáчывыіцца, а ты і ў тэй бок ні гляніш.* **Разгалдамачыць** *зак.* Змарнатравіць, растранжырыць. *Грошы многа рызгылдымáчылі, пыглядзім, што яны заробюць.* **Разгалдамачыцца** *зак.* 1. Змарнатравіць, растранжырыць. *Крепка рызгылдымáчыліся, а як пахмельля прішло, тады просюць: дай пяцёрку.* 2. Змарнатравіцца, растранжырыцца. *Троху-патроху усё рызгылдымáчылыся, разьві у апушчэнцыў што-небудзь зацэлііць.* **Разгалдамачаный** *дзеепрым. Нада було раншы думыць, што дзелыіш, а рызгылдымáчыныга нызад ня верніш.*

**Разганянне** *н.* 1. Разгон. *Ня дужа яны спужаюцца твайго рызгынянньня.* 2. Выворванне бульбы плугам. *Якоя ж ета рызгынянньня, што пряма жывэя кусты сідзяць, ні рызыгнаў, а нукулупаў.*

**Разганяннік** *м.* 1. Той, хто разганяе. *Бягіць рызгыня́ньнік, крічыць: я вас! — а ны яго ніхто і ўніманія ні абрасьціў.* 2. Той, хто выворвае бульбу плугам. *Рызгыня́ньнікі, бувала, заморюцца, што зь іх пот цякець.* **Разганянніца** *ж.* 1. Тая, што разганяе. *Ні тыкая іна страшныя рызгыня́ньніца, як ты думыіш.* 2. Тая, што выворвае. *Не, з бабы рызгыня́ньніца дренныя, ета работа дужа цяжолыя.*

**Разгарлацца** *зак. груб.* Раскрычацца. *Як рызгырла́іцца, дык зывядзець ня меншы, чым ну пуўдня.*

**Разгарнываць** *незак.* Разгортваць. *Ты лісьця рызга́рнывый, ягыды пад лісьцім, а так іх ня відна.* **Разгарнывацца** *незак.* Разгортвацца. *Трыва дужа спутына, ні рызга́рнывыіцца, а жавіньнік коліцца.*

**Разгарцаць** *зак. асудж.* Выклікаць ахвоту гоцаць, насіцца. *Чаго іх рызгырца́ла етык, крікні, каб уселіся.* **Разгарцацца, разгарцавацца** *зак.* Пачаць гоцаць, насіцца. *Калі як рызгарцу́юцца, дык ніяк ні ўспакоіць. Што яны там рызгырца́ліся, аж двор хыдаром ходзіць, ніхай унімуцца. Яны рузгурцува́ліся, а я сяджу і гляджу: схува́юцца між карзін і будуць адзін другога пароць.*

**Разгасцяваць** *зак.* Выклікаць ахвоту да гасцявання. *Што йта іх етык рузгусьцюва́ла: і двору ня думыюць іціць.* **Разгасцявацца** *зак.* Разгасціцца. *Так вы ўжо рузгусьцюва́ліся, што і ня выцігнуць аттуля.* **Разгасцяваный** *дзеепрым. Калі ж твае рузгусьцюва́ныя ехыць сыбіраюцца?*

**Разгіморнічацца** *зак.* Распачаць паводзіць сябе капрызна. *Нешта ён у цябе ціряшчур рызьґіморнічыйся, нада часьцей узбучку дываць. Як рызьґіморнічыюцца, ты піряд імі ні прідумыіш, як ступіць.*

**Разгінацца** *незак. перан. іран.* Даваць колькі трэба (пра скупога). *Ні захочыць ён рызьгіна́цца ны свадзьбу, грошы пыжалеіць, можа, вечыр якей-небудзь справіць нібальшэй.*

**Разгламаздываць** *незак.* Расплятаць, разбураць заплеценае. *Нечыга тут рызглыма́здывыць, сікані тыпаром і ўсё.* **Разгламаздывацца** *незак.* Расплятацца, разбурацца (пра заплеценае). *Ці рызглыма́здывыіцца хут троху, во напутыў дык напутыў лазы.* **Разгламаздаць** *зак.* Расплесці, разбурыць заплеценае. *Разглымызда́й хуць с аднаго боку, каб з ношкыю праціснуцца.* **Разгламаздацца** *зак.* Расплесціся, разбурыцца (пра заплеценае). *Разглымызда́іцца ета пылавіна і хваціць.* **Разгламазданый**

*дзеепрым. Тут во рызглымыздáный праход, хадзіця сюда.*

**Разглуздацца** *зак.* Разабрацца, зразумець. *У іхным дзелі ня дужа лёхка разглýздыцца. Пакуля ён рузглуздáўся, што к чаму, дык нам ждаць ныдаела,— ня поймiць і ўсё.*

**Разгнесць** *зак.* Раздавіць. *Унімі, ато пычануць узноў дурачыцца і рызгнятýць кашолку.* **Разгнесца** *зак.* 1. Раздавіцца. *Што ліжала у мяшочыку, усё рызгнялося, высыпай у шайку.* 2 *перан. іран.* Даць колькі трэба (пра скваппнага). *Як ета ён разгнёўся ны такей вечыр?* **Разгнецены** *дзеепрым. Астаўся разгнеціный пріснок, ці яны кычаліся па ём, ці што.*

**Разгнявіцца** *зак.* Разгневацца. *Яны рызгнявіліся, што ны свадзьбу іх ні пызвалі, а чаго іх звацьь, ікая яны нам рыдня.*

**Разгойзываць** *незак. неадабр.* Разбіваць, растоптваць. *Капёшка склáджына акуратна, а вы яе разгойзывыіця, нашто ж так дзелыць.* **Разгойзаць** *зак.* Разбіць, растаптаць. *Есьлі вы мне яшчэ раз разгойзыіця салому, луччы ні дыжыдайця мяне двору, палýчыця дык палучыця.* **Разгойзаный** *дзеепрым. Ну што ты будзіш дзелыць, нада пыправіць разгойзыный стажок.*

**Разгоцываць** *незак.* Разбіваць, растоптваць дурэючы. *Ці ні пыра вам пірістаць салому разгоцывыць, іна была дужа акуратнінька складжына.* **Разгоцывацца** *незак.* Пачынаць дурэць. *Узноў разгоцывыюцца, ну я ім пыкажу.* **Разгоцаць** *зак.* Разбіць растаптаць дурэючы. *Хворысьця так ладна було зложына, дык разгоцылі за дзень.* **Разгоцацца** *зак.* Пачаць дурэць. *Чаго вы разгоцыліся, чаго вас носіць бясь сьціху ац самыга раньня?* **Разгоцаный** *дзеепрым. Гані саміх, ніхай разгоцыныю крышу чынюць.*

**Разгрыбазвоніцца** *зак. іран.* Разбалбатацца, разбурчацца. *Чаго ён тамыцька рызгрібазвоніўся, я ўсё на места пылажыла, айдзе брала.*

**Разгудзецца, разгусца** *зак.* 1. Разгусціся. *Машыны рузгудзеліся, ідуць пасьці бісь піряпынку. Як рузгуліся машыны цэлыю ноч хадзілі туды і нызад, толька пыд раньня уціхлі.* 2 *перан.* Расплакацца. *Нечым ні дыгадзілі мáлыму, ні на сьмех рузгудзеўся, дайця яму хуць цацык. Яму ня доўга разгусца. Нешта ўзноў рузгулася, торкні ты ёй канхветку, можа сьціхніць.*

**Разгукацца** *зак.* Пачаць трывожна рохкаць. *Што яны*

*там чуюць, пацьсьвінкі етыя, разгу́кыліся і ніяк ні ўспакоюцца.*

**Раздабытак** *м.*, **раздабыча** *ж.* 1. Здабыча. *Ну пыказывыйця, якей у вас рыздабы́тык сяньня. Ты, знаць, тожа з рыздабы́чыю вярнуўся?* 2. Раздабыткі. *С касою некуды пашоў ны рыздабы́тык. Ты ці ня ўзноў зьбіраісься ў рыздабы́чу?*

**Раздабытчык** *м.* Той, хто раздабывае. *Ідуць нашы рыздабы́ччыкі с пустымі рукамі.* **Раздабытчыца** *ж. Ого, што наша рыздабы́ччыца нясець, цяперя пыядзім яблык.*

**Раздараваць** *зак.* Раздарыць. *Як часта, бувала, кумою ходзіш, дык пырядышныга чаго рыздару́іш, матка тады бурчыць.* **Раздаравацца** *зак.* Раздарыцца. *Яны ні турува́тыя, ня дужа рыздару́юцца. Летыся зы адзін год стольки руздурува́лыся!* **Раздараваный** *дзеепрым. Як жа ты будзіш руздурува́ныя жалець, сам жа нёс людзя́м.*

**Раздарожыца** *ж.* Бездараж. *Луччы цяперя пойдзіш і путкупі солі, ста́ніць рыздарожыца, нікуды тады ні далезіш.*

**Раздарыванне** *н.* Раздаванне ў выглядзе падарункаў. *С такім рызда́рівыньнім доўга ты ні пыраскошыствыіш. Сьвякрові тваё рызда́рівыньня ня дужа ныравіцца.*

**Раздацца** *зак.* Даць шмат. *Ня дужа твой Кіріла рызда́сца, у яго лёду зімою ня вы́прысіш. А ці многа ты сыма каму рыздыла́ся што?*

**Раздваівацца** *незак. перан.* Рабіцца вельмі тлустым. *Ужо ні прідумыць, чым ты яго корміш, ён жа ў цябе стаў пряма рыздва́івыцца.* **Раздваіцца** *зак.* Зрабіцца вельмі тлустым. *Трі гады мы яе ня відзілі — рыздваілыся баба, у етыя дзьвері ня ўлезіць.*

**Раздзелывацца** *незак. перан.* Рабіцца вельмі тлустым. *К восіні коні разьдзелывыюцца як сьлімяньнё.* **Раздзелацца** *зак.* Зрабіцца вельмі тлустым. *Разьдзелыўся ны дырмавы́х хырчах, аж блішчыць, аткуля на ім што ўзялося, усё ж быў худзенічкій.*

**Раздзогываць, раздзугываць** *незак.* Збіваць скачучы (складзенае сена, пасцель і інш.). *Былі залезьлі ны кладу́шычку, пычалі раздзогывыць, я іх путуріла хлыбазі́ныю. Ну ня відзіў я, як етыя рузура́тнікі сена раздзу́гывылі, пулучылі б яны ў мяне.* **Раздзогывацца, раздзугывацца** *незак.* Збівацца (пра складзенае сена, пасцель і інш.). *Як лазюць, прыгыюць, стажок раздзогывыіцца. Прі ба́лыўстві ўсё раздзу́гывыіцца, ты іх ні пускай ны саломуу лазіць.* **Раздзогаць, раздзугаць** *зак.* Пазбіваць

(складзенае сена, пасцель і інш.). *Хворысьця так акуратнінька було склáджына, дык у жмуркі гулялі, хуваліся, раздзогылі саўсім, пірікласьць нада. Доўга ім раздзýгыць салому, пыталýюцца дзень і ўсю пірятруць.* **Раздзогацца, раздзугацца** *зак.* 1. Збіцца (пра складзенае сена, пасцель і інш.). *Ні сыма ж ета капёшка раздзогылыся, балыўнікыў тых работа. Як памесюцца, дык усё раздзýгыіцца.* 2. Пачаць бегаць, насіцца з тупатам. *Яны былі як раздзогыліся, дык я іх чуць уніла. Чаго яны етык раздзýгыліся, ай спакою ніяк ні нáйдуць?* **Раздзоганый, раздзуганый** *дзеепрым. Усё ета раздзогыныя пыцскрябі ды ўскінь наверьх. Раздзýгыныя снапкі і мылаціць нечыга, што зь іх вымылыціш.*

**Раздзюлькацца, раздзюлёкацца** *зак.* Пачаць працягла падзываць парасят, свіней выгукамі «дзюль-дзюль», «дзюлёк-дзюлёк». *Чаго ён тама разьдзю́лькыўся, пырысяты ўхадзіліся ну мураўкі, ніхай паходзюць. Як рузьдзюлёкыіцца, дык яе ат Лырьяныва пачуіш.*

**Раздзюшкацца** *зак.* Пачаць працягла падзываць свіней выгукам «дзюш-дзюш». *Ета, кажыцца, Марья разьдзю́шкылыся, яе голыс усігда пызнáіш — рехкій, піскля́вый.*

**Раздзяўбываць** *незак. перан.* Спрабаваць разабрацца. *Што ты тута рызьдзя́ўбывыіш цэлых пуўдня?* **Раздзяўбывацца** *незак.* Разумець, разбірацца. *Зразу ён саўсім ні пынімаў, длі чаго ета дзелыіцца, а цяперя пычынаіць рызьдзя́ўбывыцца.*

**Раздрахцелый** *дзеепрым.* Распаўнелы. *Зьдзелыўся рыздряхцелый, пряма як міздря́ ікая етый чылавек.*

**Раздрогкываць** *незак.* Пашкоджваць пры перавозцы па дрогкай дарозе. *Гаршкі нада меншы раздрёгкывыць, яны могуць пабіцца. Бальны́я рукі ні раздрёгкывый, ато ашчэ большы стануць балець.* **Раздрогкывацца** *незак.* Пашкоджвацца пры перавозцы па дрогкай дарозе. *Калі дарога дренныя, усё раздрёгкывыіцца, нада цішэй ехыць. Вазьмі луччы ны калені, на досткі ні станоў, меншы будзіць раздрёгкывыцца.* **Раздрогаць, раздрогкаць** *зак.* Пашкодзіць пры перавозцы па дрогкай дарозе. *Ты ж глядзі, астарожнінька вязі, раздрёгыіш зы дарогу, а ён такей больный. Сьмітану ў кастрюлькі раздрёгкыў, ціріс краі пыцікла, хуць сьвіньням вылівай.* **Раздрогацца, раздрогкацца** *зак.* Пашкодзіцца пры перавозцы па дрогкай дарозе. *Раздрёгылыся зы дарогу ў цябе ў гырлачэ, ніізьвесна што стала. Так раздрёгкылыся ны калёсых, што*

*зьлезьць ні магу.* **Раздроганый, раздрогканый** *дзеепрым. Калёсы вашы саўсім раздрёгыныя, іх нада зьбіваць нанова. Раздрёгкыныя цела неік усё баліць.*

**Раздружываць** *незак.* Прымаць меры, каб перапыніць сяброўства. *Зь естыя дружбы толку ня будзіць, я іх стыряюся раздрўжывыць.* **Раздружывацца** *незак.* Перапыняць сяброўства. *Мне зь імі нечыга ні дружыць, ні раздрўжывыцца, я сам пы сабе, а яны самі пы сабе.*

**Раздруіваць** *незак.* Псаваць (дарогу ў моцную адлігу). *Раздрўівыіць дарогу, заўтря — посьлізаўтря ужо нікуды ня пройдзіш.* **Раздруівацца** *незак.* Пачынаць псавацца (пра дарогу ў моцную адлігу). *Ні аткладывый, едзь сяньня ў горыд і купі солі, дарогі раздрўівыюцца, цірізь нядзелю нікуды ня вылізіш, будзіш сядзець бяс солі.* **Раздруіць** *зак.* Сапсаваць (дарогу ў моцную адлігу). *Сядзіця вы ў хаці, куды вы пупыўзіцё, усё ўсюдых руздруіла.* **Раздруіцца** *зак.* Растаць, раскіснуць (пра дарогу ў моцную адлігу). *Усё руздруілыся, а ў іх свадзьба, ні ступіць ніўдзе, ні прайціць нікуды.* **Раздруеный, раздруёный** *дзеепрым. Якея табе дровы, якей табе лес, кылі дарогі раздрўіныя. Пу руздруёный дарогі нечыга було выбірацца.*

**Раздрэнчыць** *зак. груб.* Расхваляваць, вывесці з сябе. *Чаго іх раздрэнчыла зь естыю лашчынкыю, тыкая-то шкода, тама касіць нечыга було.* **Раздрэнчыцца** *зак.* Расхвалявацца, выйсці з сябе. *Як раздрэнчуцца, тады ты іх ні ўгаворіш і ні ўвясьціш.* **Раздрэнчаный** *дзеепрым. Я знаю, чаго ён раздрэнчыный ходзіць.*

**Раз'ёрзыванне** *н.* Развальванне таптаннем, падскокваннем (стога, пасцелі і інш.). *Нада було лупку харошыю даць зы разьёрзывыньня, каб яны помнілі хырашэнька.*

**Раз'ёрзываць** *незак.* Развальваць таптаннем, падскокваннем (стог, пасцель і інш.). *Што тама надзелына, дык ужо большы некуды разьёрзывыць.* **Раз'ёрзывацца** *незак.* Пачынаць падскокваць, таптацца. *Дужа вы сталі разьёрзывыцца, я зы вас ні на сьмех вазьмуся.* **Раз'ёрзаць** *зак.* Разваліць таптаннем, падскокваннем (стог, пасцель і інш.). *Сена у вугалку трошку ліжала,— усё разьёрзылі.* **Раз'ёрзацца** *зак.* Пачаць падскокваць, таптацца. *Другей раз як разьёрзыюцца, дык ты пыспрабуй іх уняць.* **Раз'ёрзаный** *дзеепрым. Верна, ты знаіш, чаго капёшка разьёрзына, хто тут кромі цябе мог пыстыряцца.*

**Разжалабліваць** *незак.* Выклікаць шкадаванне. *Су-*

*мусёўна ўзілася рыжжыла́блівыць брігадзіра, каб ён яе меншы ны работу пысылаў.*

**Разжвяліваць** *незак.* Разжоўваць. *Скарінычку дайжа ні сухую я ўжо чуць рыжжвя́лівыю.* **Разжвяліваца** *незак.* Разжоўвацца. *Нічога ў мяне ні рыжжвя́лівыіцца, зубоў німа.* **Разжвяліць** *зак.* Разжаваць. *Чым іна рыжжвя́ліiць ету кілбасу, ны яе нада харошыя зубы.* **Разжвяліцца** *зак.* Разжавацца. *Бяpi етый кусочык, мякінькыя мяса, рыжжвя́ліiцца.* **Разжвяленый** *дзеепрым.* *Ікая я жыцілка, мне і рыжжвя́лiныя трудна прыглыцiць.*

**Разжвянькываць** *незак. неадабр.* Разносіць чуткі. *Ні бяріся ўчыць, яны рыжжвя́нькывыць умеюць луччы каго любога.* **Разжвянькывацца** *незак.* Пачынаць вельмі назаляць размовамі. *Нечыга рыжжвянькывыцца, вы тожа цацы ладныя, ат Пынасоўны ні ны шаг ні атходзіця.* **Разжвянькаць** *зак.* Разнесці чуткі. *Пры Сідарёнка Пёкла рыжжвя́нькыла, іна доўга стыяла з бабымі.* **Разжвянькацца** *зак.* Пачаць вельмі назаляць размовамі. *Ні хачу я к ёй іціць: рыжжвя́нькыіцца, як хто пыстыяў, як пыглядзеў, куды пашоў.* **Разжвяньканый** *дзеепрысл.* *Во ты гывaріў, што ніхто ня відзіў: ужо ўсюдых рыжжвя́нькына, што вы стыялі разым.*

**Раззалатэй, раззалатый** *прым.* Выключны, выдатны. *Ніхай ён самый рыззылатэй будзіць, дык як ён табе паможыць. Ён у цябе, канешня, рыззылатый, толька каго йта ты зьбіралыся с хаты выгыняць у тоя скрысеньня?*

**Раззнібецца** *зак.* Пачаць моцна ныць, хныкаць. *Чаго ён узноў рызьзьнібеўся, што яму ні хвытаіць? Прідзіць, рызьзьнібіцца, тыкая горькыя, тыкая нішчасныя.*

**Раззявацца** *зак. перан. груб.* Раскрычацца. *Ого, паспробуй дыкажы яму што-небудзь, як рызьзіва́iцца, к яму с колым у глотку ня ўлезіш.*

**Разінька** *м.* і *ж.* Разявака. *Як ты разíньку пашлеш, ён нічога ня вы́хыдзіць, а хочыш, ішчэ заблудзіцца, шукаць пойдзіш. Ты ўжо зы сваёю разíнькыю глядзі, дукýй яе. Памянш.* **разінечка**. *І Сьціпанёнкыва разíнічка лезла туды, хацела нешта увідзіць. Павеліч.* **разінішча**. *А разíнішча ж, а ці ты ня відзіш, куды ты ваду цурбоніш!*

**Разкаць** *незак.* Біць, ударць. *Ох, якей вýхырь, рáзкыў ба ён усіх пыдряд.* **Разкацца** *незак.* Ударацца. *Ай, ці раз яны рáзкыліся зь дзеріў.* **Разнуць** *зак.* Ударыць. *Так рáзьніць, што ты атваліська. Рáзнуў Шупувалывыга зрыз-*

*ма́ху, тэй і атляцеў.* **Разнуцца** *зак.* Ударыцца. *Ра́знуўсязь вербы, ажно зыікыта́ў.*

**Разкей, разкій** *прым.* Такі, які добра зразаецца касой. *Пы́рнік рязкей, ён хырашо косіцца, толька цьвёрдый. Мылыдая ўсякыя трыва різка́я, а ста́рыя ні так режыцца.*

**Разлалакацца** *зак.* Разбалбатацца. *Разлыла́кыліся, дык і абедыць ня йдуць. Толька сойдуцца і ўзноў рызлыла́кыюцца.*

**Разламыванне** *н.* 1. Разломванне. *Я і біз рызла́мывыньня віджу, што тута семя харошыга ня будзіць.* 2 *перан.* Нясцерпны боль. *Ні знаю, ач чаго ў гылаве такоя рызла́мывыньня, пряма ськіваіцца.*

**Разлапатаць** *зак. неадабр.* Разбалбатаць. *Ты й сыма хырыша: яны скызалі пы сікрету, а ты ўсюдых рызлыпыта́ла.* **Разлапатаный** *дзеепрым.* *Што ж ты ні знаўшы гаворіш: Лукерья ішчэ сюда ні пріхадзіла, а тута було ўжо рызлыпыта́на.*

**Разласкатаць** *зак. асудж.* Разбалбатаць. *Ніхай сабе кума, а я пайду скажу: іна рызлыскыта́ла пры Аўдзяёнка, большы некыму було.* **Разласкатацца** *зак.* Разбалбатацца. *Ім рызлыскыта́цца нядоўга, завесца нада адна мінута. Пыдажджы, ішчэ паслухыіш, як Аўдотычкіна дычка рызласкочыцца.*

**Разлахываць, разлахывацца** *незак. асудж.* Разводзіць балбатню. *Етый січас пычанець рызла́хывыць, ніхай толька пачуіць што-небудзь. Нечыга рызлахывыцца, ны сябе пыглядзі лучча.* **Разлахаць** *зак.* Разбалбатаць шырока. *А я пачом знаю, хто рызла́хыў пры вашу нявестку?* **Разлахацца** *зак.* Разбалбатацца нястрымна. *Муўчаў, муўчаў, а тады рызла́хыўся, што ні ўняць.* **Разлаханый** *дзеепрым.* *Пры яго ня меншы рызла́хына, ты ішчэ пачуіш.*

**Разлезлік** *м.* Нязграбны, брыдкі чалавек. *Іхный разьлезьлік нікому ні нада, ніякыя дзеўка зы яго ня пойдзіць.*

**Разлепятацца** *зак.* Пачаць лепятаць. *Во рызьліпіта́ліся тваё ўнучкі. Як рызьляпечыцца, дык яе ні ўнягь.*

**Разлескатацца** *зак.* 1. Пачаць няспынна бразгаць. *У жалезьзі ма́лыя як рызьляскочуцца, ажно ўсё у вушах зьвініць.* 2 *перан. неадабр.* Пачаць няспынна балбатаць. *Каторыя ета рызьліскыта́лыся, што ўсё поля рызьліга́іцца?*

**Разлодарнічацца** *зак.* Ператварыцца ў гультая. *Дужа тваё мальцы разлодырнічыліся, ты іх патроху зыстыўля́й зьдзелыць то тоя, то другоя, ета ня дзела ні за што ні брацца.*

**Разлузкываць** *незак.* Разлушчваць. *Ты нешта саўсім ня ўмеіш боб разлу́зкывыць.* **Разлузкывацца** *незак.* Разлушчвацца. *Пыглядзі, як хырашо ў Віці разлу́зкывыіцца.* **Разлузнуць** *зак.* Разлушчыць. *Што йта зы квасоля, ёсьць стручкі, што ні рузлузну́ць.* **Разлузнуцца** *зак.* Разлушчыцца. *Каторый стручок зразу рузлузьнецца, а другей хуць ірьві.* **Разлузнутый** *дзеепрым. Выбірі рузлузну́тыя стручкі, зь іх насыпліцца квасолі.*

**Разлупастый** *прым.* Празмерна лупаты. *Хвалі ўжо, хвалі свайго рузлупа́стыга, ты ім даўно зыдаесься.*

**Рузлупліваццa** *незак.* Ірвацца, раздзірацца. *Ну й ба́лыўнікі етыя мальцы, што ні надзенуць, на іх пряма разлу́плівыіцца ўсё, ну што ж ты хочыш — яны і па крышых, і пу вуглах, і пы дзірівах лазіюць і лазіюць, айдзе ж яно будзіць дзіржацца.*

**Разлыпацца** *зак.* Пачаць моргаць з непаразуменнем. *Стаіць, разлы́пыўся, ні рызьбярецца, што к чаму гаворюць.*

**Разлыскацца** *зак. неадабр.* Пачаць няспынна піць. *Чарку зы чаркыю як разлы́скыўся, Анька мірьгаіць: пірістань, а ён ня слухыіць.*

**Разлюбавацца** *зак.* Налюбавацца, наглядзецца. *Ён усігда дзелыіць — толька рузьлюбува́цца. Атхваціў сабе жонку — рузьлюбу́іціся, ува ўсёй акругі такея німа.*

**Разлягацца** *незак. перан.* Аддавацца рэхам. *Усё кругом рызьліга́лыся ат іх кріку, ой-ё-ёй, што яны толька адна ны адну дытвыря́лі.*

**Разлязацца** *незак.* Распаўзацца ў розныя бакі. *Яны ж ні сідзяць на месьці, етыя пырысяткі, рызьліза́юцца ў разныя бакі.* **Разлезцца** *зак.* Распаўзціся ў розныя бакі. *Ты бірягі сваіх кыцінят, ато разьлезуцца другей раз, што ні пысыбіра́іш.*

**Разляпкацца** *зак.* Распачаць доўгае ляпанне. *Ого, рызьля́пкыліся мыйсьцяры́, што і есьць ня йдуць, відна, кынчаюць калёсы.*

**Разляскацца** *зак.* Распачаць няспыннае лясканне. *Чым яны тама рызьля́скыліся ўпацёмку, гукні, каб у хату йшлі, ніхай разым сыдзяцца за стол.*

**Размамылівацца, размамырывацца** *незак. іран.* Надзімацца, нахмурвацца. *Чаго йна пычыла рызмамы́лівыцца, хто ёй што ні так скызаў? Ці яны мала рызмамы́рівыліся із-зы ўсякія мелычы!* **Размамыліцца, размамырыцца** *зак.* Надзьмуцца, нахмурыцца. *Як рызмамы́ліцца, яе няскора ўгаворіш, ета ўсё прірódзьдзя такоя. Рызма-*

*мы́ріўся твой дырагей, рызгыварівыць ня хочыць, во як ты яго дывіла́.* **Размамыленый, размамыраный** *дзеепрым. Увесь вечыр сядзела ў вуглу рызмамы́ліныя, нікому нічога ні скызала. Грішка муўчаком стыяў збоку рызмамы́ріный.*

**Размантачыванне** *н. неадабр.* Бяссэнсная трата. *Што ўмешывыцца чужому, кылі родный дзядзька рядым жывець і слова ні гаворіць зы такоя рызмынта́чывыньня.*

**Размантачываць** *незак. неадабр.* Траціць без сэнсу. *Ці ета хызяін, што рызмынта́чывыіць такей двор.* **Размантачывацца** *незак.* Траціцца без сэнсу. *Раз пычало рызмынта́чывыцца, то пырядык трудна навесьць.* **Размантачыць** *зак.* Растраціць без сэнсу. *Рызмынта́чыць дужа лёхка, а каб нажыць, нада пріклaсьць ды пріклaсьць рукі.* **Размантачыцца** *зак.* Растраціцца без сэнсу. *Ну што я буду гываріць, ці ты сам ні знаіш, чаго яно ў Цітынка етык рызмынта́чылыся.* **Размантачаный** *дзеепрым. Рызмынта́чыныя сыбіраць нызад дужа нялёхка, ці ёсьць такей чылавек, што сыбраў.*

**Размардаваць** *зак.* Расхваляваць, вельмі занепакоіць. *Цялёнка нешта рузмурдува́ла, кідыіцца ны вярёўкі, можыць атырвацца.* **Размардавацца** *зак.* Пачаць паводзіць сябе вельмі неспакойна, кідацца. *Конь рузмурдува́ўся, глядзі, аглобліну пулумаіць, праўда, тыкі сьляпні дужа режуць. Ну чаго ты рузмурдува́ўся, чым табе хто ні ўладзіў?* **Размардаваный** *дзеепрым. Нейкій ён сяньня рузмурдува́ный.*

**Размарзёкыванне, размарзёпыванне, размарзёпкыванне** *н.* Размазванне, расквэцанне. *Такоя рызмарзёкывыньня нікому ні пыныра́віцца. Я на іхныя рызмарзёпывыньня доўга глядзець ня буду, вазьму за шкырку ды на печ. Якоя ж ў вас рызмарзёпкывыньня нікуратныя!*

**Размарзёкываць, размарзёпываць, размарзёпкываць** *незак.* Размазваць, расквэцваць. *Ныляпіў, дык хуць ішчэ ныгамі ні рызмарзёкывый. Сідзяць зы сталом, троху ядуць, а яшчэ большы рызмарзёпывыюць. Што, каб вы пірістaлі рызмарзёпкывыць сьмітану, ня хочыця есьць і атыйдзіця.* **Размарзёкывацца, размарзёпывацца, размарзёпкывацца** *незак.* Размазвацца, расквэцвацца. *Айдзе ты ні павернісься, усюдых у цябе рызмарзёкывыіцца. Тута во і раншы рызмарзёпывылыся, а цяперя яшчэ нечыга ныля́пына. Што тута ў цябе рызмарзёпкывыіцца?* **Размарзёкаць, размарзёпаць, размарзёпкаць** *зак.* Размазаць, расквэцаць. *Такея ідуны́ што хочыш рызмарзё-*

*кыюць. Сыма рызмарзёпыла цеста, а цяперя ны стыріка гаворіш. Твае акурацісты могуць і ні так рызмарзёпкыць.* **Размарзёкацца, размарзёпацца, размарзёпкацца** *зак.* Размазацца, расквэцацца. *Кіт на шыбых рызмарзекыўся, мыць нада сьцёклы. Ні нада хадзіць тута, ато яшчэ большы рызмарзёпыіцца. Ну я тожа ні знаю, чаго ў цябе тама рызмарзёпкылыся, я ў клець ні хадзіў.* **Размарзёканый, размарзёпаный, размарзёпканый** *дзеепрым. Ма́лыя елі, дык ета кулеш рызмарзёкыный пляйсьцірымі засох. Ці бульба рызмарзепына, ці чаго тута нывакліна. Клецкі рызмарзёпкыныя пыд ныгамі, усё дно як тута хто нарошня таўморіўся цэлыга пуўдня.*

**Размаркатацца** *зак.* 1. Пачаць часта паціху бляяць. *Айца рызмыркыта́лыся, баіцца, каб ні пыціря́ліся ігняткі.* 2 *перан.* Размармытацца. *Ста́рыя як рызмаркочыцца, як пычанець што рысказывыць — ні піряслу́хыць.*

**Размасліваццa** *незак. перан. неадабр.* Распачынаць непатрэбную важданіну. *Каб ты пірістала рызма́сьлівыцца із ма́лым, дужа б хырашо було.* **Размасліцца** *зак.* Распачаць непатрэбную важданіну. *Высіліха рызма́сьлілыся іс сваімі гысьцямі, сыма ні знаіць, як ім дыгадзіць.*

**Размататорываць** *незак. неадабр.* Растрачваць марна, распускаць. *Ніскалька ні пыдбірігаіць нічога, усё рызмытаторівыіць, якей ён рысхадовый чылавек!* **Размататорывацца** *незак.* 1. Растрачвацца марна, распускацца. *Якей хызяін, так яно ў яго і йдзець, усё рызмытаторівыіцца, скора зубы ны паліцу паложыць.* 2. Пачынаць бушаваць, шумець. *Ну чаго ты рызмытаторівыісься, хто табе што ні ўладзіў?* **Размататорыць** *зак.* Растраціць марна, распусціць. *Пацьцёлычка прыдаў і грошы за месіц рызмытаторіў, чаму ён ня ўмеіць жыць.* **Размататорыцца** *зак.* 1. Растраціцца марна, распусціцца. *Троху прівёз грошы, дык ці яны ў яго зацэліюць, туды шмык, туды шмык, так і рызмытаторіліся.* 2. Пачаць бушаваць, шумець. *Рызмытаторіўся твой старэй, нечым ты яму крепка ні ўгадзіла.* **Размататораный** *дзеепрым. Што, кыбанчык рызмытаторін, можа табе пазычыць ну бутылычку?*

**Размацюкаць** *зак.* Моцна вылаяць матам. *Рузмуцюка́ць яго нада було там на месьці,— што йта зы прівычка зыхадзіць ну чужэй двор як на свой.* **Размацюкацца** *зак.* Пачаць вельмі часта лаяцца матам. *Ніхай папробыіць рузмуцюка́іцца, яго жыва пасодзюць на места.*

**Размікацца** *зак.* Пачаць няспынна мычаць (пра цялё).

*Разьмікылыся цёлычка, відна, дужа піць зыхацела. Разьмікыўся бычанок, у табун хочыць, каб зывялі.*

**Размiраннiк, размiральнiк, размiральшчык** *м.* Той, хто мірыць. *Сядзь і сядзі, тама такея рызьміра́ньнікі ні нада. Уго, яму дужа хочыцца быць рызьміра́льнікым. Рызьміра́льшчыка сымаго унімаць нада.* **Размiранніца, размiральніца, размiральшчыца** *ж. Ета рызьміра́ньніца як улезіць, дык яшчэ хужы зьдзелыіць. Туды нада ваша рызьміра́льніца, ня меншы. Ну як, рызьміра́льшчыца, ці пымыгла ты ім пыміріцца?*

**Размiраць** *незак.* Мірыць. *Пойдзіш рызьміра́ць і сыма у іхнюю кашу ўлезіш, луччы ні ўчыляцца.*

**Размiргацца** *зак.* Пачаць часта міргаць. *Ну чаго ты рызьмірьга́ўся, нікуды ён ня пойдзіць на ўсю ноч, узноў хочыця цігацца, як учора.*

**Размiтусiцца, размiтушыцца** *зак.* Пачаць вельмі мітусіцца. *Нешта рызьмітусіліся Нувумёнкывы, бегыюць пы двару, туды й нызад. Учора сьмешна дужа рызьмітушы́ўся Восіп.*

**Размудрэцца** *зак.* Распусціцца, вельмі разбалавацца. *Рузмудреўся маліц, што нікуды ні варт стаў.* **Размудрэлый** *дзеепрым. Яго дзеці такея рузмудрелыя, што пряма пы гылыва́х ходзюць.*

**Размуздыванне** *н.* Раскілзванне. *Пыглядзі ны яго размўздывыньня, ён к каню пыдыйціць баіцца, зда́ліку к мордзі руку цягніць.*

**Размундыкыванне** *н. неадабр.* Балбатня, пустыя размажанні. *Прідўць, рысься́дуцца, і пычынаіцца рузмунды́кывыньня, хто куды хадзіў, што відзіў, што чуў.*

**Размырчэцца** *зак.* Размармытацца. *Другей раз дзіцёнык у люлькі як рызмырчы́цца, ета ён сам сабе песьні пяець. Чаго-то сьвякройка твыя рызмырчэлыся, што ета ёй ні ў лад?*

**Размычэцца** *зак.* Пачаць мукаць (пра карову). *Жджэць, калі ты карзінку яблык резыных прінясеш, аттаго й рызмычэлыся.*

**Размэнчываць, размэнчывацца** *незак. неадабр.* Важдацца, поркацца. *Хва́ціць размэнчывыць, бежч січас нада. Некылі с тваім быpахлом размэнчывыцца, складывый скарей ды йдзі кыня вадзіць, ужо рыспа́шнік прігналі.* **Размэнчыць, размэнчыцца** *зак.* Пачаць важдацца, поркацца. *Нешта цябе сяньня дужа размэнчыла. Узноў размэнчылыся на ўсё раньня, ніяк свайго дыбра ні ўпыря́ч-*

*чыць.* **Размэнчаный** *дзеепрым.* Раскіданы. *Хуць пасьцілкыю прікрый ета тряп'ё размэнчыныя.*

**Размяжджуліваць** *незак.* Расціскаць. *Усё дно як нарошня ты пыклаў гурбузы рызьмяжджўлівыць.* **Размяжджуліваццa** *незак.* Расціскацца. *Ты пылажыў, што етыя яблыкі будуць рызьмяжджўлівыцца.*

**Разнамётный** *прым.* Рознакаляровы. *З рызнамётных аўчын нікрасіва пулушубык шыць, адзін рукаў будзіць красный, а другей пасьці белый.*

**Разнараўліваццa** *незак.* Пераставаць падабацца. *Ці ні рызнырáўлівыіцца табе Хрісьцінкіна дычка, раншы ж ты і ні выхадзіў аттуля, а цяперя дайжа ні пыказывыісься.* **Разнаравіцца** *зак.* Перастаць падабацца. *Нешта цябе ня пойміш: то хацеў грошы плаціць, то разым рызнырáвілыся хата.*

**Разнепагаджываць разнепагоджываць, разнянашчываць, разнепагаджываццa, разнепагоджываццa, разнянашчываццa** *незак.* Горшыцца, усё больш псавацца (пра надвор'е). *Яно ўжо відна, што пычынаіць рызьніпыгáджывыць. Вот-вот станіць рызьніпагоджывыць, нада скарей снапы звазіць. Як рызьнінáшчывыіць, тады ў мяне і сьпіна баліць, і рукі ломюць. Ета ж часта так буваіць: як толька патходзіць кызьба, так і рызьніпыгáджывыіцца. Нада скарей усё прібіраць, пычынаіць рызьніпагоджывыцца. Кылі стала рызьнінáшчывыцца, дык яно надоўга, пагоды цяперя ня жджы.* **Разнепагодзіць, разнянасціць** *зак.* Сапсавацца (пра надвор'е). *Рызьніпагодзіла і, пыжалый, надоўга, столька сена ў пакосых, ай-я-яй. Ці помніш, як залетыся рызьнінáсьціла ў самыя жніво.*

**Разніматый** *дзеепрым. іран.* Той, хто разнімае. *Во яшчэ адзін рызьнімáтый бягіць, січас яны пырядык нывядуць.*

**Разніца** *ж.* Саламарэзка. *Палку як жэрдзь узяў, кылячкоў набіў, набіў дзірівя́нных, во табе й рязьніца, серп ны вярёвычку і реж нагою. Памянш.* **разнічка.** *У нас у пуні зы каровыю рязьнічка была зьдзелына.*

**Разновый** *прым.* Самы новы. *Ніхай яны будуць дайжа разновыя, тваe боты, ну такія грошы за іх прасіць нілізя.*

**Разныкацца** *зак.* Распачаць шукаць згінаючыся, мільгаць. *Нечыга разнькылісся, што яны тама сыбіраюць.*

**Разнявесціцца** *зак.* Зрабіцца нявестай. *Во дзеўкі растуць, ці дайно Маріны дочкі пац стол пяшком хадзілі, а ўжо рызьнявесьцілісся.*

**Разора** *ж.* Разбурэнне. *Нам у вайну тыкая разора была, што большы і прідумыць нілізя.*

**Разорва** *ж.* Непасільная праца. *Мне ўжо ныдаела ета разорва, самі бяріця і хвытайця і там і тут, а зь мяне дос.*

**Разрохацца, разрухацца, разрухкацца** *зак.* 1. Разрохкацца. *Пакуль пріехылі мы з горыда, сьвіньні разрёхыліся, някормліныя, дык есьць зыхацелі. Свіньня прівыкла, што пацьсьвінкі рядым, ціріcь пірігародку, як зыбралі іх, іна разрю́хылыся і с пуні ня йдзець. Увечырі як разрю́хкыліся сьвіньні, я хадзіў глядзець, што яны пачулі.* 2 *перан. груб.* Разбурчацца, пачаць размаўляць груба. *Зраньня разрёхыўся, усё нешта бубніць. Прі Мікілаю яны б так ні разрю́хыліся, тэй ба зразу асадзіў. Я б ні паверіла, каб сыма ні пачула, што Гаўрілін сын так разрю́хкыіцца. На нохыць паспробый ні ўладзь у якой мелычы, мылаток ні туды пылажы, як разрю́хкыіцца, хуць с хаты уцікай.*

**Разрыгацца** *зак. перан.* Расплакацца. *За нейкія бумажычкі разры́гылыся і есьць ні пышла. Тыкая то біда, што ён разры́гыўся, ніхай пары́гыіць, калі яму так хочыцца.*

**Разун** *м.* Востры на язык, сварлівы, гарачы чалавек. *Зь Мікілаіхіным різуном луччы ні чыпацца, сыма хырыша, а ён яшчэ чы́шчы, ніякый бабі ня ўступіць.*

**Разур** *м.*, **разуранне, разурэнне, разурэніе́, разурства** *н.* 1. Поўнае разбурэнне. *Што ж вы так жывіцё: два мушчыны ў хаці, а ў вас такей разу́р кругом. Як пойдзіць ну рузуря́ньня, дык яно адно кы днаму кладзецца. Ад гультайства такоя рузуреньня, ці яны ня могуць пырядык навесьць у дваре. Хваціла нам рузуренія, лёхкыга ў жызьні ні було. Спакойна глядзіць ны разу́рства, ні пра што ня хочыць думыць.* 2 *перан.* Поўная разгубленасць, няздольнасць да роздуму, развагі. *Нейкій разу́р у гылаве, нічога ні сыбрыжа́ю. У яго січас пряма разу́р, ні знаіць, што с пастройкыю дзелыць. Ну што ж рузуря́ньня, сколька ні рузуря́йся, а нада думыць, як дальшы жыць. У таком рузуреньні быў, што ні знаў, што дзелыць. Пряма рузуренія, ці яны пад'едуць, ці не, сыма ні знаю. Машкі цяперя разу́рства — ці ехыць, ці ня ехыць пад Рослый пат тэй.*

**Разурацца** *незак. перан.* Разгублівацца. *Сядзіць баба, рузуря́іцца, ні пріду́мыіць за што ўзяцца.* **Разурыцца** *зак.* Разгубіцца. *Ён сам рузуріўся, што дзелыць: тут сядзець ні выходзіць і кінуць усё, паехыць тожа страшна.* **Разураный, разуроный** *дзеепрым. Чаму ж ня будзіш*

*разўріный, усё звалілыся ны адны рукі, ні прідумыіць, за што хвытацца. Хто яму што пысаветыіць, ён рузурёный зь естыю пірястройкыю.* **Разуромшы** *дзеепрысл. Апсімяніць усадзьбу нада, дочкі пыбішчалі пріехыць і німа, вот паетыму іна рузурёмшы.*

**Разуроднічывацца** *незак.* Пачынаць бясконца самаўпраўнічаць, самаўладнічаць. *Ты сам увідзіш, што ў нас яму ні дадуць рузуроднічывыцца.* **Разуроднічаць** *зак.* Схіліць да самаўпраўства, самаўладства. *Ціряшчур яго рузуроднічыла, скора абарьвецца, так прыгыўшы.* **Разуроднічацца** *зак.* Пачаць бясконца самаўпраўнічаць, самаўладнічаць. *Быў як рузуроднічыўся — пряма ні пріступайся, а тыкі скора ўзялі за шэлігі.*

**Разыйскыванне** *н.* Пошук. *Якоя цірязь месіц разыйскывыньня, нада було зразу хвытацца, ні ўпускаць урemя.*

**Разьба** *ж. перан.* Вострая сварка, дапяканне ў сварцы. *Як умесьці жылі, у іх кажный дзень різьба́ была, ні за тоя, дык зу другоя резыліся як дзень, так ноч, а во рызыйшліся і ціха стала.*

**Раз'юрыць** *зак. неадабр.* Выклікаць на свавольства. *Чаго вас етык рузьюріла, я вам січас найду спакой.* **Раз'юрыцца** *зак.* Пачаць моцна сваволіць. *Нешта ён рузьюріўся дужа, места яму нійдзе німа. Ціряшчу́р рузьюріліся, хочуць, каб я іх успакоіў вярёвычкыю.*

**Разявала** *груб.* 1 *м.* Крыкун. *Чаго ты, рызіва́ла, усхадзіўся, ці цябе хто трогыіць, ці што?* 2 *н.* Рот, зяпа. *Заткні сваё рызіва́ла, дужа ты рызабіджыный найшоўся.*

**Разявацца** *незак. перан. асудж.* Пачынаць крык, лаянку. *Нечыга рызіва́цца, ні тыкая ты абіджыныя, як крічыш. Паслухый, другая пычыла рызівацца, калі ўжо якей-небудзь спакой будзіць етым крікýньнім.*

**Разявоніць, разявоннічаць** *незак.* Праяўляць разявцтва. *Ні нада рызівоніць, кылі ўзяў вожкі ў рукі, дык глядзі, куды едзіш. Ты ўсюдых рызівоньнічыіш, куды цябе ні пашлеш.*

**Разявончык, разявоня** *м.* і *ж. іран.* Разява. *Ну прібігаіць жа і к тваёй нейкій рызівончык іс Ходыс. Пашлеш рызівоню, а тады сыма бягі ўсьлед, ён ні кыня ні найдзіць, ні зыпрягець ні ў кога. І твыя рызівоня хадзіла там нечыга. Памянш.* **разявонька.** *Чаго ж ты такей рызівонька, я ж табе рыскызала, як іціць.*

**Раз'язджанне** *н.* Частыя паездкі. *Рызыіжджа́ньня яму ого як ыравіцца, толька б і рызыіжджа́ўся кажный дзень. Хваціць, кідай рызыіжджа́ньня, за дзела бяріся.*

**Раз'якатацца** *зак.* Пачаць моцна енчыць. *Ні так у яго баліць, як ён рызыкытаўся. Што там у іх зы біда, чаго яны рызыкыталіся?*

**Разяўліванне, разяўлянне, разяванне** *н. перан. асудж.* Крык. *Хуць раз пысядзі ціхінька, усе ўжо наслухыліся твайго рызяўлівыньня. Схадзі, кылі хочыш, паслухый Сашкіна рызіўляньня. Яго рызіваньня усе чулі, хваціць ужо.*

**Разяўліваць** *незак.* Разяўляць. *Рызяўлівыць роцік нікрасіва, дзетычка.* **Разяўлівацца, разяўляцца** *перан. асудж.* Крычаць. *Прівык усюдых рызяўлівыцца, а тута ні сырваў. Чыя там рызіўлялыся, ажно поля тряшчэла ат кріку?*

**Раінне** *н.* Парада. *Нічога ні пымагло тваё раіньня, ня дужа яны хочуць слухыць каго-небудзь.*

**Раллё** 1. *н.* Бязладдзе, нагрувашчванне. *У цябе ны дваре ральлё, ці ты прібраць як хызяін ня можыш.* 2 *перан. м.* і *ж.* Неакуратная, нязграбная асоба. *Анька, ета ральлё, была ўпярёд засьлепла-засьлепла.*

**Раннем** *прысл.* На ранку. *Сьпірідоніха раньнім ехыла ў горыд. У грібы нада раньнім бежч, а ні ў абеды, якея такою пароюгрібы.*

**Ранный** *прым.* Ранні. *У яе ўсігда ранныя гуркі ёсьць. Як ранныя бульбіна, ета нядренна, с ахоткі дзеці хырашо зьядуць.*

**Раса** *ж.* Раса. *Памянш.* **расіца, расічка.** *Харошыя расіца садзіцца, відна, пагода будзіць. Сяньня ёсьць расічка і воздух сьвяжэйшый стаў. Павеліч.* **расішча.** *Усю нядзелю была расішча, як станіш, дык цябе пряма абальлець.*

**Расадзіна** *ж.* Адна расліна расады. *Во, астályся адна рысадзіна, кылі хочыш, уторні айдзе-небудзь. Памянш.* **расадзінка.** *Мне б яшчэ нада штук пяць рысадзінык, ёсьць места гулявоя, можна пысадзіць.*

**Расадніца** *ж.* Расаднік. *Я знаю адну гырадзкую бабу, пускаіць у рысадніцу, ідзі выбірай, толька пы пырядку.*

**Раскабызіць** *зак. неадабр.* Пацягнуць на капрызы. *Яго як рыскыбызіць, дык ніякыю сілыю ні ўгамоніш.* **Раскабызіцца** *зак.* Пачаць капрызнічаць. *Я ўжо ні магу прідумыць, чаго ён рыскыбызіўся. Яе нявестка як рыскыбызіцца, цэлый дзень к сталу ні патходзіць.* **Раскабыжоный** *дзеепрым. Сядзіць рыскыбыжоныя, нешта ні па ёй гырлачыкі піріставілі.*

**Раскавэнчыцца** *зак.* Пачаць мучыцца, стагнаць *Узноў*

*рыскавэнчылыся Уліта іс сваімі ныгамі, сколька ня езьдзіць, сколька ня лечыцца, нічога ні пымыгаіць.*

**Раскавярзаць** *зак.* Расплесці, расцягнуць. *Пляцень рыскывірзáў, а задзелыць нызад ня думыіць, ніхай хто другей зы яго дзелыіць.* **Раскавярзацца** *зак.* Расплесціся, расцягнуцца. *Ні сыма ж ета карзінка рыскывірзáлыся, чысаліся чые-то рукі.* **Раскавярзаный** *дзеепрым. Ікая-то рыскывірзáныя мата ляжыць на столі наць сенцымі, нідáўнычка ліжала, я відзіў.*

**Расказываннік** *м.* Расказчык. *Дренный сь цябе рыскáзывыньнік, во каб Кузьма рыскызаў пра ета, зыхыхытáліся б.* **Расказываннiца** *ж. Паслухыйця вы ету рыскáзывыньніцу, якую іна трілюду нясець.*

**Раскалашмачываць** *незак.* Растрасаць дашчэнту. *Жыбібяты пабеглі і дывай капу рыскылышмáчывыць.* **Раскалашмачывацца** *незак.* Растрасацца дашчэнту. *Ого як у цябе скора рыскылышмачывыіцца!* **Раскалашмаціцца** *зак.* Растрэсціся дашчэнту. *На ём штаны рыскылышмáціліся, ходзіць і вата клоччым тарчыць.* **Раскалашмачаный** *дзеепрым. Ты ж хуць пыпраў трошку рыскылышмáчыныя бабкі.*

**Раскалупіць, раскалупнуць** *зак. перан.* Раскрыць патаемныя думкі, выведаць. *Так ён табе й скажыць, што думыіць, рыскалýпіш ты яго. Не, мае мальчыкі, ні так проста рускулупнýць Пынаса, ён даўно забыў пра тоя, пра што вы яшчэ ня думылі.*

**Расканархацца** *зак.* Пачаць скардзіцца, хныкаць. *Ну чаго ён узноў рыскынáрхыўся, яго як паслухыіш, дык падýмыіш, што гарчэй чылавека німа.*

**Расканіцеліцца** *зак. неадабр.* Распачаць валаводзіцца, марудзіць. *С пунькыю рыскыніцеліліся, рузурілі, а склыдаць уремя німа, хочыш, і зызімуіць бяс крышы.*

**Расканькацца** *зак. неадабр.* Распачаць назойліва канькаць. *Як рыскáнькыіцца — падумыіш: пасьледнія кызанскыя сірыта, а ў яе ад дыбра сундукі трескыюцца і шасты ломюцца.*

**Раскапашыць** *зак.* Разварушыць, рассунуць. *Мáлых рыскыпашы́ў і ўцісնуўся паміж іх.* **Раскапашыцца** *зак.* Пачаць варушыцца. *Чаго вы там рыскыпашы́ліся, іщчэ рана ўстываць, сьпіця.* **Раскапашоный, раскапошаный** *дзеепрым. Салома с аднаго боку дужа рыскыпашона, усё дно як хто нарошня дзелыў. Ах вы, балыўнікі, ужо рыскыпашоныя!* **Рыскапашомшы** *дзеепрысл. Рыскыпа-*

*шомшы сена, падрыліся і спалі. Яны ўжо былі рыскыпашомшы да етыга.*

**Раскапцецца** *зак.* Пачаць моцна капцець. *Дужа нешта рыскапцелыся лампа, ці кнот ныгарэў, ці красін нейкій дренный.*

**Раскапыліваацца** *незак. іран.* Дзьмуцца, капрызнічаць. *Я ўжо віджу, што пычынаіць рыскапыліўвыцца, ох, цаца ўдалыся.* **Раскапыліцца** *зак.* 1. Надзьмуцца, закапрызнічаць. *Рыскапылілыся, што трецьцій дзень к сталу ня йдзець,— во путнінка пупалыся чылавеку!* 2 *перан.* Нагнаць на сябе страху. *Як рыскыпыліўся, як рузбурчэўся: куды вы мяне пысылаіця, вы хочыця мяне ў цюрьму пысадзіць!*

**Раскаркацца** *зак. перан. неадабр.* Пачаць шмат гаварыць, балбатаць. *Чаго ты рыскаркыўся іс сваімі ніпріятнысьціімі, ён жа зь людзямі йдзець, а ні адзін.*

**Раскарожыванне** *н. перан.* Плач, капрызы. *Нада выгыняць ета рыскарёжывыньня, звучылі, што ўсігда дадуць, што ён хочыць, дык чуць што — січас у сьлёзы.*

**Раскарожываць** *незак.* Скручваць, гнуць (пра чалавека). *Нешта цябе рыскарёжывыіць як старуху.* **Раскарожывацца** *незак.* 1. Скручвацца, гнуцца. *К старысьці чылавек то круціцца, то гнецца, то саўсім рыскарёжывыіцца.* 2 *перан.* Плакаць, капрызнічаць. *С самыга раньня пычыла рыскарёжывыцца, можа ёй што нідылігаіць.* **Раскарожыць** *зак.* Скруціць, сагнуць (пра чалавека). *Во рыскарёжыла старыга, ідзець, адна ныга туды, другая туды.* **Раскарожыцца** *зак.* 1. Скруціцца, сагнуцца. *І сьпіна баліць, і ногі бальнэя, рыскарёжыўся, чуць ні ны кырачкых поўзыіць.* 2. Пачаць плакаць, капрызнічаць. *Ты ўжо рыскарёжыўся як маленькій, ці я цябе канхветкымі карміць буду ўсё ўремя?* **Раскарожаный** *дзеепрым.* 1. Скурчаны, сагнуты. *Плоха такому рыскарёжыныму жыць, асобінна як німа помышчы.* 2. Надзьмуты. *Надуўся як сыч, рыскарёжыный сядзіць: нешта ні пы яго зьдзелылі.*

**Раскарцецца** *зак.* Неадольна захацецца. *Чаго ім рыскарцелыся у тоя Жыріціно еткыю цеміньню бежч? Праўду ж гаворюць, што ахочыга ні ўняць, яму як рыскарціцца у горыд, ны вярёўкых ня ўдзержыш.*

**Раскатыванне** *н. перан. неадабр.* Частыя паездкі. *Рыскатывыньня яму дужа ныравіцца, каб толька хто грышамі сныбжаў усякій раз.*

**Раскаўкаць** *зак.* 1. Выклікаць ахвоту каўкаць. *Другей*

*раз як рыскаўкыіць нешта кошку, аж места сабе ні находзіць.* 2 *перан.* Выклікаць ахвоту гаварыць, плакаць, падаваць голас. *Чаго вас рыскаўкыла, пысядзіця ціха.* **Раскаўкацца** *зак.* 1. Пачаць бесперапынна мяўкаць. *Кыцянёнка зыбралі, дык кошка як рыскаўкылыся, доўга бегыла, шукала яго.* 2 *перан.* Расстагнацца. *Ляжы ўжо, ляжы, рыскаўкыўся ты сяньня, я сыма карові паткіну.*

**Раскахліваць** *незак.* Напальваць празмерна. *Нашто ж табе етык печку рыскахлівыць, сюды ні зайціць, а ня то што мыцца.* **Раскахлівацца** *незак.* Награвацца празмерна. *Я шчупнўла гылавёнку, дык іна ў яго рыскахлівыіцца.* **Раскахліцца** *зак.* Нагрэцца празмерна, зрабіцца гарачым. *Грубка рыскахлілыся, уся красныя стала. У яго ніізьвесна ікая цімпіратура: гылыва рыскахлілыся і ўвесь гырячый-гырячый.* **Раскахленый** *дзеепрым.* *Рыскахліныга каменьня укініць у бочку і ў яго гатова гырячыя выда.*

**Раскашаляцца** *незак.* Раскашэльвацца. *Нічога ты ня зьдзелыіш, прідзіцца табе рыскышыляцца другей раз.*

**Раскашырывацца** *незак.* Пачынаць неашчадна траціць, выдаткоўваць. *Ты сь сеным дужа ні рыскашырівыйся, ато нечым будзіць дыкарміцца. Не, Полька рыскашырівыцца ні станіць, іна ўмеіць жыць.*

**Расквакліваць** *незак.* Размазваць. *Што ж ты рысквакливыіш кулеш пу тубурецiку?* **Раскваклівацца** *незак.* Размазвацца. *Дужа нікрасіва ў цябе рысквакливыіцца.* **Расквакліць** *зак.* Размазаць. *Цеста пы масту рысквакліў і топчыцца, якей нізграйный чылавек!* **Раскваклiцца** *зак.* Размазацца. *Што ў цябе тута рысквакліпыся на етым загнеці?* **Раскваклeный** *дзеепрым.* *Чаго ты ішчэ ныгамі шломыіш пы рысквакліныму цесту?*

**Расквохывацца** *незак.* 1. Пачынаць квахтаць. *Трі куріцы расквохывыюцца.* 2 *перан. іран.* Пачынаць стагнаць. *Нешта узноў мой старік расквохывыіцца.* **Расквохацца** *зак.* 1. Пачаць квахтаць. *У мяне расквохыліся ўсе куры, ні нясуцца, хуць усіх садзі ны яйцы.* 2. Расстагнацца. *Мыкар узноў расквохыўся, ісь печы ні злазіiць, кахікыіць за коміным. Другей раз расквохыіцца як старэй дзед, ня столька ў яго баліць, сколька прітвыряіцца.*

**Раскiвываць** *незак.* Расхістваць. *Вун што ён дзелыіць, твой спакойнінькій: раськівывыіць дзерійцы і яны ня прімуцца.* **Раскiвывацца** *незак.* 1. Расхіствацца. *Ня дужа етый кол раськівывыіцца, відна, суччa ўнізу.* 2 *перан.* Расходжвацца. *Што ж ты ляжыш, нечыга залежывыцца, нада патрошку раськівывыцца.* **Раскiвацца** *зак. перан.*

Расхадзіцца. *Ураньні устаць ні магу, а як спаўзу сь печы, троху рыськіва́юся і што-нібудзь зьдзелыю.*

**Раскіданне, раскідыванне** *н.* 1. Растрасанне (сена, гною). *Посьлі рыськіда́ньня пу кустах прабеглі, трошку грібоў найшлі. Якоя ж раськідывыньня на́ныч, ніхай ужо так ляжыць.* 2 *перан.* Марнатраўства. *Я ня буду цярьпець такога рыськіда́ньня, ці ета ты ныжывай, ці што? Ныжывеш ты на сьвеці с такім раськідывыньнім.*

**Раскіданнік, раскідываннік** *м.* Той, хто растрасае (сена, гной). *Айдзе йта нашы рыськіда́ньнікі, нійдзе іх ня відна. Нешта ж ты мала ныработыў, раськідывыньнік, ай зымарійся?* **Раскіданніца, раскідываніца** *ж. Ідуць рыськіда́ньніцы сь песьнімі, кончылі работу. Каб ні заснула там твыя раськідывыньніца посьлі вічарінкі.*

**Раскідацца, раскідывацца** *незак.* Распускацца (пра дрэвы). *Цяремуха самыя первыя пычынаіць рыськіда́цца. У нас вербыў многа, яны дужа красіва раськідываюцца.* **Раскінуцца** *зак.* Распусціцца (пра дрэвы). *Ужо дзерівы раськінуліся, а тута марозік ударіў.*

**Раскіднэй** *прым.* Неберажлівы. *Калі жадный — дренна, ну й рыськіднэй чылавек нічога ў руках ня ўдзержыць.*

**Раскідон** *м.*, **раскіда** *м.* і *ж.* Неберажлівы чалавек. *Ён дужа рыськідон, нічога ні бірягець. Такей раськіда, ні знаю, як ён будзіць на сьвеці жыць. Матка была ні раськіда, а дычка як веціp.* **Раскідуха** *ж. Па кім ты еткыя рыськіду́ха зыдылася?*

**Раскірэчыванне** *н.* Шырокае расстаўленне ног. *Пірістань балывыцца, ато вярёвычкі палучыш зы рыськіречывыньня.*

**Расклапаціцца** *зак.* Пачаць выяўляць клопат, турботы. *Ста́рыя Сазоніха рысклыпаціл ыся: ай-я-яй, ці пыдвязуць мае ма́льцы дроў. Чаго вы па іх рысклыпаціліся, там жа дзядзька, паможыць устроіцца.*

**Расклычыванне** *н.* 1. Пераціранне, пераблытванне саломы. *Знаіш, што я табе зы раскльічывыньня зьдзелыю? — пру́цікым апсяку́.* 2. Памятая, пацёртая салома. *Я ўсё расклычывыньня сагрёб і сьвіньням укінуў, яны сабе гнязло зьдзелыюць.*

**Расклычываць** *незак.* Пераблытваць (звыч. пра салому, трасту). *Снапкі ліжалі роўнінька складжыныя, ма́лыя пупалі, балыюцца, раскльічывыюць.* **Расклычывацца** *незак.* Пераблытвацца. *Атнімі салому с-пад ног, ніхай ні раскльічывыіцца.* **Расклычыць** *зак.* Пераблытаць. *Пырысяты улезьлі ў кулі, раскльічылі, рузвуюва́лі, што ні прі-*

*думыіш, як пыправіць.* **Расклычыцца** *зак.* Пераблытацца. *Многа саломы зря расклы́чылыся, можна було пріпыря́ччыць раншы.* **Расклычаный** *дзеепрым.* *З расклы́чыных снапкоў нічога ня зьдзелыіш, кідай умесьці са ўсёю саломыю, толька рызьвяжы́.*

**Расклянчыцца** *зак. неадабр.* Пачаць назойліва і слязліва прасіць. *Як рыскля́нчыцца, ат яе ж ні аччэпісься, іна ў ніжывога з зубоў вырьвіць.*

**Раскохывацца** *незак.* 1. Пачынаць квахтаць. *Трецьція куріца раскохывыіцца.* 2 *перан.* Пачынаць стагнаць. *Нешта мой старік раскохывыіцца, знаць, пацсты́ў.* **Раскохаць** *зак.* Выклікаць ахвоту квахтаць. *Што там квакуху раскохыла, мoжа с курямі пабілыся.* **Раскохацца** *зак.* 1. Расквахтацца. *Чаго б ета квакуха раскохылыся, каб хто ціплят ні пыхвытаў, птушка ікая-небудзь ці кот.* 2. Расстагнацца. *Ужо ўзноў раскохыўся, во нейкыя ніпуцьцё, а ні чылавек.*

**Раскошастваванне** *н.* Раскашаванне. *Скора яго раскошыствывыньня кончыцца, прідзіцца рукавы засу́кывыць.*

**Раскошастваваць, раскошастывацца** *незак.* Раскашавацца. *Цэлый месіц тута раскошыствывылі, учора паехылі. Не, ніхай забудзіць, каб ён раскошыствывыўся, а я адна ірвалыся за ўсіх.*

**Раскрактацца** *зак.* Пачаць моцна стагнаць. *Як раскрекчыцца, дык яму, кажыцца, ня то што бульбу кыпаць, а й сь печы злазіць нілізя.*

**Раскрасавацца** *зак. перан.* Пачаць жыць вельмі добра. *Ня дужа і йна рускрусува́лыся зы сваім Пітраком, ні такей ён пытхва́тный.*

**Раскрываннік, раскрывальшчык** *м.* Той, хто раскрывае. *Нада ныліваць абедыць, рыскрыва́ньнікі ўжо зьлезьлі, мыцца пашлі. Ты там, рыскрыва́льшчык, як паходзіш, дык нічога ні астаніцца на месьці.* **Раскрываніца, раскрывальшчыца** *ж.* *Глянь-ка, і ты ўжо рыскрыва́ньніца, на крышу лезіш. Ваю́іцца рыскрыва́льшчыца зь вілкымі.*

**Раскрывіцца** *зак. неадабр.* Пачаць выражаць незадаволенасць. *Рыскрівілыся, як скызалі ёй, што нільзя так дзелыць. Рыскрівіцца ён умеіць, ніізьвесна па ком удаўся.*

**Раскрыкываць** *незак.* Распараджацца пакрыкваючы. *Ты любіў ба раскрікывыць, толькі німа ны каго, цябе дайжа Дзёма ня слухыіць.*

**Раскрыўджываць** *незак.* Крыўдзіць, выклікаць крыўду. *Хваціць табе іх раскріўджывыць.* **Раскрыўджывацца**

*незак.* Адчуваць сябе пакрыўджаным. *Ох, умеіць раскріўджывыцца, ох, умеіць, учыць ні нада.* **Раскрыўдзіць** *зак.* Пакрыўдзіць, выклікаць крыўду. *Яе нядоўга раскріўдзіць, кріўдліва ціряшчур.* **Раскрыўдзіцца** *зак.* Адчуць сябе пакрыўджаным. *Нешта ні па ёй скызалі, раскріўдзілыся і каторый дзень ні патходзіць.* **Раскрыўджаный** *дзеепрым. Разьві ты ні знаіш, чаго ён раскріўджыный ходзіць.*

**Раскуёлдзіць** *зак.* Прымусіць пакутаваць. *Ма́лыга, буваіць, як рускуёлдзіць, дык зь ім места ні находзіш.* **Раскуёлдзіцца** *зак.* Пачаць моцна пакутаваць. *Мой зь вечыра як рускуёлдзіўся, я пасьці ўсю ноч ні спала, ні мыгла успакоіць.* **Раскуёлджаный** *дзеепрым. Ці ня зубкі ў ма́лыя режуцца, што іна тыкая рускуёлджыныя.*

**Раскукавацца** *зак. перан.* Пачаць горка, няўцешна, наўзрыд плакаць. *Як жа ёй ні рускукува́цца, калі еткыя горя у хату увалілыся. Ні хыця рускуку́ісься, ежылі ні ў чом толку ні пулучаіцца.*

**Раскукобіцца** *зак.* Пачаць важдацца, няньчыцца. *Нявестка з ма́лым як рускукобіцца, айдзе ты ат яе тэя помышчы дажджэсься.*

**Раскуксіцца** *зак.* Пачаць плакаць пры недамаганні (пра дзіця). *Ма́лый раску́ксіўся ўчора, усё скліміць і скліміць, нешта яму нідыліга́іць, а што — ні знаю.*

**Раскуламешыванне** *н.* Размешванне (звыч. пра гразь). *Такоя рускуламешывыньня кру́гом, а ты худзь ба трошку прібраць ні пыбіспакоісься.*

**Раскуламешываць** *незак.* Перамешваць (пра гразь). *Чаго яшчэ ты туды палезіш рускуламешывыць?* **Раскуламешывацца** *незак.* Перамешвацца (пра гразь). *Шы́льля пад ногі ныкідай, каб меншы рускуламешывылыся.* **Раскуламесіць** *зак.* Размясіць (пра гразь). *Пырысяты ны дваре так рускуламесілі, што туды пыкызацца нілізя, нада саломы ныслаць.* **Раскуламесіцца** *зак.* Размясіцца (пра гразь). *Чаму ж ні рускуламесіцца усюдых, калі дажджы столька ўремя ільлюць ні пірістыва́ючы.* **Раскуламешаный** *дзеепрым. Чаго у вас так пыд ныгамі рускуламешына, можна ж було аткінуць грязь, пяску пацсыпыць.*

**Раскуляшыць** *зак. перан.* Размясіць (гразь). *Ны дваре так скот рускуляшы́ў, што разу нілізя ступіць.* **Раскуляшыцца** *зак.* Размясіцца (пра гразь). *Лі ґанык у цябе дужа рускуляшы́лыся, ці пыдыслаў ба чаго-небудзь, ці доскі якея пылажыў.* **Раскуляшоный** *дзеепрым. У ла-*

*шчынкі так рускуляшона, што і ў ботых ні пярёйдзіш.* **Раскуляшомшы** *дзеепрысл. Каб ні було так рускуляшомшы, як-небудзь ба і калёсы піріцягнуў.*

**Раскутываць** *незак.* Адчыняць. *Хацела комін раскýтывыць, а тады гляджу: ны марозік бярецца — і ні стала раскýтывыць.* **Раскутывацца** *незак.* Адчыняцца. *Ці ета само вакно раскýтывыіцца, ці кошка лáзііць?*

**Раскушаць** *зак.* Рассмакаваць. *Ты вазьмі адну ложку, паспробый, раскýшыіш — дык цябе будзіць за вуха ні атвесьць.*

**Раскэрхацца** *зак.* Раскашляцца. *Што ты раскэрхыўся, як старэй дзед, устывай, паедзім сяньня ў дровы.*

**Раскяпліваць, раскепліваць** *незак.* Расколваць. *Узяўся пень рыськяплівыць, тапор зыгнаў, а вырвыць ня можыць. Большы ні нада раськеплівыць, палка і так згаріць.* **Раскяплівацца, раскеплівацца** *незак.* Расколвацца. *Сухая верба ня дужа рыськяплііцца, а сырая б'ецца хырашо. Два кліны зыгнаў, а калода і ня думыіць раськеплівыцца.*

**Раснічына** *ж.* Адно вейка. *Рясьнічыны тырчаць неік уверьх, аж закруціліся. Памянш.* **раснічынка.** *Буваіць, рясьнічынка пад ніз пупадзець, дык коліцца ў воку.*

**Распаласкываць** *незак.* Прыводзіць у непрыгодны стан празмерным паласканнем. *Рыспыласкывыць так ні нада, спыласнýла раз і ладна.* **Распаласкывацца** *незак.* Прыходзіць у непрыгодны стан ад празмернага паласкання. *Як многа мыіш, дык усё рыспыласкывыіцца.* **Распаласкаць** *зак.* Прывесці ў непрыгодны стан празмерным паласканнем. *Ты сваё нáвылычкі саўсім рыспылыскáла.* **Распаласкацца** *зак.* Прыйсці ў непрыгодны стан ад празмернага паласкання. *Старёнычык кохтычка, рыспылыскáлыся, некуды яе ныдзівáць, можа тольки падзьдзеніш калі, як хыладней станіць.* **Распаласканый** *дзеепрым. Былі там тряпінкі рыспылыскáныя, павесіла сушыцца.*

**Распаніцца** *зак.* Распанець. *Сідарёнкыў сын настолька рыспаніўся, што матка пыдаць яму нічога ні ўладзіць.*

**Распарадзіцелька** *ж. іран.* Жанчына, якая любіць распараджацца. *Сь цябе б дужа харошыя рыспырядзіцілька была, каб тольки було чым рыспыріджацца. Яны абея ладныя рыспырядзіцількі, адна другую ні піряве-сюць.*

**Распараднік** *м. іран.* Той, хто любіць распараджацца. *Такея рыспырядннікі як возьмуцца, дык работа зразу зыгаріцца, тольки ім узяцца дужа трудна.* **Распарадніца** *ж. А мне ніякыя рыспырядніца ні нада, я сыма спраўлюся.*

**Распасаджыванне** *н.* Марнатраўства. *Мой старік дужа ні любіў рыспысáджывыньня, Сярьгей паедзіць у горыд і купіць што-небудзь, ён тады ныгрімíць.*

**Распасаджываць** *незак.* Распускаць, растрачваць, марнатравіць. *Рыспысáджывыць яны ўмеюць, каб толька было што. Прыдáлі карову, цяперя рыспысáджывыюць, як будуць заўтря жыць, нісколька ня думыюць.* **Распасаджывацца** *незак.* 1. Распускаць, растрачваць, марнатравіць. *Чаго вы етык рыспысáджывыіціся, вам жа і нызаўтріга, і на посьлізаўтріга нада будзіць.* 2. Марнатравіцца. *У таго, хто ні ап чом ня думыіць, усё рыспысáджывыіцца.* **Распасадзіцца** *зак.* 1. Распусціць, растраціць, змарнатравіць. *Што, рыспысáдзіўся, а цяперя рукамі разводзіш?* 2. Змарнатравіцца. *Во чые йта два піскляёнычкі тута цыгыюць, маіх квакуха кінула, яны адзін па дном так і рыспысáдзіліся.*

**Распасціранне** *н. перан. груб.* Крыклівае праяўленне нахабства. *А што мне яго рыспысьцірáньня, ніхай крічыць, хуць парьвецца,— ніяк ні ныжáдыіцца, усё зь яго мала.*

**Распасціраццa** *незак. перан. груб.* 1. Займаць. *Ён ужо і ну лужок зы Іванывыю банію рыспысьцірáіцца.* 2. Нахабна крычаць. *Нійдзе яму спакою німа, усюдых рыспысьцірáіцца сы сваім горлым.* **Распасцерцца** *зак.* 1. Заняць. *Ны Ганьніну усядзьбу рыспасьцёрліся, якея яблынкі сідзяць, усё аптрясыюць.* 2. Пачаць нахабна крычаць. *Як рыспасьцёрся, ні даў нікому слова скызаць.*

**Распатворнічаць** *зак.* 1. Распусціць, даць магчымасць сваволіць. *Дужа цябе бацька рыспатворнічыў, што ты пы гылывáх ходзіш.* 2. Распусціцца, пачаць сваволіць. *Ня ў тэя ты рукі пупаў, у мяне б так ні рыспатворнічыў, я б цябе зразу ўняў.* **Распатворнічацца** *зак.* Распусціцца, пачаць сваволіць. *Зы дзіцямі ўсігда глядзі, рыспатворнічыюцца — тады ныгарюіська. Настолька рыспатворнічылыся карова, разу у тубуне хадзіць ня хочыць.*

**Распатворыванне** *н. неадабр.* Патваранне. *Дужа волі змалку ні дывай, у руках дзяржы, рыспатворівыньня ды дыбра ні даводзіць.*

**Распатлацца** *зак.* Раскудлаціцца. *Рыспытлáіцца і ходзіць, як ёй толька ня стыдна. Чаго ты етык рыспытлáўся, прічашы гылаву сваю.*

**Распатрашаць, распатрашываць, распатрошываць** *незак.* 1. Патрашыць, даставаць вантробы. *Ня будзіш жа ты рыспытрышáць кыбына, на ноч гледзічы. Калі ж тую*

*айцу рыспытрашывыць, нада бульбу зь зямлі выхвыціць. Ён ішчэ ня ўмеіць сьвіньню рыспатрошывыць.* 2 *перан.* Растрасаць, разбураць, рваць. *Рыспытрышаіць усе тваe тряпкі, што ў мяшку былі. Глянь-ка, як пырысяты твaю кашолычку рыспытрашывыюць! Узяўся рыспатрошывыць сваe штаны,— ета ў яго рімонт такей.* **Распатрашацца, распатрашывацца, распатрошывацца** *незак.* Растрасацца, разбурацца, рвацца. *Рыспытрышаіцца пінжачэнка і ты яго ні зысьцябнеш. Рыспытрашывыіцца сяньнік, нада міняць. Так зьвізаў, што ўсё рыспатрошывыіцца.* **Распатрашыць** *зак. перан.* Растрэсці, разбурыць, парваць. *Што ты ўжо, хочыш саўсім рыспытрашыць ету шубёнку?* **Распатрашыцца** *зак.* Растрэсціся, разбурыцца, парвацца. *Шапка рыспытрашылыся, што яе і ныдзівацъ стыдна.* **Распатрашоный, распатрошаный** *дзеепрым. Рыспытрашоныя тряп'ё выляіцца пуд вуглом. Ношка твыя ўся рыспатрошына: пацьсьвіньк пыхызяйнічыў.* **Распатрашомшы** *дзеепрысл.* 1. Дастаўшы вантробы. *Рыспытрашомшы кыбына, можна і пы чаркі зьдзелыць.* 2. Растросшы, разбурыўшы, парваўшы. *Рыспытрашомшы ну кускі, нечыга шшывацъ наныва.*

**Распахыванне** *н.* Выворванне бульбы. *Якоя ж ета рыспахывыньня, што куст выпыхын, а куст сядзіць, ці мне іціць усьлед з лупаткыю ды выкапывыць.*

**Распацешны** *прым. гумар.* Вельмі пацешны, вясёлы. *Як чарку возьміць, тады ён рыспацешный: будзіць прітвыряцца, гываріць, прідумляць нешта.*

**Распацешыць** *зак. гумар.* Развесяліць. *Сярьгей Кыбанёнык усё, бувала, прігывapівыў: ой, мыя сяньня мяне рыспацешыла!* **Распацешыцца** *зак.* Развесяліцца. *Чым жа ён так рыспацешыўся?* **Распацешаны** *дзеепрым. Каторый дзень ён рыспацешыный ходзіць і сам сабе усьміхывыіцца.*

**Распішчэцца** *зак. перан.* Расплакацца, пачаць моцна ныць. *Канхвет зыхацела, таго і рысьпішчэлыся, ці ты яе ні знаіш.*

**Распладжаць, распладжываць** *незак.* Расплоджваць, размнажаць. *Пуўлюковы нейкіх новых курей думыюць рысплыджаць. Усё кідаіш ні прібраўшы, толька мух рыспладжывыіш.* **Распладжацца, распладжывацца** *незак.* Расплоджвацца, размнажацца. *Каты рысплыджаюцца дужа скора, іна табе адна за лета цэлыю хвірму накоціць. Мышы як калі, калі мала, а другей год нівісь як рыспладжывыюцца.*

**Распладжыванне** *н.* Расплод. *У катоў знаіш якое рысплáджывыньня, за лета — цэлый табун, хвірма цэлыя.*

**Расплахей, расплахій** *прым.* Вельмі дрэнны. *Ніхай ён табе рысплахей будзіць, а іна жывець і ні жаліцца. Чаго ж ён такей рысплахій дужа, нечым ні дыгадзіў табе.*

**Расплутухаць** *зак.* Распластаць. *Як русплутухáіць ён цябе аб дарогу, тады ты пірістаніш лезьць.* **Расплутуханый** *дзеепрым. Пыліжаў, пыліжаў русплутухáный, тады ўстаў і паплёўся двору.*

**Расплюскацца** *зак.* Пачаць часта моргаць. *Ніізьвесна чаго расплю́скыўся, ці можа, ета ў яго прівычка тыкая.*

**Распрадаванне** *н.* Распрадажа. *Ні знаю, што ў цябе зь етыга рыспрыдывáньня палучыцца, можыш рыспрыдáцца, а тады будзіш сядзець і кукувáць.*

**Распрарэшыванне** *н.* Прарэх па рубцу. *Рыспрарешывыньня худзь ба ніткымі трошку умітусь пыхрістáў, і то б трошку бульба дзіржалыся.*

**Распрарэшываць** *незак.* Рабіць дзіркі па рубцу. *Ты сам ныдзяеш як зря, рыспрарешывыіш пінжачок цігаўшы.* **Распрарэшывацца** *незак.* Рвацца па рубцу. *Ні дывай адзежыні рыспрарешывыцца, зразу зашый, а айдзе прыцірáіцца, лáпічык ныкладзі.*

**Распратыванне** *н.* Распрананне. *Рышпілі ты яму ґузікі ды зьнімі шубёнку, ато пакуля дажджэсься яго рыспрятывыньня, і абед застыніць.*

**Распратываць** *незак.* Распранаць. *Можа б ня стоіла рыспрятывыць куртычкі, ны дваре ня дужа цёпла. Рыспрятывый мáлых, січас есьць будзім.* **Распратывацца** *незак.* Распранацца. *Ты пакуля ні рыспрятывыйся, січас вады цёплыя пыдальлю і вынісім карові піць. Прішоў і сядзіць у адзёжы, ня хочыць рыспрятывыцца.*

**Распробываць** *зак.* Адчуць смак пры каштаванні. *Як распробывыў кулеш, міску зьеў і яшчэ просіць: падлі.*

**Распрыгывацца** *незак. перан.* Узбуджацца. *Ты папробый-ка ні ўладзь што-небудзь пы яго зьдзелыць, ого як ён распры́гывыіцца.* **Распрыгацца** *зак.* Узбудзіцца. *Дужа распры́гыўся Ільля, як скызалі, што ён дренна капец зубуртувáў.*

**Распуліваць, распульгываць** *незак.* Раскідваць з сілай, шпурляючы. *Ні нада распу́лівыць кумушкі, яны ішчэ пынáдыбюцца. Што ён усё с пунькі распу́льгывыіць!* **Распуляць, распульгаць** *зак.* Раскідаць з сілай, шпурляючы. *Цэлыя куча была сьнежык, усё руспулялі. Як возьміцца што шукаць, усё руспульгáіць, нійдзе нічога ні найдзіш.*

**Распуляцца, распульгацца** *зак.* Пачаць раскідаць з сілай, шпурляючы. *Дужа ты руспуляўся, ну-ка ўніміся, ато січас уніму, што ныўсігда зырякесься бáлывыцца. Камлыжжым як руспульгáюцца, ды кылы вакон саўсім нідалёка, глядзі, вы́сыдзюць балонку.* **Распуляный, распульганый** *дзеепрым. Я цябе зыстáўлю усё руспуля́ныя сыбіраць. Ты мне глядзі, толька ні сыбярі руспульгáныя цацкі.*

**Распускаць, распускацца** *незак. перан.* Пачынаць раставаць. *Як станіць руспускáць, тады ў нас нікуды ня выйдзіш. Ужо руспускáіцца, вот-вот пáвыдкі пойдуць.* **Распусціць, распусціцца** *зак.* Пачаць раставаць. *Летыся дужа рана руспусьціла, рáнныя вісна была і цёплыя, скора с пасевымі упрáвіліся. Зыпáзьнівыіцца вісна, ну ды мая ж дзіржаць ня будзіць, распу́сьціцца.*

**Распусна** *прысл.* Свавольна. *Дужа ён стаў распусна сябе весьць. Зразу як пріехылі, і пывялі сябе распусна.*

**Распушыць** *зак. перан.* Моцна вылаяць. *Лаіў большы некуды, пряма руспушы́ў яго,— ну й стоіла, за дзела лаіў, ніхай усякія трілю́ды ні нясець.*

**Распыкацца** *зак.* Пачаць гаварыць запінаючыся. *Раншы ён усігда прімоўчывыў, а ўчора як распы́кыўся, дык ні ўнять було.*

**Распыляць** *незак. перан.* Разбіраць (пра злосць). *Ці ты думыіш, ета первый раз яго так рыспыля́іць?* **Распыляцца** *незак.* Пачынаць злавацца. *Ні рыспыля́йся, ніхто тваe злосьці ні баіцца нісколічка.*

**Распыпліввацца** *незак.* Пачынаць кешкацца. *Распы́плівыіцца мыя мысьцяріца, січас увідзіця работу.* **Распыпліцца** *зак.* Распачаць кешканне. *Распы́плілыся на судкі сы сваім чыснаком.*

**Распыркацца** *зак.* Распачаць пыркаць, падзываць курэй воклічам «пыр-пыр». *Во распы́рькылыся новыя гыспадыня, хызяйства сваё сыбіраіць — ніяк ні сыбярець.*

**Распырхацца** *зак.* 1. Распачаць прыганне. *Мáлыя распы́рьхыліся, ета яны так гуляюць, ну ніхай, хуць ні ныдыідáюць.* 2 *перан.* Пачаць часта мяняць месца работы. *Распы́рьхыўся работнічык, ніўдзе доўга ні задзержывыіцца.* 3 *перан. іран.* Праявіць нецярплівасць, нязгоду. *Ну што, кылі ён распы́рьхыіцца, я яму усю праўду скажу.*

**Распялёхываць, распялёххываць** *незак.* Расплюхваць, разліваць. *Нясець вядро і рысьпялёхывыіць, ны кылышыну́ пупыдаіць. Ні рысьпялёххывый па ўсёй хаці, пыцьціраць зы табою усігда нада.* **Распялёхывацца, распялёх-**

**кывацца** *незак.* 1. Расплюхвацца, разлівацца. *Нейкій ты нікуратный, рысьпялёхывыіцца у цябе ува ўсе бакі. Бочку як вязеш, нада дзёнца ўкінуць, каб выда ні рысьпялёххывылыся.* 2. Пачынаць плюхаць. *Некылі рысьпялёхывыцца, работы кыла бульбы ішчэ нівісь сколька. Узноў сталі рысьпялёххывыцца, цяперя ім ну пуўдня вазьні хваціць.* **Распялёхаць, распялёхкаць** *зак.* Расплюхаць, разліць. *Нясьлі ў шайкі ваду, пылавіну рысьпялёхылі. Так нёшшы, ты рысьпялёхкыіш.* **Распялёхацца, распялёхкацца** *зак.* 1. Расплюхацца, разліцца. *Пасьці ўсё рысьпялёхылыся, на дне трошку астáлыся. А што ты думыіш, і ныпраўду можыць рысьпялёхкыцца.* 2. Пачаць плюхаць. *Ці надоўга вы тута рысьпялёхыліся? Як рысьпялёхкыюцца ў сажылкі, дык выда стаўбом.* **Распялёханый, распялёхканый** *дзеепрым. У нычвáх пасьці ўсё рысьпялёхына, нада падліць зь вядзерца. Рысьпялёхкыныя нада пацьцерць, ніхай скарей сохніць.*

**Расп'яннічаць** *зак.* 1. Зрабіць п'яніцай, прывучыць да п'янства. *Пыдыбрáліся выпівáньнікі і рысьп'я́ньнічылі яго.* 2. Расп'янстваваца. *Рысьп'я́ньнічыў — большы некуды, ніхто яго ні пірявучыць.* **Расп'яннічацца** *зак.* Расп'янстваваца. *Як рысьп'я́ньнічыіцца, тады жызьні ня будзіць ніякія.*

**Распярхацца** *зак. неадабр.* Раскашляцца. *Мой рысьпірьхáўся, ляжыць, гаворіць, дужа ў грудзях давіць, каб ні ўспаленія якоя.*

**Распячаліваццa** *незак.* Маркоціцца, журыцца. *Ці було чаго рысьпічáлівыцца, ты ж знаіш, што яны з надзёжным чылавекым паехылі.* **Распячаліцца** *зак.* Замаркоціцца, зажурыцца. *Міканор дужа рысьпічáліўся, што ац сыноў доўга нічога німа.*

**Распячкурыцца** *зак. жарт.* Заняцца кладкай або рамонтам печы. *Рысьпячкýріўся, што атырвацца ня можыць, вады напіцца некылі. Дай ім толька рысьпячкýріцца, у ахоту увойдуць, тады ні астынавіць.*

**Рассабачыванне** *н. асудж.* Разбэшчанасць. *Як жа ты церьпіш еткыя рыссыбáчывыньня, разьві ты ўняць ня можыш?*

**Рассабачывацца** *незак. асудж.* Разбэшчвацца, рабіцца распуснікам. *Ні дывай ім рыссыбáчывыцца, тады ў руках нізашто ня ўдзержыш. Мы зразу увідзілі, што пычынаіць рыссыбáчывыцца.* **Рассабачаный** *дзеепрым. Ета ж ніхто б ні разу ні паўміў, што Дзім'яныў сын будзіць такей рыссыбáчыный.*

**Рассакатацца** *зак.* 1. Пачаць гучна сакатаць. *Рыссыкытáліся куры і крáсьнінькія сталі, вот-вот несца станущь.* 2 *перан.* Пачаць шпарка гаварыць. *Ох, рыссыкытáлыся каторыя-то, паспробый пірігыварі такую.*

**Рассаліваць** *незак.* Рабіць салёным. *Ці рыссáлівыла ты ваду, нада гуркі зыліваць.* **Рассаліванца** *незак.* Рабіцца салёным. *Нешта твой расол ня дужа рыссáлівыіцца.* **Рассаліць** *зак.* Зрабіць салёным. *Я дайно ваду рыссаліла, во ў вядре стаіць.* **Рассаліцца** *зак.* Зрабіцца салёным. *Як рассоліцца, скажыш мне, я зальлю.* **Рассолены** *дзеепрым. Ну пыглядзі сам, айдзе рассоліныя выда, верна, у цынкывым вядре.* **Рассалёмшы** *дзеепрысл. Расол нада каб быў хырашо рыссалёмшы.*

**Рассварыць** *зак.* Пасварыць. *Што, ты хочыш іх узноў рыссваріць?* **Рассварыцца** *зак.* Пасварыцца моцна. *Яны крепка рыссваріліся і зы ірундý: нешта ні так скызала Хвенька пра Ўліціныга сына.* **Рассвараны** *дзеепрым. Яны доўга былі рыссвáріныя, ні рызгывáрівылі.* **Рассваромшы** *дзеепрысл. Мікілай с Хымчанком рыссварёмшы ішчэ ат Мікітывыя свадзьбы.*

**Рассвістыванне** *н. перан.* Марнатраўства. *Мой ба старік зы такоя расьсьвістывыньня ні знаю што зьдзелыў, дужа ён ні любіў, хто пускаіць на вецір.*

**Рассвістываць** *незак. перан.* Растрачваць, выдаткоўваць легкадумна, бязмэтна. *Што, бацькіна зырыбляныя лёхка расьсьвістывыць?* **Рассвістывацца** *незак.* Растрачвацца, выдаткоўвацца легкадумна, бязмэтна. *Гатовыя лёхка расьсьвістывыіцца, ета ні сваім гарбом ныжывáныя.* **Рассвістаць** *зак.* Растраціць, выдаткаваць легкадумна, бязмэтна. *Грошы ў іх ладна було, дык усё рысьсьвістáлі зы два месіцы, голінькія явіліся.* **Рассвістацца** *зак.* 1. Растраціцца, выдаткавацца легкадумна, бязмэтна. *Сколька чаго у іх рысьсьвістáлыся, можна було абжыцца ні абы-як.* 2. Пачаць брыкацца, біць заднімі нагамі (пра каня). *Як расьсьвішчыцца, ты яго пугыю хырашэнька резьні, ён успакоіцца жыва.* **Рассвістаны** *дзеепрым. Нечыга рысьсьвістáныя грошы пымінаць, нада думыць, як ныпярёд жыць.*

**Рассвятэй** *прым.* Вельмі набожны, добразычлівы, выключны. *Усё быў сьвятэй і рысьсьвятэй, пакуля мяшочык жыта с плячэй зьнялі. Ніхай яны рыззылатэя і рысьсьвятэя, а Паўлік у сваты к ім ні пашоў і ня пойдзіць.*

**Расскараджыванне, расскароджыванне** *н.* Разбараноўванне. *Ета ні рысскырáджывыньня, што пáхыта жывая*

*ляжыць. Калі харошыя рысскароджывыньня, дык яно й відна, мяккыя зімля.*

**Расскараджываць, расскароджываць** *незак.* Разбараноўваць. *Тута дужа трудна будзіць рысскыра́джывыць, ліжаць глутырі. Доўга рысскароджывыў аблогу, раз па восім езьдзіў.* **Расскараджывацца, расскароджывацца** *незак.* Разбараноўвацца. *Камлы́жжа засохла, ні рысскыра́джывыіцца. Посьлі дыжджа пымякчэла, стала луччы рысскароджывыцца.* **Расскарадзіць** *зак.* Разбаранаваць. *Калі захочыш, дык рысскародзіш, а кылі ахоты німа, сарысскароджывыцца.* **Расскарадзіць** *зак.* Разбаранаваць. *Я ўжо думыў, тута век ні рысскародзіцца.* **Расскароджаный** *дзеепрым. Ніважна аблога рысскароджына, нада яшчэ борыны прігыняць.* **Расскарадзёмшы** *дзеепрысл. Тута ні рысскырадзёмшы, сеіць ня будзіш.*

**Расскверсца** *зак.* Распачаць крумканне. *Толька станіць цёпла, лягушкі як рыссквяру́цца па ўсіх аборкых, па ўсіх лужыных, іх, кажыцца, ніізьвесна сколька.*

**Рассклімецца** *зак. неадабр.* Расплакацца, расхныкацца. *Ма́лый, буваіць, як рыссклімiцца ніізьвесна чаго, унімаіш яго, унімаіш, пряма сыма ні знаіш, што дзелыць.*

**Расскрабаць** *незак.* Расскрэбваць. *Ён узяўся мясьцінку рысскрiба́ць, каб бульбу пасыпыць.* **Расскрэсць** *зак.* Расскрэбці. *Тут во нада расскресьць, дык яно скарей пацсохніць.* **Расскрэбеный** *дзеепрым. Я думыла, тут трошку ныбяру, а гляджу — ужо расскребіный пясок.*

**Расскрабываць** *незак.* Раздрапваць. *Ні нада рысскра́бывыць ножку, будзіць балець.* **Расскрабаць** *зак.* Раздрапаць. *Нешта ў яго чысалыся, ён рысскра́быў, паетыму і пыкрасьнела.* **Расскрабаный** *дзеепрым. Рысскра́быныя нада прісыпыць чым-небудзь, каб сохла.*

**Расскубываць** *незак.* Расскубаць. *Была села воўну расску́бывыць, дык ці яны дадуць што зьдзелыць.* **Расскусць** *зак.* Расскубці. *Зьля́мчылыся, дык нілізя расску́сьць, хуць як хочыш ірьві.* **Расскубеный** *дзеепрым. Во тута ўжо троху ёсьць расску́біныя, бярі.*

**Рассмаргыванне, рассморгыванне** *н.* Расцягванне вузла. *Нейкыя тваё дужа доўгыя рыссма́ргывыньня, ты толька запутыў усё. Вазьмі сам ды рызьвяжы́, ато яго рассморгывыньня няскора дажджэсься.*

**Рассмаргываць, рассморгываць** *незак.* Расцягваць вузел. *Ты будзіш етык рыссма́ргывыць, што большы запутыіш. Узяўся рассморгывыць, а тама вузялкі ны вярёвычкых, ні туды ні сюды ні цягніцца.* **Рассмаргывацца, рас-**

**сморгываца** *незак.* Расцягваца (пра вузел). *Чаго ў цябе ні рыссмаргывыіцца, тут жа нічога ні дзяржыць. Етый вузялок рассморгывыіцца, а тама заціснулыся, хуць рызрізай.* **Рассмаргнуць** *зак.* Расцягнуць вузел. *Кончыкі рыссмаргні і ўсё, тама някрепка зывязына.* **Рассмаргнуцца** *зак.* Расцягнуцца (пра вузел). *Пыцягні і рыссмаргнецца, тама ны адну пяцельку зывязына.* **Рассмаргацца, рассморгацца** *зак. перан.* Пачаць часта шморгаць. *Што рыссмыргаўся, пацстыў ці што? Мала яму канхвет дыла, дык рассморгыўся.* **Рассмаргнутый, рассморгнутый** *дзеепрым. Канцы рыссмаргнўты, хахол рассунь ды дыстывай буханкі. Рассморгнутыя вяревычкі выцігні і павесь ну крючок, яны знydыбяцца ішчэ.*

**Рассмеліваца** *незак.* Паступова асмельвацца. *Во і Коля патрошку расьсьмелівыіцца кыла дзевык.*

**Расстраванне** *н.* Развітанне, расставанне. *Ажно сьмешна глядзець на іхныя рысстрівáньня: атойдуць, аглянўцца і ўзноў адзін кы днаму бігаць.*

**Расстраца** *зак.* Расстацца. *Ніяк ня могуць рысстрáцца. Ёй дайжа зь якою-небудзь тряпкыю цяжола рысстрáцца.*

**Расстукатацца** *зак.* Распачаць гучны і працяглы грукат. *Мáлыя русстукутáліся ны дваре, знаць, кыляску мысьціряць сабе, учора калёсікі атпілівылі зь дзедым.*

**Рассупоніваць** *незак. перан. гумар.* Схіляць да вольнасцей у паводзінах, да свавольства. *Нешта цябе пычынаіць руссупонівыць, ня можыш ты сябе ў рямкых дзріжаць.* **Рассупоніваца** *незак.* 1. Дапускаць вольнасці ў паводзінах, свавоііць. *Нешта вы, мальчыкі, саўсім руссупонівыіціся, ці ня хочыцца вам, каб супонька пы плічах пыхадзіла.* 2. Расслабляцца. *Нечыга руссупонівыцца, табе ішчэ ажаніцца нада, сям'ю завесьць.* **Рассупоніць** *зак.* Схіліць да вольнасцей у паводзінах, да свавольства. *Іх, буваіць, калі як руссупоніць, дык нійдзе уніму ні находзюць.* 2. Расслабіць. *Дужа рана цябе руссупоніла, дзяржыся гіроім, як Трыхімёнык.* **Рассупонены** *дзеепрым.* 1. Свавольны. *Я й сам ні знаю, чаго яны сталі такея руссупоніныя.* 2. Расслаблены. *Кулажонык пасьледнія ўремя стаў якей-то руссупоніный.*

**Рассурыванне, рассуранне** *н.* Рассыпанне смецця. *А хто ж будзіць пыдмітаць зы табою рассўрівыньня? Глядзі, пупадзець табе зу руссурáньня, ты нарошня сыпіш.*

**Рассурываць, рассураць** *незак.* 1. Рассыпаць смецце.

*Астарожнінька нясі сьмяцьцё, ні рассу́рівый. Ты ўсё чыста з лупаткі руссуряіш.* 2. Растрасаць (гной). *Ці расcу́рівылі ж вы гною хут трошку пыт пышаніцу? І там, і там нада руссуря́ць, а гною ні хвытаіць.* **Рассурывацца, рассурацца** *незак.* Рассыпацца (пра смецце). *На́да несьць так, каб ні рассу́рівылыся. Усё ўсьлед за ім руссуря́іцца.* **Рассурыць** *зак.* 1. Рассыпаць смецце. *Нёс на вілкых шы́льля, усё руссуріў.* 2. Растрэсці (гной). *Увесь гнаёк руссурілі пад бульбу, у нас яго ня дужа многа було.* **Рассурыцца** *зак.* Рассыпацца (пра смецце). *Падгрёбкі нёс, яны руссуріліся, зымітаць нада.* **Рассураный** *дзеепрым. Сколька нёс, усё ўсьлед рассу́ріна, як дарожка.* **Рассуромшы** *дзеепрысл. Руссурёмшы гною, усё луччы расьцець.*

**Рассціланнік** *м.* Той, хто рассцілае. *Твой мужык рысьсьціла́ньнік лучччы зы бабу.* **Рассціланніца** *ж. Рысьсьціла́ньніцым даецца: пастой-ка цэлый дзень сагнутый, к вечыру ні рызагнесься.*

**Рассцябываць** *незак.* Расшпільваць. *Тут нечыга рысьсьця́бывыць, пыцягнуў і гатова.* **Рассцябнуць** *зак.* Расшпіліць. *Рысьсьцябні куртычку, ні так жарка будзіць, сяньня цёплый дзень.* **Рассцябнутый** *дзеепрым. Пінжачок быў рысьсьцябну́тый, рубашычка белінькыя.*

**Рассыпчастый** *прым.* Рассыпісты. *Калі лета цёплыя, мала дажджоў, тады бульба рассы́пчыстыя, ну і ац сорта тожа завісіць.*

**Рассярчацца** *зак. іран.* Раззлавацца. *Нешта ён рысьсірча́ўся ў вас, можа вы ні так, як нада, прінялі яго ці што йта.*

**Расталаскываць** *незак.* Рваць. *Ты ўжо і новый пінжак узяўся рыстыла́скывыць?* **Расталаскывацца** *незак.* Рвацца. *У цябе ўсё скора рыстыла́скывыіцца, што ні надзеніш.* **Расталаскаць** *зак.* Разарваць ушчэнт. *Цэлый дзень іс сыбакыю журтува́лі, ён ім штанёнкі рыстылыска́ў, аднаму і другому.* **Расталаскацца** *зак.* Разарвацца ўшчэнт. *У яго куртычка ужо рыстылыска́лыся, што яе ў рукі узяць нілізя.* **Расталасканый** *дзеепрым. Куды ты такей рыстылыска́ный пінжачок ныдзяеш?*

**Растапоршчыванне** *н.* Растапырванне. *Пашыта дренна, паетыму такоя рыстапоршчывыньня, пыла кріва прішыта.*

**Растапоршчываць** *незак.* Растапырваць. *Рыстапоршчывыіць рукі, усё дно як ловіць каго.* **Растапоршчывацца** *незак.* Растапырвацца. *Ці ён зьліпся, етый мех, што ні*

*рыстапоршчывыіцца.* **Растапоршчыць** *зак.* Растапырыць. *Куріца як рыстапоршчыць крыльля ды як кініцца ў вочы, во тады ты наловіш ціплят.* **Растапоршчыцца** *зак.* Растапырыцца. *Ты рыстапоршчылыся як старуха гадоў у восімдзісят.* **Растапоршчаный** *дзеепрым. Ён усігда рыстапоршчыный ходзіць, ґузікі прішыць ляніцца.*

**Растапуцце** *н.* Разводдзе. *Пы рыстапу́цьцю езьдзілі, кажныю сасну зыкляймілі, а тады нірызьбяріха зыхваціла і ўсё прыпала.*

**Растарахцець** *зак. перан. неадабр.* Разбалбатаць. *Ім нядоўга што хочыш рыстырахцець, такім ізыка́стым.* **Растарахцецца** *зак.* 1. Пачаць бесперапынна стукаць. *Хто там рыстырахцеўся? Чаго ў іх так трактыр рыстырахцеўся?* 2 *перан. неадабр.* Разбалбатацца. *Разьві доўга такой брязкоткі рыстырахцецца? Цяперя ну пуўдня рыстырахцеліся, ня меншы.*

**Растапыра, растапырка** *м.* і *ж. іран.* Няўклюдная асоба. *Куды такой рыстапы́рі зы работу брацца, у яе рукі ня ў тэй бок слу́жуць. Чаго ты рыстапы́рію ходзіш? Ці ні к Лявонывый рыстапы́рькі яны у сва́ты сыбіраюцца? Памяніш.* **растапырачка.** *А як жа ты, рыстапы́річка, дайдзіш адзін, тама дарогі саўсім німа.*

**Растапырастый** *прым. іран.* Няўклюдны. *Нейкій від у твайго сяньня рыстапы́рістый, ці ні дыла ты яму харошыю праборку?*

**Растароп** *м.* і *ж.* Разводдзе. *Посьлі дажджоў рыстароп усё дно як вясною. У самый рыстароп надумыліся свадзьбу спруўляць, хто ж так дзелыіць, чылавеку с хаты ня выйціць, а ня то свадзьба на ўме. Пычыла́ся рыстароп, цяперя нікуды ня вы́пыўзіш.*

**Растаўмясіць, растаўпясіць** *зак.* Размясіць, растаўчы. *Бульбы лі шайкі накідына, а ты яшчэ рыстыўмясіў, пряма куламесу зьдзелыў. Скот поюць с кымя́гі лі калодзіжа, дужа рыстуўпясілі грязь.* **Растаўмясіцца, растаўпясіцца** *зак.* Размясіцца, растаўчыся. *Так грязь лі ґанык рыстыўмясілыся, ні прайціць, доску нада пірякінуць ці палык якіх. Што ты хочыш, кылі цэлыю нядзелю льлець і льлець, рыстыўпясілыся ўсюдых, ніўдзе ні стаць.* **Растаўмешаный, растаўпяшоный** *дзеепрым. Што тут рыстаўмешына, чаго ты ні прібяреш хут троху? Тама було рыстыўпяшона, а посьлі дыжджа усюдых пыцякло і пуплуло.*

**Растахкацца** *зак.* 1. Распачаць ляскатанне. *Во рыста́хкыліся ма́лыя, хуць зыняція сабе найшлі.* 2 *перан.* Па-

чаць моцна біцца (пра сэрца). *Рыстáхкыіцца ў яе серца, як увідзіць Толіка з другою, іна ны яго дужа надзеілыся.*

**Растворка** *ж.* Палавінка акна, якая адчыняецца. *Адну растворку аччыні і хваціць, праветріцца, сяньня ні так жарка. Памяниш.* **растворачка.** *Веціp усхадзіўся, растворычка ударілыся і шыбка пыляцела ну кусочыкі.*

**Растопа, растопка** *ж.* Распалка. *Ны растопу нада смылянейшыю палку пыськіпáць. Самыя луччыя растопка з лучынык, іх нада з роўнінькія палычкі ськіпаць, каб біс сукоў.*

**Растопывацца, растопкывацца** *незак. перан. іран.* Распачынаць бурна выражаць гнеў, нязгоду. *Нечыга растопывыцца, разьві Ільлянок табе ніпраўду гаворіць. Пычаў растопкывыцца, а ны яго дайжа ніхто ні пыглядзеў.* **Растопацца, растопкацца** *зак.* Распачаць бурна выражаць гнеў, нязгоду. *Ткычанок як растопыўся: ета яны нарошня ны мяне ныгывáрівыюць! Чаго яны растопыліся, іх за Сож, як другіх, ні пысылаюць, дык тэя муўчаць, а ім абіда. Ніхай растопкыіцца, ніхай ні растопкыіцца, дужа ён каму важын.*

**Расторкыванне** *н. перан.* Бяздумнае выдаткаванне, трата. *Прі таком расторкывыньні у вас у саміх нічога ні астáніцца.*

**Расторкываць, расторкывацца** *незак. перан.* Марна выдаткоўваць, траціць. *Што ты спрáшыіш у ніжывога паміці, ікая ў яе цубуля, сваю ні нада було расторкывыць. Што ж ты ўсё расторкывыіш, ш чым ты сыма будзіш? Ні нада етык расторкывыцца, табе сымаму ішчэ многа чаго зныдабіцца.* **Расторканый** *дзеепрым. Позна жалець расторкыныя, нада було раншы такою рысхадовыю ня быць.*

**Расторскыванне** *н.* Расштурхоўванне. *Етый баіцца пріткнýцца к каторыму, во пыглядзеў ба ны Зьмітракова расторскывыньня: ляцелі куды каторый як мячыкі.*

**Расторскываць** *незак.* Груба расштурхоўваць. *Памойму, Гырасёнык іх тамыцька расторскывыў.* **Расторскаць** *зак.* Груба расштурхаць. *Некыму іх було расторскыць хырашэнька.* **Расторскацца** *зак.* Пачаць груба штурхацца. *З нашымі б хлыпцамі ён так ні расторскыўся, яны б жыва яму рогі скруцілі, сядзеў ба як мілінькій і ні вурухнýўся б.* **Расторсканый** *дзеепрым. Ішчэ і расторскыныя шумелі.*

**Растпрузейкацца** *зак.* Пачаць шматразова падзываць

карову воклічам «тпрузей». *Ганьніны дочкі як рустпрузейкыюцца удзьвюх, дык на тым канцы дзяреўні чутна.*

**Растрапыванне, растропыванне** *н. перан.* Непажаданае распаўсюджванне навін, чутак. *Етый дужа любіць рыстряпывыньня, пряма жыць ня жыў, калі ні ныбалмочыць чаго-небудзь. Каб пулучыў ладна зы растрёпывыньня, тады падумыў ба, ці другей раз тріпаць, ці не.*

**Растрапываннік, растропываннік** *м. неадабр.* Той, хто разносіць навіны, чуткі, балбатун. *Ета дайжа стыдна мушчыні такім рыстряпывыньнікым быць. Ты ж ізьвесный растрёпывыньнік, хужы бабы якея.* **Растрапываннiца, растропываннiца** *ж. Пpi такой рыстряпывыньніцы нілізя нічога скызаць, усё рызьнясець. Пышла растрёпывыньніца, наверна, пачула айдзе-то што-небудзь, пынясець пы двырáх.*

**Растрапываць** *незак.* 1. Зношваць (пра адзенне). *Такую куртычку ня стоіла б зразу рыстряпывыць. Ён ужо рыстряпывыіць трецьцій касьцюм.* 2 *перан.* Разносіць, распаўсюджваць навіны, чуткі. *Ета ўжо натура тыкая: што-небудзь на нохыць пачуіць, а тады рыстряпывыіць кругом. Ізыкáстыя баба, усё рыстряпывыіць.* **Растрапывацца** *незак.* 1. Зношвацца (пра адзенне). *Калі адзёжу ні бірягеш, тады іна скарей рыстряпывыіцца. Рукаўкі у пінжачку рыстряпывыюцца.* 2. Разносіцца, распаўсюджвацца (пра навіны, чуткі). *Ні само ж яно рыстряпывыіцца, некыму ж дужа аньціресна усякыю лухту рызнасíць. Тады пры Машку доўга разныя чуш рыстряпывылыся.*

**Растрапятацца** *зак. перан. жарт.* 1. Пачаць актыўна дзейнічаць. *Ох, рыстріпітáліся яны, ухадору ніякыга німа.* 2. Пачаць моцна і часта біцца (пра сэрца). *Канешня ж, рыстряпечыцца серца, як увідзіць Клаўку.*

**Растрасаннік** *м.* Той, хто растрасае. *Нешта твае рукі сяньня ня дужа ліжаць ды работы, рыстрісáньнік ты мой.* **Растрасанніца** *ж. Сяньня ў тваіх рыстрісáньніц нiважна трясецца.*

**Растрасацца** *незак. перан. гумар.* Раджаць. *Ёй вот-вот урема рыстрісáцца, сядзіць гады ны два з мáлым.* **Растрэсца** *зак.* Нарадзіць. *Ці ўдáшна твыя нявестка рыстрíслáся, во ты тыкая мылыдая, а ўжо баба. Твыя нявестка, знаць, скора рыстрясецца, будзіш унука нянчыць.*

**Растрахтавацца** *зак. іран.* Распачаць частаванне. *Ня дужа Міхяёўна рыстрахтўіцца, у яе сьнегу зімою ні дапросісься. Ні знаю, каб яны дужа руструхтувáліся.*

**Растропістый** *прым.* Растрапаны, неакуратны. *Чаго ж*

*ты еткыя растрёпістыя ходзіш, худзь ба трошку прівіла сябе ў пырядык.*

**Раструшыванне** *н.* 1. Растрасанне. *Нічога табе ні дасьць такоя раструшывыньня.* 2. Тое, што растрэсена. *Пыдгрябі грыблямі усё раструшывыньня, ніхай ні ўтаптывыіцца.*

**Растрылюджыванне** *н. неадабр.* Распаўсюджванне балбатні, чутак. *Не, мой дужа рыстрілюджывыньня ні любіў, Аньку ні адзін раз лаіў за ета.*

**Растрылюджываць** *незак.* Разносіць усюды балбатню. *Можа іна і ні нарошня рыстрілюджывыіць, а ета ўжо тыкая прівычка, ня ўмеіць язык дзіржаць зу зубамі.* **Растрылюджывацца** *незак.* 1. Разносіцца ўсюды (пра балбатню). *Усякыя лухта рыстрілюджывыіцца ў іх, хто і паверіць можыць.* 2. Разносіць усюды балбатню. *Нечыга рыстрілюджывыцца, ідзіця, кончыкі дыбірайця.* **Растрылюдзіць** *зак.* Разнесці ўсюды балбатню. *Ну каб знала, хто ета рыстрілюдзіў пры Мысяёнка, яй-богу ж ба нылаіла бакі.* **Растрылюдзіцца** *зак.* 1. Разнесціся ўсюды (пра балбатню). *Само ні рыстрілюдзілыся, ты ці ні сыма рызбрязкыла.* 2. Разнесці ўсюды балбатню. *Яны як рыстрілюдзюцца, дык усю ноч могуць праседзіць.* **Растрылюджаный** *дзеепрым. Пру Кулініну дачку ішчэ на той нядзелі було рыстрілюджына.*

**Растрынкацца** *зак. неадабр.* Распачаць іграць няўмела. *Як растрынкыюцца ны сваіх скріпках, дык, буваіць, да поўнычы гылаву дурюць.*

**Растрысціць** *зак.* Раструшчыць. *Калёсымі пы цыпках праехыў, рыстрысьціў іх ну кусочыкі.* **Растрысціцца** *зак.* Раструшчыцца. *Тута што ліжала, усё рыстрысьцілыся.* **Растрышчаный, растрышчоный** *дзеепрым. Куды ты ўжо будзіш ставіць растрышчыныя прясла. Рыстрышчона тваё мытавіла, у печ кідай, ны яго мех зываліўся.* **Растрысцёмшы** *дзеепрысл. Што ты, рыстрысьцёмшы бёрды, за шпулькі бяресься?*

**Растуркыванне** *н.* Разбуджванне, падыманне ад сну. *Ныдаела мне ета растуркывыньня, кажный дзень пыднімай, цэлыю вайну спруўляіш.*

**Растуркываць** *незак.* Будзіць, падымаць ад сну. *Узілася малых растуркывыць, цэлый час вазілыся: рызыспаліся і ні пыднімаюцца.*

**Растурлычыцца, растурлыкацца** *зак. перан.* Пачаць невыразна часта спяваць, гаварыць. *Ураньні вясною жаўрынкі як рустурлычуцца, станіш і слухыіш. Як рустурлы-*

*кыўся ма́лый, усё нешта сам сабе рысказывыў, я дык нічога ні пыніла.*

**Растучываць, растучывацца** *незак.* Праясняцца (пра надвор'е). *Ня дужа растýчывыіць, ат лесу туча находзіць пырядышныя. Трошку растýчывыіцца, можа ґ заўтріму пагода будзіць.* **Растучыць, растучыцца** *зак.* Праясніцца (пра надвор'е). *Худзь ба ж ны пару дзяцькоў растучыла. С пуўдня растýчылыся, харошыя пагода стала.*

**Растырхыванне** *н.* Расштурхоўванне. *Ні пыныра́вілыся Зьмітрычынятым тваё расты́рхывыньня, яны хацелі ладна уклеіць Сімянку.*

**Растырхываць** *незак.* Расштурхваць. *Ого, так узяўся расты́рхывыць, што куды там каму зь ім брацца.* **Растырхаць** *зак.* Расштурхаць. *Ён адзін усіх расты́рхыў і навёў пырядык, нікога ні ждаў. Рыстырха́ць іх проста: аднаго зы плячо, другога зы плячо і ў бакі.* **Растырхацца** *зак.* Пачаць штурхацца. *Унімісь-ка, ато ты ціряшчур расты́рхыўся. Дужа яны рыстырха́ліся, нада уняць.* **Растырханый** *дзеепрым. Расты́рхыныя яны скора аселіся. Як пітухі адзін пірід другім пытыпталіся ды рызыйшліся рыстырха́ныя.*

**Растыхацца, растыхкацца** *зак.* Пачаць часта і моцна біцца (пра сэрца). *Трошку пройдзіць, серца расты́хыіцца, ён садзіцца аддыхаць. А што, серца расты́хкылыся, як старых сватоў увідзіў?*

**Расхаджываць** *незак.* Размінаць у хадзе. *Посьлі сну я сваё ногі доўга рысха́джывыю.* **Расхадзіць** *зак.* Размяць у хадзе. *Ураньні як устану, дык ногі саўсім ня служуць, тады трошку-патрошку рысхаджý пы хаці, лі двыра патýпыю.*

**Расхадзіцца** *незак. перан.* 1. Пачынаць моцна балець. *Знаю, чаго ў цябе рукі расходзюцца: сеч ня хочуць.* 2. Расплывацца, расцякацца. *Гаворюць, буваюць такея слýчыі, што жоўць расходзіцца.* **Разыйціцца** *зак.* 1. Пачаць моцна балець. *Касіць — цяжолыя работа, пыкасіў— рука зь ніпрівы́чкі і рызыйшла́ся.* 2. Расплысціся, расцячыся. *У аднаго гырадзкога мушчыны жоўць рызыйшла́ся, апірацыю дзелылі.*

**Расхадовываць, расхадатываць** *незак.* Выдаткаваць неашчадна. *Кылі будзіш так рысхадовывыць, у цябе у сымаго нічога ні аста́ніцца. Нілізя так рысхыда́тывыць, нада трошку акынамней жыць.* **Расхадовывацца, расхадатывацца** *незак.* Выдаткоўвацца неашчадна. *Неік яно*

*само нізаметна рысхадовывыіцца. Як пычало рысхыда́тывыцца, так і пашло паміж рук.*

**Расхакывацца** *незак.* Пачынаць цяжка дыхаць. *Трошку кыпанўў і стаў рысха́кывыцца.* **Расхакацца** *зак.* Пачаць цяжка дыхаць. *Ні так ужо многа і надзелыў, а рысха́кыўся, дык усё дно як ён горы варочыў.*

**Расхамутаць** *зак. перан. жарт.* Вызваліць ад непрыемнасцей, клопатаў. *Дужа рад, што яны русхумута́лі яго ат етыя ніпрія́тнысьці.* **Расхамутацца** *зак.* Вызваліцца ад непрыемнасцей, клопатаў. *Можа ты ўжо і сам русхумута́ісься як-небудзь ат етых сваіх прія́цільніц?* **Расхамутаный** *дзеепрым. Ні нада яго другей раз пужаць, ён ужо русхумута́ный ходзіць.*

**Расхарахоніваць** *незак.* Выклікаць ахвоту пашумець, пазадавацца. *Ці цябе толька січас рысхырахонівыіць, ці ўсігда табе спакою ні буваіць?* **Расхарахонівацца** *незак.* Распачынаць шум, задаванне. *Я ўжо віджу, што ён рысхырахонівыіцца.* **Расхарахоніць** *зак.* Выклікаць ахвоту пашумець, пазадавацца. *Нешта цябе сяньня ціряшчур рысхырахоніла.* **Расхарахоніцца** *зак.* Распачаць шум, задаванне. *Рысхырахоніўся, што ні пытхадзі к яму.* **Расхарахоненый** *дзеепрым. Мне ён і рысхырахоніный ня дужа важын.*

**Расхарошый** *прым. звыч. іран.* Вельмі добры. *Ты яго шчытаіш рысхарошым, ну й шчытай, можа табе дужа нада.*

**Расхахкацца** *зак.* Пачаць цяжка дыхаць. *Што ты, час пыработыў і ўжо рысха́хкыўся, а каб ты дзень у дзень пыстыяў так, што б ты тады скызаў?*

**Расхватыванне** *н. перан.* Спешка. *Знаім мы яго рысхва́тывыньня: сядзіць руссусолівыць, а дзела будзіць стыяць.*

**Расхватывацца** *незак. перан.* Рабіць з ахвотай *Не, Баріс ні такей чылавек, што станіць рысхва́тывыцца, усігда ва́гым. Васіль ні станіць дужа рысхва́тывыцца, ён усё ўремя вагым: пыстаіць, пакурііць, пыгамоніць сь кім-небудзь.*

**Расхіснуцца** *зак.* Расхінуцца. *Пулушубык рысьхісну́ўся, нічога пулушубык, а пад ім пінжачок зыма́сьліный-зымасьліный.*

**Расхітыванне** *н.* Расхістванне. *Бяріся зу лупатку, ніякыя расьхітывыньня тут ні паможыць: камель товіст.*

**Расхітываць** *незак.* Расхістваць. *Пасоджыныя дзеріўца нілізя расьхітывыць, яно тады нізашто ня пріміцца.*

*Сколька ні расьхітывый, а зямлю аткідаць прідзіцца.* **Расхітывацца** *незак.* Расхіствацца. *Кольля крепка сядзіць, ні расьхітывыіцца, нада лупаткыю кыпануць, інačы ні пывырываіш.* **Расхітаць** *зак.* Расхістаць. *Што, кылі ты рысьхітаў, сучок айдзе-то ёсьць унізу і ні выцягыіцца.* **Расхітацца** *зак.* Расхістацца. *Во рысьхітаўся клён, глядзі, пыляціць на крышу, пыдавіць усё і патрець.* **Расхітаный** *дзеепрым. Мы рысьхітаный пацсошык выцігнулі: у пятлю прадзелі палку, плячом упёрліся, ён і палез.*

**Расхлехатаць** *зак. перан.* Увесці ў злосць, выклікаць гнеў. *Нешта Іванёнка рысхліхытала, места сабе ні находзіць.* **Расхлехатацца** *зак.* 1. Пачаць моцна кіпець. *Абоя чугункі рысхліхыталіся, чаго ты іх ні цягніш.* 2 *перан.* Пачаць моцна злавацъ. *Буваіць, за мелыч рысхляхочыцца, што ні ўгыварiць.* **Расхлехатаный** *дзеепрым. Тудынызад носіцца рысхліхытаный, гатоў, кажыцца, укусіць каго.*

**Расхліпацца, расхліпкацца** *зак.* Распачаць плакаць усхліпваючы. *Із-зы такея ірунды ты расхліпыўся, стыдна, саўсім стыдна. Луччы ня трогыйся з малыю, расхліпкыіцца, што ні ўгыварiць будзіць.*

**Расхліпцецца** *зак.* Пачаць выяўляць неадольнае жаданне. *Вы нешта рысхліпцеліся як дзяўчонкі якея, мальчыкым стыдна етык хліпцець.*

**Расхлістываць** *незак.* Расхрыстваць. *Айт, усігда кыўнярі расхлістывыіць і ходзіць як якей фулюган.* **Расхлістывацца** *незак.* Расхрыствацца. *Ні нада расхлістывыцца, ета нікрасіва, зышпіліся як усе.*

**Расхлынкацца** *зак. неадабр.* Пачаць бязмэтна блукаць. *Мутруноўніны госьці расхлынкыліся пы дзярейні, туды-нызад, нічогінічка ня дзелыюць, а маглі б троху ёй паможч.*

**Расхлыскацца** *зак.* 1. Пачаць часта біць, лупцаваць. *Чаго ты расхлыскылыся, словым нада увішчаць, а ня біць.* 2 *перан.* Пачаць занадта часта выпіваць. *Расхлыскыліся адзін пíріда дным, куляюць чарка пы чаркі і куляюць.*

**Расхлябтацца** *зак.* Пачаць прагна хлябтаць. *Рысхлібталіся каты усё дно як судык троя ня елі, ці можа ты іх ня корміш.*

**Расхрапецца, расхропцца** *зак.* Пачаць моцна храпці. *Як рысхрапецца, дык я яго пад бок штурьхаю. Во гаворіць, ня сьпіцца яму, расхропся, што комін калышыцца. Яму нядоўга расхропцца.*

**Расхрыста** *м.* і *ж.* Расхрыстаная асоба. *Во расхрі́ста, ґузікыў некылі яму ўшыць. Як табе ня стыдна такою расхрістыю хадзіць!*

**Расхуркацца** *зак.* Разбурчацца злосна. *Буваіць, зы такую мелыч расху́ркыіцца, што нырмальный чылавек пра ета дайжа ні гывары́ў ба.*

**Расхурхулецца** *зак.* 1. Пачаць моцна кіпець. *Чугун русхурхулеўся, чаго ты ні цягніш.* 2 *перан. іран.* Пачаць моцна злаваць, бурчаць ад злосці. *Дынілёнык русхурхулеўся як пабітый гаршчок, яго ніхто нісколька ні пынімаіць.*

**Расхыкацца** *зак. неадабр.* Пачаць стоена бурчаць. *Чаго ён расхы́кыўся, што яму хто ні ўладзіў? Як расхы́кыіцца другей раз, ні ўгывары́ць.*

**Расхырлецца** *зак.* Пачаць марнець, занепадаць. *Нінкін мужык пасьледнія ўремя нешта расхы́рліўся. Абоя рысхырлеліся, дычка прібігаіць, ні спруўляіцца за імі уха́джывыць.*

**Расцілікацца, расцілілікацца** *зак.* Расціўкацца. *Цёпла дужа стала, птушычкі рысьцілі́кыліся. Нейкыя птушка рысьцілілі́кылыся ны бярёзкі, кажныя раньня пяець.*

**Расціўкацца** *зак.* 1. Пачаць працягла ціўкаць. *Во расьціўкыліся віряб'і, усё дно як пра нешта гаворюць.* 2 *перан. гумар.* Пачаць працягла гаварыць. *Як расьціўкыіцца ма́лыя, усё мне пірігаворіць.*

**Расцургацца** *зак. неадабр.* Пачаць бяздумна раздаваць. *Чаго ён так расцу́ргыўся, усё рыздаець, як жыць саўсім ні зьбіраіцца.*

**Расцыгацца** *зак.* Пачаць моцна пішчаць (пра куранят). *Ціпл́яты ўжо знаюць, што іх ко́рміш, трошку пабегыюць, а тады сыбяруцца лі парога, расцы́гыюцца: дывай есьць.*

**Расцыўкацца** *зак.* Пачаць часта моргаць. *Я ні знаю, ты ў яго пыпыта́й, чаго ён расцы́ўкыўся.*

**Расцяпацца, расцяпкацца** *зак.* 1. Распачаць зацята сячы. *Што ён тама мысьцярі́ць, рысьця́пыўся, што заўтрікыць ні дызавесься. Рысьця́пкыліся лі калёс, думыюць пычыніць ґ заўтріму, у горыд паехыць.* 2 *перан.* Пачаць ляскаць зубамі. *Рысьця́пыўся нешта сыбака, прівяжы, каб ня кінуўся ны каго. Сьвіньня як рысьця́пкыіцца, тады лучшы ні пытхадзі, ато хваціць можыць.*

**Расцяпістый** *прым. неадабр.* Някемлівы, няўважлівы. *Нейкій ён у любом дзелі рысьця́пістый, куды ні па-*

*шлі, што ні скажы зьдзелыць, у яго як нада ні пулучаіцца.*

**Расцяробка** *ж.* Расцяроб. *У іх пырядышный кусок рысьцярёбкыў ёсьць, а што яны зь імі будуць дзелыць, я ні знаю.*

**Расчапываць** *незак.* Расхістваць у гняздзе, у дзяржанні. *Ні рышча́пывый ножык, ён і так чуць дзяржы́цца.* **Расчапывацца** *незак.* Расхіствацца ў гняздзе, у дзяржанні. *Долыта стала рышча́пывыцца, прідзіцца новыю ручку дзелыць.* **Расчапаць** *зак.* Расхістаць у гняздзе, у дзяржанні. *Сам ты і рышча́пыў лязо, цяперя выкініш ножычык, а ён войстра резыў.* **Расчапацца** *зак.* Расхістацца ў гняздзе, у дзяржанні. *Сьпіцы ў кытках рышча́пыліся, калі пывысыпа́юцца ны дарогі. Каткі рассохліся і рышча́пыліся, могуць сьпіцы пывыва́лівыцца, хуць нымачы́. Ножы́к рышча́пыўся і выва́лііцца ш чыря́на.* **Расчапаный** *дзеепрым. Рышча́пыныя дрябіны езьдзюць ува ўсе бакі.*

**Расчатый** *дзеепрым.* Пачаты, не даведзены да канца. *Рышча́тыя кросны стыяць усю зіму, ніяк ні даткецъ. Дакуль у цябе ета рышча́тыя гліна будзіць ліжаць ны масту?*

**Расчмыхацца** *зак.* Пачаць чмыхаць, капрызнічаць, выражаць незадаволенасць. *Рашчмы́хылыся карова, ні бярець піць, відна, ты са́льныя што памыла. Ты іщчэ паспробый яму угадзі, другей раз як рашчмы́хыіцца, дык куды там!*

**Расчубаціцца** *зак. жарт.* Расшумецца. *Ого, як рушчуба́цілыся зы свайго Андрея, ні ўспакоіць було.*

**Расчыкрыжыванне** *н. жарт.* Разразанне. *Не, раз ня ўмеіш, то ні бяріся, пыглядзі на Пецькіна рышчыкры́жывыньня, во ета работа!*

**Расчыкрыжываць** *незак. жарт.* Разразаць. *Бярісь-ка ты гарбуз рышчыкры́жывыць, у ім далжно сьпелыя семя быць.* **Расчыкрыжывацца** *незак.* Разразацца. *Неік жа у цябе дужа кріва рышчыкры́жывыіцца, дайжа анучы с такога куска ня вы́біріш.* **Расчыкрыжыць** *зак.* Разрэзаць, парэзаць. *Ба́лывыўся з ножычкым, пакуль руку рышчыкры́жыў, насіся цяперіцька с цацкыю.* **Расчыкрыжыцца** *зак.* Разрэзацца. *Бруквіна рышчыкры́жылыся іквраз пупыла́м.* **Расчыкрыжаный** *дзеепрым. Рышчыкры́жыныю булку хлеба пылажыў, кусюга́н сала унёс і сам пабег.*

**Расчынанне** *н.* Пачынанне, пачатак. *Доўга прідзіцца ждаць яе рышчына́ньня, с кумою іщчэ ня ўсё пірігывaріла.*

**Расчыняцца** *незак. перан.* Крычаць. *Нечыга рышчыняцца, работыць нада, ато прівык горлым свае правы дыказывыць,— рукамі бяріся.*

**Расчыслянне, расчысліванне** *н.* Меркаванне. *Па-моймy, нічога с твайго рышчысьляньня ні палучыцца, некылі будзіць Айсяёнку паможч табе. Ты, канешня, задумывыў многа чаго зьдзелыць, ды нічога ні пулучылыся с твайго рашчысьлівыньня. Нічога ні пулучылыся зь яго рашчысьлівыньня, піріхітрілі яго Цімышыняты.*

**Расчыслівадь** *незак.* Меркаваць, разлічваць. *Яны рашчысьлівылі саўсім ну другоя: што Хвіччанок паедзіць, а ім уся пастройка астаніцца. Не, тута нада іначы рашчысьлівыць.*

**Расчышчаць** *незак.* Ачышчаць ад хмар (пра неба). *Сколька дней хмаріла і хмаріла, а сяньня наныч рышчышчаіць, відна, пыдмарозіць к раньню.*

**Расшабуцецца, расшабуціцца** *зак.* Пачаць моцна шумець, вычвараць. *Кіряёнкі рушшубуцеліся, пы гылысах чутна. Ніхай папробыіць рушшубуціцца, яго жыва унімуць. Хвіршалёнку нядоўга рушшубуціцца, у чарку панюхыіць і гатоў.*

**Расшаваліваць, расшаволіваць** *незак. перан.* Раскатурхваць, прымушаць дзейнічаць. *Самі яны ня дужа возьмуцца зы работу, ня дужа пытхватныя, іх нада рышшывалівыць. Ты як станіш яго рышаволівыць, дык ён адзін усю работу пірядзелыіць.* **Расшаваліваща, расшаволіваща** *незак.* Рабіцца дзейсным, актыўным. *Ці яны патрошку рышшывалівыюцца ай усё ны стырікоў надзеюцца? Ікывіняты патрошку рышаволівыюцца, можа і ў іх дзела пойдзіць.*

**Расшалапутнічацца** *зак. іран.* Разбушавацца бяссільна (пра палахлівага). *А што с таго, што Сахроныў сын рышшылапутнічыўся, каму ён дужа важын?*

**Расшалуджыванне** *н.* Імкненне пакуражыцца, паказаць сябе. *Як возьмуць хлопцы за шкырку, айдзе яго рышшалуджывыньня дзеніцца, зразу пыспыкайнеіць.*

**Расшалуджывацца** *незак.* Пачынаць выхваляцца, куражыцца. *Да не, нічога ні було, Лаўрінаў маліц пычаў рышшалуджывыцца, дык яго зразу асадзілі.*

**Расшалудзівіць** *зак. неадабр.* Выклікаць ахвоту павыхваляцца, пакуражыцца. *Нешта ціряшчур сяньня Ігнацёнка рушшулудзівіла.* **Расшалудзівіцца** *зак.* Пачаць выхваляцца, куражыцца. *Ета нада було толька пыглядзець, як Цімошыхіны мальцы рушшулудзіваліся.*

**Расшалудзіўленый** *дзеепрым. Стыяць рушшулудзіўліныя кылы Сьпірідонывых, рукі ў бокі.*

**Расшаматаць** *зак. перан.* Патачыць (пра шашаля). *Чэрьві зывяліся і рышшымытáлі хату, ажно веціp у сьценых сьвішчыць.* **Расшаматацца** *зак.* Расхістацца (у гняздзе, ва ўмацаванні). *Кыляска рышшымытáлыся, чуць дзяржыцца.* **Расшаматаный** *дзеепрым. У асіні у первый чэрьві заводзюцца: ліжалі пыць сьцяною асінывыя палкі, хваціўся я ны днях — рышшымытáныя кругом.*

**Расшарахываць** *незак. перан.* Рваць, расціраць. *Ні нада рышшырáхывыць рукаўкі.* **Расшарахывацца** *незак.* Рвацца, расціраццa. *Ны мáлых скора ўсё рышшырáхывыіцца.* **Расшарахаць** *зак.* Парваць, расцерці. *Рышшырахыў руку ды крыві.* **Расшарахацца** *зак.* Парвацца, расцерціся. *Патроху-патроху і рышшырáхыліся полы.* **Расшараханый** *дзеепрым. Рышшырáхыныя каб якім пырашком прісыпыў.*

**Расшарпыванне** *н.* Раздзіранне, расшастванне. *Дам я табе зы рышшáрпывыньня, кажный дзень зышываць ні спруўляюся, як пашоў на вуліцу, так і іўляіцца зь дзірькымі кругом.*

**Расшарпываць** *незак.* Ірваць, расшастваць. *Мáлыя ня толька твае, яны ўсе быйстра рышшáрпывыюць адзёжу.* **Расшарпывацца** *незак.* Ірвацца, расшаствацца. *Пу кустах усё рышшáрпывыіцца, то там зачэпіцца, то там.* **Расшарпаць** *зак.* Парваць, расшастаць. *Зы зімý рышшырпáў пулушубык, у лес езьдзіўшы, толька што на ім дзяржыцца.* **Расшарпацца** *зак.* Парвацца, расшастацца. *Твае штаны рышшырпáліся, ськінь ды надзень новыя.* **Расшарпаный** *дзеепрым. Ні пайду ж я у рышшáрпыный кохці на людзі. Усё рышшырпáныя уськінуў на сенцы.*

**Расшарудзіць** *зак.* Надаць імпэту. *Ета ж іх Клімчанкоў меншый сын рушшурудзіў так.* **Расшарудзіцца** *зак.* Пачаць з большым імпэтам збірацца, рыхтавацца. *Ільлёвы ні на сьмех рушшурудзіліся, думыюць ладна гасьцей устрецiць.*

**Расшвагрыцца** *зак. жарт.* Перастаць быць шваграмі. *Нешта вы дужа скора рышшвагріліся, у сваіх пыхадзіць ні пасьпелі.*

**Расшвагрэніцца** *зак. жарт.* Перастаць быць швагеркамі. *Сяньня яны пышвагренюцца і цірязь месіц рышшвагренюцца, ім нядоўга.*

**Расшвіргыванне** *н.* Раскідванне са злосцю, шпурлян-

не. *Ні пупала я вас на етым месьці, я б вам дыла зы рашшвірьгывыньня.*

**Расшвіргываць** *незак.* Раскідваць са злосцю, шпурляць. *Кажныя раньня шукаіць сваее вязёнкі і ўсё рашшвірьгывыіць,— не, каб усігда класьць на места.* **Расшвіргывацца** *незак.* Раскідвацца са злосцю, шпурляць. *Нечыга рашшвірьгывыцца, ішчэ сухой скарінкі рад будзіш. Што йта, як за што бяресься, дык у цябе ўсё рашшвірьгывыіцца.* **Расшвіргаць** *зак.* Раскідаць са злосцю, расшпурляць. *Узяўся шукаць сваее вязёнкі, усё рышшвірьгаў, цяпер саўсім нічога ні найдзіш.* **Расшвіргацца** *зак.* Пачаць раскідаць са злосцю, шпурляць. *Чаго ты рышшвірьгаўся, як нада пірікласьць ня можыш, ці што?* **Расшвірганый** *дзеепрым. Нешта тут усё чыста рышшвірьгана.*

**Расшкарудзіць, расшкаруднічаць, расшкарыднічаць** *зак.* Выклікаць ахвоту вычвараць. *Дужа яе рышшкарюдзіла, ціхысьці ёй нійдзе німа. Ну што, цябе і сяньня рышшкарюднічыла,— унім цябе нійдзе ні найдзіць. Івана ня меншы рышшкаріднічыла тады, ета яны толька муўчаць.* **Расшкарудзіцца, расшкаруднічацца, расшкарыднічацца** *зак.* Пачаць вычвараць. *Мыланкіны хлюсты як рышшкарюдзіліся, чуць-чуць угывапіў іх троху Цімашонык. Ні пасьпеў ён рышшкарюднічыцца, яго ўзялі крепінька і асадзілі. Дужа ён пасьледнія ўремя рышшкаріднічыўся, ніякыга зьдзержу німа.*

**Расшкумарджываць** *незак.* Ірваць, драць. *Мульчуганы рушшкумарджывыюць штанёнкі, зы віріб'ямі лазіўшы ды пы дзірівах.* **Расшкумарджывацца** *незак.* Ірвацца, драцца. *Чаго ны табе уся адзёжа так рушшкумарджывыіцца?* **Расшкумардзіць** *зак.* Парваць, падраць. *Ны бярёзку узыдраўся, а тады нызад ехыў, рубашычку рушшкумардзіў усю чыста.* **Расшкумардзіцца** *зак.* Парвацца, падрацца. *Твыя кухваічка саўсім рушшкумардзілыся, ні ныдзівай ты яе нікуды.* **Расшкумарджаный** *дзеепрым. А вазьмі ды надзень сваее рушшкумарджыныя штонікі, ірваць жа ты дужа хырашо ўмей.*

**Расшкуматыванне** *н.* Раздзіранне на кавалкі. *Што табе дасьць такоя рушшкуматывыньня? — нічога.*

**Расшлындацца** *зак.* Пачаць пастаянна бадзяцца, швэндацца. *Нешта Дзім'янкі рашшлындыліся, як дзень, так і пашлі, і пашлі, як яны тута жыць ні зьбіраюцца.*

**Расшмыгыванне** *н. неадабр.* Марнатраўства. *Прі та-*

*ком рашшмыгывыньні ў цябе скора нічога ні астаніцца, нада даць, ну нада ўмець і падблюсьць сабе.*

**Расшмыгываць** *незак. неадабр.* Раздаваць невялікімі часткамі непрыкметна. *Нечыга рашшмыгывыць дабро, ня ты яго ныжываў і ні нада рыспырiджаццa.* **Расшмыгывацца** *незак.* 1. Раздавацъ невялікімі часткамі непрыкметна. *Дужа пычыла рашшмыгывыцца с салым, глядзі, к вясьне ні куска ні астанеццa.* 2. Выдаткоўвацца, марнатравіцца. *Туды-сюды і рашшмыгывыіцца ўсё.* **Расшмыгацца** *зак.* 1. Пачаць раздаваць невялікімі часткамі непрыкметна. *Рашшмыгылыся Ільлёўна, дужа шурока паехыла, так многа ні ныхызяйствыіць.* 2. Выдаткавацца, змарнатравіцца. *Трошку кусочыкі былі, дык неік нізаметна рашшмыгыліся.* **Расшмыганый** *дзеепрым. Што ж ты, рашшмыгыныя думыіш нызад вярнуць?*

**Расшмыкываць** *незак.* Раздаваць па дробязях. *Стала хызяйнічыць тут, усё рашшмыкывыіць, рыспырядзіцілька тыкая-то.* **Расшмыкывацца** *незак.* 1. Раздаваць па дробязях. *Як станіш рашшмыкывыцца, нічога ў цябе ня будзіць.* 2. Марнатравіцца. *Каб ты думыла ныпярёд, як жыць, так ба у цябе ні рашшмыкывылыся нічога.* **Расшмыкацца** *зак.* 1. Раздаць па дробязях. *Тады зразу рашшмыкыўся, а січас у сымаго і тога німа, і тога.* 2. Змарнатравіцца. *Неік нізаметна рашшмыкыліся каноплі, сістра пыпрасіла, тады Клімчанок узяў, то таму, то другому — і німа.* **Расшмыканый** *дзеепрым. Нічога ты ні пазычыш, у яе даўно тэя грошы рашшмыкыны.*

**Расштурханый** *дзеепрым.* Раскатурханы. *Яны ўжо рашштўрьхыныя стыялі, як пыдыйшлі нашы хлопцы. Руштурьханых іх унімаць було нятрудна. Ён і руштурьханый ня дужа хочыць пыдымацца.*

**Расшураць** *зак.* Разагнаць энергічна. *Мы ўжо думылі, воўк, а ета сыбака рушшуряў авец.* **Расшурацца** *зак.* Пачаць бегаць, ганяцца энергічна. *Чаго ты зы малымі рушшуряўся, нашто яны табе?* **Расшураный** *дзеепрым. Трудна рушшуряный скот сыбіраць.*

**Расшчапуліваць** *незак.* Расшчапляць. *Што ж ты сы свытамі губ ні рышшчапулівыіш?* **Расшчапулівацца** *незак.* Расшчапляцца. *Дужа сільна ударіў руку, пальцы сагнуліся і ня хочуць рышшчапулівыцца.* **Расшчапуліць** *зак.* Расшчапіць. *Ты ж выйдзі, зь людзямі пысядзі, губы рышшчапуль.* **Расшчапуліцца** *зак.* Расшчапіцца. *Во дружба: абняліся — рышшчапуліцца ня могуць.* **Расшчапулены** *дзеепрым. У яго ранітыя рука, пальцы усё*

*ўремя дзяржыць рышчапўліныя, ня можыць сагнуць.*

**Расшываць** *незак. перан.* Прымацоўваць распоркі. *Козлы рышшывáюць, каб яны ні рызыїжджáліся і ні схадзіліся.* **Расшыць** *зак.* Прымацаваць распоркі. *Зьдзелыў сталю́гі і зразу рашшы́й, яны тады крепка стыяць будуць.* **Расшытый** *дзеепрым. Рашшы́тыя козлы нікуды ні павернуцца.*

**Расяніць** *незак.* Расіць. *Пыткысáй рукаўкі, ні нада рыся́ніць.* **Расяніцца** *незак.* Расіцца. *Ня йдзі пу лугу рыся́ніцца, абыйдзі дарогыю, ато будзіш мокрый пы калені.*

**Ратазявіць, ратазеіць, ратазяўнічаць** *незак.* Праяўляць разяваўтва. *Сколька ты ішчэ будзіш рытызя́віць тут, такей-то іньцірес увідзіла. Умесьці са ўсемі і мы стыялі, рытазеілі, там нічога ні пыняць було. Хваціць рытызя́ўнічыць, пыцьцягывый сядзёлку, ужо, відзіш, нікога ні астаецца, усе едуць.*

**Ратазяў** *м.* Разявака. *Бальшэй маліц і такей рытызя́ў, нада ж було глядзець, куды скот пашоў.*

**Раўнейшанькій, раўнейшанечкій** *прым.* Больш роўны, раўнейшы. *На прівізкі нада раўнейшыньkіх паплеціныk вы́брыць, с крівых нічога ні палучыцца. Раўнейшыні́чкія лазінкі аткладзі дно заплесьць.*

**Раўчына** *ж.* Раўчук. *Ні нада бегыць, зы раўчы́ныю твыя карова, ны атáві. Памянш.* **раўчынка**. *Нібыльшая раўчы́нка, а зь бірьвяном ні піряедзіш, прідзіцца далёка аб'іжджаць.*

**Рашэтнік** *м.* Паплёт. *Ён пыря́дышна ряшэтніку нывазіў, хвáціць на ўсю пастройку. Памянш.* **рашэтнічак**. *Ніважный ряшэтнічык, тункувáт, можна було луччыга выбрыць.*

**Рашэчанне** *н.* Прымацоўванне паплёту. *Ты ня то што накрыіш, а з ряшэчыньнім ды зімы дыцягніш.*

**Рашэчаннік** *м.* Той, хто прымацоўвае паплёт. *Сідзяць на крышы ряшэчыньнікі, патроху капошуцца.* **Рашэчанніца** *ж. Во й ты сюда лезіш, ряшэчыньніца ныйшлася.*

**Рватый** *дзеепрым.* Рваны. *Рубашка рвáтыя грязныя, штаны аптрёпыныя — і ходзіць, ня стыдна яму. Тама рвáтыя травы многа, укінь пырысятым.*

**Род** *м. перан.* Ураджай. *Сёліта ну гуркі ня род. Кылі род, дык і бяз гною уродзіць, а буваіць, і гноім укладзеш, і нічога ні ымалоціш.*

**Роенне** *н.* Мроіва. *Тваё роіньня ўсім ныдаела, усё табе рáзныя ірунда роіцца.*

**Розгляды** *мн.* Звычай знаёміцца з нявестай і яе маё-

масным становішчам. *Якея цяперіцька розгліды, ета у ста́рыя ўремя езьдзілі сьпіцыяльна. А можа і ты сходзіш у розгліды, як сьвякройка твыя хадзіла.*

**Розыйск** *м.* Пошук, розыск. *Ні знаю, ці дасьць етый розыйск што-небудзь, ці не. Пыдыва́лі на розыйск, і, знаць, нічога ні прішло. А ні клумі ты чылавека із розыйскымі сваімі.*

**Росачка** *ж.* Расінка. *Ты ж хуць росычку вазьмі ў році прымачыць, ато й губы твае зысьмя́гнуць. Там на дне адна росычка астыва́лыся.*

**Рослый, рошчаный** *прым.* Прарослы. *Відна, з рослыга жыта мука: рызьбіва́іць, як учы́ніш, цеста ну лупату ні ўскладзеш. З рослыя мукі хлеба ні сьпякеш. У яго ночвы рошчыныга ячменю стыяць, відна, к свадзьбі гатовіцца.*

**Рось** *ж.* Імжа. *Кылі рось, дужа дренна, усё прыпіта́іцца сы́рысьцю, дзелыіцца, што ні ўзяцца.*

Рошчый: **рошчый-сушчый** *жарт.* Існы, святы. *Скот як уваліцца у ячмень, во тады будуць вам рошчыя-су́шчыя. Як зывядзець свае рошчыя-су́шчыя песьні, ні пірислухыць.*

**Рубчына** *ж.* Рубец, лахман. *Тута во нейкыя рубчы́на, іна будзіць церць. Прібеглі, дык на іх рубчы́ны сухея ні було. Во ны скамейкі вазьмі рубчыну ды накінь ны сябе. Памянш.* **рубчынка**. *Нібыльшая рубчы́нка, а будзіць мішаць, луччы вы́різыць. Погріб кыпаць і ета рубчы́нка ладна будзіць.*

**Рудзянець, рудзянецца** *незак. перан.* Рабіцца брудным, заношвацца. *У пыльный рабоці усякыя адзежына зразу рудзянеіць. Твыя верхніца рудзянецца стала, ні ныдзівай большы, я памыю.*

**Руканне** *н.* Вітанне з поціскам рукі. *А я дык ні люблю етыга рука́ньня: учора відзіліся, а сяньня узноў з рукою бігаць адзін кы днаму; ну ета ўжо кылі год ня відзіўся, тады пурука́цца нада.*

**Румзала** *м.* і *ж. неадабр.* Румза. *Во завёўся рю́мзыла, зы канхвеціну плачыць. Быльшая дзяўчонка, а тыкая рю́мзыла, ажно стыдна.*

**Румзанне** *н.* Плач. *Як ремня палучыш, тады ныпра́ўдышныя рю́мзыньня будзіць. Ні аднаго дня ні апходзіцца бяз рю́мзыньня.*

**Румяністый** *прым.* Румяны. *Румя́ністых булычык нукупляў, зы маліну пойдуць з мылаком. Памянш.* **румя-**

**нісценькій**. *Ого якіх ты румяніськіх кріньдзялькоў ныпікла!*

**Рупатліва** *прысл.* Старанна. *Нувумёнык рýпытліва ні работыў і работыць ня будзіць.*

**Рупатнік** *м.* Руплівы чалавек. *Каб ён быў рýпытнік, дык ба ні стыяла пуня бяс крышы трецьцій год. Памянш.* **рупатнічак**. *Ета із'вbelieve*

**Рупенне, рупленне** *н.* Руплівасць. *Калі ня будзіць рýпіньня, ня будзіць і жызьні, ета я хырашо увызнáла. Якоя ў яго рупліньня, ні за што узяцца ня хочыць, кылі што нада зьдзелыць, усюдых сыма.*

**Руханне** *н.* 1. Рохканне. *Я ў копкых чула січас нейкыя рю́хыньня.* 2 *перан. груб.* Гаворка, адказ. *Мне ня меншы ныдаела яго рю́хыньня.*

**Рухаць** *незак.* 1. Рохкаць. *Сьвіньні даўно рю́хыюць, нада хут травы укінуць.* 2 *перан. груб.* Гаварыць. *Што йта ён у цябе етык рю́хыіць, я б яго жыва атаўчыла ат такея прівычкі.*

**Рухканне** *н.* Рохканне. *Не-а, нійдзе я ніякыга рю́хкыньня ня чуў, я тута паўзьнізьзім ішоў.*

**Рухкаць** *незак.* Рохкаць. *Можа ты чуў айдзе-небудзь пацьсьвінкі рю́хкыюць, зьбеглі мае і ні найду.*

**Рухнуць** *зак. перан.* Рынуць гуртам, грамадой. *Усёю дзяреўнію рýхнулі ў лес, ягыд тыкі сёліта дужа многа, асыпáюцца людзі.*

**Ручкі** *мн.* 1. Верхнія планкі (у калёсах). *Рýчкі ў калёсых чуць ліпяць, вот-вот рассы́плюцца, міняць нада.* 2. Мера паклажы (у калёсах). *Калёсы глубокія, рýчкі сена натопчыць пуды два і вязець двору.*

**Рыгала** *м.* і *ж. неадабр.* Плаксун. *Во ры́гыла разрю́мзыўся, угывáрівыйця яго с канхветкыю.*

**Рыннік** *м.* Капаннік. *Ня дужа ахотня твае рыньнікі варушуцца.* **Рынніца** *ж.* *Зымарілыся рыньніца, чуць клы́пыіць, сяньня тыкі ладный кусок сыгналі.*

**Рыскоўнасць** *ж.* Рызыка. *Ох, ікая ў Райчонка рыскоўнысьць, на што хочыш гатоў. Рыскоўнысьць нада, ну кылі ціряшчур, дык ніхырашо.*

**Рэдчына** *ж.* Адно каліва рэдзькі. *Во такую реччыну апчы́сьціў, пыкрышы́ў, натоўк с сольлю, с цыбулію і пад'еў. Памянш.* **рэдчынка**. *Прінясі пару реччынык, я зьдзелыю, дзеці нічога ядуць.*

**Рэзаннік** *м.* Той, хто рэжа, пілуе. *Во яны якея ре-*

*зыньнікі: сьпяць у саломі, худзь ба табе што.* **Рэзанніца** *ж. Ета резыньніца як возьміцца, дык дзела зыгріміць зразу.*

**Рэзаць** *незак. перан.* Моцна кусаць (пра аваднёў, мух і інш.). *Ух, вадні скот січас режуць, каровы, бедныя, пряма ні знаюць, куды хувацца.*

**Рэмень** *м.* Рэмень. *Памяніш.* **рэмушак, рамушок, рамушочак.** *У мяне быў дужа харошый ремушык, ды пырвайся. Па-мойму, етый рімушок трошку луччы, ён крысівей. Каб пільнуў рімушочыкым, тады б ён зарёкся бáлывыцца. Павеліч.* **рэмнішча.** *Во ремнішча, во каб апёк еткім!*

## С

**Сабачкі** *мн. перан.* Насенне траў, якое чапляецца за шэрсць, адзенне; ваўчкі. *У грівы конім сыбáчык пыналезла многа-многа. Увосінь пы якой траве пройдзіш, сыбáчкі як пынычыпля́юцца, дык ні тыбрáцца.*

**Сабашня** *ж. груб.* Хлусы, нягоднікі. *Нілізя було падумыць, што ў іх тыкая сыбáшня сыбярецца.*

**Сабраджаный** *дзеепрым.* Сабраны. *Мы сыбрáджыный скот чуць удзержылі, ціляты ірвуцца, бігаць куды пупала.*

**Сабугорыванне** *н.* Агорванне (пра будынак, прыладу, рэч і інш.). *Знаіш, можыць нічога ні пулучы́цца зь яго субугорівыньня, тама лесу ні хвытаіць.*

**Сабугорываць** *незак.* Агорваць (будынак, прыладу, рэч і інш.). *Табе ж нада думыць якую-небудзь хáччыну субугорівыць, як жа так пу чужых вуглах шылáцца.* **Сабугораный** *дзеепрым. Яны такея хызіівá, што і субугоріныю хáччынку пусьцюць на веціp. Айт, з гнільля пу́нчына субугоріна, дык ці пуню будзіш шулювáць.*

**Савіць** *зак.* Звіць. *Што дзелый — ня дзелый, а вожкі нада у первыю вочырідзь савіць, нечым зыважджывыць.* **Савіцца** *зак.* Звіцца. *Хадзі пойдзім, вярёвычка можыць пазьней савіцца.* **Савітый** *дзеепрым. У цябе ёсьць савітыя вярёўка, можна вядро вады вы́цігнуць.*

**Савяточанный** *прым.* Чачоткавы. *Сывяточынныя калодычкі Дзяніс умеў вырізáць, у яго лоўка пулучалыся.*

**Сагінанне** *н.* Згінанне. *Нешта ў цябе стала дужа цяжолыя сыгінáньня, пыстарей ты ці што.*

**Сагінаць** *незак.* Згінаць. *Іш, ікая вўдыль ета карова, дайжа гылавы ня хочыць сыгінáць, трыва ні ныравіцца.*

**Сагінацца** *незак.* Згінацца. *Ні такей ты ўжо старік, што табе цяжола сыгінáцца.*

**Сагнаць** *зак. неран.* Убраць (зжаць, выкапаць). *Пы лáдныму кусочыку сыгнáлі ды абеда, а посьлі беда меншы жжалі. У вас кыпáльшчыкыў многа, вы зы два дні згоніця етыя палоскі.* **Сагнатый** *дзеепрым. Я ўжо відзіў, што вашы участкі сыгнáты ды кынца.*

**Сагнісць** *зак.* Згнісці. *Сколька таго сена скошына, дык і тоя сыгніець, дождж ні на дзень ні ўнімаіцца.*

**Саграбанне** *н.* Зграбанне. *Ці ты ні знаіш іхныга сыгрібáньня: лягуць дый будуць спаць.*

**Саграбаць** *незак.* Зграбаць. *Толька пычалі сыгрібáць — дождж аткуль ні вазьміcь, і нібальшэй, а ў копы класьць ня будзіш.* **Сагрэсць** *зак.* Згрэбці. *Мы сваё сыгряблі ды дыжджа, чуць справіліся. Сагрёб усё тряхольля і пылажыў ны крываці.* **Сагрэбеный** *дзеепрым. Сагребіныму сену дождж ні страшын, а во ў пакосых пыгніець.*

**Сагразіць** *зак.* Здзейсніць пагрозу. *Каму ты сагрозіш, есьлі кініш усё? Ну што, сыгразіў ты ім? — яны як сьміяліся, так і сьмяюцца.*

**Сададуцца** *зак.* Моцна ўдарыцца. *Дужа астарожна там лазь, упацёмкых як сыданесься ап што, у вычах іскры зыскáчуць.*

**Саджанне, саджэнне** *н.* Пасадка. *Ета ні сыджáньня, што ямку выкыпыў і зарыў, пыд яблынку гною нада пыкласьць, чырназёму, а тады садзіць. Ні ныравіцца мне тваё саджэньня.*

**Саджаннік, саджэннік** *м.* Той, хто саджае. *Такея з вас сыджáньнікі, што дзеріўцы ні прінімаюцца, вун у Зыхара усё кругом зялёна. Ідуць нашы саджэньнікі з работы, ытаўкліся.* **Саджанніца, саджэнніца** *ж. Кінула сыджáньніца ны грядзе цубулю і пышла некуды. Нешта ня відна тваe саджэньніцы.*

**Садзень, ссадзень** *м.* Балючае месца на целе, дзе сцёрта або збіта скура. *Аткуля ў цябе такей сáдзінь ну руке? Ладный сáдзінь пысадзіў, пыбаліць. Пыглядзі-ка, якей ссáдзінь ны калені, уся кожа зьдзьвінута.*

**Садзіцца** *незак. перан.* Пераставаць расці (пра травы, пасевы). *Ны прісосі што ні пасей, садзіцца, ні расьцець.* **Сесць** *зак.* Перастаць расці (пра травы, пасевы). *Ячмень узыйшоў нядренна, а тады жыра як ударіла, як сеў, і сядзіць пы пальцу. Дужа забойный быў дождж, прібіў, селі пасевы.*

**Садненне** *н.* Боль у тым месцы, дзе сцёрта або збіта

скура. *Ня столька са́днiньня, як ты прiдумывыiш, тута саўсiм нечыму са́днiць.*

**Садніцца** *незак.* Шчымець, пячы ў тым месцы, дзе сцёрта або збіта скура. *Ногi пацёр цеснымi ботымi, цяперя са́днiюцца i абуць нiчога нiлiзя.*

**Сажваць** *зак.* Зжаваць. *Цялёнык якую тряпку пупадзець i сажвець, а нi пасьпеiш выцiгнуць з зубоў, дык i праглоцiць.* **Сажваный, сажватый** *дзеепрым. Рубашка вiсела нiзка, дык хвацiлыся я — увесь рукаў сыжва́ный. Сыжва́тыя замы́й ды павесь прусушы́цца, кылi дзiрiк нiма.*

**Сажвяліць** *зак.* Пажаваць, пажвакаць з цяжкасцю. *Саўсiм зубоў нiма, кусочык мякушку чуць-чуць сыжвя́лiю.*

**Сажмаць** *зак.* Сціснуць. *Сыжма́ў кулакi i кiдыiцца нiiзьвесна чаго к людзям.* **Сажмацца** *зак.* Сціснуцца. *Халодна дужа, куры у клубочыкi сыжма́лiся i сiдзяць блiзiнька адна кылы днае.* **Сажманый, сажматый** *дзеепрым. Рысха́джыiць воѓiрь с сыжма́нымi кулукамi. Сядзеў, зубы сыжма́ты, нi слова нi скызаў.*

**Сайстрываць** *незак.* Сціраць пры вастрэнні. *Ты ня столька войстрiш, сколька са́йстрiвыiш.* **Сайстрывацца** *незак.* Сціраца пры вастрэнні. *Ты патпiлык дужа крута дзяржыш, у цябе лязо са́йстрiвыiцца.* **Сайстрыць** *зак.* Сцерці пры вастрэнні. *Усё лязо сайстрiў, а жалеза резыць ня будзiць, яно мякка.* **Сайстрыцца** *зак.* Сцерціся пры вастрэнні. *Тута уся сталь сайстрiлыся, нада на́нывa нываpiвыць.* **Сайстраный, сайстроный** *дзеепрым. Са́йстрiный ножычык резыць ня будзiць. Раз нывáрка сайстрёна, нiякыя тачэньня нi паможыць.*

**Сакатаннік** *м. перан.* Балбатун. *Сыкыта́ньнiк як баба, завёў, што нi пiряслухыiш.* **Сакатанніца** *ж. Во пыдрыстаiць сыкыта́ньнiца, уся чыста пы мамi пышла.*

**Сакатня** *ж.,* **сокат** *м. перан.* Балбатня. *Усiм iхныя сыкытня́ ныдаела, нiхто слухыць ня хочыць. Во сокыту надзелылi, усё дно як у вас другога зыняцiя нiма.*

**Саламіна** *ж.* Салома (у самай малой, асобнай адзінцы меры). *Iка́я сылама́на была, у сваё ўремя нi прiбралi, сьцёрлыся, звыля́лыся — прыпала.*

**Саліна** *ж.* Соль (у самай малой, асобнай адзінцы меры). *Што ж ты дыжылася, салiны нiма у ва́рiва укiнуць, бягi пу людзя́х, пызычай. Во салiна, адною мiску пасолiш. Памянш.* **салінка.** *Худзь ба салiнка ны стале — i сядзiць, нiчога ня думыiць, усё дно як так i нада.*

**Салыпанне** *н.* Высоўванне языка. *Пастой с сылыпáньнім, січас рызьвяду поіла і вынісу, нап'есься.*

**Салыпаць** *незак.* Высоўваць язык. *Карова дайно стаіць кылы дзьвярей, сылыпáіць, жджэць яблык.* **Салыпнуць** *зак.* Высунуць язык. *Як сылыпнець, іна цябе цыліком зьліжыць, тады пысьмяесься.*

**Сальнік** *м. жарт.* Кормны вяпрук. *Ня дужа гладзеіць твой сáльнік, ты яму мукі жалеіш, так няскора пыгладзеіць. Памянш.* **сальнічак.** *Нічога сáльнічык рю́хыіць у пуні, будзіць крошка зáтыўкі пра лета.* **Сальніца** *ж. Хваціць ужо ёй пырасіцца, будзіць сáльніца, стáрыя сьвіньня.*

**Салянуць, сальнуць** *зак.* Крыху пасаліць. *Сыляні-ка ты і мне трошку, уродзі як недысыль капуста. Мяса мы дужа ні нысáлівылі, трошку сальнýлі і пылажылі, у хылады яно ня спорціцца.* **Салянуцца, сальнуцца** *зак.* Крыху пасаліцца. *Рысьсякі кусочык на трі часьці, сылянецца і будзіць ліжаць у лыханкý, трі разы зытаўкеш. Сколька тут сальнýлыся, сыпні яшчэ.* **Салянутый** *дзеепрым. Бульба сылянýта, ну мала, нада б трошку большы.*

**Самааблог** *м.* Самаабкладанне. *Я ішчэ ні плаціў сёліта сымаблогу, нада будзіць аддаць.*

**Самаволец** *м.* Неслух. *Сымавольцымі растуць дзеці, бацькі з маткыю кáплі ня слухыюць.* **Самаволка, самавольніца** *ж. Ты ні знаіш, ікая іна мáлыю сымаволка была. Чы́шчы зы мальца сымавольніца, хто што ні гаворіць, нікога ў рязон ні бярець.*

**Самаволіць** *незак.* Самавольнічаць. *Не, я б уніла, яй-богу ж ба, уніла, ні дыла б, як ты, сымаволіць.*

**Самадум, самадумец** *м.* Неслух. *Што етый сымадýм сам сабе думыіць, чаго яго ні ўнімаіць ніхто? Дужа бальшэй сымадýміц, дайжа ні пынімаіць нікога, ці гываріця вы яму уняцца, ці ні гываріця.* **Самадумка, самадумніца** *ж. Штоб дзяўчонкі быць такою сымадýмкыю, што надумылыся, то й тваріць. Яны ні прідумыць якея сымадýмніцы былі.*

**Самаквассе** *н.* Дачасна скіслы прадукт харчавання. *Я папробывыла мылако — ні сырыкваша, а нейкыя сымыквáсься, кіслыя дужа. Стыялі два гырлачы налітыя, узяліся сымыквáсьсю.*

**Самасадам** *прысл.* Самасеем, само па сабе, без пасеву. *Трі пацсоніцы вырысьлі на бульбі сымысáдым, ды харошыя пацсоніцы, семя буйныя і самі як решыты.*

**Самасейка** *м.* і *ж. перан. іран.* Пазашлюбнае дзіця. *У яго дачкі сымасейка найшоўся, гадуюць кучыю. Па-*

*мянш.* **самасеечка.** *Стыряіцца дзеўка: другая сымасеічка радзілыся.*

**Саміцца** *незак.* Паказваць на наяўнасць апетыту. *Зраньня трошку сáмілыся, кажыцца б, зьела крупені зыбіляныя, нявестка зварíла, я дзьве ложкі сірбанула — дос. Нічога ёй ні сáміцца, нічога жалудык ні прінімаіць.*

**Самшыць** *зак.* Пракласці мхом. *Зу пуўтыра дня самшы́лі хату.* **Самшыцца** *зак.* Пракласціся мхом. *Калі самшы́цца, тады й ладна, ета пунька ня к сьпеху.* **Самшоный** *дзеепрым. Хата у яго самшона і верьх прыізьведзін, асталыся толька пычынаць крыць.*

**Самый** *займ.* Самы. *Памянш.* **саменькій, саменечкій.** *На тую сáміநькыю мясьцінку прішлі і ўзноў грібоў ныбралі пы карзінкі, ды пасьці адных бырывікоў. Ета ж тыкая сáмінічкыя рубашычка, як у майго Жэніка.*

**Санапрадка** *ж.* Калаўрот (для прадзення нітак). *Ны сыныпрáткі прясць многа скарей, чым рукамі ны віріцяно. Памянш.* **санапрадачка.** *Яму шэсьць гадоў було, а ён зьдзелыў такую сыныпрáдычку, што адгледзіцца.*

**Сапасацельный** *прым.* Такі, які прыдумвае, вычварае. *Такей сыпысáцільный чылавек, усё як нарошня дзелыіць, з мýдрікымі, сь хіхікымі.*

**Сапожня** *ж.* Абутковая майстэрня. *Сапожня у нас ёсьць, толька ў ёй пынімающчых сьпіцыялістыў німа, так, шынтрыпа, гвозд заб'юць, а большы нічога ня зьдзелыюць.*

**Сапсець** *зак.* 1 *абраж.* Састарыцца. *Ён і сапсеіць — ня жэніцца, дужа баіцца, каб яго быгаствым хто ні зыўладзеў.* 2. Згнісці (пра дрэва, драўніну). *Асіна ў сыром дужа скора сапсеіць.* **Сапселый** *дзеепрым. Етый жаніх твой нічога, толька троху сапселый.*

**Саракурчыкі** *мн.* Лыкавыя лапці. *Дзед мне, бувала, спляцець пары трі сыракýрчыкыў, я зіму бегыю.*

**Сарамыга** *м.* Нелюдзімы чалавек, звыч. багацей. *К сырамы́гу як пупадзецца, тэй нáўчыць на сьвецi жыць, пыць сябе гресьць. Узмацн.* **сарамыжына.** *Іхный дзед сырамы́жына! Павеліч.* **сарамыжышча.** *Даўно ў нашый дзярэўні сырамы́жышча пысяліўся.*

**Сарвануш** *м. жарт.* 1. Рыба, якая сарвалася з кручка. *Можа ты й відзіў якога-небудзь сырвáнуша, а рыбы аць цябе я нешта ні даждуся.* 2 *перан.* Хілы хлапчук. *Нейкій сырвáнуш пы дваре бегыіць. Памянш.* **сарванушак.** *Нада ён табе, етый сырвáнушык, ня трогый ты яго.*

**Сарвываць** *незак. перан.* 1. Зжынаць з большага.

*Пышла іна сáрвывыць — крошка ячменю стаіць.* 2. Зрываць (з работы). *Устроіліся і ніхай работыюць, нашто табе сáрвывыць.* **Сарваць** *зак.* Зжаць. *Нада сырвáць сяньня, нашто лáпічык кідáць, другей раз пріхадзіць із-зы яго.* **Сарваный** *дзеепрым.* Зжаты. *Туга я ні візала сырвáный ячмень, у ём травы многа.*

**Саржавець** *зак.* Зрабіцца іржавым. *Сярпы, відна, мокрыя павесілі, хваціліся мы несьць зубіць, а яны сыржавелі саўсім.* **Саржавелый** *дзеепрым.* *Сыржавелыю пілою нічога ні атрежыш.*

**Сартамоніць, сартамоннічаць** *зак.* Праморгаць. *Куды яго ні пашлі, ён усюдых сыртамоніць. Вы самі сыртамоньнічылі, можна було дні ны два раншы схадзіць.*

**Саскрабыванне** *н.* Драпіна. *У яе було простыя сыскрáбывыньня, а відзіш, што пулучылыся.*

**Саскрабываць** *незак.* Здрапваць. *Нейкій прышчык ускачыў, ён пычаў сыскрáбывыць і, відна, грязь пупала, нарыў абрузуваўся.* **Саскрабывацца** *незак.* Здрапвацца. *Само ж яно ні сыскрáбывыіцца, ты сам што-небудзь дзелыіш.* **Саскрабаць, саскрабнуць** *зак.* Здрапнуць. *Калі другей раз сыскрáбыіш, будзіць доўга балець. Дужа нежныя цела: чуць трошку сыскрáбніш — і красьнеіцца.* **Саскрабацца, саскрабнуцца** *зак.* Здрапнуцца. *Я астарожна выцягывыў, а во кожа трошку сыскрабылыся. Нечыга зывязывыць, тута саўсім нямножка сыскрáбнулыся.* **Саскрабнутый** *дзеепрым.* *Сыскрáбнутыя нада ёдым заліць, скарей зыжывець.*

**Саскрэсца** *зак. перан.* Злезці з цяжкасцю. *Ну пыдажджыця, січас і я сыскрябýся сь печы, пымагу хут трошку.*

**Саскубнуць** *зак.* 1. Саскубці. *Сускубні во тута у двух местых, прічапілыся нешта.* 2 *перан.* Зжаць абы-як. *Нада ж сускубнýць як-небудзь, ні кідáць жа лапік пысярёд поля.* **Саскубнуцца** *зак.* 1. Саскубціся. *Другей раз і ладный кылáсок сускубнецца.* 2. Зжацца абы-як. *Што ў цябе ніяк жыта ні сускубнецца, там ны час работы ўсяго.* **Саскубнутый** *дзеепрым.* Саскубены. *Пыдмяці ўсё ета сускубнýтыя.*

**Саскусць** *зак.* 1. Саскубці. *Зывядзі карову, іна сускубець траву.* 2. Паскубці. *Вовінку нада абізацільна саскýсьць, а тады несьць ны выўначоску.* 3 *перан.* Спрасці. *Худзь ба ж дзьве мычычкі саскýсьць зá дзінь.* 4 *перан.* Зжаць абы-як. *Ніяк я ні сыбяруся ічмянёк саскýсьць, ён, верна, апсыпіцца.* **Саскусца** *зак.* Паскубціся. *А ніхай пыляжыць воўна, пазьней сускубецца.* **Саскубеный** *дзее-*

*прым.* 1. Саскубены. *Пы мяжэ уся трыва саску́біна: пыдзіржаў карову.* 2. Паскубены. *Саску́біныя воўна у беліһькім мяшочыку, а няску́біныя у карзінкі пыц скамейкыю.*

**Сасмаргыванне** *н.* Сашморгванне. *Што йта зы сысма́ргывыньня, што ты сьцягнуць ня можыш.*

**Сасмаргываць** *незак.* Сашморгваць, сцягваць. *Пычаў сысма́ргывыць сь печы нейкыю адзежыну, а аттуля мылаткі ліцяць,— дзеці пылажылі.* **Сасмаргывацца** *незак.* Сашморгвацца. *Ня дужа ета лісьця сысма́ргывыіцца.* **Сасмаргнуць** *зак.* Сашморгнуць. *Сысмаргнуў нескылька ветычык аўса.* **Сасмаргнуцца** *зак.* Сашмаргнуцца. *Крепінька доргні і сысмаргнецца.* **Сасмаргнутый** *дзеепрым. Во тута сысмаргну́тыя тряпкі рукі апціраць.*

**Сасмылець** *зак.* Згарэць, абгарэць, празмерна загарэць. *Вымітаіш печ і кіда́іш вуга́льля як пупала, кылі-небудзь хата сысмыліць, як пупадзець жарінка у салому. Сысмылеў на сонцы, кожа пряма мехым лупіцца.* **Сасмылелый** *дзеепрым. Кажный дзень на сонцы, у вадзе, яны сысмылелыя бегыюць.*

**Сасмядзіць** *зак.* 1. Стлець ад гарачыні, згарэць без агню. *Пыклаў блізка лі агня, адна вязёнка сысьмя́дзіла.* 2 *перан.* Дажыць пры нямогласці. *Сысьмя́дзіла Варкіна дычка, нідаўна схувалі,— во хто б мог падумыць, што так случы́цца.*

**Саснова** *ж.* Аснова, грунт. *Толька саснова тая, што чылавек, ці ён калі даеў, ці сьпіў, ці дыспаў, яны яго ў рязон ні прінімалі.*

**Састаіваць, состоіваць** *незак.* Стаяць, выстойваць, спраўляцца. *Біс прівычкі сыста́івыць у касе кажный дзень трудна. Ты сам паспробый дзень прі дні састоівыць лі кароў.* **Састаяць, састаяцца, состояць, состояцца** *зак.* Выстаяць, справіцца стоячы. *Усё ны ныгах і ны ныгах, а дзень бальшэй, трудна сысты́яць. Ды зь імі сысты́яцца нялёхка. А як мне ма́лый було састоіць умесьці з бальшымі? Ныўряд ці састоіцца ён цэлый дзень.*

**Састаўлянне** *н.* Састаўленне, складанне, узвядзенне. *Посьлі сыстыўля́ньня ім і пы чаркі було, прішлі і спаць зываліліся.*

**Састаўляць** *незак.* Складаць, узводзіць. *Учора мае ны тылаке былі, хату у Стыхва́нывых сыстыўля́лі, сяньня нікуды ня пойдуць.*

**Састрапаліваць** *незак.* Падгаворваць, падбіваць на рызыку. *Куды ён етых дзяцей сыстрыпа́лівыіць, відна, у*

*Стыхваніхіны яблыкі.* **Састрапаліваца** *незак.* Згаворвацца, збірацца. *Сыстрыпа́лівыюцца куды-то пабежч, яны знайдуць куды.* **Састрапаліць** *зак.* Падгаварыць, падбіць на рызыку. *Па-мойму, іх Ісаёнычык сыстрыпаліў, ён доўга зь імі стыяў.* **Састрапаліцца** *зак.* Згаварыцца, сабрацца. *Куды вы сяньня сыстрыпаліліся, відна, надумыліся нешта ладныя атпаліць.* **Састрапалёный** *дзеепрым. Прішлі сыстрыпалёныя, у іх усігда свае тайныя дзялы.* **Састрапалёмшы** *дзеепрысл. Сыстрыпалёмшы, яны куды хочыш кытануць.*

**Састроіваць, састраіваць** *незак.* 1. Будаваць разам. *Усё страенія пыд адну сьвязь сыстра́івыіць, удоўж кыла вуліцы. Пычаў састроівыць умесьці к хаці сенцы і клець.* 2. Зносіць пабудову. *Гываріў, што налета абізацільна будзіць хату сыстра́івыць аттуля. Чаго табе састроівыць, тут жа ладныя мясьціна і ты нікому ні мішаіш.* **Састраівацца, састроівацца** *незак.* Зносіць пабудову. *Мы разым са ўсемі сыстра́івыліся. Сьпірва на хутыр пірінасіліся, тады цірісь пітнаццыць гадоў дывай ныгзад састроівыцца, ета цяжола.* **Састроіць** *зак.* 1. Пабудаваць разам. *Усё разым састроіў, нічога пулучылыся пастройчына, ладныя.* 2. Знесці пабудову. *Калі ты ат'етуля баню састроіш?* **Састроіцца** *зак.* Знесці пабудову. *Яны раншы нас састроіліся, саўсім нямнога пыжылі тут.* **Састроеный** *дзеепрым. У яго усё састроіна пыд адну сьвязь і накрыта шыхвірым.*

**Састругыванне** *н.* Даводка шляхам стругання. *Што табе дасьць ета састру́гывыньня? — нічога, толька насу́ріш.*

**Сасцябываць, сасцёбываць** *незак.* Шыць, сшываць у спешцы. *Села сысьця́бывыць кохтычку, тады кінула, за печ узілася. Што ты будзіш сасьцёбывыць, тады пароць, шый ужо зразу.* **Сасцябаць, сасцябнуць** *зак.* Пашыць, сшыць у спешцы. *Хуць як-небудзь сысьцібай троху, каб дзіржалыся. Я, бувала, пынясу, і мне Кроціха сысьцябнець кохту, скора пашыіць.* **Сасцябнутый** *дзеепрым. Мне каб хто троху памог, а сысьцябну́тыя я й сыма дашыю.*

**Сатаннё** *н. зб.* Нелюдзі. *Сыбра́лыся сытаньнё, ці ты зь імі пыгаворіш пы-харошыму. Хвытаіць ішчэ сытыньня́ на сьвеці. Лезуць як сытаньнё якоя.*

**Сатварацца** *незак.* Рабіцца, тварыцца. *Таго, што змалку распу́шчыны, таго зь іх усякыя дурута́ і сытвыря́іцца.* **Сатварыцца** *зак.* Зрабіцца, стварыцца. *Другей раз і ня думыіш і ні гыда́іш, само сатворіцца, што толька дзівісься.*

**Саўгаць** *зак.* Схлусіць. *Ці ні суўгáў ты мне пры канхветкі, па-мойму, Віцькі тут ні було. Ён і саўгець — дорга ня возьміць.*

**Саўрэць** *зак.* Моцна нагрэцца, запарыцца. *Ні ныдзівáй пулушýбычык, ты саўреіш, сяньня дзень цёплый будзіць.*

**Саўсім** *прысл.* Зусім. *Ён саўсім ні такей, як ты рыскáвывыіш. А мне Коля саўсім аддаў свой ножык.*

**Сахарнік** *м. жарт.* Ахвотнік да цукру. *Я сáхырнікым сваім па кучкі пасыплю на стол, яны як возьмуцца мыкаць пірагом!* **Сахарніца** *ж. Во сáхырніца мыя, кармі яе адным сахырым ды канхветымі.*

**Сашчамліванне** *н.* Сціскание. *Цяперя ужо ніякыя сышчáмлівыньня ні паможыць, з магілы ні падыміш.*

**Сашчамліваць** *незак.* Сашчамляць, сціскаць. *Нашто табе так крепка сышчáмлівыць крюкі, тады ні рашшчэміш.*

**Сашчапліванне** *н.* Счэпліванне. *Ні дзяржыцца ета сышчáплівыньня, у кузьню несьць нада, зварівыць.*

**Сашчапліваць, сашчэпліваць** *незак.* Счэпліваць. *Узяўся цэп сышчáплівыць, рукі ды крыві пыбдзірáў. Тута ні сашчэплівыць нада, а скувáць, так яно дзіржацца ня будзіць.* **Сашчапліваца, сашчэпліваца** *незак.* Счэпліваца. *Адзін раз сышчáплівыіцца, а тады узноў нічога ні пулучаіцца. Калі ня будзіць зыхадзіць, сашчэплівыцца, пыцьцяшы трошку.*

**Сашчапуліваца** *незак.* Стульваца. *Што вы будзіця сядзець, кылі вочы сышчапýлівыюцца, ідзіця ды пыляжыця трошку.* **Сашчапуліцца** *зак.* Стуліцца. *Каб сышчапýліўся рот ны мінутычку, дык не, усё балбочыць і балбочыць лухтý.*

**Свадзёбнік** *м. іран.* Госць на вяселлі, аматар да вяселляў. *Свадзёбнікі можа пыд рання вернуцца, раншы іх ня жджы.* **Свадзёбніца** *ж. Дужа гульнівыя свадзёбніца, толька б рысхáджывылыся пы свадзьбых ды пы вічарінкых, а к рабоці ні тыкая пытхватныя.*

**Свайство** *н. зб.* Сваякі. *Усё свайство сыбралыся кучыю, апсуждáюць, верна, нявестку новыю,— ці пу душэто іна Зыхаріхі прішлася.*

**Сваякіня** *ж. іран.* Сваячка. *Нешта к табе трецьцій дзень свыякіня ні пыкáзывыіцца, а ты й рада, каб і трі гады ні зыхадзіла.*

**Светануць** *зак.* 1. Пасвяціць. *Сьвітані і ў етый вугыл, можа тута айдзе ты пыціряў ножычык.* 2 *перан.* Моцна

ўдарыць. *Як сьвітанёць яму з рызмаху, тэй і капыльля зыдраў угору.*

**Светнік** *м. гумар.* Той, хто прыехаў са «свету», з далёкіх краёў. *Сьветнікі Хвеччыхіны пыпріiжджалі, як дубы хлопцы, рызадзетыя.* **Светніца** *ж. Во цяперя, як ты сьветніцыю станіш, цябе ні пызнаць будзіць.*

**Свёкла** *ж.* Насенне буракоў. *Мне каб шчэпыць сьвёклы грядку дасеіць, толька жоўтых я ні хачу кырмавых, каб рэпкі, круглінькіх.*

**Свінкін** *прым.* Прыналежны свінцы або такі, які мае адносіны да яе. *Іда у сьвінкін тазік наліта, ты вынісь і пыстаў, толька абізацільна пыткладзі палычку, ато йна пірікідаіць.*

**Свіннакроп** *м.* Пустазелле, падобнае да кропу. *Засеў пы ўсядзьбі сьвіннакроп, сколька ірву, а яго ўзноў гоніць і гоніць.*

**Свіннёнак** *м.* 1. Парасё. *Іна кажный год сьвіньнёнка сабе гадуіць, заб'ёць і сядзіць с крошкыю.* 2 *перан. іран.* Той, хто паводзіць сябе некультурна (звыч. пра падростка, хлапчука). *Ах ты сьвіньнёнык, разьві ж так можна дзелыць? Памянш.* **свіннёначак**. *Абізацільна сьвіньнёнычка нада купіць ны зіму, ніхай кычаіцца.*

**Свіннушнік** *м.* Свінарнік. *Сьвіннушнік нада крепінька дзелыць, каб пырысяты ні пыдрываліся. Памянш.* **свіннушнічак**. *У нас быў цёплінькій сьвіннушнічык.*

**Свіннэй** *прым.* Свіны. *Сьвіннэя пунькі цёплыя дзелыюць, сьвіньні холыду ня любюць. Сьвінная трыва пыт паветкыю ляжыць, укініш, трошку пыгыдзя.*

**Свінняцкій** *прым.* Дрэнны, нягодны. *У яго дужа сьвіньняцкій хракцір, с такім ужыць трудна. Еткыму сьвіньняцкыму чылавеку бяс толку гываріць.*

**Свінтухайла** *м.* і *ж.* Свінтух. *Чаго ён такей сьвінтухайла расьцець, німа ў яго ні совісьці, ні чэсьці нісколька.*

**Свірэпіна, свірэпчына** *ж.* Асобная расліна свірэпы. *Сьвірепіна рызрыслася, як высыдка усё роўна. Вырьві сьвірепчыну, ніхай ні зуглушаіць пышаніцу. Памянш.* **свірэпінка, свірэпчынка**. *Пы ячменю кой-айдзе сідзяць сьвірепінкі. Я ўсе сьвірепчынкі пывырывала.*

**Свірэпка** *ж.* Свірэпа. *Сьвірепку каб высушыць ны харошый пагодзі, дык луччыга корму і ні нада, карова яе дужа есьць, асобінна кылі сылянеш нямнога. Памянш.* **свірэпачка**. *Укінь пырысятым сьвірепычкі, яны будуць есьць. Павелiч.* **свірэпішча**. *Сьвірепішча засела пы скароджыныму, скот пусьцюць, стравюць.*

**Свіста** *ж. неадабр.* Легкадумная жанчына. *У вашыя сьвісты ніхто ні дабійся толку і ні даб'ецца, у яе ўсігда як вецір у гылаве.*

**Свістануць** *зак. перан.* Пабегчы. *Некуды надумыліся сьвістанўць, можа якея дзеўкі звалі ны вічарінку.*

**Свістацца** *незак.* Брыкацца, біць заднімі нагамі (пра каня). *Калі конь сьвішчыцца, кылы яго нада быць дужа астарожным. Пугі хырашэнька даць, тады ня будзіць сьвістáцца.*

**Свістуля** *ж.* 1. Прымітыўны свісток. *Сьвістýль іж жыта пынадзелыюць, бегыюць і сьвішчуць.* 2 *перан. неадабр.* Легкадумная жанчына. *Дзяўчонкыю была сьвістýля і січас нісколька ні пурузумнела.*

**Свісцёлка** *ж. перан. неадабр.* Легкадумная жанчына. *Разьві такой сьвісьцёлкі хуць у чом-небудзь можна паверіць?*

**Свякрова, свякрухна** *ж.* Свякроў. *Іна сьвякрову увыжаіць, як сваю родныю матку. Во як урем'я ляціць, і ты ўжо стала сьвякрýхныю. Ці ваша Танька ісь сьвякрухныю хырашо ладзіць? Памянш.* **свякроўка**. *Сьвякроўка твыя цаца лáдныя, пальца ў рот ні кладзі.*

**Свярбенне** *н.* Сверб. *Ты ні глядзі ны сьвярьбеньня, ныдзівай цёплінькія чулочыкі.*

**Свярдленне** *н.* Свідраванне. *Угоніш сьвердзіл, а нызад ня выкруціш, во якоя ў цябе будзіць сьвярдленьня.*

**Свярдленнік** *м.* Свідравальшчык. *Узяўся сьвярдленьнік за дзела, круцій, круцій, пакуля сьвярдзёлык злумай.* **Свярдленніца** *ж. А што, сь цябе ніплыхая сьвярдленьніца пулучаіцца.*

**Свярдліць, свердліць** *незак.* Свідраваць. *Дуб цяжола сьвярдліць, у сухей пряма ня хочыць сьвярдзёлык лезьць. Пычаў сьвердліць, а бураўчык крэх і злумайся, дзелый што хочыш.* **Свярдліцца** *незак.* Буравіцца. *Як у цябе брусочык сьвярдліцца, ці скора будзіць гатоў?*

**Свяціць** *незак. перан.* Біць. *Як пычалі яго сьвяціць, дык ён відзіць, што дзела ні пылыса, ды ўцікаць.*

**Седня, сядня** *ж.,* **сядзенне** *н.* Знаходжанне ў сядзячым становішчы, бяздзейнасць. *Мне ўжо і седня ныдаела, і ат лежні бакі быляць, а хадзіць ногі ня хочуць. Сідня́ — ета ніздарова, нада шывяліцца, дзьвігыцца. Што ж сядзеньня, нада як-небудзь ды сваіх ґаных дыбірацца, тута нічога ня высідзіш.*

**Села-села, селка-селка, селачка-селачка** *выкл.* Выгукі, якімі пабуджаюць курыцу прысесці і злавіцца.

**Селязень** *м.* Качар. *Ты луччы прыдай сілізьня́, ён жырный, яго ахотна возьмуць. Сілязень учора ні прішоў двору, верна, лісіца схваціла.*

**Селязенька** *ж.*, **селязеньчык** *м.* Селязёнка. *Не, кыса у нас пасьці ні гаворюць, сілязенька завуць і сілязёнка. Сілязеньчык с капустыю зваріць смашна.*

**Семеннік** *м.* Вытворнік. *Пітушкоў я скора парежу, аднаго кіну семіньніка, ніхай бегыіць с курямі.*

**Семка** *н.* Семечка. *Ходзюць пы дзяреўні, семкі лу́зкыюць. Памянш.* **семачка**. *Семычка пупала і пацсоніца расьцець на ўсю гряду.*

**Семяно** *н.* Насенне. *Мой сімяно павёз на поля у мішка́х, ськініць і нызад пріедзіць, пысядзі трошку.*

**Серанька** *прысл.* Шэра (пра світанне). *Мы доўга ні пірясу́шывыліся, быяліся спазьніцца ны машыну, дык серінька пабеглі.*

**Сердзюкаваць** *незак. жарт.* Жыць вельмі багата. *Сюрдзюкува́ць ба ён любіў, толька работыць ня дужа хочыцца.*

**Серца** *н. перан.* Стрыжань алоўка. *У адном кырындашу дужа мяккыя серца, пряма малюіць, а ў другом цьвёрдыя, аж режыць бумагу.*

**Сечка** *звыч. ж. перан.* Сварлівая асоба. *Ох, была сечка, зь ёю ня то што сустрюка́цца, а луччы ніхай і ўва сьне ні прісьніцца.*

**Сеяннік** *м.* Сявец, сейбіт. *Сяньня нашы сеіньнікі дужа рана ідуць абедыць, ета ўчора яны зыпазьніліся.* **Сеянніца** *ж. І сь цябе тыкая сеіньніца, як зь мяне, абы кідаць зірняты.*

**Сеянуць, сяйнуць** *зак.* Зрабіць некалькі асобных узмахаў пры сяўбе. *Сіяні лі кра́юшкыў у абоіх вугулках, каб ні пустувалі. Туды-сюды сяйну́ў, ніхай расьцець.* **Сеянуцца, сяйнуцца** *зак.* Крыху пасеяцца. *Відна, само сіяну́лыся, што ўсходзіць. Пыдажджы, сяйнецца і там троху.* **Сеянутый** *дзеепрым. Во тутыцька сіяну́та, відзіш, зірняты ліжаць.*

**Сёлетак** *м.* Сяголетак. *У яго сёлітык харошый бычок, відна, к свадзьбі будуць гудува́ць, сяредній увосінь хочыць жаніцца.*

**Сівапёс, сіняпёс** *м.* Белаватая, вельмі неўрадлівая зямля. *Пы сівапёсу ці сей, ці ня сей, жалься божа, што пасеіш, нічога ня вырысьціць. Унізу сіняпёс лі равоў, дайжа трыва ні расьцець, нейкыя зімля дренныя нуплува́іць.*

**Сіняўка** *м.* і *ж. перан.* Худое, хілае дзіця. *Расьцець у*

*яе нейкыя сіня́ўка. Памянш.* **сінявачка**. *Калі ты хут трошку пыпра́віська, сіня́вычка мыя?*

**Сіціць** *незак.* Сыпацца, імжэць (пра дробны дождж). *Цэлый дзень сіціць дождэжык, усё мокрыя, узяцца нілізя, худзь ба скарей пірістаў.*

**Скабка** *ж.* Стрэмка. *Памянш.* **скабачка**. *Мулюпа́хтынькыя ска́бычка, а пад нохыць пупала, тыкая балю́чыя. Павеліч.* **скабішча**. *Такую ска́бішчу зыгнаў у нагу, Паўлік мне ножыкым дыстываў, худзь ба ныгнаенія ні було.*

**Скабкі** *мн.* 1. Робры. *Ска́бык як укініш у капусту, іна ажно зышыва́іцца.* 2. Скалкі ў страве. *Ма́лінькій кусочык куря́ціны укінула, і паверьх ска́бкі пла́выюць. Памянш.* **скабачкі**. *У мяне ішчэ ска́бычкі трошку вядуцца.*

**Скабленнік** *м.* Той, хто скобліць, абірае. *Прішоў мой скабленьнік увесь у смале.* **Скабленніца** *ж. Зь-яе скабленьніца тыкая, толька пальцы пыбрізаіць, а вот пішчыць жа: дай нож.*

**Скаверкываць** *незак.* 1. Дэфармаваць, псаваць. *Нашто яны бітончык скаверкывыюць?* 2 *перан.* Крыўляць. *Сяньня дру́жуць, дру́жуць, а ныза́ўтріга скаверкывыіць чылавека, усё дно як ён аднае капейкі ня стоіць.* **Скаверкывыцца** *незак.* Дэфармавацца, псавацца. *Нешта усё ў цябе скаверкывыіцца, нічога цэлыга німа.* **Скаверкацца** *зак.* Дэфармавацца, сапсавацца. *Палоскі тваe скаверкыліся, іх ужо ні рыспря́міш.* **Скаверканый** *дзеепрым. За пунію нейкій ліст бляхі скаверкыный выляўся.*

**Скавырнуць** *зак. перан. іран.* Пазбавіць пасады. *У нас ба зь ім ня чыкыліся, жыва б скывырну́лі, ніхай ба у рідавы́х пыхадзіў.* **Скавырнутый** *дзеепрым. Ня дужа яму смашна скывырну́тыму пыхаць умесьці са ўсімі.*

**Скаканнік** *м.* Скакун. *Сьпіртавоз калі-то быў скыка́ньнік, даўно ўжо, бувала, вып'іць і Анісу гаворіць: ідзі коні напой, а я пыскачу,— і будзіць цэлыю ноч скыкаць. Памянш.* **скаканнічак**. *Ох ты, скыка́ньнічык, рызыйшоўся, ні ўняць цябе.* **Скаканніца** *ж. Я січас пайду дам места сваім скыка́ньніцым.*

**Скакарэчыць** *зак.* Скурчыць. *Ета ж яго балезьня так скыкаречыла.* **Скакарэчыцца** *зак.* Скурчыцца. *Куры дужа замёрзьлі, нудулі́ся, скыкаречыліся і сідзяць.* **Скакарэчаный** *дзеепрым. Стыялі ны станоўкі скыкаречыныя, халодна дужа.*

**Скалантырыць** *зак.* Абабегаць, выбегаць. *Сколька вы*

*дзірявень кажныю ноч скылантыріця, ета ж ахотычка вам столька ногі біць.*

**Скалатнуць** *зак. перан.* Моцна страсянуць. *Як скызалі, што ён едзіць сюда, ета ўсю дзярэўню скылатнула.* **Скалатнуцца** *зак.* Моцна страсянуцца. *Дужа былі цяжолыя похырыны, уся акруга скылатнулыся, са ўсіх дзірявень былі людзі.*

**Скаленне** *н. асудж.* Выскалянне. *Дужа ныдаела ны яго скáліньня глядзець, ці ёсьць прічіна, ці няма, усё скаліць зубы.*

**Скалупнуць** *зак. перан.* Пазбавіць пасады хітрыкамі. *Мушчыны згываріліся раз яго скулупнýць, дужа ныдаеў усім,— і скулупнýлі.* **Скалупнутый** *дзеепрым. Ужо скулупнýтый ходзіць і ні на кога ні глядзіць.*

**Скалыхнуцца** *зак. перан.* Прыйсці ва ўзбуджэнне, хваляванне. *Як пачулі, што яго хыраніць будуць, уся акруга скылыхнýлыся, ішлі і ішлі біс кынца.*

**Скальжэць** *зак.* Перамерзнуць. *Мала таго, што скальжэіш біз ныпряткі, дык яшчэ і прастуды пытхвáціш, а я тады ухаджывыць зы табою ня буду.* **Скальжэлый** *дзеепрым. Раз ды другей пабудзіш скальжэлый, тады хвáцісься вума.*

**Скальзата, скальзота** *ж.* Коўзкасць. *Вобліў прайшоў, замёрзла, скыльзыта, што ні ступіць, ногі едуць і ўсё. Такою скальзотыю дужа трудна іціць.*

**Скальчэць** *зак.* Змерзнуць, перакалець. *Як ты глядзіш, мáлыя саўсім скальчэла, вядзі яе скарей у хату.* **Скальчэлый** *дзеепрым. Убеглі ў хату скальчэлыя, я ім скарей дыла пагрецца.*

**Скандрычыцца** *зак. жарт.* Памерці. *Ты, відна, й хочыш, каб я скандрычыўся, ты б сабе зяця мыладога прівіла ў хату.*

**Скапнуць** *зак.* Капнуць, упасці кропляй. *Чарніла сь піра скáпнула на новыю скацірсьць, яго нічым ні атмыіш.*

**Скапыліваццa** *незак. жарт.* Паміраць. *Ці ні скапылівыісься ты тут у хыладку?* **Скапыліцца** *зак.* Памерці. *А што ты думыіш, жаніцца ні пасьпеіць і скапыліцца.*

**Скапырдзіцца** *зак. жарт.* Памерці. *Ты яго так ні пужай, ато ён ац страху скапырдзіцца можыць.*

**Скарабкываццa** *незак.* Злязаць. *Як ты цяперя будзіш аттуля скырáбкывыцца бязь лесьвіцы?* **Скарабкацца** *зак.* Злезці. *Чуць-чуць скырáбкыўся, каб трошку, і пыляцеў ба уніз як мячык.*

**Скараджануць** *зак.* Крыху, наспех пабаранаваць.

*Скырыджані трошку гряды, ніхай мякчэй будзіць.* **Скараджануцца** *зак.* Крыху пабаранавацца. *Каб скырыджанýлыся, дык ба хужы ні було.* **Скараджанутый** *дзеепрым. Толька што скырыджанýта, пы разу праехына і ўсё.*

**Скарадзьбіт** *м.* Баранавальшчык. *Во яны нашы скырыдзьбіты́, у цяньку аддыхаюць.* **Скарадзьбітка, скарадзьбічка** *ж. Прілаўчы́цца с конімі, дык ладныя скырадзьбітка будзіць. Хадзі, скырадзьбічка, есьць ужо наліта.*

**Скаржанець, скаржанецца** *зак.* Засохнуць, ссохнуцца. *Кінуў бацінкі мокрыя, яны скыржанелі за лета, што на нос ня ўссуніш. Якея ў цябе тут кускі хлеба скыржанелі? Ні нада класьць прімнок ны паліцу, забудзіш, скыржанеіцца і вы́кініш у памы́йніцу.* **Скаржанелый, скаржанеўшый** *дзеепрым. Ня реж сьвежыга хлеба, тама скыржанелыя кускі ліжаць. Няўжэлі табе нілізя прібраць вобуў як нада, ці ета луччы, што ён скыржанеўшый выляіцца?*

**Скасароціць** *зак.* Скрывіць рот (ад хваробы). *Ета ж балезьня так яго скысароціла.* **Скасарочаный** *дзеепрым. Ён ба мушчына нічога, каб ні скысарочыный.*

**Скатаўё** *н. перан. груб. зб.* Нягоднікі. *Чаго яны зыдаліся такоя скытаўё, кажыцца, зьелі б кажныга, каб прімелі.*

**Скатлелый** *дзеепрым.* Прамерзлы. *Прібеглі дзяўчонкі саўсім скатлелыя: пашлі ў лёгінькіх пла́цьіцыых, а тута ні ш чога ні зь якыга холыд дурёный пытхваціўся.*

**Скацініна** 1 *ж.* Асобная жывёліна. *Хуць ікая скаціні-на ны дваре ды ёсьць і дзіцям ложку мылыка дасі.* 2 *м.* і *ж. перан. груб.* Нягоднік. *Такей скаціініна, ён ба брата родныга зьеў.*

**Скачарожываць, скачарэжываць** *незак.* Курчыць. *Ета ўжо ста́рысьць усяго скычарёжывыіць. Яго даўно пычало скычарежывыць.* **Скачарожывацца, скачарэжывацца** *незак.* Курчыцца. *Пальцы неік скычарёжывыюцца, ні рызагнуць. Я віджу, што пычаў скычарежывыцца, мальца пыслала зы канём, ны калёсы ды скарей у бальніцу.* **Скачарожыць, скачарэжыць** *зак.* Скурчыць. *Чаго цябе так скычарёжыла як стырі́ка? Другей раз як скычарежыць, ён места сабе ні находзіць.* **Скачарожыцца, скачарэжыцца** *зак.* Скурчыцца. *Скычарёжыліся куры, сідзяць, дайжа есьць ня йдуць, ім дужа халодна. Скычарёжыўся на печы і ляжыць, нешта ж жыватом у яго.* **Скачарожаный, скачарэжаный** *дзеепрым. Лягу, пыляжу на печы скычарёжыныя, а тады нызад лезу. Кычаіцца ны палу скычарежыный, гаворіць, рызагнуцца ад болі нілізя.*

**Скашыванне** *н.* Касьба, скошванне. *Не, няроўна работыюць, у аднаго скáшывыньня семдзісят сотык, а ў другога пітнаццыць. Зімля няроўныя, дык нячшы́тныя скáшывыньня.*

**Скашываць** *незак. перан.* Спраўляцца ў касьбе. *Я скáшывыў с самымі крепкімі мушчынымі, са ўсімі спруўляўся.* **Скасіць** *зак.* Справіцца ў касьбе. *Айдзе ты зь ім скосіш, кылі ў яго сіла нямерныя, пряма ня косіць, а валіць ету траву.*

**Сквазіць** *незак.* Цягнуць скразняком. *Хату ґ зіме нада абглідаць хырашо, каб нійдзе ні сквазіла.*

**Скверцца** *незак. перан.* Гаварыць рыпучым голасам. *Рысьсядзіцца, як пычанець скверцца, усім ныдаесьць.*

**Скідываць, скідаць** *незак. перан.* 1. Будаваць, узводзіць. *Няўжэлі ты ня думыіш ету хáччыну с,кідывыць у сьцены, у цябе ж урема ёсьць.* 2. Мяняць (зубы). *Калі скаціна ськідывыіць зубы, тады іна пасьці ня есьць. Ці ні ськідаіць наша карова зубы?* **Скінуць** *зак.* 1. Пабудаваць, узвесці. *Як ськініш халýпку, тады спыкайней будзіць.* 2. Памяняць (зубы). *Наша карова летыся ськінула зубы.* **Скінутый** *дзеепрым.* Пабудаваны, узведзены. *А мы відзілі, што ў яго хата ўжо ськінута.*

**Скідыш** *м.* і *ж. перан.* Хілае дзіця. *Нейкій дзіцёнык — ськідыш, а ні дзіцёнык, усё яму нідылігáіць. Зыдылáся дзяўчонка — ськідыш. Памянш.* **скідышак**. *Етый ськідышык усё хны́чыць, усё яму дренна.*

**Скіпанне** *н.* Шчапанне. *Збокý тапор убіў і ня вырьвіць, во якоя ў яго ськіпáньня.*

**Скіпаць** *незак.* 1. Шчапаць. *Узяўся паттопу ськіпáць і руку пасек, я тряпкыю зывярцела.* 2 *перан.* Біць. *Схваціў зу рукý ды як дывай яго ськіпáць.* **Скіпануць** *зак.* 1. Шчапануць. *Ськіпані кускамі сы днаго боку і з другога, палка пыляхчэіць, тады ты ціріс плячо ударіш.* 2 Ударыць, выцяць. *Як ськіпанець пу зубах, тады ты найдзіш сабе места.* **Скіпанутый** *дзеепрым.* 1. Адколаны. *Збоку трошку ськіпанýта, ды йна калодка крепкыя.* 2. Удараны. *Ацскачыў ськіпанýтый.*

**Скіпець** *зак.* 1. Сплысці пры кіпенні. *Жарка дужа ў печы, крупеня многа ськіпела, нада пыдлівáць.* 2 *перан.* Згарэць яркім полымем. *Такея хаты тады ў іх ськіпелі!* 3 *перан.* Зайсціся ад плачу. *Ськіпеў маліц, чаго ты яго на рукі ня возьміш.* 4 *перан.* Загінуць (ад нажа). *Мікілай Стыхваныў так і ськіпеў ны нажы.*

**Складаннік, складыватнік** *м.* Той, хто складвае, зай-

маецца складаннем. *Тваеʼ склыда́ньнікі саўсім рызьляніліся. Стыряюцца скла́дывыньнікі, хочуць скарей кончыць.* **Складанніца, складыванніца** *ж. Склыда́ньніцы пабеглі к речкі мыцца. Што ж ты, скла́дывыньніца, гародзіш адно на дно, яно пыляціць усё.*

**Скланый, склатый** *дзеепрым.* Складзены. *Скла́ныя палкі ніхай пыліжаць, яны нікому ні мішаюць. Скла́ныя ў капёшычкі сена ні так зымя́кніць. Тваеʼ скла́тыя дровы гу́ркнулі, нада пірікладывыць.*

**Склейна** *прысл.* Умела, па-майстэрску. *Сколька ты ні ляпіў, дык склейна у цябе ні выходзіць.*

**Склейнасць** *ж.* Уменне, майстэрства. *Ікая ў няўрёміны склейнысьць, за што ня возьміцца, усё ні так пулучаіцца.*

**Склычываць** *незак.* Блытаць (салому, ніткі і інш.). *Ну і нада ж етык склы́чывыць салому, ляжыць іна і ніхай сабе ляжыць скла́джыныя.* **Склычывацца** *незак.* Блытацца (пра салому, ніткі і інш.). *Калі нікуратна бяреш, лён склы́чывыіцца.* **Склычыць** *зак.* Паблытаць (салому, ніткі і інш.). *Саку яны ня толька склы́чылі, а піряцёрлі пасьці ўсю ны аторю.* **Склычыцца** *зак.* Паблытацца (пра салому, ніткі і інш.). *Хадзілі пы саломі, ношкі насілі, іна ўся склычылыся.* **Склычаный** *дзеепрым. Склы́чыныя снапкі адзьдзельна складзі, можа пірівяжуцца.*

**Скома** *ж.* Аскома. *Ат кіслых яблык усігда скома буваіць, ты многа ня еж.*

**Скрабануць, скрабнуць** *зак.* Драпнуць. *Ета ж яго кот скрыбану́ў зы паліц, і ні пыказыіць, знаіць, што сам вінуват. Нямножка скра́бнула, а паліц рыскрасьнеўся, нупуха́ць пычаў.* **Скрабануцца, скрабнуцца** *зак.* Драпнуцца. *Ап сук скрыбану́ўся, ладныя цырапіна ны шчаке. Плячом крепка скра́бнуўся, рубец ускачыў. Гультай і на печы скра́бніцца.* **Скрабанутый, скрабнутый** *дзеепрым. А-а, тута нямножка скрыбану́та. А што ж ты думыў, скра́бнутыя тожа можыць зыгнаіцца.*

**Скрабач** *м.* Абабіты, абдзёрты венік. *Сенцы і скрыбачом пыдмяцеш, тама бальшэя красы нывадзіць ні нада. Памянш.* **скрабачык**. *Во толька ж ліжаў скрыба́чык і німа, як згарей, а можа ты й ныпраўду яго у печ укінула.*

**Скравяніць** *зак.* 1. Запэцкаць крывёй. *Періð у рубашкі скрывя́ніў, што ні дамыцца.* 2. Запэцкацца крывёю. *Пыглядзі, як тваеʼ рукавы скрывя́нілі.* **Скравяніцца** *зак.* Запэцкацца крывёй. *Нялоўка забілі кыбына, мяса дужа*

*скрывя́нілыся.* **Скравяненый** *дзеепрым. Скрывя́ніныя кускі аткладзі адзьдзельна, пірямыць нада.*

**Скраснець** *зак.* Пачырванець ад сораму. *Ты б відзіла, як скрасьнеў Трахім пірід Машычкыю, я яго ні разу ня відзіла такім.* **Скраснелый** *дзеепрым. Жалка, цябе ні було, пыглядзеў ба, якей скрасьнелый быў Андряёнык.*

**Скратыванне** *н.* Складыванне ў вялікую кучу, абы-як. *Ну, прі такім скря́тывыньні канешня можна зымаріцца, адна толька біда, што вы бяс толку скря́тылі.*

**Скратываць** *незак.* Складваць у вялікую кучу, абы-як. *Усё ўместа нілізя скря́тывыць, лугавоя сена ніхай адзьдзельна ляжыць, а атаўку пылажы у другей вугыл.* **Скратывацца** *незак.* Складвацца ў вялікую кучу, абы-як. *Айт, у яго скря́тывыіцца як зря, ці ета хызяін.* **Скратаць** *зак.* Скласці ў вялікую кучу, абы-як. *Ці ні сурува́тыю яны салому скря́тылі, папреіць уся.* **Скратацца** *зак.* Скласціся ў вялікую кучу, абы-як. *Скря́тыіцца у адну кладку і будзіць ліжаць ды вясны.* **Скратаный** *дзеепрым. Хворыст скря́тын як пупала, увесь двор зыграможджын.*

**Скружавіны** *мн.*, **скружавінне** *н.* Адыходы ад збожжа пры яго падсяванні. *Сыпні ў шайку скружавіны, чаго зь імі насіцца. Скружавіньня у ста́рый лу́бычкі, куды хочыш, туды й дзівай.*

**Скружыванне** *н.* Падсяванне збожжа ў рэшаце. *Ці ты ні знаіш, якоя ў яе скру́жывыньня: другей раз прідзіцца пыцьсіва́ць.*

**Скружываць, скружаць** *незак.* Падсяваць збожжа ў рэшаце. *Пыстаў-ка ты решыта, ты ішчэ ма́ла скру́жывыць. Ідзі скружа́й ды нада ў мяшок сыпыць, вот-вот дождж хля́ніць.*

**Скручываннік** *м.* Той, хто скручвае, займаецца скручваннем. *Сядзі, скру́чывыньнік, тута бісь цябе абойдзіцца.* **Скручываннiца** *ж. Зымыта́лыся скру́чывыньніца, што ўжо ні знаіць, як куды вярцець.*

**Скрыгатнуць** *зак.* Скрыгануць. *Нічога ні скызаў, глянуў як воўк, скрыгатну́ў зубамі і пашоў. Па-мойму, вароты скрыгатну́лі.*

**Скрыгатня** *ж.* Скрыгат. *Ніякія скрыгатні я ня чула, мы ўсе спалі, а ці езьдзіў хто па вуліцы, аткуля я знаю. Мне яго скрыгатню́ слухыць ніньціресна.*

**Скрылёк** *м.* Маленькая скібачка, тонкі зрэз. *Зьеў адзін скрылёк і большы ня хочыць. Мае дужа любюць бульбу скрылька́мі. Памянш.* **скрылёчак**. *Як ацьсеіліся, у нас аднаго скрылёчыка бульбы ні асталыся.*

**Скрыль** *м. перан.* Чалавек, які моцна змерз, здубеў. *Во скрыль прібег, увесь пірямёрз. Скрыль скрылім прікаціўся у хату. Застыў як скрыль, ажно зубамі ляскыіць.*

**Скрылянне** *н.* Наразанне дробнымі скібачкамі, вузкімі шматкамі. *Дам за ета скрыля́ньня, ня хочыш есьць — ня еж, а стругаць ды кідаць нечыга.*

**Скрыпашнік** *м.* 1. Майстар па вырабу скрыпак. *Раншы зы Сажом скріпышнік быў, дзелыў скріпкі і вазіў у горыд.* 2 *жарт.* Ахвотнік да ігры на скрыпцы, ахвотнік слухаць такую ігру. *Скріпышнікі ны скамеічкі уселіся пыць сіреньню.* **Скрыпашніца** *ж. Во пыдрыста́іць скріпышніца, будзіць пяву́ньня як мама.*

**Скрысеніцца** *незак. жарт.* Адзявацца па-святочнаму. *Яны ішчэ ўчора пыча́лі скрысеніцца, хлапцоў ждуць ны вічарінку ш Чарнілыва.*

**Скрысенный** *прым.* Нядзельны. *Сяньня у вас від дужа скрысенный. Ета ішчэ скрысенныя кускі аста́ліся.*

**Скрыцікаваць** *зак.* Раскрытыкаваць. *Пецька у зяці к табе меціць, а ты яго так скріцікува́ла, возьміць і ня пойдзіць.*

**Скрычацца** *зак.* Справіцца, зраўняцца ў крыку. *Як разініць горла, паспробый зь ім скріча́цца,— усё дно як нячыстыя сіла ў ім сядзіць.*

**Скрэбцца, скрэсца** *незак.* 1. Скрэбціся. *Кылі пычалі скребцца, усё дзела кіда́й, а тапі баню. Калі даўно мыты, то будуць скресца, хуць сколька пірідзіва́й.* 2 *перан.* Лезці, узбірацца. *Пычаў скребцца ны бярёзку, ня ўдзержыўся, паехыў уніз, увесь абыдра́ўся. Ахота яму скресца ны такоя гладкыя дзеріва.*

**Скубенне** *н.* Расскубванне. *Кладзі ты воўну біс скубеньня, там на месьці пускубецца зразу.*

**Скула** *м.* і *ж. перан.* Дакучлівая, непрыемная асоба. *Ого, ікая ску́ла ён быў, зь ім ба ніхто ня выцірьпіў.* *Памянш.* **скулка**. *Гапка тожа харошыя ску́лка, уелыся Пітраку ў рёбры. Павеліч.* **скулішча**. *Во хто быў ску́лішча, ета Хыдасоўнін мужык. Пад'едуць госьці, дык будзіць Максіму ску́лішча, пакруціцца ён.*

**Скуленне** *н. перан. неадабр.* Прыкрае дакучанне. *А во так скуленьнім усяго ўсюдых і дыбіва́іцца.*

**Скуліна** 1 *ж.* Скула. *Ладныя ску́ліна села ны наге лі калена.* 2 *м.* і *ж. перан.* Дакучлівая, непрыемная асоба. *Тыкая быў ску́ліна, што ні прівядзі бог, яго ўсе суседзі быяліся. Памянш.* **скулінка**. *Нескылька ску́ліныk ны*

*плячэ ускачыла, быляць — рукі ні пывярнуць. Зь віду ціхінькыя, а хракцірым скулінка.*

**Скумекаць** *зак.* Скеміць, зразумець. *Як жа ты ня мог скумекыць, чаго яны пріхадзілі. Чуць-чуць скумекыў, што нада сала ўнесьць.*

**Скупавата** *прысл. перан.* Малавата, крыху недастаткова да меры. *Скупувáта усыпыў, ета ўжо я пірявешывыць ні хацеў. Памянш.* **скупаваценька**. *Ён усігда скупувáцінька паложыць, ны кажный мелычы хочыць выйгрыць.*

**Скупнуцца** *зак.* Пакупацца. *А што, хлопцы, ежылі нам січас скупнуцца, пакуля усе сюда ні пыдыйшлі?*

**Скусць** *зак.* 1. Скубці. *З расою каровы сталі хырашо скусьць.* 2 *перан.* Прасці. *Мы, бувала, устáнім рáнінька і садзімся скусьць, ішчэ печ ні зытáплівыючы.*

**Скутаць** *зак.* Сагнаць у адно месца (пра жывёлу). *Скутылі скот лі балота і дзіржаць цэлый дзень.* **Скутаный** *дзеепрым. Табун стыяў скутыный усё посьлібедзьдзя, яны дайжа пу кустах ні прыгналі.*

**Слабак** *м.* Слабы чалавек. *Слыбáк ён брацца са мною боріцца, я адным пальцым піхну, і ён пыляціць. Памянш.* **слабачок, слабачочак.** *Слыбачок ты, слыбачок, сядзь-ка луччы ды пысядзі. Слыбачочык ты проця Сярьгея.* **Слабачка** *ж. Ня думый, што іна слыбáчка, с табою спрáвіцца.*

**Слабёсенькій, слабёсенечкій** *прым.* Слабенькі. *Яе мальчык радзіўся слабёсінькій, а тады аткуля што ўзялося, якей дзіцёнык стаў. Ріпіна слабёсінічкыя, чуць толька чáпыіць пы зямле.*

**Слабізна** *ж.* 1. Слабасць. *Нейкыя слыбізнá, што іціць ні магу.* 2 *перан.* Слабыя асобы. *Якея зь іх работнікі, слыбізнá адна, ніхай ба мушчыны пымаглі.*

**Слабінка** *ж.* Слабае месца. *Яны даўно яго слабінку знаюць і пользыюцца етым.*

**Слабкасць** *ж.* Слабасць. *Я і сыма ні знаю, чаго тыкая слáбкысьць, зы травіну зычаплюся і валюся.*

**Слабленне** *н.* Паслабляння. *Якоя ж слáбліньня, што конь ны адной сядзёлкі вязець, нада яшчэ атпусьціць ціріcьсядзельнік.*

**Слабо** *прысл.* Немагчыма, не пад сілу, не хопіць сілы, смеласці. *Слабо табе сь Сярёжкыю паборіцца. Што, мне слабо на ету бярёзку узьлезьць? Слабо ёй скызаць Мыкару праўду.*

**Слабодна** *прысл.* 1. Свабодна. *Як госьці паедуць, та-*

*ды і тут станіць слабодна.* 2. Проста, несумненна. *Ты яго мала знаіш, што хочыш можыць слабодна ляпнуць. Памянш.* **слабодненька**. *Яму бацінкі слабоднінька узьдзеліся. Выш. ст.* **слабадней**. *Як усё бырахло выкінулі, слыбадней стала.*

**Слабодный** *прым.* 1. Свабодны. *Пятрок цяперя чылавек слабодный, куды зыхацеў, туды й пыляцеў.* 2. Такі, які падыходзіць па росту, не цесны (пра адзенне). *Яму етый касьцюм слабодный, у плічах дайжа шурукуват. Памянш.* **слабодненькій**. *Ён слабоднінькій, пакуля Тыцяна ні пріехыла. Малыму нада слабоднінькыю адзежыну купляць, каб цесна ні была.*

**Сланечына, сланешына** *ж.* Асобная расліна сланечніку. *У іх пы грідах кой-айдзе сланечыны сідзяць. Дзьве сланешыны вырысьлі ў ячменю, ды бальшэя-бальшэя. Памянш.* **сланечынка, сланешынка**. *Во глянь-ка, і тута сланечынка расьцець. Я паспробывыў пірісадзіць сланешынку, дык ні прінілася.*

**Сланнё** *н.* 1. Рассціланне. *Ня скора даждэсься яе слыньня, ідзі, сам раськінь пасьцель ды пыляжы троху.* 2. Пасыланне. *Якоя ж ета сланьнё, што ты угыварівыіш яго.*

**Сланнік** *м.* Той, хто сцеле, рассцілае. *Нейкій жа ў цябе, сланьнік, ряд дужа крівэй пулучыўся, аж загнуўся.* **Сланніца** *ж. Вун зы сныпкамі сідзяць сланьніцы, Ганна ім нешта рысказыіць.*

**Сланянне** *н.* Бязмэтнае швэнданне. *Мы глядзім ны яго слыняньня і дзівімся, аткуля ў яго такоя гультайства уелыся.*

**Слаўленне** *н. перан.* Знеслаўленне. *Іна нікому ні словічка, ні паўсловічка ні прыгываріла, за што ж ёй слаўліньня такоя.*

**Слізанне, слізканне** *н.* Коўзанне. *С такім сьлізаньнім і гылаву можна рысквасіць. Дыбалыісься ісь сьлізкыньнім, што ныпраўду гнітанесься затылкым. Будзіць табе сьлізканьня, як хвырасьцінку атлумаю.*

**Слізаць, слізацца, слізкацца** *незак.* Слізгаць. *Ніяк нільзя устоіць, папробыіш стаць, а ныга сьлізаіць. Нейкія бацінкі сьлізкія: ідзеш і ўсю дарогу сьлізаісься. Як жа ня будзіш сьлізкацца, калі ні дарога, а ўсьцяж адзін лёд.*

**Слізката, слізкота, слізота** *ж.* Слізкасць. *Во цяперь ба самыя што лапцікі абуць, а ў калошых сьлізкыта ня ўстоіць і ні ступіць. Тыкая стала сьлізкота, што ны ніпут-*

*куваным кані нікуды ні вупруўляйся ехыць. Цэлыю нядзелю дужа была сьлізота, а тады троху атпусьціла і сьнегым прісыпыла — ныладзілыся дарога.*

**Слімяннё** *н. зб.* Здаровыя асобы; жывёліны. *Во сьлімяньнё хлопцы, чым іна іх толька корміць! Коні як сьлімяньнё сытыя, чаму ж такея везьць ня будуць.*

**Слугаванне** *н.* Прыслугоўванне. *Мне нічыё слугуваньня ні нада, і я пріслужывыцца нікому ні стану, ніхай ні надзеюцца.*

**Службістый** *прым.* Такі, які любіць выслужвацца. *Калі ты стаў еткій службістый? Мутруноўна усігда была службістыя, любіла пірід нычальствым выслужывыцца, як Ікавёнык.*

**Слуханнуць** *зак. жарт.* Паслухаць. *Січас мы слуханём, што ён Зьмітраку гаворіць. Ты, відна, хочыш слуханўць, пра што яны шэпчуцца.*

**Слухмянасць** *ж.*, **слухмянства** *н.* Паслушэнства. *Я ўжо знаю яго слухмяныСьць: усё пыбішчаіць зьдзелыць і нічога ня зьдзелыіць. Ня дужа ат такіх гаўрікыў слухмянства дажджэсься, яны дайжа вухым ні вядуць, што ты ім гаворіш.*

**Случаем** *прысл.* Выпадкова. *Ці ты слўчыім ні сустрюкаў у горыдзі Шыўчынка? Калі слўчыім замеціш, што Бобырь ідзець, крікні мне.*

**Слядзіна** *ж.* След. *Памянш.* **слядзінка, слядзіначка**. *Ён жа ішчэ ні старэй чылавек, а вочы ўсе, сьлядзінкі піріц сабою ня відзіць. Толька сьлядзінычку відзіць, сь кіёчыкым па вуліцы пройдзіць ат хаты к хаці.*

**Сляпендуш** *м.*, **слепанджа, слепандзя, сляпня, сляпоцце, слепаццё** *м.* і *ж. абраж.* Сляпая або з дрэнным зрокам асоба. *Чаго етый сьляпендуш цігаіцца тут, няўжэлі іна ныпраўду возьміць яго ў зяці? Во яшчэ сьліпынджа лазіць, усюдых свой нос суніць. Некуды пыцягнулыся Зьмітракова сьліпыньдзя, усё ёй на месьці ні сядзіцца. Ці ні к вам прецца Аўдотычкіна сьліпня? Сядзі ўжо на печы, сьляпоцьця мой, я сыма скот ныпаю. Во яшчэ сьліпацьцё рызыйшоўся, думыіць, ён каго спужаіць.*

**Смактануць** *зак.* Пацмактаць. *Малый два разы смыктанець і кідаіць бутылычку, нешта яму ні ыравіцца.*

**Смалянуць** *зак.* 1. Крыху пасмаліць, абсмаліць. *Кыла ног ішчэ трошку смыляні, жывая шэрсьць тарчыць.* 2 *перан.* Пекануць, спаліць. *Так крепка смылянўла, ён ажно крікнуў. Што тады ў Каробчыні тваріліся: сяньня*

*аднаго спалюць, а нызаўтріга другога смылянуць.* 3 *перан.* Ударыць. *Як смылянець із-зу вугла якім-небудзь паленым, тады ты будзіш знаць, як трогыцца.* **Смалянуцца** *зак.* Ударыцца. *Сядзеў, ныгамі буўтаў-буўтаў, а тады як смылянецца з бальки, як ён толька пыдняўся.* **Смалянутый** *дзеепрым. Айдзе смылянута, айдзе не, яму сойдзіць.*

**Смалярня, смольня** *ж.* Смалакурня. *Дзёгыць зы Сажом гналі і пуд Дубровыю была смылярня, а большы тута нійдзе ні гналі. Ціт нескылька ўремя на смольні работыў, ён рядым жыў, хата стыяла пасьці ў лесі.*

**Смарганне, сморганне** *н.* 1. Торганне. *Нічога з майго смыргáньня ні пулучаіцца. Я й біс твайго сморгыньня абыйдуся.* 2. Шумнае ўдыханне праз нос. *Во ныдаеў сы смыргáньнім! Ты яго па сморгыньню пачуіш.*

**Смаргаць, сморгаць** *незак.* 1. Торгаць. *Дывай я тады зы вярёвычку смыргáць, а ўсё дно ні аччáплівыіцца. Ну што, нада йіць смыргáць лён. Што ты сморгыіш, кылі тама вузёл бальшэй. Старэй тама за пýнькыю, поскыньні сморгыў.* 2. З шумам удыхаць праз нос. *Чаго ён так смыргáіць, ці ні прустудзіўся? Ходзіць і сморгыіць носым, відна, пацстыў.* **Смаргацца, сморгацца** *незак.* Торгацца. *Аччыні ды рызьвяжы вузялок, а так у цябе доўга смыргацца будзіць. Ня дужа яно тут сморгыіцца.*

**Смегаванне** *н.* Пакуты ад нястачы. *Як ім ні ныдаесьць сьмігуваньня, няўжэлі яны кыравёнку прыдзіржаць ня могуць.*

**Смекаліст** *м.* Кемлівы чалавек. *Ого, якей сьмікаліст, яго ня дужа пройдзіш, ён ўвы ўсякіх пірядзелкых пубуваў, усё знаіць.* **Смекалістка** *ж. Ні была б іна тыкая сьмікалістка, каб яе Проська пыдманіла.*

**Смехам** *прысл.* Жартам. *Ён жа сьмехым гываріў, а ты й паверіла. Мала што яны сьмехым скажуць, ты іх ня слухый.*

**Смоль** *ж.* 1. Пах пры гарэнні смалы, смаловага дрэва. *Тут усігда смольлю пахніць.* 2. Ліпучае рэчыва. *Каторыя ўремя ён к Сямёнывым смольлю ліпніць. Ня лезь к яму смольлю.* 3. Чорнае рэчыва. *У яе дачок валосься чорныя, як смоль.*

**Смуж** *м.* Смоўж, слімак. *Смужы часьцей усяго ны бáбкых сідзяць і ны пыдасінывікых. Сьлізкій як смуж. Чорный як смуж.*

**Смурод** *м.*, **смурода** *ж.* 1. Смурод. *У цябе, відна, гаршчок сплыў: як зычыніла комін, так смурода і пышла пы*

*хаці.* 2 *перан.* Нягоднік. *Такей быў смурод, што ніхай еткія людзі і ні атрыгаюцца. Чаго ён зыдаўся тыкая смурода? Сам харош, і йна смурода ня луччыя.*

**Смычыць** *незак. жарт.* Прасці. *Бувала, як возьмуцца смычыць утрёх, во еткія клубкі ныпрідалі, а тады ставюць кросны і ткуць.*

**Смядзіць** *незак.* 1. Тлець. *Адна гылавешка сьмядзііць у печы, яе нада дыстаць ды аттушыць.* 2 *перан.* Ледзь жыць. *Нескылька гадоў ні жыла, а сьмядзіла, чуць ногі пы зямле пірістыўляла.*

**Смяляк** *м.* Смяльчак. *Етый сьміляк с хаты увечырі баіцца выйціць, а ня то ён у Бірязуйкі пыбягіць. Вы абоя адзінакывыя сьмілякі: адз зайца кініціся ўцікаць. Памянш.* **смелячок**. *Канешня, ты сьмілячок, нікога ні баісься.* **Смялячка** *ж. Хто ж ні знаіць Прытасевічыву сьмілячку, усе дужа хырашо знаюць.*

**Смяротный** *прым.* 1. Смертны. *Куды яму жыць, у яго від сьмярётный, хуць сяньня ў гроб кладзі.* 2. Прызначаны на выпадак смерці. *Іна ўжо ўсю сьмярётныю адзежу сабе склала.*

**Смяцціна** *ж.* Парушына. *Як ты мяцеш, што ў цябе там астаюцца сьмяцьціны. Памянш.* **смяццінка, смяццінaчка**. *Акуратна двор прібран, нійдзе ні сьмяцьцінкі ні асталыся. Ты ў яго паспробый хуць сьмяцьцінычку айдзе ўвідзіць.*

**Смяццiць** *незак.* Засмечваць. *Я толька пыдміла, чысьцінька зьдзелыла, а ты ўзноў сьмяцьціш на чыстыя.* **Смяццiцца** *незак.* Засмечвацца. *Яно само сьмяцьціцца, ходзіш, і зы ныгамі ўсякій мусыр ынашывыіцца.*

**Снапавое** *н.* Плата снапамі за карыстанне зямлёй (у дарэвалюцыйны час). *Як січас помню, у тэй дзень мы вазілі сныпавоя, Андрей сеіў у нас ладный кусок, сваё ён зьвёз раншы, а наша астывалыся.*

**Снуджэнне** *н.* Ненадзейнае прыстасаванне для лоўлі. *Нічога с твайго снуджэньня ні палучыцца, ета нада хырашо зьдзелыць, каб птушку злавіць.*

**Снудзіць** *незак.* Ненадзейна прыстасоўваць для лоўлі. *Ета ж ён снудзіць — хочыць тхыря злавіць,— адурей тэй тхорь лезьць у яшчык.*

**Совесный** *прым.* Сумленны. *Калі совісныя, дык іна чужога ні захочыць, аддасьць, есьлі ныйшла. Памянш.* **совесненькій.** *Калі-то, можа, і Пракоп быў совісьнінькій, толька ета дужа дайно було.*

**Сонечка** *н.* Сонейка. *Ікая зь мяне работніца, во на сонічку пысяджу ды нызад у хату пыплятýся.*

**Сопсцвенна** *паб. сл.* Безумоўна, бясспрэчна. *Ён сопсьцьвінна знаіць, айдзе цяперя яны, толька гываріць ня хочыць. Пятрок табе сопсьцьвінна праўду скызаў, а ты ня веріш.*

**Сопсць, сопць** *незак.* Сапсці. *Ён на сон ні жаліцца, як лёг, так і пычаў сопсьць. Нешта доўга соп у той хаці, усё яму ні ыравіцца.*

**Соркі** *мн.* Саракі, традыцыйнае свята ў сакавіку. *У нас на соркі жáўрынкыў пякуць, і мáлыя тады бегыюць зь імі па вуліцы. На соркі ну гутареліх гутáшыюцца.*

**Соўка** *прысл.* Сыпка. *Сяньня яны заморюцца, іціць дужа соўка, сьнег рыхлый, ногі едуць нызад.*

**Спаведыванне** *н. перан. іран.* Лаянка, збэшчванне. *Як табе спалыся посьлі спаведывыньня, можа кума і ўва сьне сьнілыся?*

**Спаведываць** *незак. перан. іран.* Лаяць, бэсціць. *Ты-кая была крепкыя дружба, а сяньня як дывай Алёна яго спаведывыць.* **Спаведывацца** *незак.* Выслухоўваць лаянку. *Ці пойдзіш ты яшчэ раз к ёй спаведывыцца?* **Спаведываный** *дзеепрым. Ці ні прішоў ты і сяньня спаведывыный?*

**Спавівальнік** *м.* Спавівач. *Раншы дык прінасілі спывівáльнікі, як у атведкі хадзілі. Памянш.* **спавівальнічак**. *Спывівáльнічык нада каб усігда чысьцінькій быў, трошку зымыраіцца — памый яго.*

**Спавяданнік** *м. перан. іран.* Той, хто лае, бэсціць. *Пашоў твой спывідáньнік пыдз Заліўкін аборык.* **Спавяданніца** *ж. Што ты, Сямёныву спывідáньніцу дайжа устреціць ня хочыш?*

**Спагадыванне** *н.* Спагада. *Ат твайго кума ішчэ ніхто спыгáдывыньня ня відзіў, ён дужа нісызнáцільный.*

**Спагадываць** *незак.* Спагадаць, адносіцца са спагадай. *Між людзей нада адзін другому спыгáдывыць, як жа ты іначы прыжывеш.*

**Спагнаівацца, спагноівацца** *незак.* Угнойвацца. *Айдзе хырашо спыгнáівыіцца, там усігда хлеб будзіць. Твыя усядзьба так ні спагноівылыся, як у Сірьгяёнкыў.* **Спагноіцца** *зак.* Угноіцца. *Сьпірва зімля была дужа пустая, а троху-патроху спагноілыся і стаў хлеб радзіць.*

**Спагнацца** *зак.* Справіцца, дасягнуць тых жа вынікаў. *Айдзе ж ты хочыш зь імі спыгнáцца, калі у іх трі мушчыны у хаці, у іх канешня усё будзіць як нада падзелына.*

**Спадніца** *ж.* Спадніца. *Памянш.* **спаднічка**. *Яны сабе красівінькія спаднічкі пашылі, будуць хварсіць. Зніж.* **спаднічэнка, спаднічонка**. *Ні було чаго надзець, іна ізь нейкыга рідна́ спыднічэнку пашыла і насіла, уся сьвяцілыся наскрозь. Адна спыднічонка ёсьць і ёй ладна, тыкая біззаботныя баба.*

**Спадрушна** *прысл.* Зручна. *А ці спадру́шна ж яму бізь нічога ніякыга зыйляцца к Мыкарывым? Выш. ст.* **спадрушней.** *Каму спадрушній, тэй ніхай і зьбегыіць, во ты ж надзет, вядро ў рукі і к калодзіжу.*

**Спадрушнасць** *ж.* Зручнасць. *Яму каб луччыя спадру́шнысьць была, ён ба ўсяго чысьцінька надзелыў, харошый ма́сьцір.*

**Спадціха, спадціху** *прысл.* Спадцішка. *Яны крічаць ня будуць, спыцьціха́ што хочыш утворюць. Ла́скывый сыбачка спыцьціха́ кусаіць. Скажыць спацьціху і сам усё дно як убаку.*

**Спадыспаддзя** *прысл.* Спадыспаду. *Вы́цігні клачок спады́спыдзьдзя, тама далжно быць луччыя сена.*

**Спазрэнне** *н.* Упадабанне. *Якоя ёй ішчэ спазреньня нада, пупыда́іцца чылавек, дык ніхай бярець.*

**Спаіваць** *незак. перан.* Намочваць моцна. *Разьві ж можна так пулушубык спа́івыць, дождж — дык нада було вы́вірнуць, як усе дзелыюць.*

**Спаласкыванне** *н.* Паласканне. *Пыцярьпіць тваё спыла́скывыньня, лі есьць, нам ехыць скарей нада.*

**Спалюбіць** *зак.* Пакахаць. *Можа і спулюбіў, а можа так бегыіць, каб толька пысьміяцца. Любоў зла, спалю́біш і кызла.* **Спалюбіцца** *зак.* Спадабацца. *Нейкій лырьяныўскій тваёй Тайкі спулюбіўся.*

**Спанадабіцца** *зак.* Спатрэбіцца. *Усё пырыздаеш, а як сымаму спына́дыбюцца пад рукі руба́нык ці скобля, і ня будзіць.*

**Спанаравіць** *зак.* Упадабаць. *Тваю, кызалі, новый аграном спыныра́віў, усё прыва́джывыіць.* **Спанаравіцца** *зак.* Спадабацца. *Калі спыныра́віліся адзін другому, я рызьбіва́ць ня буду, ніхай жэнюцца.*

**Спанараўны** *прым.* Прыгожы, такі, які прыйшоўся даспадобы. *Чаго там гывcovіць, ён спыныра́ўный мушчына, і рыбыця́шчый, ні так, як другея у чарку глідзяць.*

**Спанець** *зак.* Прывыкнуць жыць у вялікім дастатку, па-панску. *Дужа вы спанелі зы пасьледнія ўремя, маглі б і з маты́чкыю пыстыяць.* **Спанелый** *дзеепрым.* *Тыкая ўжо спанелыя, што куды ёй гывvarіць пры работу.*

**Спаніць** *зак.* Прывучыць жыць па-панску. *Спаніла дачок, а цяпер сыма ні знаіць, як прістуніцца к ім, паможч што-небудзь і ня дўмыюць.*

**Спаннік** *м.* Той, хто спіць. *Ой, спыньнікі нашы толька пыднімаюцца, дужа рызыспáліся.* **Спанніца** *ж.* *Устывайка, спаньніца, сонца ўжо нівісь айдзе, січас твае падругі прібігаць.*

**Спантраваць** *зак.* Звучыць, прывучыць. *Дужа ты спунтрувáў сваю карову, разу ня хочыць скубнýць у пустухе, гылаву зыдзярець і глядзіць, каб двору.* **Спантраваный** *дзеепрым.* *Ён у цябе ціряшчýр спунтрувáный, ні рызбáлывый-ка ты так.*

**Спарадзіць** *зак.* Сабраць, падрыхтаваць, упарадкаваць. *Я сваіх пакуля спыряджý і ны работу, і ў школу, дык нівісь ікая пыра.* **Спарадзіцца** *зак.* Сабрацца, падрыхтавацца, упарадкавацца. *Мы ішчэ зь вечыра спырядзіліся, каб ні хвытацца ураньні.* **Спараджоный** *дзеепрым.* *Калі бульба спыряджона, гряды ужо ні біда, прібярýцца.*

**Спарадчываць** *незак.* Парадкаваць. *Спыря́ччывый адзежу, а я гуркоў нывыбіраю ды яблык ачшчыпнý троху.* **Спарадчывацца** *незак.* Парадкавацца. *Доўга спыря́ччывыцца німа ўремя, скарей усё склáдывый, січас Цімох пад'едзіць.* **Спарадчыць** *зак.* Упарадкаваць. *Пакуля мы спыря́ччылі сена, дык і ехыць некылі, вечыр ны дваре.* **Спарадчыцца** *зак.* 1. Упарадкаваць. *Січас мы спыря́ччымся і табе трошку паможым.* 2. Упарадкавацца. *Хворысьця тваё спыря́ччыцца трошку пыгыдзя, пойдзім дарьвём етый кусочык.* **Спарадчаный** *дзеепрым.* *Пастройка ў цябе спыря́ччына, што табе бідуваць.*

**Спаражніванне** *н.* Спаражненне. *Ну сколька мне ждаць твайго спырáжнівыньня, бочычка січас нада, а ні заўтря.*

**Спаражніваць** *незак.* Спаражняць. *Спырáжнівый-ка ты мне шайку, я січас цугуны буду выцягывыць, нада бульбу тоўч.* **Спаражнівацца** *незак.* Спаражняцца. *Куды мне спырáжнівыцца зь естым жытым, я й сыма ні прідумыю, усе мяшкі зыня́ты.*

**Спартачыць** *зак. неадабр.* Сапсаваць. *Такому масьціру ні нясі шыць пулушубка, ён ні пашыіць, а спыртáчыць, ён можыць толька старьё якоя пірібраць.* **Спартачыцца** *зак.* Сапсавацца. *Я ні жалею, калі й спыртáчыцца.* **Спартачаный** *дзеепрым.* *Куртка саўсім спыртáчыныя, дайжа рукáвы няроўныя.*

**Спарыванне** *н.* Спорванне, скідванне шляхам паронння. *Пупадзець табе зы спарывыньня, разьві ж можна трогыць гнёзды такіх харошынькіх птушычык.*

**Спас** *м.* Ратунак. *Якога гультаі спасу хочуць? Спасу німа ат яго прістывáньня, чыпляіцца ны кáжным шагу.*

**Спасаўкі** *мн.* Рэлігійнае свята спас. *Я хырашо помню, што Адарка спáсыўкымі была ны дзярэўні, а большы ні пріхадзіла.*

**Спасвіць, спасцівіць** *зак.* 1. Прапасвіць *Еткій дзень спáсьвіць ня шутка дзела, жарою скот ня хочыць стыяць, ляціць куды пупала. З мáлымі спáсьцівіць цяжола, ім ныдыідáіць бегыць зы скатом. Удваіх такей табун і ня думыйця спáсьцівіць, нада, каб трецьцій хто памог.* 2. Справіцца пасучы. *З мáлымі ты ні спасеш, ніхай сам усё дзела атложыць і йдзець к скату. Як жа ты адзін спáсьцівіў, відна, здорыва набегыўся.* 3. Стравіць статкам пры выпасе. *Пáрініну спáсьвілі, што на ёй нічога ні асталыся, голыя як бубін. Пы бічывікáх харошыя трыва была, дык за ету нядзелю спáсьцівілі. Атáву пы аборкых спáсьцівілі, цяперя тубуны пагонюць на луг.* 4 *перан.* Высачыць. *Як жа мне спáсьвіць Зьмітрыка, абізацільна пыгываріць зь ім нада. Трі дні пыглідала, усё хацела Пуўлюка спáсьцівіць, калі ён к Соньві пойдзіць.* **Спасвіцца, спасцівіцца** *зак.* 1. Справіцца пасучы. *Ні знаю, як зь дзіцямі спáсьвіцца. Калі травы німа, трудна спáсьцівіцца. Ня лёхка вам будзіць спáсьцівіцца такою жарою, у жаркія дні нада ны рáнкі гыняць.* 2. Стравіцца ў выніку выпасу (пра траву). *Блізка травы німа, уся спáсьвілыся, прыганіця ў Зады, там, відна, атрысла. Айдзе ж ты накорміш, кылі трыва спáсьцівілыся. Нядзелю скот пыхадзіў, што спáсьцівілыся, а што стыпталыся, скусьць нечыга.* **Спасвены, спасцівены** *дзеепрым.* Страўлены. *Лужкі усе спáсьвіны, тама каровы ні пыд'ядуць. Ны спáсьцівіным скот ні накорміш, нада куды дальшы гнаць. Пу кустах усё спáсьцівіна, ганіця кароў у другоя места.*

**Спасібканне** *н.* Выказванне падзякі. *Я знаю, якоя ў Мітрыхвáніхі спасíбкыньня: сяньня спасíбкыіць, а заўтря ныпляцець чаго зря.*

**Спасібкаць** *незак.* Гаварыць падзякі. *Яны Івану спасíбкылі, спасíбкылі дый спасíбкыць большы некуды.* **Спасібкацца** *незак.* Выказвацца (пра ўдзячнасць). *Што, зы піражкі ні спасíбкыіцца, хочыш яшчэ і ныпрáньнікыў?*

**Спастыліванне** *н.* Абрыдласць. *Трудна жыць ш чыла-*

*векым пры спастылівыньні, ні знаю, як ета Мархва церьпіць.*

**Спастыліваць, спастыліванца, спастыляць, спастыляцца** *незак.* Рабіцца брыдкім. *Ён зразу пасьлі свадзьбы пычаў спастылівыць Машкі. Чаго ж ня будзіць спастылівыцца, калі такоя тварыць усё ўремя. Мне ён ні сяньня пычаў спыстыляць. А што я буду дзелыць, калі ён усё большы спыстыляіцца?* **Спастылець, спастылецца** *зак.* Абрыднуць. *Ета ж нада, штоб свой чылавек, а так спыстылей! Буваіць, што свой спыстылеіцца большы, чым чужэй.* **Спастылелый** *дзеепрым. Ён даўно ёй спыстылелый, іна яго відзіць ня хочыць.*

**Спатанькі, спатачкі** *дзіц.* Спаць. *Ну пойдзім, пойдзім спатынькі, ужо саўсім цямнеіць. Мой маленькій, мой харошынькій спатычкі хочыць.*

**Спатуханне** *н.* Затуханне. *Ліні вады і дзела с канцом, ато доўга будзіш ждаць спутуханьня.*

**Спатушываць, спатушаць** *зак.* Прытушваць, змяншаць гарэнне. *Трудна спатушывыць, калі вецір бушуіць. Узяліся спутушаць, а зьдзелыць нічога ня могуць, агонь са ўсіх бакоў бушуіць.* **Спатушаный** *дзеепрым. Спатушыныя палкі аткінь дальшы, каб ні мішалі.* **Спатушомшы** *дзеепрысл. Спутушомшы атыйшлі, пысядзелі троху збоку.*

**Спатынець** *зак.* Стлець. *За тры гады доскі спытынелі у погрібі, нада новыя зыкладывыць.*

**Спатыханне** *н.* Аслабленне гарачыні. *Столька дней жарішча паліць і ніякыга спытыханьня німа, худзь ба ж іна трошку меншы.*

**Спатыхаць, спатыхацца** *незак.* Змяншацца (пра гарачыню). *Увесь дзень жаріла, што ні прыдыхнуць було, толька к вечыру трошку стала жыра спытыхаць,— во ўжо сушка дык сушка! Каторый дзень жарішча ні спытыхаіцца, дождж горька нада.*

**Спаўзаць** *незак. перан.* Сыходзіць, змяншацца (пра паўнату). *Як пыработыіць хырашэнька, сала зь яго станіць спуўзаць.* **Споўзць** *зак.* Сысці, зменшыцца (пра паўнату). *Раншы ён пряма у дзьвері ня месьціўся, а цяперя жыр зь яго троху споўз.*

**Спахацца** *зак.* Справіцца, быць на аднолькавым узроўні ў ворыве. *Ён умеіць плуг хырашо навесьць, выпріж у яго ладныя і конь цігавітый, зь ім спыхацца трудна.*

**Спелесаваць** *зак.* Нарабіць пісягоў (пугай, дубцом). *У дзьве пугі як узяліся, сьпілісувалі карову, што на ёй*

*жывой рубчы́ны ні аста́лыся.* **Спелесаваный** *дзеепрым. Прібег іс саду сьпілісува́ный і на сена схува́ўся.*

**Спетый** *дзеепрым.* Дружны, дружбацкі. *У іх была сьпетыя кынпанія, гэрчыкі ішчэ тэя, ні мала чаго тварілі.*

**Спецна** *прысл.* Па-майстэрску. *Гуркі ты соліш дужа сьпецна, во толька бульбы к ім зваріць ня дужа пулучаіцца.*

**Спецнасць** *ж.* Майстэрства. *Так ён мушчына стыря́цільный, толька сьпецнысьці у яго німа, яму толька гру́быю работу дзелыць.*

**Спецный** *прым.* 1. Выдатны, выключны. *Зразу відна, што сьпецный майсьцір дзелыў, клёпычкі пыдыгна́ны шчытна-шчытна.* 2. Спецыяльны. *Я ж табе ня буду аднаму сьпецныя абеды гатовіць, што зваріла, то й еж. Памянш.* **спецненькій.** *Вы сьпецнінькія мысьцяры гароды выціраць.*

**Спеч** *зак. перан.* Зрабіць пажар знарок. *Луччы ні чыпайся, зыясіся ш чортым і можыць сьпеч. Ніякія там іскыркі ні було, яго нарошня сьпяклі свае.*

**Спешчыванне** *н.* Распешчванне. *Сьпешчывыньня самім бокым выходзіць: зы работу брацца ня хочуць, кармі іх ніізьвесна сколька, а тады, хочыш, і жонык кармі.*

**Спешчываць** *незак.* Распешчваць. *Зма́лку пычыла сьпешчывыць, паетыму і вырыс ні ў кола ні ў мяла.* **Спешчывацца** *незак.* Распешчвацца. *Ні дывай сьпешчывыцца, зыгарю́ісься зь імі, як пыдрастуць.* **Спесціць** *зак.* Распесціць. *Ну нягож хто-небудзь пріхадзіў, сыма ты яго сьпесьціла, усё ма́ліла.* **Спесціцца** *зак.* Распесціцца. *З ма́лых гадоў сьпесьціўся, цяпера позна пірядзелывыць.* **Спешчаный** *дзеепрым. У іх дужа сьпешчыныя дзеці, ні к якой рабоці ні прілума́ны.*

**Спіранне** *н.* Пярэчанне. *А што ён сьпіра́ньнім паможыць? Нада яго атву́чывыць аць сьпіра́ньня.*

**Спічка** *ж. перан.* Запальчывы чалавек. *Чаго ён тыкая сьпічка, слова ні так скызаў — пых і гатоў, гаріць. Ох, была сьпічка, ступіць піряд ёю ні ўла́дзіш. Памянш.* **спічачка.** *І дычка пыдрыстаіць тыкая самыя сьпічычка.*

**Спічына** *ж.* 1. Запалка. *Узатрі сьпічыну ды пысьвяці, а ўпацёмкых што ты ўвідзіш. 2 ж. перан.* Запальчывы чалавек. *А я і ні знаў, што йна тыкая сьпічына. Памянш.* **спічынка.** *У мяне ж ні сьпічынкі ні аста́лыся, нечым будзіць заўтря печ пытпаліць. Ішчэ ж саўсім мульчуга́н, а ўжо сьпічынка — толька паслухый.*

**Сплачыванне** *н.* Выплата. *Луччы ты зь імі ні чыпайся*

*і ні зьвя́зывыйся, як зьвя́жысься, як пычанецца сплáчывыньня, дык будзіць ня вылізьць і ні рызьвізацца.*

**Сплачываць, сплачывацца** *незак.* Выплочваць, разлічвацца. *Тэй, відна, хочыць зь яго нешта ўзяць, а другей сплáчывыць ні зьбіраіцца. Па-мойму, ён дайжа ня думыіць сплáчывыцца.* **Сплаціць, сплаціцца** *зак.* Выплаціць, разлічыцца. *Іван ім усё ды капеічкі сплаціў зы хату, ніхай яны ня дурюць гылаву. Як сплоцісься, тады ты спакоін, ні пра што гылыва ні баліць.* **Сплочаный** *дзеепрым. Ты за сплочыныя грошы можыш нівісь сколька ўсяго купіць.* **Сплацёмшы** *дзеепрысл. Ён ні хацеў у даўгу астывáцца, паехыў, усё сплацёмшы.*

**Сподка** *ж.* Сподняя кашуля. *Во дужа рыжжáрійся, ужо сподку ня хочыць ныдзіваць. Памянш.* **сподачка**. *Надзень сухенькыю сподычку, а ету павесь над духым, ніхай прасохніць.*

**Споранне** *н.* Спрэчка, стрыманая лаянка. *Тута спорíньнім дзела ні ныправіш. Нічога табе ні дасьць спорíньня, толька большы зыясíся,— во што будзіць.*

**Спораннік** *м.* Той, хто спрачаецца, стрымана лаецца. *Як рызыйшоўся ваш спорíньнік: як ета так, большы я цярьпець такога ні стану.* **Спораніца** *ж. Пупадзець калі-небудзь етый спорíньніцы, большы некуды пупадзець.*

**Спорыць** *незак.* Спрачацца, стрымана лаяцца. *Ета нічога, што яны паспорілі, сяньня яны спорюць, а нызаўтріга узноў улагодня.*

**Справедыванне** *н.* Адведкі, адведванне. *Вы хочыця сходзіць сяньня, сходзіць ба, канешня, нада, толька ёй можа ні ды справедывыньня.*

**Справедываць** *незак.* Наведваць, адведваць. *Ці ходзіць жа Мархва сьвякруху справедывыць?* **Справедаць** *зак.* Наведаць, адведаць. *Як пашлі Аньку справедыць зрáньня, дык во цямнеіць, а іх усё німа, ладна справедывыюць.* **Справеданый** *дзеепрым. Калі ж іна справедына, у яе даўно ніхто ня быў, нада будзіць сходзіць у скрысеньня.*

**Справядлова** *прысл.* Правільна, справядліва. *Чаго вы крічыцё, Ільля спрывядлова скызаў, мала што вам праўда ні ныравіцца.*

**Справядловасць** *ж.* Справядлівасць, сумленнасць. *Круцель, мот, ікая ў яго спрывядловысьць, у чом хочыш і калі хочыш пыдвядзець.*

**Справядловый** *прым.* Справядлівы, сумленны. *Тут не-*

*чыга гывaрiць, Купрей — чылавек спрывядловый, ён ні ў чом ні пыдвядзець.*

**Спраўка** *ж.* Упраўка. *У вас с такім пырядкым спра́ўкі ні разу ня будзіць. Калі ў рабоці спра́ўка, тады ўсё хырашо.*

**Спраўлянне** *н.* Набыццё, пашыў (адзення). *Ны такоя спруўля́ньня грошы многа нада, а ты ня дужа зырыбляць хочыш.*

**Спраўнець** *незак.* Папраўляцца. *Ён ня трошку, а ладна ў цябе спраўнеіць. Скот спраўнеіць, як ны траву выходзіць.*

**Спрацівець, спраціўнець** *зак.* Зрабіцца непрыемным, абрыднуць. *Мікілай спрацівіў ёй большы некуды. Кажныя раньня кулеш і кулеш, ён спрыціўнеў саўсім, га́лычык с салым зварі.*

**Спрыкліванне, спрыклянне** *н.* Прыкрасць, абрыдласць. *Ну што ж спріклівыньня табе дасьць, кылі свой дзіцёнык, учыць нада, вухріць усякій раз. А іна мне ўжо гылаву адуріла пры спрікля́ньня.*

**Спрыкліваць, спрыклівацца, спрыкляцца** *незак.* Рабіцца непрыемным, брыдкім. *Ён мне ужо даўно пычаў спріклівыць, ета ны хрісьціных толька пыдба́віла. Такей жа ныдыя́длый ма́ліц, кажный дзень настолька спріклівыіцца, пряма ні знаю, што б зь ім зьдзелыла. Калі ты мне пірістаніш спрікля́цца, ай лупкі зыхацеў?* **Спрykліць, спрыкліцца** *зак.* Зрабіцца непрыемным, абрыднуць. *Ён мне большы спрікліў, чым табе. Другей раз як спрікліцца, дык, кажыцца б, ні глядзела, а тады серца атойдзіць і жалка.*

**Спрэжч** I *зак.* Упрэгчы ў адзін воз (двух ці некалькіх коней). *Коні па́ркыю спрёг, тады чуць выцігнулі рыскаты́, дужа цяжолыя бірьвяно.* **Спрэжаный** *дзеепрым.* *Крепкія коні спрежыны, любэй воз пыця́гнуць.*

**Спрэжч** II *зак.* Спражыць. *Ну няўжэлі ты пріжма́ ня ўмеіш спрежч, ета ж проста дзелыіцца.*

**Спужываць** *незак.* Зганяць палохаючы. *Ты ні зда́ліку спу́жывый, а з-зу куста пыткра́дзься ды пугыю хырашэнька пірiцягні,— што за збродлівыя цёлка!* **Спужывацца** *незак.* Палохацца. *Сколька разоў ён спу́жывыўся то таго, то другога.*

**Спучыванне** *н.* Збіванне з правільнага шляху. *Я яму дам калі-небудзь за ета спу́чывыньня, кажын раз мальцыў зьбіваіць с толку.*

**Спучываць** *незак.* Збіваць з правільнага шляху. *Іх*

*Мікілайка усё ўремя спу́чывыў, самі яны многа цішэйшыя.* **Спучывацца** *незак.* Збівацца з правільнага шляху. *Як пычалі спу́чывыцца, то ня жджы толку.* **Спуціцца** *зак.* Збіцца з правільнага шляху. *Адны б яны так ні спуціліся, каб ні Кыпачонык.* **Спучаный** *дзеепрым. Спу́чыныя ма́льцы, саўсім спу́чыныя, цяперя зь імі дужа трудна будзіць.* **Спуцёмшы** *дзеепрысл. Спуцёмшы аднаго, зу другіх бярецца, што йта за ўредзіна тыкая чылавек.*

**Спынуцца** *зак.* Прыпыніцца, перапыніць дзеянне. *Нямножка я спыну́лыся, мы во другей дзень ня йдзём, ільлець як зь відра.*

**Спырскыванне** *н.* Апырскванне. *Посьлі спы́рскывыньня цьвяты пысьвяжэлі, пыдняліся, іх нада часьцей спы́рскывыць.*

**Спырхыванне** *н.* Саскокванне. *Будзіць вам спы́рьхывыньня, як нагу каторый падверніць, ета ж даду́мыліся с такея вісычыны́ пы́рьхыць.*

**Спыхыванне** *н.* Частае перарывістае дыханне. *Глянька ты ны яго спы́хывыньня, ажно хвытаіць воздух.*

**Спыхывацца** *незак.* Часта перарывіста дыхаць. *Як кытану́ць упірягонкі ды кынавы, а тады нызад, посьлі чуць спы́хывыюцца.*

**Спяліць** *незак.* Даспяляць, даводзіць да спеласці. *Ён рана ні зьнімаіць яблык, доўга сьпяліць.* **Спяліцца** *незак.* Даспяляцца. *Нейкій у цябе дужа харошый сорт сьпяліцца.* **Спеленый** *дзеепрым. Я сваім пыслаў сьпеліных яблык, яны смашныя сталі.*

**Сродзіч** *м.* Сваяк. *К Хрісьціні пынаехыла сродзічыў, айдзе іна іх мясьціць будзіць. Сродзічы,— зымаріліся ходзічы.*

**Сродства, сродствіе** *н.* 1. Сваяцтва. *Ня дужа цяперя пра сродства помнюць, ні так, як раншы сыбіраліся свае цэлыю тылакою. Ета сродствія, яны дужа радніліся.* 2. Сваякі. *Сродства к вашым прішло, угышчаць будуць. Як сыбярецца сродствія, быльшая куча.*

**Ссабачыцца** *зак. асудж.* Канчаткова ператварыцца ў распусніка, брахуна, прайдзісвета. *Што ты зь ім пыгаворіш, кылі ён саўсім ссыба́чыўся.* **Ссабачаный** *дзеепрым. А якея ж яны абоя ссыба́чыныя сталі, мы на іх ладна ныдзікува́ліся.*

**Ссаджыванне** *н.* Зніманне таго, хто сядзіць. *Крепінька бярі яго пыт па́шкі, ато ка́хніш аб мост, будзіць тады сса́джывыньня.*

**Ссаджываннік** *м.* Той, хто ссаджвае. *Глядзі, каб ён*

*ні пыляцей, етый дзіцёнык, умесьці іс такім ссáджывыньнікым.* **Ссаджыванніца** *ж. Я віджу, ікая сь цябе ссáджывыньніца.*

**Ссалавець** *зак.* Зрабіцца ачмурэлым, ап'янелым, сонным. *Іна саўсім слаба, чáрычку узіла і ссылавела.* **Ссалавелый** *дзеепрым. Я іх відзіла: выйшлі ны ґанкі ссылавелыя.*

**Сседзець** *зак.* Выседзець церпячы. *У той жарішчы ні так лёхка було сьседзіць, жарішча, а яшчэ дым, нукурілі мушчыны.*

**Ссініваць** *незак.* Збіваць да сінякоў. *Не, ня будзіць ён адурювáць, ня будзіць сьсінівыць мáльца, я яго абразýю.* **Ссініць** *зак.* Збіць да сінякоў. *Пыцягнулі ў паліцыю, сьсінілі там усяго, нейкімі зымкамі білі, пусьцілі чуць жывога.* **Ссінены** *дзеепрым. Будзіць яму вічарінка, як сьсінены явіцца.* **Ссінёмшы** *дзеепрысл. Сьсінёмшы мáльца, ішчэ сьмяецца, я яго нысьмяюся.*

**Ссопцца** *зак.* Адсапціся, здыхацца. *Зыхáкыўся, што ссопцца ня можыць, так зымарíўся, пакуля траву данёс.*

**Ссубочываць** *незак. жарт.* Прывучаць хадзіць на вечарынкі. *Ну што, вы і Міцю пычынаіця ссубочывыць?* **Ссубочывацца** *незак.* Прывучацца хадзіць на вечарынкі. *Ляньці-ка, як яны скорінька пычынаюць ссубочывыцца.* **Ссубоціць** *зак.* Прывучыць хадзіць на вечарынкі. *Ну й гаўрікі, ссубоцілі етыга мáльца.* **Ссубоціцца** *зак.* Прывучыцца хадзіць на вечарынкі. *Не, толку з вас ні пулучаіцца, саўсім вы ссубоціліся.*

**Ссыпанне** *н. перан.* Ссоўванне, скіданне нітак з клубка; ссунутыя, скінутыя з клубка ніткі. *Зы ссыпáньня пу руках палучыш. Усё ссыпáньня узмытаць нада, ато паложыш — яно паплýтыіцца.*

**Ссыпаць** *незак. перан.* Ссоўваць з клубка (ніткі). *Клубок табе ні цацка, ты ня будзіш ніткі ссыпáць, пыкладзі.* **Ссыпацца** *незак.* Ссоўвацца з клубка (пра ніткі). *Ніткі нятýга нымытáны, паетыму і ссыпáюцца.* **Ссыпаць** *зак.* Ссунуць з клубка (ніткі). *Астарожна бярі клубкі, ато ссы́пліш ніткі, тады прíдзіцца нáныва мытаць.* **Ссыпацца** *зак.* Ссунуцца з клубка (пра ніткі). *Клубок вы́сых і нескылька пасмыў ссы́пылыся, могуць папýтыцца. Пылажы клубок, ато ніткі ссы́пюцца.* **Ссыпаный** *дзеепрым. Ссы́пыный клубок нада пірімáтывыць.*

**Ссыпішча** *н.* Пасудзіна ці месца для ссыпання. *Стáрыя бочычкі пывязьлі у Рылыўшчыну і ныпрáвілі, каб на ссы́пішча былі.*

**Сталковываццa** *незак.* Дамаўляцца. *З Напреім дужа трудна сталковывыцца, як глума́к нейкій.* **Сталкаваццa** *зак.* Дамовіцца, паразумецца. *Штоб такея ма́хырі ды ні стулкува́ліся, на іх ны абоіх шапкі гыряць.*

**Стальвага** *ж.* Ворчык у параконным плузе, баране. *Нада б новыю стыльва́гу зьдзелыць, ета чуць ліпіць. Памянш.* **стальважка**. *Па-мойму, стыльва́жка у пуні зы саломыю ліжала.* **Стальважжа** *н. зб. Накідылі стыльва́жжа кучыю, худзь ба акуратна склалі.*

**Стальважына** *ж.* Асобны ворчык у параконным плузе, баране. *Я ў цябе вазьму стыльва́жыну ны сяньня, увечыpi прінясу. Памянш.* **стальважынка**. *Крепінькыя стыльва́жынка, лёгінькыя і крепінькыя.*

**Стальга, стальгом** *прысл.* Стоячы і застыўшы. *Чаго яны тама стыльга́ сталі? Тута работа гаріць, а яны стыяць стыльга́. Стануць стальгом і як прікымянеюць.*

**Стальніца** *ж.* Верхняя частка стала. *Дзеці зылілі стальніцу чарнілым, ацскрібаць нада. Памянш.* **стальнічка**. *Змый чысьцей стальнічку, патрі вехцім хырашэнька.*

**Сталюжка** *ж.* Невялікая сталюга. *Сяньня мае пілюць досткі, ураньні прівязьлі сталю́жкі ат Мітрыхванывых.*

**Сталюжына** *ж.* Частка або дэталь сталюгі. *Заднія сталю́жына выляіцца лі хворысьця. Памянш.* **сталюжынка**. *Ета сталю́жынка саўсім рызва́ліiцца, нада зьбіць крепка.*

**Сталяванне, століенне** *н.* Насціланне столі. *Ішчэ доўга яны іс сваім стулюва́ньнім будуць пароцца. Калі роілым дзелыюць, ні хачу я такога століньня, я найду сьпіцыялістыў застоліць.*

**Сталяваць** *незак.* Століць, рабіць столь. *Калі ты думыіш хату стулюва́ць, хылады пуцступа́юць, столі некылі будзіць сохнуць.* **Сталяваный** *дзеепрым. Каб жа стулюва́ныя хата была, ён за столь ішчэ ня думыў брацца.*

**Станяць** *незак.* Рабіць тонкім. *Дужа канцы ні стыня́й, тута зімля мяккыя, кольля палезіць.* **Станіць** *зак.* Зрабіць тонкім. *Ты ўсе кляцы лішніга станіў, іх цяперя тольки гвозьдзікымі прібіваць.*

**Старакожыватый** *прым.* З цвёрдай скурай. *Нейкыя бульба зь естыга кусочыка стыракожывытыя, станіш скаблі́ць — нажом ня ўрежыш.*

**Стараннік, старацельнік** *м.* Старанны працаўнік. *Такей стыря́ньнік, што ён табе мінуты ні пругуля́іць. Дзед твой быў стыря́цільнік, дзень і ноч работыў. Памянш.* **стараннічак**. *Ці мы ні знаім, якей стыря́ньнічык сь Кіреі-*

*выга сына.* **Старанніца, старацельніца** *ж. Матка стыряньніца, а ў дачок толька гулі на ўме, гулі ды пріборы. Зымарілыся ты сяньня, стыряцільніца мыя.*

**Старшынаваць** *незак.* Быць на пасадзе старшыні. *Многія у нас былі старшыныммі, Максім гады два стыршынуваў.* **Старшынавацца** *незак.* Пачувацца на пасадзе старшыні. *Як табе стыршынувалыся у Сяльцэ?*

**Старыкаваць, старыкоўстваваць** *незак.* Праводзіць час, жыць у пажылым узросце. *Чаго яму було ні стырікуваць зы такою спакойнаю нявесткыю. А ўжо ні знаю, як мне прідзіцца стырікоўствывыць.* **Старыкуючы** *дзеепрысл. Калі карову пыпасець стырікуючы, калі на печы пыляжыць.*

**Старычонак** *м.* Стараваты мужчына. *Стырічонык нейкій дрімаў кыла коні, я спрасіў у яго, як прайціць ны Валоўнікі.*

**Статуй** *м.* і *ж. абраж.* Дурань, тупіца. *Узмацн.* **статуіна**. *Статуіна нейкій урадзіўся, ні ў кола зь ім ні ў мяла. Стаіць як статуіна, ні пувурухнецца. Павеліч.* **статуішча**. *Во яшчэ быў статуішча, што зь ім нугурювалыся Праскоўя.*

**Стаўбак** *м.* Высокая вузкая бочачка. *Стыўбак у сяніцы стаіць лі саломы, я пыдыслала і пыставіла. Памянш.* **стаўбачок**. *Пышаніцу нада у стыўбачок пірясыпыць, ніхай пыстаіць.*

**Стаўбан, стаўбун** *м.* 1. Высокая вузкая бочачка, наогул высокая вузкая ёмістасць. *Выда ў стуўбане ў сенцых. Ссып ячмень у стаўбун і ацстаў ґ боку. 2 перан. груб.* Галава. *Ішоў тут цірізь дзярейню яе зяць, во такей во стуўбан, ны аршын дліньніною. А для чаго у цябе стаўбун ны плічах сядзіць? Памянш.* **стаўбанок, стаўбунок, стаўбанчык, стаўбунчык**. *Сьвежыя выда у стуўбанку, нідаўна прінясьлі. Нада памыць стуўбунок сь кіпятком, каб чысьцінькій быў. У мяне стуўбанчык з гуркамі зынят. У стаўбунчык вады нылілі, а ён здорыва пацёк.*

**Стаўбяк** *м.* Невялікі кароткі слуп. *Во тута зыкыпай крепкій стыўбяк, і ня будуць езьдзіць, край бульбы зьбіваць.* Памянш. **стаўбячок, стаўбячочак.** *Атрежця штук пяць стыўбячкоў, нада зарыць лі зугувальні ды зылажыць жардзіны. Етый стыўбячочык чуць ліпіць, падгніў саўсім.*

**Стаўленый, станоўленый** *дзеепрым.* 1. Пастаўлены, прызначаны. *Мікіпырёнык пріїжджаў са сьвету і к нам зыхадзіў, ета ўвосінь, скот ішчэ ня быў стаўлін. Пакуль*

*што ў іх ніхто ні станоўлін, біз брігадзіра жывуць.* 2. Устаноўлены, узведзены, збудаваны. *Ці стáўліны ж тама хуць штындáры? Калі ета ваша хата стáўліна, ёй пырядышна ўжо гадоў. Я чуць помню, як Тріхонывa гумно станоўліна.*

**Стаўхыванне** *н.* Саштурхоўванне. *Ці відзіш яго стáўхывыньня, нарошня ж дзелыіць,— каб пільнýў вярёвычкыю, ён ба жыва уняўся.*

**Стаўхываць** *незак.* Саштурхоўваць. *Сядуць за стол, а тады дывай адзін другога стáўхывыць сы скамейкі, нійдзе ім спакою ні буваіць.* **Стаўхнуць** *зак.* Саштурхнуць. *Пывярнуўся і стаўхнýў кушунок, на дробныя кусочыкі рассыпыўся.* **Стаўхнутый** *дзеепрым. Стаўхнýтыя лáтычка разьбілыся.*

**Сташнавацца** *зак.* Збедавацца, змучыцца ад перажываннях. *Аксюціна дычка стушнувáлыся пы сваіх дзіцях, яны неік так нядýмына паехылі, а цяперя нічога ня пішуць.*

**Стаючый** *прым.* Такі, які стаіць, знаходзіцца ў стане спакою. *Ты ж ня будзіш стаючыю вярбу на дровы сеч. Стаючыя выда піць ні гадзіцца, напіцца — ета з ручуя, з рякі можна.*

**Стаяка** *прысл.* Стаяком. *Ты ўжо, знаць, стыікá сьпіш. Памянш.* **стаячка**. *Стыічкá у вугалочыку пузюзюкыліся пра нешта.*

**Стлець** *зак.* 1. Згнісці, спарахнець. *Досткі стлелі у погрібі, што рыссыпáюцца, у карзінкі вынасіць нада.* 2 *перан.* Дажыць да апошняга. *Якей зь яго памошнік, калі ён стлеў саўсім, чуць дыхыіць.* **Стлелый** *дзеепрым. Пыткладкі саўсім стлелыя, нада класьць новыя.*

**Стоіць** *незак.* Варта, належыць. *Стоіць, кылі бацька з рімушком кылы яго паходзіць. Яму ні ў чужоя места пупала, стоіла.*

**Столік** *м.* Шуфляда. *Ложкі у мяне ліжаць у верхнім століку. Выцігні сяредній столік, тама я клала катушкі.*

**Століна** *ж.* Асобная дошка ў столі. *У нас нескылька гадоў зыцікáла і зыцікала і праехыла століна, згніла. Памянш.* **столінка.** *Нескылька століныk я зымяніў, як пірістраівыліся.*

**Страдацель, страдальнік** *м.* Пакутнік. *У яго пылажэньні жыць ніхто ні пызавідыіць, ён стрыдáціль ны зямле. Горя-горя ны адной наге прыгыць с самыга хлапества, пасьледній стрыдáльнік ён. Памянш.* **страдальнічак**. *Стрыдáльнічык мáлінькій, еткыя рана у яго.* **Страдацель-**

**ніца, страдальніца** *ж.* Іна тожа на сьвеці стрыда́цільніца, *разьві яе жызьня лёхкыя. Іна, знаць, адна тыкая стрыда́льніца, сколька іна чаго пірінісла́!*

**Страдаюшчый** *дзеепрым.* Такі, які пакутуе. *Біз рукі— ета стрыда́юшчый чылавек, ён пасьці нічога зьдзелыць ня можыць, дайжа кыня ні зыпрягець.*

**Страдніца** *ж.* Пакутніца. *Чаго іна тыкая стра́дніца, як якоя горя аткуль, усё ны яе гылаву.*

**Стралянне** *н.* Страляніна. *Мы тожа нейкыя стрілянья чулі, думылі, ета ахотнікі якея-нібудзь.*

**Страляннік** *м.* Той, хто страляе, стралок. *Тваім стріля́ньнікым каб руж'і, яны б ныстріля́лі.* **Стралянніца** *ж. Сь цябе ні абы-ікая стріля́ньніца, можыш вуўка улажы́ць.*

**Стралянуць** *зак.* Выстраліць. *Ета Коля зьбіра́іцца ны ахоту, ён стрілянýў, прывіряў руж'ё.*

**Страляць** *незак. перан. гумар.* Ухаджваць, заляцацца. *Я чуў, што ты зы Танічкыю стріля́іш. Сьпірва за большыю бегыў, а тады за меншыю пычаў стріляць.*

**Страм** *м.* Сорам. *Як ета ну чужэй двор іціць пароцца, я б ні стала еткій страм ны сябе браць.*

**Страміцца** *незак.* Сарамаціцца. *Вірькяёнык ня пойдзіць страмі́цца, ён совісный чылавек.*

**Страмленне** *н.* Сарамачанне. *Ежылі совісьць пыціряў, дык ён ніякыга страмленьня ні спужаіцца.*

**Страмота** *асудж.* 1 *ж.* Сорам. *Ці мала па сьвету срамоты ўсякія!* 2 *м.* і *ж.* Сараматнік. *Як табе ня сты́дна, страмота ты, ці чуў, што пры цябе людзі гаворюць.*

**Страпаленне** *н.* Падбухторванне. *Ён хітрый мужык, паслухыіць і пысьмяецца над іхным стрыпаленьнім.*

**Страпаліць** *незак.* Падбухторваць. *Яны даўно стрыпыля́ць Сьціпанёнка пысваріцца зь Іхімінятымі.* **Страпаліцца** *незак.* Намервацца, рыхтавацца. *Ці ні стрыпаліціся вы Сямёныў сад аптресьць?* **Страпальнуць** *зак.* Падбухторыць. *Ён такей: стрыпальнець, а сам убок, усё дно як нічога і ні знаіць.*

**Страпаць** *зак.* 1. Вытрапаць (лён). *Цяпе́рішнія дзеўкі ні адна жменькі лёну ня стрепліць, яны тряпы́шкі ў руках ні дзіржалі.* 2 *перан.* Знасіць дарэшты. *Ты саўсім бяс толку новый касьцюм стріпа́ў.* **Страпацца** *зак.* 1. Вытрапацца (пра лён). *Калі стрепліцца лён, тады й будзіць, тута ішчэ трёпыныга на дзьве нядзелі прясьць.* 2. Знасіцца дарэшты. *Дужа скора ў цябе ета кухвайка стріпа́лыся.* **Страпаный, стропаный** *дзеепрым.* 1. Вытрапаны (лён).

*Стріпа́ный лён уськінула с краю на печ, трошку пацсохніць. Нешта я твой стрёпыный лён ні найду.* 2. Зношаны дарэшты. *Ішоў пы дзярэўні Васіль: пінжачы́шка стріпа́ный, плашч ціріз руку пірякінут. Ня прі ты ішчэ ны сябе стрёпыныга лахмоцьця.*

**Страхалюд, страхалюднік, страхапуд, страхапуднік** *м.* Страшны са знешняга выгляду чалавек, пачвара. *Во нейкій стрыхалю́д ідзець, каб адзін ны адзін стрэўся, дык хуць уцікаць бягі. Ніхай ён і ні заходзіць, стрыхалю́днік, а ні чылавек. Як іна зы такога стрыхапу́да ішла замуж, ета ж кажный дзень відзіць яго пірід вычамі. Не, мне ваш стрыхапу́днік саўсім ні нада. Узмацн.* **страхалюдзіна, страхапудзіна.** *Няўжэлі іна за тога стрыхалю́дзіну пойдзіць? Нечыга весьць сюда стрыхапу́дзіну. Павеліч.* **страхалюдзішча, страхапудзішча.** *Чаго ён удаўся такей стрыхалю́дзішча? А ці йна сыма меншыя стрыхапу́дзішча?* **Страхалюдка, страхалюдніца, страхапудка, страхапудніца** *ж. Ты хуць сваю стрыхалю́дку дужа на людзі ні вывадзі. Стрыхалю́дніца ты, цябе дайжа дзеці быяцца. Во, некуды ж і Гаўрілыва стрыхапу́дка сыбралыся. Усё іхный стрыхапу́дніцы места німа.*

**Страхалюддзе, страхалюдства, страхапуддзе, страхапудства** *н.* Страхата, пачвара, жудасць. *Такоя ужо було стрыхалю́дзьдзя, што ні пріду́мыіш якоя. Там аднае дзеўкі путнэя німа, адно стрыхалю́дзьдзя. Во стрыхалю́дства пашло, а нехта ж і жывець зь ім. Було мне ўсякыга стрыхалю́дства. Каб ні Кірілыва стрыхапу́дзьдзя, яны б мірна рызыйшліся. Нашто ёй еткыя стрыхапу́дзьдзя брацъ у хату? Вядзець сваё стрыхапу́дства ны свадзьбу, ня відзілі яе тама. Табе б і нада харошыя стрыхапу́дзства.*

**Страхалюдный, страхапудный** *прым.* Страшэнны, пачварны, жудасны. *Ці відзілі калі на сьвеці такога стрыхалю́дныга чылавека? Што ты там такоя стрыхапу́дныя увідзіў?*

**Страхануць** *зак.* Стрэсці. *Стріхані сьнег сы рьміка́, мокрый січас станіш. Ні жалей яблык, нада хырашэнька стріхану́ць і ўзяць с сабою.*

**Страхаццё, страхоцце, страхаўё** *н.* Страхата. *А ці нам меншыя стрыхацьцё було, як мы пы кынавых хуваліся? Другей раз як ныбярэсься страхоцьця, дык сам сябе ня чуствыіш. Мне такоя стрыхаўё було, што ні знаю, як я жыва аста́лыся.*

**Страшыць** *незак.* Крыць страху саломай. *Ён масьцір*

*стряшыць, так дывядзець крышу, укряпіць, што іна підзьдзісят гадоў сьмела прыстаіць.*

**Страшэнне** *н.* Пакрыццё страхі саломай. *Каб ні разьехылыся яго стряшэньня, нешта ён ня дужа крепка прівізкі пріціскáіць.*

**Строга** *прысл.* Асцярожна. *Дужа строга йдзі, тама кругом ямы. Выш ст.* **стражэй, стражчэй.** *Ты кыла вілык глядзі стражэй, ато пырянець ні пагледзіўшы, што тады. Стражчэй еж, ні апкáпывыйся. Памянш.* **строгенька, строгенечка.** *Бярі і дужа строгінька нясі, гырлачык чуць ліпіць. Мы строгінічка спускалі, а вярёўка пырвалыся.*

**Строгій** *прым.* Асцярожны, акуратны. *Строгыя карова, кылы яе ні прайдзі, ні шывяльніся. Выш. ст.* **стражэйшый, стражчэйшый.** *Каб ты быў стражэйшый, новінькій гырлáчык ні разьбіў ба. Сямён куды стражчэйшый чылавек, а во і ён у квас пупаў. Памянш.* **строгенькій, строгенечкій.** *Ні такей ён строгінькій, як ты гаворіш. Іна дужа строгінічкыя дзяўчонка.*

**Струганнік** *м.* Той, хто стругае. *Як кініш адных у хаці на цэлый дзень, дык чаго толька етыя стругáньнікі ні пынадзелыюць. Памянш.* **струганнічак.** *Уго ўзяўся стругáньнічык, як саскочыць нож пу руке!* **Струганніца** *ж. А сь цябе глядзі-ка, сьпецныя стругáньніца.*

**Струп'е** *н. зб.* Струпы. *Стрýп'я засохла, кроў большы ні цякець, а нуступіць ны нагý ня можыць, гаворіць, больна.*

**Струпехнуць** *зак.* Струхлець. *Мне ў хаці нада увесь верьх новый прыізвадзіць, крючча слабыя, а паплёт саўсім струпех.* **Струпехлый, струпехшый** *дзеепрым. Я думыў, зь яго шўльца палўчыцца, зь етыга бірнушкá, а яно струпехлыя. Струпехшыя палкі пыпірісікáй ці пулумай у печ, ніхай ні выляюцца.*

**Стрывожыцца** *зак.* Занепакоіцца, узрушыцца. *Нечыга каровы стрівожыліся, глідзяць ну кусты і бокым, бокым ат іх.* **Стрывожаный** *дзеепрым. Яму нілізя цяжола пыднімаць, у яго сяредзіна стрівожыныя.*

**Стрыжань** *м.* Згустак гною ў нарыве. *Як дыўлянýў, бальшэй стрыжынь выйшыў.*

**Стрыжэннік** *м.* Той, хто стрыжэ. *Я знаю, якей зь яго стрыжэньнік: рідáмі зьдзелыіць, зьдзелыіць, што шапку будзіць стыдна зьдзець.* **Стрыжэнніца** *ж. Другая стрыжэньніца бярецца, ета січас ныпрáвіць.*

**Стрыканне** *н.* Апёк крапівой. *Ты ў мяне січас палу-*

*чыш зы стрыка́ньня, ета ж нада, такей ба́лыўнік, стрыка́іцца крапівыю.*

**Стрыкатый. стрыкатный, стрыклівый** *прым.* Пякучы (пра крапіву). *Дужа крапіва стрыка́тыя, пряма палю́чыя. У Глыбокій кынаві многа було крапівы, ды стрыка́тныя-стрыка́тныя. Жы́гучка — ох, стрыклівыя крапіва, а глухая ні стрыка́іцца саўсім.*

**Стрыкаць** *незак.* Пячы (крапівой). *Што йта зы балыўнік: ірьвець крапіву і стрыка́іць пы ныгах, і як ён сам ні апстрыка́іцца.* **Стрыкацца** *незак.* Пячыся (пра крапіву і крапівой). *Глухая крапіва ні стрыка́іцца, а ета жыгу́чка, як агонь. Ты чаго стрыка́ісься, а, воць січас у мяне палучыш.* **Стрыкануць** *зак.* Апячы (крапівой). *Ох, я крепка руку стрыкану́ла, каб іна ўжо ні знаю што, ета крапіва. О-ё-ёй, крапівіна стрыкану́ла!* **Стрыкануцца** *зак.* Апячыся (крапівой). *Тама, глядзі, стрыканесься, дык будзіш ікыта́ць.* **Стрыканутый** *дзеепрым.* *Ці хырашо сымаму́ стрыканутыму?*

**Стрыножыванне** *н.* Прывязванне галавы каня да спутаных ног так, каб мог толькі скубці. *Ёсьць коні, што ніякыга стріножывыньня ні быяцца, лазовыя путы пірігрыза́юць, пывады́ ірвуць.*

**Стрыножываць** *незак.* Прывязваць галаву каня да спутаных ног так, каб мог толькі скубці. *Стріножывыюць такіх коні, якія дужа у шкоду бегыюць.* **Стрыножыць** *зак.* Прывязаць галаву каня да спутаных ног так, каб мог толькі скубці. *Стрінож кыня ды пусьці за пунію, ніхай скубанець.* **Стрыножаный** *дзеепрым.* *Такей халерный конь, ён табе і стріножыный у вык зыскачыць, нізашто ня ўгле́дзіш.*

**Стрышчываць** *незак.* Скручваць ніткі ў некалькі столак. *Хто ўмеіць стрышчывыць ніткі, а хто ні знаіць, як узяцца.* **Стрысціць** *зак.* Скруціць ніткі ў некалькі столак. *Крепкій шнур стрысьціла ны сыныпря́тку, ня будзіць кажныю мінуту ірвацца.* **Стрышчаный** *дзеепрым.* *Айдзето пылажыла стрышчыный кончык і ні найду нійдзе.*

**Стрэтый, стрэчаный** *дзеепрым.* Сустрэты. *Так стретыя, чаму ж яны ня будуць давольны. Мархва дужа хлібасольныя, у яе госьці ўсігда будуць і стречыныя і праводжыныя.*

**Стрэчанне** *н.* Традыцыйнае свята грамніцы. *Купацёнкыва дычка на стречыньня зыхадзіла к нам. Гаворюць, што зіма зь вясною сустрюка́юцца, паетыму і завуць стречыньня.*

**Студжэнне** *н.* Астуджванне. *Як пыляціць ета тваё студжэньня насну́джыныя с хвортычкі, тады пыд'ясі.*

**Студжэннік** *м.* Той, хто астуджвае. *Ты ж, студжэньнік, калі пыставіў, дык глядзі, куры січас кучыю ачыну́цца ў міскі.* **Студжэнніца** *ж. Што, нустудзіла, студжэньніца, ці я табе ні кызала глядзець.*

**Стуіванне** *н.* Прытойванне. *А што мне яго сту́івыньня, ніхай сядзіць, сколька хочыць.*

**Стуівацца** *незак.* Прытойвацца. *Ці відзіш, як кошка стуівыіцца зу кустом, віріб'я хочыць злавіць.* **Стуіцца** *зак.* Прытаіцца. *Сту́іцца і сядзіць пыць сіреньню ціхінька, думыіць, што мы ні на́йдзім яго.*

**Стуканнік, стукатаннік** *м.* Той, хто грукае, ляскае. *Заю́шыліся сту́кыньнікі, што ні пачулі, як мы зайшлі ў хату. Я січас уніму етых стукыта́ньнікыў.* **Стуканніца, стукатанніца** *ж. Скажы-ка сту́кыньніцым, каб яны пірістали ба́лывыцца. Ну німа места стукыта́ньніцым, расту́кыліся.*

**Стукатанне** *н.* Грукат, лясканне. *Можа ты скарей пачуіш стукыта́ньня, дык выйдзі, аччыні, ато я пакуля спаўзу зь естыя печы.*

**Стураць, стурываць** *незак.* 1. Хутка зганяць. *Доўга бегыў, стуря́ў кароў уку́чу. Стуря́й скот с атавы, ато будзіць табе баня. Сту́рівый кароў к аборку, яны на́п'юцца ды пыліжаць троху.* 2 *перан.* Зжынаць,. скошваць, убіраць. *Як мыладэй быў, паедуць у луг, дык чуць ні пы гіктару стуря́ў, на зорькі стынавіўся у касу. Як выйдзім жаць, мы етый клін за дзень стуря́лі. Ні мыя сіла столька сту́рівыць, як мыладэя.* **Стурыць** *зак.* 1. Хутка сагнаць. *Толька стуріў коні з лугу, і стыршына едзіць, каб зыхваціў, мала б ні було.* 2. Зжаць, скасіць, убраць. *Стуріла палоску зу пуўдня́, во быйстра жнець!* **Стураный** *дзеепрым.* 1. Сагнаны. *Каровы сту́ріны у адно места, можна і пыліжаць.* 2. Зжаты, скошаны, убраны. *Бальшэй кусок бульбы сту́рін, яны скора дарыюць.* **Стуромшы** *дзеепрысл.* 1. Сагнаўшы. *Стурёмшы к вадзе, коні пыстыяць, а пусьціш пу кустах, тады набегыісься.* 2. Убраўшы. *Столька стурёмшы, можна і пірідыхнуць, вы ўжо сотык пы дваццыць скасілі.*

**Стусмелый** *прым.* Змарнелы. *Чаго ж іна ня будзіць стусьмелыя, кылі такоя горя піріжыва́іць, ета ны каго хочыш прідзісь, біда ні красіць.*

**Стыджэннік** *м.* Той, хто сарамаціць. *Ніхай етый стыджэньнік сьпірва сам ны сябе пыглядзіць, а тады сты-*

*дзіць бярецца.* **Стыджэнніца** *ж. Мы знаім, чым Андрюшчыхіну стыджэньніцу апсеч, так асодзім, што зумурўіцца.*

**Стыдота** *ж.* Сорам. *Як дзеці ніўдалыя, тады бальшоя горя, во суседка — што йна стыдоты ныбрáлыся ад дачок, ай-я-яй сколька.*

**Стыканне** *н.* Знаходжанне. *Ёй тыкая жызьня ні нада, што нядзеля там, нядзеля тут, прі таком стыканьні сям'і ня будзіць.*

**Субарніца** *ж.* Вялікі кош для пераноскі мякіны, амецця. *Сплёў сýбырніцу бальшую, у пуўчылавека ростым, у ёй і мякіну можна цігаць.*

**Субарный** *прым.* Прызначаны для амецця, звязаны з амеццем. *Сýбырную карзіну хырашэнька вы́трісь. Ячмень дужа сýбырный, яго нада пірягресьць. Сýбырную салому пірітрісáюць.*

**Субожывацца** *незак.* Збірацца з цяжкасцю пры адсутнасці сілы. *Ён толька ны слывáх субожывыіцца, а пакуля сыбярецца, дык і ўремя пройдзіць, а то й саўсім ні сыбярецца.*

**Субоціцца** *незак. жарт.* Апранацца па-святочнаму. *Хлопцы паехылі зы гырманістым, а дзеўкі пычалі субоціцца, бегыюць адна г другой с хаты ў хату.*

**Сувай** *м.* Пяньковы шнур, які выкарыстоўваецца для віцця вяровак. *Суваі крýцюць ну крючкі, а тады зь іх уюць вярёўкі. Памянш.* **суваёк, сувайчык, суваёчак**. *Тут худзь ба сувайком прівізаў трошку, ато саўсім кусок прясла валіцца. Пыдай мне яшчэ сувáйчыкыў, тут нада многа прівя́зывыць. Суваёчыкым пiріхваці кулёк ды прімякні ны бязьмені, хунтыў пяць далжно быць.*

**Сугануць** *зак.* Саўгануць, рэзка перамясціць соўганнем. *Як суганець з лаўкі усё шырабýрья, гаворіць, я вас наўчў пырядык весьць.*

**Суглей** *м.* Глей. *Пы лашчы́ных кылы Сыжа суглей, тама нічога ні расьцець, дайжа трыва ня хочыць росьць.*

**Суглейный, суглеістый** *прым.* Глеісты. *Суглейныя зімля дренныя, на ёй нічога ня вы́рысьціць, жалься божа, што пасеіш. Кругом аборкыў суглеістыя зімля, с такея нічога ні сыбяреш.*

**Суглядкі** *мн.* Ранейшы звычай папярэдне знаёміцца з будучай нявестай і яе маёмасным становішчам. *Што ты ўсё у дваре і ў дваре, схадзіла б у сýглідкі. А што, раншы хадзілі, езьдзілі у сýглідкі, ні ў сваёй дзяреўні, а кудынебудзь далёка, айдзе ні зналі адзін аднаго.*

**Судзерж** *м.* Стрыманне. *Коні разьеліся, ім нада креп-*

*кій су́дзірж. Каб яму быў харошый су́дзірж, ён ба як чылавек жыў.*

**Судзержываць, судзяржаць** *незак.* Стрымліваць. *Некыму іх судзержывыць, яны жывуць як распу́сты. Тэя пы гылывах пашлі, а цябе ішчэ ёсьць каму судзіржа́ць, так уніму, што ня пікніш.* **Судзержаць** *зак.* Стрымаць. *Паспробый судзержыць такога, кылі ён нічога ня слухыіць.*

**Судня** *ж.* Вялікая скрыня для посуду. *Цяперіцька су́дні ні ў кога німа, ета раншы дзелылі су́дні, ставілі у сенцых і тады ў іх посыд разный сыстыўлялі.*

**Суды** *мн.* Два вядры (вады). *Пра су́ды вады ён і тулкува́ць ні станіць, січас зьбегыіць і прінясець. Двоя судоў зь мяне хвытаіць печ вы́тыпіць. Ідзі яшчэ зычарепні, адныміі су́дымі я ні абыйдуся.*

**Сужджоный** *дзеепрым.* Асуджаны. *На трі гады быў сужджоный, нідаўна вярнуўся. Пітракоў сужджоный учора пр іш оў двору.*

**Сук** *выкл.* Пры гульні ў мяч зламыснае пажаданне не папасці па мячу. *Як крікніш «сук!», тады ён ні пупадзець і саб'ецца. Сук, сук! — Ны язык!* (адказ).

**Сукаванне** *н.* Замаўлянне словам «сук» пры гульні ў мяч. *Ні баюся я вашыга сукува́ньня, былбачыця, скольска хочыця.*

**Сукаваць** *незак.* Замаўляць словам «сук» пры гульні ў мяч з мэтай, каб той, хто б'е па мячу, не папаў па ім. *Ён біць, а мы сукува́ць, во ён тады сердзіцца.*

**Сукаленца** *н.* Вузел кушчэння (у злакавых раслін). *Жыта сёліта хырошыя, вісокыя, ац сукаленца ду сукаленца чэцьвірцю ні схваціць. Сукаленцы ува ўсіх пасевых ёсьць і ў траве буваюць, праўда, ні ўвы ўсякый.*

**Суконнікі** *мн.* Штаны з даматканага сукна. *Цяперя і сукна ніхто ня ткець і суконьнікыў ня шыюць, а раншы ны зіму усім мушчыным шылі суконьнікі, тады ва́тышных штаноў ні було. Памянш.* **суконнічкі**. *Можа б ты сяньня суконьнічкі надзеў?*

**Суконніца** *ж.* Суконная кашуля. *Дзьве суконьніцы свайму пашыла, ён і носіць кажныю зіму ныпіряменку, а яны дужа цёплыя.*

**Сулдыжка** *ж.* Вялікая костка. *Сулды́жку пысякі тупічкыю, разы ны чатырі будзіць у гаршчок укінуць. Так жа больна я ўдаріўся сулды́жкыю. Памянш.* **сулдыжачка**. *Німа ўжо там ніякыга мяса, сулды́жычка асталыся зваріць. Павеліч.* **сулдыжышча**. *Во ішчэ ікая сулды́жышча асталыся, у капусту кідаць будзіць.* **Сулдыжжа** *н. зб.*

1. Вялікія косці. *Высых на шчэпку, кругом сулдыжжа тарчыць.* 2 груб. Ногі. *Чаго ты сулдыжжа выцігнуў на ўсю хату?*

**Сулдыжына** *ж.* Асобная вялікая костка. *Сыбакі пупалі нейкыю сулдыжыну і цігаюць, у гарод як зывылакуць, дык патрўць усё. Памянш.* **сулдыжынка**. *Ну злазь ны хату, пыглядзі, там ішчэ сулдыжынка вісела, можа атрежыш што.*

**Суленне** *н.* Прапаноўванне. *Ці мы ні знаім, як Андряёўна пасўліць, пасўліць — і каб ты ня сеў,— ні хачу я такога суленьня.*

**Сумарак** *м.* Замарачэнне. *Сяджу, сяджу, а тады як найдзіць нейкій сўмырык, пряма ні знаю, што са мною.*

**Сумардак** *м.*, **сумардачына** *ж.* Вялікае нязручнае палена. *Як хвачу якей-небудзь сумурдáк, дык твае жыніхі будуць ляцець ат'етуля як мітульгá. Куды ж такую сумурдáчыну увапреш у печ, яе нада хуць пупылáм піряреэыць.*

**Сумляванне, сумленне** *н.* Сумненне. *Якоя тут можыць быць сумлювáньня, яны праўду гаворюць. У яго сумленьня і раншы було нашчот Ныпряёнка, а тута яшчэ Сашка пыттріпáла.*

**Сумлявацца** *незак.* Сумнявацца. *Каб сумлювáўся, ён ба к Цімоху ні пашоў, відна, веріць ыпраўду.*

**Суножка, суножына** *ж.* Падножка ў калаўроце, у стале паміж ножкамі. *Суножку усё ўремя ныжымаіш нагою і атпускаіш, ныжымаіш і атпускаіш, так і прядзеш. Суножына разьехылыся, нада гвызьдзічкáмі зьбіць, ато выіжджáіць усё ўремя. Памянш.* **суножачка, суножынка**. *Суножычка чуць ліпіць, два разы ацскáкывыла. Суножынка, глядзі, во так во паміж ножкымі у сыныпряткі укріплялыся, у самым нізу.*

**Сунуць** *незак. перан.* Рухацца гуртам. *Мы глядзім, хто ета, ажно кырыбчані сўнуць ны вічарінку, чылавек пітнаццыць зразу.*

**Супарат** *м. жарт.* Упарты чалавек. *Памянш.* **супарацік**. *Ужо січас такей бярецца супурáцік, во хаці, каб зь яго толк быў, як пыдрасьцець. Узмацн.* **супараціна**. *Ну й супурáціна Мархвін сын, як увапрецца, ніяк яго ні піряпреш. Павеліч.* **супарацішча**. *Ого, якей ты супурáцішча, я дайжа ня думыў, што ты такей.*

**Супаратыванне, супаратства** *н.* Жартоўнае супраціўленне, натуранне. *А калі рімушком кыла хвосьціка зу*

*супура́тывыньня, тады што? Ён дужа любіць супура́цтва. Ой, палучыш ты ў мяне січас зу супура́цтва.*

**Супучыванне, ссупучыванне** *н.* Збіванне з правільнага шляху. *Я яму дам супу́чывыньня: усякый дураце вучыць ма́льцыў, зьбіваіць іх с толку. Знаіш, што табе будзіць зу ссупу́чывыньня, нашто табе етых мальцыў прізмушча́ць, усякыю дурату ім верзьць.*

**Супучываць, ссупучываць** *незак.* Збіваць з правільнага шляху. *Нада ету кынпанію разьбіць, ато яны супу́чывыюць ма́льцыў. Яго Ныпрііняты ссупу́чывылі, як яны паехылі, дык і Коля пыцішэў.* **Супучывацца, ссупучывацца** *незак.* 1. Збівацца з правільнага шляху. *Зря ты за імі ні глядзіш, яны ў цябе ўжо супу́чывыюцца. Зы пасьледнія ўремя і Яхімыў хлопіц стаў ссупу́чывыцца.* 2. Бянтэжыцца, саромецца. *Ён сьцясьніцільный, што скажы, ён зразу супу́чывыіцца. Іна ўсігда прі нізнакомых ссупу́чывыіцца.* **Супуціць, ссупуціць** *зак.* Збіць з правільнага шляху. *Бысяччо — во хто яны, каго хочыш супу́цюць. Уредныя людзі, любога пыд'ялдыкнуць і ссупу́цюць.* **Супуціцца, ссупуціцца** *зак.* 1. Збіцца з правільнага шляху. *Зы дзіцямі, асобінна зы мальцымі нада глядзець ды глядзець, ато ім нядоўга супу́ціцца. Еткыму скора ссупу́ціцца, у якуюнебудзь кынпанію пупадзець і гатоў.* 2. Збянтэжыцца, засаромецца. *Ён пыняў, што так ні нада було гываріць, дык неік супу́ціўся. Якей-то дужа сьцясьніцільный, слова скажыць і ссупу́ціцца.* **Супучаный, ссупучаный** *дзеепрым. Супу́чыных трудна на пуць ныvадзіць, нада глядзець, каб змалку ні рызба́лывыліся. Ён ходзіць цяперя ссупу́чыный, ні знаіць, што дзелыць.*

**Сураджанне** *н.* Падрыхтоўка, збіранне. *Скарей кынчайця суріджа́ньня, сколька вас тутыцька ждаць нада.*

**Сураджаць** *незак.* Рыхтаваць, збіраць. *С са́мыга ра́ньня суріджа́іць сваіх нявест у горыд, верна ж, нехта будзіць сустрюка́ць.* **Сураджацца** *незак.* Рыхтавацца, збірацца. *Дзеўкі пабеглі двору суріджа́цца, сяньня будзіць дужа харошыя вічарінка.* **Сурадзіць** *зак.* Падрыхтаваць, сабраць. *Я, бувала, і суряджу́ сваіх пад лёд ехыць, і стрену с-пад лёду, а яны, случа́лыся, і мокрыя прііжджа́лі.* **Сураджоный** *дзеепрым. Мае ўсігда былі і накормлiныя, і суряджоныя, пы хаці яны нічога ні зналі, толька старік калі бярема дроў унясець.* **Сурадзёмшы** *дзеепрысл. Аўгінка, ні сурядзёмшы сваіх, ня пойдзіць.*

**Сур'е** *н. зб.* Смецце. *Вядро з вадою стыяла лі ґаньык, дык су́рья ўсякыга насы́пылыся.*

**Суростак** *м.* Зростак. *Крепкій суростык, яго ні рызаб'еш. Мы ўдоўж піріпілілі суросткі, і яны пыкалоліся.*

**Суроцы** *мн.* Сурочанне, урокі. *А што ты думыіш, можа ета і ныпраўду суроцы. Кыла дзевык цябе і суроцы ні бяруць.*

**Сурошлівый** *прым.* Такі, які можа сурочыць. *Кызалі пры яе, што йна дужа сурошлівыя, а ці праўда — ета мы ні знаім.*

**Сурына** *ж.* Парушынка. *Айдзе суріна пупадзецца, выкінь, нашто ж сьмяцьцё крышыць. Памянш.* **сурынка, сурыначка**. *Так чыста падмеціна, ні сурінкі нійдзе німа. Пы вадзе суріныч кі кой-айдзе плáвыюць.*

**Сурыць** *незак.* 1. Смеціць. *Дзеці бегыюць, балыюцца, усюдых сýрюць.* 2. Растрасаць рэдка (гной). *Айдзе гной сурілі, пышаніца трошку луччы зіляней ць.* **Сурыцца** *незак.* Смеціцца. *Ета са столі сýріцца, як ходзіш, гліна палопылыся і шчэлкі абрузувáліся.* **Сурнуць, суpануць** *зак.* 1. Насмеціць. *Ты сваімі мішкамі сурнýў, нада акуратней хадзіць лі посыду. Хто ж тут можыць сурянýць кромі цябе.* 2. Растрэсці рэдка (гной). *Гною як сурнеш, тады ўсё расьцецъ скарей. Трошку сурянýлі пыд гряды гною— мала.* **Сурнуцца, суранущца** *зак.* Насмеціцца. *У ваду сурнýлыся зьверьху, шчарепый крýжычкыю ціхінька. Трошку сурянýлыся, ета ніважна, зьліць нада.* **Сурнутый, суранутый** *дзеепрым.* *Тут ня толька сурнýта, а пряма насыпына нейкыга сьміцьцá. Я віджу, што сурнýта, зьмяці, ні кладзі вузялок. Усё сурянýтыя зьмяці пыдз загнет, чысьцей будзіць у хаці.*

**Сурэнне** *н.* 1. Насмечванне. *А йдзі ат'етуля с суреньнім, сьміцьцá і біс тваіх карзін хвытаіць.* 2. Растрасанне рэдкім слоем (пра гной). *На етым полі суреньня ні паможыць, тута нада укласьць ды ўкласьць гною, яно саўсім пуста, гной тэй ніізьвесна калі клáджын.*

**Сусветный** *прым. перан.* Найпершы, найгоршы. *Якея ты работы ат яго хочыш, ета ж сусьветный гультай. Узяўся ты тулкувáць пру сусьветныга дурука. Сусьветныя зладзеі былі і бацька, і сын.*

**Сустой** *м.* Асадак на дне пасудзіны з вадкасцю. *Калодзіж даўно ня чышчын, у вадзе многа мýту, ноч пыстаіць, дык на дне у вадзе сустой.*

**Сустраканне** *н.* Сустрэча. *Нешта іхным гысьцям ні пыныравілыся сустрюкáньня. Быгатыя було сустрюкáньня, яны двоя судык гатовіліся.*

**Сухоты** *мн.* Схуднелая асоба. *Ай, сухоты, а ня жы-*

*ціль, чатніць усё ўремя. Сухоты етый маліц, саўсім як шчэпычка.*

**Сушчаство** *н.* Існаванне. *Ня жызьня, а нейкыя сушчаство, расьпіўся саўсім нікўды, што й будзіць зь яго.*

**Сушчэп** *м.*, **сушчэп'е** *н.* Счапленне. *Ці крепкій жа ты сушчэп зьдзелыў, каб ні разьехыліся козлы, будзіць тады дзялоў пірядзелывыць. Калі хырашо пыдыгнана, сушчэп'я крепка дзяржыцца.*

**Схаджываць** *незак.* Спраўляцца ў хадзе. *Па Пёклі ты дужа ні гарюй, іна ішчэ з мыладымі схаджывыіць.* **Схадзіць** 1 *незак.* Спраўляцца ў хадзе. *Сь Кісялёнкым схадзіць ні так то лёхка.* 2 *зак.* Прахадзіць. *Ету восінь ты ішчэ у сваёй старый кухвайкі сходзіш. Лі двыра у чым схадзіў, у тым і ладна.* **Сайціць** *зак.* Справіцца ў хадзе. *Ні глядзі, што старэй, ты папробый зь ім сайціць, як пышавеліць, быйстра-быйстра ідзець.* **Сходжаный** *дзеепрым.* *Сходзіць ён, будзіць сходжына, яму адзін шаг лень зьдзелыць.*

**Схаіваць** *незак.* Моцна ахайваць. *Ты ўсіх пыдряд схаівыіш, усе табе дренны, ну будзь ты хырашэй за ўсіх.* **Схаяць** *зак.* Ахаяць. *Цябе залоўка схаіла, хужы хўжшыга зьдзелыла.* **Схаяный** *дзеепрым.* *Ладна, я і схаіныя прыжывў, а вы будзьця луччы за ўсіх.*

**Схарчыць** *зак.* Спажыць. *Пасьці ўсе быракі схарчыла, мае госьці дужа любілі варіва.* **Схарчыцца** *зак.* Спажыцца. *Няўжэлі ў цябе погріб бульбы схарчыўся?* **Схарчомшы** *дзеепрысл.* *Схарчомшы засік бульбы, можна і пірядышку зьдзелыць.*

**Схацецца** *зак.* Перастаць хацець. *Схацеўся, большы ужо ня просіць канхвет, ато ж цэлыя раньня млеў.*

**Схітраць** *незак.* Хітраваць. *Нескылька разоў сьхітряў, а тута ні ўдалося, быстра яго рускусілі.* **Схітрацца** *незак.* Ухітрацца. *Мы знаім, як яны сьхітряліся карову пірядзержывыць.* **Схітрыцца** *зак.* Ухітрыцца. *Каб як сьхітріцца злавіць старыю куріцу, я б яе зарезыла дзіцям, іна дужа жырныя і ні нясецца.*

**Схлянуць** *зак.* 1. Сцячы, спасці. *Скора выда схляніць, іна ўжо стала меншыць.* 2 *неран.* Зменшыцца (пра вялікую колькасць). *Зраньня ны бызарі було ні прабіцца, а к абеду людзі схлянулі — рызыйшліся, разьехыліся.*

**Схлястыванне** *н.* Счэпліванне ў сварцы. *Мы пыдзівіліся на іх схлястывыньня: адна і сякець і паліць і другая ні ўступаіць нісколька, абея як сьпічкі.*

**Схлястываацца** *незак.* Счэпліваацца ў сварцы. *Яны ўжо два разы схлястывыліся, ну ну людзях неік прімуўкалі.*

**Схмыляць, схмыліваць** *незак. перан.* Абсякаць закругляючы. *Пычаў схмыляць брыжы ў бірьвяне, а чашка аткалолыся. Схмылівыў жардзіну, а тапор сырваўся, ды чуць ні пы наге.* **Схмыляцца, схмыліваацца** *незак.* 1. Хмыліцца (пра каня). *Як увальлю пўгі, я яго атаўчў схмыляцца. Як с аброцьцю ідзеш, конь схмылівыіцца, глядзі, глыданець зубамі.* 2. Абсякацца для закруглення. *Неік жа няроўна у цябе схмыляіцца. Стоўбікі усігда схмылівыюцца, каб выда сьцікала.* **Схмыліць** *зак.* Абсячы закругляючы. *Нада було б большы схмыліць, каб ні чыплялыся жэрдзь.* **Схмыліцца** *зак.* 1. Нахмыліцца (пра каня). *Во гадкій конь, толька патходзіш — ужо схмыліўся, глядзі, ірванець зубамі.* 2. Абсячыся для закруглення. *Як трошку сьсякецца тыпаром, схмыліцца, тады лаўчэй.* **Схмыленый** *дзеепрым. Схмыліныя стыўбячкі дайжа зыкапывыць луччы.*

**Сходжый** *дзеепрым.* Падобны. *Ета ж нада, каб траюрыдныя браты былі такея сходжыя! Во родныя, а ня дужа сходжыя.*

**Схрапатаць** *зак.* З'есці з хрумстам і трэскам. *Кот гулубца злавіў і схрыпытаў зы раз, за дровы занёс, схуваўся і зьеў. Кыбанчыка яны скора схрапочуць, у такіх доўга ні зацэліць.* **Схрапатаный** *дзеепрым. Схрыпытаных быранькыў ты ўжо ні ішчы.*

**Схрупаць** *зак.* З'есці з хрумстам. *Пачысьціла яму морквіну, дык усю схрўпыў. Воўцы такоя цьвёрдзінькыя сена з былычкымі любюць, пыкладзеш, дык за ныч усё схрўпыюць.* **Схрупаный** *дзеепрым. Ладныя бяремца пылажыў, усё схрўпына, ні былычкі ні асталыся.*

**Схудняць** *зак.* Пахудзець. *Ета іна ат пірІжываньніў так схудняла.* **Схуднялый** *дзеепрым. Раншы у Пітрачонка во была ряжышча, ато схуднялый ішоў, дайжа ні пызнаць стала.*

**Сцаленне, сцалянне** *н.* Вылечванне. *Пыглядзела я, ікая іна больныя, ніякыга ёй сцаленьня ня будзіць, ці дыктары ж рукі пытткладўць. А во відзіш, Кырняёнку сцыляньня пымагло.*

**Сцаляць** *незак.* 1. Вылечваць. *Буганькоў быў дужа харошый доктыр, многіх сцыляў.* 2. Захоўваць цэлым. *Моркву у погрібі сцыляць нада, кылі толька мышы ні пыгрызўць.* **Сцаляцца** *незак.* 1. Вылечвацца. *Паехыў сцыляцца у Воршу.* 2. Заставацца цэлым. *Гуркі як прі-*

*кла́джыны хырашэнька, тады сцыля́юцца.* **Сцаліць.** 1. Вылечыць. *Дыктары сцыля́ць, а што ты ні знаўшы паможыш.* 2. Захаваць цэлым. *Як жа ты да еткіх пор сцаліў ігрушы?* **Сцаліцца** *зак.* 1. Вылечыцца. *Усюдых кідыўся і сцаліўся.* 2. Захавацца цэлым. *Няўжэлі у цябе кычаны да етыга ўремя сцаліліся?* **Сцалёный** *дзеепрым.* 1. Вылечаны. *Хваліць богу, што ён сцалёный пріехыў, я думыла, што хаўтуры прідзіцца дзелыць.* 2. Захаваны. *У яго ішчэ сцалёныя яблыкі вядуцца.*

**Сцапаный** *дзеепрым. жарт.* Злоўлены. *Вядзіці-ка вы яго ца́пыныга сюда, ніхай прізнаецца, у чые гурочыкі злазіў.*

**Сцарыпаць, сцарыпкаць, сцарыпнуць** *зак. жарт.* Злавіць, схапіць. *Мы іх пат копымі сцаріпылі, хуваліся, пы зыпа́зухі яблык нытрясьлі. Я цябе ўсё роўна сцаріпкыю, нійдзе ні схува́ісься. Ну каб толька мне яго сцаріпнуць, я б яму ўкаціў!* **Сцарыпаный, сцарыпканый, сцарыпнутый** *дзеепрым. Во калі ты будзіш сцаріпыт, цяпер ня вы́круцісься! Мы іх сцаріпкыных прівядзём. Лоўка ён у цябе сцаріпнут, як тут быў.*

**Сцебануць** *зак. перан.* Крыху папарыць. *Духу дужа ні було, я ма́лыга троху сьцібаню́ў, а сам дайжа ны палок ні лазіў, памыўся і ўсё.* **Сцебануцца** *зак.* 1. Ударыцца моцна, выцяцца. *Будзіш так во круціцца, і сьцібанесься ап шула, тады ні пішчы́.* 2. Крыху папарыцца. *Я доўга у жару ні магу, трошку сьцібаню́ся, аппыласню́ся ды ныдзіва́цца скарей.*

**Сцелянуць** *зак.* Падкінуць крыху подсцілу. *Сьціляні карові сушэйшыя саломы, у яе дужа грязна. Аўцам ба тожа нада було сьціляню́ць.* **Сцелянуцца** *зак.* Падкінуцца крыху (пра подсціл). *Г боку сьцілянецца і можна будзіць мяшкі пыставіць.* **Сцелянутый** *дзеепрым. У вуглу вун сьціляню́та, тама і высыпа́йця карзінкі.*

**Сцеражэнне** *н.* 1. Вартаванне. *Яго сьціряжэньня ізьвесныя: зыва́ліцца і будзіць спаць, а коні ідзіця, куды хочыця.* 2. Асцераганне. *Якоя ж ета сьціряжэньня, што ўсю рубашку вымызыў.*

**Сцерануць** *зак.* Крыху пасціраць, памыць. *Зьдзень, дык я сьціряню́ тваю рубашку у ночвых, іна скора на ветрі прыча́ўріць.* **Сцеранутый** *дзеепрым. Ну, троху ж сьціряню́та верхніца.*

**Сціра** *ж.* Страта. *Кылі толку німа, тады і сьціра у хызяйстві, і што ты хочыш. У вайну усяму быльша́я сьціра была.*

**Сціраціца** *незак. перан.* Разбурацца, гінуць, знікаць. *Буваіць, што і бальшэя сем'і сьцірáюцца.* **Сцерцца** *зак.* Разбурыцца, згінуць, знікнуць. *А во вазьміця вы нашу дзярэўню, сколька сем'іў сьцёрлыся. У яго ўсё сатрецца бяс толку.*

**Сціскыванне** *н.* Сціcканне. *Кылі пулумáна, дык ніякыя сьціскывыньня ні паможыць.*

**Сціх, сціхамір** *м.*, **сціхаміры** *н.* Заспакоенасць, супакой. *Калі яны сабе якей-небудзь сьціх найдуць, етыя дзеці? Будзіць вам сьціхамір, як цірісьсядзельнік вазьму ў рукі. Я б ім скора даў сьціхамірія, у мяне б жыва уняліся.*

**Сціхамірный** *прым.* Ціхі, спакойны. *Ні такей ён сьціхамірный, як ты гаворіш, другей раз расходзіцца, што ні ўняць.*

**Сціхамірываць** *незак.* Сунімаць, супакойваць. *Ты іх сьціхамірівый, ні дывай руспускáцца.* **Сціхамірывацца** *незак.* Сунімацца, супакойвацца. *Самі яны ня будуць сьціхамірівыцца, брацсь іх у рукі нада.* **Сціхамірыць** *зак.* Суняць, супакоіць. *Яго калі ні сьціхаміріць січас, то ні знаю, што будзіць, саўсім рогі пырасьлі.* **Сціхамірыцца** *зак.* Сунящца, супакоіцца. *Як бацька прішоў, тады сьціхамірíліся, пыспыкайнелі.* **Сціхаміраный** *дзеепрым.* *Ці доўга яны пысядзелі сьціхамірíныя?*

**Сцішка, ісцішка** *прысл.* Спадцішка. *Мыкар ня будзіць раскрíкывыць, ён сьцішкá такоя утварíць, што ўсе áхнуць. Сірьгяёнык шыпарнець яму ісьцішкá, тады ён ісь сябе выскáкыіць*

**Сцюдзень** *м.* Халадзец. *Мае сьцю́дзінь дужа любюць, як заб'ём кыбанчыка, тады ім пряма рай.* *Памянш.* **сцюдзянёк.** *У мяне ішчэ ёсьць тарелычка сьцюдзянькý, можа пукулупáіш трошку.*

**Сцябаннік** *м.* Той, хто сцёбае. *Вот нада було уняць етых сьцібáньнікыў.* **Сцябанніца** *ж.* *Глядзі, сьцібáньніца, як трёпніць конь нагою, тады насьцёбыіш.*

**Сцябаць** *незак. перан.* Шыць, сшываць на скорую руку. *Нешта ў задній хаці сьцібáіць, во айдзе твыя дырыгая Аксютычка.*

**Сцякаць** *незак.* Збягаць (пра ваду). *Я зразу посыд у шкапчык ні зычыняю, памыю і пыстаўлю сьцікáць. Ірьмя́к твой у сенцых сьцікáіць.* **Сцеч** *зак.* Збегчы (пра ваду). *Бярі, посыд ужо сьцёк, сухей.*

**Сцякельца** *н.* Невялікае шкло. *Нада пріставіць кусок сьцякельца, каб ні так дуло. У іх лáмпа — мáлінькій пу-*

*зырёк і сьцякельца нібальшэнькыя. Тута астарожна хадзі, сьцякельцы ёсьць, можыць кусочык у нагу уехыць.*

**Сцякольнік** *м.* Шкляр. *Я сам ня хужы сьцякольнік, чым твой Гыраська, што я, выкна ні зысьцяклю ці што. Памяниш.* **сцякольнічак**. *Во табе й сьцякольнічык на месьці найшоўся.* **Сцякольніца** *ж. Ты мыгла б пряма ў сьцякольніцы пуступаць, кажный ба дзень капейка была.*

**Сцяміцца** *зак.* Сцяміць. *Сьцяміўся, што доўга яму пірясўшывыцца тама нечыга, скарей лахі пыт пахі ды ў кусты, пакуля тэя ні набеглі.*

**Сцянанне** *н.* Надакучлівы плач, крык. *Як жа мне тваё сьцінáньня ныдаела, ажно у вушах пішчыць.*

**Сцяпляцца, сцеплівацца** *незак.* Крыху падаграваццa, рабіцца цяплейшым. *Выда сьціпля́іцца ны загнеці у крўжкі, ужо можна браць. Няскора тут сьцеплівыіцца, пыстаў дальшы.* **Сцяпліцца** *зак.* Крыху падагрэцца, зрабіцца цяплейшым. *Пыдажджы мінутычку, ніхай хуць кыпілінку выда сьцяпліцца.*

**Счапляць, счэпліваць** *незак.* Адчапляць. *Як пычаў шчыпля́ць ремінь с крюка, яны зразу шаўковымі сталі. Я ўжо шчэплівыў, ды нічога ні пулучаіцца, провылкі многа накрўчына.* **Счапляцца, счэпліваццa** *незак.* Адчапляцца. *Чаго ў цябе бязьмен ні шчыпля́іцца, што яго дзяржыць? Із-за дроту ня шчэплівыіцца, нейдзі дзяржыць.* **Счапіць** *зак.* Адчапіць. *Вісяць завесы, а ны завесых крю́чча усякыга пынавешына, я чуць шчапіў.* **Счапіцца** *зак.* Адчапіцца. *Хведзька ўзяўся, і ў яго зразу шчапілыся.* **Счэплены** *дзеепрым. Ны яком крюку! — я відзіў, цірісьсядзельнік шчэпліный выляўся.* **Счапёмшы** *дзеепрысл. Шчапёмшы рімушок, гаворіць, сколька я вас буду успыкáівыць.*

**Счарэпыванне** *н.* Счэрпванне. *Ты ні трясі айдзе зря свайго тряхольля, тады й шчарепывыньня ні нада будзіць.*

**Счарэпываць** *незак.* Счэрпваць. *Насыпыныя акуратнінька шчарепывый, ні рызбáўтывый.* **Счарэпываццa** *незак.* Счэрпваццa. *Пылок шчарепывыіцца, яшчэ разы два чарепні.* **Счарэпаць** *зак.* Счэрпаць. *Сьмяцьцё шчарепый ды выль, а тады бульбу сып.* **Счарэпацца** *зак.* Счэрпацца. *Калі захочыш зьдзелыць, яно усё акуратнінька шчарепыіцца.* **Счарэпаны** *дзеепрым. Ну ладна ўжо, ладна, усё зь відра шчарепына.*

**Счаўрыць** *зак.* Счахнуць, змарнець, заняпасці. *У яго нейкыя балезьня, інáчы б чаго чылавек так шчáўріў.*

**Счаханне** *н.* Змарненне ад дрэннага харчавання. *Іх дайжа і шчыха́ньня нічаму́ ні найчыла, дайжа гарод ліняцца пасеіць, як усе людзі.*

**Счэгнуць** *зак.* Схуднець, змарнець. *Раз бальнэй жалу́дык, дык што ты хочыш здароўя, паетыму ён і шчэг саўсім.*

**Счэпліванне** *н.* Адчаплянне. *Я зь естым шчэплівыньнім саўсім запутыўся.*

**Сыглічыванне** *н.* Збіванне металічнымі скобамі. *Пыдажджы ты іс сыглічывыньнім, нада ряшэціць скарей ды саломыю прікідывыць, каб сьцены ні зымікáлі.*

**Сыглічываць** *незак.* Збіваць металічнымі скобамі. *Наверна, у пуні Даніла, гывaріў, пойдзіць дзьвері сыглічывыць.* **Сыглічывацца** *незак.* Збівацца металічнымі скобамі. *Ты ніправільна пыцьцісáў, паетыму ў цябе і ні сыглічывыіцца.* **Сыглічыцца** *зак.* Збіцца металічнымі скобамі. *Гані ў сукі, яно крепка сыглічыцца.* **Сыглічаный** *дзеепрым. Што ты гаворіш ніізьвесна што, вароты ужо даўно сыглічыны.*

**Сын** *м.* Сын. *Памяниш.* **сынок, сыночак, сынуля, сынулька, сынуленька, сынулёк, сынулёчак, сынулечка, сынка, сыначка.** *Твой сынок ужо ладна за дзеўкымі улігáіць. Усё сыночык і сыночык — мáлінік, а яму хуць быраду ну кулак круці. Дакýліцька ты будзіш сынýлю свайго нянчыць як малю́тычку. Сынýлька мой, хадзі скарей, што я табе прівізла із горыда, ты толька глянь. Усё быў сынýлінька, пакуля жонку у хату прівёў. Ці ня твой сынулёк у іх зывадэвуш, ён дужа любіць пы гародых лазіць. Усё дочкі былі, ці ня чэцьвіра, знаць, дык цяперь свайго сынулёчыка з рук ні спускáіць. Меншы ты валхві свайго сынýлічку, зь яго луччый толк будзіць. Яе сы́нка ужо ладный лабрэт, пы двару бегыіць. Бягі скарей, сы́нычка, я табе пыпря́ньнікыў прінісла́.*

**Сынній** *прым.* Сынаў. *Што ты мне на сы́ньнію хату пыказывыіш, ці ты ня відзіш, што мне сваю нада пірікрываць.*

**Сыпацца** *незак. перан.* Часта нараджацца. *Дзеці сы́пюцца адзін зы адным, што год, то ўдод, іна зь імі зыкыпáіцца.* **Сыпануцца, сыпнуцца** *зак.* Пачаць часта нараджацца. *Мáлыя сыпанýліся, Ганна ні за што ні пысьпіваіць узяцца. Пыглядзіш, ікая сь цябе будзіць хызяйка, як дзеці сыпнýцца.*

**Сыр'ё** н. зб. 1. Сырыя дровы. *Адно сырьё, нада хуць якую-небудзь калодку ны паттопу рыськяпіць. Сырья́*

*унясець у хату, зь естых дроў ажно цякець.* 2 *перан.* Садавіна, агародніна. *Сырья ныядўцца, тады жывоцікымі жáлюцца.*

**Сырыца** *ж.* Нявырабленая аўчына. *Што ж сыріца, сыріца сыріцыю і ёсьць, яе ні пынясеш партному, нада ў вы́дзілку аддывáць.*

**Сыўрадка** *ж.* Сыроватка. *Пырысятым сы́ўрыдкі як лінеш, тады яны многа луччы ядуць. Памянш.* **сыўрадачка.** *Ніхай вып'іць с пуўстыкынкá сы́ўрыдычкі, можа, жывоцік палу́ччыіць.*

**Сыць** *ж.* Сытасць. *Есьць, есьць і ўсё яго сыць ні бярець. Што йта табе сы́ці німа?*

**Сэнджанне** *н.* Плявузганне. *Сэнджыньня як пычанецца у іх, дык ніізьвесна калі кончыцца, урмя ж дужа многа.*

**Сэндзіцца** *незак.* Займацца балбатнёй, плявузганнем. *Аткуль жа мне знаць, пра што яны сэньдзюцца, ужо часы два стыяць пад ліпкымі.*

**Сядак** *м.* Сядок. *Поўный воз сідакоў, і конь ні пывязець столька. Яшчэ адзін сідáк бягіць, пыдажджы ўжо.*

**Сякеннік** *м.* Той, хто сячэ. *Во ўзяўся сякеньнік, толька аскрёткі ліцяць ува ўсе бакі.* **Сякенніца** *ж. Стыря́юцца сякеньніцы удзьвюх адна пііда дною.*

**Сяміна** *ж.* Асобнае каліва насення. *Сяміна пацсоніішніку пупала на бульбу, узыйшла і расьцець. У мяне ішчэ нескылька гурбузовых сямін асталыся. Памянш.* **сямінка, сяміначка.** *Ны гря́ды у мяне цяперя ні аднае сямінкі німа. На сьмех уторнула нескылька сямінычык бобу, а ён во якей вы́рыс.*

**Сярбанне, сёрбанне** *н.* Яда з прысёрбваннем. *Што йта зы сірбáньня, ажно слу́хыць нікрасіва. А ну цябе сь сёрбыньнім с тваім.*

**Сярбаннік, сёрбаннік** *м.* Той, хто сёрбае. *Во сірбáньнік, аж чвя́кыіць. Прільну́лі сёрбыньнікі зы сталом, за вуха ні атвядзеш.* **Сярбанніца, сёрбанніца** *ж. Цішы ты еж, сірбáньніца. Стыряіцца сёрбыньніца, аж зу вушамі тряшчы́ць.*

**Сярдзюк** *м. гумар.* Багацей. *Яго бацька знаіш, якей сярдзю́к быў! У тым канцы усё сюрдзюкі жылі, ета ўжо тут была адна гылытвá.* **Сердзючыха** *ж.* Багацейка; жонка багацея. *К ёй дайжа носа ні пытыкáй, іна цяперіцька ого ікая сюрдзючы́ха.* **Сердзюкоўна** *ж.* Дачка багацея. *Быгаства ныклáджын ні адзін сундук,— ізьвесна ж, сюрдзюкоўна.*

**Сярдун, сярдуннік** *м. жарт.* Той, хто сярдуе, злуецца. *І ў каго ты еткій сярдýн удаўся, я дайжа ні прідумыю. Такей сярдýньнік, што ні пытхадзі к яму. Памянш.* **сердунок, сердуночак, сярдунчык, сярдуннічак.** *Хадзі ка мне, мой сірдунок, ні нада ны бабу сердзіцца. Ах ты, сірдуночык мáлінькій, дзед жа быяўся, каб ты ні прустудзіўся. Такей угáрістый хлопіц пыдрыстáіць, такей сярдýнчык, што куды там ня зьдзелыць, кылі ён зыхацеў. Сядзіць наш сярдýньнічык, нікому нічога ні гаворіць.* **Сярдуха, сярдуння, сярдунніца** *ж. Чаго ты тыкая сярдýха стала, хто цябе ўгнявіў? Ну ўспакойся, сярдýньня мáлінькыя. Угыварі ету сярдýньніцу, ніхай ні нудувáіць губы.*

**Сяродак** *м.* Сярэдзіна, сарцавіна. *Я віджу, як ён есьць хырашо: бачкі абрежыць, абрежыць у яблыку, а ўвесь сярёдык зымáхыіць. Памянш.* **сяродачак**. *Адзін сярёдычык ні выкалýпывый, еж пыдряд.*

**Сярыцца** *незак.* Ярка адбівацца, зіхацець (пра кветкі). *Аж у вычах сярíцца, так цьвіцець сірень у яе пыд вакном.*

**Сярэдзіна** *ж.* Спіна. *Рымаціз калі пойдзіць пы сяредзіні, тады намýчыісься. Памянш.* **сярэдзінка.** *Узьлезь на печ ды пагрей сяредзінку ны гырячым падý, пыглядзіш, луччы станіць.*

**Сяструха, сяструхна** *ж.* Сястра. *Ці часта ж к табе сястрýха заходзіць, у яе тожа сім'я пырядышныя, дзела хвытаіць. Як увіджу тваю сястрýхну, скажу, каб зыйшла калі.*

**Сяцёр** *ж.* Асетр. *Ты ўжо, відна, падумыў, што табе ня шчука, а сам сяцёр пупаўся ну крючок.*

**Сячас** *прысл.* Зараз. *Каб січáс пашлі, мы б маглі пасьпець к шасьці чысам. Во нягож, січáс я табе печ рыстáплівыць буду.*

# Т

**Табаканюх** *м.* Той, хто нюхае тытунь. *Цяперя толька курюць, а Сямёныў дзед ці, знаць, прáдзід нюхыў тыбáку, ны яго кызалі тыбаканюх.*

**Табун** *м.* Табун. *Памянш.* **табунок, табуночак, табунчык.** *У нас мала хто дзяржыць авечык, мáлінькій тубунок бегыіць с каровымі. Кароў штук дзесіць ходзіць і тубуночык авец, ён адзін пасець. Як раньня, нашы й пашлі табýнчыкым у школу. Павеліч.* **табунюга, табунішча.** *Ту-*

*бунюгу сьвіньней дзіржаць, кажныя лета пырысят прыдаюць. Карова, сьвіньні, воўцы, тубунішча курей — пакуля дагледзіць усё, дык і сонца ны абедых.*

**Так** *прысл.* Як ёсць, без змен. *Ці еў ён што-небудзь? — Не-а, так пашоў. Так ён ня пойдзіць, якую-нібудзь ныпрятку возьміць. Так пашлі ў лес, толька ножыкі ўзялі.*

**Такей** *займ.* Такі. *Памянш.* **такенькій, такенечкій.** *Каб жа быў хут такенькій ножык, худзь ба кырна́чык якей-небудзь. Нясець вірібінят у хату, яны во такенічкія, малёхтынькія, я гываpю: зынясі ныҙад. Павеліч.* **такенный.** *Во такенныя хлопцы ідуць як дубы.*

**Талалай** *м.*, **талалайка, талалакала** *м.* і *ж. неадабр.* Балбатун. *Во яшчэ тылыла́й, ці знаіць, ці ні знаіць — усё дно будзіць лухту́ несьць, як у яго язык ні зыбаліць. Ета Цімохыва тылыла́йка, яе зразу па голысу пызнаіш. За белым бярезьнічкым тылыла́йка брешыць* (загадка).— *Язык* (адгадка). *А Іван тожа такей самый тылыла́кыла, нісколька ат Мыксімоўны ні атхадзіў. Памянш.* **талалаечка.** *Іна тожа харошыя тылыла́ічка, тріпанець што хочыш.*

**Талалаканне, талалаханне, талалахканне** *н. неадабр.* Балбатня. *Чую, што ўжо узноў зывялі сваё тылыла́кыньня, стыяць, ны граблі паппёрліся. Чаго, чаго, а тылыла́хыньня хвыта́іць, ізыкі чысаць ні пірістаюць. Етыга тылыла́хкыньня ні пірясльу́хыіш, ды лухты і слухыць нечыга, паедзім, скора зы каровымі йціць.*

**Талалахаць, талалахкаць, талалахкацца** *незак. неадабр.* Балбатаць. *Як тылыла́хылі, так і тылыла́хыюць, што ты ім, зыбароніш ці што. Чуць ні ды самыга цёмныга тылыла́хкылі кучыю пад вербымі. Пра што ўжо яны тылыла́хкыліся, я ня чула, ну доўга дуду́кыліся кылы саломы, відна, нешта дужа аньціресныя пупалі ны ізыкі.*

**Таланіць** *незак.* Шанцаваць. *Кылі гылыва ны плічах ёсьць, тады кажныму будзіць тыла́ніць. Яму увы ўсякім дзелі тыла́ніла.*

**Таласнуць** *зак.* Тузануць. *Ох, тыласьнеш ты, дужа стра́шын стаў. Цябе так тыласну́ць, што большы ты ня ўзду́мыіш пыцска́кывыць.*

**Таласканый** *дзеепрым.* Тузаны, цяганы. *Куды еткыю тылыска́ныю ку́ртычку ныдзіва́ць будзіш — людзей сьмяшы́ць?*

**Талдоніць** *незак.* Гаварыць, настойліва павучаць, паў-

тараючы адно і тое ж. *Што ты ёй пуўдня талдоніш адно й тоя, ці йна мáлінькыя, што ні пынімаіць, ці што?*

**Талдычанне** *н.* Бясконцае паўтарэнне аднаго і таго ж. *Мы ўжо чулі і пірячýлі яго талдычыньня, ён усігда адно трілю́дзіць і трілю́дзіць.*

**Талкаваннік** *м.* Той, хто разважна размаўляе. *Каб ні работа, етыя тулкувáньнікі ні рызыйшліся б і ноччы.* **Талкаванніца** *ж. Тулкувáньніцы вы харошыя, ды зы каровымі іціць пыра.*

**Талкавіта, талкавіста** *прысл.* Разумна, разважна. *Тылкавіта ён нічога ні скажыць, ну паслухыць нада. Каб ты так руссуждáў тылкавіста, як Зьмітрачоныk, дык і цябе б слухылі.*

**Талкавітасць, талкавістасць, талковасць** *ж.* Розум, разважлівасць, яснасць думкі. *Каб яму тыкая тылкавітысьць, як у Пынасёнка, тады б другей рызгавор быў. Не, чылавек, тылкавістысьці табе дужа ні хвытаіць. Пры якую талковысьць тута думыць, кылі ён ні ў чом ні рызьбірáіцца.*

**Тамканне** *н.* Павольная, ціхая размова. *Я ні прíслýхывылыся, дужа мне нада іхныя тáмкыньня.*

**Тамкаць** *незак.* Размаўляць павольна, паціху. *А мушчыны вун ны бярьвеньні тáмкыюць і Аўдотычка зь імі.*

**Тапаценне** *н.* Топат. *Я пачула тыпаценьня, зьлезла сь печы, а пакуля выйшла, нійдзе нікога німа.*

**Тапацець** *незак.* Тэпаць, грукаць тэпаючы. *Ета яны ны быльшак беглі, во чаго тыпацелі. Аткуль жа мне знаць, хто тамыцька тыпацеў.*

**Тапіна** *ж.* Багна. *Мы помнім, íкая тута ўсюдых тыпінá была, скот выцягывылі, а цяперя якей луг стаў!*

**Тапленнік** *м.* Той, хто паліць у печы. *Удваіх тапленьнікі стыяць кыла печы, адзін зь вілкымі, другей ш чыпялою.* **Тапленніца** *ж. Ляжы ты ціха, тапленьніца, мы бісь цябе справімся.*

**Таптаннік** *м.* Той, хто ўтоптвае сена, салому. *Ну ніхай ездзіць, тыптáньнікым жа тожа троху пішуць, ніхай і ён якей трудзьдзень заробіць.* **Таптанніца** *ж. Як пыляціць твыя тыптáньніца з воза, во будзіць тады!*

**Тапторыць** *незак.* 1. Празмерна многа пхаць, класці. *Ні нада тапторіць у адну міску, рыскладзі на дзьве ці дайжа на трі.* 2 *перан. іран.* Есці. *Сідзяць ны мáліанькіх стýльчыкых, ну тубурецíку стаіць чугýнчык з бульбыю і скыўрыдá сала, яны тапторюць ету бульбу, пряма рукамі бяруць.* **Тапторыцца** *незак.* Напіхвацца, накладвацца.

*Што ў цябе тапторіцца усё ўместа, ні нада так.* 2 *перан.* Таўчыся ў цеснаце. *Чаго вы тута тапторіціся, усе ужо пы двырах рызыйшліся.*

**Тапу** *выкл. дзеясл. дзіц.* Пра пачатак хадзьбы. *Дывай будзім дзелыць тапу́ ножкымі. Ну-ка, ну, тапу́-тапу́ і пашоў.*

**Тапун** *м. ласк.* Дзіця-хлапчук, які нядаўна навучыўся хадзіць, або нованароджаны маладняк свойскай жывёлы. *Во ў цябе ужо якей тапу́н у хаці! У нашыга тупуна́ і рожкі пыказывыюцца. Памянш.* **тапунок, тапунчык.** *Тупунок ма́лі败кій, ты ж ні зычапіся за што-небудзь. Рузгуля́ліся тупункі пы хаці, ні ўняць. Ой, дыганю січас тапу́нчыка, ой, злаўлю.* **Тапуха** *ж. Тапу́ху нашу ўжо і на вуліцу можна пускаць.*

**Тапыранне** *н.* Натапырванне. *А ні тыпы́рься, ня дужа хто тваё тапы́ріньня прізнаець.*

**Тапырастый** *прым.* Натапыраны. *Кот якей тапы́рістый стаіць: сыбаку пужа́іць. Нешта сяньня ты дужа тапы́рістый ходзіш.*

**Тарабаненне** *н. неадабр.* 1. Грукат, лясканне. *Зірні-ка ў сенцы, што яны тама дзелыюць, ды прыгані с тырыба́ніньнім.* 2. Балбатня. *Толька на́ ныч сьціхаюць, а так біс тырыба́ніньня пряма ня могуць.*

**Тарабаранне** *н.* Бязладная, шумная размова. *Пойдзім, нада йціць, ці ты мала тога тырыба́ріньня наслу́хылыся.*

**Тарабарыцца** *незак. неадабр.* Бязладна, шумна размаўляць. *Ну сколька вы будзіця тырыба́ріцца ай ужо коні атпрежч, каб урэмя вам хваціла?*

**Тараніцца** *незак. перан. жарт.* Ісці. *Вы як мыладэя тыра́ніціся ў горыд, нукупля́іця ўсяго, сяньня бальшэй бызар будзіць.*

**Тараторанне** *н. неадабр.* Шпаркая гаворка. *Кароў зывялі, як сталі кучыю, дык во пасьці абеды, а ў іх тыраторіньня ні сьціхаіць.*

**Тарахцецца** *незак. перан. неадабр.* Балбатацца. *Ёй усігда дужа сма́шна тырахціцца, спакойна іна ні мінуты пабыць ня можыць.*

**Тарачыцца** *незак. перан. жарт.* Ісці. *Куды ета Ільля тырачыцца, ён жа хворый ліжаў, а во пыдняўся.*

**Тарбахват** *м. асудж.* Хапуга. *Узмацн.* **тарбахваціна.** *Во тырбыхва́ціна, яго рук нічога нійдзе ні міна́іць. Павеліч.* **тарбахвацішча.** *Тырбыхва́цішча ты, калі цябе ікая-*

*небудзь сіла нысытáіць на сьвеці?* **Тарбахватка** *ж. С такою тырбыхвáткыю ні дай бог дыгывáрівыцца.*

**Тармаснуць** *зак.* Трасануць. *Яго ладна загрудкі тырмаснулі, ну ета ні ў чужоя места, нійдзе ён уходу сабе ні находзіць.*

**Тармасня** *ж.* Тармашэнне. *Сьпіць як забітый, і тырмысьня́ ні пымыгаіць, ні разбудзіш, ён тыкі дужа позна лёг учора.*

**Тарчэнне** *н. перан. неадабр.* Знаходжанне. *Вашыга ішчэ тарчэньня тутыцька ні хвытáла, ідзіця двору, нечыга вочы пяліць.*

**Татаканне** *н.* Часты перастук, стуканне. *Я первый раз ні рызыбрала, што ета, думыла, што йта зы тытáкыньня чутна.*

**Татан** *прым.* Татаў. *Уся тáтына ухвáтка, тожа, як тэй, успы́хніць, а тады астыніць. Ты глядзі, хлюст, уніміся, ато січас тáтын ремінь паходзіць!*

**Таўканіна** *ж.* Штурханіна ў цеснаце. *У іх ужо другей раз пычынáлыся туўканіна. Луччы ня лезь у ету туўканіну.*

**Таўкач** *м. перан. абраж.* Тупіца, дурань. *Ай,ізьвесныя дзела гываріць с туўкачом, ты яго увішчáй, а ён сваё: не, я так ні хачу. Узмацн.* **таўкачына**. *Во ўрадзіўся туўкачы́на, ні піряўчыш і ні пірідукўіш. Павеліч.* **таўкачышча.** *Кылі зыдáўся туўкачы́шча, то хут ты яго укусі, дык такей і будзіць.*

**Таўморанне** *н.* Пастаянная нязручнасць у цеснаце пры карыстанні адной і той жа прыладай, прыстасаваннем. *Пакуля жылі дзьве сям'і, дык хваціла таўморіньня кыла печы.*

**Таўморыць** *незак. неадабр.* Мясіць, запіхваць. *Сюды ўжо некуды большы нічога таўморіць. Нашто вам таўморіць усё ўмесьці?*

**Таўмясня** *ж. неадабр.* Штурханіна. *Як пашлі яны, дык хуць меншы тыўмясьні стала, ато ж було нійдзе ні пывярнўцца.*

**Таўпора** *м. і ж.* Неакуратная, неахайная асоба. *Во яшчэ адзін таўпоря табе на помышч ідзець, січас паможыць. Таўпоря вам нывядзець пырядык, будзіць наведзіна. Памянш.* **таўпорка.** *Раз таўпорька узілася зы работу, стынавіся зь вехцім усьлед, пыцьцірай. Павеліч.* **таўпорышча**. *Ікая ж ты таўпорішча нісусьветныя, ні за што ўзяцца ня можыш.*

**Таўпоранне** *н.* Штурханне ў цеснаце. *Ні палезу я ту-*

*ды, я дужа етыга таўпоріньня ні люблю, а ты лезь, кылі хочыш.*

**Таўпорыць** *незак. неадабр.* Мясіць, запіхваць. *Таўпоріла ў гаршчок нейкія абрезкі жоўтыя ац сала.*

**Таўпясня** *ж.*, **таўпяшэнне** *н.* Штурханне ў вялікай цеснаце. *Ні бызар, а адна тыўпісьня́, нійдзе ні к чаму ні пыдыйціць, ні прабіцца. Я чуць вы́брылыся с таго тыўпяшэньня, большы ты мяне туды і за золыта ні зыця́гніш.*

**Таўшчаць** *незак. жарт.* Таўсцець, тлусцець. *Лі мыладэя жонкі ты жыва тыўшча́іш, відна, ладна цябе глядзіць іна.*

**Тахаць, тахкаць** *незак.* Ляпаць. *Так ты будзіш доўга та́хыць і нічога ня зьдзелыіш, вазьмі даўбню́. Ма́лыя пычалі та́хкыць нечым пыт павецьцю.* **Тахнуць** *зак.* 1. Ляпнуць. *Я хырашо чуў: нешта ў клеці та́хнула.* 2 *перан.* Ударыць. *Як та́хнуў пы абуху даўбнёю, палка рыскалолыся зразу.*

**Тахканне** *н.* Ляпанне. *Мы тожа чулі та́хкыньня, дык ці ета ж ба хто падумыў, што яны тама будуць ба́лывыцца. Во нупужа́ўся, серца як ня вы́скычыць, ажно та́хкыньня чутна.*

**Ташнаванне** *н.*, **ташната** *ж.* Моташнасць. *Сколька ні ташну́й, дык тушнува́ньнім горю ні паможыш, нада сымаго сябе рузувіря́ць. Падумыю, падумыю, айдзе яны січас, тыкая тышныта́ дзелыіцца.*

**Творг** *м.* Тварог. *Творг ісь сьміта́ныю кажный будзіць есьць. Ныкладзець сабе творгу, мылыка нальлець, пад'есьць і пашоў.*

**Тканніца** *м.* Жанчына, якая тчэ. *Залетыіць наша тканьніца сы сваімі кросными, калі ёй ткаць с кучыю дзяцей.*

**Томна** *прысл.* Млява. *Як толька трошку у дух, мне зразу становіцца томна. Памянш.* **томненька**. *Мы знаім, чаго табе томнінька сяньня, ты нам ні гывары.*

**Топсі, топсікі** *выкл. дзеясл. дзіц.* Пра хадзьбу. *Тоопсі! То-опсі! Дывай дзелыць топсікі!*

**Торканне** *н. неадабр.* Даванне, падаванне, саванне. *Торкыньня, а ні дыва́ньня, разьві так пыдаюць добрыму чылавеку. Хочыць даць канхвет, ніхай дасьць, а нашто ета торкыньня с-пыт палы.*

**Торкаць, торкацца** *незак. перан.* Даваць, прапаноўваць, соваць. *Ён ужо сыт ды гырла́, а йна яшчэ блін торкыіць. І Домна хадзіла пы бызару, торкылыся мне с квасолію.*

**Торскаць** *незак.* Штурхаць. *Сьпірва троху спорілі, а тады дывай адзін другога торскыць, хырашо, Хведзька умішаўся.* **Торскацца** *незак.* Штурхацца. *Мушчыны ім ні далі дужа торскыцца, рызьвялі.*

**Тпрузейканне** *н.* Падзыванне каровы выгукам «тпрузей!» *Уніміся с тваім тпрузейкыньнім, нашто іна табе, табун тольна трівожыш.*

**Тпрузейкаць** *незак.* Падзываць карову выгукам «тпрузей!» *Прося упацёмкых хадзіла па полю, усё тпрузейкыла.*

**Тпрусютканне** *н.* Падзыванне цяля выгукам «тпрусют!» *Маленькій цялёнычык ішчэ ні пынімаіць тпрусюткыньня, ці ты яго заві, ці ні заві.*

**Тпрусюткаць** *незак.* Падзываць цялё выгукам «тпрусют!» *Што ты тпрусюткыіш, кылі цялёнык цябе саўсім ня слухыіць.*

**Травіна** *ж.* Асобнае каліва травы; трава наогул, высахлая трава. *Летым якую травіну высушыш, дык зімою скату зы маліну пойдзіць. Ні гамзі травіну, іна табе ішчэ ой як зныдабіцца.*

**Травішча** *ж. экспр.* Густая трава. *Травішча засела пы грідах, калі я іх выпылю! Гудзіць травішча па бульбі, рады ні даць.*

**Травянэй** *прым.* Травяны. *Дужа трывянэй ячмень, прыпадзець ні прыпалоўшы. Трывяноя іржышча касіць можна.*

**Траеннік** *м.* Той, хто арэ ворыва другі раз. *Зымаріўся траеньнік біс прівычкі, ніхай аддыхнець троху.* **Траенніца** *ж. Я й пахырь, я й траеньніца, усюдых сыма.*

**Трайнуць** *зак.* Пры гульні «У куля» кароткую палачку — куль падкінуць уверх і двойчы ўдарыць, за што залічваецца тры ачкі. *Пасьці кажный гулец можыць трайнуць, тольна саўсім малыя адзінаюць.*

**Трамбач** *м. жарт.* Таўстун. *Некуды Мікілаіхін трымбач пасунуўся, ходзіць — чуць спышыцца. Узмацн.* **трамбачына.** *Ты пыглядзеў ба, якей ён трымбачына стаў, рубашкі ні пыдбярець узьдзець. Павеліч.* **трамбачышча.** *Глянь, глянь, што зы трымбачышча ідзець!* **Трамба, трамбоўка** *ж. Еткыю трамбу удваіх ні апшчэпіш. Куды такой трамбойкі з вамі іціць справіцца. Павеліч.* **трамбішча.** *Уй-ю-юй, ікая трамбішча стала, ідзець — з нагі ны нагу пірівалівыіцца.*

**Транжыранне** *н. неадабр.* Бяздумнае растрачванне.

*Я дужа ні люблю транжырініня, хто ні прівык бярежч, таму дужа цяжола на сьвеці жыць.*

**Транціна** *ж.* Рызман. *Ці можна ж так дыжывáцца, што ні аднае трáнціны ні астаецца. Памянш.* **транцінка.** *Вун ны шасту нейкыя трáнцінка вісіць, ці ні мальцыва майка, можна пірякінуць.*

**Траншэіна** *ж.* Асобная траншэя, наогул канава або канавападобная яма. *У нас многа кыпалі, і во тута, айдзе мы стаім, была траншэіна. Памянш.* **траншэінка.** *Кыпаюць пы балоту траншэінкі, ці будзіць ікая польза, ці не. Павеліч.* **траншэішча.** *Выбухылі сьвініьні траншэішчу лі сьцяны, каб трошку, і саўсім ба падрыліся.*

**Трапаніна, трапня** *ж.,* **трапанне** *н. неадабр.* Балбатня. *Ці яны што путныя скажуць, я іхныю тріпаніну дайжа у рязон ні бяру. Я пра іх усякія тряпні наслухыўся. Няўжэлі табе ні ныдаела ета тріпня́? А чаго табе було тарчэць тама, ты ж учора іхныга тріпáньня наслухыўся.*

**Трапаць** *незак. перан.* Знесіляць (пра хваробу). *Даўно яго балезьні треплюць, ныўряд, каб ён выкруціўся ат іх. Мылярія крепка яго тріпáла.*

**Трапашніца** *ж.* Неахайная жанчына, гаспадыня. *Ты ўсігда тря́пышніцыю была, с табою путнэй чылавек і жыць ба ні стаў.*

**Трапун, трапатун** *м. неадабр.* Балбатун. *Тряпýн ты, большы ніхто, я ні днáму твайму слову ня веріла і ня верю. Каго вы слухыіця, ён жа ізьвесный тріпатýн. Памянш.* **трапатунчык.** *Нічога сабе тріпатýнчык, увесь пы мамі пашоў.* **Трапуння, трапуха, трапатуння, трапатуха** *ж. Ат тряпýньні праўды ні разу ні пачуіш. Во-о, ці такой тряпýхі хуць у чом-небудзь можна веріць! Пряма ні прідумыіш, па ком іна тыкая тріпатýньня зыдылáся. Во сыйшліся тріпатýхі, чыіх толька яны костычык ні пірямыюць.*

**Трапуннін, трапухін, трапатуннін, трапатухін** *прым. неадабр.* Такі, які мае адносіны да балбатухі. *Тряпуньніна праўда ізьвесна: адно слова пачуіць, дзесіць пріклядзець і пынісла свае новысьці. Сідзяць і слухыюць тряпýхіну лухту, а йна прець ім мох з балота. Якім жа цябе чылавекым можна нызваць, калі ты тріпатýньніный тріл́юдзі веріш. Ета ні сам ты гаворіш, ета ты пухтыряіш тріпатýхіны словы.*

**Трапуноў** *прым.* Такі, які мае адносіны да балбатуна. *Ты мне тріпуновы рызгаворы ні пірідывай, я знаю, сколька ў іх праўды.*

**Трапятун** *м.* Вельмі рухавы, вёрткі чалавек, здольны

выкручвацца з непрыемнага становішча. *Такей ужо тріпятýн, што сь пятлі выкруціцца і ўзноў зы сваё возьміцца.* *Памяншь.* **трапетунок, трапятунчык.** *Етый тріпітунок з балота вылізіць і ног ні замочыць. Ладный тріпятýнчык, нечыга скызаць.* **Трапятуха, трапятуння** *ж. Ты, відна, такою тріпятýхыю станіш, як Аксеньніна дычка. Іхныя тріпятýньня і тут выкруціцца, яе ні ў чом ня зловіш.*

**Трасеннік** *м.* Той, хто займаецца вытрасаннем. *Слабый сь цябе трясеньнік, к кулям рукі нада ладна прілажыць.* **Трасенніца** *ж. Ні на шутку бярецца трясеньніца, січас ігрушы пасыплюцца.*

**Траскатанне** *н. перан. неадабр.* Балбатня. *Уніміціся с тріскытáньнім сваім, вы ж усім як горькыя редзька ныдаелі.*

**Траскатаць** *незак. перан. неадабр.* Гучна балбатаць. *Нечыга тріскытáць, дыгрібáць скарей нада, вот-вот дождж можыць хлянуць.*

**Траскатун** *м. іран.* Балбатун. *Тріскатýн як баба ікая, с кáжнінькім ужо ні адзін раз схвáтывыўся.* **Траскатуха, траскатуння** *ж. Матка яе цішэйшыя, а йна па цёткых зыдылáся, тыкая самыя тріскатýха. Што йта зы тріскатýньня тыкая, цэлый дзень ні сьціхаіць, ажно поля тряшчыць.*

**Траскатуноў** *прым. неадабр.* Такі, які мае адносіны да балбатуна. *Во ныдаелі мне етыя песьні тріскутуновы, ці сьціхаіць ён тряшчэць, хуць калі сьпіць,— не-а, відна, ні сьціхаіць.*

**Траскун** *м. перан. іран.* Балбатун. *Во тряскун зыдаўся, як баба ікая лапочыць, ні разу ні сьціхаіць.* **Трасkуння, траскуха** *ж. Калі ўжо твыя тряскýньня сьціхніць хуць нямнога? Ніізьвесна па ком тряскýха зыдылáся.*

**Трасушчый** *прым. перан.* Трывожны, неспакойны (пра час). *Тады дужа трясýшчыя ўремя було. Мы німала трясýшчыга ўремя піріжылі.*

**Трасятня** *н.* Трасенне. *Мархва трясець гылавою, аткуль ета трісітня́ пыіўляіцца, Косьцік жыў і гадоў дзесіць трёсься.*

**Трахамуддзе** *н.* Малакаштоўныя рэчы. *Усякыга тріхамýдзьдзя ныбраў, цігаіць с сабою. Куды ты зь естым тріхамýдзьдзім папресься?*

**Трахамудзіна** *ж.* Малакаштоўная рэч з адзення, рызман. *К пустухý якую тріхамýдзіну накінуў на плечы і ладна. Памяншь.* **трахамудзінка.** *Пызнаюць цябе і ў етый тріхамýдзінкі.*

**Трахтоўка** *ж.* Частаванне. *Ім ні трахтоўка нада была, яны саўсім пру другоя думылі. А можа яны і біс трахтоўкі абойдуцца, а?*

**Тройка** *ж.* Трохрублёвая купюра, наогул тры рублі. *У мяне во адна тройка асталыся, большы нічога німа. Калі ні хвáціць, піріхвачу у каго-небудзь тройку. Памянш.* **троечка**. *Я віджу, што табе б січас троічкі дужа-дужа нада.*

**Тропнуць** *зак.* Рэзка торгнуць нагой і ўдарыць (пра каня). *Блізка ні хадзі, ня верь дужа, ціхій, ціхій конь, а як трёпніць, тады будзіць.*

**Трубіла** *звыч. м.* 1. Чалавек з гучным голасам. *Чую трубілу, яго айдзе хочыш па голысу пызнаіш.* 2. Абжора. *Во трубіла, піряд ім хуць чугунок стаў, усё увамнець.*

**Трубленне** *н.* Дудзенне ў трубу. *Во ныдаелі с трубленьнім, адбяру ету трубу і закіну, каб ні дурілі гылаву.*

**Трубнуць** *зак.* Коратка, адрывіста пратрубіць. *Я ляжу ціхінька, нічога ня думыю, а ён пыдыйшоў, як трубнець над вухым.*

**Трудаздольный** *прым.* Працаздольны. *У іх уся сім'я трудаздольныя, усе зырыбáтывыюць. У нас саўсім мала людзей астаецца у дзяреўні трудаздольных.*

**Трудзяга** *м.* і *ж.* Працаўнік. *Такей трудзяга Сямён, жонка за ім красуіцца. Длі сябе трудзяга, а каб чаго лішніга зьдзелыць — не. А што, разьві іна меншыя трудзяга?*

**Трунянне** *н. асудж.* Лодарнічанне. *Мой дужа ні любіў еткыга труняньня, усё бурчэў: як етый гультай жыць будзіць.*

**Трупаціць** *незак. жарт.* Есці. *Як сядуць удваіх трупáціць яны адзін пірід адным ныпірягонкі, нівісь скольхка увамнýць.*

**Трусінь** *выкл.* Выгук для адганяння трусоў. *Трýсінь пат печ, скáчыця вы пы хаці!*

**Труска** *ж.* Дробязь, трэска. *Віхай ужо хуць ікая трýска будзіць. Трýскі выкідывыць ні нада, сыгрябі у карзінку, спалюцца ў печы. Памянш.* **трусачка**. *Што ж ён дыжывáіцца, што дайжа трýсычкі у хаці ні астаецца. Цяперя ны жарок можна і трýсычык уссыпыць.*

**Трусянёнак, трусянок** *м.* Трусяня. *Трусянёнка злавіў і бегыіць зь ім, замучыіць. Трёх трусянёнкыў аддаў Колю, ніхай гадуіць сабе. Нашто табе етый трусянок, пусьці. Памянш.* **трусянёначак**. *Па-мойму, ета адзін трусянёнычык пыказывыіцца пыт палом.* **Трусяняты** *мн. Раншы*

*дык неік у норых трусіняты вывадзіліся, пыт хатыю жылі. Памянш.* **трусяняткі, трусянятачкі**. *Я ўжо даўно хачу пылавіць трусінятык, толька ж іх ня дужа зловіш. Трусінятычкі мулюпа́сінькія ліжаць у гнязьдзечку.*

**Трухануць** *зак.* Крыху патрусіць. *Мукі як труханеш, тады пацьсьвінкі ядуць, а так пірярыюць, пірярыюць і пішчаць.*

**Трухнуць** *зак.* Трасянуць. *Трухнуў ныч шайкыю мяшок, а зь яго во нейкія бумажкі пасыпыліся. Трухні па бульбі мукою, пырысяты луччы пыядуць.* **Трухнуцца** *зак.* Трасянуцца. *Ета с кырма́на нечыга трухну́лыся.* **Трухнутый** *дзеепрым. Гною нямножка було трухну́та, а ячмень атліча́іцца.*

**Трухліна** *ж.* Парахня. *Ета ні бярно, а трухліна, на дровы нада астарожна парезыць. Памянш.* **трухлінка.** *Пулума́й трухлінку, у хату зынясецца у печ пыдз загнет.*

**Трухляццё** *н.* 1 *зб.* Парахня. *Трухляцьцё нада падмесьць ды ў гной, ны ўсядзьбу вывізіцца і зыпа́шыцца.* 2 *перан.* Старая, нямоглая асоба. *Ну што, маё трухляцьцё, і ты паўзеш сь печы? Такому трухляцьцю ужо ні ды работы.*

**Тручэнне** *н.* Атручванне. *Ты зь естым тручэньнім ні тхыря́, а скарей кошку атра́віш, іна пупадзець мяса і зьесьць.*

**Трушчанне** *н.* Ламанне. *Я табе дам за тру́шчыньня: узьлезіць ны хвырасток і гоцыіцца, а ён сухенічкій, ажно трецца.*

**Трыбухаватый** *прым.* Трыбухаты. *Такей ужо трібухува́тый конь, што ў ыглыблях ня месьціцца. Памянш.* **трыбухаваценькій**. *Два ла́дныя трібухува́цінькія пацьцёлычкі сяньня былі ны бызарі, каму нада, можна було брацъ гудуваць.*

**Трыбушша** *н. зб. груб.* Вантробы. *Чаго ён тама сваё трябу́шша ірьвець? Усюдых яго трябу́шшу места німа.*

**Трыбушыцца** *незак. перан.* Знішчацца, развальвацца, рвацца. *Усё яго хызяйства трібушыцца, патходзіць к канцу. Пінжачышкі ны ма́лых пряма трібуша́цца.*

**Трыбушэнне** *н.* Развал, вынішчэнне, шкуматанне. *Усё дно як посьлі трібушэньня якога ета твыя кухня. Ты глядзі с трібушэньнім, ато я цябе нытрібушу́.*

**Трывушыць** *незак.* Біць у вуха. *Аднаго пупалі і дывай трівушыць, прімылаціліб, каб ня вырвыўся, яны і так ладна ўкацілі.*

**Трылюдзіцца** *незак. іран.* 1. Балбатаць, пустазвоніць.

*Пасьці ўсе пырызыіжджáліся, пустэй бызар быў, а яны доўга стыялі кыла Іўкіных калёс, трілю́дзіліся.* 2. Здавацца, уяўляцца невыразна. *Сыма сабе ныбярець у гылаву усяго ўсякыга, тады ёй ніізьвесна што трілю́дзіцца.*

**Трылюдзішча** 1 *ж.* Бязглуздзіца, лухта. *Няўжэлі вы ня ўсю трілю́дзішчу піряслу́хылі, што вам ахота стыяць тута ніізьвесна чаго.* 2 *м.* і *ж. павеліч.* Пустамеля, балбатун. *Трілю́дзішча ты, разьві у тых Лібісых быў хто ці відзіў, што ты вярзеш. Во ўжо трілю́дзішча баба, з роду такея ня відзіў.*

**Трынчэнне** *н.* 1. Брынканне, бразганне. *Я у тым баку нейкыя трынчэньня чула.* 2 *перан. іран.* Жаданне, прага. *Ох, і ўніміць жа бацька тваё трынчэньня, вы́гыніць яго, што ты і агляну́цца ні пасьпеіш.*

**Трынчэць** *незак.* 1. Брынкаць, бразгаць. *Мы тама сядзелі, і Валодзька на скріпкі трынчэў. Вядро адззáду прічэпліна і трынчы́ць.* 2 *перан. іран.* Хацець, прагнуць. *Відзіш, як яны трынчáць ны вічарінку.* **Трынчэцца** *незак.* 1. Брынкаць, бразгаць. *Што ж ета ў цябе трынчы́цца ны калёсых?* 2. Хацецца. *С сáмыга раньня яму трынчы́цца ны свадзьбу.*

**Трыпузый, трохпузый** *прым. іран.* Вельмі тоўсты, тлусты. *Сяньня ж і Сямёныў тріпу́зый пріехыў, сызывáлі сваіх на вечыр, угашчэнія гатовюць. Во ідзець кыбан трёхпузый, ны яго адзежыны ні пыдбяреш ныпя́ць.*

**Трысцен, трысценак** *м.*, **трысценка** *ж.* Трысцень. *Каб ты купіў сабе харошый трісьцен, пыставіў, во ета б ладныя хаты былі. У яго і так хата быльшая, а ён ішчэ і трісьценык пріру́блівыіць. Не ўжо, я трісьценку прістыўля́ць ня буду, нашто іна мне. Памянш.* **трысценчык, трысценачак, трысценачка.** *І хата някрепкыя, і трісьценчык пасьці ўвесь іс хря́пык, я табе ні саветыю ету пастройку браць. Хату рызыбрáлі і пывязьлі, а трісьценычык астаўся. Пріру́біў мáліңькыю трісьценычку, у ёй нейдзі будзіць пывярну́цца.*

**Тугей** *прым. перан.* Цяжкі для выдойвання. *Кылі мылако тугоя, ажно рукі зыбыляць, пакуля падоіш. У мае каровы дужа тугоя мылако.*

**Тужыць** *незак.* Рабіць тужэйшым. *Стаў ту́жыць ношку, а вярёўка хлоп пыпылáм. Большы ня туж, хваціць і етыга.*

**Тулмачанне** *м.* Тлумачэнне. *С твайго тулмáчыньня і знаўшы нічога ня поймiш, а ня то што рызьбярецца тэй, хто первый раз тут.*

**Тулмачыць** *незак.* Тлумачыць. *Што я табе буду тулма́чыць, ты сыма усё ня хужы мяне знаіш.*

**Тумак** *м.* Тупы, абмежаваны чалавек. *Чаго ён такей тума́к зыдаўся, што яму ні талку́й, нічога ні даходзіць, пряма атліта́юць словы, як ац сту́пы. Узмацн.* **тумачына.** *Папробывыла б сыма жыць с такім тумачы́ныю.*

**Туманенне** *н. перан.* Затуманьванне, падманванне. *Мы знаім, чаго яны нам зубы зыгыварівылі, толька мы ні пыддаліся на іх тума́ніньня.*

**Тумканне** *н.* Разуменне. *Прішоў на ўсё гатовыя і пашоў ат усяго гатовыга, яму і пыда́джына, за ім і прібра́джына,— во яго й ту́мкыньня.*

**Тумкаць, тумкацца** *незак.* Разумець, разбірацца. *Ну скажы, што ты ў жызьні ту́мкыіш, ты праседзіў зы бацькывыю сьпіною, як зы ка́мінныю гарою, паліц ап паліц ударіць ні знаў. Знаю я, як яны, цяперішнія, ту́мкыюцца: бацька спраў, матка пыдай і большы нічога.*

**Тунянне** *н.* Лодарнічанне, бесклапотнае бадзянне. *Ну як жа глядзець ны яго туня́ньня, усякімі спысыба́мі ат работы атвя́рчыіцца.*

**Тупіла** *м.* 1. Тупы нож, тупая сякера. *Нож такей тупіла, усё дно як яго ні разу ні тачы́лі.* 2 *перан.* Тупы, няздольны чалавек. *Ну й тупіла чылавек, ні ў чом рызыбраццa ня можыць сам.*

**Тупілічанне** *н. жарт.* Няўмелае рэзанне тупой прыладай. *Ні баіцца Сярёжка твайго тупілі́чыньня, ён сам каго хочыш можыць зутупілі́чыць.*

**Турак** *м. перан.* Дурань. *Ту́рык — ён усігда ту́рык, ці ты яму гывcurrі, ці не. Ну што ты ту́ркым аб'ясьніш, разьві яны рызьбярýцца.*

**Тураць** *незак.* Ганяць. *Хто тама курей туря́іць, ідзіка глянь, каб ня тхорь ета уваліўся.* **Турацца** *незак.* Ганяцца. *Ікая ж ета гульня, што туря́юцца адзін зу другім, аж зыха́кыюцца.*

**Турзанне** *н.* Тузанне. *Ім нада было хырашэнька пыкызаць ту́рзыньня, аднаму і другому, воѓірі такея-то.*

**Турзаць** *незак.* Тузаць. *Усю дарогу мяне ту́рзыў, ні дываў спакою ні мінуты.* **Турзацца** *незак.* Тузацца. *Во сьмеху было, як сталі яны ту́рзыцца.* **Турзнуць, турзануць** *зак.* Пацягнуць, штурхнуць. *Як ту́рзьніць ён цябе, пыляціш дыгары ныгамі. Ён ба ішчэ доўга гываріў, дык Мархва турзану́ла зы палу.* **Турзнуцца, турзануцца** *зак.* Ірванущца. *Ту́рзнуўся раз, другей раз, ды ня ў тэя рукі пупаў. Як турзанецца ат іх, яны і раты пырызіўля́лі.*

**Турканне** *н.* Пакрыкванне, каб прымусіць выконваць. *Ежылі у сымаго ру́пыты ня будзіць, то ніякыя ту́ркыньня ні паможыць, хут ты ні знаю што дзелый.*

**Туркаць** *незак.* Пакрыкваць, каб прымусіць выконваць. *Сколька ты ня ту́ркый, дык гультуя́ работыць ня дужа зыста́віш.* **Туркнуць** *зак.* Прыкрыкнуць, каб прымусіць выконваць. *Чаго ты ні разу ня ту́ркніш ны яго, чаго ён у цябе такей распу́шчыный?*

**Турлычка** *м.* і *ж.* Разумова адсталая асоба з неразвітай мовай. *Во і Каця свайго турлы́чку некуды пывіла. У яе дзяў́чонка турлы́чка сядзіць у хаці, гарю́іць баба зь ёю, большы некуды, як гарю́іць.*

**Турнепсіна** *ж.* Асобная расліна або плод турнепсу. *Пу гурках кой-айдзе турнепсіны сідзяць. Ідзі вы́рьві турнепсіну, апскаблі ды зьеж.* *Памянш.* **турнепсінка.** *Сьвежынькыю турнепсінку зьесьць нядренна, іна сма́шныя.*

**Турчок** *м.* Цвыркун. *У нас пат печчу доў́га турчок жыў́. Ну лугу турчкоў́ нііcьвесна сколька, кругом турча́ць.*

**Турчэнне** *н.* Птушыны свіст. *Кажныя раньня мы ета турчэньня ў́ бярёзкых чуім, нейкія птушычкі так турча́ць.*

**Турчэць** *незак.* Падаваць свісцячыя гукі (пра птушак). *Вясною чаго толька ня дзеіцца зь естых птушык, яны і пяюць, і неік турлы́чуць, і сьвішчуць, і турча́ць, пы-ў́сякыму дзелыюць.*

**Турыць** *незак. перан.* Рабіць справу без разліку (сеяць, жаць, касіць і інш.). *Я вы́бігла скызаць, каб ня сеіў́ ат мяжы, кінуў́ пад бульбу, а ён ужо ту́ріць ячмень. Удзьвюх сталі с краю і ту́рюць полысы убок — так яны жнуць. Ту́ріць пакос чуць ні ціріз увесь луг.*

**Тусменне** *н.* Марненне. *Горю тусьменьнім ні паможыш, іна толька убіваіць сыма сябе, ты яе рузувіря́й патроху.*

**Тусмець** *незак.* Марнець ад гора, перажыванняў́. *Што ж яе жызьня, такой жызьні ніхто ні пызаві́дыіць, каторый год адна тусьмеіць, а пры яго ні слуху ні духу.*

**Тухель** *м.* Туфель. *Адзін ту́хіль во стаіць, а другей як прыгрімеў́, ніўдзе ні найду.* *Памянш.* **тухлік, тухелек, тухялёк.** *Во етый твой ту́хлік нада зашыць абізацільна, і ты тады трошку паходзіш. Аткуль жа я знаю, айдзе ён, твой ту́хілік, сам закінуў́ куды-небудзь. Пыдай ты яму тухялёк, ніхай ні скліміць.*

**Тухленне** *н.* Смурод, пах тухляціны. *Ну што ты нясеш, хочыш, каб яшчэ і ў хаці тухленьня було. Усё вынісі, праветрій, хваціць ужо тухленьня етыга.*

**Тухлець** *незак.* Смярдзець, пахнуць тухлым. *Сьвежыю рыбу, як цёпла, ні кідай ліжаць, іна зразу стáніць тухлець, апчысьці і скарей салí.*

**Тухлючый** *прым.* Смярдзючы, з пахам тухляціны. *Такей чылавек ні пысьцісьняіцца і тухлючыга пыдáсьць. Тухлючыю рыбіну у шáйку ўкінь.*

**Тухлявый** *прым.* Крыху смярдзючы. *А ты знаіш што, яно ж ужо тухлявыя, ета мяса, душок чуцін.* *Памянш.* **тухлявенькій.** *Нічога, нічога, ёй ладзін будзіць і тухлявінькій, абы кывалер.*

**Тухляк** *м. абраж.* Той, хто смярдзіць. *Дык што, я яшчэ і тухліка етыга дылжна увыжаць? — не, ні дыжджыцёся.* *Памянш.* **тухлячок.** *Ідзі ўжо, твой тухлячок прібег.* **Тухля, тухлянка, тухлячка, тухлючка** *ж. Узноў пышла тýхля пы хатых поўзыць, во некыму прыздрáвіць яе хырашэнька! Такому жыніху, як етый, і тухлянка ладна будзіць. Ніхай тая тухлячка на лбу сабе зарýбіць большы маю дзяўчонку трогыць. Ня дужа яны нуждаюцца, каб ета тухлючка пыіўлялыся тут.*

**Тыненне** *н.* Абстаўлянне плахамі (пограба, сажалкі). *Плáшкі зыклáдывылі упыпярёк, а зімля абрýшылыся, ныдавіла і ўсё яго тыненьня аб'ехыла, нада пірядзелывыць.*

**Тынь** *ж.* Плесень. *У клеці дужа тынью пахніць, нада вакенца ататкнýць, ніхай праветріицца.*

**Тырханне** *н.* Штурханне. *У іх було ладныя тырхыньня пыднялося, алі тады мушчыны умішáліся, рызьвялí іх. Дам тырхáньня, нашто табе мáлых трогыць.*

**Тырхаць** *незак.* Штурхаць. *Большы ты майго мáльца тырхыць ня будзіш, запомні ета. Зразу крічалі, а тады дывай яго тырхáць ныпраўду.* **Тырхацца** *незак.* Штурхацца. *Пірістань тырхыцца, ні ны таго ты ныпáў. За што-то яны тырхáліся, кыла іх усё прыгыў Мікіпырька, міріў іх.* **Тырхнуць, тырхануць** *зак.* Штурхнуць. *Глядзі, як тырхну, дык ты ня будзіш знаць, як ляцець. Нада було тырханýць, каб атляцеў на дзесіць сажніў, такей-то вогірь, места сабе ні найдзіць.* **Тырхнуцца, тырхануцца** *зак.* Штурхнуцца. *Тырхнуліся пару разоў, рызыйціцца ім дужа ні дáлі. А што я іх, дзіржаць буду ці што, ніхай тырханýцца.* **Тырханутый** *дзеепрым. Пыляцеў тырханýтый як сноп і зыдывáньня на етым кончылыся.*

**Тыхаць, тыхкаць** *незак.* Тахкаць, біцца (пра сэрца). *Птушычку як зловіш, у яе ты́хыіць серца, чуць ня вы́рьвіцца. А што, серца ты́хкыла, як бег упацёмкых ціріс кусты?*

**Тэй** *займ.* Той. *Тэй чылавек пашоў пряма ціряс поля, я ні знаю, хто ета быў. Тэя снапкі даўно высыхлі, іх нада у пуню пірянесьць абізацільна, ато дождж пацыэліцца і намочыць.*

## У

**Убабухыванне** *н.* Празмерна глыбокае закопванне *Такоя убабу́хывыньня лішнія, нашто йта етык глубока зыка́пывыць стоўбікі, ці прясла хто будзіць рузуря́ць.*

**Убабухываць** *незак.* 1. Закопваць празмерна глыбока. *Убабу́хывыюць штында́ры чуць ні пы сажню, лішнія работа.* 2. Даваць (грошы). *Такея грошы убабу́хывыць зы нішто я ні стаў ба.* **Убабухывацца** *незак.* 1. Улазіць. *Чаго ён палезіць у такей сьнег убабу́хывыцца? 2 перан.* Моцна стамляцца. *Хва́ціць табе убабу́хывыцца, каму ты ўсё зыпа́сіш? 3 перан.* Аказвацца ў вельмі непрыемным становішчы. *Сколька разоў ён убабу́хывыўся, а бацька з маткыю бегылі, выцягывылі, як чорта якога.* **Убабухаць** *зак.* 1. Закапаць празмерна глыбока. *Ніізьвесна як убабу́хылі сохі, ды с сукамі, во нумурдува́ліся мы выка́пывыць!* 2. Аддаць (грошы). *Глядзіця, грошы убабу́хыіця, а жыць ня прі́дзіцца, іна дужа ста́рыя хата, ніізьвесна, калі ста́йліна.* **Убабухацца** *зак.* 1. Улезці. *У сьнег як убабу́хыліся с канём, дык ня вылізьць.* 2. Моцна стаміцца. *Лі пнёў работа цяжолыя, як убабу́хыюцца, дык чуць прі́дуць.* 3. Аказацца ў вельмі непрыемным становішчы. *Нідурнэй чылавек, а так убабу́хыўся сь сеным, і нашто яму було яно!* **Убабуханый** *дзеепрым.* 1. Закапаны празмерна глыбока. *Дужа глубока шу́льля убабу́хына, яго няпроста выка́пывыць.* 2. Аддадзены (пра грошы). *Шчытай, дырма грошы убабу́хыны.* 3. Моцна стомлены. *Вярнуліся убабу́хыныя, чуць жывэя, пірікусілі і скарей лажыцца.*

**Убадзюліванне** *н.* Уторкванне ў цвёрдую паверхню. *Пусьці с тваім убадзю́лівыньнім, ніхай Коля возьміцца, ён скарей зьдзелыіць.*

**Убадзюліваць** *незак.* Уторкваць у цвёрдую паверхню. *Ты папробый-ка лупатку у зямлю убадзю́лівыць,— ня лезіць, дужа пірясохла зімля.* **Убадзюлівацца** *незак.*

Уторквацца ў цвёрдую паверхню. *Ня дужа ў такую зямлю убадзю́лівыіцца пру́цьця, лума́іцца і ўсё.* **Убадзюліцца** *зак.* Уторкнуцца ў цвёрдую паверхню. *Пробый тут, можа тут убадзю́ліцца, кажыцца, далжно трошку мякчэй быць.* **Убадзюленый** *дзеепрым. Вун сідзяць у гароху нескылька убадзю́ліных прутоў.*

**Убаніцца** *зак.* Станіцца, мыючыся ў лазні з параю. *Прішоў, прішоў твой старэй, за шырмычкыю ляжыць, дужа убаніўся, жарка було.*

**Убарсыванне** *н.* Уцягванне абор у лапці. *Ці ты ні знаіш яго убарсывыньня: абы-як удзеніць, хочыш, ціріс курец прыцягніць, будзіш пірядзелывыць.*

**Убарсываннік** *м.* Той, хто ўцягвае аборы ў лапці. *Ты хуць два лапці уместа ні шчапі, убарсывыньнік такей.* **Убарсываннiца** *ж. Ікая ні ўба́рсывыньніца, а аборіны прыцягну́ла правільна.*

**Убарсываць** *незак.* Уцягваць аборы ў лапці. *А што, і аборіну уба́рсывыць нада було ўмець, іх абы-як ні пыўця́гывыіш.* **Убарсывацца** *незак.* Уцягвацца ў лапці (пра аборы). *Вузялкоў многа ны аборкі, ці будзіць уба́рсывыцца, ці не.* **Убарсаць** *зак.* Уцягнуць аборы ў лапці. *Калі ўмеіш, дык убырса́іш зы пыўміну́ты.* **Убарсацца** *зак.* Уцягнуцца ў лапці (пра аборы). *У сьпіцыяліста убырса́іцца, а ў няўрёмы ні палучыцца нічога.* **Убарсываный, убарсаный** *дзеепрым. Айдзе ж яны уба́рсывыны, аборы ліжаць ны скамеічкі. Раз новыя аборы убырсаны, то можыш зыдыва́цца.*

**Убаўлянне, убаўліванне** *н.* Змяшчэнне, усяленне. *Хваціла мне с убыўля́ньнім, хаты ставіць — ета хто ні знаіць, дык лёхка. Дужа зыцягну́лыся яго уба́ўлівыньня, глядзі, каб ны зіму ні астаўся у Варкіных.*

**Убаўляць, убаўліваць** *незак. перан.* Змяшчаць, усяляць. *Нада сына к восіні абізацільна убуўля́ць у сваю хату, чаго зіму ўмесьці таўпоріцца. Іс сынамі столька було клопыту, а цяперя і зяця нада ўба́ўлівыць у хату, што ж ты зьдзелыіш.* **Убаўляцца, убаўлівацца** *незак.* Уваходзіць, усяляцца. *Зіма ны насу, нада думыць, як скарей у ха́ччыну убыўля́цца. Мае ўжо на той нядзелі будуць у сваю хату уба́ўлівыцца.* **Убавіць** *зак.* Змясціць, усяліць. *Доўга я цягнуць ня буду, жыва іх уба́ўлю у сваё сьцены.* **Убавіцца** *зак.* Увайсці, усяліцца. *Як сыны уба́вюцца ў хату, у мяне цэлыя гыра зваліцца с плеч.* **Убаўленый** *дзеепрым. Раз яны уба́ўліны у свае вуглы, я за іх спакойна.*

**Убіваць** *незак. перан.* Запраўляць змесцівам яйца. *Яйцы ні нада убівáць у быракі, іх ніхто есьць ня будзіць.* **Убівацца** *незак.* Моцна стамляцца. *Кыныстрацёнык лі пастроік дужа убівáўся, чуць серінька — ён ужо с тыпаром, і цямнеіць — ён ішчэ ляпыіць.* **Убіць** *зак.* Заправіць змесцівам яйца. *Яйцо убі і рыскылаці, смашней будзіць, дзеці ахатней зьядуць.* **Убітый** *дзеепрым. Ныпрáсна ты етык дзелыіш, убітыя яйцы у шайку вы́кініш.*

**Ублагаслаўляць** *незак. перан. іран.* Задавальняць, здавольваць. *Яны ці ні зьбірáюцца сваіх родзічыў ублыгыслыўляць, бегылі ў горыд, з бутылкымі вярнуліся. Ублыгыслыўляла Полька свайго кума, ажно поля тряшчэла.* **Ублагаслаўляцца** *незак.* Задавальняцца, здавольвацца. *Кісялёнык у Анюціных сяньня ублыгыслыўляўся. Што ён, узноў пашоў к Алёні ублыгыслыўляцца?* **Ублагаславіць** *зак.* Задаволіць, здаволіць. *Посьлі такога рызгавора нічым ты яго ні ублыгыславіш. Як ублыгыславяць яго хырашэнька, тады наўчыцца меріць правільна.* **Ублагаславіцца** *зак.* Задаволіцца, здаволіцца. *Ніхай ужо ублыгыславіцца, тады будзіш гываріць зь ім. Ублыгыславіўся,— пашоў сагнуўшы гылаву.* **Ублагаслаўлёный** *дзеепрым. Ат Хведзіныя сьвякровы яны абоя ублыгыслаўлёныя пойдуць, тая ні пысьцісьняіцца аччытáць.*

**Ублажэнстваваць** *зак.* Задаволіць поўнасцю. *Ты ж сыма вазьміся яго ублажэнствывыць, што ты мяне пацсовыіш.* **Ублажэнстввацца** *зак.* Задаволіцца поўнасцю. *Па-мойму, на етый раз і Сьціпанёнык ублажэнствывыўся, маўчыць.* **Ублажэнстваваный** *дзеепрым. Антон пашоў ат кумы ублажэнствывыный.*

**Ублюсць** *зак.* Захаваць, зберагчы. *Разьві зы мáлымі што-небудзь ублюдзеш, айдзе ні схуваю канхветы, яны вы́пырюць і пыядуць.*

**Убрацца** *зак. перан.* Увабрацца (пра вадкасць). *У погріб трошку ныцякло вады, я толька хацеў выліваць, а іна зразу убрáлыся.*

**Убрудзяніванне** *н.* Забруджванне. *Дужа я ні люблю такога убрудзянівыньня, нічога ні зупускáю, зразу мыю.*

**Убрудзяніваць** *незак.* Забруджваць, рабіць брудным. *Нільзя адзежу убрудзянівыць так, што ні аччы́сьціць.* **Убрудзянівацца** *незак.* Забруджвацца, пакрывацца брудам. *Ня лезь яшчэ ты убрудзянівыцца, яны самі справюцца адны. Ні дупускай адзёжы убрудзянівыцца.* **Убрудзяніць** *зак.* 1. Забрудзіць, зрабіць брудным. *Новінькыя куртычка, толька надзеў і ўсю чысьцінька убрудзяніў.* 2.

Забрудзіцца, зрабіцца брудным. *Верхніца твыя ладна убрудзя́ніла, нада у шчолыку ацьціраць.* **Убрудзяніцца, убрудзянець, убрудзянецца** *зак.* Забрудзіцца, зрабіцца брудным. *Памый січас, нічога ня зьдзелыіш, як убрудзя́ніцца. Нада ж убрудзянець кыўнярю́, ты саўсім шыі ня хочыш мыць. Кыла пы́льныя работы усякыя адзежына быйстра убрудзянеіцца.* **Убрудзяненый, убрудзянелый** *дзеепрым. Настолька убрудзя́ніный пінжак, што яго дайжа к скату ні ныпрянеш. Убрудзянелыя тряп'ё толька выкінуць ці тря́пышніку здаць.*

**Убрусянець, убрусянецца** *зак.* Распухнуць і пачырванець. *Другей раз зубы як схвацюць, шчыка як убрюсянеіць — пряма спасу німа. Ні знаю, што ў яе такоя, ныга убрюсянелыся, нада ні ждаць, а ў бальніцу везьць.* **Убрусянелый** *дзеепрым. Уся ладонь убрюсянелыя і нейкыя сізыя, каб зыражэньня ні було.*

**Убрытыванне** *н. перан.* Уцягванне ў кампанію, у хаўрус. *Раз ета пычалося с убры́тывыньня, то ён зь іх рук ня вы́рьвіцца, яны ўмеюць крепка дзіржаць.*

**Убрытываць** *незак. перан.* Уцягваць у кампанію, у хаўрус. *Мы відзім, што ён як глума́к нейкій, яго убры́тывыюць гэрчыкі тэя, а ён і йдзець як ны пывадку́.* **Убрытывацца** *незак.* Уцягвацца ў кампанію, у хаўрус. *Ні нада табе, хлопіц, убры́тывыцца у ета дзела, яй-богу, ні нада.* **Убрытаць** *зак.* Уцягнуць у кампанію, у хаўрус. *Крепка ўбрыта́лі Сьпірідонывыга мальца, пойдзіць зь імі як цялёнычык.* **Убрытацца** *зак.* Уцягнуцца ў кампанію, у хаўрус. *Хто ж табе вінуват, што етык убрыта́ўся, ты знаў, ікая ета кынпанія.* **Убрытаный** *дзеепрым. Даўно ўжо у іх убры́тыный ходзіць, яны ўмеюць у руках дзіржаць. Убрыта́ныга цяжола выцягывыць, нада було ні дупускаць да тых атлётыў.*

**Убрэг** *м.* Супакой, заспакаенне. *Ты ў мяне палучыш убрэґ, як вазьму ціріськсядзельнік у рукі. Другея дзеці як дзеці, а вам усігда убрэґу німа.*

**Убуваць** *незак.* Дадаваць пры абуванні. *Мой старік усігда суконкі убува́ў, я яму дайжа новыя ат трубкі атрізала.* **Убувацца** *незак.* Абувацца вельмі цёпла. *Стырікі, бувала, крепка убува́ліся, памнога кымса́лі ануч.* **Убуць, увабуць** *зак.* Дадаць пры абуванні. *Прахор, я помню, убу́іць гляні́шчы ат ва́лінык і ходзіць, яму ўсігда цёпла. Чым большы увабу́іш, тым цяплей ныгам.* **Убуцца, увабуцца** *зак.* Абуцца вельмі цёпла. *Сяньня ты ўбу́ўся, як у самыя злэя марозы. Як увабу́іцца, яго ніякій холыд*

*ня прой́міць.* **Убутый, увабутый** *дзеепрым. Хырашо ўбу́тыя ногі ні замёрзнуць. Цёплыя суконкі ўваб́уты, дык яму нічога ні страшна.*

**Убузаніваць** *незак.* Моцна забруджваць. *Харошыю адзежыну усігда бірягі, яе нільзя абы-куды ныдзіваць, у грязь убуза́нівыць.* **Убузанівацца** *незак.* Моцна забруджвацца. *Якей сь цябе хызяін будзіць, кылі новый касьцюм етык убуза́нівыіцца.* **Убузаніць** *зак.* Моцна забрудзіць. *Айдзе йта ты так свае штонікі убуза́ніў? — зьдзівай і лезь на печ, саўсім ня пойдзіш на вуліцу, калі як нада гулять ня ўмеіш.* **Убузаніцца** *зак.* Моцна забрудзіцца. *Шубёнка твыя убуза́нілыся, ні паходжа дайжа, што шубёнка.* **Убузаненый** *дзеепрым. Чаго ж ты еткій убуза́ніный ходзіш, памыйся ды пірядзенься як усе людзі.*

**Убузовыванне** *н.* 1. Забруджванне, заношванне. *Што йта ты спакойна глядзіш на ета убузовывыньня, на што яго ку́ртычка ціріш час станіць паходжа?* 2. Стома. *Кажный дзень такоя убузовывыньня самый здыравіла ня вы́дзіржыць.*

**Убузовываць** *незак.* 1. Забруджваць, заношваць. *Нашто табе у грязь чыстыю адзежыну убузовывыць, ты ж пірядзенься, а тады і ў пуню йдзі, і ў погріб лезь, і куды ты хочыш.* 2 *перан.* Стамляць, выбіваць з сіл. *Яны паедуць толька коні убузовывыць, такою дарогыю ехыць нілізя.* **Убузовывацца** *незак.* 1. Забруджвацца, заношвацца. *Ны скырадзьбе пы́льна, усё убузовывыіцца, асобінна ежылі па пы́льныму ды яшчэ дождж пройдзіць.* 2. Стамляцца, выбівацца з сіл. *Ні нада так убузовывыцца, ны каго ты і за што зы я́кыя сілы кладзеш.* **Убузаваць** *зак.* 1. Забрудзіць, занасіць. *Касьцю́мчык так убузува́ў, што дайжа ні рызьбяреш, якога ён быў цьвету. Сколька чаго ні спруўля́й, ён усё убузу́іць.* 2. Стаміць, выбіць з сіл. *Так убузува́лі коні, што яны чуць-чуць дыча́пылі.* **Убузавацца** *зак.* 1. Забрудзіцца, занасіцца. *Ны пастройкі бярвеньня новыя смыла, нада пыднімаць, пінжачок дужа убузува́ўся.* 2. Стаміцца, выбіцца з сіл. *Убузува́ліся, рызьбіраўшы хунда́мінт, чуць жывэя двору прікаціліся.* **Убузаваный, убузованый** *дзеепрым.* 1. Забруджаны, заношаны. *Кухвайка настолька убузува́ныя, што яе некуды аччышчаць, ёю толька можа ад дыжджа калі накры́іцься. Рукі у нешта убузовыныя пы самыя локці, усё дно як ён дзёгыць мясіў.* 2. Стомлены, выбіты з сіл. *Ну што ж, кылі доўга сьпяць, яны цэлыю нядзелю пріхадзілі такея убузува́ныя, што большы некуды. Коні зы вясну*

*убузовыны, ім нада абізацільна зь нядзелю пірядышкі даць.*

**Убуйтовываць** *незак.* Моцна стамляць. *Ты ж так сваіх памошнікыў ні убуйтовывый, ато большы яны к табе ня пойдуць.* **Убуйтовывацца** *незак.* Моцна стамляцца. *Ня буду я убуйтовывыцца кажный дзень, і там, і там спруўляцца.* **Убуйтаваць** *зак.* Моцна стаміць. *Пашлі, пашлі, посьлі пысядзім, ззаду становіцца: дывайця, хлопцы, дывайця,— так ён нас убуйтуваў за дзень, мы чуць жывэя.* **Убуйтавацца** *зак.* Моцна стаміцца. *І работыць нада, і аддыхаць нада, а калі ты сяньня убуйтуваўся і заўтря убуйтуваўся, дык скора і ног ні пыцягніш.* **Убуйтаваный** *дзеепрым. Пріехылі яны сяньня убуйтуваныя, куды ім іціць, ніхай аддыхаць лыжацца.*

**Убухыванне** *н.* 1. Празмернае заглыбленне. *Ні нада такоя убухывыньня, сьмела удвыя мяльчэй шульля зыкыпай, і нічога тваёй сьценкі ні станіць, нікуды іна ні паверніцца.* 2. Празмернае стамленне. *Аткуль жа будзіць сіла прі таком убухывыньні.*

**Убухываць** *незак.* 1. Празмерна заглыбляць. *Ныпрасна ты дужа длінныя кольля убухывыіш, тут і кырацейшыя будзіць дзіржаць. Штындары убухывыюць даўжэнныя-даўжэнныя, ат іх сьмела можна пы палкі атрезыць.* 2 *перан.* Празмерна стамляць. *Ня едзьця вы сяньня, дарогі саўсім німа, паедзіця толька коні убухывыць.* **Убухывацца** *незак.* 1. Празмерна заглыбляцца. *Шулы убухывыюцца ны ніізьвесна якую глубычыну.* 2. Празмерна стамляцца. *Як мы ны тарху убухывыліся! — бувала, прідзіш ат ям — ні рук, ні ног ня чуствыіш.* **Убухаць** *зак.* 1. Празмерна заглыбіць. *Глубока штындары ўбухылі, дубовыя, ім веку ня будзіць. Многа кольля убухылі, тута і ваўкі ні падрыюцца.* 2. Многа даць. *Антонывы многа чаго свытам убухылі, бульбу вызамі вазілі, сам ён два вазы сена завёз як каню дзёрнуць.*

**Убушмачыванне** *н.* Нагавор, хлусня. *Во ўстреціліся, ета пычынаіцца ўжо убушмачывыньня, чаго толька Аньціпіха ні напрець.*

**Убушмачываць** *незак.* Нагаворваць, хлусіць. *Відзіш, стыяць пад ліпкымі, нешта кучыю тваёй сьвякрові убушмачывыюць.* **Убушмаціць** *зак.* Нагаварыць, нахлусіць. *Доўга ім убушмаціць што хочыш, с такімі ізыкамі нядоўга,— ух, пастылыя людзі.* **Убушмачаный** *дзеепрым. Нічога ні гаворючы, пойміш, што яму узноў нечыга убушмачына.*

**Убыць** *зак.* Змагчы быць разам. *Распушчыныя дужа дзеці, с такімі трудна ўбыць. Айдзе йна зь імі убудзіць цэлыю нядзелю, мне яны за́ дзінь духі ат'елі.*

**Убэйсыванне** *н. неадабр.* Утоптванне, вытоптванне. *Пугыю рызгані зь іхнім убэйсывыньнім, ніхай ні талу́юцца тута.*

**Убэйсываць** *незак. неадабр.* Утоптваць, вытоптваць. *Пірістáньця лужок убэйсывыць, на ём нічога ня вы́рысьціць.* **Убэйсывацца** *незак.* Утоптвацца, вытоптвацца. *Носюцца як коні, дык яно ўсё убэйсывыіцца.* **Убэйсаць** *зак. Пыд я́блынкымі так убэйсылі зямлю, што хуць ломым узьбівай.* **Убэйсацца** *зак.* Утаптацца, вытаптацца. *Ладна стажок убэйсыўся, хырашо яшчэ, калі ямык ні надзелылі, каб выда ні прыхадзіла наскрозь.* **Убэйсаный** *дзеепрым. Ікая тама трыва, усё убэйсына, разу ні кышанеш.*

**Убэхываць** *незак.* 1. Плаціць залішне многа. *Я табе дужа ні саветыю такея грошы убэхывыць зы гнільлё, нада што-небудзь путноя купляць.* 2 *перан.* Уцягваць у злачынную справу. *Убэхывыюць мальца у пролыбку, а цябе як і ні кысáіцца.* **Убэхывацца** *незак.* Улазіць у злачынную справу. *Ахотычка ж убэхывыцца чылавеку у еткыю пятлю.* **Убэхаць** *зак.* 1. Заплаціць залішне многа. *Во пылядзіш, што дырма яны грошы убэхыюць і тады будуць кусаць самі сябе за локці.* 2. Уцягнуць у злачынную справу. *Каб гылыва ны плічах была, дык ба ня ўбэхылі, ці ён ні знаў, ікая ета шайка-лейка.* **Убэхацца** *зак.* Улезці ў злачынную справу. *Мяне ён ня слухыіць, большы паўчы́іць було некыму, ну і ўбэхыўся, што ні знаіць, як вылізьць.* **Убэханый** *дзеепрым. Грошы ўбэхыны, а мылыка німа,— во як рытызя́ўнічыць ны бызарі.*

**Увабрацца** *зак.* Закончыць уборку. *Мы толька ўчора з бульбыю увыбрáліся, цяперя нада думыць дроў нызыпáсіць.* **Увабратый** *дзеепрым.* 1. Апрануты па-святочнаму. *Стыяць кучыю на вуліцы такея увыбрáтыя, што к ім дайжа пуцступіцца страшна.* 2. Убраны, прыбраны. *Калі сена парою увыбрáта, яго любая скаціна будзіць есьць. Увыбрáтыю просу ужо як-небудзь абаб'еш, так ліжаць ня будзіць.*

**Увавуліваць** *незак. экспр.* Удараць. *Каму ета, каму ты зьбіраісься увавýлівыць? — глядзі, каб сымаму скарей ні пупала.* **Увавуліць** *зак.* Ударыць. *Як увавýліць яму у плечы тумыкá, ён толька гыкнуў і глядзіць, што йта аткуль уляцела.*

**Уваджыванне** *н.* Увядзенне. *Намýчыліся мы с увá-*

*джывыньнім: чмыхніць карова, што чужая пуня, гылаву ў зямлю і ня йдзець, а пычынаіш сеч — кідыіцца.*

**Уваджываць** *незак.* Уводзіць, заводзіць. *Ну ета ж нада тыкая указэя: уваджывый ты айцу ў пуню, ато йна баіцца іціць,— бярі за хобыт і вылакі.*

**Увадзіць** *зак.* Пачаць моцна муляць, турбаваць, назаляць. *Во ікая-небудзь асьцюлінка пупадзецца і так іна увадзіць, што большы ні прідумыіш як.*

**Уважаць, уважываць** *незак. перан.* Уступаць. *Ніхай ён хуць сам сь сябе выскакывыіць, а я яму на етый раз увыжаць ні стану. Мы ім ужо сколька разоў уважывылі: баню яны зыхацелі браць — ну бяріця, лес ны прідзелык зьвязьлі — вязіця, а пуню не, ня ўступім.* **Уважыцца** *зак.* Уступіць. *Каб Цімашонык ні ўважыўся, ні знаю, што б там магло быць, а так спакойна абыйшлося. Кірей быў як сьпічка, пых і гатова, а Іпат, бувала, усігда уважыцца, дужа быў спакойный чылавек.*

**Уважмаць, ужмаць** *зак.* Уціснуць, упхнуць. *Во нейкій цьвёрдый мячык, ні ўважмеш. Дно ў карзінкі ужмаў, нескылька лазін піріламілыся дайжа, спорціў карзінку.* **Уважмацца, ужмацца** *зак.* Уціснуцца, упхнуцца. *Як ты сюда увыжмаўся, тут жа тыкая маліནькыя шчэлка! Папробый-ка ты сам, можа, большы уважмецца. Хворыст ужмаўся, можна наверьх яшчэ трошку уськінуць.* **Уважматый, ужматый** *дзеепрым. Бярі вун тоя вядзерца с увыжматым дном, яно нячыстыя, вады ў ім ужо ня носім. Усё тут і так ужмата, большы нічога ня ўлезіць.*

**Увазголіванне** *н.* Умазванне. *Во ўжо ні люблю я такога увазголівыньня, як ета, каб узрослыму чылавеку такою ніапряцінью быць.*

**Увазголіваць** *незак.* Умазваць, вымазваць з усіх бакоў. *Ты мне пірістань увазголівыць новінькыю куртычку у грязь, ато січас зыбяру і замкну ў сундук.* **Увазголівацца** *незак.* Умазвацца, вымазвацца з усіх бакоў. *Я ўзноў віджу, што ў цябе ўсё увазголівыіцца куляшом, дайжа гылаву вымызыў.* **Увазголіць** *зак.* Умазаць, вымазаць з усіх бакоў. *Старэя, знаць, усе нікуратныя, ці ета толька мой адзін: панёс пырысятым вылівацъ — увесь перід увазголіў, мый яму рубашку.* **Увазголіцца** *зак.* Умазацца, вымазацца з усіх бакоў. *Умеючы яму нядоўга увазголіцца, чыстый мала калі пріходзіць.* **Увазголеный** *дзеепрым. Як табе ня стыдна хадзіць такому увазголіныму, сь цябе хуць ацскрібай цеста пляйсьціірымі сухімі.*

**Увазграўліванне** *н.* Пэцканне. *Няўжэлі нілізя бульбу*

*патоўч, каб столька увызґряўлівыньня ні було, нада ж глядзець акуратнінька зьдзелыць. Табе, відна, сымаму ета увызґряўлівыньня дужа ныравіцца.*

**Увазграўліваць** *незак.* Пэцкаць. *Абізацільна табе нада лезьць у грязь, каб увызґряўлівыць новыя боцікі, січас пойдзіш у мяне абмуваць ны аборык.* **Увазграўлівацца** *незак.* Пэцкацца. *Ну як жа ты хочыш, каб ма́лый ні ўвызґряўлівыўся, ён так ні глядзіць, як бальшэй.* **Увазгравіць** *зак.* Упэцкаць. *Увесь рукаў лі локця увызґря́віў у нешта, ні пріду́мыіш, што ета.* **Увазгравіцца** *зак.* Упэцкацца. *Доўга ніря́хі увызґрявіцца, раз і другей лі шаік паверніцца і гатова, так вы́квыкліцца, што вачэй ня ўвідзіш.* **Увазграўленый** *дзеепрым. Увызґряўліныя рубашкі пыкладзіця ў сенцых, я іх атвечыра утаплю ў чугуне і памыю.*

**Увазграчыванне, увазгрочыванне** *н.* Пэцканне, запэцкванне. *Куліна дужа акурацістка была, увызґря́чывыньня іна ні любіла. Каму ж пыныравіцца увазґрёчывыньня прібіраць ды зумуваць.*

**Увазграчываць, увазгрочываць** *незак.* Пэцкаць, замазваць. *Посыд увызґря́чывыць яны дужа любюць, а мыць ня хочуць. Хваціць табе увазґрёчывыць скыўраду́, ідзі ўжо на вуліцу, пугуляй.* **Увазграчывацца, увазгрочывацца** *незак.* Пэцкацца, замазвацца. *Вылá́зьця з лужыны, нечыга увызґря́чывыцца. У яе ны дваре хвірма — і гусі, і куры, і сьвіньні, чаму ж ня будзіць увазґрёчывыцца, пакуль накорміць усіх.* **Увазграціць, увазгроціць** *зак.* Запэцкаць, замазаць. *Я й сам ні знаю, айдзе так мог увызґря́ціць полы. Астарожна кыла тоўчыныя бульбы, ато рука́вы увазґрёціш.* **Увазграціцца, увазгроціцца** *зак.* Запэцкацца, замазацца. *Пакуля дысталі бульбу, пірібралі яе, дык увызґря́цiліся ні прідумыць як. Увазґрёціцца нядоўга, асобінна калі няўрёміна.* **Увазграчаный, увазгрочаный** *дзеепрым. Ці відзіла ты, якея увызґря́чыныя ма́лыя, гані скарей у хату ды абмува́й. Ня пріся у хату увазґрёчыным, ідзі абмувацца на лужу.*

**Увазнаць** *зак.* 1. Даведацца. *Можа ты там увызна́ў, калі мыгазіншчыца лаўку аччыніць? Нада було б увызна́ць пра тэй істру́бчык, ці яны будуць прыдываць, ці не. Тады ён пабыў і ў Кыньцірісланві, і ў Кырнынштаці, увызнаў жызьню, ды ніндзе доўга ні задзержывыўся.* 2. Пазнаць. *Во, Міхалкіныга сына ды ні ўвызна́ць, увесь бацька, і рохтычкі пыдыбраў.* **Увазнаный, увазнатый** *дзеепрым. А разьві што-небудзь увызна́на пры Піт-*

*рачонкывых ма́льцыў? Каб хуць што-небудзь було увызна́та, нам ба абізацільна пірідáлі.*

**Увайстрываць** *незак.* Наточваць. *Як возьміцца уваúстрівыць, дык яшчэ большы затýпіць такей майсьцір.* **Увайстрывацца** *незак.* Наточвацца. *Як у цябе, ці ўвайстрівыіцца троху матычка?* **Увайстрыць** *зак.* Натачыць. *Настолька сухей тапор, што ніяк ні ўвайстріць, патпільнічык ні бярець, ну тыкая сталь дужа крыўшыцца.* **Увайстрыцца** *зак.* Натачыцца. *Як пацёр бруском, ножычкі троху увайстріліся.* **Увойстраный, увайстроный** *дзеепрым. Ножычкі ладна увойстрiныя, усё будуць резыць. Піла ня дужа увайстрёныя, нада було большы пацерць.* **Увайстромшы** *дзеепрысл. Увайстрёмшы будзіць резыць, чаму ж не, толька хто мне ету пілу дывядзець як нада.*

**Увайшоччы** *дзеепрысл.* Увайшоўшы. *Што нада скызаць, увайшоччы ў хату? Стаў і стаіць увайшоччы, ні рызьбярецца, куды пупаў.*

**Уваліваць, увалівацца** *незак. перан.* Здарацца (пра пажар), нападаць (пра хваробу). *У нашу дзярейню два разы агонь увáлівыў, адзін раз ны свадзьбі акурык у салому кінулі, а другей раз, ішчэ раншы, ня помню чаго. Я ўжо помню, як дзіхцярiт увáлівыўся, ух, прыклятый, касіў дзяцей як касою.* **Уваліць, уваліцца** *зак.* Здарыцца (пра пажар), напасці (пра хваробу). *Глядзі, агонь як увáліць, тады будзіш кукувáць. Каб ім скула ўваліла зь іх крікым. Нейкыя боль як уваліць у гылаву, цярьпеньня німа. Хвароба як увáліцца, спасу німа.*

**Увалхвіць** *зак.* Задаволіць пялегаваннем, пешчаннем. *Ты пряма ні знаіш, як увалхвіць етых мальцыў, ты іх меншы валхві, дык куды луччый толк будзіць.*

**Увамлець** *зак.* 1. Абамлець. *Сядзíм і нічога, рызгыварівыім, а тута ў кустах разым нешта шам-шам-шам і гылыва с-пут куста лезіць, мы і ўвамлелі, думылі, воўк, а ета Хвеччыхін Жучок,— ах, каб ты здох!* 2 *перан.* Утушыцца. *Мяса як хырашо увамлеіць у чугунку, тады выклыдзь ны скыўрадў ды ў печ пыстаў, яно пацсýшыцца, дужа смашна будзіць.* **Увамлецца** *зак.* Утушыцца. *Тýшыныя бульба як увамлеіцца хырашо, тады іна дужа смашныя.* **Увамлелый** *дзеепрым.* 1. Абамлелы. *Каровы бадуцца, а Надзькіна дзяўчонка стаіць увамлелыя і ні знаіць, што дзелыць, во я схвацiла пугу і рызыгнала.* 2. Утушаны. *Бярі-ка во, бярі мяса, увамлелыя кусочыкі будуць ладны.*

**Увамшыць** *зак.* Пакласці тоўсты пласт моху паміж

бярвеннем. *Ты увамшы́ў пуню як хату, сюда ніякій мароз ні пралезіць, цёпла будзіць скату.* **Увамшыцца** *зак. Зал.-бессуб'ект.* ад увамшыць. *Ці ладна ж іхныя хата увамшы́лыся, ато можа дзірькі айдзе між бярьвення сьвецюцца?* **Увамшоный** *дзеепрым. Ладна увамшоны сьцены, мох ройна пыкладжын.* **Увамшомшы** *дзеепрысл. Хырашо увамшомшы хату, ні нада быяцца зімы, мароз ні ўбярецца.*

**Увардыжываць** *незак.* Угадваць пры варажбе. *А што ты думыіш, як возьміцца увыра́жывыць і ўгыдаіць.* **Уваражыць** *зак.* Угадаць пры варажбе. *Пыдажджы, січас другая сядзіць, усё табе уварожыць і скажыць і што було, і што будзіць, і чым кончыцца, і чым серца успакоіцца.* **Увардыжыцца** *зак.* З'явіцца ў выніку варажбы. *Відна, табе нешта дужа харошыя увыражы́лыся, што вясёлінькыя ідзеш.*

**Уварзёкыванне, уварзёпыванне, уварзёпкыванне** *н.* Пэцканне, вымазванне. *Во ўжо ні люблю я нікура́тнысьці, уварзёкывыньня ні люблю. Ня столька бяленьня, сколька уварзёпывыньня. Ат ніря́шыства і ўварзёпкывыньня ета, нягож ач чаго яшчэ.*

**Уварзёкываць, уварзёпываць, уварзёпкываць** *незак.* Пэцкаць, вымазваць. *Ні нада уварзёпывыць рука́ўчыкі, яны ж былі чысьцінькія. Прібярі ат ма́лыга кулеш, ён ня есьць, а толька рушнічок уварзёпывыіць. Ці відзіш іхныя зыняція: уварзёпкывыюць тубуретычку і йшчэ стыряюцца, хто большы.* **Уварзёкывацца, уварзёпывацца, уварзёпкывацца** *зак.* Пэцкацца, вымазвацца. *Зусука́й рука́вы, каб ні ўварзёкывыліся. Нешта ў цябе ні чысьцеіць скыўрыда, а большы уварзёпывыіцца. Лезьця з-зы стыла, хва́ціць увазёпкывыцца.* **Уварзёкаць, уварзёпаць, уварзёпкаць** *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *Ну як жа ня ты уварзёкыў, кылі ты рукі толька што выціраў аб ету пасьцілку. Ма́лыя што хочыш уварзёпыюць, іх глядзі ды глядзі. Другей ба каб і хацеў, дык ба ні уварзёпкыў так сыпагі, як ты умудрі́ўся.* **Уварзёкацца, уварзёпацца, уварзёпкацца** *зак.* Запэцкацца, вымазацца. *Ні лазь ты кыла цеста, узноў уварзёкыісься як учора. А ну цябе с клеім с тваім, ты яшчэ раз уварзёпыўся, пыглядзі, што на подылі у рубашычкі тварі́цца. Чаго там гыварі́ць, умеючы і на печы можна уварзёпкыцца.* **Уварзёканый, уварзёпаный, уварзёпканый** *дзеепрым. Во работнік, рукі па локці уварзёкыныя умесьці з рукува́мі, і ны каленкых пляй-*

*сціры пызысыхáлі. Стой, стой, хуць у хату ня йдзі такей уварзёпыный. Кінь во пыдз загнет свае трáнты уварзёпкыныя, а ні насіся як кошка с помызым.*

**Уварываць** *незак. перан.* Наносіць вельмі балючыя ўдары пугай. *Шурка ім крепка увáрівыў пугі, як пычыналі бáлывыцца.*

**Уваскрэсць** *зак. перан.* Пачаць добра жыць. *А што ён, думыіць уваскресьць, піряехыўшы ў горыд? — не, там тожа дырма хлебым ня кормюць. Ня дужа уваскрес Кулічок іс тваёю сястрою.*

**Уваспаць, успаць** *зак.* 1. Змагчы спаць (у пэўных умовах). *Айдзе ты увасьпіш, кылі дзітвыра такей галдзёж утварíла. Разьві ён усьпіць, кылі вічарінка пад бокым. Такей дзіцёнык, што зь ім ня дужа усьпіш.* 2. Пры-спаць. *Я сваю мáлыю увасплю, а тады пышла сыма ны гряды пароцца.* **Уваспацца, успацца** *зак.* Разаспацца, увайсці ў глыбокі сон. *Як увасьпіцца, тады яго трудна пароць. Раз увыспáліся, ніхай сьпяць, ні нада іх трогыць. Успáўся і ня хочыць пыднімацца, толька ну другей бок пірікруціўся.* **Уваспаный, успаный** *дзеепрым. Выходзіць з заднія хаты увесь увыспáный. Мы яго і ўспáныга пыцягнім с сабою.*

**Уваўрэцца** *зак.* 1. Уварыцца, упрэць. *Цягні капусту, наверна, уваўрелыся, сірбанём па ложкі ды паедзім.* 2 *перан.* Распарыцца ад гарачыні, спёкі. *Ніхай што прыхладна, а лі йстрýба скора уваўреліся.*

**Увахочываць** *незак.* Прыахвочваць. *Ён жа быў спакойный маліц, можа яго Цімка увахочывыіць пы сыдах лазіць.* **Увахочывацца** *незак.* Прыахвочвацца. *Ён быйстра увахочыіцца, зыгаріцца як сьпічка і дужа скора астываіць.* **Увахоціць** *зак.* Прыахвоціць. *Ета яго Цітанок увахоціў пайціць пустухом, сам ба ён ні пашоў.* **Увахоціцца** *зак.* Прыахвоціцца. *Так увахоціліся Ганьніны пляменьніцы на луг: пойдзім умесьці са ўсімі, нам тожа аньціресна.* **Увахочаный** *дзеепрым. Кылі такей увахочыный, ніхай ужо зьезьдзіць, вазьмі ны калёсы.*

**Увекаваць, увекавацца** *зак.* Застацца на пастаяннае жыццё. *Ты, відна, ужо зьбіраісься тута увікувáць. Ён ішчэ сам ні знаіць, айдзе увякýіць. Тут яны ужо і ўвякýюцца, нікуды ні паедуць.*

**Уверзць** *зак. неадабр.* Увесці ў свядомасць (пра глупства). *Усё ета Кузьме Сімянкоў маліц увёрз, яны доўга сядзелі ну зугувáльні.* **Уверзцца** *зак.* Запасці ў памяць (пра глупства). *Ей і ні тыкая лухта можыць*

*уверзцца. Увярзлося, што нехта пріходзіць і ў вакно стýкыіць,— а каму ета нада к ёй стукыць.*

**Уверываць** *незак.* Упэўніваць, пераконваць. *Што ты мяне уверівыіш — ня быў, кылі я сыма відзіла, як ён ісь сянец вы́скычыў.* **Уверывацца** *незак.* 1. Упэўнівацца, пераконвацца. *Як жа ён будзіць уверівыцца, можа, к Аўхімёнку пойдзіць спрáшывыць?* 2. Прыходзіць у галаву. *Табе ўсякыя ірундá уверівыіцца, чаго дайжа на сьвецí ні було.* 3. Рабіцца перакананнем. *Вам ніізьвесна што уверівыіцца, хто там чаго мог хадзіць ны вашым дваре?* **Уверыцца** *зак.* 1. Запасці ў памяць, запомніцца. *Мне аттаго етый слýчый уверіўся, што ўскорысьці была Высілёва свадзьба, ён прііжджаў зваць нас ну буланым кані. Мне дужа хырашо уверілыся, як Ахрем памёр, мы ішчэ дзіцямі бегылі глядзець яго ну бургуны́ г балоту.* 2. Даверыцца. *Каму ты уверіўся, разьві яны праўду калі скызалі?*

**Увесь** *займ. перан.* Безнадзейна слабы. *Антон ужо ўвесь, дзьвіжком хату чуць пярёйдзіць. Зьмітрачыха саўсім уся, чуць пыднімаіцца с пасьцелі. Яны абоя ўсі, дайжа печы ні пракýрюць, дычка прібягіць, прыкладзець.*

**Увет** *м.* Чутка, вядомасць. *Якей табе яшчэ увет нада? Я і біз увету між людзей пыспрáшыю і пачую што-небудзь.*

**Увіднецца** *зак.* Дастаткова развіднець. *Ужо ладна увіднелыся, як яны ехылі. Чаго вам грязь мясіць пы пацёмку, увіднеіцца, тады паедзіця.*

**Увінанне** *н.* Завіханне. *Я відзіла яе увінáньня: стыряіцца, рыбыцяшчыя мыладзіца, ну праўда, мужык тожа стыряцільный і заботлівый.*

**Увіновываць** *незак. рэдкаўж.* Абвінавачваць. *Яны многіх увіновывылі, а хто туды злазіў, ніхто ні знаіць.* **Увінаваць** *зак.* Абвінаваціць. *Яны увінувáлі Трахіміхіныга сына, а тэй, знаць, і ня быў тама. Яны каго хочыш увінýюць, ім каб толька гываріць.*

**Увухранне, увухрыванне** *н.* Навучанне, павучанне. *Ну можа ж хуць Ныпряёнкыва увухряньня што-небудзь паможыць. Ніякыя увýхрівыньня ны яго ня дзействыіць.*

**Увухраць, увухрываць** *незак.* Навучаць, павучаць. *Калі сам гылавы ны плічах ня йменць, то сколька ні ўвухряй, ні паможыць. Доўга яго увýхрівылі, усё як гарохым ап сьценку.* **Увухрыць** *зак.* Навучыць, павучыць. *Увухрі ты яе, нашто ёй етый маліц, ён жа на дзесіць га-*

*доў мыладзей.* **Увухраный, увухроный** *дзеепрым. Сяньня ён увўхріный, а ызаўтріга пра ўсё забыў. Раз пыбылі у Мыланкіных, канешня, прішлі увухрёныя, ета ўжо як піць даць.* **Увухромшы** *дзеепрысл. Ні ўвухрёмшы, як тама ўсё гываріць, ні пускай, ато пашлеш ны сваю гылаву.*

**Увыканне** *н.* Прывыканне,ператварэнне ў правіла, навык. *Крепкыю нытачку пулучыў зы такоя ўвыканьня, нада атвўчывыць ад дурнэя прівычкі.*

**Увыкаць** *незак.* Прывыкаць, ператварацъ у правіла, навык. *Біньдзюгаўцца Сашчыхін большый увыкаіць, пішы, што ня будзіць зь яго толку.* **Увыкнуць** *зак.* Прывыкнуць, ператварыць у правіла, навык. *Увыкла бегыць с хаты ў хату, ёй дайжа ня церьпіцца у дваре пысядзець. Як увыкніць скот у клевір, палкыю ні атаб'есься.* **Увыклый** *дзеепрым. Ён ужо увыклый у гарелычку, трудна цяпер атучаць.*

**Увышкі** *прысл.* 1. Уверх, у вышыню. *Цягнуцца хлопцы увышкі, я трі гады ні была ў дзяреўні, дык многія пывырысталі, што ні пызнаць.* 2. Упоравень, ураўне па вышыні. *Ты яго большы маль, ён ужо ўвышкі з бацькыю.*

**Увяліванне** *н.* Унаджванне, панаджванне. *Не, я такога увялівыньня дужа ні люблю, у мяне б ён жыва ызад пабег, ні склімеў ба усьлед.*

**Увяранне, уверыванне** *н.* Пераконванне, настойлівая просьба паверыць. *Я ня дужа верю яго увірянью, ён сяньня адно гаворіць, а ызаўтріга усё забудзіць. Мы хырашо запомнілі Пітракова уверівыньня, гываріў — як пуховыю пасьцель слаў, а каснўлыся дзела — я нічога ні знаю.*

**Увяраннік** *м.* Той, хто пераконвае, просіць паверыць. *Увірянньнік зь яго дужа харошый, язык як пыдвязыный ходзіць.* **Увяранніца** *ж. Што ж ты, увіряньніца, гаворіш адно, а выходзіць саўсім другоя.*

**Увярнуць** *зак. перан. іран.* З'есці. *Каб і ты гаршчоных крупені увярнўў, як Максім, яно б тожа ні айдзе дзелыся, сіла пачўствывылыся б.*

**Увяртыванне, увёртыванне, увярчыванне** *н.* Загортванне, ухутванне. *Тоніськыю тряпычкыю зывярці і ладна, а такоя увяртывыньня ні к чаму. А можа ты і біз увёртывыньня абойдзісься? Ніхай ён біз увярчывыньня паляжыць, падрыгыіцца.*

**Увяртываць, увёртываць, увярчываць** *незак.* Загортваць, ухутваць. *Я ўжо так увяртывыла сваю руку, баю-*

*ся, каб ні пытрівожыць. Ныгам ні дывай зыхыла́джывыцца, усігда крепка увёртывый. Ты увя́рчывыіш сваю ма́лыю як куклу.* **Увяртывацца, увёртывацца, увярчывацца** *незак.* Загортвацца, ухутвацца. *Дужа многа ні нада увя́ртывыцца, жарка будзіць. У пасьцілку увёртывыіцца і зыла́зіць у сена, тама цёпла спаць. Усё дно як у марозы-пікуны́ увя́рчывыюцца.*

**Увясціць** *зак.* Угаварыць, пераканаць. *Такога чылавека ні ўвясьціш. Цётка яго увясьці́ла, угываріла, тады ён пыспыкайнеў.* **Увяшчоный** *дзеепрым. К вам прішоў ужо увяшчоный, вы пыглядзелі б, што зь яго тута тварілыся.* **Увясцёмшы** *дзеепрысл. Ні ўвясьцёмшы, ён пойдзіць і што хочыш тріпанець.*

**Увяшчуць** *зак.* Прадчуць, адчуць папярэдне. *Ня столька іна увяшчу́ла, сколька выду́мывыіць ніізьвесна што.* **Увяшчуцца** *зак.* Прадчуцца, адчуцца папярэдне. *Што табе сяньня увяшчу́лыся? — відна, нешта аньцірасныя, вясёлінька рызгыва́ріїш.*

**Угадлівасць, угадчыватасць** *ж.* Уменне ўгадваць, адгадваць. *Ты ны ўга́длівысьць ні надзейся. А ну цябе с тваёю уга́длівысьцю, ніхай вун Аксюта уга́дывыіць. Во каб табе тыкая уга́ччывытысьць, як у Ягора! Калі ні знаіш, дык ніякыя уга́ччывытысьць ні паможыць.*

**Угадчывый, угадчыватый** *прым.* Такі, які ўгадвае. *Ты знаіш, якей ён уга́ччывый, што хочыш адгыдаіць. Чаго іна тыкая уга́ччывытыя, усё дно як ёй хто на вуха шэпчыць.*

**Угадыванніk** *м.* Той, хто ўгадвае, адгадвае. *Дренный сь цябе уга́дывыньнік, нічога ты ня ўмеіш угыда́ць.* *Памянш.* **угадыванnічак**. *Уго, якей уга́дывыньнічык, усё чыста адга́дыіць.* **Угадыванніца** *ж. А што, зь яе ніплыхая уга́дывыньніца, скызала, Ігнацёнык жэніцца, і ён жаніўся.*

**Угажданне** *н.* Дагаджанне. *Мне нічыё угыжда́ньня ні нада. Я раншы апхадзіўся біз угыжда́ньня і цяперь абыйдуся.*

**Угажданнік** *м.* Дагаджаннік. *Во табе! — і с угыжда́ньнікым ні пыладзіла, нешта ужо дмецца.* **Угажданніца** *ж. Я падліз ні разу ні любіла, і сыма угыжда́ньніцыю ні хачу быць.*

**Угака** *м.* і *ж.*, **уганнік** *м.* Хлус. *Уга́ку ні ў чом ня верь, у яго праўды ні на грош німа. Ты ішчэ большыя уга́ка, чым твыя мама была. Я дайжа ня мог падумыць, што ты будзіш такей уга́ньнік.* *Памянш.* **уганнічак**. *З малых га-*

*доў бярецца уга́ньнічык.* **Уганніца** *ж. Большы уга́ньніцы ніхто ні ў чом ні паверіць, дайжа есьлі і праўду скажыць.*

**Угаканне** *н.* Выражэнне здзіўлення выгукам «уга». *Ты рыскажы́ біз уга́кыньня, што там пыка́зывылі.*

**Угакаць** *незак.* Выражаць здзіўленне выгукам «уга». *Толька што цяперіцька уга́кыіць, ён тама далёка стыяў і пасьці нічога ня відзіў.*

**Угаліванца** *незак.* Выяўляць вялікае імкненне, цягу, ахвоту. *Я так зы маткыю ні уга́лівылыся, паедуць яны у горыд, я адна астану́ся і сяджу ў хаці ці ны дваре гуляю.* **Угаліцца** *зак.* Пачаць выяўляць вялікае імкненне, цягу, ахвоту. *Як уга́ліўся бежч у я́гыды, ні ўгываріць було, а ці блізкій сьвет тэя ягыды.*

**Угамзіць, угамзаць, угэмзаць** *зак.* Збузаваць, сцерці, заквэцаць. *Угамзі́ць адзежыну нядоўга, спра́віць трошку трудней. У нешта ж угымза́ў рукавы́, ні аньціраюцца і ныўряд ці атмыюцца. Ні дывай яму ныдзіваць новыга касьцюма, угэмзыіць, што зразу вы́кініш.* **Угамзіцца, угамзацца, угэмзацца** *зак.* Убузавацца, сцерціся, заквэцацца. *Як угамзіцца адзежына, толку зь яе тады мала. Угымза́цца ты ўсігда найдзіш сабе места. Ты мог ба пріду́мыць і яшчэ луччы угэмзыцца.* **Угамжоный, угамзаный, угэмзаный** *дзеепрым. У нешта ж угамжона ета куртычка, ды здорыва вы́мызына. Такога угымза́ныга пінжыка ты ў хату ні нясі, пуд вуглом кінь. Ідзець у сенцы пы калені угэмзыный.* **Угамзёмшы** *дзеепрысл. Угамзёмшы штанёнкі, сам і аччышчай, я зы цябе чысьціць ня буду.*

**Угамонены** *дзеепрым.* 1. Супакоены, угавораны. *Як мідзькыўчані пыдыйшлі, яны ўжо угамоніныя сядзелі.* 2 *перан. жарт.* Забіты. *Січас ты будзіш угамоніный, яны с табою доўга ні пачы́кыюцца.*

**Угамонішча** *н.* Сунім, супакой. *Ці найдзіць етый чылавек калі-небудзь сабе угамонішча? Я ім дам угамонішча, калі січас ня ўнімуцца.*

**Уганне** *н.* Хлусня. *Мне тваё уга́ньня слухыць ні аньціресна. С уга́ньнім далёка зайдзіш, ды ныізад дарогі ні найдзіш.*

**Уганянне** *н.* 1. Заганянне (звыч. у хлеў). *Войцы кру́цюцца, ні туды ні сюды, што йта зы ўгыня́ньня.* 2. Убіванне з сілай. *Во ета ўгыня́ньня, зы адзін раз гвозд пы шляпку ўлез!*

**Уганяннік** *м.* Той, хто заганяе (звыч. у хлеў). *Будуць*

*круціцца тває угыняньнікі, пакуля цялёнык ціріс прясла піряскочыць і ячмень патрець.* **Уганянніца** *ж. Ныпраўду ўзілася угыняньніца, січас загоніць карову.*

**Угараджыванне** *н.* Загароджванне. *Я гляджу ны яго угыраджывыньня — дзелыіць як ні сваімі рукамі.*

**Угараджываць, угароджываць** *незак.* 1. Абгароджваць. *Ён ладна угыраджывыіць сад, каб ніхто ня ўлез. Ня будзіць ён крепка усадзьбу угароджывыць, трошку жардзіныміі абнясець і ўсё.* 2. Умацоўваць у агароджу. *Ні нада сюда нічога угыраджывыць, іщчэ з досткымі будзіш вазіцца. Во, яшчэ будзіш угароджывыць стоўбікі, так яно стыяць будзіць.* **Угараджывацца, угароджывацца** *незак.* 1. Абгароджвацца. *Ат каго ўжо так угыраджывыісься, тута скот ня ходзіць. Крепка угароджыіцца, яго прясла доўга будзіць стыяць.* 2. Загароджваць, захопліваючы дадаткова плошчу. *Нашто вам угыраджывыцца у чужоя, ета ж кажный зубурчыць. Пычалі угароджывыцца на тэй лужок, нашто ён ім, каб хто спрасіў.* **Угарадзіць** *зак.* Умацаваць у агароджу. *Троху плітня, тады кусочык прясла угырадзіў, тады ўзноў пляцень. Нейкія дзьверцы сплёў і ўгырадзіў у прясла, нашто яму тэя дзьверцы!* **Угарадзіцца** *зак.* 1. Абгарадзіцца. *Ён крепка угырадзіўся, дубовыя стыякі пыставіў. Што ўгародзіцца, тоя й ладна, абы пляцень стыяў.* 2. Загарадзіць, захапіўшы дадаткова плошчу. *Угырадзіўся ў чужоя, Клімывы ні зулюбілі.* **Угароджаный** *дзеепрым.* 1. Абгароджаны. *Ат вуліцы угароджына, а ў праву́лычку нічога ня дзелына.* 2. Умацаваны ў агароджу. *А тута, знаць, нейкій задок пулуманый угароджын? Пряма гнаў ат мяжы ды мяжы, і бярёзкі ў пляцень угароджыны.* **Угарадзёмшы** *дзеепрысл. Ты луччы ні ўгыраджывый аглабель, ато ўгырадзёмшы ня выцігніш, січас аткаці калёсы.*

**Угарбець** *зак. перан.* Набыць, атрымаць у выніку цяжкай працы. *У нас што було, дык мы самі угарбелі, а вы ж длі сябе яшчэ аднае капейкі ні заробілі.*

**Угарыста** *прысл.* Разухабіста, разудала. *Дужа яны угáріста прыгыюць, абырвáцца могуць дужа скора.*

**Угарыстасць** *ж.* Разухабістасць, разудаласць. *С такою угáрістысьцю ныўряд ці найдзіць ён сабе места. Дужа угáрістысьці многа, каб і меншы, дык ба хужы ні було.*

**Угаць** *незак.* Хлусіць. *Ты ны кажным шагу угеш, ну*

*цябе. Я ўгаць ня буду, што відзіў, тоя й рыскажу, прідумывыць мне ні нада.*

**Угашчоный, угошчаный** *дзеепрым.* 1. Пачаставаны. *Я пы Мыкару зразу увідзіла, што угашчоныя пріехылі. Ныўряд, каб угошчыный, Яхіміха ня дужа ныгасьцю́іць.* 2. *перан.* Пабіты або палаяны. *Січас ацскочыць угашчоный, айдзе і дуры́ дзенуцца. Хырашо угошчыный, толька прізнываццa стыдна.*

**Угвэздываць** *незак.* Запэцкваць, вымазваць. *Ты мне глядзі, штоб большы ня ўгвэздывыў рукавы́, калі нада што дзелыць — зыкысáй.* **Угвэздывацца** *незак.* Запэцквацца, вымазвацца. *Я туды угвэздывыцца ні палезу, сам лезь, кылі хочыш.* **Угваздаць, угвэздаць** *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *Каб ты глянула, што ў яго ны сьпіне творіцца, угвыздáў увесь пінжачок неік полысымі. Доўга ім угвэздыць што хочыш, лі машын лазюць цэлый дзень.* **Угваздацца, угвэздацца** *зак.* Запэцкацца, вымазацца. *Большы угвыздáцца ні прідумыіш, як ты ўчора быў харо́ш. Ні рызыбраць, у што ён угвэздыўся, цеста — ня цеста, клей—ня клей,—ні пынящь што.* **Угваздаый, угвэзданый** *дзеепрым. Пріходзіць двору — уся рубашка угвыздана, сам вы́мызын, ажно вачэй ня відна, я спрашывыю, айдзе быў, — маўчыць. Я твае угвэздыныя штаны аччышчáць ня буду, бярі шчэпку і чысьці сам.*

**Угваздзіць** *зак. перан.* Моцна пабіць. *Шылапу́чыньня дужа многа було, за ета і ўгвазьдзілі. Угвызьдзя́ць яму калі-небудзь зу дуры́, толька пупадуць аднаго.*

**Угі́банне** *н.* Угінанне, прагінанне. *Будзіць табе угібáньня, як тресьніць стальнічка і гнітанесься аб мост гылавою.*

**Угібнуць** *зак.* Увагнуць, прагнуць. *Етый угібну́ў достычку, а тэй брязь, чуць-чуць ні ап камінь гылавою.* **Угібнуцца** *зак.* Увагнуцца, прагнуцца. *Пыд Лявоным кладычка ладна угібну́лыся.*

**Угладаць, угладнуць** *зак.* Угрызнуць, скубнуць зубамі. *Айдзе там што скот углыдáіць, калі выбіта усё чыста. Нечыга на етый пáрініні угладну́ць, усё выгрызьлі коні. Ета ж яго конь зы нагу угладну́ў. Углыдні яго, калі ён слухыць нічога ня хочыць.*

**Угламазджыванне, угламозджыванне** *н.* Нагрувашчванне, ненадзейнае складванне. *Узноў ён узяўся зы сваё углымáжджывыньня. Ныдаела тваё угламожджывыньня, усё дно як ты прібраць пы-чылавечыску ня можыш.*

**Угламазджываць, угламозджываць** *незак.* Нагру-

вашчваць, ненадзейна складваць. *Некуды сюда нічога углымáжджывыць, ліжаць ня будзіць. Ты ўжо большы хуць у пытпавецьці ні ўгламожджывый.* **Угламазджывацца, угламозджывацца** *незак.* Нагрувашчвацца, ненадзейна складвацца. *А глядзі, у Ягора троху углымáжджывыіцца. Патрошку ўсё угламожджывыіцца і ўгламожджывыіцца.* **Угламаздзіць** *зак.* Нагрувасціць, ненадзейна скласці. *Жардзін ныклаў ны балькі і троху сьвірепкі углымазьдзіў.* **Угламаздзіцца** *зак.* Нагрувасціцца, ненадзейна скласціся. *Як углымазьдзілыся, так і ладна, ніхай ляжыць.* **Угламазджоный, угламозджаный** *дзеепрым. Углымажджона уся пуня, паткнýцца некуды. Пытпавецьця усё угламожджына, ськідай хворыст ны прысяньні.* **Угламаздзёмшы** *дзеепрысл. Уся клець углымазьдзёмшы, нічога туды ні пыстáвіш.*

**Угламаздыванне** *н.* Няўмелае ўплятанне. *Заўтря я ўжо абізацільна вазьмуся ета углымáздывыньня рызьбірацъ.*

**Угламаздываць** *незак.* Уплятаць няўмела. *Што ж тут углымáздывыць, калі лазіну німа за што зычапіць.* **Угламаздывацца** *незак.* Уплятацца няўмела. *Ці ўглымаздывыіцца ў цябе хуць нямнога?* **Угламаздаць** *зак.* Уплесці няўмела. *Хуць ба нескылька хвырасьцін углымыздáў, усё ні так куры будуць лезьць.* **Угламаздацца** *зак.* Уплесціся няўмела. *Як углымыздáлыся, так і ладна, трошку пыдзяржыцца.* **Угламазданый** *дзеепрым. Троху прýцьця углымыздáна, во табе і пляцень гатоў, прінімай работу.*

**Угнаць** *зак. перан.* Увагнаць, убіць. *Бальшэй гвозд угнáў, тута ні пувурухнецца. Сюда каб рог ат вілык угнáць, тады б дзіржáлыся.*

**Угнядзець, угнядзецца** *зак. перан. жарт.* Пасталець, увабрацца ў сілу. *Етыя хлопцы ладна угнядзелі, яны як возьмуцца, дык горы павернуць. Ты ім дай толька угнядзецца, яны будуць работыць, як валы.* **Угнядзелый** *дзеепрым. А што яму, угнядзелый ходзіць, сілу ні знаіць куды дзіваць.*

**Угнятаць** *незак.* Запіхваць і ўціскаць сілаю, вагою. *Як узяліся угнітáць у чумудáнчык усё ўсякыя, і пулумалі.* **Угнятацца** *незак.* 1. Запіхвацца і ўціскацца сілаю, вагою. *Ці ў цябе тама угнітáіцца троху, ці большы ня лезіць?* 2. Лезці, пралазіць уціскаючыся. *Ета ж нада, у такея мáлінькія дзірькі угнітáюцца!* 3 *перан.* Праяўляць сквапнасць. *Ні нада угнітáцца, у цябе грошы пырáдышна.* **Угнесць** *зак.* Запіхнуць і ўціснуць сілаю, вагою. *Мно-*

*га сена ўгнёў у ру́чкі, пуды два, сеў і пыкаціў. Трыва зьбіта ў мяшку, што ня ўгнесьць.* **Угнесца** *зак.* 1. Запіхнуцца і ўціснуцца сілаю, вагою. *Не, сюда ўжо большы нісколька ні ўгняцецца.* 2. Улезці, пралезці ўціскаючыся. *Нібальшэнькыя дзірічка была, а ўгнёўся і туды.* 3. Праявіць скваппнасць. *Я знаю, што грошы ў яго ёсьць, а во ўгнёўся і ні пазы́чыў.* **Угнецены** *дзеепрым. Нівісь чаго ў тэя сундукі угнеціна і нівісь сколька.*

**Угняўлёный** *дзеепрым. іран.* Разгневаны. *Пышла твыя кума двору угняўлёныя: як жа ета так — ні пыхвалілі яе дачку. Цэлый дзень хадзіў угняўлёный, усё бурчэў сабе пад нос.*

**Уго** *выкл.* Ого. *Уго, сколька грібоў нышываліў! Уго, аткуля дыбра́ліся сюда! Уго, як ён ладна умеіць выкамы́рівыць!*

**Угоканне** *н.* Вымаўленне выгука «уго!». *Я й біз угокыньня знаю, што ён можыць любую штуку атпаліць.*

**Угокаць** *незак.* Вымаўляць выгук «уго!». *Ну што ты угокыіш, яны праўду гаворюць, Трахіма тамыцька многія відзілі.*

**Угойзыванне** *н. неадабр.* Утоптванне. *Вы ў мяне січас палу́чыця за ўгойзывыньня, няўжэлі вам ета кладу́шычка сена дужа смашна, што вы ні зьлізáіця зь яе.*

**Угойзываць** *незак. неадабр.* Утоптваць. *Злáзьці-ка вы сь сена, хвáціць угойзывыць.* **Угойзывацца** *незак.* Утоптвацца. *Чаго ж ня будзіць угойзывыцца, калі топчыцца з раньня да вечыра.* **Угойзаць** *зак.* Утаптаць. *Угойзылі салому, што яе ні рукамі, ні вілкымі ні ўскубеш, нада лезьць наверьх і ськідáць.* **Угойзацца** *зак.* Утаптацца. *Тут угойзылыся, нічога яны ня вырвуць, лезь сам ірьві.* **Угойзаный** *дзеепрым. Ня столька тая атáва угойзына, сколька стулувáна, піряцёрта.*

**Угражаннік, угражыываннік** *м.* Той, хто пагражае. *Етых угрыжáньнікыў мы знаім: топні на іх хырашэнька, яны й пыбігáць. Угрáжывыньнік зь яго дужа порскій, толька сілы як у кымыра.* **Угражанніца, угражыванніца** *ж. Ох, угрыжáньніца ныйшлася, ідзі дыклáдывый каму хочыш. Сядзіця, угрáжывыньніцы, вас ніхто ня трогыіць і ня лезьця.*

**Угражываць** *незак.* Пагражаць. *Ніхай угрáжывыіць сколька хочыць, ці ён скажыць, ці веціp вяйнець — ета адно й тоя. Ну як жа, угрáжывылі: мы яшчэ цябе стренім,— дужа іх хто спужáўся.*

**Угражэнне, угражэніе, угражыванне** *н.* Пагроза. *Не*

*ўжо, Нувумёнкывыга угражэньня ніхто ні спужа́ўцца. Я ўжо чула етыя угражэнія, ніхай ён луччы сваёй жонкі пагрозіць. Каму яно важна, яго угра́жывыньня, яго ніхто ня веў зы чылавека і ні вядзець.*

**Угрудкі** *мн.* Дзёрзкі прыжок. *Другей раз прыгніш, дык будуць угру́дкі, ныпыцска́кыіш, што ныўсігда забудзіш пыцска́кывыньня.*

**Угрыбчываць** *незак. жарт.* Лавіць, хапаць. *Ета ты прітуіўся Колю угрібчывыць?* **Угрыбчыць** *зак.* Злавіць, схапіць. *Угрібчылі яго: ну-ка, пойдзім з намі,— а ён упіраіцца, ня хочыць іціць.*

**Угрызнуць** *зак.* Угрызці. *Ну што ты яго, угрызьнеш?— разьбіў, дык нічым ні паможыш. Гатова, кажыцца, угрызну́ць яго, чуць сь сябе ні выска́кывыіць.*

**Угрэсць** *зак.* Змагчы згрэбці, справіцца пры грабенні. *Траві́шча сёліта посьлі дажджоў — ні касою ні сьцягнуць, ні ўгресьць скошыныга. Клевір ня ўгресьць, пірібіра́нка ны пірібіра́нкі, насіць ні спруўля́імся.*

**Угуканне** *н.* Вымаўленне выгука «угу». *Паслухыў яго угу́кыньня, я так і ні пыняў, ці ён пойдзіць, ці не.*

**Угукаць** *незак.* Вымаўляць выгук «угу». *Ты ні угу́кый, а пряма гывары, будзіш сыбірацца ці не, ато я адна пайду.*

**Угуліваць** *незак. іран.* Набываць гуляючы. *Можа вы ўжо угу́лівыць хлеб будзіця, ды яшчэ з ма́сільцым у прідачу?* **Угуляць** *зак.* Набыць гуляючы. *Не, мой дырагей, угуля́ць харошыя ныпра́ткі ні ўгуля́іш, нада пыработыць ды заробіць.*

**Угуніванне** *н.* Ганьбаванне, знеслаўленне. *Яны дзеўкі такея, што ніякыга угу́нівыньня ні быяцца.*

**Угуніваць** *незак.* Няславіць. *Ета ні абы-якей кывалер, ён усіх дзевык угу́нівыіць.* **Угуніць** *зак.* Зняславіць. *Во хаці ты толку ач чужых, калі кума куму угу́ніла.* **Угунены** *дзеепрым. Ну ладна, я ўжо буду угу́ніныя хадзіць, а цябе ніхай хва́люць.*

**Удаванне** *н.* Выдаванне. *У яго і на ўме було адно удыва́ньня, тольки і думыў, каб каго патторнуць. Крепка ўляпілі зы ўдыва́ньня.*

**Удагонкі** *прысл.* Наўздагон. *Мы пашлі, думылі, ма́лыя зугуляліся, ня відзілі, а яны ціріс кусты удагонкі зы намі. Не ўжо, я ўдагонкі ні пыбягу, ніхай ідзець і ні варочыіцца.*

**Ударажыванне** *н.* Павышэнне цаны. *Удыра́жывыньня толку ні дасьць, тольки ныпрасна прыстаіш лішнія ўремя.*

**Ударажываць** *незак.* Павышаць цану. *Нашто ж було*

*так удыра́жывыць, ня мёрз ба, скарей ба зыбралі пырысят. Каб ні ўдыра́жывыў, даўно б прыдаў і двору паехыў.* **Ударажывацца** *незак.* 1. Павышаць цану. *Ны бызарі нада глядзець, як што бяруць, што спрашывыюць, удыра́жывыцца ні разу ні нада. Не, я удыра́жывыцца ня буду, сколька пасу́люць, за столька й аддам.* 2. Рабіцца даражэйшым. *Вясною усігда пырысяткі удыра́жывыюцца.* **Ударажомшы** *дзеепрысл. Удыражомшы ні разу ні прыдасі, нада сьпірва пріцаніцца.*

**Удасадзіцца, удасадывацца** *зак.* Забедавацца. *Крепка Адарка удыса́дзілыся пы Андрею, думыла, помышч пыц ста́рысьць будзіць. Яны абея удыса́дывыліся, пряма ні знаюць, што й падумыць.*

**Удаўніванне** *н.* Зацягванне ў часе. *Айт, удаўнівыньня я ні люблю, ш чылавекым нада як скарей рышшчыта́цца, каб ня быў нікому доўжын.*

**Удаўніваць** *незак.* Зацягваць у часе. *Ніякыга дзела ні нада удаўнівыць, калі сяньня можна зьдзелыць, дык і зьдзелый сяньня.* **Удаўнівацца** *незак.* Зацягвацца ў часе. *А во так неік удаўнівыіцца і ўдаўнівыіцца, ніяк ні сыбяруся схадзіць.* **Удаўніць** *зак.* Зацягнуць у часе. *Нашто ж ты удаўніў, можна ж було ішчэ на той нядзелі занесьць.* **Удаўніцца** *зак.* Зацягнуцца ў часе. *Хужы німа, як штонебудзь удаўніцца.* **Удаўнены** *дзеепрым. У мяне ўжо удаўніный доўг, хырашо, што хуць цярьпіць чылавек, усё ні сыбяру аддаць.*

**Удача** *ж. перан. іран.* Няўдалая асоба. *Во Шуркіна уда́ча пышла, цяпніць іна зь ім горя, большы некуды сколька цяпніць. Січас яго ўда́ча пыд'я́віцца, пулюбу́іціся.*

**Удваёх** *прысл.* Удваіх. *Коцюць, коцюць удваёх нейкія воґірі атвечыра: мы к вам ны вічарінку! Удваёх вам дзелыць нечыга будзіць, к абедым спра́віціся.*

**Удваццацёх, удваццацярых** *прысл.* У колькасці дваццаці асоб. *Тута хуць удвыццацёх бяріціся — ні падніміця, айдзе вы сырую дубіну пынісіцё. Ня меншы як удвыццыцярых пашлі, цэлыю кучыю.*

**Удвору** *прысл.* Дадому, дамоў. *Мы былі сыбра́ліся удвору іціць, а тута госьці лідыгышча́нскія пад'ехылі, зь імі трошку пысядзелі. Памянш.* **удворку**. *Пыдажджы́ мінутычку, січас пойдзім удворку, тама нас татка, верна, зыждаўся.*

**Уджыгнуць** *зак.* Уджгнуць. *Як уджы́гніць пчыла, тады*

*пыякочыш. Во ўжо нарёўся ма́лый, як яго шчамель уджыгнўў.*

**Удзвёх** *прысл.* У колькасці дзвюх жанчын. *Чаго ж ба мы быяліся, мы ж удзьвёх ішлі. Удзьвёх яны горы пірявернуць, дай толька ім узяцца хырашэнька.*

**Удзебялець, удзебялецца** *зак. жарт.* Памацнець, падужэць. *Удзібялелі хлопцы, ім цяперя толька работыць ды работыць. Скора твае сыны удзібялеюцца, ты тады ніякія заботы знаць ня будзіш.* **Удзебялелый** *дзеепрым. Якея ж яны удзібялелыя, калі ім толька пы сімнаццыць мінула, яны равесьнікі з нашым.*

**Удзевяцярых** *прысл.* У колькасці дзевяці асоб. *Мой хваліўся, што яны ўчора удзівіцяры́х ны вічарінку пашлі і там ужо былі зы хызя́йў.*

**Удзеланый** *дзеепрым.* 1. Уроблены, умацаваны ў сярэдзіну, унутр. *У яго ў сенцых харошыя шкапчыкі удзелыны для посыду, длі ўсякый мелычы,— чаго ж яму ня зьдзелыць, кылі ўсякыя работа ў руках.* 2. Забруджаны, заквэцаны. *Такея ўдзелыныя мяшкі ні аччы́сьціш, іх мыць нада.*

**Удзервянець, удзервянецца** *зак. перан. груб.* Засохнуць, зрабіцца цвёрдым, скамянець. *Ці яно удзірьвянела тут, нічога ні аткулупнеш. Во, знаць, удзірьвянелі мушчыны, вячэріць нада, а яны сідзяць. Як зьлітўіцца, як удзірьвянеіцца, хуць сякі тады тыпаром.* **Удзервянелый** *дзеепрым. Ета ні засохшыя, а пряма удзірьвянелыя нешта.*

**Удзесяцярых** *прысл.* У колькасці дзесяці асоб. *Патходзюць ка мне на́шкыйўцы ны бызарі удзісіцяры́х, кажный з рукою, і Васіль, жаніх тэй, адзза́ду з гармоньню.*

**Удзець** *зак.* Уцягнуць. *Удзень ты мне нітку ў іголку, я ўжо неік ні пупыда́ю. Так я хырашо відзіла, а то ні магу нітку удзець у вушка.*

**Удзогаць, удзугаць** *зак. неадабр.* Утаптаць, умясіць. *З восіні ма́льцы удзогылі, тады сьнегым прідавіла, дык тута нічога ня вырьвіш дайжа вілкымі. Гані іх сы стыжка, удзўгыюць, што ні ўзарьвеш.* **Удзогацца, удзугацца** *зак.* Утаптацца, умясіцца. *Так удзогылыся, што ні ўкывірнеш нічым. Тута яно удзўгылыся большы некуды, як зьлітува́на.* **Удзоганый, удзуганый** *дзеепрым. Кылі сурува́тыя трыва удзогына, іна папреіць, папорціцца. Тыкая удзўгыныя салома, усё дно як па ёй коні тулува́ліся.*

**Удзудзурыванне** *н. груб.* Уручэнне зусім непатрэбнага сілай, нахабна. *Ой, як іна ныдаела зь естым удзудзўрі-*

*выньнім, ат яе ж нізаштычка ні атвяжысься і ні аччэпісься.*

**Удзудзурываць** *незак. груб.* Уручаць зусім непатрэбнае сілай, нахабна. *Устрэціла я Мылашонкыву дачку большыю, як дывай іна мне удзудзу́рівыць часнок, прістала: бярі і бярі, і хут ты айдзе дзенься — бярі.*

**Удзюбаць, удзюбнуць** *зак.* Удзеўбануць. *Цеста зы мінуту замёрзла, куры удзю́быць ня могуць, пукруціліся кыла міскі і пабеглі ў пуню, ім тожа дужа халодна. Блізка ні пытхадзі, квакуха удзю́бніць, іна дужа ня любіць, калі трогыюць ціплят.* **Удзюбнутый** *дзеепрым. Ніхай трошку пыпла́чыць удзю́бнутый, другей раз схува́іцца ат пітуха.*

**Удзяваный** *дзеепрым.* Прасунуты ў малую адтуліну. *Айдзе ж тут удзіва́на, кылі іголка ляжыць адзьдзельна, а ніткі адзьдзельна.*

**Удзядзюліваць, удзядзюрываць** *незак. гумар.* Даваць нечакана. *Гляджу, дык ён удзядзю́лівыіць Пынаську нейкій ірьмячы́шка. Як пычыла́ мне удзядзю́рівыць квасоль, чуць я атвізалыся.* **Удзядзюліць, удзядзюрыць** *зак.* Даць нечакана. *Дзілектырым работыіць, большы тысічы пулуча́іць, дык удзядзю́ліў маткі сотню: на, матка, рыжжыва́йся. Ня бойся ты, лішніга ні ўдзядзю́рюць. Удзядзю́ріў кусок харошыга сукна, што хочыш можна пашыць, і куртку прівёз, трошку ношыныя, ну ішчэ крепкыя, і так усякіх тряпык,— во табе і Сьпірідоныў сын!*

**Удзяўбыванне** *н.* 1. Усаджванне ўдарам завостранага прадмета ў цвёрдую паверхню. *Ты глядзі с удзя́ўбывыньнім, тапор зваліцца ды ма́лыму пы наге, луччы пыкладзі пла́жмя.* 2 *перан.* Растлумачванне, удзёўбванне. *Раз ня хочыць пынімаць, ніякыя удзя́ўбывыньня ні паможыць.*

**Удзячыванне** *н. неадабр.* Пераконванне, назойлівае тлумачэнне. *Хто ні паслухыіць удзя́чывыньня, а другей можыць паверіць, яны ж рысьпісаць умеюць. Не, ня думыю я, каб Кріштальоў якому-то удзя́чывыньню паверіў.*

**Удзячываць** *незак. неадабр.* Пераконваць назойлівым тлумачэннем. *Што ты яму будзіш удзя́чывыць, калі ён слухыць нічога ня хочыць. Устрэціла Маўріну дачку і дывай удзя́чывыць ёй усякыю лухту ніпыцьсіваныю, тая стаіць і ні знаіць, што дзелыць, ці слухыць, ці пайціць.* **Удзячыць** *зак.* Пераканаць назойлівым тлумачэннем. *Хто-то яму удзя́чыў пры Мыланкіных, як устреціць каго зь іх, і крівіцца. Што яму ўдзя́чуць, ён і паверіць, сваёю гылавою ні жывець ніскалька.* **Удзячаный** *дзеепрым. Каб*

*ей ні було чаго-то ўдзячына, іна б абізацільна зыйшла. Мікілаю многа чаго ўдзячына, толька ён ні паверіць усякый лухце.*

**Удзяшэўліванне** *н.* Зніжэнне цаны. *Нічога яму ні дало і ўдзяшэўлівыньня, позна ён стаў удзішыўляць, як людзі з бызара пашлі.*

**Удзяшэўліваць** *незак.* Зніжаць цану. *Ну што, ня хочыш ты удзяшэўлівыць сваіх сальнікыў, я б во ету парычку ўзяў.* **Удзяшэўліваццa** *незак.* Таннець. *Ты ж быў ны бызарі, ці ўдзяшэўлівыюцца тама каровы?* **Удзешавіць** *зак.* 1. Знізіць цану. *Бульбы ўчора нывязьлі многа, дык удзішавілі: пу рублю пуд прыдывалі.* 2. Прадаць ніжэй магчымай цаны. *Ты ўдзішавіў с пацьсьвінкым, можна було дыражэй зы яго ўзяць.* **Удзешавіцца** *зак.* Патаннець. *Увосінь яблыкі удзішывяцца, іх ніхто браць ня будзіць.* **Удзешаўлёный, удзяшэўленый** *дзеепрым. Я удзішаўлёныга ні стану купляць, ета абізацільна зь нейкыю хвальчу. Ны машыных былі нейкія удзяшэўліныя пінжачкі.* **Удзешавёмшы** *дзеепрысл. Удзішавёмшы скарей прыдасі, а хочыш, троху пастой, пыглядзі, што будуць дываць.*

**Удлінніваць** *незак.* Рабіць даўжэйшым. *Ніякыю адзёжыну удліньнівыць ні нада, тады нікрасіва хадзіць.* **Удлінніваццa** *незак.* Рабіцца даўжэйшым. *Ударь яшчэ с таго боку пы жардзіні, ты пастукыў — і стаў канец удліньнівыцца.*

**Удлінь** *прысл.* У даўжыню, па даўжыні. *Удлінь ба етыя палкі нічога, ну яны тункуваты. Рыскаці трубку удлінь ды памерій метрым.*

**Удоўжкі** *прысл.* Удоўж, па даўжыні. *Ты ні так, ты ўдоўжкі памерій. Ты знаіш, сколька тут будзіць удоўжкі? — ня меншы підзьдзісяці сажніў.*

**Удражняць, удражніваць** *незак.* Раздражняць. *Рожы нізаштычка нілізя нічым удрыжняць, іна мазі дужа ня любіць, ніхай луччы сыма праходзіць. Ніякыя балезьня ня любіць, каб яе удражнівылі.*

**Удрахцець, удрахцецца, удрахнуць** *зак.* Распаўнець, растлусцець. *Чаго ж ні ўдряхцеіць, кылі ёй пыдзь дзівяноста пыдбіраіцца. Старыя Куліна удряхцела зы пасьледнія ўремя, нікуды дужа ня ходзіць, усё ў дваре і ў дваре. Во ўдряхцеўся чылавек, на ём жыру ніізьвесна сколька. Старэй Трахім удряхцеўся, ніпыварротлівый стаў, яму дужа многа гадоў. Мой старік удрях, нічога ня дзелыіць, ны дваре папоріцца, пысядзіць.* **Удрахцелый, удрахцеўшый, удрахлый, удрахшый** *дзеепрым. Твой сват*

*удряхцелый стаў і дыханія нейкыя цяжолыя. Такей удряхцелый, што ня дужа й паверніцца. Ну што ж, кылі удряхцеўшый, яго гады бальшэя. Мы ўжо гадоў пяць як тама былі, ён і тады быў удряхцеўшый. Ціціха удря́хлыя, тоўстыя, чуць спы́шыцца. Удря́хшый чылавек ужо ні работнік, у яго сілы як у кымыра.*

**Удрогаць, удрогкаць** *зак.* Растрэсці на дрогкай дарозе. *Максім кыня усё пытпарівыў і пытпарівыў, удрёгыў нас саўсім. Ня дужа вас, такіх мурлачоў удрёгкыіш.* **Удрогацца, удрогкацца** *зак.* Растрэсціся на дрогкай дарозе. *Што вы, удрёгыліся тута і злазіць с калёс ня хочыцця? Воз удрёгкыўся і ажно меншы стаў.* **Удроганый, удрогканый** *дзеепрым. Ні глядзі, што здаецца мала, там каменьня удрёгыныя, яго пырядышна ўскла́джына. Яно й відна, што вы удрёгкыныя, ажно шыта́іціся.*

**Удружыванне** *н.* Сяброўская паслуга. *Ні нада мне яго удру́жывыньня, калі што нада будзіць, я пайду і ў горыдзі куплю зы грошы.*

**Удрыгнуць** *зак.* Перамерзнуць, прастыць да дрыжыкаў. *Луччы вазьміця пы ныпря́ткі, можыця так удры́гнуць, што зуб на зуб ня будзіць пупыда́ць. Мы настолька удры́глі, што чуць жывэя двору прікаціліся.*

**Удрызгі** *прысл.* 1. Ушчэнт (пра стан п'янага). *Прішлі учора — удры́згі былі п'янёхтынькія, чуць ны ныгах дзіржаліся.* 2. Ушчэнт, на дробныя кавалачкі (пра посуд і інш.). *Харошыя была банка, тыкая спадру́шныя, зьляцела с палічкі, удры́згі рызьляцелыся.*

**Удрыхнуць** *зак. груб.* Заснуць. *Вун у капе зываліцца, удры́хніць, — во табе і ўсё грябеньня будзіць. Сяньня я ні дыла яму удры́хнуць, вы́прывіла к каровым.*

**Удрэбезк, удрэбезкі** *прысл.* Ушчэнт, на дробныя кавалачкі (пра посуд і інш.). *Ці раз ён удребізк посыд біў, дужа быў нікыя́нный чылавек. Ветрым ряму як махнець, сьцякло удребізк рассы́пылыся. Кошка ны ла́тычку узьлезла і дывай кіпцімі тря́пычку ірваць, неік пукруціла, латычка брязь на мост і ўдребізкі рызьляцелыся. Ай, ну яго, памыла і пыставіла на ўслоні гырла́чыкі, ніхай, думыю сьцякуць, а ёй піхнуў услон і гырлачы удребізкі разьбіліся.*

**Удубелый** *дзеепрым.* 1. Замерзлы, застылы. *Холыд пыдняўся нямірный, мы чуць у хату укаціліся удубелыя.* 2 *перан. груб.* Мёртвы. *Дап'ецца, што ўдубелыга калі-небудзь пыдбяруць кылы плітня.*

**Удубіць** *зак.* Пабіць. *Хацела яго уду́біць зы ба́лыўст-*

*ва, дык ці я злаўлю, ён кытануў пут кусты, толька яго відзіла.*

**Удубянець, удубянецца** *зак.* Задубець. *Сколька яны будуць сядзець на тых калодых, заўтрік даўно удубянеў. Ці яны тамыцька удубянелі, што іх ні дызвацца. Тута ўсё удубянелыся, што туўкачом ні паверніш. Такою хыладзіныю біз ныпрятык удубянецца можна.* **Удубянелый, удубянеўшый** *дзеепрым. Еж ты сваю удубянелыю кашу сам. Нылівай скарей гырячыя капусты, яны саўсім удубянелыя прікаціліся, ніхай греюцца. Нейкыя удубянеўшыя цеста у шайкі, яго куры ня будуць дзюўба́ць.*

**Удуковыванне** *н.* Настойлівае растлумачванне. *Можа цёткіна удуковывыньня трошку паможыць, ато ж нікога ня хочыць слухыць.*

**Удуковываць** *незак.* Настойліва растлумачваць, даводзіць да свядомасці. *Што ім удуковывыць, кылі яны нічога і нікога пынімаць ня хочуць. Доўга стыяла Прося с кумою, усё ёй нешта удуковывыла.* **Удукаваць** *зак.* Настойліва растлумачыць, давесці да свядомасці. *Ні знаю ўжо, ці найдзіцца хто-небудзь, што удуку́іць яму хут троху. Ім што хочыш удукува́ць дужа лёхка, яны ўсяму верюць.*

**Уезджанасць** *ж. перан.* Стомленасць. *На ём ужо відна уежджынысьць, ён ідзець — чуць ногі вылаку́цца.*

**Уенчыць** *зак.* Пачаць раптоўна енчыць. *Зразу мы ні пынялі, чаго ён так уенчыў, посьлі разгледзіліся, што на дзеда нуступіў.*

**Уехаць** *зак. перан.* Ударыць. *Схваціў нейкыга за́грудкі, а яму як уехылі збоку, ажно зыхіста́йся. Яшчэ уедуць, калі дуры́ сваё ня кініш. Ладна яму ўехылі ў зубы.* **Уеханый** *дзеепрым. Ці табе ішчэ мала ўехына?*

**Уём** *м.* Сунім, супакой. *Во нада ім уём харошый дык нада! Кажный дзень вам, ба́лыўнікі, уёму німа, ну я вас пычану цяперя успыка́івыць.*

**Ужардзяваный** *дзеепрым.* Уціснуты жэрдкай. *Бальшэя вазы вязьлі, крепка ужурдзюва́ныя, пудоў пы дваццыць пяць, калі ня большы.*

**Ужарываць** *незак. перан.* Моцна сцябаць. *Ці ня ты мне сыбрайся пужкі ужа́рівыць?* **Ужарыць** *зак.* Моцна сцебануць. *Як ужа́рюць, дык ты толька закруцісься, айдзе тваё прітвыря́ньня дзеніцца.*

**Ужаўцець, ужаўцецца** *зак.* Моцна пажаўцець. *Я помню, ён прііжджаў, ужо восінь-восінь стыяла, нашы бярёзы ужаўцелі, ён сь Кірілыю усё любуваўся. Во ета ужаў-*

*целіся гуркі! Грішчанок неік ужаўцеўся, стаў ны сябе ні паходж.* **Ужаўцелый, ужаўцеўшый** *дзеепрым. Тама астáлыся нескылька ужаўцелых гуркоў, ніхай ліжаць на семя. Реж во етый ужаўцеўшый гарбуз, у ім будуць харошыя семічкі.*

**Ужубраваць** *зак.* Выпрасіць. *У каго ж етых яблык ужубрувáў? Ня дужа ты ужубрýіш у Пітрачонка.* **Ужубраваный** *дзеепрым. Айдзе ж твыя ужубрувáныя пяцёрка?*

**Ужульнічаць** *зак.* Зрабіць несумленна, па-жульніцку. *За імі глядзі ды глядзі, мігым ужýльнічыюць. Ці ня ўжýльнічыў ты і на етый раз, нешта вочы ў цябе рызблішчэліся.*

**Ужываць** *незак.* Зжывацца, магчы жыць. *Ужывáць там нялёхка будзіць, ні раз плыканець. Як іна ужывáіць у такой сям'е?*

**Ужыўчыватасць** *ж.* Ужыўчывасць. *Трудна ёй будзіць у чужой сям'е, ужыўчывытысьці у яе ніскольк німа, у дваре іна дзелыла, што хацела.*

**Ужыўчыватый** *прым.* Ужыўчывы. *Міхалкіны дзеці ужыўчывытыя, яны усяго ў жызьні пыспытáлі, ім усюдых ладна.*

**Узаграваць** *незак.* Награваць. *Я пыстáвіла ваду узыгрівáць, дыстáніш трошку посьлі.* **Узаграваціца** *незак.* Награвацца. *Во глядзі, у етым чугуночыку выда узыгрівáіцца.* **Узагрэць** *зак.* 1. Нагрэць. *Нада яшчэ чугун вады узагрець, сяньня многа прідзіць у баню.* 2 *перан.* Пакараць. *Узагреюць вас калі-нібудзь лісьнікі, пріедуць, найдуць бірнушкі і прытакол складуць.* **Узагрэцца** *зак.* Нагрэцца. *Выда ужо узагрелыся, дыстывай, я січас усё пірямыю.* **Узагрэтый** *дзеепрым.* 1. Нагрэты. *Ны загнеці узагретыя выда, бяры, сколька табе нада.* 2. Пакараны. *Крепінька узагретый сядзіць, дапрыгыўся, усё ўніму сабе ні ныхадзіў.*

**Узазліць** *зак.* Раззлаваць. *С сыбакымі нада асторожна, узазьліш, дык ён і кініцца ны цябе. Яго Каця узазьліла, што пры быракі скызала, ён дужа ні зулюбіў.* **Узазліцца** *зак.* Раззлавацца. *Дужа ён мне вáжын, кылі узазьліўся, ніхай зьліцца, сколька хочыць.* **Узазлёный** *дзеепрым. Узазьлёных ты іх луччы ня трогый, ато могуць што хочыш ляпнуць.* **Узазлёмшы** *дзеепрысл. Узазьлёмшы ён і к Ільле пыбягіць, у такога ні пытаць.*

**Узалачэць, узалачэцца** *зак.* Узяцца на золак. *Сяньня яны трошку прыспáлі, ужо ладна узылачэла, як пры-*

*хваціліся і пабеглі с кашолкымі. Ішчэ ні ўзылачэлыся як нада, а дзяўчонкі ляпыюць у вакно: пыбягім скарей.*

**Узапхнуцца** *зак.* 1. Ускласціся наверх з цяжкасцю. *Калі ўзапхнецца паміж козлыў ны хату, дык і ніхай там ляжыць.* 2 *перан.* Узлезці з цяжкасцю. *Пыдажджы, ніхай іна ўжо узапхнецца на печ. Як ты узапхнўлыся на пўньку, туды ж дужа трудна лезьць.*

**Узарвываць** *незак. перан.* Нарываць. *Прыкалола руку, ды, відна, грязь туды зыйшла, узáрвывыіць ны пылавіну ладоні, дужа баліць.* **Узарваць** *зак.* Нарваць. *Як яму ў лес ехыць, у яго пальцы узырвáла, рука зывязына.*

**Узарзаць** *зак.* Выклікаць ахвоту, жаданне груба сваволіць. *Чаго вас узырзáла, ня можыця вы ні ны мінуту аддўху даць.* **Узарзацца** *зак.* Пачаць груба сваволіць. *Яны ні так сабе узырзáліся: лўпкі зыхацелі. Калі нічога гуляюць, а другей раз як узарзўцца, дык ні знаю, што б зь імі зьдзелыла.*

**Узбагачыванне** *н.* Узбагачэнне. *Такоя узбыгáчывыньня ня пойдзіць на пользу, быгаства нада нубувáць сваім мызалём.*

**Узбагачываць** *незак.* Рабіць багатым, узбагачаць. *Узбыгáчывыць вас ніхто ні станіць, самім пра ўсё нада рўпіцца.* **Узбагачывацца** *незак.* Рабіцца багатым, абагачацца. *Ты б хацеў зу чужэя труды узбыгáчывыцца.* **Узбагацець, узбагацецца** *зак.* Пабагацець, разбагацець. *Узбыгацеў, толька ні надоўга, у яго усё так, хіньню пашло. Ну чужом дужа ні ўзбыгацеіш, нада, каб у сымаго рўпыта была. Усё дзядзькыва пыдыбралі, дык узбыгацеліся.* **Узбагацелый, узбагацеўшый** *дзеепрым. Што ўзбыгацелый зу людзкую працу — ета ішчэ ні быгáства. Ён ужо быў узбыгацеўшый, як сватыўся к Хадоскі.*

**Узбіваннік** *м.* Той, хто ўзбівае. *Узяўся узьбівáннік зы работу, січас твыя матыка будзіць гатова.* *Памянш.* **узбіваннічак.** *Ах ты, узьбівáньнічык, ты ж цаўё дужа тонка сьцісаў.* **Узбіванніца** *ж. Зь мяне тыкая узьбівáньніца ікраз як сь цябе.*

**Узбівацца** *незак. перан.* Дадавацца, уносіцца (пра змесціва яйца). *Рызбáўтывыіцца мука ны сырыквáшы ці можна на сыўрыдкі, узьбівáіцца два яйцы, сахыру трошку, солі — і някі.* **Узбіцца** *зак.* Дадацца, унесціся (пра змесціва яйца). *Сала пыджжáріна, яйцо узаб'ецца і ніхай есьць.*

**Узбрусянець, узбрусянецца** *зак.* Распухнуць і пачыр-

ванець. *Нада ні тады лячыць, як узбрюсянеіць, а зразу ні зупускаць. Ета ж нада штоб так шчыка узбрюсянелыся,— што могуць зубы надзелыць!* **Узбрусянелый, узбрусянеўшый** *дзеепрым. Ты пыглядзі, ікая узбрюсянелыя у яго ныга, куды ён пойдзіць. Такоя узбрюсянеўшыя нілізя так кідаць, нада расьцерць ці пыпáріць.*

**Узбрытыванне** *н.* Надзяванне аброці на каня. *Ні дурáчся, узяў аброць і ныдзівай, ато палучыш узбры́тывыньня.*

**Узбрытываць** *незак.* 1. Забрытваць, надзяваць аброць. *Ідзі-ка ты узбры́тывый кыня, нада ехыць.* 2 *перан.* Браць пад сваю ўладу. *Аўхімёнык пычаў ужо іх абоіх узбры́тывыць, і зыбрытáіць, папомніш маё слова, што зыбрытáіць.* **Узбрытывацца** *незак.* Забрытвацца, давацца надзяваць аброць. *Ня дужа конь хочыць узбры́тывыцца, гылавою круціць, ні даецца і ўсё.* **Узбрытаць** *зак.* 1. Забрытаць, надзець аброць. *Узбрытáй і едзь зы калёсымі, іна кабыла ціхыя.* 2. Узяць пад сваю ўладу. *Такога рытызя́ва ім будзіць прáшкі узбрытáць.* **Узбрытацца** *зак.* Набрытацца, дацца надзець аброць. *На етый раз конь узбрытáўся, ні круціўся.* **Узбрытаный** *дзеепрым.* 1. Забрытаны, з надзетай аброццю. *Ны ўзбрытáныга кыня ніхай садзіцца, хуць зы пывады будзіць дзіржацца.* 2. Такі, які трапіў пад чыю-небудзь уладу. *Сямёнька ужо узбрытáный, пупаўся к ім у рукі.*

**Узбуванне** *н.* Абуванне. *Ну куды ты лезіш с узбувáньнім сваім, лі парога можна боты усторнуць.*

**Узбуваннік** *м.* Той, хто абуваецца. *Во ўзбувáньнік, кылышынá зыкысáлыся, ты яе апусьці ўніз.* **Узбуванніца** *ж. Ну што ты сьмяесься,— узбувáньніца, мне ўжо і набу́цца нялёхка.*

**Узбуваць** *незак.* Абуваць. *Ах ты, мой мáлінькій, ты ж ны правыю ножку левый бацінычык узбувáіш.* **Узбувацца** *незак.* Абувацца. *Пыглядзі, чаго тама ў яго вáліньік ні ўзбувáіцца.* **Узбуць** *зак.* Абуць. *Боты узбу́ў і зымаріўся, во ікая ў мяне сіла.* **Узбуцца** *зак.* Абуцца. *Ня можыць быць, штоб такея раскошныя бацінкі ня ўзбу́ліся.* **Узбутый** *дзеепрым. Адзін вáлінычык узбу́т, а другей ны масту ляжыць, і йна нешта рысказывыіць етым дзіця́м.*

**Узбуджыванне** *н.* Разбуджванне. *Тріхані хырашэнька зы плячо ці зы нагу пыцягні, а с такім узбу́джывыньнім ты іх ні падыміш.*

**Узбурбулецца** *зак.* 1. Пачаць моцна кіпець. *Кіпяток узбурбулеўся, выцягывый, буду шайкі мыць.* 2. Пакрыц-

ца бурбалкамі. *Во узбурбулелыся выда посьлі дыжджа!* 3 *перан.* Раззлавацца. *Там і вожычык тых столька було, трі рыстріпаныя кускі — дык узбурбулеўся: нашто було трогыць.*

**Узбутуранне** *н.* Вывядзенне са спакойнага стану. *Во ўзбутуряньня — рызыгнаў скот пы ўсяму полю, цяпер бегый сам, сыбірай, я зы цябе бегыць ня буду.*

**Узваджываць, узводжываць** *незак.* 1. Заводзіць. *Ты ну чужоя ні ўзваджывый, пыдзяржы ны пывадку пы бічывіку, карова трошку скубанець і ладна. Калі я туды кыня узводжывыў? — конь там і ні ступаў, найдзі хуць сьлед.* 2. Будаваць. *Ён ні хату, а цэлыя харомы узваджывыіць. Калі ж ты будзіш сьцены узводжывыць, скора бульба падойдзіць.* 3 *перан.* Нагаворваць. *Яны нарошня узваджывыюць ны Прыкапёнка усякія нібыльніцы. Нічога ён ні ны каго ня ўзводжывыў, ета прідумкі.* **Узваджывацца, узводжывацца** *незак.* Заводзіць. *Чаго табе було узваджывыцца на тэй аборык, яны, відна, касіць думыюць, ні зулюбілі. Ні разу ну чужоя ня ўзводжывыйся.*

**Узваёвываць** *незак.* Разбураць, раскідваць, рабіць беспарадак. *Нашто ім було узваёвывыць ета сянцо, ліжала сабе акуратнінька і ніхай ба ліжала.* **Узваёвывацца** *незак.* Бушаваць, шумець. *Ох, узяўся узваёвывыцца, дасьць яму хто-небудзь места.* **Узваяваць** *зак.* Разбурыць, раскідаць, зрабіць беспарадак. *Сьвіньні у пуню уваліліся, усё чыста узвуювалі, трошку саломы ліжала, узьвярнулі, пірігадзілі.* **Узваявацца** *зак.* Пачаць бушаваць, шумець. *Таго ён узвуюваўся, што ўняць було некыму, каб турнулі хырашэнька, дык ба жыва сьціх.* **Узваяваный, узваёваный** *дзеепрым. Я зразу ў пуні чуць ні самлела, етык там усё узвуювана, я зразу пыніла, што быльшая сьвіньня пыхадзіла. Ты іх зыстаў узваёвыныя хворысьця скласьць як нада.*

**Узвал, узвалак** *м.,* **узваліна, узвальчына** *ж.* Працяглы пагорак, гарбяк. *Не, ніхто ня помніць, аткуля тэй узвал, кызалі, ішчэ зы прігоным насыпылі. Яны схуваліся зу узвалык, а мы па кусьцікых іх шукалі і ні маглі найціць. Вун відзіш, нібыльшая узваліна, пярёйдзіш і зразу будзіць сьцёжычка ў тэй бок. Ціріс такую узвальчыну зь бярном ні піряедзіш, бярно ляжыць і павісьніць. Памянш.* **узвалік, узвальчык, узвалачак, узвалінка, узвальчынка**. *Ён узвалік нізінькій, толька доўга цягніцца. Ціляты пуд узвальчыкым ляглі і ліжаць ціхінька, там за-*

*ціина. Калі нібальшэй узвáлычык, дык піряедзіш. Мы помнім ішчэ тэя узвáлінкі, іх ужо рыспыхалі трактырым. Пуд узвáльчынкыю пысядзелі зь імі і пашлі у тэй бок, пыдзь Зяціцу.* **Узвалле** *н. зб. Ны нашым полі многа було узвáльля, кусты троху па ём расьлі.*

**Узвалакыванне** *н.* Усцягванне. *Намýчыіціся вы зь естым узвылáкывыньнім, удваіх такую пыцягу усьцягнуць трудна, можа б пыпрасілі каго паможч.*

**Узвалакывацца** *незак.* Узлязаць, узыходзіць з цяжкасцю. *Нялёхка мнѐ ўжо стала на ету печ узвылáкывыцца.* **Узвалочца** *зак.* 1. Усцягнуцца. *Заўтря пыцягі узвылакýцца, паедзім, ато скора сьцямнеіць.* 2. Узлезці, узысці з цяжкасцю. *Не, я на пуньку ні ўзвылакýся, ніхай дзеці злазюць.*

**Узварачыванне, узварочыванне** *н.* Пераварочванне. *Узвырáчывыньня — цяжолыя работа. Посьлі узвырáчывыньня у мяне і сьпіна баліць. Не, узварочывыньня ні па мне, я саўсім лягу тады ж жыватом.*

**Узварачываць, узварочываць** *незак.* Пераварочваць. *Не ўжо, нічога я тут ня буду узвырáчывыць, ніхай яно ляжыць як ляжыць. Што яны нугурювáліся іс старою, большы года ні пыдымáлыся, усё узвырáчывылі. Нашто вам узварочывыць склáджыныя, піріскладывыць жа вы ні захочыця.* **Узварачывацца, узварочывацца** *незак.* Пераварочвацца. *Нешта мне і ўзвырáчывыцца цяжола, ці ета старысьць, ці што ўжо? Пычаў я узварочывыцца, дык больна усюдых. Кылі харошый кол зыкладзеш, дык будзіць узварочывыцца.* **Узвярнуцца** *зак.* Перавярнуцца. *Мне стала дужа цяжола узьвярнýцца, ны адзін бок лягу, а ну другей с трудом піріклыдáюся.* **Узвярнутый, узвернутый** *дзеепрым. Чаго йта так у сяніцы усё узьвярнýта? Пыглядзелі мы на ўзьвернутыя бярвеньня, а яно ўжо ня дужа крепка спадыспыдзьдзя, пыт карою прецъ пычало.*

**Узваротліва** *прысл.* Энергічна, рухава. *Ета ні зіма, што можна пыліжаць, пыхадзіць, убіраць нада узваротліва, дзень прапусьціш — і можыць нівісь сколька хіньню пайціць.*

**Узваротлівасць** *ж.* Энергічнасць, рухавасць. *Каб вам Ігарёнкыва узваротлівысьць, тады б можа патроху кыпашыліся, а пу-гультайску дзела ня будзіць.*

**Узваротлівый** *прым.* Энергічны, рухавы. *Патрошку, паціхіньку, пы-кыпілінычку яны будуць кыпашыцца, у*

*іхным раду нікога узваротлівыга ні було. Якея ж яны узваротлівыя, што бульба чуць ні пупала паць сьнег.*

**Узварыванне** *н.* Заварванне. *Якоя ў цябе узвáрівыньня, што адзін шчэпыць сыпанýў, ны чайнік нада усыпыць пырядышна.*

**Узварываць** *незак.* Заварваць. *Я кажный раз чыбарок узвáрівыю, ён мне луччы ўсякыга чаю.* **Узварывацца** *незак.* Заварвацца. *Што ў цябе тута узвáрівыіцца?* **Узварыць** *зак.* Заварыць. *Узварі ліпывыга цьвету, напіся, піріпацеіш, і ўся твыя прастуда пройдзіць.* **Узварыцца** *зак.* Заварыцца. *Я кіпятком зылілá, січас узвáріцца чай, нап'ёмся і пойдзім.* **Узвараный** *дзеепрым.* *Ці ета чай узвáріный, ці што сюда сыпына?* **Узваромшы** *дзеепрысл.* *Узварёмшы, нап'есься, а ня хочыш сам зьдзелыць, ніхто табе ня зьдзелыіць.*

**Узвярнуцца** *зак.* Перавярнуцца, вывернуцца. *Кареньня узьвярнýлыся, нада зялезныя борыны пускаць і пріклыдывыць хырашо. Пахомыў сын так зыбалеў, што узьвярнýцца ня можыць.* **Узвярнутый, узвернутый** *дзеепрым.* *Узьвярнýтыя пакосы растресьць нада. Такея узьвярнýтыя кускі тольки палкыю пырызьбівáць. Усё балота узьвернута, травы тама большы ня будзіць.*

**Узгадыванне** *н. перан.* Клопаты. *Якоя ні ўзгáдывыньня, а патрошку ж пымыгаюць усякій раз.*

**Узгадываць** *незак. перан.* Клапаціцца. *Ня дужа яны пры каго узгáдывыюць, яны тольки пры сябе думыюць.* **Узгадаць** *зак.* Паклапаціцца. *Во відзіш, унукі пры цябе узгыдáлі, ні забылі.*

**Узгалагалець** *зак. асудж.* Пацягнуць на крык, на шум. *Чаго іх узгылыгалела пад вокнымі, гыльнíком січас пыганю.* **Узгалагалецца** *зак.* Пачаць крычаць, шумець. *Як узгылыгыляцца, дык я іх турю сколька жысьці, ідзіця на вуліцу, там хуць шыі сабе скрýчывыйця.*

**Узганяльнік, узганяльшчык** *м.* Той, хто ўзганяе. *Каб каторыя карова етыга узгынялыніка рогым ні парнýла, ато будзіць бяды. Пабег узгыняльшчык і баіцца к карові пыдыйціць, здáліку узгыняіць.* **Узганяльніца, узганяльшчыца** *ж.* *Скажы той узгыняльніцы, ніхай пысядзіць ціха, ня трогыіць скыта. Ох, німа места узгыняльшчыцым, ні даюць спакою каровым.*

**Узганянне** *н.* 1. Падніманне з месца. *Дам я табе с узгыняньнім, ліжаць каровы ціхінька, нашто ж трогыць, яны сытыя.* 2. Узбіванне. *Якей мáйсьцір, такоя й узгыняньня: палку дроў рыскалоў — і тапор зваліўся. Пы-*

*стаў ты матычку с узгыняньнім с тваім, бацька сам зьдзелыіць.*

**Узганяннік** *м.* 1. Той, хто паднімае з месца. *Як мыханець аць сябе каторыя карова етыга узгыняньніка, дык ён ня будзіць знаць, як каціцца.* 2. Той, хто ўзбівае. *Не, узгыняньнік, так лупаткі ні набіваюць.* *Памянш.* **узганяннічак**. *Што, узгыняньнічык, шуткі пабеглі?* **Узганянніца** *ж.* 1. Тая, што паднімае з месца. *Толька што узгыняньніца, ні даець скату пыліжаць спакойна.* 2. Тая, што ўзбівае. *Во ікая лоўкыя узгыняньніца, узьбіла вілкі ня хужы мушчыны.*

**Узгарныванне, узгартыванне, узгортыванне** *н.* Уссыпанне наверх шляхам перагортвання. *Вам ны дваіх етыга узгáрнывыньня ікраз да вечыра хваціць. Сколька там таго узгáртывыньня, чаго яны сідзяць? Я гляджу ны ваша узгортывыньня: красіва пулучаіцца.*

**Узгарнываннік, узгартываннік** *м.* Той, хто горне, узгортвае. *Ніхай нямножка пыработыюць узгáрнывыньнікі, я трошку пыгыдзя зьмяню. У етыга узгáртывыньніка ня дужа рукі служуць к рабоці.* **Узгарныванніца, узгартыванніца** *ж. Ікая ні ўзгáрнывыньніца, а трошку пымыгла, бізь яе большы б вазіліся. Заві яшчэ дзвюх узгáртывыньніц, ніхай тута памогуць.*

**Узгарнываць, узгартываць, узгортываць** *зак.* Узгортваць. *Віхока узгáрнывыць цяжола, дый ні нада, тута куча дужа быльшая ня будзіць. Пычалі яны узгáртывыць, жарка, ня хочыцца лупатымі мыхаць,— кінулі. Не, я доўга узгортывыць ня буду, нада зы канём бежч.* **Узгарнывацца, узгартывацца, узгортывацца** *незак.* Узгортвацца. *Ня дужа лоўка у цябе узгáрныіцца. Трошку узгáртыіцца, на-ка ты пыкідáй мінутычку, а я пірідыхнý. Само то яно ня хочыць узгортывыцца.* **Узгарнуць** *зак.* Насыпаць вышэй перагортваючы. *Увесь ічмянёк узгарні наверьх, а тады пылáткыю накрыім.* **Узгарнуцца** *зак.* Насыпацца вышэй шляхам перагортвання. *Ні выдумывый дзьве кучкі, усё ў адну кучу узгорніцца.* **Узгарнутый, узгорнутый** *дзеепрым. Узгарнýтыя накрыіцца і ні нымякніць. Узгорнутыя наверьх многа сырейшыя, нада будзіць сушыць.*

**Узгарцаваць** *зак. неадабр.* Выклікаць жаданне пагойсаць, пасваволіць. *Нешта іх сяньня узгурцувáла як ні пірід дабром, верна, рейць будуць.* **Узгарцавацца** *зак.* Пачаць гойсаць, сваволіць. *Кучыю сойдуцца, як узгар-*

*цу́юцца, ці ты крічы, ці ні крічы,— кыпялю́хтычкі ня слу́хыюць.*

**Узгламазджываць** *незак.* Ускладаць абы-як. *Ні нада наверьх узглыма́жджывыць, яно ўсё ру́хніць ныза́д.* **Узгламазджывацца** *незак.* 1. Ускладацца абы-як. *Як ні ўзглыма́жджывыіцца, ніхай ляжыць, абы ныза́д ні пыляцела.* 2. Уладкоўвацца высока і нязручна. *Куды ты узглыма́жджывыі́ськя, гнітану́цца хочыш аб дарогу?* **Узгламаздзіць** *зак.* Ускласці абы-як. *Трі ношкі сьвірепкі узглымазьдзілі ны жардзіны і сольлю трухну́лі.* **Узгламаздзіцца** *зак.* 1. Ускласціся абы-як. *Толька што узглымазьдзілыся, ета ні кладзеньня, а ніізьвесна што.* 2. Уладкавацца высока і нязручна. *Удваіх узглымазьдзіліся на хворысьці, як яны тама дзіржацца.* **Узгламозджаный, узгламазджоный** *дзеепрым. Унізу раўнейшыя хворысьця склаў, а нывярьху узгламожджыны вы́січыныя кусты, пряма цэлыя. Узглымаджджоныя суччa зьляцела, не ны чым тама було дзіржацца.*

**Узграбаць** *незак.* Грэбці знізу наверх. *У за́сіку ня дужа лоўка узгріба́ць, пывярнуцца з лупатыю нілізя.* **Узграбацца** *незак.* 1. Грэбціся знізу наверх. *Што ў цябе узгріба́іцца с аднаго боку? — і ат'етуля ́грібані хырашэнька.* 2 *перан.* Лезці ўверх. *Мне цяжола туды узгріба́цца, ты мыладзей, лезь.* **Узгрэсць** *зак.* Загрэбці знізу наверх. *Узгрябі трошку вышы, там пыставім капу.* **Узгрэсца** *зак.* 1. Загрэбціся знізу наверх. *Трошку ўзгрябецца і ладна будзіць.* 2. Узлезці ўверх. *Ні знаю, як мне туды узгресца. Я на печ пакуля узгрябу́ся, ажно зымарю́ся. Чуць узгрёбся пыд гару наверьх, тут дужа крута.*

**Узграмазджываць** *незак.* Нагрувашчваць. *Ныпрасна вы так узгрыма́жджывыіця, яно дзіржацца ня будзіць, усё гу́ркніць уніз.* **Узграмазджывацца** *незак.* 1. Нагрувашчвацца. *Дужа ў цябе нікрасіва узгрыма́жджывыіцца.* 2. Нагрувашчваць. *Дывай мы узноў узгрыма́жджывыцца, доўга вазіліся, пакуліцька піріклáлі. Яны цэлых пуўдня узгрыма́жджывыліся іс сваім хворысьцім, а ён увесь ныза́д рухнуў.*

**Уздаваннік** *м.* Той, хто ўзлівае ваду на печку ў лазні. *Зыбяры кружку, ато етый уздыва́ньнік нальлець, што ны палку ня ўседзіш. Памянш.* **уздаваннічак**. *У цябе харошый памошнік — уздыва́ньнічык.* **Уздаванніца** *ж. Ты ж, уздываньніца, ны каменьня лі пысярёд, а ні на сьценку.*

**Уздавацца** *незак.* Узлівацца (пра ваду ў лазні ў час

парання). *Нешта ня дужа лоўка ў цябе уздаецца, большы на сьценку, чым на печ.* **Уздацца** *зак.* Узліцца (пра ваду ў лазні ў час парання). *Калі ладна уздáсца, дык вы як мячыкі пакоціціся с пылкá.*

**Уздзіранне** *н. перан.* Узлязанне. *Будзіць яму узьдзірáньня, як апшасьнецца калі ды пыляціць с такея вісычыны́, большы ні палезіць.*

**Уздзяўбыванне, уздзёўбыванне** *н. перан.* Ускопванне, узбіванне. *Нашто тут узьдзя́ўбывыньня, сяньня ты узьдзіўбáіш, а зы нядзелю узноў натопчуць, тута сьцёжычка, ход. С твайго узьдзёўбывыньня нічога ні пулучаіцца, табе ны нядзелю хваціць работы.*

**Уздзяўбываннік** *м.* Той, хто ўскопвае, узбівае. *Удваіх узя́ліся узьдзя́ўбывыньнікі, увесь лёд рішáць.* **Уздзяўбываннiца** *ж. Відзіш, ікая зь мяне узьдзя́ўбывыньніца, б'ю, б'ю — толька меткі ат лома астаюцца.*

**Уздоліваць** *незак.* Спраўляцца, судольваць. *Няўжэлі Анька ішчэ уздолівыіць у горыд хадзіць? Мне трудна з вамі уздолівыць пáйкі маты́чыць.*

**Уздрамацца** *зак.* Прыйсці (пра дрымоту), задрамацца. *Калі ўздреміцца, я пысяджу ну тубурецікy ці с крáюшку ны крываці пірякінуся ны мінутку.*

**Уздрахцець, уздрахцецца** *зак. рэдкаўж.* Састарэць. *Нісколька іна ні ўздряхцела, табе проста гываріць нечыга. У хаці сядзеўшы, уздряхцелыся, каб работыла, тыкая б ні была.*

**Уздрыгывацца** *незак.* Уздрыгваць, здрыгвацца. *Нешта наш мáлый пычаў уздры́гывыцца, сьпіць, сьпіць, а тады неік аж пацскочыць, ці ня вы́пужыўся ён айдзе. Чаго б яму так уздры́гывыцца, ён жа ніўдзе ня вы́пужын, нічога. Ікраз во так старыя Аксюта уздры́гывылыся.* **Уздрыгнуцца** *зак.* Уздрыгнуць, здрыгануцца. *Як крікніць неік зразу, мы ажно уздрыгну́ліся. Чаму ж ні ўздрыгнесься, калі над вухым гáркнуў як ніізьвесна хто.*

**Уздрыжка** *ж.* Уздрыгванне. *Во прімець-ка, у яго нейкыя уздры́жка, сядзіць, сядзіць, а тады яго ўсё дно як нехта тріханець.*

**Уздуванне** *н.* Раздзьмухванне (пра агонь). *Нешта ў цябе нічога ні пулучаіцца с уздувáньнім, ты пасьледнія жарінкі патушыш.*

**Уздуваннік** *м.* Той, хто раздзьмухвае агонь. *Глядзіця, уздувáньнікі, адзёжы ні пыпрыпáлівыйця, ато іскырка пупадзець куды і зацьмеіцца.* **Уздуваннiца** *ж. Раз узілася тыкая джоѓыя уздувáньніца, січас зыгаріцца.*

**Уздужываць** *незак.* Выяўляць здольнасць, мець сілу, магчы. *Няўжэлі тыкая мыльгва́ уздýжывыіць у ягыды хадзіць?* **Уздужаць** *зак.* Здолець, змагчы. *Ета ж мы усю жызьню пяшком у горыд, з горыда, ды яшчэ вузялок нясеш, кашолку, а цяперя саўсім атвыклі, хто б ета уздýжыў схадзіць туды і нызад, кажный глядзіць пад'ехыць. Ці ўздужыіш ты пірякідыць столька?*

**Уздумыванне** *н.* Успамінанне. *Дужа доўгыя у цябе уздýмывыньня, скарей успымінай, ждаць некылі.*

**Уздумываць** *незак.* Успамінаць. *Я ўсё сяджу і ўздýмывыю, куды ета ключы ат пýнік пылажыла, нійдзе німа.* **Уздумывацца** *незак.* Успамінацца. *Ці ўздýмывыіцца, айдзе склыда́ный ножычык кінуў, бізь яго ж як бяз рук.*

**Уздурыванне** *н. неадабр.* Узбуджэнне. *Нада зь яго вы́гныць ета уздýрівыньня,— відзіў ты яго: што хачу, то й тварю́.*

**Уздурывацца** *незак. неадабр.* Пачынаць узбуджацца. *Па-мойму, ён узноў уздýрівыіцца іс свыта́мі. Ён ні адзін раз уздýрівыўся ехыць, пыкіпяціцца, а тады прасты́ніць.*

**Уздушша** *н.* Удушша. *Калі ў каго уздýшша, дренна, кашыль зыбіваіць. У Сашкі було уздýшша, усё ён пірьхаў бісьпірістáньня.*

**Уздыханніка** *н. памянш. жарт.* Уздыханне. *Мы чуім тваё уздыха́ньніка, ну ні бядуй, можа, сяньня прібягіць Пуўлючок.*

**Уздышка** *ж.* Уздых. *Цяжолыя у Сямёна уздышка, чуствыіць, што ў яго нічога ня вы́пыліць.*

**Узерывацца** *незак. іран.* Углядацца. *Нечыга узерівыццa ну чужых дзевык, пойдзім, у сваёй дзяреўні многа.* **Узерыць** *зак.* Убачыць, угледзець. *Січас ён падніміцца па лесьвіцы і ўзеріць, ці яны едуць, ці не. Што ты узеріла у етых бумагых?* **Узерыцца** *зак.* Угледзецца. *У што ён тама узеріўся, нешта дужа аньціресныя увідзіў.*

**Уз'ёрзываць** *незак.* 1. Выклікаць ахвоту падурэць, пасваволіць. *Чаго вас узноў узьёрзывыіць, разьві нілізя ціхінька пысядзець мінутычку?* 2. Разгойсваць. *Дзітвыра́ кучыю сыбяруцца і пашлі узьёрзывыць салому, чаго яны там толька ні вытвыря́юць, чуць ні ны гылывах становюцца.* **Уз'ёрзывацца** *незак.* Пачынаць дурэць, сваволіць. *Мінуту пысідзяць, пузубуўля́юцца, а тады узноў пычына́юць узьёрзывыцца.* **Уз'ёрзаць** *зак.* 1. Выклікаць ахвоту падурэць, пасваволіць. *Іх як узьёрзыіць, дык ні прідумыіш, як уняць.* 2. Разгойсаць. *Ну што яны зьдзелылі? — нічога, пасьцель узьёрзылі.* **Уз'ёрзацца** *зак.* Пачаць

дурэць, сваволіць. *Чаго яны там узьёрзыліся, ай узноў хлыбазіны хочуць як учора?* **Уз'ёрзаный** *дзеепрым. Пуруўняй троху узьёрзыный сяньнік, пасьцілкыю накрый.*

**Узжывацца** *незак.* Паступова набываць. *Яму нялёхка було ужжываацца ны хызяйства, помышчы ніякія ня відзіў, усё сам і сам.* **Узжыцца** *зак.* Паступова набыць. *А глядзі ты, троху-патроху ужжыўся і ны кыравёнку, і авец дзяржыць, і прідзелычык пріпяў.*

**Уззуванне** *н.* Абуванне. *Яго уззуваньня я знаю: час будзіць вазіцца, ня меншы, а хочыш, і засьнець з бацінкым.*

**Уззуваць** *незак.* Абуваць. *Мы дужа рана наўчыліся лапці уззуваць, кромі лапцей мы нічога ні зналі.* **Уззувацца** *незак.* Абувацца. *Адзін бот хырашо уззуваіцца, а другей ня дужа нылазіць.* **Уззуць** *зак.* Абуць. *Чуць уззўў свае тўхількі, як ён у іх пойдзіць.* **Уззуцца** *зак.* Абуцца. *Во ты гывapiў цесныя, яны хырашо уззўліся, етыя чобыты.* **Уззуваный** *дзеепрым.* Абуваны. *Што ты мне трілюдзіш новыя, яны боты уззуваныя, во дайжа кублукі зьбіты.* **Уззутый** *дзеепрым.* Абуты. *Гаворюць, каб былі ны ныгах уззўты, тады б ня трогылі, а так ета вешчы.*

**Уззынуць, уззынуцца** *зак.* Наваліцца. *Уззынулі ны мяне, нашто я так скызала, чаго ім так ні нырaвіцца. Як уззынуцца кучыю, дык ты ат усяго атрякесься і аткажысься, ні рада будзіш, што чыпала іх, слова гываріла.*

**Узлажыванне, узложыванне** *н.* Ускладанне. *Я знаю тваё узлажывыньня: прілепіш як зря, а яно ціріс пуўчыса пыляціць ны зямлю. Ета ня ўзложывыньня, што палка пірявешывыіцца, атойдзіш, і йна ўсьлед зьедзіць.*

**Узлажываць** I *незак.* Узлазіць. *Яны, верна, па дзесіць разоў за дзень узлажывыюць на ету ігрушу, уся адзежа на іх як гаріць. Я чуць узлажывыю на печ, усё дно як іна к маёй старысьці пывісачэла.*

**Узлажываць** II, **узложываць** *незак.* Ускладаць. *Сена вісока узлажывыйця, пыц самый вільчык, яно зьляжыцца, дык тама многа места будзіць гуляць. Дывай узложывыць, можа як пірякінім палку ціріс каток.* **Узлажывацца, узложывацца** *незак.* 1. Ускладацца. *Што ж у цябе так дренна узлажывыіцца, лучча кладзі. Патрошку узложывыіцца, я дужа ні сьпяшу.* 2. Укладацца, збірацца. *Яхім узлажывыіцца, скора і нам нада ехыць, вот-вот сьцямнеіць. Будзім-ка мы узложывыцца, нечыга тырыбаріцца.*

**Узлазіцца** 1 *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* узлазіць. *Мне*

*так лёхка ні ўзла́зіцца як табе, мае гады ні такея.* 2 *зак.* Пачаць вельмі часта лазіць. *Як узла́зіліся с самыга раньня, дык усё ім ніяк сьціха́ньня німа.*

**Узлакачыванне, узлакочыванне** *н.,* **узлакоткі** *мн.* Абапіранне локцямі. *Зірні, хто там чаго крічыць, біз узлыка́чывыньня, а ні вісі пы часу ны вакне. Мне тожа ныдаела яго узлакочывыньня, як пан якей жывець у хаці: пыдапрецца, у вакно пыглядзіць і ўсё яго зыняція. Задремліш і клюнісься носым, во й будуць табе узлакоткі.*

**Узлакачывацца, узлакочывацца** *незак.* Аблакочвацца. *Ён во так во узлыка́чывыіцца ны вакне і глядзіць, што ў іх вытвыря́іцца. Нечыга ну пуўдня узлакочывыцца, палоць нада йціць.* **Узлакаціцца** *зак.* Аблакаціцца. *Узлыкацілыся на мех, сядзіць і сыма сабе руссуждáіць: хто мне калі етыя мяшочкі зьмеліць.*

**Узліцца** *зак.* Раззлавацца. *Мы знали, што Адамёнык узьліцца, так яно й выйшла. Ніхай узьля́цца, ніхай не, а я скажу, што відзіла.*

**Узлобак** *м.* Пагорак. *Нада, каб і етый узлобык пабры́нкыць, хуць пару ношычык будзіць, і то ладна. Памянш.* **узлобачак**. *Быў там нібальшэй узлобычык,— чысьціна, мы тама с конімі нучувалі.* **Узлоб'е** *н. зб. Зы рякою быў нічога лес, ды узлоб'я, трудна було вы́візьць, калі зрежыш што.*

**Узлонне** *н.* Прастор, выгода. *Ім у дзяреўні жыць хырашо, узлоньня кругом, і цялёнка можна прівізаць, і пырасёнка вы́гнуць, і гусей дзяржы сколька хочыш — речка пад бокым.*

**Узлюблівацъ** *незак.* Любіць. *Буваіць, што скаціна свайго дзіцёнка ня ўзьлю́блівыіць — ці пырасёнка, ці ягнёнка, ссаць ні даець.* **Узлюбіць** *зак.* Палюбіць, пачаць адносіцца прыязна. *Цябе сьвякрова узьлюбіла, хва́ліцца: мыя нявестка дужа харошыя. Кваќуха аднаго ціплёнка ні ўзьлюбіла, боім зыбіва́іць, гоніць аць сябе, ён ні знаіць, куды дзівацца.*

**Узлязанне** *н.* Узніманне, рух уверх. *Пыглядзі ны яго узьліза́ньня: адною рукою дзяржыцца, а другою рызма́хыіць,— ці можна так дзіржацца на дзеріві.*

**Узляпліванне, узлепліванне** *н. перан.* Ненадзейнае размяшчэнне на вышыні. *Ка́хніцца цёрлічка ап шайку, во табе узьля́плівыньня будзіць. Я й думыла, с узьлеплівыньня нічога ня будзіць, пыдмітáй чыряпкі.*

**Узляплівацъ, узлеплівацъ** *незак. перан.* Ненадзейна размяшчаць на вышыні. *Нашто ж узьля́плівыць, кылі*

*відзіш, што пыляціць ны зямлю. Мяхі някрепка стыялі, а ён дывай узьлеплівыць шайку, усё дно як некуды було большы пыставіць.* **Узляпліваецца, узлепліваецца** *незак.* 1. Ненадзейна размяшчацца на вышыні. *Толька што узьля́плівыіцца, стыяць тама кушунок ня будзіць. Кылі ўзьлепліііца хуць нямножка, дык і ладна.* 2. Ненадзейна размяшчаць ны вышыні. *Нашто вам узьля́плівыцца сюда с пасу́дыю. Ты ня ўзьлеплівыйся, а станоў як нада.* **Узляпіць** *зак.* Ненадзейна размясціць на вышыні. *Кыцялок сы ўсякыю мелычу узьляпіў лі клубкоў, ён ба́хнуўся, усё рыскаці́лыся пы хаці.* **Узляпіцца** *зак.* 1. Ненадзейна размясціцца на вышыні. *Узьлепіцца на сту́пі і трошку пыстаіць мяшок.* 2. Ненадзейна размясціць на вышыні. *Во ўзьляпіўся з ношкыю на ночвы, як дзелыць нечыга.* **Узлепленый** *дзеепрым. Січас пыліця́ць твае сьцёклы, яны чуць узьлепліны.* **Узляпёмшы** *дзеепрысл. Узьляпёмшы адно на дно, айдзе ж ты ўдзержыш.*

**Узмануцца** *зак.* Неадольна захацецца. *Ні ш чога ні зь я́кыга узману́лыся ехыць у Воршу, чаго ён тамыцька ня відзіў! Яму другей раз як узманецца што, тады ня ўдзержыць.*

**Узматычыванне** *н.* 1. Ускопванне матыкай. *Я помню узматы́чывыньня, ішчэ подрысьнім была, пойдзім ны ляда, матка матыку ў рукі мне: матыч,— дужа цяжолыя работа.* 2. Узматычаны ўчастак. *Зырасло травою ваша узматы́чывыньня, дайжа быраною ня зьдзелыіш тама што-небудзь.*

**Узматычываць** *незак.* Апрацоўваць, ускопваць матыкай. *Мы пы ладныму куску ляда узматы́чывылі за дзень. Я ўзматы́чывыю дарожку, а яны узноў нытáптывыюць.* **Узматычывацца** *незак.* Апрацоўвацца, ускопвацца матыкай. *Матыка ту́па, паетыму плоха узматы́чывыіцца, ніхай твой ні пыляніцца ды на́йстріць.* **Узматычыць** *зак.* Апрацаваць, ускапаць матыкай. *Помню, мы кусочык ляда узматы́чылі і лён пасеілі, дык ён вырыс як каноплі.* **Узматычыцца** *зак.* Апрацавацца, ускапацца матыкай. *Тута калі пазьней узматы́чыцца, ні страшна, ты скарей кынчай ету гря́дку.* **Узматычываный, узматычаный** *дзеепрым. Тута ўзматы́чывына, ды ні так, як нада. Лянь-ка ты, у яго ўжо уся палоска узматы́чына, нада нам дыгыняць.*

**Узмежжа** *н.* Узмежак. *Апкасі узьмежжа, там пасьці адна дзя́тлывіна, дужа ядомыя трыва. Памянш.* **узмежжыка.** *Узьмежжыка можна абжаць, ношка травы будзіць.*

**Узмешываццa** *незак.* Пераворваццa. *Не, ета поля узьмешывыцца ня будзіць, тут зімля мяккыя.* **Узмяшаццa** *зак.* Пераараццa. *Каб узьмішáлыся, хужы б ні було, што ня сеіш, дык яно ўсё мяккыю зямлю любіць.*

**Узмуздыванне** *н.* Закілзванне. *Не, братка, атыйдзі ат кыня, с такім узмýздывыньнім ты ды заўтріга будзіш круціцца.*

**Узмуздываць** *незак.* Закілзваць. *За лета хуць найчыўся кыня узмýздывыць.* **Узмуздываццa** *незак.* Закілзваццa. *Конь ні даецца узмýздывыцца, чуць ні нá дыбы становіцца.* **Узмуздаць** *зак.* Закілзаць. *Каторыга кыня узмуздáіш зразу, а каторый крýціцца, ні даецца.* **Узмуздаццa** *зак.* Закілзаццa. *Ні ўзмуздáлыся кабыла, ну на ёй можна так ехыць, іна ціхыя.* **Узмузданый** *дзеепрым. Ну ўзмуздáных коніх вірьхá ехылі цірізь дзярейню.*

**Узмышлянне** *н.* Задумванне. *У яго ўсякыга узмышляньня хвытаіць, ні адно, дык другоя прідýмывыіць.*

**Узмышляць** *незак.* Задумваць. *Ні знаю, што яны цяперіцька узмышляюць дзелыць. Не ўжо, на етый раз ніхай што хочуць узмышляюць.* **Узмышляццa** *незак.* Прыходзіць у галаву. *Узноў яму ніізьвесна што узмышляіцца.*

**Узмэнчыванне** *н.* Узрушванне. *А хто яго узмэнчывыньня ні знаіць, ён усігда як веціp.*

**Узмэнчываць** *незак.* Узрушаць. *Мы ўжо ні прідумыім, што яго кажный раз узмэнчывыіць.* **Узмэнчываццa** *незак.* Узрушаццa, пачынаць хацець. *Знаць, узноў узмэнчывыіцца куды-то ехыць.* **Узмэнчыць** *зак.* Узрушыць. *Сумусёнка як узмэнчыць, тады яго ні ўгаворіш і ні ўвясьціш.* **Узмэнчыццa** *зак.* Узрушыццa, захацець. *Яны дайно узмэнчыліся браць Ткычанкову дачку: як жа, сваты будуць дужа быгатыя.* **Узмэнчаный** *дзеепрым. Нейкій узмэнчыный бегыў пы бызару, знаць, шукаў некыга.*

**Узмятанне** *н.* Замятанне наверх. *Ты астарожніньκа с узьмітáньнім, вачэй мáлым ні пызысыпáй.*

**Узмятаннік** *м.* Той, хто замятае наверх. *Во ўзяўся узьмітáньнік, січас усё пачч́ысьціць зы адну мінуту.* **Узмятанніца** *ж. Пымагі трошку етым узьмітáньніцым, ато яны доўга будуць вазіцца.*

**Узмятаць** *незак.* Месці наверх. *Вышы узьмітáй, каб меншы ныкрывáць було.* **Узмятаццa** *незак.* Месціся наверх. *Як тут у цябе, ці троху узьмітáіцца?* **Узмесць** *зак.* Намесці наверх. *Ты ж хацеў і зь етыга боку узьмесьць вышы, каб узьмёў, лучч́ы було б.* **Узмесца** *зак.* Намесціся

наверх. *Хадзі-ка ты мітані тута, там посьлі узьмяцецца.* **Узмеценый** *дзеепрым. Узьмеціныя разым прікрыіцца, ні нада дзьве кучкі дзелыць.*

**Узнасіць, узнасіцца, узнашываць, узнашывацца** *незак. перан.* Падаваць пачастункі. *Нягож я буду узнасіць Хрісьцінкам, госьці такея мне! Максімывы прісмáкі ўсё пякуць, сквáрюць, гасьцей ждуць, будуць узнасіцца. Як сталі яны узнáшывыць ны сталы, чаго там толька ні було, другея ны свадзьбу так ні гатовюцца. Іш ты яе, свытáм ні жалеіць, узнáшыіцца, а мне дык ня дужа чаго пыдáсьць.*

**Узнашыванне, узнашэнне** *н.* Падаванне пачастункаў. *Мне узнáшывыньня ні нада, я ні такей важный госьць, во ліні чаго-небудзь гырячыга у міску і хваціць зь мяне. Яны самі ні знаюць, чаго хочуць, ім каб узнашэньня было, ды ні абы-якоя.*

**Узніззе** *н.* Паніжэнне, лагчына. *Па ўзьнізьзю сёліта нічога трыва, троху накосюць сена. Узьнізьзім пряма бягі і бягі, нікуды ні варочый.*

**Узносіста, узносчывата** *прысл. іран.* Ганарліва. *Ён як толька пріехыў, дужа узносіста павёў сябе. Во як узносіста нос зыдрала, поцступу німа. Дужа узношчывыта ходзіць, дзяўчонкі ета саўсім нікрасіва, нада трошку спыкайней.*

**Узносістасць, узносчыватасць** *ж. іран.* Ганарыстасць. *Кідай-ка ты сваю узносістысьць, а пыгыварі зь людзямі як нада. Каб трошку меншы узносістысьці, яно б ня хужы було. Ат узношчывытысьці пряма ня чуствыіць, пы якому сьвету ходзіць.*

**Узносістый** *прым.* 1. Высокі, гонкі (пра дрэва). *Узносістый сасоньнік быў, зы вайну высіклі.* 2 *перан. іран.* Ганарысты. *Такім узносістым нікрасіва быць. Узносістыя дзеўкі, дужа вісока нос зыдзіраюць.*

**Узносчыватый** *прым.* Ганарысты. *Пы мамі пашлі, такея самыя узношчывытыя. Чаго ён стаў узношчывытый, раншы ня быў такім.*

**Узнянчываць** *незак.* Гадаваць, рыхтаваць да самастойнага жыцця. *Ні так лёхка було іх узьнянчывыць, як табе здаецца.* **Узнянчыць** *зак.* Выгадаваць, падрыхтаваць да самастойнага жыцця. *Матка усё ны работу і ны работу, а іх баба узьнянчыла. Ніхто табе мáлыга ні ўзьнянчыць, сыма гадуй.* **Узнянчыцца** *зак.* Набрацца клопатаў гадуючы. *Пакуля ўзьнянчылыся, хваціла зь яе.* **Узнянчаный** *дзеепрым. Ладный кырапўз узьнянчыный у яе.*

**Узрашный, узрачный** *прым. пагардл.* Прывабны. *Айт, якей ён узра́шный, неўдыльля нейкыя. Ён ікраз такей узра́чный, як і ты, вы адзіна́кывыя.*

**Узрошчываць** *незак.* Вырошчваць, узгадоўваць. *Што ты мне талкўіш, як дзяцей узрошчывыць, кылі я сыма шысьцярых гудувала. Ці вы знаіця, што іна адна узрошчывыла сыноў, біз усякія помышчы.*

**Узрыўчастый** *прым.* Выбуховы. *Нешта узры́ўчыстыя найшлі і кідалі ў вагонь, дык адзін біз рукі астаўся.*

**Узыйгрыванне** *н. неадабр.* Пачатак бурнага выяўлення пачуццяў, імкненняў. *Нада ўнімаць іхныя узы́йгрывыньня, ато рызыйшліся, пряма места сабе ні находзюць.*

**Узыйгрывацца** *незак.* Пачынаць бурна выяўляць імкненні, пачуцці. *Ох, узы́йгрывыюцца ціляты на вы́гыні, свабода ім. Нечыга узы́йгрывыцца, сядзь і сядзі, нікуды ня пойдзіш.* **Узыйграцца** *зак.* Пачаць буйна выяўляць імкненні, пачуцці. *Узыйгра́ліся жырібя́ткі, дужа ім вясёла кучыю. Другей раз ма́лыя як узыйгра́юцца на штонебудзь, хут ты зь імі плач. Скора і твой узыйгра́іцца жаніцца, будзіш спруўля́ць свадзьбу.*

**Узынуць** *зак.* Зайсці адразу натоўпам, гуртам. *Узы́нулі кучыю пад вечыр саўсім, я ўжо прідумыць ні мыгла, куды зь імі дзівацца.*

**Узямляніваць** *незак.* Забруджваць зямлёй. *Чаго ж ня будуць узімля́нівыць адзёжу, кылі кычаюцца пы па́хыці.* **Узямлянівацца** *незак.* Забруджвацца зямлёй. *Хвост пылытна цягніцца, узімля́нівыіцца, пыднімі скарей.* **Узямляніць** *зак.* Забрудзіць зямлёй. *Узімля́ніў рукавы́, аптрясі, ато ў хату пынясеш.* **Узямляніцца** *зак.* Забрудзіцца зямлёй. *Айдзе ты етык узімля́ніўся, ны плічах і ны кыўняре пряма жывая зімля.* **Узямляненый** *дзеепрым. Выбіць нада узімля́ніныю адзежу, прусушы́ць і выбіць, павесь ны прясла, ніхай праветріцца.*

**Укавыраста, укавырна** *прысл.* Капрызна. *Ого, паспробый-ка ні па ём слова скызаць, як ён укавы́ріста губы надмець. Іна с кажным так укавы́рна рызгыва́рівыіць, ніхто яе ні атвучыць ат етыя прівычкі.*

**Укавырастасць, укавырнасць** *ж.* Капрыз. *Ты прімець, як іна рызгыва́ріць, калі ёй хто-небудзь ні ныра́віцца, во й мама тыкая самыя, тожа дужа многа укавы́рістысьці. Полька дужа ладна умеіць атвўчывыць ад укавы́рнысьці, ох, умеіць!*

**Укавырастый, укавырный** *прым.* Капрызны. *Ні прідўмыць, па ком ён пашоў такей укавы́рістый. Адзін ука-*

*выърный, другей ніўкавыірный — абоя адзінакывы, зы каторыга ні хвацісь. Памяниш.* **укавырасценькій, укавырненькій.** *Не, ні гывары, ты тожа была укавырісьцінькыя, ці помніш, як уцікала ат нас пу зугуменьню. Укавырніськыя расьцець кукылка, шыснаццытый год толька, а ўжо дмецца як быльшая.*

**Укавырываць** *незак.* Ускалупліваць. *Бяріся сам укавырівыць, відзіш, у яго ні пулучаіцца.* **Укавырывацца** *незак.* Ускалуплівацца. *Дужа застыла, у мяне тожа ня дужа укавырівыіцца.* **Укавырнуць, укавірнуць** *зак.* Ускалупнуць. *Во застыў сьцюдзінь, ложкыю ні ўкывырнеш. Зімля пірясохла, што укывірнуць нілізя, горька дождж нада, пасевы прыпадуць.* **Укавырнуцца, укавірнуцца** *зак.* Ускалупнуцца. *Пробый-ка тут, тут далжно укывырнуцца. Во трошку укывірнулыся, на і табе кусочык.* **Укавырнутый, укавірнутый** *дзеепрым. Каб жа сы днаго боку було укывырнута, ато ўсё пыгаджына. І тут укывірнута, і во тут яшчэ.*

**Укавэнчыцца** *зак.* Змучыцца. *Укавэнчылыся іна іс сваімі нығамі, цэлыя лецічка прыкычалыся, боль, гываріла, нісьцярьпімыя.*

**Укавярзаць** *зак.* Уплесці няўмела, абы-як. *Я й ні прідумыю, як тута укывірзаць ета хворысьця, тут ба нада кольля ўбіць.* **Укавярзацца** *зак.* Уплесціся няўмела, абы-як. *Дзелый,—як укывірзаіцца, так і ладна,—ета ж нада дну ацскачыць ат карзінкі!* **Укавярзаный** *дзеепрым. Пляцень, а тады кусок ат нейкыга прясла з достычык укывірзан, абы-чаго налепліна.*

**Укаенчыцца** *зак.* Змучыцца ў пакутах. *Тута ні хыця укаенчысься, калі то адно ны гылаву, то другоя, спакою ні мінуты німа.*

**Укажанець, укажанецца** *зак.* Закарэць ад бруду, ад дрэннага догляду. *Пырысяткым нада мылако, а так яны укыжанеюць і росьць ня будуць. Дужа ніряшлівыя баба, зы чыстатою нісколька ні глядзіць, у яе дзеці укыжаneліся і сыма ходзіць як атряха.* **Укажанелый, укажанеўшый** *дзеепрым. Чаго ён ходзіць такей укыжанелый? — рубашка на ём, знаць, ні разу ня мыта. Яны ўжо дайно такея укыжанеўшыя, усё сваё апушчэнства.*

**Указнік** *м.* Указчык. *Мне ваш указьнік ні нада, я сыма знаю, што дзелыць. Многа вас, указьнікыў, найдзіцца.* **Указніца** *ж. Знаіш, куды я пашлю ету указьніцу, ніхай сваім цёткым указывыіць.*

**Укалашывацца** *незак.* Уваходзіць у стан каласавання.

*Толька стала жыта укыла́шывыцца — град, ны пылавіну пабі́ў.* **Укаласіцца** *зак.* Увайсці ў стан каласавання. *Жыта укыласілыся дружна і колыс харошый, должын быць урыжай. Ярі нядренна укыласіліся, нада будзіць пагода убірацЬ.*

**Укалець** *зак.* Застыць, замерзнуць. *Укалеіця біз ныпря́тык, хуць што-небудзь вазьміця ну руку́. Во ўкалелі, як яны толька жывэя прікаціліся.* **Укалелый, укалеўшый** *дзеепрым. Што ж ты ставіш на стол укалелыю бульбу. Яго пріця́гнуць калі-нібудзь укалелыга. Пріедуць укалеўшыя, яны ж ныпря́тывыцца ні разу ня хочуць, а сяньня хыладзіна нямерныя.*

**Укалупленый, укалупнутый** *дзеепрым. перан.* Паддзеты. *Калі ўкалу́пліный, доўга будзіць ірдзіцца. Яго ўкулупну́тыга зразу пызнаіш: на месьці будзіць сядзець і ажно патпры́гывыць, усё дно як ны іголкых.*

**Укальжэць, укальжэцца, укальчэць, укальчэцца, укальчанець, укальчанецца** *зак.* Змерзнуць, моцна перамерзнуць. *Укальжэюць яны, пакуля пріедуць, холыд пытхваціўся нівынасі́мый. Так укальжэлыся, што нічога ні ўзарьвеш, усьсіка́ць нада. Укальчэіця вы, мальцы, нада кряпчэй надзецца. Салома пыт кыпля́мі укальчэлыся, што нічым ні ўзаб'еш і ні ўзарьвеш. Цеста за́ ныч у сенцых укыльчанела, як толька шаічку ні рызырвала. Нада ж так зразу пыхыладнець, дзяўчонкі лі скыта укыльчанеюцца.* **Укальжэлый, укальжэўшый, укальчэлый, укальчэўшый, укальчанелый, укальчанеўшый** *дзеепрым. Прібег укальжэлый: лі скарей чаго-небудзь гырячыга. Яны саўсім укальжэўшыя былі, я іх на печы атыгріва́ла. Во як я гываріла, што укальчэлыя пріедзіця, так і выйшла,— ета ж нада біз ныпря́тык вупруўля́цца такою пагодыю. Дапоўзыіцца пы нычах, што найдуць калі-небудзь укальчэўшыга ны дарогі. Ніймаверный хыладзішча, укыльчанелыя, верна, яны сідзяць лі кароў. Віджу, што саўсім укыльчанеўшыя, чаго вы, гываряю, ні рызьдзііцёся, я гырячыга нальлю, грейціся.*

**Укалянець, укалянецца** *зак.* Застыць, моцна зацвярдзець. *Аткуля такей мароз пытхваціўся, цеста у ла́тычкі стыяла у сенцых, укылянела, хуць сякі яго тыпаром. Ідзіця есьць, бульба ны стале, іна укылянеіцца, нісмашна будзіць.* **Укалянелый, укалянеўшый** *дзеепрым. Укылянелыя нада тыпаром усьсеч, так ні ўзарьвеш. Сядзіць як укылянеўшый, ні пувурухнецца.*

**Укамкыванне, укомкыванне** *н.* Закамячванне. *Дам я*

*табе укáмкывыньня, нашто ты новінькыю рубашычку гамзіш. Пыдзівіся ны яе укомкывыньня, ета ж іна так гуляіць.*

**Укамкываць, укомкываць** *незак.* Закамячваць. *Што ты тамыцька укáмкывыіш у тряхольля, ні балыйся. А ніхай гуляюць, нейкіх кукыл пыныбрáлі, укомкывыюць у платкі.* **Укамкывацца, укомкывацца** *незак.* Закамячвацца. *А яно само у тряп'ё укáмкывыіцца, тады шукаіш і ні найдзіш нічога. Як воцьціпіль, сьнег тады укомкывыіцца.* **Укамкаць, укомкаць** *зак.* 1. Закамячыць. *Укымкáіць мáлыга у два адзіяльцы і носіць па вуліцы. Ты луччы укомкый усё у вугалок, каб ні пырыссыпáлыся.* 2 *перан. гумар.* З'есці ўсухамятку. *Нашто ты яму даеш пыпрянькі, ён ужо укымкáў цэлыю пряснýшку. Сала с хлебым ён сколька хочыш укомкыіць.* **Укамкацца, укомкацца** *зак.* Закамячыцца. *Па-мойму, яго шапычка тута айдзе-то укымкáлыся, пушукаць нада. Другая тряпіна як укомкыіцца, шукаіш, шукаіш, і ні находзіцца.* **Укамканый, укомканый** *дзеепрым. Усе яе цацкі ліжаць укымкáныя пуд рушнікамі. У бумагі быў укомкын твой ножык, я чуць ня кінула ў печ.*

**Укамсыванне** *н.* Грубае закамячванне. *Як пычанець сваё укáмсывыньня, дык два часы возіцца, ні прідумыіць, куды ета ірваныя быгаства дзець.*

**Укамянець, укамянецца** *зак.* 1. Зрабіцца цвёрдым, як камень. *Гліна с цэмінтым застыла, пряма укымянела, хут ты яе ломым бі. Усё там укымянелыся, рызьбіваць нада, так нічога ня зьдзелыіш.* 2 *перан.* Застыць нерухома. *Во, знаць, укымянелі етыя мушчыны, ніяк ні дызавесься. Ці ён там укымянеўся, ці што, чаго ня йдзець двору.* **Укамянелый, укамянеўшый** *дзеепрым. Дождж дужа забойный, а тады жыра, дык зімля пряма укымянелыя, хуць нысікáй яе. Такіх укымянелых разьві дызавесься, Сідзяць як укымянеўшыя, ні вурухнýцца.*

**Укапошываць** *незак.* Укапваць (у сена, салому і пад.). *Дождж кап-кап-кап, мы ні знаім, што дзелыць, куды дзівацца, дывай мáлыга укапошывыць у сена.* **Укапошывацца** *незак.* Укапвацца (у сена, салому і пад.). *Пырысяты укапошывыюцца глубока, відна, холыд чуюць.* **Укапашыць** *зак.* Укапаць (у сена, салому і пад.). *Я іх глубокінька у сена укыпашý, зьверьху накрыю хырашо, ніхай сьпяць. Сьвіньня укыпашыла пырысят у гняздо, што ня відны і ня чутны.* **Укапашыцца** *зак.* Укапацца (у сена, салому і пад.). *Цяперя у сена можна укыпашыц-*

*ца, цёпла будзіць, аж жарка. У салому укыпашыліся, дык што ім.* **Укапошаный** *дзеепрым. Ны хаці укапошыный у сена ды самых хыладоў сьпіць.* **Укапашомшы** *дзеепрысл. Мы былі укыпашомшы, ніякыга холыду ня чуствывылі.*

**Укапчыванне, укопчыванне** *н.* Вэнджанне. *Во, ён у нас первый сьпіцыяліст пы укáпчывыньню, луччы яго ніхто ня зьдзелыіць. Ты нешта ня дужа с укопчывыньнім рызьбірáісься.*

**Укапчываць, укопчываць** *незак.* Правэнджваць. *Пырхвянок быў масьцір укáпчывыць кілбасы, дужа сьпецна дзелыў. Табе ішчэ нілізя дывіряць капчэньня, ты ня ўмеіш укопчывыць.* **Укапчывацца, укопчывацца** *незак.* Правэнджвацца. *І разьвесіць нада ўмець, як правільна разьвесіш, тады луччы укáпчывыіцца. Нада знаць, калі зычыняць, калі глядзець, тады толька укопчывыіцца.* **Укапціць** *зак.* Правэндзіць. *Твой старэй сёліта, відна, пырядышныга укапціў вокыркыў, будзіця год есьць.* **Укапцець, укапціцца, укапцецца** *зак.* 1. Закапцець, моцна пакрыцца копаццю. *Як лучынью сьвяціліся, дык усё ў хаці укапцеіць, чорна, ні к чому ні прітронуцца. Сьцякло укапцілыся, чуць аьцёрлыся. Відзіш, як сьцены ўкапцеліся.* 2. Правэндзіцца. *Крайній вокырычык укапцеў луччы некуды. Сёліта твае вокыркі укапціліся як сьледыіць. Ты ж глядзі, каб усё укапцелыся ладна.* **Укапцелый, укапцеўшый, укопчаный, укапчоный** *дзеепрым. Укапцелыя мяса дужа смашныя, атрежыш кусочык — пряма заесца. Дужа ўкапцеўшыя нада працерць лёгінька, луччы мокрыю тряпычкыю. Я пробывыў укопчыныя мяса у Зыхарёнка,— смашныя. Вокыркі ні такея укапчоныя як кілбаскі.* **Укапцёмшы** *дзеепрысл. Средня вокыркі укапцёмшы, можна було трошку большы пыдзіржаць у дыму.*

**Укапыванне, укопыванне** *н.* Укопванне, закопванне. *Мне ваша укáпывыньня саўсім ні ырáвіцца. Бацька біз укáпывыньня заб'ець крепка і ямку ні нада рыць. Яны сы сваім укопывыньнім разьбілі стажок.*

**Укапываннік, укопываннік** *м.* Той, хто укопвае, укопваецца, закопвае, закопваецца. *Сядзіць укáпывыньнік, аддыхаіць, ета тыкі і праўда, зімляныя работы цяжолыя. Глянь-ка, як там укопывыньнікі трýдзюцца.* **Укапываніца, укопываніца** *ж. За сьценкыю укáпывыньніцы, новысьці адна адной рысказывыюць. Укопывыньніцы як мульчугáны, нівісь як глубока паць сена пыткыпáліся.*

**Укаранне** *н.* Дакаранне. *Ніхто аць цябе укырáньня*

*ня требыіць, ну й ні прізнываць жа нікога тожа нілізя. А што мне яго укыря́ньня, за што ён мяне укыряць будзіць, ці ён мяне хлебым корміць, ці што.*

**Укараннік** *м.* Той, хто дакарае. *Укыря́ньнікі вы ўсе дужа харошыя, толька ці быў хто-небудзь із вас у яе шку́рі,— во каб пыбылі, як ба вы тады укыря́лі.* **Укаранніца** *ж. Ладна ўжо, укыря́ньніца, табе б луччы ўсяго пумуўча́ць.*

**Укарацца** *незак.* Вінаваціцца, дакараць сябе. *Як ужо нявестка укыря́лыся піряд імі, дык ці такім жа людзям можна угадзіць.* **Укарыць** *зак.* Папракнуць. *За што ж яны мяне укыря́ць, я ні слухым ні духым ні знаю пра іх дачок.* **Укарыцца** *зак.* Павініцца. *Не, ня думыю, каб Сумусёўна піред імі укары́лыся, ні на тую яны пупалі.*

**Укаржанець, укаржанецца** *зак.* Моцна засохнуць. *Ты ўсігда хлеба нарежыш, ён укыржанеіць, тады толька у шайку кідыіш. Кускі укыржанеліся, што іх ня есьць, а ці рызьмя́кнуць дайжа.* **Укаржанелый, укаржанеўшый** *дзеепрым. Ета, знаць, нейкій пріснок укыржанелый ляжыць, нашто ён тута. Што ўкыржанеўшыя, у тазік, у тазік, яно рызьмя́кніць, і куры пуклю́юць.*

**Укарчэць** *зак.* Моцна закарчанець, застыць. *Укарчэіця у лёхкіх ыпря́ткых, яно січас ня дужа цёпла, а к вечыру яшчэ пыхыладнеіць. Ні дызавесься ніяк, усё рыўна як ён тама укарчэў іс сваімі знакомцымі, рысстря́цца ня можыць.* **Укарчэлый, укарчэўшый** *дзеепрым. Укарчэлыя як пріедуць, хуць гырячым ва́рівым пакорміш. Чаму ж ня будзіць укарчэўшый, кылі хыладзі́на тыкая ўзілася.*

**Укарэць, укарэцца** *зак.* Моцна закарэць. *Большы некуды, як вы укарелі, няўжэлі ета лень баню вы́тыпіць ды вы́мыцца. Укареўся за етымі дрывамі, пріпыря́ччыцца некылі.* **Укарэлый, укарэўшый** *дзеепрым. Іс суботы я вазьмуся чыстату нывадзіць, ато ўсё укарелыя ў хаці. Такей укареўшый, што хуць рубанкым грязь шчышча́й.*

**Укасцянець, укасцянецца** *зак.* 1. Моцна зацвярдзець. *Ці тута ўкысьцянела, ці што, абухым ні ўзаб'еш ніяк. Корык ні кідай, укысьцянеюцца, тады зь імі нічога ня зьдзелыіш.* 2 *перан. груб.* Зрабіцца нерухомым. *Укысьцянеў тэй Сьпірідон, атыйціць ад друзей ніяк ня можыць. Як сядуць, і ўкысьцянеюцца, ні дызавесься шайку с поілым вынісьць.* **Укасцянелый, укасцянеўшый** *дзеепрым. Што йта тут еткыя укысьцянелыя, дзіўбані-ка тыпаром, мы́сым. Нешта яны мясілі, тута ўсё укысьцянеўшыя, узьбіваць нада.*

**Укасыванне** *н.* Навязлівае ўмешванне. *Чужоя укáсывыньня ні ўсігда пымыгаіць, буваіць, большы напорціць, а ні паможыць.*

**Укасываць** *незак.* Навязліва ўмешваць. *Ну пупайся сам, дык і атвічай, а нашто яшчэ і людзей укáсывыць.* **Укасывацца** *незак.* Навязліва ўмешвацца. *Трыхімёнык дужа любіць укáсывыцца ні ў сваё дзела, січас зь ізыком падлезіць: лах-лах-лах.* **Укасаць, укаснуць** *зак.* Навязліва ўмяшаць. *Вот укысáла ж яшчэ Вылаччонка сюда ніізьвесна нашто. Ніхто Дынілёнкывых ні ўкаснýў, самі ўлезьлі. Аніськіны мальцы яго укаснýлі.* **Укасацца** *зак.* Навязліва ўмяшацца. *Кісялёнык ныпрасна укысáўся у іхныя дзела, ім нада адным рызьбірацца. Ці яны луччы зьдзелылі, кылі укаснýліся, ня іх дзела чужоя дабро дзяліць.*

**Укатаць** *зак. перан.* Моцна збіць. *Улажылі і ляжучыга пряма укытáлі, ікая ж ета совісьць свайго дзірявенскыга так біць.* **Укатаный** *дзеепрым. Ён укытáный ат іх чуць вы́рвыўся, маглі прібіць.*

**Укачарожываць, укачарэжываць** *незак.* Курчыць. *Што цябе укычарёжывыіць, што ты места нійдзе ні находзіш? Другей раз як станіць укычарежывыць ногі, спасу німа.* **Укачарожывацца, укачарэжывацца** *незак.* Курчыцца. *Ходзіць чылавек, нічога, нічога, а тады пычынáіць укычарёжывыцца. Ад болі укычарежывыўся, гыварíў, цярьпець нілізя нізашто.* **Укачарожыць, укачарэжыць** *зак.* Скурчыць. *Ач чаго б ета яго так укычарёжыла? Во нешта ж укычарежыла, усё дно як угар.* **Укачарожыцца, укачарэжыцца** *зак.* Скурчыцца. *У бані тожа буваіць угар, можна укычарёжыцца. Стáрыя комін рана зычыніла, яны ат угару укычарежыліся.* **Укачарожаный** *дзеепрым. Як ета ня думыць — зычыняць комін, калі чад ідзець, вас ба мы маглі найціць укычарёжыных.*

**Укачурываць** *незак.* Даводзіць да моцнага ўгару. *Ты глядзі, ні нада іх укачýрівыць.* **Укачурывацца** *незак.* Падвяргацца моцнаму ўгару. *Большы я ні хачу укачýрівыцца, зычыняй, як усё вугальля патýхніць.* **Укачурыць** *зак.* Давесці да моцнага ўгару. *Ты мáлых можыш укачýріць, так рана зычыня́ўшы, ішчэ сінінькія аганькі пы жарý скачуць.* **Укачурыцца** *зак.* 1. Моцна ўгарэць. *У мае сьвякровы былі як укачýріліся, дык хлыпца вадою атлівалі.* 2 *перан.* Атлуміцца. *Ат вашыга сквілу ат аднаго укачýріцца можна.* **Укачураный** *дзеепрым. Ну ці ты ўкачýріный якей, што с табою ні найціць ні пыціряць.*

**Укачываць** *незак. перан.* Моцна лупцаваць. *Бацька яму ні раз ладна укачывыў.* **Укаціць** *зак.* Моцна адлупцаваць. *Кірей табе ўкоціць, як зловіць, дасьць табе і мідунічкі, і белый наліў. Яму даўно нада було укаціць хырашэнька.* **Укочаный** *дзеепрым. Зу гуркі ўкочына, ну ішчэ ён ня ўсё сваё пулучыў, а палучыць, абізацільна палучыць.* **Укацёмшы** *дзеепрысл. Табе ні ўкацёмшы, толку ня будзіць, дужа ты рузмудрей.*

**Уквакліванне** *н.* Замазванне, пэцканне. *Няўжэлі ты ня можыш біз уквакліўыньня зьдзелыць трошку акуратней?*

**Уквакліваць** *незак.* Замазваць, пэцкаць. *Тэя даўно ўжо былі па вушы грязныя, а етый пыстыяў, пыстыяў, а тады тожа дывай уквáклівыць рукі.* **Уквакліваццa** *незак.* Замазвацца, пэцкацца. *Чаго ён палез пат тую печ уквáклівыцца, во вылізіць, дык пыглядзіш, якей ён будзіць.* **Укваkліць** *зак.* Замазаць, запэцкаць. *Левыю палу усю чысьцінька уквáкліў у якоя-то цеста, ніхай ужо засохніць, а тады можа ацскрябецца.* **Уквакліцца** *зак.* Замазацца, запэцкацца. *Ты тожа харош — уквáкліўся, нібыццым цэлый дзень сьвіньням мішаў.* **Уквакленый** *дзеепрым. Ня пріся у хату с уквáклінымі сыпыгамі, ідзі ў лужы абмый ці ап траву абатрі.*

**Укладанне, укладыванне** *н. перан.* 1. Уцягванне ніткі ў іголку. *Ай, і ў цябе такоя уклыдáньня, дывай, можа, я сыма ўцягну. Во відзіш, якоя маё уклáдывыньня, усё міма і міма.* 2 *гумар.* Забіванне. *Канешня, усе быяцца яго уклыданьня. Хто ж ні знаіць Міцінага уклáдывыньня.*

**Укладаннік, укладываннік** *м.* Той, хто ўцягвае нітку ў іголку. *Другей уклыдáньнік бярецца, січас дзела зугудзіць. Зь яго такей самый уклáдывыньнік, як я.* **Укладанніца, укладыванніца** *ж. Дай-ка ты, ўклыдáньніца, мне іголку. Відзіш, ікая уклáдывыньніца, узілася і ўцягнула.*

**Уклейшчык** *м.* Той, хто ўклейвае. *Зыняліся уклейшчыкі зь нейкімі бумажкымі, кнігу сабе склеівыюць, ну ніхай пысідзяць цішэй.* **Уклейшчыца** *ж. Вот табе уклейшчыца на помышч ідзець.*

**Уклепліваць, укляпліваць** *незак.* 1. Убіваць кляпаннем. *Уклеплівыў нейкія заклёпкі у абруч, ды ў яго нічога ні пулучылыся. Пычаў укляплівыць, як надзелыў грюкыту на ўвесь двор!* 2 *перан.* Нагаворваць, уводзіць у вушы. *Ета кума ў яе дужа разумныя, усякыю лухту уклеплівыла, дукувала.* **Уклеплівацца, укляплівацца** *незак.* 1. Убівацца кляпаннем. *Кылі масьцір, дык яно бу-*

*дзіць ладна уклеплівыцца, а хто ня ўмеіць, тэй ня зьдзелыіць. Пычало хырашо ўкля́плівыцца, а тады ніжнія пласьцінка треснула.* 2 *перан. іран.* Улюбляцца. *Сколька разоў ён ужо уклеплівыўся, а ўсё ні па ём. Па-мойму, ён у Тонічку укля́плівыіцца.*

**Уклешчыванне** *н.* Навязлівае прыставанне. *Ты тожа помніш яго уклешчывыньня, як ён зы спадніцу цігаўся, нічога ні дываў зьдзелыць.*

**Уклешчываць** *незак.* Вымушаць навязліва прыставаць, чапляцца. *Чаго іх уклешчывыіць усьлед, шагу ні даюць ступіць.* **Уклешчывацца** *незак.* Навязліва прыставаць, чапляцца. *Хваціць ужо уклешчывыцца усьлед, ні ма́ліцькій. Звы́кла і звы́кла, куды я іду, і іна уклешчывыіцца ўсьлед, я ўжо і ні ганю, ніхай ідзець.* **Уклешчыць** *зак.* Вымусіць навязліва прыставаць, чапляцца. *Ма́лых другей раз як уклешчыць зы табою, ат іх ні атвізацца, бярі ўмесьці і ўсё.*

**Укліна́нне** *н.* Праклён. *Нягож, быяцца яны твайго ўкліна́ньня, гурбузы пыхвыта́лі і пабеглі, а ты кляні сколька хочыш.*

**Укліна́ць** *незак.* Праклінаць. *Укліна́іць Мікіту, нібыццым ён лісьнікоў навёў, яны зыпісалі нескылька бірнушкоў. Ці ўкліна́й, ці ні ўкліна́й, дык што ты яму зьдзелыіш.* **Уклясць** *зак.* Праклясці. *Як уклянеш, дык ты яму зьдзелыіш дужа горька.*

**Укліненый, уклінованый** *дзеепрым.* Умацаваны клінамі. *Пыця́гу б можна усьця́гывыць, толька ці крепка там козлы укліні́ныя. Укліні́ныя ножкі ні варўшуцца, а етыя саўсім рышшымыта́ліся. Укліновыныя скамеічка ні рышшыта́лыся, а што біс клінкоў, тама ножкі пывыва́лівыліся.*

**Укліновыванне** *н.* Умацаванне клінамі. *Калі яно ўсё рышшымыта́лыся, ніякыя укліновывыньня ні паможыць, нада новыю стывіну́ дзелыць.*

**Уклумліванне** *н.* Затлумліванне. *Уклу́млівыньня ня дужа хто любіць, ета во табе, знаць, дужа ныра́віцца зь імі дуріцца кажный дзень.*

**Уклумліваць** *незак.* Затлумліваць. *Ма́лыя дужа уклу́млівыюць, асобінна калі рызба́лывыліся ды ня слухыюць.* **Уклумлівацца** *незак.* Затлумлівацца. *Я б ні зыхацела столька уклу́млівыцца, ну іх, і грошы тых.* **Уклуміць** *зак.* Затлуміць. *Пабудзь ты зь імі нядзелю, што ты скажыш, як цябе уклу́мюць.* **Уклуміцца** *зак.* Затлуміцца. *Ні так ужо ты уклумілыся, як гаворіш. Дычка пріходзіць,*

*гаворіць, як уклумлюся, ажно есьць ні хачу.* **Уклумлены** *дзеепрым. Як пысяджу тама, выхаджý, дык гылыва во тыкая ўклўмліныя становіцца.*

**Уклюнуць** *зак.* Дзеўбануць. *Палезь, палезь, куріца уклю́ніць, тады ні пішчы мне. Знаць, пятух уклю́нуў, што курей хочыць лавіць.* **Уклюнутый** *дзеепрым. Трошку пысклімеў уклю́нутый, скора забыў.*

**Укокываць** *незак. жарт.* Забіваць. *Я ўжо сыбраўся яго укокывыць, ды пыжалеў на етый раз, думыю, другей раз злаўлю́.* **Укокаць** *зак.* Забіць. *Цябе б даўно нада было укокыць, ды жалка шапкі: у грязі будзіць выляцца. А што калі пацэліцца ды ўкокыць яго, а?* **Укоканый** *дзеепрым. Нешта пры цябе ма́лыя зічычані спрашывылі, дык мы думылі, ты ўжо айдзе-небудзь укокыный ляжы́ш.*

**Укравяніваць, украваўліваць** *незак.* Пэцкаць крывёю. *Лі кыбына́ усігда рука́вы пацсу́кывыюць вісока, каб ні укрывя́нівыць. Ты ж глядзі, дзелый так, каб ні укрыва́ўлівыць рубашкі.* **Укравяніваціца, украваўліваціца** *незак.* Пэцкацца крывёю. *Я тожа ні хачу укрывя́нівыцца, ну нада ж паможч старому, адзін ён ні спра́віцца. Калі кроў ня спу́шчына, тады мяса дужа укрыва́ўлівыіцца.* **Укравяніць, укрававіць** *зак.* Запэцкаць крывёю. *Я ж нарошня ні укрывя́ніў сарочкі, ціркуўся неік, троху зымыра́ў, ета атмыіцца. Ты лянь-ка, як валінкі укрывавіў, нейдзі пыцставіў ногі.* **Укравяніцца, укрававіцца** *зак.* Запэцкацца крывёй. *Усігда нада глядзець дужа акуратна, калі скаціну рызьбіраіш, ато можыш дужа укрывя́ніцца. Скамейкі укрыва́віліся, як кыбына рызьбіра́лі, нада працерць хырашэнька.* **Укравяненый, украваўленый** *дзеепрым. Укрывя́ніныя мяса адзьдзельна ложыцца, яго нада абмыць хырашо, пысаліць і зьверьху класьць, каб скарей расходывыць. Укрыва́ўліныя тря́пкі ліжаць, спыласну́ць нада,— ета я яму пасечыныю нагу укру́чывыла.*

**Укратыванне** *н.* Абкладанне, укладанне. *Як ціскану́ць пікуны́, ніякыя укря́тывыньня ні паможыць, прідзіцца ігнят у хату браць.*

**Укратываць** *незак.* Абкладаць, укладаць. *Мае мушчыны крепка дзелылі зугува́льню ны зіму́: апстыўля́лі саломыю, а тады сухім бульбоўнікым укря́тывылі.* **Укратываціца** *незак.* Абкладацца, укладацца. *Буйных дроў нійдзе ні нысякеш, дык пычаў хворысьцім укря́тывыцца.* **Укратаць** *зак.* Абкласці, укласці. *Сьцены укря́тыў саломыю, тама хуць сам начуй, ніякій холыд ня пройміць.* **Укратацца** *зак.* Абкласціся, укласціся. *Што б так укря-*

*тыцца дрывáмі, калі ён іх пыпáліць!* **Укратаный** *дзеепрым. Бурты крепка укрятыны, саломы клалі — чуцьчуць рукою дыстаніш бульбу, зямлі многа нывалілі, ні прыбярець мароз.*

**Укропіна** *ж.* Каліва кропу. *Пыпавыірвыла ўсё, на ўвесь гарод адна укропіна астáлыся. Памянш.* **укропінка**. *Ніхай укропінкі сідзяць, іх і ў цубулю хырашо укрышыць, у гуркі, як соліш, укінуць нада абізацільна, ат укропу запых дужа харошый.*

**Укручыванне** *н.* 1. Абгортванне. *Ат твайго укрýчывыньня дзіцёнык скарей зыбалеіць, спáріцца, рыспацеіць, а яго холыдым апхвáтыіць.* 2. Тое, што наматалася. *Абарьві з восі усё укрýчывыньня, яно толька катку мішаіць.*

**Укручываннік** *м.* Той, хто ўкручвае. *Зь яго ніплахей укрýчывыньнік, расколіць ручку, тады будзіш другую дзелыць.* **Укручыванніца** *ж. Разьбіла мыя укрýчывыньніца лáнпычку, а другея німа, сядзі цяперя ўпацёмкых.*

**Укрываннік, укрывальнік, укрывальшчык** *м.* Той, хто накрывае. *Прібеглі укрывáньнікі мокрыя па вушы, накрыць кучы пасьпелі, а самі ні дабеглі, пупалі пад дождж. Укрывáльнікі зьмякнуць ду рубцá, ім нейдзі будзіць схувацца. Ідуць укрывáльшчыкі, зь іх цякець і плувець: пыц самый дождж пупалі.* **Укрыванніца, укрывальніца, укрывальшчыца** *ж. Укрывáньніцым ні страшна, яны пыт павецьцю схуваюцца. Ці ладна ж зьдзелыюць тэя укрывáльніцы, каб мароз у іхныя укрывáньня ні прыбраўся. Пашлі к каму-небудзь укрывáльшчыцы ды сідзяць, гамонюць.*

**Укрышаный** *дзеепрым.* Накрышаны. *С укрышыную кілбасою жыдкыя бульба дужа смашна. Есьлі у пыджжáріныя сала укрышына цубуля, во тады бульба будзіць хуць заесься.*

**Укухтыванне** *н.* Празмернае ухутванне. *Не, я сыма укýхтывыньня ні люблю і дзяцей ня кýхтыю, ніхай ні пріўчáюцца пáріцца.*

**Укухтываннік** *м.* Той, хто ўхутвае, хутае. *Ты як стáрыя баба укýхтывыньнік, ніхай луччы сьвежый веціp лі дзіцёнка праходзіць, яму здыравей будзіць.* **Укухтыванніца** *ж. Ськінь ты зь яго пылавіну тріп'я, укýхтывыньніца, сяньня ні халодна.*

**Укухтаць** *зак.* Ухутаць. *Як укýхтыіць мáлыга, ён як куль, пывярнуцца ня можыць, а зываліцца і ні ўстаніць.* **Укухтацца** *зак.* Ухутацца. *А ты яшчэ большы ня мог*

*укýхтыцца? Укýхтыліся ніізьвесна як, ці ета ўжо ад гордысьці ці адж жáднысьці, я ні знаю.* **Укухтаный** *дзеепрым. Канешня ж, ныдзіваццa нада цёпла, ну калі ціряшчур укýхтыный, тады дренна.*

**Укучы** *прысл.* Разам, сумесна. *А мы ж сколька ўремя жылі укýчы, усяго хвытала. Іна была дужа пыклáдлівыя, дык мы нічога і ўкýчы жылі.*

**Улагодніванне** *н.* Улагоджванне. *Нешта ні пыддаецца Купряёнык ны ўлагоднівыньня, а яны ўжо ні знаюць, як піряд ім стаць.*

**Улагодніваць** *незак.* Улагоджваць. *Раншы яны ня думылі, што Прыкапёнык у нычальства выйдзіць, а цяперя узяліся улагоднівыць.* **Улагодніваццa** *незак.* Улагоджваццa. *Пычаў трошку і Купчанок улагоднівыцца, а раншы ж поцступу ні було.* **Улагодніць** *зак.* Улагодзіць. *Гысьціняты як-то улагоднілі суседа, ён дужа доўга на іх крівіўся.* **Улагодніцца** *зак.* Улагодзіцца. *Ну можа ж і я даждуся, што ты улагоднісься. Пастой, і етыя улагодніюцца, пройдзіць злосьць, як пы чаркі захочуць.* **Улагодненый** *дзеепрым. Кума твыя сядзела сяньня ны свадзьбі улагодніныя, усё ўремя нешта рысказывыла Аўсяёўні.*

**Уладзецелька** *ж.* Валадарная жанчына. *Сірьгяёўна ні абы-ікая уладзецілька, ета вам ня кыш варона. Уладзецількыю табе дужа ныравіцца быць, толька пыччыняцца табе нешта ніхто ня хочыць.*

**Улажыць** *зак. перан.* 1. Канчаткова стаміць, пазбавіць здароўя. *Уложыць цябе тыкая работа, чаго табе ірваццa на дзьве сям'і, разьві у іх некыму зьдзелыць.* 2. З'есці. *Ты яму два хунты сала дай, і ён зы раз уложыць, во жрець дык жрець.* 3 *звыч. жарт.* Забіць. *Калі ж ты зьбіраісься свайго дзевіря улажыць? Ты знаіш, цябе зы такоя дзела нада було на месьці улажыць.* **Уложаный** *дзеепрым.* Забіты. *А я думыў, ты ўжо уложыный вылáісься, сват зьбіраўся цябе устрічаць.*

**Улаз** *м.* 1. Лаз. *Пат крышыю було хырашо абаткнýта, а каты выбілі ну вуглу, зьдзелылі сабе улáз.* 2 *перан.* Чалавек, які ўмешваецца не ў сваё справы. *Такім улáзым быць ні саўсім красіва.*

**Улаза** *м.* і *ж.* Асоба, якая ўмешваецца не ў сваё справы. *Ты пряма ні прістáвіш сабе, якей ён улáза. Ну ніхай сабе ўлáза, а толька нашто ёй у чужоя дзела умешывыцца.*

**Улазіць, улязаць** *незак. перан.* Усяляцца (у новую хату). *Нам ой як трудна було улáзіць у новыю хату,*

*помышчы ніаткуля ніякія, а ўсё ўсюдых і купі, і кажныму зыплаці. Чаго ж я ні знаю, як улізáць у хату, чатырі разы строіліся.* **Улезць** *зак.* Усяліцца (у новую хату). *Як у ету хату мы ўлезьлі, я сыма сабе гыварю: худзь ба ж ні дай бог яшчэ раз строіцца.*

**Улазішча** 1 *н.* Лаз. *Ну што я, ваўчыныя улáзішча троху зыглымыздáла, пыплáкыла, а авец нызад ня верніш.* 2 *м. перан. Павеліч.* ад улаз 2. *Такей улáзішча, куды ні нада, усюдых уваткнецца.*

**Уламывацца** *незак. перан. іран.* Пагаджацца. *Кажыцца, Ільля трошку пычаў улáмывыцца, можа й сыгласіцца.* **Уламацца** *зак.* Пагадзіцца. *Ні знаю, ці ўлумáіцца Варычкін зяць паможч табе троху. Ета нада ні абыякей патход, каб ён улумáўся.*

**Уласціцелька** *ж. іран.* Валадарная жанчына. *Відзілі мы такіх уласьціцілік і ні адну. Ёй тожа ціряшчур хочыцца уласьціцількыю пабыць.*

**Улаташыць** *зак.* Абтрэсці поўнасцю, абабраць (яблыню, грушу). *Яны пацэлюцца і ўлытышáць ету яблынку, ні яблычка ні астáніцца, луччы січас абарьві.*

**Улацнаць** *зак.* Падлаўчыцца. *Табе нада улыцнáць аднаго яго устрецiць ды пыгывариць. Улыцнáй, каб пупасьць туды к канцу дня, каб ні сядзець доўга.*

**Улашчаніванне** *н.* Моцнае зашмальцоўванне. *Мой акураціст біз улышчáнівыньня пряма ня можыць, усігда вы́дзілыіць адзёжу, іна блішчы́ць у яго.*

**Улашчаніваць** *незак.* Моцна зашмальцоўваць. *Некуды ўжо табе етый пінжачэнка большы улышчáнівыць, ты й так хырашо блішчы́ш.* **Улашчанівацца** *незак.* Моцна зашмальцоўвацца. *Ны табе усё улышчáнівыіцца як ны трыктарісьці.* **Улашчаніць** *зак.* Моцна зашмальцаваць. *Ны нізґрáйніка што ні надзень, усё улышчáніць.* **Улашчаніцца** *зак.* Моцна зашмальцавацца. *Нябось ты, у харошыя хызяйкі перід так ні ўлышчáніцца, як у цябе.* **Улашчаненый** *дзеепрым. Такую улышчáнiнью кýртычку дайжа к скату ні надзеніш.*

**Улашчыць** *зак.* Улагодзіць. *Як жа ты улáшчыў Гырасоўну, іна ня дужа атходлівыя, як надмецца, к ёй ніякыга прíступу німа.* **Улашчыцца** *зак.* Улагодзіцца. *Пыдажджы́, Андрюшчыха улáшчыцца, іна табе пра ўсё рыскажыць.* **Улашчаный** *дзеепрым. Канешня ж, аць Цімашонка ён пойдзіць улáшчыный, тэй угасьціць умеіць, а етый выпіць ня промых.*

**Улежываць** *незак.* Даводзіць да ўлежанасці (пра яб-

лыкі, грушы). *Я пыклаў яблык улежывыць, дык ці мальцы дадуць пыліжáць: палез учора — вазьмі трясцу, ні яблыка німа.* **Улежаць, уляжаць** *зак.* Давесці да ўлежанасці (пра яблыкі, грушы). *Каб етыя яблыкі улежыў, яны былі б хырашы́. Такея ігрушы нада уліжáць, інáчы іх есьць нілізя.* **Улежаный, уляжаный** *дзеепрым. Улежыныя ігрýшкі будуць смáшны, а січас іх ня ўгрызьць. Уліжáныя яблыка харошыя, дужа смáшныя.*

**Улетаваць** *зак.* Застацца на летні час. *Ныкасілі, ныкрáтылі сена, што улетывыла, а яго ж ба вясною можна було прыдáць, капейчыну вы́ручыць.* **Улетаваный** *дзеепрым. Улетывыныя салома толька у гной пойдзіць, большы іна ні на што ня годна.*

**Улечываць** *незак.* Саграваць, рабіць летняй (ваду). *Як ты улечывыла, што выда як с калодзіжа вы́цігнутыя.* **Улечывацца** *незак.* Саграваццa, рабіцца летняй (пра ваду). *Я пыставіў ваду на сонца улечывыцца.* **Улеціць** *зак.* Сагрэць, зрабіць летняй (ваду). *Ні нагрела, а так, трошку улеціла, ну ладна ўжо, некылі грець.* **Улеціцца** *зак.* Сагрэцца, зрабіцца летняй (пра ваду). *Дай жа вадзе хуць улеціцца, ніхай чугунок дýхым апхвáціцца.* **Улечаный** *дзеепрым. Калі чуць улечыныя і цягні, мне гырячыя выда ні нада.*

**Улёпыванне, улёпкыванне** *н.* Заляпванне, запэцкванне. *Ты пряма ня можыш біз улёпывыньня абыйціцца. Дужа я ні люблю твайго улёпкывыньня, усігда ж можна акуратней зьдзелыць.*

**Улёпываць, улёпкываць** *незак.* Заляпваць, запэцкваць. *Выбірáйця, айдзе сушэй прайціць, каб штаны ня ўлёпывыць. З гря́зі нешта лепюць твае мáлыя, куртычкі улёпкывыюць.* **Улёпывацца, улёпкывацца** *незак.* Заляпвацца, запэцквацца. *Ён такей, што будзіць улёпывыцца, і пы яго выходзіць, што так і нада. Я ўжо сыма глядзела, каб меншы улёпкывыцца.* **Улёпаць, улёпкаць** *зак.* Заляпаць, запэцкаць. *І сыпагі ды самыга верьху улёпыў, і дайжа штаны ны каленіх зыхваціў. Крепка свае чобыты улёпкыў, цяперя шчышчáць нада.* **Улёпацца, улёпкацца** *зак.* Заляпацца, запэцкацца. *Во ўлёпыўся, дык улёпыўся, каб і хацеў, луччы ні прідумыіш. Відзіш, якей зь яго пекырь: улёпкыўся у цеста па вушы.* **Улёпаный, улёпканый** *дзеепрым. Усё улёпыныя кідай зы дзьвірямі, нада апчышчáць і зумувáць. Пріішлі улёпкыныя па поіс, у грязішчы стыялі пуўдня́, адбівалі капец.*

**Улітовывацца** *незак.* Моцна злежвацца. *Соль улітo-*

*вывыіцца, што ні ўзаб'еш.* **Улітавацца** *зак.* Моцна зляжацца. *Сколька ета мука твыя стаіць, іна ўжо ўлітувáлыся. Сьнег як улітýіцца, ета ўжо ня сьнег, а лёд, узьбіваць нада.* **Улітаваный** *дзеепрым. Сала ў кублі улітувáныя, нада пыткавы́рівыць.*

**Улішчыванне** *н.* Даванне ў масць (пры гульні ў карты). *Ні пымагло вам і ўліішчывыньня, усё дно усіх дуракоў пынісіцё двору.*

**Улішчываць** *незак.* Даваць у масць (пры гульні ў карты). *Як ета выходзіць, што я табе уліішчывыю? — табе неік вязець.* **Уліішчывацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* уліішчываць. *Я ж і ні хацеў, а яно уліішчывыіцца.* **Улісціць** *зак.* Даць у масць (пры гульні ў карты). *Ты мне абізацільна улісьціш, і я атаб'юся. Эх ты, пыць сямёрку улісьціў!* **Улісціцца** *зак. Зал.-бессуб'ект. да* ўлісціць. *Во як лоўка ў цябе улісьцілыся!* **Уліішчаный** *дзеепрым. Карці места! — зыкрічаў, схваціў уліішчыную карту і аткінуў.* **Улісцёмшы** *дзеепрысл. Нечыга áйкыць улісьцёмшы, мог ба даць, якея ён мáсьці ні любіў.*

**Улубець, улубецца, улубянець, улубянецца** *зак.* Злубянець. *Пулушýбычык улубеў, чуць ні зьвініць. Нада ж так улубецца твайму плашчý,— во што значыць ні бярежч адзежыну. Ты ўжо улубянеў нямытый, сяньня ж тапі баню. Улубянеюцца боты і патрескыюць, грáзнымі кідаць нілізя.* **Улубелый, улубеўшый, улубянелый, улубянеўшый** *дзеепрым. Пріхадзіў іхный сват нідаўна — шубёнка нейкыя улубелыя і боты разьбітыя, а яны ўсё хваліліся, што быгач. Улубеўшыя бацінкі выля́юцца пыд ґанкымі, прібраць ні субы́чыцца. Шапка улубянелыя, іна ня дужа і паходжа ны шапку. Ні знаю, калі мне твае улубянеўшыя рубашкі аціцірáць.*

**Улубяніванне** *н.* Ссыханне, высыханне да зацвярдзення. *Як ні рызглідáй, а ўлубя́нівыньня ныза́д ні адзьдзелыіш.*

**Улубяніваць** *незак.* 1. Рабіць злубянелым. *У дождж і ў мароз нашто новый пулушубык улубя́нівыць.* 2. Рабіцца злубянелым. *Скора ж твыя шýбычка стала улубя́нівыць.* **Улубянівацца** *незак.* Рабіцца злубянелым. *Пулушýбычык пычаў улубя́нівыцца, скора ты яго датрепліш.* **Улубяніць** *зак.* 1. Зрабіць злубянелым. *Улубя́ніў ты свае бацінкі, што яны і ны бацінкі ні пахожы.* 2. Зрабіцца злубянелым. *Ета ж нада, етык кылы гря́зі ірьмяк улубя́ніў!* **Улубяніцца** *зак.* Зрабіцца злубянелым. *Ны табе ужо кожа улубя́нілыся як ну хумуце.* **Улубяненый, улубянеў-**

**шый** *дзеепрым. Такей улубя́ніный кужушок ні надзеніш. Нейкія пінжачкі улубя́ніўшыя выляюцца, імі, знаць, бульбу ныкрывалі.*

**Улупіць, улупасіць, улупечыць** *зак.* Моцна ўдарыць са злосцю. *Ці ён будзіць стыяць, ждаць, пакуля ты яму улу́піш, крутнецца і пабег. Зы такоя ба́лыўства нада було даўно улупа́сіць,— што йта зь яго творіцца, ніўдзе места сабе ні находзіць. Січас пыдбягіць Якыў, ён табе як улупечыць, ты і саўесься.* **Улупленый, улупашаный, улупечаный** *дзеепрым. За што ня ўлу́пліна, дык яму за ўсё стоіць. Што, ладна улупа́шына, можа меншы будзіць паверьх хаты хадзіць. Ім абоім крепка улупечына, надоўга ігру́шыны запомнюць.*

**Улухціць** *зак. неадабр.* Упэўніць у няпраўдзе. *Хто яму улухціў, што Ганьніна дычка замуж выходзіць? Што-небудзь улухця́ць, і ён усяму веріць.*

**Улюбчыватасць** *ж.* Улюблівасць. *Я ім дам улю́бчывытысьць, як мятлу вазьму,— іш ты іх, узялі моду у поўныч пріхадзіць.*

**Улюбчыватый** *прым.* Улюблівы. *Меншый зь іх быў дужа улю́бчывытый. Можа улю́бчывытый, а можа распу́ста.*

**Улядзяніваць, улядзяніваццa** *незак.* Змярзацца, пакрывацца льдом, абледзяняцца. *Як зімля улідзя́нівыіць, для жыта дужа дренна. Прібярі хвырасток пат крышу, ніхай ні улідзя́нівыіцца.* **Улядзяніць, уледзяніць** *зак.* Пакрыць ільдом, абледзяніць. *Дождж прайшоў з марозым, улідзяніў дарогу, што ні ступіць. Мы, бывала, відрамі наносім вады, с са́жылкі, улідзяні́м каўзель і ны мырзя́нкых езьдзіім.* **Уледзянець, уледзянецца, улядзяніцца, уледзяніцца** *зак.* Змерзнуцца, пакрыцца льдом, абледзянецца. *Салома зыцікла́ пыт кыпля́мі, улідзянела, хуць ломым узьбівай, вілкымі нізашто ні ўзарьвеш. Дровы зьнізу улідзянеліся, абу́хым патроху узьбіва́ю. Посьлі воцьціпілі часта буваіць, што ўсё улідзяні́цца, ехыць нілізя. Дарога улідзянілыся, коўзка, дужа трудна ехыць.* **Уледзянелый, уледзянеўшый, улядзяненый** *дзеепрым. Залетыся, кажыцца, дужа дренныя восінь была, мы улідзянелый лён пыднімалі сланый. Дождж ішоў і зымірзаў, дык пріехыў мой двору — на ім ірьмяк улідзянеўшый. Улідзя́ніныю сьцежку нада тыпаром насеч ці хуць лупа́ткыю, ато ж па ёй ня сту́піш, ногі едуць.*

**Улякнуць** *зак.* Спалохаць. *Ты дзіцёнка улякнеш, што ты тваріш!* **Улякнуцца** *зак.* Спалохацца. *Прайдзі ты з*

*ма́лым, ато сыбака забрешыць і ён можыць улякну́цца.* **Улякнутый** *дзеепрым. Ета дзяўчонка улякну́тыя, відзіш, як іна уздры́гывыіцца.*

**Уляплівацца** *незак.* 1. Забруджвацца, аблеплівацца. *Глядзі зы ма́лымі: узноў палезуць у грязь уля́плівыцца.* 2 *перан.* Чапляцца. *Ён уля́плівыіцца за жордычку, што ні атарьвеш.*

**Уляпыванне** *н.* Аблепліванне. *Ну хто ж залю́біць такоя уля́пывыньня, сымаму нада апчышча́цца.*

**Уляпываць** *незак.* 1. Аблепліваць. *Чы́сьцінькій пінжачок уля́пывыіць у грязь.* 2 *перан.* Умешваць, падводзіць. *Што ж ты ні знаўшы, ня ведыўшы уля́пывыіш чылавека.* **Уляпывацца** *незак.* 1. Аблеплівацца. *Лі гліны канешня будзіш уля́пывыцца, як акуратна ня дзелый.* 2 *перан.* Пападаць, улязаць. *Хто цябе цягнуў уля́пывыцца ў такую кашу, судом ішчэ будуць рызьбірацца.* **Уляпаць** *зак.* 1. Абляпіць. *Ту́хількі былі красівінькія, дык уля́пыў у грязь большы некуды.* 2. Умяшаць, падвесці. *Яго сьпіцыя́льна уля́пылі, каб атамсьціць Аўсяёнку.* **Уляпацца** *зак.* 1. Абляпіцца. *Уля́пыўся пы калені і паўзець у хату,— ны дваре аччышча́йся!* 2. Папасці, улезці. *Нашто ім былі тэя асінкі, уляпыліся па вушы, а людзя́м сьмеху надзелылі.* **Уляпаный** *дзеепрым.* 1. Аблеплены. *Ходзіць уля́пыный кругом, як яму тольқа ня сты́дна.* 2. Умяшаны. *Як яму цяперя выбіра́цца, на ўсю жысьць астанецца уля́пыный.*

**Улятаць** *незак. перан.* Трапляць (у непрыемныя абставіны). *Ці раз ты уліта́ла у ніпрія́тнысьці іс сваім любапы́цтвым.* **Уляцець** *зак.* Трапіць (у непрыемныя абставіны). *Чэпік у іхныю вултузьню́ уляцеў і сам ні рад быў.*

**Умадзець** *зак.* Пераҗыць, выжыць, застацца цэлым, *Цяперя дайжа ня веріцца, як я тады умадзела, кажный дзень страху було ніізьвесна скольқа.* **Умадзелый** *дзеепрым. Тольқа што умадзелыя, жызьня яе саўсім ніва́жныя.*

**Умазголіванне** *н.* Запэцкванне, вымазванне. *Што ўжо ні ныра́віцца мне такоя умазґолівыньня, цярьпець ні магу!*

**Умазголіваць** *незак.* Запэцкваць, вымазваць. *Ні ўмазґолівый лі посыду чыстыя кохты.* **Умазголівацца** *незак.* Запэцквацца, вымазвацца. *Кыла печы усё умазґолівыіцца, як ты акуратна ня дзелый.* **Умазголіць** *зак.* Запэцкаць, вымазаць. *А большы ты ні пацэліўся умазґоліць новыя штонікі?* **Умазголіцца** *зак.* Запэцкацца, вымазацца.

*Нада ж яму так умазѓоліцца, увесь чыста зымáрыный.* **Умазголеный** *дзеепрым. Умазголіный ходзіць, і яму нісколька ня стыдна.*

**Умазыванне** *н. перан.* Уладкоўванне шляхам пачастункаў, хабару і інш. *Тоя ўремя і ўмáзывыньня пымыгáла.*

**Умазываць** *незак. перан.* 1. Уладкоўваць шляхам пачастункаў, хабару і інш. *Яго туды Міхяёнык умазывыў, сам ба ён ні сыбразіў пралезьць.* 2. Даваць у масць пры гульні ў карты. *Ці помніш, як сядзім гуляць, а ты ўсігда умáзывыў?* **Умазывацца** *незак.* Уладкоўвацца шляхам пачастункаў, хабару і інш. *Некуды умáзывыіцца Трыхімёнычык, толька ні гаворюць куды, дзіржаць у сікреці.* **Умазаць** *зак.* 1. Уладкаваць шляхам пачастункаў, хабару і інш. *Яны былі лоўка свайго брата умáзылі, а посьлі ў іх усё сырвáлыся.* 2. Даць у масць пры гульні ў карты. *Ты мне абізацільна умáжыш, сколька ня думый, хадзі скарей.* **Умазацца** *зак.* Уладкавацца шляхам пачастункаў, хабару і інш. *Скажы-ка ты мне, як ён туды умáзыўся, відна, крепкыя рука была.* **Умазаный** *дзеепрым.* Уладкаваны. *Умáзыный трошку пыдзяржыцца, толька ён многа нідыпынімáіць.*

**Умакыванне** *н. перан.* Абвінавачванне, уцягванне. *Мы тожа знаім Высілёва умáкывыньня, ён што хочыш можыць нарошня тріпанýць.*

**Умакываннік** *м.* Той, хто абвінавачвае, умешвае. *Ого, якей ён быў умáкывыньнік, калі патторніць каго, тады даволін.* **Умакываннiца** *ж. Я б ету умáкывыньніцу ні так аччытáў.*

**Умакываць** *незак. перан.* Рабіць вінаватым або датычным да ганебнай справы. *Што ў яго зы прівычка тыкая: нівінувáтыга чылавека умáкывыць.* **Умакнуць** *зак.* Зрабіць вінаватым або датычным да ганебнай справы. *Нарошня умакнýлі: мы атвічаім, ніхай і ён будзіць з намі.*

**Умалачываць** *незак. перан.* Хутка з'ядаць. *Пу пуўбухáнкі хлеба умылáчывыюць зы раз етыя нібальшэнькія.* **Умалаціць** *зак.* Хутка з'есці. *Пу хунтý умылацілі, тады чуць ні пы гырлачý мылыка сь пірагом зьелі, чаму ня быць здаровым.* **Умалочаный** *дзеепрым. Пакуля мы прішлі, усё було умалочына пыччыстýю.*

**Умаленіе, умаленне** *н.* Недахоп. *У нас умаленія хлеба, ні хвáціць ны зáўтріга, нада рышчынáць. Саўсім ума-*

*леньня сала, худзь ба як-як дыцягнуць ды хыладнейшыга ўремя.*

**Умалёвываць** *незак.* Дамалёўваць, дадаваць да малюнка. *Што яны тута умалёвывыюць?* **Умаляваць** *зак.* Дамаляваць, дадаць да малюнка. *Тута ўжо нейта було, а тады ма́лый умулюва́ў сюды кыня ці сыбаку нейкыга.* **Умаляваный** *дзеепрым. Там і так ужо многа умулюва́на.*

**Умаліванне** *н.* Змяншэнне гадоў, узросту. *Зроду я ні любіла ума́лівыньня, ну нашто йта мне гады скрыва́ць, сколька ёсьць, столька й ладна, ета мае гады.*

**Умаліваццa** *незак.* Лічыць сябе малым. *Ён усё ума́лівыўся, пакуля прішла павестка у армію іціць.* **Умаліць** *зак.* Зменшыць гады. *Ета яе матка так ума́ліла, усё ні-даросткым шчыта́ла.* **Умаліцца** *зак.* Палічыць сябе малым. *Гады неік паскру́чывылі, ума́ліліся.* **Умаленый** *дзеепрым. Ці яму праўда ішчэ столька гадоў, ці ён ума́ліный?*

**Уманіванне** *н.* Заманьванне ў памяшканне. *Ня дужа яны слу́хыюць ума́нівыньня, ты пыкажы ім та́зік ці кыцялок, зразу ныліцяць.*

**Уманіваць** *незак.* Заманьваць у памяшканне. *Як рыскрі́чыцца ў пуні, як распы́рькыіцца — ета іна так курей ума́нівыіць.* **Уманіваццa** *незак.* Заманьвацца ў памяшканне. *Ня хочуць ціпляты ума́нівыцца, знаюць, што пыдмыня́іш, нічога ні дасі.* **Уманіць** *зак.* Заманіць у памяшканне. *Каб сюда сыбачку умані́ць!* **Уманіцца** *зак.* Заманіцца ў памяшканне. *Чуць-чуць куры уманіліся ў пуню.* **Умонены** *дзеепрым. Умоніных ціплят паловіш, а пы двару як ты за імі будзіш гыняцца.*

**Умардаваць** *зак.* Затузаць, замучыць. *Дарога плыхая, бярьвеньня цяжолыя, дужа коні умурдува́лі, ім каб судык двоя аддыхнуць.* **Умардаваный** *дзеепрым. Чаго ж ня будзіць конь умурдува́ный, калі дарогі саўсім німа.*

**Умарзёкыванне, умарзёпыванне, умарзёпкыванне** *н.* 1. Замазванне, вымазванне. *Ну хто ж ба ета зулюбіў такоя умарзёкывыньня. Ды чаго ж ныдаела тваё умарзёпывыньня. Глядзець нілізя на ета умарзёпкывыньня, ты ні днаго разу чыстый ні пріхадзіў.* 2. Замазаныя, вымазаныя рэчы. *Тама, тама кідай умарзёкывыньня, сюда мне нічога ні нясі, тут чыста. Ты мне толька ня су́нься сюда с умарзёпывыньнім сваім. Ныसклыда́ла кучу умарзёпкывыньня, пірімуваць пры́дзіцца.*

**Умарзёкываць, умарзёпываць, умарзёпкываць** *незак.* Замазваць, вымазваць, заквэцваць. *Айт, табе што ні дай надзець, усё ты умарзёкывыіш. Ні ўмарзёпывый пінжа-*

*чок, пыглядзі, якея стоўбікі грязныя, а ты тресься. Аччысьці ўсё ґ боку, будуць хадзіць і мост умарзёпкывыць.* **Умарзёкывацца, умарзёпывацца, умарзёпкывацца** *незак.* Замазвацца, вымазвацца, заквэцвацца. *Табе, знаць, нырáвіцца умарзёкывыцца тута. Чаго ты палезіш умарзёпывыцца, тама пывярнуцца нейдзі. Ганна таўчэцца, і дзеці зь ёю тожа умарзёпкывыюцца.* **Умарзёкаць, умарзёпаць, умарзёпкаць** *зак.* Замазаць, вымазаць, заквэцаць. *Боты умарзёкыў чуць ні ды кален і йдзець у хату. Ня лезь к дзёхцю, рукі умарзёпыіш, што ні атмыіш. Так умарзёпкыць рубáшычку нада ўмець.* **Умарзёкацца, умарзёпацца, умарзёпкацца** *зак.* Замазацца, вымазацца, заквэцацца. *Толька пірядзела мáлых, а яны ўзноў умарзёкыліся. Ніряха усігда найдзіць места умарзёпыцца. Умарзёпкылыся па вушы, пакуля пыбяліла.* **Умарзёканый, умарзёпаный, умарзёпканый** *дзеепрым. Умарзёкыныя боты ні нясі сюда, ідзі ў аборык абмыій. Усё умарзёпыныя кідáй лі загнету, я буду шчолык дзелыць і ўтаплю. Зьнімай рубашку, умарзёпкыный перід замыць нада.*

**Умасоліванне** *н.* Забруджванне, зашмальцоўванне. *Ну каму ж умасолівыньня будзіць пріятна, ні пуцступíцца, ні ўзяцца за вешч.*

**Умасоліваць** *незак.* Забруджваць, зашмальцоўваць. *Із-зы нікурáства умасолівыіць рукаўкі, прівучаць нада к пырядку.* **Умасолівацца** *незак.* Забруджвацца, зашмальцоўвацца. *Каб акуратней дзелыў, так ба адзёжына ні ўмасолівылыся.* **Умасоліць** *зак.* Забрудзіць, зашмальцаваць. *Во дыработыўся: дайжа шапку умасоліў, уся у нечым жырным.* **Умасоліцца** *зак.* Забрудзіцца, зашмальцавацца. *Полы умасоліліся, хуць у шчолык етый пінжак кладзі.* **Умасоленый** *дзеепрым. Ты гатоў і ў умасоліным пайціць на ксьціны, табе ня стыдна.*

**Умасцярыць** *зак.* Зрабіць адмыслова, па-майстэрску. *Такея тубуретычкі умысьцяріў, што адгледзіцца.* **Умасцяроный** *дзеепрым. Умысьцярёныя ж крываці, дайжа нейкія узоры пывырезывыны.* **Умасцяромшы** *дзеепрысл. Умысцярёмшы такея харомы, і пугуляць можна.*

**Умататорыванне** *н.* Вымотванне, давядзенне сябе да крайняй стомленасці, знямогі. *Такоя умытаторівыньня дáрым ні праходзіць, яно посьлі атрыгáіцца ны чылавеку.*

**Умататорываць** *незак.* Стамляць да крайнасці, знямогі, вымотваць. *Ты знаіш, пызьбá умытаторівыіць, кажный дзень пастой-ка і пастой у любую пагоду.* **Умататорывацца** *незак.* Стамляцца да крайнасці, знямогі. *Я ні-*

*зашто ні пашоў ба так умытаторівыцца, згарі яны і грошы, троху заробіў і ладна.* **Умататорыць** *зак.* Стаміць да крайнасці, знямогі, выматаць. *Пойдзіш зь імі, яны цябе умытаторюць, яны як зьвяры работыюць.* **Умататорыцца** *зак.* Стаміцца да крайнасці, знямогі, выматацца. *Не, яму ня воддых быў, ён умытаторіўся, гыварыў, большы, як ны рабоці.* **Умататораный** *дзеепрым. Ці ён усігда такей зумухрышка, ці ета сяньня такей умытаторіный?*

**Уматнуць, уматнуцца** *зак. перан.* Знікнуць. *Міхяёнык тую ж мінуту уматнуў, як скызалі, што едуць вашы хлопцы. Пыглядзіш, што ён уматнець, ні станіць дыжыдаць нікога. Уматнуліся, што дайжа ніхто ні замеціў.*

**Уматыванне** *н. перан.* Ублытванне ў непрыемныя справы. *Ён і посьлі уматывыньня як выранёнык ходзіць.*

**Уматываць** *незак. перан.* Умешваць, ублытваць у непрыемныя справы. *Яны ўматывыюць хлыпца, а ты глядзіш і слова ні скажыш.* **Уматывацца** *незак.* Умешвацца, ублытвацца ў непрыемныя справы. *Як станіць уматывыцца, тады позна будзіць дукуваць, січас дукуй.* **Уматаць** *зак.* Умяшаць, ублытаць у непрыемныя справы. *Найдуцца махырі, каго хочыш умытаюць, самыга строгыга.* **Уматацца** *зак.* Умяшацца, ублытацца ў непрыемныя справы. *Як умытаўся, тады стаў айкыць, а айдзе ж ты да етыга быў, што думыў.* **Уматаный** *дзеепрым. Трудна выпутывыцца умытаныму, зразу нада глядзець, каб у цянёты ні пупыдацца.*

**Умахыванне** *н.* Укідванне шляхам шпурляння. *Ты на іх пысварыся зы ўмахывыньня, поўныю сажылку лумачча накідылі.*

**Умахыванні**к *н.* Той, хто кідае, шпурляе, укідвае. *Етыя умахывыньнікі чаго хочыш сюда ныўмахывыюць.* **Умахыванніца** *ж. Ай, сь цябе ўжо і ўмахывыньніца, палкі ні пірякініш.*

**Умачываць** *незак.* Намочваць, замочваць. *Пыткысай рукаўкі, каб ні ўмачывыць, а тады піляшчыся.* **Умачывацца** *незак.* Намочвацца, замочвацца. *Ні нада умачывыцца, халодна будзіць.* **Умачыць** *зак.* Намачыць, замачыць. *Патрескыныя рукі як умочыш, быляць, быляць.* **Умачыцца** *зак.* Намачыцца, замачыцца. *Пяньку цігалі, умачыліся, ыпрастуджывыліся.* **Умочаный** *дзеепрым. Прішоў ужо цямнела, увесь умочыный, штонікі пы калені мокрыя,— рыбу лавілі у сажылкі.* **Умачомшы** *дзеепрысл. Учора умачомшы прібеглі і сяньня такея самыя.*

**Умеласць** *ж.* Умельства. *Каб табе тыкая умелысьць,*

*як у Высілёнка! Ні було ў яго ніякія умелысьці, ніхай ні вярзець пустаты́.*

**Умесна** *прысл.* Сумесна. *Умесна хызя́йнічыць було тру́дна, кажный сабе глядзеў. Думылі умесна строіць хату, а тады піряду́мылі.*

**Умесный** *прым.* Сумесны. *Нам прішлося весьць умесныя хызяйства, усяк було. У іх умесныя хата, відна, прыдаду́ць.*

**Умеюшчый** *прым.* Умелы *Каб умеюшчый чылавек, дык тут ба ны два часы работы, а такей халодный ма́сьцір будзіць двоя судык кыпацца.*

**Умітусь** *прысл.* Беспарадкава, у розных напрамках. *Разьбегліся умі́тусь, ні знаіш, каторыга хвыта́ць. Трошку ныхрістáла нітык умі́тусь,— нызываіцца, зашыла.*

**Умудранне, умудрыванне** *н.* Мудрагелістае прыстасоўванне. *Нешта нічога ні пулучаіцца зь яго умудря́ньня. Ныу́ряд, ці паможыць тута якоя-небудзь уму́дрівыньня.*

**Умудраць, умудрываць** *незак.* Рабіць мудрагеліста. *Стыхван узяўся нешта умудря́ць, можа, што-небудзь і палучыцца. Што ён будзіць уму́дрівыць, ста́уця козлы пысярёд балькі і у́сё.* **Умудрывацца** *незак.* Прыстасоўвацца. *Вот неік жа ён уму́дрівыўся і біс тваіх саветыу́ апхадзіцца.* **Умудрыць** *зак.* Зрабіць мудрагеліста. *Ета Пятрок так умудріу́ тута лазіць. Як умудріць што-небудзь, задзівісься.*

**Умуздыванне** *н.* Закілзванне. *Возісься ты цэлый час зь естым уму́здывыньнім.*

**Умуздываць** *незак.* Закілзваць. *Ні даецца конь, каб яго уму́здывылі, гылаву зыдзярець, што аброць ні раш-шпіліш.* **Умуздаць** *зак.* Закілзаць. *Умузда́й крепка, ато етый конь можыць вы́кінуць гру́зьдзіла.* **Умузданый** *дзеепрым. Умузда́ный конь ні пынясець, а так можыць рыстріпа́ць.*

**Умуравець, умуравецца** *зак.* Задзірванець. *Як умураівеіць зімля, тады ціжалей пыхаць. У іх кругом умуравелыся, кругом зялёна.* **Умуравелый, умураве́ўшый** *дзеепрым. Дарожкі умуравелыя, чуць заметна, што дарожкі. Некыму вытáптывыць, дык і двор умураве́ўшый.*

**Умурзапоніванне** *н. экспр.* Замурзванне. *Худзь ба раз вы пад'елі біз умурзапонівыньня.*

**Умурзапоніваць** *незак. экспр.* Замурзваць. *Пыглядзі ты, як яны адзін аднаго умурзапонівыюць — кормюць тэй таго, тэй таго.* **Умурзапонівацца** *незак.* Замурзвацца. *Можа табе ўжо дос умурзапонівыцца?* **Умурзапоніць**

*зак.* Замурзаць. *Во ныкарміла, дык ныкарміла, умурзапоніла, што дайжа вачэй ня відна.* **Умурзапоніцца** *зак.* Замурзацца. *Ты ўмурзапоніўся як мáлінькій, дайжа й дзеці такея ні буваюць.* **Умурзапоненый** *дзеепрым. Пыдажджы, памыйся, куды ты еткій умурзапонiный пыбягіш.*

**Умурзачыванне** *н.* Замурзванне. *Зу ўмурзáчывыньня вы ў мяне палучыця, што йта такоя, каб я вас кажныю мінуту абмувáла.*

**Умурзачываць** *незак.* Замурзваць. *Ня столька корміць, сколька умурзáчывыіць ета кармленьніца.* **Умурзачывацца** *незак.* Замурзвацца. *Што ж ты хочыш ат мáлых, ядуць і ўмурзáчывыюцца.* **Умурзаціць** *зак.* Замурзаць. *Ці ета ты сам, ці хто цябе умурзáціў, што толька вочы блішчаць.* **Умурзаціцца** *зак.* Замурзацца. *Доўга мáлым умурзáціцца, што зьядуць, а што пы ліцу рызмáжуць.* **Умурзачаный** *дзеепрым. Прібеглі умурзáчыныя, усё роўна як яны сьвіньню ссалі.*

**Умуровываць** *незак. перан.* Прымушаць змоўкнуць. *Я ўмею іх умуровывыць.* **Умуровывацца** *незак.* Змаўкаць. *Цяперя яны умуровывыюцца і сідзяць як мышы пад венікым.* **Умураваць** *зак.* Прымусіць змоўкнуць. *Ніхай толька пікніць, я яго умурýю, што зырякецца гываріць. Прі Ісаіхі ён сядзеў усё дно як яго умурувáла, слова ні прыраніў.* **Умуравацца** *зак.* Змоўкнуць. *Тама дык вы дужа сьмелыя, а тута умурувáліся, рота ні рашчы́ніця.* **Умураваный** *дзеепрым. Нечыга ім гываріць, пашлі умурувáныя.*

**Умурыжыванне** *н. перан.* Лаянка, згрызоты. *Ганьнін сын знаіць, што такоя умуры́жывыньня, крепка пыспытаў салодкыга да сьлёз.*

**Умурыжываць** *незак. перан.* Стамляць лаянкай, згрызотамі. *Яны умуры́жывылі Зьмітрыка, ці раз ён ат іх плакыў.* **Умурыжывацца** *незак.* Стамляцца ад лаянкі, згрызот. *Нечыга туды йціць умуры́жывыцца.* **Умурыжыць** *зак.* Стаміць лаянкай, згрызотамі. *Ліванёнка ні ўмуры́жуць, ён умеіць даць здáчы.* **Умурыжыцца** *зак.* Стаміцца ад лаянкі, згрызот. *Ён ужо так умуры́жыўся зь імі, што большы ня можыць цярьпець.* **Умурыжаный** *дзеепрым. Як наслýхыіцца іхнія рязьбы́, як прідзіць раз-другей умуры́жыный, будзіць знаць, што йта зы сямейка.*

**Умусоліванне** *н.* Моцнае зашмальцоўванне. *Каму ж пынырáвіцца еткыя умусолівыньня, нада акуратнейшым быць.*

**Умусоліваць** *незак.* Моцна зашмальцоўваць. *Ікая ты нікура́тныя, умусолівыіш адзежыну і дайжа ні глядзіш.* **Умусолівыцца** *незак.* Моцна зашмальцоўвацца. *Ніхыраіцо так умусолівыцца, як ніря́ха ікая. Што ж я зьдзелыю, калі кохта кыла печы умусолівыіцца.* **Умусоліць** *зак.* Моцна зашмальцаваць. *Пакуля я хвацілыся, яны ўжо умусолілі пінжачкі.* **Умусоліцца** *зак.* Моцна зашмальцавацца. *Ці відзіш, як ты умусоліўся, хто зы табою глядзець должын? Хварту́к етый умусоліўся як тря́пка.* **Умусоленый** *дзеепрым. Скла́дывый усё умусоліныя адзьдзельна, я заўтря пірямы́ю.*

**Умушкарджыванне** *н.* Моцнае стамлянне, выбіванне з сіл. *Ні зна́ю, чаго ён церьпіць такоя умушка́рджывыньня, ста́рыя зыгыня́ла яго саўсім.*

**Умушкарджываць** *незак.* Моцна стамляць, выбіваць з сіл. *Такей жа быў кыналу́п, так ён коні умушка́рджывыў усякій раз!* **Умушкарджывацца** *незак.* Моцна стамляцца, выбівацца з сіл. *Ні хачу я зь ім стынавіцца, ета толька умушка́рджывыцца, ніхай адзін косіць.* **Умушкардзіць** *зак.* Моцна стаміць, выбіць з сіл. *Усё пыдгыняў і пыдгыняў, ні дываў мінуты пірядыхы, дужа нас умушка́рдзіў.* **Умушкардзіцца** *зак.* Моцна стаміцца, выбіцца з сіл. *С пастройкыю усігда умушка́рдзісься, строіцца дужа цяжола.* **Умушкарджаный** *дзеепрым. Коні умушка́рджыны, чуць толька ногі пірістыўля́юць.*

**Умушкарываць** *незак.* Моцна стамляць. *Хва́ціць табе плотнікыў умушка́рівыць, яны і так стыря́юцца.* **Умушкарывацца** *незак.* Моцна стамляцца. *Зы вясну коні умушка́рівыюцца, яны с хумутоў ні выходзюць.* **Умушкарыць** *зак.* Моцна стаміць. *Умушка́ріла ты свайго Міцю, ён стыря́іцца, што й стыря́цца большы некуды.* **Умушкарыцца** *зак.* Моцна стаміцца. *Ня столька ты умушка́ріўся, як гаворіш, тама работы ня дужа многа було.* **Умушкараный** *дзеепрым. Вазы бальшэя пріпёрлі, коні умушка́ріны, ніхай хуць дзень аддыхну́ць.*

**Умыкаць** *незак.* Умешваць. *Сколька разоў умыка́лі яны Трахіма, а ён усё ім веріць.* **Умыкнуць** *зак.* Умяшаць, уцягнуць. *Я ўжо ні знаю, ці яны думылі, што Шурік ім паможыць, ці на што яны білі, ну толька яны умыкну́лі яго зь нейкыю цэльлю.* **Умыкнутый** *дзеепрым. Ён быў да етыга умыкну́тый, разьві дырма цэлыю нядзелю бегыла туды Аўдотка.*

**Умэнчыванне** *н.* Затузванне, стамленне. *Як пыспы-*

*та́іш такога умэнчывыньня, тады будзіш знаць, а ні знаўшы гыварíць дужа лёхка.*

**Умэнчываць** *незак.* Затузваць, стамляць. *Хвацíць табе іх умэнчывыць, ніхай пысідзяць спакойна.* **Умэнчывацца** *незак.* Затузвацца, стамляцца. *Ні хачу я зь імі умэнчывыцца, ну іх.* **Умэнчыць** *зак.* Затузаць, стаміць. *Ты знаіш, як яны Мікіпыра умэнчылі,— кляў іх, гыварíў, дайжа ні хачу відзіць.* **Умэнчыцца** *зак.* Затузацца, стаміцца. *Рыска́зывыла, што як умэнчыцца за вечыр, дык рукі ні пыднясць.* **Умэнчаный** *дзеепрым.* *Кажный дзень умэнчыный, а ну яго, такоя зыняція.*

**Умягнуць** *зак.* Адчуць слабасць і прагу ад спёкі, смагі. *Умя́глі кыла пнёў, іх дужа, дужа цяжола кыпаць, б'есься, б'есься, нівісь сколька сілы пыкладзеш, пакуля вы́кыпыіш яго.*

**Умяжджуліваць** *незак. іран.* З'ядаць. *Як пыча́нуць умяжджу́лівыць, толька хлеб резыць пысьпіва́й.* **Умяжджуліць** *зак.* З'есці. *Яму сколька ні пыдай, усё умяжджу́ліць, во ўжо есьць дык есьць.* **Умяжджуліцца** *зак.* Змясціцца (пры ядзе). *У етыга усё умяжджу́ліцца, нічога ні астанецца.* **Умяжджуленый** *дзеепрым.* *Сколька пыста́віла, пыклала, думыла, пылавíна аста́ніцца, ажно прішла — усё умяжджу́ліна.*

**Умяканне** *н.* Намаканне. *Зурудзя́ніў рубашкі, што і ўміка́ньня ні пымыга́іць, ні цьціра́юцца.*

**Умякаць, умякацца** *незак.* Мякнуць, намякаць. *Мяшкі посьлі бульбы гря́зныя, я пыклала іх уміка́ць. Заўтря у мяне шчолык, плацьця уміка́іцца, буду мыць.* **Умякнуць, умякнуцца** *зак.* Намякнуць. *Галю́сінькія паехылі, а такей дождж ліну́ў, умя́кнуць як мокрыя мышы. Тра́нты умя́кнуцца, ататру́ трошку ды ны вярёўку на сонца.* **Умяклый, умякшый** *дзеепрым.* *Верна, зь веку такога дыжджа ні було, усё заліў і зытапіў, умя́клыя сена з вады выця́гывылі. Умякшыя кучкі раськінь, скарей вы́сыхнуць.*

**Умякініванне** *н.* Пакрыццё, абсыпанне мякінай. *Ты посьлі умякінівыньня вытріса́йся хырашэнька, с сабою у хату нічога ні нясі.*

**Умякініваць** *незак.* Пакрываць, абсыпаць мякінай. *Ты ўжо ні ўмякінівый адзежу, я сам ныгрябу́ карзінкі і ўнясу.* **Умякінівацца** *незак.* Пакрывацца, абсыпацца мякінай. *Што ж ты умякінівыіська, акуратней нысыпай. Як ты акуратна ня дзелый, а ўсё лі мякіны умякінівыісься.* **Умякініць** *зак.* Пакрыць, абсыпаць мякінай. *Ты ўсе*

*штаны умякініў ды кален, выйдзі аптрясі.* **Умякініцца** *зак.* Пакрыцца, абсыпацца мякінай. *Ідзі пымагі, award памажч нада, толька глядзі, тама умякінісься. У цябе рукáвы дужа умякініліся, мякіна пряма кымкáмі вісіць.* **Умякінены́й** *дзеепрым. Чаго ж вы такея умякініныя ідзіцё ў хату, аптресьць нада і аббіцца.*

**Умякшыць** *зак.* Утаптаць, умясіць. *Ніізьвесна чаго умякшы́лі у етыя мяхі, што нада, а што й саўсім ні нада.* **Умякшыцца** *зак.* Утаптацца, умясіцца. *Дывай астáтнія тряпкі, тута ішчэ умякшы́цца.* **Умякшоный** *дзеепрым. Ты б пыглядзела, што ў яе ў сундукáх умякшона.* **Умякшомшы** *дзеепрысл. Умякшомшы ўсё ета, ты ні падымíш, а калі падыміш, дык ні пынясеш.*

**Умярковываць** *незак.* Вымяркоўваць. *Ты як стáніш умярьковывыць, дык і сяньня у горыд ня вы́бірісься. Усё умярьковывылі іціць і ні сыбрáліся.* **Умярковывацца** *незак.* 1. Вымяркоўваць. *Сколька табе нада умярьковывыцца, каб пад'ехыць у Мазылыва? Ты ці ні другей месіц умярьковывыісься ехыць у Крічыў.* 2. Вымяркоўвацца. *Ці умярьковывыіцца у цябе што-небудзь с куплію ай зь імі ні згывaріцца?* **Умеркаваць** *зак.* 1. Размеркаваць. *Летыся нічога дывалі: жыта уміръкувáлі пы кілыграму, пышаніцы, бульбы па многа пріщлося.* 2. Вымеркаваць. *Мне каб харошыя ўремя уміръкуваць ды ацскачы́ць к Сьціпанёнку. Ніяк я ні ўмяръкую к сваім схадзіць, атведыць іх.* **Умеркавацца** *зак.* 1. Выдзеліцца. *Ці многа ж вам уміръкувáлыся ну трудзьдзень?* 2. Вымеркаваць. *Ці ўмяръкўіцца, ці не, а ехыць нада ні атклáдывыючы у доўгій яшчык. Я ўжо цьвёрда уміръкувалыся у скрысеньня схадзіць у Рудню.* 3. Вымеркавацца. *Як яно ў цябе уміръкувáлыся, можа, пашлеш мальца ны пару дней паможч?* **Умеркаваный** *дзеепрым.* 1. Размеркаваны. *Уміръкувáную пышаніцу нада пуцсушы́ць, нясі пряма ў хату.* 2. Вымеркаваны. *Нічога у мяне с уміръкувáным уремім ні пулучы́лыся.*

**Умярэкаць** *зак. жарт.* Зразумець, уцяміць. *Ці ўмярекыў ты, што яны гываріді? Цябе умярекыць дужа трудна, асобінна калі у сьця пысядзіш.*

**Умясіць** *зак. перан. іран.* З'есці. *Нічога, яны ны жывот ні жалюцца, умесюць, сколька ні дасі.* **Умясіцца** *зак.* Змясціцца (пры ядзе). *Нічога, ты рысьпіряжы́ся, дык яно умесіцца.*

**Умятаць** *незак. перан.* 1. Убіраць усё дачыста. *Такіх дайно нада було умітáць, ніхай іх вочы ня відзюць.* 2.

З'ядаць усё дачыста. *Посьлі работы як сядуць, усё умітáюць.* **Умятацца** *незак.* Выбірацца. *Во так із-зы дзяцей пріілося аттуля умітáцца.* **Умесць** *зак.* 1. Убраць усё дачыста. *Нашы пріілі і ўсю гáдысьць умялі, каб дайжа пах ні пах.* 2. З'есці ўсё дачыста. *Як селі часоў у пяць, усё умялі к вечыру.* **Умесца** *зак.* Убрацца. *Паціхіньку умяліся, як іх тута і ні було.* **Умеценый** *дзеепрым.* З'едзены. *Ты глядзі-ка, усё умеціна, ні крошычкі ні асталыся.*

**Унаджыванне** *н.* Панаджванне. *Рызбáлывылыся дужа карова, яе ат унáджывыньня трудна атвýчывыць, гылаву зыдзярець і кытанýла ў клевір.*

**Унаджывацца** *незак.* Панаджвацца. *Глядзі, глядзі, каб пырысяты у бульбу ні ўнáджывыліся, тады ат іх палкыю ні атаб'есься.*

**Унаравіць** *зак.* Упадабаць. *Па-мойму, твой сын Лаўрінчыкыву дачку уныравіў, цэлый вечыр сядзелі ны лавычкі і шыпталіся.*

**Унараджыванне** *н.* Прыбіранне, адзяванне па-святочнаму. *Мы знаім, длі каго такоя уныряджывыньня, толька ета ныпрасна ўсё, Цітанок ны яе дайжа ні глядзіць.*

**Унараджываць** *незак.* Прыбіраць, адзяваць па-святочнаму. *Сколька ні ўныряджывый, а кылі німа толку, дык німа.* **Унараджывацца** *незак.* Прыбірацца, адзявацца па-святочнаму. *Сяньня ж вічарінка, уныряджывыюцца дзеўкі у той хаці.* **Унарадзіць** *зак.* Прыбраць, адзець па-святочнаму. *Маша уныр‌ядзіла свайго мужука і атправіла аднаго ны свадзьбу.* **Унарадзіцца** *зак.* Прыбрацца, адзецца па-святочнаму. *Вашы дзеўкі уныр‌ядзіліся як мыладэя, толька жыніхоў ні хвытаіць.* **Унараджаный** *дзеепрым. Кандыбіны госьці пашлі некуды уныряджыныя.*

**Унараўліванне** *н.* Уступка. *Калі пупадзецца ікая гыргáра, дык ніякыя уныраўлівыньня ні паможыць, будзіць грызць і грызьць.*

**Унараўліваць, унараўлівацца, унараўляць, унараўляцца** *незак.* Уступаць, саступаць. *Ня дужа твыя Кацька прівыкла унырáўлівыць каму-небудзь. Дужа доўга уныраўлівыліся, ну, гаворюць, усё рыўна толку німа. Калі будзіш уныраўляць, дык яно і жызьня лучча пойдзіць, ці грызьнёю што-небудзь лучча зьдзелыіш. Трошку уныраўляліся, а тады пычалі дываць здачы, пірісталі цярьпець.* **Унаравіць, унаравіцца** *зак.* Уступіць, саступіць. *Айдзе ты уныравіш злыйдýшшу, зь імі ніякій чорт ні*

*ўжывець. Пры Ганнычку ты так дужа ні гыварі, можа унывравіцца, а можа й не.*

**Унатруску, унатрусь** *прысл.* Натрускам. *Як ныкладзець унáтруску, дык тама здаецца, што й пырáдышныя кучка, а яе харошый мушчы́на у ношкі пынясець. Калі прыдываць, дык усігда унáтрусь кладýць, каб большы глядзелыся. Памянш.* **унатрýсачку.** *Красіва склаў, ды ўнáтрусычку.*

**Унацкывацца** *незак.* Панаджвацца. *Пычаў унáцкывыцца туды бегыць і пычаў, нада атвучывыць.*

**Уначыцца** *зак.* Заначавацъ. *Дужа дренный пацьцёлык, хочыш — уцякець с пустухá і двору ня прідзіць, уначы́цца айдзе-небудзь у кустах.*

**Уніжыць** *зак.* 1. Панізіць. *Не, етый вугыл нада уніжыць, прідзіцца выкáпывыць штындáру.* 2 *перан.* Прынізіць. *Ня бойся ты дужа, што нехта уніжыць твайго сына, цэл ён будзіць.* **Уніжыцца** *зак.* Панізіцца, знізіцца. *Сена зьляглося, уніжылыся, дык саўсім нямнога глядзець.* **Уніжаный** *дзеепрым.* Паніжаны, зніжаны. *А во етый штындáрік ціряшчур уніжын.*

**Унікаць, уныкаць** *незак.* Паступова знікаць, змяншацца (звыч. пра малако). *Пыгналі скот ны пáрініну, травы німа і мылако пычало унікáць. Калі мылако уныкáіць, ета дренна.* **Унікнуць, уныкнуць** *зак.* Знікнуць, зменшыцца (звыч. пра малако). *Калі доўга ня доіш, мылако можыць унікнуць. У Пырхвянёнкыў раз унікнула мылако, нугурювáліся яны зь дзіцямі. Дзіцёнку месіцы два, мылако уны́кнула, трудна зь ім.*

**Уніманне** *н.* Суніманне, суцішанне. *Нічыйго яны унімáньня ня слухыюць, што хочуць, то й твырáць, саўсім рызбáлывыліся.*

**Уніят** *м. перан.* Нягоднік, які дзейнічае скрыта, стоена. *Нілізя було нізашто падумыць, што Пітрачонык такей уніáт. Памянш.* **уніяцік.** *Пыдрыстáіць уніáцік, увесь у бацькыву пароду пашоў. Узмацн.* **уніяціна.** *Мала ты знаіш, што йта зу уніáціна, ета ізыком са ўсімі харош, а што творіць! Павеліч.* **уніяцішча.** *Каб мы зналі, што ён такей уніáцішча, ці мы ж ба сталі яму што-небудзь гыварічь.* **Уніятка** *ж. Нада ж такою уніáткыю урадзіцца, штоб сваіх паткусывыць ны кажным шагу.*

**Унурыста** *прысл.* Панура. *Мікіцёнкыў маліц стыяў збоку, неік унýріста глядзеў на іх.*

**Унурыстасць** *ж.* Панурасць. *Ты ні глядзі ны яго унý-*

*рістысьць, Лёнька харошый чылавек, ніхто яму загýны ні дасьць.*

**Унурыстый** *прым.* Пануры. *Не, нічога ў яго німа, ніякія бяды, ён усігда такей унýрістый.*

**Унуцкыванне** *н.* Падбухторванне. *Не, Анісёнык на ўнýцкывыньня ні пыддасца, ён сымыстыяцільный чылавек.*

**Унуцкываць** *незак.* Падбухторваць. *Прыкапёнык іх унýцкывыіць, а яны ўсё слухыюць, што ён скажыць.* **Унуцкнуць** *зак.* Падбухторыць. *Як жа ты нічога пыняць ня хочыш, яны цябе нарошня унýцкнулі, а ты й гатоў, сваріцца бягіш.* **Унуцкнутый** *дзеепрым. Калі ўнýцкнутыя, то яны й будуць пець сваё, што Ільлянок скажыць.*

**Унюхываць** *незак. перан.* Уведваць, вызнаваць. *Нешта яны тама сталі унюхывыць, што пасьці ні выходзюць з Восьлінкі.* **Унюхаць** *зак.* Уведаць, вызнаць. *Так Іван ня пойдзіць ім пымыгаць, выгыду нейкыю унюхый.*

**Уняхывацца** *незак.* Прывыкаць, браць за звычку (пра хаджэнне ў пэўнае месца). *Нечыга уня́хывыцца пы двырах лётыць, дужа цябе тама ждуць.* **Уняхацца** *зак.* Прывыкнуць, узяць за звычку (пра хаджэнне ў пэўнае месца). *Уня́хыліся бегыць тады удваіх, як субота, так і кытанýлі ні туды, дык туды.*

**Упавал** *прысл.* Нерухома, упокат. *Сонца ўжо даўно с абедый зьвярнула, а яны ліжаць упывáл кулу кустоў, што ім кызьба.*

**Упаіваць** *незак. перан.* Наносіць балючыя ўдары. *Любіў ба ты ремня упáівыць, а каб сам пулучый,— ня хочыш?* **Упаіць** *зак.* Балюча ўдарыць. *Повыда рямен-ныга як упаілі, дык тую мінуту асеўся.* **Упоеный** *дзеепрым. Упоіный ён ня пікніць ні пра што.*

**Упалоцца** *зак.* Моцна стаміцца полючы. *Думылі, вот дарьвём, вот даполім, а тута цямнеіць і цямнеіць, хвытáліся, хвыталіся, саўсім упалоліся.*

**Упаніваць** *незак.* Прывучаць жыць раскошна. *Меншы упáнівый, дык яны луччы будуць.* **Упаніваца** *незак.* Прывыкаць жыць раскошна. *Дужа рана ён пычаў упáнівыцца.* **Упаніць** *зак.* Прывучыць жыць раскошна. *Ты ціряшчур упаніла сваіх мальцыў, маглі б што-небудзь зьдзелыць, карона б зь іх ні спáла.* **Упаніцца, упанець** *зак.* Прывыкнуць жыць па-панску. *Упанілыся наша Сюрдзюкоўна, дайжа вады схадзіць ёй мýтырна. Упанелі дзеўкі, нічога зьдзелыць ня хочуць, ждуць, калі ім усё гатовінькыя пыдасі.* **Упанелый, упанеўшый** *дзеепрым. Куды ж*

*такім упанелым зы грáбількі брацца. Як жа ты упанеўшых зь вілкымі пашлеш на гной, ім толька прыхáджывыцца у тýхількых.*

**Упарадчыванне** *н.* Парадкаванне. *Посьлі яго упырячывыньня саўсім стала ні прайціць. А ну яго с упырячывыньнім зь естым, найшоў урэмя.*

**Упарадчываннік, упарадчык** *н.* Той, хто наводзіць парадак. *Прітаміліся упырячывыньнікі, аддыхаюць на хворысьці. Тут каб харошыга упырячыка, пынімáюшчыга. Мне упырячыка ні нада, я сам спрáўлюся.* **Упарадчываніца, упарадчыца** *ж. Гудзіць работа у нашых упырячывыньніц. Січас прідзіць Ісачонкыва упырячыца, нывядзець вам тута пырядкі.*

**Упарадчывацца** *незак.* Наводзіць парадак. *Шурка у той хаці упырячывыіцца. Дакуль жа ты будзіш упырячывыцца, усе даўно пашлі на луг.*

**Упаследку** *прысл.* Напаследак. *Упасьледку і ён скызаў, што Лыўрінёнык зыбігаў к ім на двор. Яны пыдыйшлі упасьледку, калі ўжо іх помышчы ні нада було.*

**Упасцівіць** *зак.* **1. Упасвіць.** *Аднаму табе ні ўпáсьцівіць тубунá, нада, каб якей мальчонка памог. 2 перан.* Дасачыць. *Сяньня я хачу абізацільна упáсьцівіць Рыманёнка, ён мне грошы должын.* **Упасцівіцца** *зак.* 1. Упасвіцца. *Як жа сяньня Клімчанкова карова упáсьцівілыся, іна ж усігда уцікаіць!* 2. Стаміцца пасучы. *Набегыліся мы сяньня, упáсьцівіліся, чуць жывыя ідзём.* **Упасцівены** *дзеепрым. Айдзе ж твае упáсьцівіныя ціляты?*

**Упаўзаць** *незак. перан.* Усяляцца паціху з вялікай цяжкасцю. *Пу чужых вуглах сколька ні жыві, дык нада думыць як-ніяк упыўзáць у сваю хату.* **Упоўзць** *зак.* Усяліцца з вялікай цяжкасцю. *Мы ну другей год чуць-чуць упаўзьлі ў хату, і то зімувáлі біз мыста.*

**Упахываць** *незак.* 1. Заворваць. *Гной нада хырашо упáхывыць.* 2. Добра апрацоўваць пры аранні. *Зямлю нада упáхывыць, тады йна родзіць.* 3. Спраўляцца ў ворыве. *Мне з мыладымі ні ўпáхывыць.* **Упахывацца** *незак.* 1. Заворвацца. *Іржышча дужа вісокыя, ні ўпáхывыіцца.* 2. Залазіць пры аранні ў чужое. *У чужоя ні нада упáхывыцца.* 3. Стамляцца пры ворыве. *Што ж, за шэзьдзісят гадоў, упáхывыіцца к вечыру, чуць ногі вылакець.* **Упахаць** *зак.* 1. Заараць. *Там ня гной, дробнінькыя салома, усё ўпыхáлі.* 2. Добра апрацаваць пры аранні. *Пáрініну нада хырашо упыхáць, кареньня пывывырáчывыць.* 3. Справіцца ў ворыве. *Мне с хлопцымі ні ўпыхáць, я адзь-*

*дзельна стану.* **Упахацца** *зак.* 1. Заарацца. *Атвал харошый, дык усё упыхáлыся, зывярнýлыся зямлёю. Можа, ты айдзе абраніў ножычык і ён упыхáўся.* 2. Залезці пры аранні ў чужое. *Ты, знаць ці ні ўпыхáўся ў Пёкліну усядзьбу?* 3. Стаміцца пры ворыве. *Упыхáліся хлопцы, дайжа ны вічарінку ні зьбіраюцца.* **Упаханый** *дзеепрым.* Заараны. *Густа гной пыклалі, а ўвесь упыхáн, нійдзе ні асталыся нывярьхý.*

**Упацёмку** *прысл.* У цемнаце. *Нічога упацёмку ня ўвідзіш, хуць сьпічкі с сабою вазьмі, узатреш. Пріехылі саўсім упацёмку, мы іх ужо ні ждалі.*

**Уперайма** *прысл.* Напярэймы. *Каровы пабеглі, дык ён ны кыня ды ўпірíймá,— зывярнýў. Упірíймá за імі мáлыя бегла.*

**Упервіну** *прысл.* Упершыню. *Ты ўжо маўчы, ён упірьвінý ету дзейку увідзіў. Ці яму ўпірьвіну у поўныч двору іўляцца.*

**Уперцца** *зак.* 1. Уперціся. *Нада хыраше уперцца, ато ныга можыць кыўзанýцца. Нісьцярёнку нядоўга уперцца, скажыць, ні пайду і ўсё.* 2 *перан. груб.* Зайсці, увайсці. *Упёрліся тубуном у хату, хут ты іх гоным гані. Увапрецца і будзіць сядзець, ёй сьпяшыць некуды.*

**Упетаць, упетаваць** *зак.* 1. Убіць з цяжкасцю. *Я ўжо ні знаю, якоя сюда кольля упетыць, якоя ні ўваб'ю, сьвіньні падрыюць. Упетывылі крюкі пу пыўаршына, іх ніхто ня вырьвіць.* 2 *перан.* Моцна адлупцаваць. *Крепка яму упетылі, доўга будзіць помніць. Яны ні пыглідзяць, так упетывыюць, што на ўсё забудзіць.* **Упетацца, упетавацца** *зак.* 1. Убіцца з цяжкасцю. *Так ужо крепка крюкі ўпетыліся, будуць сядзець, пакуля ні сыгніець прітылка. Дубовыя кылякі ўпетывыліся дужа глубока.* 2. Стаміцца, выбіцца з сілы. *Каб ты так упетыўся, як я, тады б пустаты ня вёрз. Пойдзіш, узноў упетывыісься, пысядзі ты лучч ы ў хаці.* **Упетаный, упетаваный** *дзеепрым.* 1. Убіты з цяжкасцю. *Рогі ат вілык упетыны, што ты зь імі зьдзелыіш. С таго боку тоўстый кол упетывын, аттаго і ні варочыіцца бірнушко.* 2. Стомлены, выбіты з сілы. *Мае тожа пріехылі упетыныя. Коні настолька упетывыны, ім аддыхнýць абізáцільна нада.*

**Упіліваць** *незак.* Уразаць, уганяць пры рэзанні. *Вы ўпілівыйця пілу, а тады мы вас піряменім.* **Упілівацца** *незак.* Уразацца. *Ні так проста у сухую дубіну упілівыцца ды яшчэ ну суках.* **Упіліць** *зак.* 1. Урэзаць, увагнаць пры рэзанні. *Каб скарей пілу упіліць, а тады б тапор зы-*

**Успіхываць** *незак.* 1. Прымушаць штуршком наступіць, наткнуцца. *Пычáлі усьпіхывыць адзін другога ны пáхыту і рягочуць.* 2. Пхнуць, ускладаць наверх. *Калі ж ты сьвірепку думыіш усьпіхывыць на жэрдзя?* **Успіхывацца** *незак.* Пхнуцца, ускладацца наверх. *Ня дужа сыка усьпіхывыіцца, чыпляіцца за крючча.* **Усьпіхнуць** *зак.* 1. Прымусіць штуршком наступіць, наткнуцца. *Во ўсьпіхні Колю ны салому, тады я скажу, што ў цябе сіла ёсьць.* 2. Запхнуць, ускласці наверх. *Ат'етуля можна вілкымі усьпіхнýць клок сена.* **Успіхнуцца** *зак.* Запхнуцца, ускласціся наверх. *Нібыльшая пірібірáнычка ззаду усьпіхнецца.* **Успіхнутый** *дзеепрым.* *Увесь усьпіхнýтый пырнік нызад зваліўся.*

**Успратыванне** *н.* *Апрананне. Доўга ты возісься с тваім успрятывыньнім, яны адны, кылі хочыш, паедуць.*

**Успратываць** *незак.* Апранаць. *Тулуп сяньня можа ня стоіць успрятывыць, ня будзіць халодна.* **Успратывацца** *незак.* 1. Апранацца. *Доўга ты успрятывыісься, нада скарей, пыхáньнікі коні пыгналі.* 2. Уздзявацца (пра вопратку). *Што, ірьмяк ні ўспрятывыіцца? — а бізь яго будзіць халодна.* **Успрануць** *зак.* Апрануць. *Ён успрянýў тужýрычку, а я гываpю, надзень яшчэ што-небудзь.* **Успрануцца** *зак.* 1. Апрануцца. *У дарогу нада успрянýцца цяплей.* 2. Уздзецца, узлезці (пра вопратку). *Я ж табе гываріў, што ны гімнасьцёрку пулушубык хырашо успрянецца.* **Успранутый** *дзеепрым.* *На ём успрянýта два пінжачкі — лёгінькій і цяплейшый, свой.*

**Успроб** *м.* Спроба. *Бярі ды еж біз успробу, табе пыныравіцца. Атреж-ка і мне кусочык твайго пірыга на ўспроб.*

**Успусканне** *н.* Пусканне ў пэўнае месца. *Табе калі-небудзь ныгаріць за ета успускáньня, аштрухувáць могуць, як зыхвацюць кароў ны атаві.*

**Успускаць** *незак.* Пускаць у пэўнае месца. *На луг нілізя успускáць скот, сваріцца будуць. Зубы зь естыга боку дужа быляць, я сюда нічога дайжа ні ўспускáю.* **Успускацца** *незак.* 1. Пускацца ў пэўнае месца. *Не, у нас табун ны пасевы ні ўспускáіцца, пыглядзіця, нійдзе сьлядочыка німа.* 2 *перан.* Напускацца з лаянкай, абразамі. *Іна ўжо два разы ны Кындрашонка успускáлыся.* **Успусціць** *зак.* Пусціць у пэўнае месца. *Ны атаву кароў успусьціў, яны зы час наскýбліся. Успусьці сала ны скыўрадý, а посьлі бліны лі.* **Успусціцца** *зак.* 1. Пусціцца ў пэўнае месца. *Табун як успýсьціцца на клевір, будзіць сквілу.* 2.

Напусціцца з лаянкай, абразамі. *Даніліха як успусьцілыся на дзевык, нісла, што на́ рыт лезіць.* **Успусканый, успушчаный** *дзеепрым. Айдзе ж ты відзіш, што сюда скот успуска́н, кылі тута ні аднаго сьлідка німа. Раз ужо успу́шчыны каровы, ніхай мінутку пускубу́ць ды згыняй.* **Успусцёмшы** *дзеепрысл. Успусьцёмшы кароў на клевір, доўга ні дзяржыця.*

**Успучанне, успучыванне** *н.* Вучэнне, навучанне. *Успуча́ньня ны каго дзействыіць, а ад другога, як аць сьценкі гарох ацска́кыіць. Ня дужа ён слухыіць твайго успу́чывыньня.*

**Успучаннік, успучыванннік** *м.* Той, хто вучыць, навучае. *Во успуча́ньнік бярецца, яго сымаго нада школіць ды школіць. Успу́чывыньнік етый такей самый распу́ста як Сярёжа.* **Успучанніца, успучыванніца** *ж. Як возьмуцца успуча́ньніцы ўдзьвюх, яны жыва піряломюць яго. Нешта апусьціла рукі твыя успу́чывыньніца, ня слухыіць яе Танька ніскалька.*

**Успучаць, успучываць** *незак.* Вучыць, навучаць, ставіць на правільны жыццёвы шлях. *Іх узяўся успуча́ць Тріхванок, цяперя дзела пойдзіць. Сколька ня ўспу́чывый, а толку як німа, так німа.* **Успучацца, успучывацца** *незак.* Вучыцца, навучацца, станавіцца на правільны жыццёвы шлях. *Айдзе ты хочыш, каб еткія бысячу́гі успуча́ліся. Ці ён троху ўспучывыіцца ай ня дужа?* **Успуціць** *зак.* Навучыць, паставіць на правільны жыццёвы шлях. *Дзядзька кылі возьміцца, дык успуціць.* **Успуціцца** *зак.* Навучыцца, стаць на правільны жыццёвы шлях. *А што ты думыіш, і яе маліц троху успуціўся.* **Успучаный, успучоный** *дзеепрым. Каб быў успу́чыный, такея б тріл́юды ня вёрз. Знаім мы, якея яны успучоныя.* **Успуцёмшы** *дзеепрысл. Успуцёмшы, яны б нядренныя мальцы былі.*

**Успыльчывата** *прысл.* Запальчыва. *Кірілёнык усігда успы́льчывыта пыцска́кыіць, хракці́р такей у чылавека.*

**Успыльчыватасць** *ж.* Запальчывасць. *Я ня дужа гляджу ны яго успы́льчывытысьць, што мне нада, то й дзелыю.*

**Успыльчыватый** *прым.* Запальчывы. *Раншы Кусьцючонык успы́льчывытый ня быў. Ён успы́льчывытый як сьпічка, чуць што — пых і зыгареўся.*

**Успылянне, успыліванне** *н.* Рэзкае і бурнае выяўленне пачуццяў. *Ісачонкыва успыля́ньня кажный знаіць, яно*

*ўжо ўсім ныдаела. Ныт тваім успы́лівыньнім толька сьмяюцца, няўжэлі ты думыіш, што ета хырашо.*

**Успыляць, успыляцца, успыліваць, успыліваццa** *незак.* Рэзка і бурна выяўляць пачуцці. *Ты вінуват большы ўсіх і нечыга успыля́ць. Аўдзяёнык усігда успыля́іцца як агонь. А што, ежылі ён пычанець успы́лівыць, яго быйстра асодзюць. А чаго ты успы́лівыіська, ета ж табе ні раншы, большы табе пыччыня́цца ня будуць.* **Успыліцца** *зак.* Рэзка і бурна выявіць пачуцці. *Мылашонык усігда такей: сьпірва успылі́цца, а тады асты́ніць і пыгаворіць як чылавек.* **Успылёмшы** *дзеепрым. Успылёмшы, ён што хочыш скажыць, а посьлі будзіць жалець.*

**Успырхыванне** *н.* Ускокванне. *Глядзі-ка, якоя лёгінькыя успы́рьхывыньня у яго, як вірябей узьляцеў.*

**Успырхываццa** *незак. перан. іран.* Паводзіць сябе нецярпліва. *Яе большый ужо ўспы́рьхывыіцца жаніцца.* **Успырхацца** *зак.* Пачаць паводзіць сябе нецярпліва. *Як успы́рьхыўся ехыць к сёстрым, а ніякыга спасу німа.*

**Успыхыванне** *н. перан.* Пачырваненне. *А чаго мне глядзець ны яе успы́хывыньня, ніхай вун Баріс глядзіць.*

**Успялянне, успеліванне** *н.* Даспельванне. *Гываріў, ета яблына ніхай ны ўсьпіля́ньня астаецца. Яны ні пыглідзяць на ўсьпелівыньня, аптрясу́ць ды яблычка і ўсё.*

**Успяляць, успеліваць** *незак.* Даспельваць. *Усьпіля́ў яблынку, пакуля аптрясьлі за ноч. Ня ўмеіш ты усьпелівыць яблык.* **Успяляцца, успеліваццa** *незак.* Даспельвацца. *У яго ладныя дулькі усьпіля́юцца, дужа смашныя. Сколька у цябе етыя ігрушкі будуць усьпелівыцца, іх могуць абырва́ць.* **Успяліць** *зак.* Даспяліць. *Ні ўсьпялі́ў я сёліта нічога, дзітвыра́ ўсё аб'ела.* **Успяліцца** *зак.* Даспяліцца. *У цябе, знаць, белый наліў за пунькыю усьпялі́ўся?* **Успяляный, успялёный, успеленый** *дзеепрым. Пыдажджы, ён січас унясець усьпіля́ных яблык, паку́шыіш. Усьпялёный гарбуз як разрезылі, дык семічкі чуць ні выска́кыюць. Усьпеліныя хунтоўкі як ныліва́ныя, чуць ня сьвецю́цца.* **Успялёмшы** *дзеепрысл. Усьпялёмшы зьясі яблыка ґ душэ.*

**Успяценне** *н. зб. груб.* Небяспечная вышыня. *Якоя усьпяценьня айдзе на́йдзіць і лезіць. Узноў палез ны ўсьпяценьня, хочыць ён пру́та, яй-богу, хочыць.*

**Уссаджыванне** *н.* Падсаджванне. *Ці пыныра́вілыся Якыўку тваё усса́джывыньня, ты яго чуць-чуць ня ськінуў з воза ну другей бок.*

**Уссаджываццa** *незак.* Садзіцца наверх. *Усса́джывы-*

*ліся тамыцька ны мяшкі, верна, паехылі. Як стануць уссáджывыцца, ім ня меншы як час нада.*

**Уссаць** *зак.* Увассаць, увабраць. *Зімля дужа сухая, дык ваду зразу уссáла, толька мясьцінка сырая астáлыся.*

**Уссукыванне** *н.* Насукванне. *Кылі й пыдажджэць мінутку тваё уссýкывыньня, цэл будзіш, хадзі тута пымагі.*

**Уссукываць** *незак.* Насукваць, навіваць пражу на верацяно. *Ны віріцяно многа уссýкывыіць, а тады кладзець на печ сушыцца.* **Уссукывацца** *незак.* Насуквацца, навівацца на верацяно (пра пражу). *Неік жа кріва у цябе уссýкывыіцца, пацсохніць і зьедзіць.* **Уссукаць** *зак.* Насукаць, навіць пражу на верацяно. *Ну сукáлі скарей уссукáіш, чым рукамі, злазь, дыстань зьверьху.* **Уссукацца** *зак.* Насукацца, навіцца на верацяно (пра пражу). *Січас усё уссукáіцца, пыдажджы мінутку.* **Уссуканый** *дзеепрым. Січас ні так многа уссукáна, можна яшчэ трошку пыдмытáць.*

**Уссыпанне** *н. перан.* Біццё. *Ніхай дужа ня грозіць уссыпáньнім, сам можыць скарей пулучыць.*

**Уссыпаць** *незак. перан.* Біць, даваць моцную лупцоўку. *Ты луччы ўспомні, сколька табе уссыпáлі кажын раз пы дарогі, як у школу хадзілі.* **Уссыпаць** *зак.* Пабіць, даць моцную лупцоўку. *Ат іх чаго хочыш ні пытай, могуць уссы́пыць зы ніщто зы ніякыя, а посьлі рызьбірайся.* **Уссыпаный** *дзеепрым. Крепінька уссы́пына, будзіць знаць, як зыдзірацца.*

**Уссядацца** *незак.* Рассядацца па версе. *Некылі ны капу усьсідáцца, работы ішчэ дужа многа.* **Уссесца** *зак.* Рассесціся па версе. *Так лоўка усьселіся, што вам і зьлізаць ня хочыцца, тут ба і сядзелі да вечыра.*

**Уссяканне** *н.* Сячэнне з выварочваннем. *Дрянныя усьсікáньня тупым тыпаром, ты б узяў вайстрейшый.*

**Уссякаць** *незак.* Сячы выварочваючы. *Кылы ямкі нада усьсікáць лёд і аткідаць, ато ён доўга будзіць рыстываць, можыць уніз вадою прыбраць да бульбы.* **Уссякацца** *незак.* Сячыся з выварочваннем. *Неік у цябе саўсім ні ўсьсікáіцца, ты з другога боку пычані.* **Уссеч** *зак.* Пасячы выварочваючы. *Каб усьсек кылы ґанык ды аткінуў, худзь да грязь ні насілыся зы ныгамі.* **Уссечца** *зак.* Пасячыся з выварочваннем. *С аднаго боку трошку усьсеклыся.* **Уссечаный** *дзеепрым. Усьсечыный лёд зы два дні рыстаў, а пыд я́блыны́мі ляжыць і ні вурухнецца.*

**Уставішны** *прым.* Пастаянны. *Яго уставішныя паезд-*

*кі дужа ныдыідаюць: пыднімайся кажный раз чуць ня ў поўныч, гатуй, зьбірай,— цяжола ета.*

**Устаражываць, устарожываць** *незак.* Сцерагчы. *Як жа ён будзіць пысярёд поля устыражывыць мяшкі, ды ў двух містах. Я ня столька устарожывыў.*

**Устаранівaць, устарачываць** *незак. жарт.* Узносіць. *Па лесьвіцы ны хату устыранівыіць ношкі як мыладэй. Ня дужа яму лёхка устырачывыць мяшкі ны такую вісычыну.* **Устараніць, устарачыць** *зак.* Узнесці. *Што яму ету ношку устыраніць, ён можыць яе проста закінуць ат'етуля. Пыт такей узгорык мяшок устырачыць! — канешня, у мыладога сіла ні тыкая, як у нас с табою.* **Устаранiцца, устарачыцца** *зак.* Узысці. *Як ён лёгінька устыраніўся ны гару, ні скажыш, што яму семдзісят. Сіла ў цябе трошку ёсьць, раз устырачыўся сюда.* **Устараненый, устарачаный** *дзеепрым. Усе трі мяшочкі ужо устыраніны наверьх. Ім тама і дзелыць нечыга, за дзьве мінуты ношкі устырачыны.*

**Устараторываццa** *незак. неадабр.* Пачынаць гаварыць шпарка і незразумела. *Разьві ты ні знаіш, як яны абея умеюць устыраторівыцца.* **Устараторыцца** *зак.* Пачаць гаварыць шпарка і незразумела. *Ета Кусьцючыха устыраторілыся, я пы голысу пызнала.*

**Устарахцецца** *зак. перан. неадабр.* Пачаць балбатаць. *Як устырахцелыся: піріміряй, ты мне мала намеріў, тута ні пітнаццыць сотык,— алі прабег ш шыгалым пляменьнік — ні пулучаіцца большы.*

**Устармасіць, устармашыць** *зак.* Раскатурхаць. *Устырмасі абоіх, ніхай устаюць, сьпяць чуць ні ат абедыў. Ты яго паспробый устырмашы, кылі ён сьпіць, як Мікіта посьлі бызара.* **Устармошаный, устармашоный** *дзеепрым. Яго і ўстармошыныга ішчэ нада звылакывыць с пасьцелі. Устырмашоный сеў і сядзіць, надуўся як сыч.* **Устармасёмшы, устармашомшы** *дзеепрысл. Чуць пыдняў іх устырмасёмшы. Хырашэнька устырмашомшы, паднімуцца, а бежч січас нада.*

**Устойчывата** *прысл.* Устойліва. *Стыўбячкі я апсыпыў, аптоўк, цяпер яны устойчывыта стыяць.*

**Устойчыватасць** *н.* Устойлівасць. *Ня будзіць устойчывытысьці, пакуля хырашэнька ні ўкряпіш.*

**Устойчыватый** *прым.* Устойлівы. *Дуб устойчывытый, яго ніякыя буря ня вывірніць, кареньня дужа глубока пускаіць.*

**Устопываццa, устопкываццa** *незак. перан.* Пачынаць

ваяўніча выражаць нязгоду. *Ён ужо ні адзін раз устопыўся с тою лашчынкыю, што ніправільна атрезылі. Нечыга устопкывыцца, ты сам кругом вінуват.* **Устопаць, устопкаць** *зак.* Вымусіць ваяўніча выразіць нязгоду. *Што яго тамыцька устопыла? Яго другей раз як устопкыіць, дык жывая указэя пулучаіцца.* **Устопацца, устопкацца** *зак.* Пачаць ваяўніча выражаць нязгоду. *Можа устопкыіцца, а можа й не, ны яго як калі на́йдзіць. Устопкыўся, што ні яго вочырідзь сяньня па́сьцівіць, пры авец ён думыў, што забудуць.* **Устопаный, устопканый** *дзеепрым. Нейкій ён у вас тута дужа устопыный. Прібег устопкыный: айдзе, спра́шывыіць, твае хлопцы.*

**Усторкыванне** *н.* 1. Насаджванне на завостраны прадмет. *Дам за ўсторкывыньня, відзіш, што дзелыюць: бульбу усторкывыюць ну пруціны, гадзюць і раськідывыюць.* 2 *перан.* Абуванне. *Што ж мне усторкывыньня, мне нада пра што цяплейшыя на ногі думыць.*

**Усторкываць** *незак.* 1. Насаджваць на завостраны прадмет. *Бульбіны усторкывыюць ны палычкі і мыхаюць.* 2 *перан.* Абуваць. *Лі двыра я дужа ні гляджу, што надзець на ногі, буваіць, і валінкі усторкывыю, калі хыладней.* **Усторкывацца** *незак.* 1. Насаджвацца на завостраны прадмет. *Як тута у цябе усторкывыіцца?* 2. Абувацца. *Ны мае ногі толька тыкая вобуў і ўсторкывыіцца.* **Усторнуць, усторкнуць** *зак.* 1. Насадзіць на завостраны прадмет. *Нешта гря́зныя на вілкі усторнуў і нясець у хату. Морквіну усторкніць на ножык і грызець.* 2. Абуць, адзець. *Мальцы, знаць, сыпагі усторнулі різінывыя. Дождж пашоў, усторні хуць старінькій плашчык. У цябе січас ёсьць што на ногі усторкнуць.* **Усторнуцца, усторкнуцца** *зак.* 1. Насадзіцца на завостраны прадмет. *Ны кылячкі снапы усторнуцца і апсохнуць. Глядзі, упыцьма́х ны якей ражон ня ўсторкніся.* 2. Абуцца. *Ну ніхай тут бацінкі пыстыяць, можа, калі усторнуцца. Якея ашмёткі усторкнуцца, лі двыра ладна і ў такіх.* **Усторнутый, усторкнутый** *дзеепрым.* 1. Насаджаны на завостраны прадмет. *Што йта тамыцька усторнута ны кылячку, я дык ні пызна́ю. Паськідый ты ўсё ета усторкнутыя.* 2. Абуты, адзеты. *Рыстыпта́ныя тапкі нейкія на ногі усторнуты, пы хаці топчыцца. Валінкі ста́рыя усторкнуты, у іх на вуліцу ня пойдзіш.*

**Устрапаляць, устрапаліваць** *незак.* Рабіць надзвычайнае. *Вот нешта ж надумыліся устрыпыля́ць, стыялі кучыю і згыва́рівыліся. Чаго яны ма́льцымі толька ні*

*устрыпа́лівылі!* **Устрапаляцца, устрапаліваца** *незак.* Намерваца рабіць надзвычайнае. *Аткуль жа я буду знаць, як яны тама устрыпыля́ліся. Мульчуга́ны устрыпа́лівыліся куды-то зла́зіць.* **Устрапаліць** *зак.* Зрабіць надзвычайнае. *Каб такея ма́хырі ды чаго-небудзь ні устрыпалі́лі?* **Устрапаліцца** *зак.* Намерыцца зрабіць надзвычайнае. *Ім нядоўга устрыпалі́цца на што хочыш.* **Устрапалёный** *дзеепрым. Ці пынімаіш ты, што ўсё ета нарошня було устрыпалёна.* **Устрыпалёмшы** *дзеепрысл. Устрыпалёмшы цябе ну любоя дзела падбіць можна.*

**Устрасанне, устрасыванне** *н.* Лёгкае патрэсванне. *Што ўстрісаньня, кылі трыва як в вады выцігнута, ніхай трошку абветрііць. Разьві ета устря́сывыньня, ты хыраш́энька тріхані.*

**Устрасаць, устрасываць** *незак.* Злёгку *трэсці. Ці ўстріса́лі вы траву, яе нада скарей пацсу́шывыць. Салому я устря́сывыў, іна скора суха будзіць.* **Устрасацца, устрасывацца** *незак.* Злёгку трэсціся. *Ны віцяркў, ежылі устріса́іцца, віда-віда сохніць. Неік у цябе ні устря́сывыцца, кымка́мі варочыіш і ўсё.* **Устрэсць** *зак.* Злёгку патрэсці. *Сходзі устрясі атаўку, іна к вечыру дылжна быць суха.* **Устрэсца** *зак.* Злёгку патрэсціся. *Як устрясецца, луччы сохніць, скарей.* **Устрасаный, устрэсеный** *дзеепрым. Ці ўстріса́на ета сяньня сыка? Устресіный пырнічык сух, а два клакі ліжалі пут кустамі нівурухну́тыя— тэя сырыя.*

**Устрашыць** *зак.* Запалохаць. *Я думыў, што устра́шу цябе, а ты дайжа вуўка ні баісься. Ня дужа ты іх устра́шыш, еткіх атлётыў.*

**Устропыванне** *н. гумар.* Рэзкае выяўленне гатоўнасці дзейнічаць. *Позна яго устрёпывыньня, нада було раншы думыць ды пычшавелівыцца.*

**Устропывацца** *незак. гумар.* Рэзка выяўляць гатоўнасць дзейнічаць. *Во табе, і Пынасёнык устрёпывыіцца, як па́йкі ну лугу сыбра́ліся адбіваць.* **Устропаць** *зак.* Выклікаць гатоўнасць дзейнічаць. *Неік жа дужа скора устрёпыла яго жаніцца.* **Устропацца** *зак.* Рэзка выявіць гатоўнасць дзейнічаць. *Ён устрёпыўся к Каці ў сва́ты ехыць, а ці пойдзіць іна так далёка, ці ряшы́цца сваё хызяйства збува́ць.* **Устропаный** *дзеепрым. Пыдыйшоў к нам, мы відзім, нейкій устрёпыный, думыім, чаго б ета.*

**Уструшыванне** *н.* Натрасанне. *Устру́шывыньня будзіць заметна, лучча сьнегым прікі́дыць.*

**Уструшываць** *незак.* Натрасаць. *Сюда б ні нада устру́-*

*шывыць нічога, ніхай так ляжыць.* **Уструшывацца** *незак.* Натрасацца. *Як ношкі насілі, трыва нямнога і ны палкі уструшывылыся.* **Уструсіць** *зак.* Натрэсці. *Нічога ён ні прісыпыў, чуць-чуць уструсіў саломы кыла сьцен, відна, што палкі ліжаць.* **Уструсіцца** *зак.* Натрусіцца. *Каб сюда хуць нямнога уструсілыся, і ладна було б.* **Уструшываный, уструшаный** *дзеепрым. Тута заметна, што ўструшывына. Уструшыныя зымяці ў адно места, а тады выкініцца.* **Уструсёмшы** *дзеепрысл. Нямножка уструсёмшы, ні закрыіш, нада було клыкамі ныкідаць сакі.*

**Устрэць** *зак.* Сустрэць. *Яны дайно зьбіраюцца цябе ўстрець. Пыбягіць адзін, яго каб айдзе вайкі ня ўстрелі.*

**Устуджаць, устуджываць** *незак.* Прастуджваць, застуджваць. *Сам сябе устуджаіш, ета длі здароўя ніхыраша. Бальнэя ногі устуджывыць нілізя, іх усё ўремя нада дзіржаць у ціплаце.* **Устуджацца, устуджывацца** *незак.* Прастуджвацца, застуджвацца. *Ні бірягець сябе нісколька, устуджаіцца усё ўремя. Усякій раз ня слухыюць, бігаць голыя, у пляхотычкых, устуджывыюцца.* **Устудзіць** *зак.* Прастудзіць, застудзіць. *Плоха, калі што ўстудзіш, будзіць балець, ламіць — ныгарюісься.* **Устудзіцца** *зак.* Прастудзіцца, застудзіцца. *Я ішчэ малыя устудзілыся крепка, с тых пор то тоя, то другоя баліць.* **Устуджаный, устуджоный** *дзеепрым. Ён змалку устуджыный, а прастуда ціряз многа гадоў атрыгаіцца. У яе ногі дужа устуджоныя.* **Устудзёмшы** *дзеепрысл. Устудзёмшы грудзі, як піць даць успаленія пытхваціш, тады пыкычаісься.*

**Устуджыванне** *н.* Прастуджванне, застуджванне. *Устуджывыньня ды дыбра ні даводзіць, будзіш мучыцца, кархыць і ўсё. Ты сам знаіш, што буваіць с устуджывыньня.*

**Уступчывата** *прысл.* Падатліва. *Кажный знаіць, што уступчывыта яны ня зьдзелыюць.*

**Уступчыватасць** *ж.* Падатлівасць. *Пру уступчывытысьць яму дайжа ні зыікайся, ні ў чом ня ўступіць.*

**Уступчыватый** *прым.* Падатлівы. *Грішчанковы хлопцы уступчывытыя, зь імі ўсігда можна дыгываріцца.*

**Устуранне, устурыванне** *н.* Абуджэнне ад сну, узгаянне. *Ня дужа ён слухыіць майго устуряньня, ну другей бок піряверніцца і сьпіць. Сядзь сы сваім устурівыньнім, ня трогый скыта.*

**Устураць, устурываць** *незак.* Абуджаць ад сну, узганяць. *Яшчэ троху рана устураць кароў, ніхай пыліжаць троху. Устурай-ка ты іх, ніхай пыдымаюцца, скора усе с косымі пойдуць. Іх калі ня ўстурівыць, дык і абеды пры-*

*сьпяць.* **Устурацца** *зак.* Пачаць ганяцца. *Сыбака устуряўся зы пацьцёлкым, а тэй яго ня дужа баіцца.* **Устурыцца** *зак.* Узагнацца. *Устуріцца табун, ішчэ журкувата, ніхай пыліжаць каровы.* **Устураный** *дзеепрым. Устуріных ціллят гані к вадзе.* **Устуромшы** *дзеепрысл. Устурёмшы скот, сам сабе бігатні надзелыіш.*

**Устуркыванне** *н.* Абуджэнне ад сну. *Ніякыга яны устуркывыньня ня чуюць, што ж ты хочыш, кылі на зорькі прібеглі аткуль-то.*

**Устуркываць** *незак.* Будзіць, рэзка прымушаць падняцца. *Устуркывый мальцыў, яны выспыліся — дос! Ня дужа лёхка іх устуркывыць.* **Устуркаць** *зак.* Разбудзіць рэзка, прымусіць падняцца. *Я ня ты, ні пыгляджу, што ён айдзе-то усю ноч цігаўся, устуркыю січас.* **Устуркацца** *зак. Зал.-бессуб'ект.* ад устуркаць. *Ну йдзі, можа ў цябе устуркыіцца.* **Устурканый** *дзеепрым. Ідзець устуркыный, вочы ныспаны пы шапкі, ніяк ні пратрець.*

**Усукыванне** *н. неадабр.* Умешванне. *Ня думыю я, што тваё усукывыньня чым-небудзь паможыць.*

**Усукываць** *незак. неадабр.* Умешваць. *Мірянёнык нарошня усукывыіць вас у ета дзела.* **Усукывацца** *незак.* Умешвацца. *У іх сваё, ніхай самі і рызьбірающа, чужым нечыга усукывыцца.* **Усукаць** *зак.* Умяшаць. *Чаго яшчэ сюда усукала Гылыўня?* **Усукацца** *зак.* Умяшацца. *Натура тыкая — усукаіцца, куды яго ні завуць і ня просюць.* **Усуканый** *дзеепрым. Каб яшчэ у ету кашу ня быў усукын Дынілёнык, можа б яно луччы абыйшлося.*

**Усумляцца** *незак.* Дапускаць сумненне. *Ні нада усумляцца, кылі ты дайжа зыдатык яму аддаў і браць хаты ні захочыш, ён верніць, Мітрыхван тваіх грошы ні захочыць.* **Усуміцца** *зак.* Аднесціся з сумненнем. *Быў сыбраўся ехыць, а посьлі усуміўся, думыіць.*

**Усупліванне** *н.* Насупліванне. *Я саўсім ні абрышчаю ўнімані ны яго усуплівыньня, дайжа у тэй бок ні гляджу.*

**Усуплівацца** *незак.* Насуплівацца. *Ён зы адно слова усуплівыіцца, дужа кріўдлівый.* **Усупіцца** *зак.* Насупіцца. *Усупіўся, чаго яму ня столька далі канхвет, сколька ён хацеў.*

**Усхадзіць** *зак. перан. іран.* Выклікаць жаданне актыўна дзейнічаць. *Усхадзіла нешта Аўсеівых, учора ён пасьці ў поўныч пабег ґ быльшаку, сяньня дочкі чуць сьвет сьпяшылі ў Стырасельля,— ні знаю, чаго яны бегыюць.*

**Усхамянуцца, усхапянуцца** *зак.* Спахапіцца. *Сядзела, сядзела, а тады усхымянулыся: ета ж у мяне пырысяты ня кормліны, яны, верна, пуню тамыцька іրвуць. Усхыпянесься ты, чылавек, ды позна будзіць што-небудзь дзелыць.*

**Усхарахоніваць** *незак.* Узбуджаць, выклікаць узбуджаныя дзеянні, паводзіны. *Што яго кажный раз усхырахонівыіць?* **Усхарахоніваıцца** *незак.* Узбуджацца, пачынаць узбуджана дзейнічаць. *Табе нечыга усхырахонівыцца, цябе яны столька ўремя і кармілі, і паілі, і ныдзівáлі. Яны нескылька разоў усхырахонівыліся ехыць, вузлы зьвязывылі.* **Усхарахоніць** *зак.* Узбудзіць, выклікаць узбуджаныя дзеянні, паводзіны. *Яго калі як усхырахоніць, дык ён, кажыцца б, іш шкýры вы́прыгнуў.* **Усхарахоніцца** *зак.* Узбудзіцца, пачаць узбуджана дзейнічаць. *Мы знаім, чаго ён усхырахоніўся, ета Сьціпанідка тута пыработыла іс сваім ізычком. Усхырахоніўся, склаўся, пыдгыняй кыня, ён гатоў.* **Усхарахонены** *дзеепрым. Каб вы глянулі, якей ён буваіць усхырахоніный, асобінна калі пыгаворіць зь Ірмалёнкым.*

**Усхватыванне** *н. перан.* Раптоўнае узнікненне, наступленне. *А што мне яго усхвáтывыньня, ніхай сколька хочыць ускáкыіць.*

**Усхватывацца** *незак. перан.* Раптоўна ўзнікаць, наступаць (пра вецер, навальніцу, боль і г. д.). *Нейкыя буря усхвáтывыіцца, хочыш, крышу зьнясець. Неік гылыва усхвáтывыіцца, зразу, буваіць, як луманець, а тады трошку атпусьціць.*

**Усхлехатаць** *зак. перан.* Раззлаваць да шаленства. *Яго другей раз, буваіць, усхляхочыць зы нішто, тады ўжо луччы маўчы і слова ні гывары.* **Усхлехатацца** *зак.* Раззлавацца да шаленства. *А ну яго, усхліхытáўся учора за нейкія вожычкі, я іх у вочы ні відала, толька расстроіў.* **Усхлехатаный** *дзеепрым. Ты можа ня відзіла, якей ён буваіць усхліхытáный, дык пыглядзі.*

**Усхліпцець** *зак. неадабр.* Неадольна захацець. *Як усхліпцеў з маткыю у горыд, ні атвізáцца було, узіла.* **Усхліпцецца** *зак.* Неадольна захацець, захацецца. *Усхліпцеўся зь дзедым пасьвіць, пусьці і ўсё. Куды ён так усхліпцеўся? Яму як усхліпціцца калі, ні адгаворіш.*

**Усхлынуць** *зак.* 1. Нацячы раптоўна. *Выда каб ня ўсхлы́нула на бульбу, ато будзіць бяды́.* 2 *перан.* Навaліцца. *Усхлы́нулі ны яго усе разым: успакойся,— дык*

*троху пыспыкайнеў. Пряма нейкыя ныпа́сьць усхлы́нула, нішчасьці адно зу другім сы́плюцца.*

**Усхрапываць** *незак. перан. жарт.* Спаць. *У пуні на сені усхра́пывыіць твой друг, будзі, кылі хочыш.* **Усхрапывацца** *незак.* Спацца. *Як табе тута усхра́пывыіцца, ня му́лка?*

**Усхупліванне** *н.* Усхопліванне, падскокванне. *Мне яго усху́плівыньня ня дужа важна, ніхай прыгыіць, сколька захочыць.*

**Усхуплівацца** *незак.* Усхоплівацца, падскокваць. *Іна ўсё усху́плівылыся бежч, а я гываріла, пыдажджы. Як толька хто пычынаіць гываріць, і Арцямёнык усху́плівыіцца: дай, я скажу.*

**Усцервіць, усцервяніць** *зак.* 1. Давесці да зацятай злосці, да страты кантролю над сабой. *Ты іх толька усьцерьвіш, лучча ні гывары нічога. Ох, усьцерьвіла Мысяёнка, ажно пыбялеў увесь. Іна як усьціръвяніць зяця, тады ён удвору бягіць,— жывая указэя, а ні мыладу́я.* 2. Увесці ў азарт. *Во як ты усьцерьвіў Грішчынка! Яго толька усьціръвяніць, тады ён куды хочыш гатоў.* **Усцервіцца, усцервяніцца** *зак.* 1. Дайсці да зацятай злосці, да страты кантролю над сабой. *Нешта твой старэй дужа усьцерьвіўся ны Мыланкіных. Ён як усьціръвяніцца, дык гатоў ударіць.* 2. Увайсці ў азарт. *Усьцерьвіўся паехыць і нізашто ні адгаворіш. Етыга трудна у чом-нібудзь піріўбядзіць, як усьціръвяніцца у што-небудзь.* **Усцервеный** *дзеепрым.* Раззлаваны. *Каб ён чаго ні нытваріў тамыцька, пряма усьцерьвіный пабег.*

**Усціганне** *н.* 1. Настойванне, настойлівасць. *Яму дужа ныдаела Хвядосыва усьціга́ньня, гываріў, цярьпець ня можыць.* 2 *перан.* Даганянне, ураўноўванне. *Я знаю, што зь яго усьціга́ньня палучыцца.*

**Усцігаць** *незак.* 1. Настойваць, дабівацца. *Сколька ні ўсьціга́ла Маріна, каб сын браў Аўдотычкіну дачку, тэй ны яе і ні глянуў. Усё усьціга́іць узнаць, пра што тама гываріли.* 2 *перан.* Даганяць, параўноўвацца. *Зы Ікімёнкывымі ты ні ўсьціга́й, табе іх ні дыгнаць.* **Усцігнуць** *зак.* 1. Настаяць, дабіцца. *Бацька усьціг і ўсьціг, каб ён адзьдзельна хату стынавіў ды жаніўся.* 2. Дагнаць, параўнацца. *Каго ты хацеў усьцігнуць, Быркавёнка? — не, дайжа ня думый.*

**Усцілка** *ж.* Сцілка. *Боты яны нічога, толька усьцілкі нейкія ніважныя пыкла́джыны. Памянш.* **усцілачка**. *Нада було купіць усьцілычкі, можа б калі-небудзь пыміняў.*

**Усціранне** *н.* Запальванне трэннем (пра запалкі). *Штук пяць сьпічык злумаў і ні пытпаліў, во якоя яго усьціра́ньня.*

**Усціраць** *незак.* Запальваць трэннем (пра запалкі). *Ты сьпічкі ўсьціраіш у клеці, дык будзь астарожын, ато ўсё можыць быць, тама разныга быры́хла́ многа.* **Усціраццa** *незак.* Запальвацца пры трэнні (пра запалкі). *Етыя сьпічкі ці ні сурува́тыя, ні ўсьціра́юцца, серка атва́лііцца.* **Усцерць** *зак.* Запаліць财 тручы (пра запалкі). *Узатрі сьпічку ды глянь, сколька тама ўремя, можа, устываць пыра.* **Усцерцца** *зак.* Запаліцца пры трэнні (пра запалкі). *Во етый кырабок у пячу́ркі ліжаў, сьпічкі далжны усьцерцца.* **Усцёртый** *дзеепрым.* *Усьцёртыю сьпічкыю сьвітані, каб чаго ў печы ні аста́лыся.*

**Усціхамірыванне** *н.* Суніманне. *Нешта ня дужа тваё усьціхамірівыньня пымыгаіць, ці чуіш: узноў хату ірвуць.*

**Усціхамірываць** *незак.* Сунімаць, суцішаць. *Я дужа умею быйстра такіх ба́лыўнікыў усьціхамірівыць, так унімаюцца, што дайжа аглянуцца ні пысьпіваюць.* **Усціхамірывацца** *незак.* Сунімацца, суцішацца. *Ці думыюць яны усьціхамірівыцца ай узноў нада ремінь атпіря́зывыць? Кажыцца, трошку надворья усьціхамірівыіцца.* **Усціхамірыць** *зак.* Суняць, суцішыць. *Зразу нада було усьціхамірiць, а ты ўсё пы галоўкі гладзіла: ма́лінькія, ма́лінькія.* **Усціхамірыцца** *зак.* Суняцца, суцішыцца. *Толька вы мне ні ўціхамірьціся ету мінуту, зыпла́чыця і на печ палезіця, як мыхрач схвачу. Пысядзі трошку, куды ты пойдзіш, можа трошку усьціхаміріцца пагода, дождж нацьціхніць.* **Усціхаміраный** *дзеепрым.* *Вот відзіш, як ты скорінька усьціхамірін. Усьціхамірінья яны зылатыя ма́льцы, а ні ўнімі — пы гылыва́х ходзюць.*

**Усцябнуць** I *зак.* Прышыць наспех, нетрывала. *Хуць зьверьху пу́гывычку усьцябні яму, ато будзіць хадзіць з голыю шыііо.* **Усцябнуцца** *зак.* Прышыцца наспех, нетрывала. *Скарей шый, як усьцябнецца, так і ладна.* **Усцябнутый** *дзеепрым.* *Вазьмі сінію рубашку, у ёй ґузікі хуць усьцябну́ты.*

**Усцябнуць** II *зак.* Сцебануць. *Я ўсцябну́ў кыня, а ён задым біць.*

**Усцяж** *прысл.* Усюды (па шляху, па напрамку). *Усьця́ж спрашывыў па ўсіх дзіріўня́х і ніхто нійдзе ня чуў пры пацьцёлка.*

**Усцярабліванне, усцярэбліванне** *н.* Знішчэнне зарасніку пры распрацоўцы зямлі для пасеву. *Посьлі усьціря́б-*

*лівыньня бяз гною нескылька гадоў ладна радзіла. Усьціря́блівыньня зырасло узноў,— узяліся хыраша, ды ні дывялі ды кынца. Нам усьцяреблівыньня тэй год крепка далося, многа пылажылі сілы.*

**Усцяраблівацъ, усцярэблівацъ** *незак.* Зніпчацъ зараснік. *Мы кажный год пу кусочыку усьціря́блівылі. Большы мы ні ўсьцяреблівылі, так яно аста́лыся і аста́лыся, зырасло лесым.* **Усцерабіцъ** *зак.* Знішчыцъ зараснік. *Там ба можна яшчэ нямнога усьцірябіць, лён ба хыраша рос.* **Усцерабіцца** *зак.* Знішчыцца (пра зараснік). *Ні знаю ўжо, калі тут усьцяребіцца.* **Усцярэбленый** *дзеепрым. У нас тады была усьцяребліна палоска кулу дубоў.* **Усцерабёмшы** *дзеепрысл. Усьцірябёмшы, тут ба можна пасеіць.*

**Усчапліванне, усчаплянне** *н.* Ушчэпліванне, чаплянне. *Якоя ж ета ушча́плівыньня, ты ні ўшчапіў, а пріляпіў. Глянь ты ны яго ушчыпля́ньня, да крюка ні дыстаець, а ўжо чыпля́іць.*

**Усчапляцъ, усчаплівацъ, усчэплівацъ** *незак. перан.* Навешвацъ. *Яны ўсё гатовы ны мяне ушчыпля́ць, што толька ні прідумля́юць. Мне ўжо ушча́плівылі, што я у Ходысых у сва́ты хадзіў. Ны каго толька ня ўшчэплівылі тую бульбу, а праўды ні знаюць.* **Усчапіцъ** *зак.* Навесіцъ. *Калі будзіш муўчаць, ны цябе іпчэ і ня тоя ўшчэпюць.* **Усчэпленый** *дзеепрым. Ны яго ўжо і пырысяткі Сьціпанідзіны ушчэпліны.* **Усчапёмшы** *дзеепрысл. Ушчапёмшы адно, ны яго тады усё можна вешыць.*

**Усчапурыцъ** *зак. жарт.* Прыхарашыцъ. *Ого, як ты свайго мыладога ушчупуріла!* **Усчапурыцца** *зак.* Прыхарашыцца. *Лявоніха як ушчупуріцца, дык хуць сватоў к ёй прісыла́й.* **Усчапураный** *дзеепрым. Сяньня пуўдня дзеўкі лётыюць ушчапу́ріныя.* **Усчапуромшы** *дзеепрысл. Усю нядзелю бегылі ушчупурёмшы.*

**Усчыдннне** *н.* Пачынанне. *Мне яго ушчынаньня крепка далося ў знакі. Іду і чую, што ўзноў у іх ушчына́ньня.*

**Усчынянне** *н.* Прычынянне, зачынянне. *Якоя ў яго будзіць ушчыня́ньня, кылі ён вароты чуць пхнець.*

**Усчыняннік** *м.* Той, хто прычыняе, зачыняе. *Сла́бый сь цябе ушчыня́ньнік, тута пріпыднімáць нада.* **Усчыянніца** *ж. Бярісь пымыгаць ушчыня́ньніцы, адна іна ні спра́віцца.*

**Усчыняцъ, усчынівацъ** *незак.* Прычыняцъ. *Дай-ка я прічыню́, ты нешта ня дужа лоўка умеіш ушчыня́ць. Пычаў дзьверi ушчы́нівыць, а ў яго нічога ні пулуча́іцца.*

**Усчыняцца, усчыніваацца** *незак.* Прычыняцца. *Хатнія дзьверi нiчога, лёхка усходзюць, а ў сенцых нi ўшчыняюцца. Як пыцьцiсаў, i дзьверi сталi ушчынiвыцца.* **Усчынiць** *зак.* Прычынiць. *Так рызбалелыся рука, што дзьверi нi магу ушчынiць, клямкi нi пыцягнў.* **Усчынiцца** *зак.* Прычынiцца. *Цi ўшчынiлiся ў цябе дзьверi, яны ўвярьху неiк упiралiся, нi прiлiгалi.* **Усчынены, усчынетый** *дзеепрым. Я пытхадзiў, глядзеў — нiма ў дваре i дзьверi ушчынiны i ны палычку заторнуты. Вароты ушчынiты хырашо, я сам глядзеў.* **Усчынёмшы** *дзеепрысл. Ушчынёмшы усiгда ны палычку заторнiць.*

**Усшабуцецца, усшабуцiцца** *зак.* Пачаць шумець. *Пракоп зы калёсы ушшубуцеўся, яны тыкi i праўда, нiкуратныя людзi: паехылi ў лес, кiдалi палкi як зря, ручкi пулумалi. Уму нядоўга ушшубуцiцца, пых як сьпiчка i гатоў.*

**Усшавалiванне, усшавялiванне, усшавелiванне, усшаволiванне** *н.* 1. Падварушванне. *Посьлi ушшывалiвыньня саўсiм другая сўшка. Якоя ж ета ушшывялiвыньня, хырашэнька вурухнi. Вiдзiш, як людзi работыюць, а ў цябе толька што ушшавелiвыньня. Во табе й на, пасьцi высыхла сена посьлi ушшаволiвыньня, а тута узноў дождж.* 2. Падахвочванне. *Калi гультай, дык нiякыя ушшывалiвыньня яму нi паможыць. Ны яго нi такоя ушшывялiвыньня нада. Ня дужа яны паслўхыюць твайго ушшавелiвыньня. Як, цi пымыгаiць яму Кулундзёнкыва ушшаволiвыньня?*

**Усшалапучыванне** *н.* Хваляванне ад страху. *А цi мы адзiн раз вiдзiлi Пiтракова ушшылапўчывыньня, ён як шымак нейкiй, усякый лухце верiць.*

**Усшалапучываць** *незак.* Выклiкаць хваляванне ад страху. *Як што нi па ём, яго i ўшшылапўчывыiць.* **Усшалапучывацца** *незак.* Хвалявацца ад страху. *Хвацiць ушшылапўчывыцца, тута i нi такiх унiмалi.* **Усшалапуцiць** *зак.* Выклiкаць хваляванне ад страху. *Нiхай iх яшчэ раз ушшылапўцiць, хуць пыглядзiш, якея яны бувають.* **Усшалапуцiцца** *зак.* Расхвалявацца ад страху. *Хрымянок як ушшылапўцiцца, ны яго можна пулюбувацца.* **Усшалапучаный** *дзеепрым. Нейкiй ушшылапўчыный прiбег аттуля, што ўжо яму там кызалi, я нiчога нi дабiлыся.*

**Усшалудзiць** *зак.* Выклiкаць ахвоту задавацца, вычвараць. *Яго як ушшулудзiць, зь iм тады трудна.* **Усшалудзiцца** *зак.* Пачаць задавацца, вычвараць. *Яму ушшулудзiцца адна мiнута — пых, зыгарейся i гатоў, ажно кiпiць.* **Усшалуджаны** *дзеепрым. Ты, як ушшалўджыный, дужа*

*красіў, ны цябе ажно глядзець аньціресна.* **Усшалудзёмшы** *дзеепрысл. Ушшулудзёмшы, ён што хочыш ляпніць, дайжа чаго ні хацеў ба.*

**Усшалушываць** *незак.* Уздзіраць лушпіну, скарынку. *Калі ны грядзе пыявілыся ікая корычка, ты яе ушшалу́шывый, каб усё ўсхадзіла.* **Усшалушывацца** *незак.* Уздзірацца (пра лушпіну, скарынку). *Ці ты ня ўмеіш, ці што, неік у цябе дренна ушшалу́шывыіцца.* **Усшалушыць** *зак.* Узадраць лушпіну, скарынку. *Ушшулушы́ семічкі, яны скарей будуць прысыха́ць.* **Усшалушыцца** *зак.* Узадрацца (пра лушпіну, скарынку). *Ушшулушы́лыся і ладна, ніхай ляжы́ць.* **Усшалушаный** *дзеепрым. У яе і гряды ушшалу́шыны, гурочыкі лезуць, усходзюць.* **Усшалушомшы** *дзеепрысл. Ушшулушомшы зыдзьвігай яблыкі ў печ, ато зьверьху прігыря́ць, а спады́спыду і ўсярёдку будуць сырыя.*

**Усшарахоніванне** *н.* Шумнае ўзбуджэнне, хваляванне. *Калі табе аньціресна іхнія ушшырахонівыньня, глядзі, а я пайду.*

**Усшарахоніваць** *незак.* Шумна узбуджаць, хваляваць. *Нешта ж яго ушшырахонівыіць, як пычынаіш пры Варычкіну дачку гывcovaріць.* **Усшарахонівацца** *незак.* Шумна ўзбуджацца, хвалявацца. *Пычынаюць ушшырахонівыцца Кургузёнкі: сватоў ждуць.* **Усшарахоніць** *зак.* Шумна ўзбудзіць, усхваляваць. *Мікілая як ушшырахоніць, ніяк тады ні ўспакоіш.* **Усшарахоніцца** *зак.* Шумна ўзбудзіцца, усхвалявацца. *Ушшырахоніўся: паеду сь цёткыю, ні хачу бо́льшы ўчыцца, работыць буду.* **Усшарахонеңый** *дзеепрым. Калі ён ушшырахоніный, яму дайжа нічога ня спробый тулкува́ць.*

**Усшарахыванне** *н.* Шурпачанне. *Што ты дзелыіш, як сюда будзіць садзіцца посьлі твайго ушшыра́хывыньня.*

**Усшарахываць** *незак.* Рабіць шурпатым. *Ні нада ушшыра́хывыць услончык, ён тады шурпатый, грязьніцца скарей будзіць.* **Усшарахывацца** *незак.* Рабіцца шурпатым. *Кінь скоблю, лаўка ушшыра́хывыіцца і шурпа́ціцца.* **Усшарахаць** *зак.* Зрабіць шурпатым. *Ушшыра́хый сьнег, скарей рыстыва́ць будзіць, пацсохніць скарей.* **Усшарахацца** *зак.* 1. Зрабіцца шурпатым. *Твой мост у сенцых неік ушшыра́хыўся, ты яго, знаць, часта лупаткыю чысьціш.* 2 *перан.* Выявіць неадольнае жаданне. *Армія ны насу́, сам куска хлеба ні заробіў, а ён ушшыра́хыўся жаніцца.* **Усшараханый** *дзеепрым. Ушшыра́хыныя скамейкі дренна мыць, можна пальцы зыска́біць.*

**Усшарудзіць** *зак.* Раскатурхаць, распаліць жаданне. *Іх толька нада ушшурудзіць, яны возьмуцца за дзела.* **Усшарудзіцца** *зак.* Узбудзіцца, распаліцца. *Яны пасьледнія ўремя былі саўсім рукі пупускáлі, а цяперя глянь-ка як ушшурудзіліся.* **Усшаруджаный** *дзеепрым.* *Яны, як ушшарýджыныя, дык што хочыш зьдзелыюць, а то будуць сядзець рукі склаўшы.* **Усшарудзёмшы** *дзеепрысл.* *Яго ні ўшшурудзёмшы нікуды ні дашлесься, піряверніцца з боку на бок і ўсё.*

**Усшарушыванне** *н.* 1. Уздзіранне зацвярдзелага верху. *Позна ты ўзілася зы ушшурýшывыньня, нада було зразу посьлі дыжджа брацца.* 2 *перан.* Падварушванне. *На іх ні такоя ушшурýшывыньня нада.*

**Усшарушываць** *незак.* Уздзіраць зацвярдзелы верх. *Гряды нада абізацільна ушшарýшывыць, дужа прібіты дажджом, гуркі ня ўзойдуць, яны дылікáтныя.* **Усшарушывацца** *незак.* 1. Уздзірацца (пра зацвярдзелы верх). *Скарінкыю зімля засохла і ні ўшшурýшывыіцца.* 2 *перан. жарт.* Падварушвацца. *Нешта ня відна, каб яны дужа ушшарýшывыліся, іх нада хырашо пытпáрівыць.* **Усшарушыць** *зак.* Узадраць зацвярдзелы верх. *Ушшурушы сваё семічкі, ато яны пыпрісыхáлі г бумагі.* **Усшарушыцца** *зак.* 1. Узадрацца (пра зацвярдзелы верх). *Прывядзі грыблямі яшчэ пару разоў, луччы ушшурýшыцца.* 2. Падварушыцца. *Позна яны ушшурушыліся, пра што яны думылі, як Ціханёнык ехыў.* **Усшарушываный, усшарушаный** *дзеепрым.* *У мяне ішчэ гряды ні ушшурýшывыны, усё некылі і некылі. Айдзе ушшарýшына, там ужо зялёныя лісточыкі лезуць.* **Усшарушомшы** *дзеепрысл.* *Ушшурушомшы, скарей яблыкі высыхнуць, яны прісохлі ну бумагі.*

**Усыкнуць** *зак.* Прыкрыкнуць злосна. *Як бацька усыкніць тады ён слухмяный, а мяне слухыць ня хочыць.*

**Усычанне, усычыванне** *н.* Насычэнне. *Яны ат пріродзьдзя такея, што ніякыга усычáньня ім ні хвытаіць. Ці будзіць етыму чылавеку усычывыньня калі-небудзь, ці ўжо ні разу ня будзіць.*

**Усычаць, усычываць** *незак.* Насычаць, здавольваць. *Ніхай ужо зяці яго усычáюць. Ты ж усё усычывыў Бундурёнка, цяперя ён ніхай пры цябе біспакоіцца.* **Усычацца, усычывацца** *незак.* Насычацца, здавольвацца. *Ну ўсё ж зь іх мала, ні хвытаіць, ніхай усычáюцца. Цяперіцька ты свабодзін, можыш усычывыцца сколька тваёй душэ заўгодна.* **Усыціць, усытаць** *зак.* Насыціць, здаволіць.

*Калі цябе усыціць с тваёю жаднысьцю? Разьві ж такога чылавека можна усыціць калі? Хто іх у міры усытаіць, такіх нінаедных!* **Усыціцца, усытацца** *зак.* Насыціцца, здаволіцца. *Тыкая жадобіна ні ў век ня ўсыціцца. Калі б яны усыціліся, ніхто ні прідумыіць, усё б хвыталі, цягнулі, гряблі, вылаклі. Кажыцца, і Ныпряёнык усытаўся, усё, бувала, ношкымі вылачыў траву с кустоў, а то ні валочыць.* **Усычаный, усытаный** *дзеепрым. Даволін, усычыный ходзіць, ны вазу нечыга прівязьлі із-зы рякі. Усытаныя паехылі ац сватоў, цэлыя торбы папёрлі г быльшаку.* **Усыцёмшы** *дзеепрысл. Усыцёмшы выпрывілі сваіх родзічыў, каб ні біджаліся.*

**Усягды** *прысл.* Заўсёды. *Ка мне пляменьніца усягды зыбігаіць. Я ўсягды гываріла, што малых у руках дзіржаць нада крепка.*

**Усядзебнік** *м. гумар.* Гаспадар, які мае прысядзібны ўчастак. *Нешта вашы усядзібнікі пакуля што ня думыюць, як усядзьбу апсіміняць.* **Усядзебніца** *ж. Сядзіць усядзібніца у быразьне, патрошку кулупаіцца, выбіраіць бульбу.*

**Усядзебный** *прым.* Прысядзібны. *У нашый дзяреўні ува ўсіх усядзібныя участкі адбівалі пу пуўгіктара, як с хутароў пірістраівыліся. Што ні гывbooks, а поля так ня вырыбытына, як усядзібныя зімля.*

**Усядзецца** *зак.* 1. Сесці і заседзецца. *Усядзеўся, што і пыдымацца ня хочыцца.* 2 *перан.* Асталявацца. *Чаго ён куды паедзіць, усядзеўся ужо ў Кылатавіні, тама і дывякуіць.*

**Усядзіста** *прысл.* Прысадзіста. *Яны ўсе нівісокія хлопцы і глідзяцца усядзіста, ета табе пыкызалыся, што длінныя, а можа табе другіх пыкызалі.*

**Усядзістасць** *ж.* Прысадзістасць. *Нада табе то усядзістысьць, то прісядзістысьць, пупыдаіцца ладный чылавек, дык гывbooks, ніхай піряходзіць.*

**Усярбываць** *незак.* Набіраць у рот сёрбаючы. *Ён як плувець, дык ваду усярбывыіць.* **Усярбнуць** *зак.* Набраць у рот сёрбаючы. *Усярбнуў яе крупені і ажно паморшчыўся.*

**Усяродку** *прысл.* Унутры. *Ліпу зывалілі, дык іна усярёдку уся пустая. Даўно жаліцца, што ўсярёдку нешта баліць. Памянш.* **усяродачку**. *Режыць палкі, усярёдычку выкалупывыіць сірцавіну і сьвісткі пулучаюцца.*

**Усярчаць, усярчацца** *зак. жарт.* Зазлаваць. *Усірчала*

*ны цябе Тымарка, будзіш адзін зь вічарінкі хадзіць. Ты глядзі, ён як усірча́іцца, дык і пабіць можыць.*

**Уталковыванне** *н.* Растлумачванне, пераконванне. *Што, і тваё уталковывыньня ні пымыгаіць? Кылі пень, дык якоя яму уталковывыньня нада.*

**Уталовыванне** *н.* Вытоптванне дашчэнту. *Ныдаела мне ета уталовывыньня, гані іх ат пыдваконьня.*

**Уталовываць** *незак.* Вытоптваць дашчэнту. *Ці пірістáніця вы мне уталовывыць ету салому, усю піряцёрлі ны аторю.* **Уталовывацца** *незак.* Вытоптвацца дашчэнту. *Кажын год ета пáрініна уталовывыіцца большы некуды.* **Уталаваць** *зак.* Вытаптаць дашчэнту. *Пыд яблынкыю дзеці настолька утулувáлі, што тама нічога ня вырысьціць.* **Уталавацца** *зак.* Вытаптацца дашчэнту. *Пархвеныва крайнія палоска была, як уталýіцца за лета, дык і жаць нечыга.* **Уталованый, уталаваный** *дзеепрым. Праезд быў ат пунь, дужа зімля уталовына. Утулувáныю атаву і карова ня будзіць есьць.*

**Уталонне** *н.* Супакой, заспакоенасць. *Нійдзе ім уталоньня ні находзіцца. ·Узноў німа уталоньня мáльцым, адурювáюць на вуліцы, аж вуглы тріщчаць.*

**Уталопліваць** *незак. неадабр.* Накіроўваць неадрыўны погляд. *Што ты вочы ны мяне уталоплівыіш?* **Уталопліваццa** *незак.* Пачынаць вельмі ўважліва ўглядацца. *Стыдна етык уталоплівыцца, скажуць, што дужа нікультурный.* **Уталопіць** *зак.* Накіраваць неадрыўны погляд. *Вочы ўталопіў і стаіць піряд імі.* **Уталопіцца** *зак.* Пачаць вельмі ўважліва углядацца. *Чаго ён етык уталопіўся, чылавека ня відзіў ці што?*

**Утапліваць** *незак.* 1. Тапіць. *Ён, знаць, ці ні панёс кыцінят утáплівыць.* 2 *перан.* Ставіць у безвыходнае становішча. *Расьсердзіліся за нешта ны Кірылёнка і ўтáплівыюць яго ны кажным шагу.*

**Утапторыванне** *н. экспр.* Утоптванне. *Пылядзіця вы ны яго утапторівыньня, у мяшку нешта ныгамі топчыць.*

**Утапторываць** *незак.* 1. Залішне натоптваць. *Некуды ўжо сена утапторівыць, вароты ні зачынюцца.* 2 *перан.* Прагна есці. *Сідзяць лі гынькá, печыныю бульбу утапторівыюць.* **Утапторывацца** *незак.* Залішне натоптвацца. *Цігайця, пакуля утапторівыіцца, столь ні прываліцца, ня бойціся.* **Утапторыць** *зак.* 1. Залішне натаптаць. *Пылавіна шайкі резі, а наверьх чугун бульбы утапторіла, чаму ж ня будзіць карова жырныя.* 2. Прагна з'есці. *Чугунок тýшыныя капусты утапторіў і пашоў.* **Утапторыцца** *зак.*

Залішне натаптацца. *У зáсікі многа мякіны утапторілыся, а карова яе дужа есьць.* **Утапторываный, утапторaный** *дзеепрым. Сюда ўжо німала утапторівына сакі, большы ня лезіць. Чаго ў етыя мяшкі столька утапторіна?*

**Утаптыванне** *н. перан.* Знеслаўленне, абвінавачванне ў ганебных учынках. *Каму ж ба такоя утáптывыньня пыныpáвілыся, дзіва, што ён выйшыў ісь сябе.*

**Утараніваць, утарачываць** *незак. жарт.* Уносіць. *Барісь-ка удваіх зы мяшок ззаду, будзім утырáнівыць у пуню. Адзін ты ні бяріся ету ношку утырáчывыць, ніхай адззаду Бронька пымыгаіць.* **Утараніць, утарачыць** *зак.* Унесці. *Як жа ты адзін утырáніў еткыя палена, тут жа вес ніізьвесна якей. Ён і ня столька утырáчыць, кылі ны яго ахота найдзіць, сілы у яго хвытаіць.* **Утараненый, утарачаный** *дзеепрым. Твае карзінкі ужо ўсе утырáніны у прымыльнік. Утырáчыныя мяшкі цэлы будуць, ні зымякнуць.*

**Утаркыванне, уторкыванне** *н.* 1. Уторкванне. *Якоя ж утáркывыньня, кылі канец злуман. Нічога ні палучыцца с твайго уторкывыньня.* 2 *перан.* Непажаданае ўмешванне ў справы. *Яго утáркывыньня ішчэ хужы зьдзелыіць. Глядзі, нылáюць, нылáюць зы тваё ўторкывыньня, чаго табе лезьць туды.*

**Утаўкыванне** *н.* 1. Уштурхоўванне. *Што яму утáўкывыньня, сюда ўтаўкнеш, а ён аттуля выскычыць.* 2 *перан.* Настойлівае растлумачванне. *Што йта ён як палка дроў, ніякыя утáўкывыньня ды яго ні даходзіць.*

**Утаўкываць** *незак. перан.* Настойліва растлумачваць. *Доўга яму ўтáўкывылі, што к чаму, ён як глумáк нейкій, ніяк ні рызьбярецца.* **Уталоч, утоўч** *зак.* Настойліва растлумачыць. *Міряненку ні так лёхка уталоч, як ты думыіш, ён дужа біспынятлівый. Ты сам паспробый яму што-небудзь утоўч. Як жа ты яму утаўкеш, кылі ён нічога слухыць ня хочыць.*

**Утаўморыванне** *н.* 1. Запэцкванне. *Ні работа, а ўтаўморівыньня, у мялу увесь чыста, пы самыю макушку.* 2 *перан.* Умешванне. *Яны табе доўга будуць помніць ета утаўморівыньня.* 3. Задурманьванне, затлумліванне. *Ай, ні гывaрі ты, мне хужы горькія редзькі ныдаела такоя утаўморівыньня, за дзень як надўрісься, ажно у вычах кругі.*

**Утаўмясіць** *зак.* Умясіць. *Што тама клок саломы кінуў, пырысяты зы час яе у грязь утыўмясілі.* **Утаўмясіцца** *зак.* Умясіцца. *Усё там утыўмясілыся, нада вілык двоя*

*бульбоўніку укінуць.* **Утаўмяшоный, утаўмешаный** *дзеепрым. Ну гліна дык ба ніхай гліна, а то пряма зімля утыўмяшона, зямлёю печ ні пымáжыш. Ці сюда яшчэ аторі утаўмешына, ці што тута дзелылыся?* **Утаўмясёмшы** *дзеепрысл. Тут нада зямлёю засыпыць, а ўтыўмясёмшы быльля, нічога ня будзіць.*

**Утаўпорыванне** *н. неадабр.* Усоўванне. *Ну нашто вам ета утаўпорівыньня бяс толку, можна ж зьдзелыць і акуратней і луччы.*

**Утаўпорываць** *незак. неадабр.* Усоўваць. *Каб ні ўтаўпорівыў боты у грязь, яны б ні ссыхáліся, дык ці ў цябе што акуратна пабýдзіць.* **Утаўпорывацца** *незак. перан.* Стамляцца. *Нашто ім столька скыта дзіржаць, каб кажный дзень утаўпорівыцца.* **Утаўпорыць** *зак.* Усунуць. *Утаўпорілі вáлінычкі у грязь. Мякіны дужа многа утаўпоріў у цеста, сьвіньня есьць ня хочыць.* **Утаўпорыцца** *зак.* Стаміцца. *Ты так ўтаўпорься кажный дзень, тады пызнáіш, як скот гудуваць.* **Утаўпораный** *дзеепрым. У крупы капусты ўтаўпоріна, хто тута хызяйнічыў?*

**Утаўпясіць** *зак.* Умясіць, утаптаць. *Цёлычка дыстала рубáшычку, сьцягнула, а пырысяты утыўпясілі у грязь.* **Утаўпясіцца** *зак.* Умясіцца, утаптацца. *Сюда сколька ні сьцялі, усё утаўпесіцца.* **Утаўпяшоный** *дзеепрым. Ці ты будзіш утыўпяшоныя хворысьця выцягывыць, ніхай яно тута гніець.* **Утаўпясёмшы** *дзеепрысл. Ныўряд ці зьдзелыіш ты смашней, утыўпясёмшы у капусту круп, ніхто ў нас так ні варіць.*

**Утаўхыванне** *н.* Уштурхоўванне. *Ты ў мяне глядзі, вогірь, ато дам утáўхывыньня, атучу ат еткія прівычкі.*

**Утаўхываць** *незак.* Уштурхоўваць. *Дывай яго утáўхывыць у сенцы, а ён упірáіцца.* **Утаўхнуць** *зак.* Уштурхнуць. *Утаўхні мáлых у хату, ніхай ні мякнуць пыд дажджом, ато ішчэ пыпрастýджывыюцца.* **Утаўхнутый** *дзеепрым. Утаўхнýтый ён тама сеў і сядзеў.*

**Утачываць** *незак.* Ушываць, увіваць дадаткова. *Вожкі дзелыіць, канцы ряменныя утáчывыіць. Рукавы як-небудзь сысьцябнець, а кліны саўсім ня ўмеіць утáчывыць.* **Утачывацца** *незак.* Уточвацца. *Пырысяты глубока-глубока пыт капу утáчывыюцца.*

**Утваранне** *н.* 1. Расчынянне (цеста). *Вады лінýла, мукі сыпнýла, во і ўсё яе утвырáньня, дайжа ні рызьмішáла як нада. Ці доўга ты будзіш вазіцца іс сваім утвырáньнім?* 2 *перан.* Вычваранне. *Усякыга утвырáньня зь*

*іх хвытала. Самі знаюць, што ім можыць быць зы ўтвыря́ньня.*

**Утвараннік** *м.* 1. Той, хто замешвае цеста. *Якей зь яго утвыря́ньнік, сь цестым вазіцца — ета бабскыя работа.* 2 *перан.* Вычвараннік. *Такея балыўнікі, такея утвыря́ньнікі, што на іх пряма шкура хыдаром ходзіць. Ту́ркнуў ба на етых утвыря́ньнікыў, ніхай ба уняліся троху.* **Утваранніца** *ж.* 1. Тая, што замешвае цеста. *Узілася утвыря́ньніца за дзела, скора блінамі накорміць.* 2. Вычваранніца. *Ня меншыя утвыря́ньніца і Машка была. Яны ж ні прідумыіш якея утвыря́ньніцы абея былі.*

**Утвараць** *незак.* 1. Замешваць цеста для печыва. *Нешта даўно ты бліны утвыря́ла, сьпякі, я б зьеў с ахоткі.* 2 *неадабр.* Вычвараць. *Іх была кымпанія ладныя, чаго тoлька яны ні ўтвыря́лі.* **Утварацца** *незак.* 1. Замешвацца (пра цеста для печыва). *Што ў цябе сяньня утвыря́іцца?* 2. Рабіцца, тварыцца. *Ці відзіш, што зь естых ціхінькіх утвыря́іцца?* **Утварыць** *зак.* 1. Замясіць. *Хлеб утваріць нада ўмець, буваіць, рызаб'ець, што ў печ ня ўсодзіш, а то зыка́ліц палу́чыцца як ля́міц.* 2. Вытварыць. *Балыўнікым нядоўга утваріць што хочыш.* **Утварыцца** *зак.* 1. Замясіцца (пра цеста для печыва). *Цеста ладна утварілыся, пакушый, якей ладный прісьнок.* 2. Здарыцца. *Калі яшчэ у вас такоя утворіцца, пышча́ды ат мяне ня жджыця.* **Утвораный** *дзеепрым.* 1. Замешаны. *Хлеб у мяне ґ заўтріму утворін.* 2. Зроблены. *Тымі бысіка́мі што хочыш будзіць утворіна.* **Утваромшы** *дзеепрысл.* 1. Замяшаўшы. *Выскычыла ны мінутку, утварёмшы цеста, а тут ужо сыбака хызя́йнічыіць.* 2. Зрабіўшы. *Утварёмшы якую дурату́, ходзюць і сьмяюцца.*

**Утлумліванне** *н.* Моцнае затлумліванне. *Кажный дзень утлу́млівыньня і ўтлу́млівыньня, доўга ён ня будзіць такога цярьпець.*

**Утлумліваць** *незак.* Моцна затлумліваць. *Не, я вас уніму, большы вы мяне утлу́млівыць ня будзіця.* **Утлумлівацца** *незак.* Моцна затлумлівацца. *Паедзіш ты к ім тoлька утлу́млівыцца.* **Утлуміць** *зак.* Моцна затлуміць. *Як утлу́мюць, дык ты ат усяго атрякесься і грошы ні захочыш.* **Утлуміцца** *зак.* Моцна затлуміцца. *Ты знаіш, я як утлумілыся тама зы нядзелю, кінула і паехыла, большы ні мыгла.* **Утлумленый** *дзеепрым.* *Утлу́мліныя ат Ягорывых паехылі, цяперя няскора будуць.*

**Утопацца, утопкацца** *зак.* Стаміцца, тупаючы па гаспадарцы. *Нічога, кажыцца, і ня зьдзелыла, а ўтопылыся*

*большы некуды. А лі двыра усігда утопкыісься, хуць і работы дужа ня відна.*

**Утравець, утравецца, утравянець, утравянецца** зак. Моцна зарасці травой, удзірванець. *Дужа бульба утравела, нада сьпірва вы́пылыць, а тады гыня́ць, ато трыва засы́пліцца і ўзноў зысядзіць. Нілізя дывацьу каб гряды утравеліся, тады зь імі нічога ня зьдзелыіш, ні даполісься. Утрывянела поля, нада вывадзіць і бярёзку, і сьвірепку, і асот, іначы заглу́шыць пасевы і ні сыбяреш нічога. Скарей паліця, утрывянеіцца ячмень, тады прыпадзець.* **Утравелый, утравеўшый, утравянелый, утравянеўшый** дзеепрым. *Ны Рыгалёвым такоя утравелыя поля, што пышаніцы ня відна. Утравеўшый лён, ні ўтравеўшый, а нада ж палоць. Усё ўтрывянелыя, пішы, прыпала. Ета ж нада, штоб тыкая проса утрывянеўшыя у цябе!*

**Утравяніваць** незак. 1. Моцна зарастаць травой, дзірванець. *Пыглядзела я ціріс пляцень: гарод утрывя́нівыіць, а йна і ня думыіць брацца.* 2. Дапускаць зарастанне травой. *Уса́дзьбу нілізя утрывя́нівыць, ты с травы ня вы́лізіш, як зугудзіць.* **Утравяніваццa** незак. Моцна зарастаць травой, дзірванець. *Нада выскырыдзіць хырашо, а посьлі гыня́ньня абыйціць, усё, што аста́лыся, вырвыць, тады і бульба ня будзіць утрывя́нівыцца.* **Утравяніць** зак. 1. Моцна зарасці травой, удзірванець. *Кылы плітня ячмень утрывя́ніў, а на ўзгорку травы дужа німа.* 2. Дапусціць зарастанне травой. *Як запу́сьціш усадзьбу, як утрывя́ніш, дык нічога ні сыбяреш.* **Утравяніцца** зак. Моцна зарасці травой, удзірванець. *Вы самі вінува́ты, самі далі утрывя́ніцца пышаніцы.* **Утравяненый** дзеепрым. *Сёліта за гу́мнымі утрывя́ніный лён, зь ім многа будзіць работы.*

**Утраёх** прысл. Утрох. *Утраёх пыда́ліся за Сож. Заходзюць ка мне утраёх нейкія нізнакомыя мушчыны, я гляджу, хто ета.*

**Утрапліваць** незак. перан. Патрапляць. *Дужа любіць, каб яму ува ўсём утра́плівалі.* **Утрапіць** зак. Патрапіць. *Ня дужа такому злыйдуху́ утра́піш паднесьць, як хвы́ркніць, дык куды там!*

**Утрапліваць, утрапываць, утрэплiваць** незак. перан. неадабр. Нагаворваць. *Уся́кыю лухту утря́плівыюць Пынасёнкывым, калі нічога ні пачуюць, дык прідумля́юць. Як была тута Райцоўна, іна ўсё утря́пывыла ім, а паехыла — і пыцішэла ў дзяреўні. Калі ні пірістя́ніш утреплівыць ны Высілёнка, палучыш баню.* **Утрапаць** зак. Нагаварыць. *Ня бойся ты, Генцыліха нічога ня ўтрепіць. Ця-*

*перя ўжо утрепюць тваёй Кацічкі усяго!* **Утрэпленый, утрапаный** *дзеепрым. Ну аткуля ты знаіш, што утрепліна, яны самі што хочыш выдумыюць. Я знаю, што яму було утріпáна.*

**Утрапыванне, утрапліванне** *н. перан. неадабр.* Нагаворванне. *Ён такей, як ны яго што нáйдзіць: адзін раз ні паверіць ніякыму утрáпывыньню, а калі можыць і паверіць. Як жа мне ныдаела іхныя утрáплівыньня!*

**Утрапываннік** *м. неадабр.* Той, хто нагаворвае, пляткар. *Ня меншый утрáпывыньнік і твой Кузёмка быў, ні хваліся.* **Утрапыванніца** *ж. Ізьвесныя утрáпывыньніца, як ты яе іначы нызавеш. Хведзька разумный мушчына, ніякый утрáпывыньніцы ён ні паверіць.*

**Утрахтовыванне** *н.* Частаванне з імкненнем вельмі дагадзіць. *Як прідзіць Быбарёнык, тады у іх пычынаіцца утрахтовывыньня, ета іх любімый госьць.*

**Утрахтовываць** *незак.* Частаваць, вельмі дагаджаючы. *Гатовюцца Барісывы, будуць утрахтовывыць гасьцей, к вечыру, знаць, пріедуць.* **Утрахтаваць** *зак.* Пачаставаць, вельмі дагаджаючы. *Самі ні знаюць, як утрухтувáць сватоў, два разы у горыд езьдзілі, нечыга куплялі.* **Утрахтаваный, утрахтованый** *дзеепрым. Канешня ж, утрухтувáныя паехылі, так іх Сьціпанёнык ня выпусьціць. Можа ні так, як хацелі, утрахтовыны, нейкій від у іх кіслый.*

**Утрубіць** *зак. перан. неадабр.* З'есці вялікую колькасць. *Сколька пыстáвіла на стол, усё ўтрубілі. Яны і ня столька утрýбюць, толька пыдываць спруўляйся.*

**Утрушчываць** *незак. рэдкайж.* Ламаць, трушчыць. *Ці відзіш, як цялёнык утрýшчывыіць каноплі, а ты дайжа с хаты ня выйдзіш.*

**У́трушываць** *незак.* Пасыпаць, прысыпаць. *Сьняжком утрýшывыіць дарогу, лёд айдзе быў, дык ня відзін.* **Утрушывацца** *незак.* Пасыпацца, прысыпацца. *Як носюцца нoшкі, аціра сыпліцца, сьцёжка утрýшывыіцца.* **Утрусіць** *зак.* 1. Вытрасці ў пасудзіну. *Утрусі усё іс скáцірсьці у шайку.* 2. Пасыпаць, прысыпаць. *Сьняжок пычаў, трошку утрýсіць зямлю. Утрусіў сваю дарожку нейкыю мякіныю і ніякыга сьледу ня відна.* **Утрусіцца** *зак.* 1. Усыпацца пры вытрасанні. *Я ні знаю што, нейкыя сьмяцьцё утрусілыся.* 2. Засыпацца, прысыпацца. *Дарожка ладна утрусілыся, відна, што сена ношына.* **Утрушаный** *дзеепрым.* 1. Усыпаны пры вытрасанні. *Крошык туды нямнога утрýшына, куры пыдзяўбýць.* 2. Пасыпаны, прысыпаны. *Сьнегым усё*

*утрушына, можыш айдзе ў лужыну ускачыць, лёд толька пудунут.*

**Утрывушыць** *зак.* Даць у вуха. *Дыскачыцца, што ўтрівушуць, аж пакоціцца. Яе зяцю тама крепка утрівушылі.*

**Утрылюджыванне** *н. іран.* Балбатня, пустазвонства. *Ён такей, што можыць любому утрілюджывыньню паверіць, усігда жывець чужою гылавою.*

**Утрылюджываць** *незак. іран.* Балбатаць, навязваць глупства. *Нашто вы ім утрілюджывыіця, што ні нада, нашто ім усякыю лухту слухыць.* **Утрылюдзіць** *зак.* Набалбатаць, навязаць глупства. *Што табе тэя гэрчыкі утрілюдзілі, яны ж ня могуць, каб якея пустаты ні ныгыварıць.* **Утрылюджаный** *дзеепрым. Я знаю, сколька ім будзіць утрілюджына, разьві ж Гапкіны могуць іх так выпусьціць.*

**Утрэскывацца** *незак. перан. іран.* Улюбляцца. *Ці ні пычаў ён утрескывыцца у Купряёнкыву дачку?*

**Утужываць** *незак.* Зацягваць тужэй. *Пятлю зьдзелый ны вярёўкі ны нагу і ўтужывый.* **Утужывацца** *незак.* Зацягвацца тужэй. *Трошку пычало утужывыцца, пацісьні яшчэ.* **Утужыць** *зак.* Зацягнуць тужэй. *Ты, знаць, слаба утужыў, нада яшчэ пацісьнуць.* **Утужыцца** *зак.* Зацягнуцца тужэй. *Етый воз ішчэ пырядышна утужыцца.*

**Утукыванне** *н.* Навучанне з настойлівасцю, з прымусам. *Ён дайжа ні пынімаіць твайго утукывыньня, ці ты гаворіш яму, ці каму другому.*

**Утукываць** *незак.* Навучаць настойліва, з прымусам. *Сколька ня ўтукывый, а кылі ўрадзіўся палкыю, нічога ні паможыць.* **Утукаць** *зак.* Навучыць настойліва, з прымусам. *Ці ўтукыла іна свайго мальца, ай расьцець як дыўбня?* **Утуканый** *дзеепрым. Мы знаім, якей ён утукыный.*

**Утул, утулак** *м.* Утульнасць. *І грошы ёсьць, і ён рыбыцяшчый, а неік утулу навесьць іна проста ня ўмеіць, нейкыя нізґраістыя баба. Вы ж трошку утулык у хаці дзелыйця, каб людзі лі вас ні сьміяліся.*

**Утулмачыванне, утлумачыванне** *н.* Растлумачванне. *Ну рыскажы, можа тваё утулмачывыньня ды яго скарей дайдзіць. Такоя утлумачывыньня каго хочыш с толку саб'ець. Ета утлумачывыньня паможыць, як хваробі кашыль.*

**Утулмачываць** *незак.* Растлумачваць, даводзіць да разумення. *Як ні рызьбіраіцца ні ў чом, дык сколька ні утулмачывый, ды яго ні дайдзіць.* **Утулмачыць** *зак.* Растлумачыць, давесці да разумення. *Хуць с трудом, ну Хведзька яму утулмачыў, як прайціць у Равы, кажыцца, пыняў.*

**Утулмачаный** *дзеепрым. Січас утулма́чына, а цірізь мінуту ён ужо забыў.*

**Утуляць, утуліваць** *незак.* Прытульваць, даваць прытулак. *Ні кажный ба так стаў чужога чылавека утуля́ць. Каго іна толька ня ўтýлівыла.* **Утуляцца, утуліваца** *незак.* Прытульвацца, знаходзіць прытулак. *Посьлі пыжару хто айдзе утуля́ліся. Сколька ж ты будзіш утýлівыцца, пры сваю халупіну думый.*

**Утупліванне** *н.* Скіроўванне погляду ўніз. *Ета січас у яго утýплівыньня, як зу руку схвацілі, а другей раз к яму с колым у глотку ня ўлезіш.*

**Утупліваць** *незак.* Апускаць (вочы). *Як што-небудзь зьдзелыіць, тады вочы утýплівыіць і ні глядзіць.* **Утупліваца** *незак.* Скіроўваць погляд уніз. *А як гурочыкі выцірáў, тады ты ня ўтýплівыўся?* **Утупіць** *зак.* Апусціць (вочы). *Ну што яму скажыш, утýпіць вочы і стаіць, хуць грызі яго.* **Утупіцца** *зак.* Скіраваць погляд уніз. *Як вінуват, утýпіцца, слова ат яго ні пачуіш.* **Утупленый** *дзеепрым. Іван яе ўсё нешта угывáрівыў, а іна утýпліныя стыяла.*

**Утуранне, утурыванне** н. Заганянне ў памяшканне. *Ты с такім утуря́ньнім па ўсёй дзяреўні зы цялёнкым будзіш бегыць. Ня дужа воўцы паслухыюць твайго утýрівыньня.*

**Утураць, утурываць** *незак.* Заганяць у памяшканне. *Мы цэлый час мучыліся, утуря́лі авец у новыю пуньку. Іх ні так лёхка утýрівыць вясною у хату, усё гýлі.* **Утурыць** *зак.* Загнаць у памяшканне. *Утурі ў пуню пацьсьвінкыў, ато яны увесь двор піряверныць. Толька ні пірістáньця ірзáць, утурю ў хату і будзіця увесь дзень сядзець.* **Утурыцца** *зак.* Загнацца ў памяшканне. *Пыдажджэць твой цялёнык, січас утýріцца.* **Утураный** *дзеепрым. У яго ўжо коні утýріны ў канюшню, ныкарміў, хызяін.* **Утуромшы** *дзеепрысл. Утурёмшы ў ваду, каровы троху пыстыяць, ні так вадні будуць резыць.*

**Утуркыванне** *н.* Прымушэнне шматразовымі папрокамі, загадамі. *Ліжабоку і ўтýркывыньня ні паможыць, можа, ну другей бок піряверніцца толька. Длі яго утýркывыньня, як ап сьценку гарохым, нічога ні даходзіць.*

**Утуркываць** *незак.* Прымушаць шматразовымі папрокамі, загадамі. *Ня дужа яго лёхка утýркывыць, нейкій зыдаўся як дубіна. Дужа трудна такога неслуха утýркывыць.* **Утуркаць** *зак.* Прымусіць шматразовымі папрокамі, загадамі. *Я дайжа ні падумыла б, што ён такей гультай,*

*Анька чуць утўркыла яго пуню пыбаткнўць. Чуць утўркыла іх дроў пірярезыць, адзін ны крываці выляіцца, другей ны саломі ў пуні і ні за што узяцца ня́ хочуць.* **Утурканый** *дзеепрым. Ён такей, што і ўтўркыный нічога ня зьдзелыіць.*

**Утурлычыванне** *н.* Тлумачэнне, давядзенне да свядомасці. *Ніякыя яму утурлы́чывыньня ні паможыць, ён усігда як выранёнык якей.*

**Утурлычываць** *незак.* 1. Растлумачваць, даводзіць да свядомасці. *Сямёніха пычыла яму нешта утурлы́чывыць.* 2. Задурваць. *Хва́ціць табе іх утурлы́чывыць, яны і так нейкія задўрiныя.* **Утурлычывацца** *незак.* Задурвацца. *Ні хачу я зь ім утурлы́чывыцца, ён ужо ныдаеў мне іс сваімі а што?, а як?, а куды?* **Утурлычыць** *зак.* 1. Растлумачыць, давесці да свядомасці. *Паспробый ты яму штонебудзь утурлы́чыць.* 2. Задурыць. *Яны мяне саўсім утурлы́чылі.* **Утурлычыцца** *зак.* Задурыцца. *Я зь імі як утурлы́чуся, ажно ў гылаве кругі.* **Утурлычаный** *дзеепрым. Нейкій ты як утурлы́чыный ходзіш.*

**Утурмачыванне** *н.* Задурванне доўгай балбатнёй. *Ныдаела мне ета утурма́чывыньня, ні разу ні ў чом зь імі ні рызьбяресься.*

**Утурмачываць** *незак.* Задурваць доўгай балбатнёй. *Ён і так ужо нічога ні сыбрыжаіць, а вы яго яшчэ большы утурма́чывыіця.* **Утурмачывацца** *незак.* Задурвацца ад доўгай балбатні. *Сам утурма́чывыйся зь імі кылі хочыш, а зь мяне хваціць.* **Утурмачыць** *зак.* Задурыць доўгай балбатнёй. *Пысядзіш яшчэ троху, дык яны цябе саўсім утурма́чуць.* **Утурмачыцца** *зак.* Задурыцца ад доўгай балбатні. *Утурма́чысься тута з вамі, вы як несмысьлі якея-то, нічога ні пынімаіця.* **Утурмачаный** *дзеепрым. Ён ужо саўсім утурма́чыный, ні рызьбярець, каторыга з вас слухыць.*

**Утухаць** *незак.* Паступова гаснуць. *Аттуля, ац Стахоўшчыны, агонь утуха́іць, ні такей, як раншы быў.* **Утухнуць** *зак.* Паступова пагаснуць. *Нада зямлёю прісы́пыць, а само няскора утўхніць. Пыдажджом пыд дажджом, пакуля утўхніць.*

**Утушываць** *незак.* Смажыць у закрытай пасудзіне. *Я усігда сваім утўшывыю мяса ў чугунку, яно ажно пудрумя́нівыіцца.* **Утушывацца** *незак.* Смажыцца ў закрытай пасудзіне. *Калі печ натопіш крепка, тады і мяса хырашо утўшывыіцца.*

**Утыкацца** *незак. перан.* Умешвацца, улязаць. *Ты ўсігда утыка́ісься, куды табе лезьць саўсім ні нада.* **Уватк-**

**нуцца** *зак.* Умяшацца, улезці. *А чаго вы туды уваткну́ліся? Пыдыйшлі, ні знаюць, у чом дзела, пра што рызгавор,— не, уваткну́ліся.*

**Утынець** *зак.* Згнíсці ад сырасці. *Пыц саломыю палкі ліжалі, зыцікалі, усё ў мокрым і ў мокрым, утынелі, на дровы аста́лыся парезыць.* **Утынелый, утынеўшый** *дзеепрым. С утынелых плах нічога ні палучыцца. Нескылька утынеўшых гнятоў вы́цігнулі, высыхнуць, дык згыряць у печы.*

**Утэпкывацца** *незак.* Стамляцца, тупаючы па гаспадарцы. *Сілы ў яе дужа німа, дык утэпкывыіцца і лі двыра.* **Утэпкацца** *зак.* Стаміцца, тупаючы па гаспадарцы. *Ты ўжо утэпкылыся, сядзь, пысядзі мінутку, я табе рыскажу пра Усьцінкіных.*

**Ухадзіцца** *зак. перан.* Пачаць ціха пасвіцца (пра жывёлу). *Каровы ухадзіліся ну лужку, можна і прісесьць трошку. Ціляты уходзюцца, скубу́ць, ажно сапу́ць.*

**Ухажорка** *ж.* Каханка. *Нейкыю ухажорку завёў сабе у Забылыцьці, кажныю суботу бегыіць. Памяні.* **ухажорачка**. *Мы знаім тваю ухажорычку, ні атапресься. Ухажорычка мыя, куды ты, туды і я.*

**Ухайдошыванне** *н. жарт.* Забіванне. *А яны ж дужа быяцца твайго ухайдошывыньня, што, як ты расьсердзісься ды кінісься на іх с кулукамі.*

**Ухайдошываць** *незак. жарт.* Забіваць. *Па-мойму, ты зьбіра́ісься Колю Навумчыкывыга ухайдошывыць зы нявесту.*

**Ухакывацца** *незак.* Задыхацца і стамляцца. *Бырazёнку абыйду́ і ўха́кывыюся,— во ікая зь мяне работніца.* **Ухакацца** *зак.* Задыхацца і стаміцца. *Пакуля апцісаў бірьвяно, уха́кыўся, аж духу ні прідьíхыю.* **Ухаканый** *дзеепрым. Бягіць уха́кыный, я ўжо думыла, за ім хто-небудзь гоніцца.*

**Ухаладжыванне, ухалоджыванне** *н.* Ахалоджванне, застуджванне. *Я ухыла́джывыньня дужа баюся, холыдым апхва́ціць — і я ўся. Нашто мне такоя ухалоджывыньня, луччы я у дваре пысяджу́, у цёплым ува ўсём.*

**Ухаладжываць, ухалоджываць** *незак.* Ахалоджваць, застуджваць. *Глядзі, бірягі ногі, ніўдзе ні ўхыла́джывый, ато к старысьці замучыісься. Сяньня ветріна дужа, а я баюся ухалоджывыць сябе, ні пайду ў горыд.* **Ухаладжывацца, ухалоджывацца** *незак.* Ахалоджвацца, застуджвацца. *Нашто яму ухыла́джывыцца, ён і на печы пысядзіць. Ай, усё ўремя ён ухалоджывыўся, дык цяперя і*

*мучыіцца.* **Ухаладзіць** *зак.* Ахаладзіць, застудзіць. *Ухыладзіў ён сябе крепка.* **Ухаладзіцца** *зак.* Ахаладзіцца, застудзіцца. *Каб тама твой ма́ліprintкій ні ўхыладзіўся, ты аднаго яго кінула.* **Ухалоджаный** *дзеепрым. Твае ногі застылі і сам ты увесь ухалоджын, куды табе йціць.* **Ухаладзёмшы** *дзеепрысл. Ухыладзёмшы грудзі, цябе кашыль заб'ець, а то й успаленія схва́ціш.*

**Ухалопіць** *зак. гумар.* Зразумець, усвядоміць. *Ён кылі ухалопіць, усё ўремя будзіць помніць. Ці ўхалопілі вы, пра што гываріў Ліксяёнык?*

**Ухамутаць** *зак. перан.* Моцна ўзяць пад свой уплыў. *Як ухумута́юць Грішчанкі, яны няскора вы́пусьцюць, ат іх вырвыцца дужа трудна.* **Ухамутацца** *зак.* Трапіць пад чый-н. моцны ўплыў, моцна ўблытацца ў непрыемную справу. *Сам ухумута́ўся, а цяперя ні знаіць, як вы́скрісца.* **Ухамутаный** *дзеепрым. Яны ішчэ с прошлыга лета ухумута́ныя.*

**Ухандошыванне** *н. жарт.* Забойства. *Ну й як, ці дужа ты іх зупужа́ў ухандожывыньнім, ай ня крепка?*

**Ухандошываць** *незак. жарт.* Забіваць. *Прізныва́йся, каго вы тута зьбіра́іціся ухандошывыць.* **Ухандошыць** *зак.* Забіць. *Так ты ат іх ня вы́круцісься, яны цябе ухандошуць.* **Ухандошаный** *дзеепрым. А мы думылі, што ты ухандошыный айдзе-небудзь выляісься.*

**Ухарашыванне** *н.* Прыхарошванне. *Ты і біс ухыра́шывыньня ла́дзін, ідзі, ужо вун тубуном ждуць — ніяк ні даждуцца.*

**Ухарашываннік** *м.* Той, хто прыхарошвае. *Глядзі, як узяўся ухыра́шывыньнік, ныря́дзіць сястру як ку́кылку.* **Ухарашываннiца** *ж. Зразу учытырёх бяруцца ухыра́шывыньніцы, січас ні пызнаіш сваю дачку.*

**Ухарашываць** *незак.* Прыхарошваць. *Луччы ўжо, луччы ухыра́шывый, каб усе любуваліся.* **Ухарашывацца** *незак.* Прыхарошвацца. *Хваціць ухыра́шывыцца, і так дужа красівы, ат хлопцыў адбою ня будзіць.* **Ухарашыць** *зак.* Прыхарашыць. *Ого, цябе ўхыраш́ылі як мыладую!* **Ухарашыцца** *зак.* Прыхарашыцца. *Дай ужо ім урремя ухыраш́ыцца, там жа молыдзіжы будзіць дужа многа.* **Ухарашомшы** *дзеепрысл. Ухырашомшы пашлі, не сь кім сустрюкацца будуць.*

**Ухватываць** *незак. перан.* Выхопліваць, спраўляцца ўбіраць. *Мы пряма с-пыд дажджу́ ухва́тывылі сена, толька прівязём, ён як хля́ніць, што німа айдзе дзецца.* **Ухваціць** *зак.* Выхапіць, справіцца ўбраць. *Бульбу нада ухва-*

*ціць ды марозыў. Клевір мы сёліта пыдладзілі ухваціць.*

**Ухітровываць, ухітраць, ухітровывацца** *незак.* Прымудрацца, выкарыстоўваць розныя хітрыкі. *Што ён бярецца ухітровывыць, нічога ў яго ні палучыцца. Ты будзіш ухітряць, што бізь нічога астанесься. Ёсьць і такея, што ухітровывыюцца усігда выгыду пулучаць.* **Ухітраваць, ухітрыць, ухітравацца** *зак.* Прымудрыцца, выкарыстоўваючы розныя хітрыкі. *Во неік жа ухітрувáў, што яго атпусьцілі. Ты так ні сумеіш ухітріць, як Міця Высілёў. Хацеў ухітрувáцца, каб ня ехыць, ды ні пулучылыся.* **Ухітромшы** *дзееепрысл. Ні ўхітрёмшы, нічога ён ні даб'еицца.*

**Ухлюпыванне, ухлюпкыванне, ухлёпыванне** *н.* Запырскванне. *Дужа ныдыідáіць тваё ухлюпывыньня усё дно як ты ня можыш прайціць акурáтнінька. Худзь ба адзін разочык абыйшоўся ты біз ухлюпкывыньня! Кідай усё ухлёпывыньня кылы тазіка, піріпылашчў трошку пазьней.*

**Ухлянуць** *зак.* 1. Раптоўна нацячы, наліцца струменем. *Выда ухлянула ў погріб, такога квасу надзелыла, уся бульба зымякла.* 2 *перан.* Зайсці гуртам. *Як ухляніць чылавек дваццыць, дык табе нейдзі будзіць зь імі мясьціцца.*

**Ухлястыванне, ухлёстыванне** *н.* Настойлівае заляцанне. *Ныўрáд ці палучыцца што-небудзь зь яго ухлястывыньня, Рыманыва дычка зы яго ня пойдзіць. С такога ухлёстывыньня і нічога ня выйшла. Пыглядзім, ці надоўга хвáціць яго ухлёстывыньня.*

**Ухлястываць** *незак. гумар.* Настойліва заляцацца. *Ён зу Кулупаівыю дзеўкыю даўно ухлястывыіць. Ухлястывыў, ухлястывыў, а цяперь дос, рызнырáвілыся.*

**Уход** *м.*, **уходдзе** *н.* Супакой, сунім. *Калі етыя бáлыўнікі уход якей сабе найдуць? Ці будзіць вам сяньня уход ай не? Вы ў мяне палучыця уходзьдзя, крепка палўчыця. Чаго йта вам ніякыга уходзьдзя німа сяньня?*

**Ухожый** *прым.* Такі, якога прымаюць, які мае доступ. *Ты, знаць, быў ухожый к сымамў пану? Сяньня ён ухожый, заўтря няўхожый, яо ні рызьбяреш і ня поймíш. Ён усігда быў ухож к Пынасёнкым.*

**Ухрысціць** *зак. перан. іран.* 1. Аблаяць. *Праскоўіна дычка яго крепка ухрісьціла, пашоў сагнуўшы гылаву.* 2. Ударыць. *Як ухрісьцюць ладна, тады ты атвўчысься пыцскáкывыць.* **Ухрышчоный** *дзеепрым.* 1. Аблаяны. *Ат яе хто хочыш пойдзіць ухрішчоный.* 2. Пабіты, ударaны. *Ён і ўхрішчоный ні каіцца, сваё тваріць.*

**Ухугаваць** *зак. перан.* Даць, вызначыць. *Цёшча яму ухугува́ла нескылька тысіч. Як ухугу́юць штра́ху, тады папрыгыіш.* **Ухугаваный** *дзеепрым. Ухугува́ныя грошыкі быйстра рызыйшліся́, узноў сядзіць біс капейчыны.*

**Ухуджываць** *незак.* Пагаршаць. *Твой масьцір толька уху́джывыіць калёсы.* **Ухуджывацца** *незак.* Пагаршацца. *Січас ні знаю як, а зь месіц таму нызад былі мае там, дык яе здаро́уя уху́джывылыся. Як жа ня будзіць уху́джывыцца пылажэнія, калі яму ніякія помышчы німа.*

**Уцін** *м.* Захворванне спіны. *А хто ж яго знаіць, ач чаго етый уцін прікіда́іцца. Раншы уцін высіка́лі: лажылі чылавека ны парог, ны сьпіну клалі дзірівя́нныю заслонку, бралі пучок саломы, секлі ны заслонкі і прігыва́рівылі: уцін, выхадзі вон, ато пысяку на дробныя кусочыкі, як ету салому.*

**Уціняціць** *зак.* Сэканоміць у малым. *Прося дужа акынамістыя, іна ува ўсём увы ўсякім можыць уціняціць.* **Уціняціцца** *зак.* 1. Сэканоміць у малым. *С хунтым сала уціняцілыся трі дні капусту варіць.* 2. Сэканоміцца ў малым. *Трошку ў мяне уціняцілыся, цягну па крошычкі.* **Уцінячоный** *дзеепрым. Не ўжо, знаць, і ўцінячоныга нічога ў яе ні аста́лыся.*

**Уціх** *м.* Сунім, супакой. *Вы ў мяне палучыця ўціх, як цірісьсядзельнік вазьму. Пры якей ты ўціх гаворіш, кылі на іх бізунчык нада. Льлець і льлець, ніякыга уціху на дождж німа.*

**Уцішанне, уцішыванне** *н.* Суніманне, суцішванне. *Ня дужа балыўнік уціша́ньня пынімаіць. На іх ні такоя уцішывыньня нада, вярёвычку харошыю, тады яны паслу́хыюць.*

**Уцішаннік, уцішываннік** *м.* Той, хто сунімае, суцішвае. *Сярьгеіў уціша́ньнік січас іх пасодзіць на места. На етых былыўнікоў нада уцішывыньнік сь цірісьсядзельнікым, тады яны ася́дуцца.* **Уцішанніца, уцішыванніца** *ж. Сь цябе тыкая самыя уціша́ньніца, як зь мяне, цябе яны тожа столька у рязон возьмуць. Во ны вас толька й нада уцішывыньніца зь мятлою.*

**Уцішываць** *незак.* Сунімаць, суцішваць. *Доўга усё вуюва́ўся, а Праскоўя с Аксютыю уцішывылі яго.* **Уцішывацца** *незак.* Сунімацца, суцішвацца. *Нешта ня ўцішывыюцца твае рыскабойнікі. Як на дзікый казе наезьдзіцца, тады ён станіць уцішывыцца.*

**Уцопыванне, уцопкыванне** *н.* Заквэцванне. *Ня лезь, тута і біс твайго уцопывыньня хвытаіць. Ні люблю я еты-*

*га уцопкывыньня, прецца ў сенцы, а зь яго ажно ка́пыіць.*

**Уцопываць, уцопкываць** *незак.* Заквэцваць. *Каб ты пыткыса́йся, так ба штаны ня ўцопывый. Чаго ты палез новыя сыпагі уцопкывыць!* **Уцопывацца, уцопкывацца** *незак.* Заквэцвацца. *Я ўжо ні хачу туды лезьць, уцопывыцца. Пойдзіця ўцопкывыцца, пысядзіця вы луччы ў дваре.* **Уцопаць, уцопкаць** *зак.* Заквэцаць. *Рукі уцопыў у цеста і за стол лезіць,— ідзі аппыласні! Уцопкыіць штаны пы калені, сяньня саўсім нілізя іціць.* **Уцопацца, уцопкацца** *зак.* Заквэцацца. *Ці ты ні знаіш, у што ён можыць уцопыцца. Узноў у нешта уцопкыўся, нада абмува́ць.* **Уцопаный, уцопканый** *дзеепрым. А чаго яшчэ ты еткій уцопыный, чаго табе було лезьць у грязь? Прідуць уцопкыныя, што ты будзіш дзелыць.*

**Уцургыванне** *н. неадабр.* 1. Даванне без патрэбы, навязванне. *Во-о, дужа мне нада яго ўцу́ргывыньня.* 2 *перан.* Траплянне ў непрыемнасці. *Каторыя ета ў іх уцу́ргывыньня,— якея бізгаловыя ма́льцы: с аднае кашы бацька вы́цігніць — у другую лезуць.*

**Уцургываць** *незак. неадабр.* 1. Даваць без патрэбы, навязваць. *Як дывай Кірею уцу́ргывыць нейкія паношыныя рубашкі, тэй ні знаіць, як атвізацца.* 2 *перан.* Умешваць у непрыемнасці. *Нашто ж вам уцу́ргывыць ма́льцыў ні за што?* **Уцургывацца** *незак.* Трапляць у непрыемнасці. *Мог ба і ня ўцу́ргывыцца у такую куламесу.*

**Уцэла** *прысл.* Уцалік. *Рызыдра́ў пінжак уцэла, быльшая дзірька. Уцэла сарочка разьехылыся ны пліча́х. Ішоў уцэла.*

**Уцю** *выкл.* Выгук, якім адганяюць свіней. *Уцю́ ат карыта! Уцю, ні мішайця, січас нальлю́! Уцю́ ў пуню!*

**Уцюкыванне** *н.* Лёгкае ўбіванне сякеры ў драўніну. *Глядзі с уцю́кывыньнім, як скальзьнець тапор ды пы наге, тады пыякочыш. Балывы́ўся с уцю́кывыньнім, дык сядзіць, нянчыць ляльку: косьць нып ылавіну рыскаціў.*

**Уцюкываць** *незак.* Злёгку ўбіваць у драўніну (пра сякеру). *Астарожнінька ўцю́кывый тапор.* **Уцюкывацца** *незак.* Злёгку ўбівацца ў драўніну (пра сякеру). *Тапор такей тупэй, што ня ўцю́кывыіцца ў бірьвяно.* **Уцюкаць, уцюкнуць** *зак.* Злёгку ўбіць у драўніну (пра сякеру). *Ці ўцю́кыў жа ты тапор, ато ў шчэпкых ні найдзіш. Ні кідай тапор ны зямлю, уцю́кні ў бірьвяно.* **Уцюкацца, уцюкнуцца** *зак.* Злёгку ўбіцца ў драўніну (пра сякеру). *Ладна дзіўбані, дык уцю́кыіцца. Ці крепка тапор уцю́кнуўся? — каб ня вы́вылііўся, дзеці бегыюць, што як каторыму пы*

*наге?* **Уцюкнутый** *дзеепрым. Вун тапор уцю́кнут у штындáру.*

**Уцюрывацца** *незак. іран.* Улюбляцца. *Ён у Пацолтыві ні раз уцю́рівыўся, толька нешта нічога ні выпáлівыла у яго.*

**Уцюхывацца** *незак.* Стамляцца ў хадзе. *Чаго табе етык уцю́хывыцца, ці с тваім здароўім бежч туды ды нызад за столька вёрст.* **Уцюхацца** *зак.* Стаміцца ў хадзе. *Я знаю, пакуля дойдуць, дык ладна уцюхыюцца зь íхныю сілыю.* **Уцюханый** *дзеепрым. Від у яго такей уцю́хыный, як ён толька ны ныгах стаіць.*

**Уцяпліванне, уцепліванне** *н.* Уцяплянне. *Пунькі стáрінькія, іх вецір прудувáіць наскрозь, ня дужа і ўця́плівыньня пымыгаіць. Нада брацца за ўцеплівыньня, ато позна будзіць.*

**Уцяпліваць, уцепліваць** *незак.* Уцяпляць. *Ён хырашо нá зіму уця́плівыіць пунькі, скату зімуваць ні халодна. Хылады находзюць, а ты й ня думыіш хату уцеплівыць, глядзі, зыкалеіш.* **Уцяплівацца, уцеплівацца** *незак.* Уцяпляцца. *Трахім пычынаіць пынямножку уця́плівыцца. Калі ж мне уцеплівыцца, усё ны работу і ны работу.*

**Уцяраблівáць** *незак.* Расцярэбліваць. *Узя́ліся уціря́блівыць дужа скора, ды зы адзін дзень астылі.* **Уцерабіць** *зак.* 1. Расцерабіць. *Так зырасьлі аборкі, што іх ні ўцірябíць.* 2 *перан. гумар.* З'есці. *Хунты два сала уцірябілі, чаго ім ні сьміяцца.* **Уцерабіцца** *зак.* Расцерабіцца. *Ні знаю, калі тута уцяребіцца і ці ўцяребіцца саўсім.* **Уцярэбленый** *дзеепрым.* Расцярэблены. *Кынавы уцяребліныя, чы́сьцінькія сталі, дайжа кышанўць можна.* **Уцерабёмшы** *дзеепрысл. Уцірябёмшы рыспыхалі аблóжку.*

**Уцясаць** *зак.* Апрацаваць часаннем. *Дубіна засохла, што ні ўцісáць, ажно тапор ацскáкыіць, тыкая цьвёрдыя.* **Уцясацца** *зак.* Апрацавацца часаннем. *Глядзі, так табе сухей дуб і ўцешыцца етым тыпаром, ны яго нада каб масьцір тапор навёў.* **Уцясаный** *дзеепрым. Мала уцісáна шула, над ім іщчэ хвáціць работы.*

**Учалянне, учаліванне** *н.* Умешванне, ублытванне. *Ні нада було тута нічыйго учыля́ньня. Каб ня Шуркіна учáлівыньня, усё б нурмáльна абыйшлося.*

**Учалязннік, учаліваннік** *м.* Той, хто ўмешваецца не да месца. *Ні люблю я такіх учыля́ньнікыў, каторыя лезуць куды ні нада. Ніхай ня лезуць учáлівыньнікі, яны самі могуць рызыбрáцца.* **Учалянніца, учаліванніца** *ж. Пыздрáвюць калі-небудзь ету учыля́льніцу, атвýчуць лазіць,*

*куды ні завуць. Січас учáлівыньніца палучыць сваё сколька нада.*

**Учаляць, учаліваць** *незак.* 1. Умешваць, ублытваць. *Ні нада хуць сыной учыляць у ета дзела, сам ужо выпýтывыйся як-небудзь. Сам улез, цяперя Кывалёнка учáлівыіць.* 2. Вымушаць умешвацца, ублытвацца. *Чаго іх сюда учыляіць? Вот нешта ж учáлівыіць ні ў сваё дзела.* **Учаліваццa** *незак.* Умешвацца, ублытвацца. *Усігда учáлівыіцца, куды б саўсім ні нада було, што йта зы натура у чылавека!* **Учаліць** *зак.* 1. Умяшаць, ублытаць. *Ён і другога січас учэліць, во пыглядзіш.* 2. Вымусіць умяшацца, ублытацца. *Нечыга і Сызанковыга учаліла у ету кашу.*

**Учапляцца, учапліваццa, учэпліваццa** *незак.* Чапляцца. *Ні нада було учыпляцца ззаду зы вярёўку. Каторый з вас зу сучкі учáплівыйся? — такую яблынку спорцілі! Пірістаньця учэплівыццa, ато січас пупадзець вам луччы некуды.*

**Учарніліванне** *н.* Запэцкванне чарнілам. *Другей раз сам будзіш рубашку атмувáць, во што будзіць табе зы ўчарнілівыньня.*

**Учарніліваць** *незак.* Запэцкваць чарнілам. *Ты ж хуць рубáшычку ні ўчарнілівый, ато дадумыйся: аб грудзі прымыкáць.* **Учарніліваццa** *незак.* Запэцквацца чарнілам. *У цябе, знаць, само ўсё ўчарнілівыіцца, няўжэлі ты ня можыш акуратней дзелыць.* **Учарніліць** *зак.* Запэцкаць чарнілам. *Ны каго ты паходж стаў, нос учарніліў — ці зыдачкі рішаў носым, ці што ім дзелыў, можа, сьцірáў?* **Учарніліцца** *зак.* Запэцкацца чарнілам. *Чаго ў цябе етык рукі ўчарніліліся?* **Учарнілeный** *дзеепрым. Прыходзіць двору — пінжачок учарніліный, сам вымызыный, во ўчыньнік дык учыньнік!*

**Учарняць, учэрніваць** *незак.* 1. Запэцкваць чорнай фарбай. *Разым крáшыныя адзежы ні кладзі, ні нада учырняць. Ты бяріся, каб рукáвы ня ўчэрнівыць.* 2 *перан.* Прымушаць гараваць. *Балыўствым сваім матку учырняюць. Што йта ён учэрнівыіць дзеўку?* **Учарняцца, учэрніваццa** *незак.* Запэцквацца чорнай фарбай. *Ета таго учырняіцца, што краска някрепкыя. У нікурáтніка усё ўчэрнівыіцца.* **Учарніць** *зак.* 1. Запэцкаць чорнай фарбай. *Учарніў рукі у краску, што ніяк ні атмувáюцца.* 2. Прымусіць гараваць. *Мáльцы бáлыюцца, ня слухыюць нісколічка, саўсім учарнілі яе сваімі дурáмі.* **Учарніцца** *зак.* Запэцкацца чорнай фарбай. *Твыя рубашка збоку учарнілыся, ці атмыіцца іна?* **Учэрненый** *дзеепрым. Вязёнычкі былі чысьцінькія,*

*беліцькія, а цяперя учэрніныя, ажно ну рукý ніпріятна узьдзівáць.* **Учарнёмшы** *дзеепрысл. Бяpi акуратнінька, ато учарнёмшы рукі ні атмыіш.*

**Учарэпываць** *незак.* Зачэрпваць. *Кынчаіцца выда ў сажылкі, нечыга ўжо учарепывыць.* **Учарэпывацца** *незак.* Зачэрпвацца. *Патрошку учарепывыіцца, пы паўкрýжычкі, тута выда кынчáіцца.* **Учарэпаць, учарэпнуць** *зак.* Зачарпнуць. *Схадзі зь вядром, можа, трошку учарепыіш. Учарепнуў вядро, цягну, а тама рыбіна тряпешчыцца.* **Учарэпацца, учарэпнуцца** *зак.* Зачарпнуцца. *Пуўвядзерца ўчарепылыся, і то з глеім. Ні знаю, ці ўчарепніцца сколька-нібудзь, уся выда.* **Учарэпаный, учарэпнутый** *дзеепрым. Сколька ж у цябе учарепына, адна кружка, толька дно закрыта. Учарепнутыю ваду сюда вылівáй.*

**Учаўрыванне** *н.* Паступовае празмернае высыханне. *Якоя табе ішчэ нада учáўрівыньня, усё і так пірясохла.*

**Учаўрываць, учаўрывацца** *незак.* Высыхаць паступова празмерна. *Ці ты учáўрівыць вы́вісіла рубашкі? Нечыга учáўрівыцца тваім уборым, зьнімай.* **Учаўрыць, учаўрыцца** *зак.* Высахнуць празмерна да канца. *Абізацільна дождж нада, зімля учáўріла, нічога ні расьцець. Учáўріліся тваe тряпкі, зьнімаць пыра.*

**Учубучыванне** *н.* Надзвычайны ўчынак. *Якога толька учубýчывыньня зь іх ні тварілыся, усяго було.*

**Учубучываць** *незак.* Рабіць надзвычайнае. *Яны ні мала чаго учубýчывылі, сыбяруцца, бувала, кучыю і пашлі тварíць дуратý.* **Учубучыць** *зак.* Зрабіць надзвычайнае. *Ты ні знаіш, што нашы хлопцы раз учубýчылі у Різанцых?* **Учубучаный** *дзеепрым. Ета нарошня учубýчына, яны ня дужа і скрываюць.*

**Учудзіць** *зак.* Сказаць надзвычайнае. *Ета ж так тады Кандыбывы хлопцы учудзілі! Зь іх ні пытаць, што хочыш могуць учудзíць.*

**Учумачыванне** *н.* Адурманьванне, затлумліванне. *Мне тожа ныдаела яго учумáчывыньня. Ат вашыга учумáчывыньня ажно гылыва баліць.*

**Учумачываць** *незак.* Адурманьваць, затлумліваць. *Адзін плáчыць, другей пішчыць, а ўдваіх у вуглу б'юцца — яны кажный дзень учумáчывыюць.* **Учумачывацца** *незак.* Адурманьвацца, затлумлівацца. *Ні хачу я зь імí учумáчывыцца, сам, кылі хочыш, ідзі і дыгывáрівыйся.* **Учумачыць** *зак.* Адурманіць, затлуміць. *Кывалёнык адзін дзісіцярыx учумáчыць, зь ім толька стань рызгывáрі-*

*выць.* **Учумачыцца** *зак.* Адурманіцца, затлуміцца. *Пабудзь тама пуўдня і ўчума́чысься, ні захочыш іхныга пымыга́ньня.* **Учумачаный** *дзеепрым. Выскычыў ат іх учума́чыный, дайжа забыў, куды двору. Што ты сяньня ходзіш як учума́чыный?*

**Учумленый** *дзеепрым.* Затлумлены. *Ён стаў нейкій учу́млінный ат етыга бегыньня. Чаго вы носіціся як учу́мліныя цэлый дзень?*

**Учыгацца** *зак.* Змарнець. *Скора учы́гыіцца і хворс зь яго спадзець. Учы́гыўся Пітракоў маліц як цюцік.*

**Учыкрыжываць** *незак. жарт.* Рэзаць. *Ты бяресься учыкры́жывыць бруквіну як ныстыяшчый ма́ліц.* **Учыкрыжывацца** *незак.* Рэзацца. *Нешта ў цябе ні так учыкры́жывыіцца як нада.* **Учыкрыжыць** *зак.* Урэзаць, парэзаць. *Краіц засох, што ні ўчыкры́жыць. Бярісь-ка ты, можа, скарей учыкры́жыш.* **Учыкрыжыцца** *зак.* Урэзацца, парэзацца. *Ого, у вас ладна піла учыкры́жылыся.* **Учыкрыжаный** *дзеепрым. Піла учыкры́жына пы самыю сьпінку.*

**Учынаць** *незак.* Заходзіць гуртам. *Яны к ёй кучыю ужо сколька разоў учыналі, усё іна трахту́іць.*

**Учынетый** *дзеепрым.* Разведзены, падрыхтаваны (пра цеста). *Учы́нітыя цеста як-небудзь у печ усодзюць. Ці ў цябе што-небудзь учы́ніта ґ заўтріму ай нічога?*

**Учынка, учынянне** *н.* 1. Развядзенне, падрыхтоўка (цеста). *Доўга ты нешта возісься с учы́нкыю. Яе такоя учыня́ньня — раз палу́чыцца, а другей раз нічога ня выйдзіць.* 2. Разведзенае, падрыхтаванае цеста. *Учы́нка твыя дайжа і ня думыіць пытхадзіць. Зьнімай-ка учыня́ньня сь печы, што зь яго пулучылыся.*

**Учэгнуць** *зак.* Змізарнець. *Біз мылыка еткія пырысяткі учэгнуць. Прігляду за ім дужа ні було, тады ён саўсім учэг.*

**Ушарудзіць** *зак.* Выклікаць актыўнасць, дзейснасць. *Матка яго як ушурудзіла, ён гатоў січас у сваты ехыць.* **Ушарудзіцца** *зак.* Праявіць актыўнасць, дзейснасць. *Ну што, кылі яны ушурудзіліся строіцца, у іх капейкі німа зу душою.* **Ушаруджоный** *дзеепрысл. Ушуруджоный пабег к Сумусёўні, каб ні пысваріўся тама.*

**Ушломаць, ушломкаць, ушлопаць, ушлопкаць, ушлэпаць, ушлэпкаць** *зак.* Увайсці нязграбна. *Ушломыла ў хату і грязі ны калошых прівылыкла́. Ідзі, як-небудзь ушломкыіш наверьх. Чуць ушлопыла ў хату у калошых, дужа вялікі, звалівыюцца з ног. Ідзі, можа ушлопкыіш у сваіх бахілых. Пакуля ушлэпыіш ты ў етых чобытых,*

*дык пыціряць можыш. Ня бойся, ушлэпкыіш як-небудзь.* **Ушломацца, ушломкацца, ушлопацца, ушлопкацца, ушлэпацца, ушлэпкацца** *зак.* Стаміцца тупаючы. *Ушломылыся, што духу ні прідыхыць, пысяджу мінýтычку. Ён тожа ушломкыўся, ніхай трошку пірідыхнець. Ушлопыісься у такіх вáлінкых, уссунь што-нібýдзь ляхчэйшыя. Ушлопкыўся пы скырадзьбе, дай хуць пысяджу нямножка. Куды яму яшчэ у лес ехыць, ён і так ушлэпыўся, чуць жыў. Як ушлэпкыісься, тады толька пру гульню думыць,— тады каб скарей ды пасьцелі дыбрáцца.* **Ушломаный, ушломканый, ушлопаный, ушлопканый, ушлэпаный, ушлэпканый** *дзеепрым.* Стомлены. *Я трошку помню Кывалёвіча: такей ушломыный стырічок хадзіў. Ты ўшломкыный, а я, думыіш, няўшломкыныя, я зымарілыся ня меншы зы цябе. Ён тожа прішоў ушлопыный. Ні хыця будзіш ушлопкыный, кылі дарогі німа ніскoлька. Куды ўжо ён ушлэпыный пыцягніцца у тоя Залесься. Сядзей ушлэпкыный на пні, аддыхай.*

**Ушмаровыванне** *н.* Моцнае зашмальцоўванне. *А біз ушмаровывыньня ты ня можыш зьдзелыць? Як ныдаела ваша ушмаровывыньня!*

**Ушмаровываць** *незак.* Моцна зашмальцоўваць. *Ні нада чыстыя адзежыны ушмаровывыць, тряпіну якую надзень.* **Ушмаровывацца** *незак.* Моцна зашмальцоўвацца. *Ахота ім ушмаровывыцца, хадзіць гря́зными.* **Ушмараваць** *зак.* Моцна зашмальцаваць. *Ушмурувáў штаны ў дзёгыць, іх нічым цяперя ні аччы́сьціш і ні атмы́іш.* **Ушмаравацца** *зак.* Моцна зашмальцавацца. *За дзень ушмурувáўся, увесь чыста у дзёхці.* **Ушмараваный** *дзеепрым. Левый рукаў ушмурувáный ды самыга пліча, а правый толька па локыць.*

**Ушмыгываць** *незак.* Шпарка і непрыкметна ускокваць, уваходзіць. *Чаго ж ёй ушмы́гывыць, кылі іна можыць спакойна зайціць.* **Ушмыгнуць** *зак.* Шпарка і непрыкметна ўскочыць, зайсці. *У норіну мыш ушмыгнýла, сыбака кыпаў і ні дыстаў. Сколька мы стýкылі — ушмыгнýла у хату зычынілыся і голысу ні пыдыла.*

**Ушныпарыць, ушныхарыць** *зак. неадабр.* Знайсці, шукаючы празмерна старанна, пранырліва. *Нічога ён ня ўшны́пыріць, тама нічагенька німа, адны голыя сьцены. Ён думыў, ніізьвесна што ў тых пýніх ушны́хыріць.*

**Ушпарыванне** *н.* 1. Абліванне варам. *Ніякыя ушпáрівыньня ні пымыгáіць, красін пахніць у шаічкі і ўсё.* 2 *перан.* Шпаркі бег. *Во ета ушпáрівыньня, ляціць як пуля!*

3 *перан.* Балючы ўдар пугаю, дубцом. *Калі зыдаўся неслух, дык яму і ўшпарівыньня ні пымыгаіць.*

**Ушпарываць** *незак.* 1. Абліваць варам. *Раншы я разы два на год сьцены ушпарівыла.* 2 *перан.* Шпарка бегчы. *Мы відзілі, як вы ушпарівылі зь Дзянісывыга сыдка.* 3 *перан.* Балюча сцябаць пугаю, дубцом. *Ты яму часьцей пужкі ушпарівый.* **Ушпарывацца** *незак.* Абліваццa варам. *Ці хырашо ж у цябе ушпарівыіцца, большы лі кіпітка, ні жалей.* **Ушпарыць** *зак.* 1. Абліць варам. *Нада бочычку капусныю ушпаріць, скора сеч будзім капусту.* 2. Шпарка пабегчы. *Як ушпарілі ат'етуль, дык ці я іх дыганю, зь імі мыладэй ні зьбягіцца.* 3. Балюча сцебануць пугаю, дубцом. *Рімушка нада ушпаріць зы такоя бальыўства, тады скорінька уніміцца.* **Ушпарыцца** *зак.* Абліцца варам. *Кубіл хырашо ушпаріўся, ніхай на сонцы апсыхаіць.* **Ушпараный** *дзеепрым.* 1. Абліты варам. *Ушпаріный посыд я ішчэ стынаўлю у печ апсушывыцца, тады ён чысьцінькій, ці лі, ці кладзі што хочыш.* 2. Сцебануты. *Ладна яму ушпаріна, хадзіў — толька пачэсывыўся.*

**Ушпіліванне** *н. перан.* Вельмі балючы ўдар пугаю, дубцом. *Дужа ты яму страшын с ушпілівыньнім, ці ты яго зловіш.*

**Ушпіліваць** *незак. перан.* Вельмі балюча сцябаць пугаю, дубцом. *Табе рімушка ні раз ушпілівылі, і ўсё табе мала, ні хвытаіць.* **Ушпіліць, ушпільнуць** *зак.* Вельмі балюча сцебануць пугаю, дубцом. *Яму каб ушпіліў, каб ён трі дні ня сеў, тады б можа трошку уняўся. Сядзь, ато ўшпільнў, што саўесься, ні захочыш большы дурачыцца.* **Ушпілены, ушпільнутый** *дзеепрым. Яму ладна ушпіліна, сядзіць надутый. Ушпільнута, ды мала, яшчэ хочыць, дыбаўкі.*

**Ушпульнуць** *зак.* 1. Шпурнуць і ўкінуць. *Хто йта сюды камлыжку ушпульнуў?* 2. Сцебануць. *Ушпульні яго, каб зьвіўся, іш ты яго, якую дурную прівычку узяў! Я б ні так ушпульнуў, ні так ба ікытаў.*

**Ушпырыванне** *н.* Падганянне, падбадзёрванне. *Нешта і ўшпырівыньня тваё ні пымыгаіць, ляжыць як быбак і пыхрапывыіць.*

**Ушпырываць, ушпыраць** *незак.* Падганяць, падбадзёрваць. *Сколька ня ўшпырівый, а з гультаём справіцца дужа трудна. Храсіньня усё свайго старыга ушпыряла, а ён залезіць на печ і да вечыра ні злазіць.* **Ушпырнуць** *зак.* Падагнаць, падбадзёрыць. *Ня дужа яго ушпырнеш,*

*ён зразу атпор дасьць.* **Ушпырнутый** *дзеепрым. Ён і ўшпырнўтый ня дужа зысьпяшыць.*

**Уштырыванне, уштыранне** *н.* Падколванне. *Як ён толька церьпіць ета уштырівыньня кажный дзень. Уштыряньнім крепка яму дыпікаюць, ныўряд, каб ён доўга вы́дзіржыў.*

**Уштырываць, уштыраць** *незак.* Падколваць. *Сколька ня ўшты́рівый, зь яго як з гуся выда. Ладна ўштыря́лі Сумусёнка, ён усё цярьпеў.* **Уштырыць** *зак.* Падкалоць. *Уштыріш ты етыга гультуя́, ён прівык спаць судкымі і ўсё.* **Уштыраный** *дзеепрым. Ох, як ён патпы́рьхнуў ушты́ріный, зыгареўся увесь.*

**Ушчалепліванне, ушчапеліванне, ушчапеніванне, ушчапуліванне** *н.* Моцнае абшчэпліванне, абніманне. *Мы доўга дзікува́ліся на іх ушчалеплівыньня. Ажно глядзець ніпрія́тна ны яе ушчапелівыньня. Я каб была яе маткыю, ныла́іла б бакі́ за ета ушчапенівыньня. Ні знаю, ці надоўга іхныя ушчапенівыньня. Ныт тваім ушчапу́лівыньнім ажно сьмяюцца, пірістань ты ны яго чыпля́цца.*

**Ушчалеплівацца, ушчапелівацца, ушчапенівацца, ушчапулівацца** *незак.* Моцна абшчэплівацца, абнімацца. *Усё ушчалеплівылыся зу Кузьмовыга сына, а тэй узяў ды ну другой жаніўся. Во-о, тыкая бясссты́жыя будзіць прінародня ушчапелівыцца на хлопца. Так ушчапенівыцца дайжа нікрасіва. Цэлый год ушчапенівылыся іс Клімывым сыным, а замуж зу другога пышла. Хва́ціць табе зы яго ушчапу́лівыцца, ніхай бягіць, дыгыня́іць сваіх.* **Ушчапеліцца** *зак.* Моцна ўчапіцца, абняць. *Ушчапелілыся зы Бырысёнка, што ні атырваць було, чуць ацьцягну́лі.*

**Ушчамлівацца, ушчэмлівацца, ушчамляцца** *незак. перан.* Улязаць, дабівацца ўдзелу. *Чаго яму яшчэ ушча́млівыцца куды ні нада, ніхай вун на вуліцы гуляіць з ма́лымі. Мушчыны сідзяць, рызгыварівыюць, і ён туды ушчэмлівыіцца. Узноў ушчымля́іцца сюда, бізь яго тута ні абойдзіцца.* **Ушчаміцца** *зак.* Улезці, дабіцца ўдзелу. *Чаго ён сюда ушчамі́йся, выгынь за дзьвері.* **Ушчамёмшы** *дзеепрысл. Сядзеў ушчамёмшы, слухыў разінуўшы рот, пра што яны гыварілі.*

**Ушчапляць, ушчаплівать, ушчэпліваць** *незак.* 1. Вешаць чапляючы. *Ні нада ушчыпля́ць больша на етый крюк. Сколька ты сюда будзіш ушча́плівыць? Ты ж наверьх ушчэплівыў нейкія вярёўкі.* 2. Прышчапляць. *Мае ні старік, ні Хведзька ня ўмелі ушчыпля́ць яблынык. Заўтря буду яблынкі ушча́плівыць, харошых сучкоў ат-*

*резыў. Калі хто ушчэплівыіць яблынкі, ігрушкі, ета хырашо, дыстаў харошых сучкоў і прішчапіў.* **Ушчапляцца, ушчапліваццa, ушчэпліваццa** *незак.* Прышчапляцца. *Не, ў мяне дзічкі ішчэ ні ўшчыпляліся. Ці будуць етыя тваe дзічкі ушчапливыцца? Дзьве штучкі ушчэплівыліся — ні прінялiся, ссохлі.* **Ушчапіць** *зак.* Прышчапіць. *Ушчапіў яблыну ны два сарты, абоя сучкі прінялiся, растуць.* **Ушчапіцца** *зак.* 1. Зачапіцца. *Зу сучок вярёўка ушчапілыся і ні сарьвеш, нада лезьць аччапливыць.* 2. Прышчапіцца. *Ушчэпюцца твае дзічкі, ішчэ няпозна.* **Ушчэпленый** *дзеепрым.* 1. Зачэплены. *Вожкі ушчэпліны, вешый, што хочыш, усе тряпкі тваe памесьцюцца.* 2. Прышчэплены. *Кылы плітня сядзіць у яго нескылька ушчэпліных яблынык.* **Ушчапёмшы** *дзеепрысл.* 1. Зачапіўшы. *Ушчапёмшы вярёўку, цэлый дзень гуташыюцца.* 2. Прышчапіўшы. *Ушчапёмшы ладный сорт, дажджэсься яблык.*

**Ушчарблянне, ушчэрбліванне** *н.* Вышчарблянне. *Ны ўшчырбляньня ж ты лапіка ні пыкладзеш. Дасьць табе бацька за ўшчэрблівыньня.*

**Ушчарбляць, ушчэрбліваць** *незак.* Вышчарбляць. *Нілізя ушчырбляць касу, палучыш за ета, клявец. Сядзеў, куваў — ножык ушчэрблівыў твой куваньнік, во што дзелыў.* **Ушчарбляцца, ушчэрбліваццa** *незак.* Вышчарбляцца. *Сярпы тожа ушчырбляюцца, як дужа старыя. Доўга жыў ножычык, ажно лязо пычало ушчэрблівыцца.* **Ушчарбіць** *зак.* Вышчарбіць. *Усё дно як хто нарошня ушчарбіў лязо.* **Ушчарбіцца** *зак.* Вышчарбіцца. *Такей войстрый кырначык быў і ўшчарбіўся.* **Ушчэрбленый** *дзеепрым.* *Ушчэрбліным нажом резыць дренна, вазьмі новый.* **Ушчарбёмшы** *дзеепрысл.* *Ну ўшчарбёмшы ці ні ўшчарбёмшы, а жала ў касе пырвана, пряма выбіт кусочык.*

**Ушчасціць, ушчасціцца** *зак.* Пашанцаваць, пашчасціць. *Ушчасьціла яму ету каройку купіць, іна дужа малошныя. Як ні пывязець, як ні ўшчасьціцца, дык яно ні ў чом тыланіць ня будзіць.*

**Ушчучыванне** *н.* Заставанне, засяванне на месцы. *Нічыйго ён ушчучывыньня ні баіцца, ён зь любымі сьпяцьцю справіцца.*

**Ушчучываць** *незак.* Нечакана заставаць, захопліваць на месцы. *Ета ж яны прісeлі за кусьцікі, зьбіраюцца ушчучывыць Высілёвыга мальца.* **Ушчучыць** *зак.* Нечакана застаць, захапіць на месцы. *Ну, толька ўшчучу, я табе пыкажу мідунічкі! Яны цябе як ушчучылі, толька пайдзі*

*адзін.* **Ушчучаный** *дзеепрым. Пыглядзім, што ён скажыць ушчу́чыный.*

**Ушчычанне, ушчычыванне** *н.* Заштукоўванне. *Усё рызгнілося, ні пымыгаіць і ўшчычáньня. Буря ніізьвесна ікая бушувáла усю ноч, усё тваё ушчычáньня пывыбівала. Посьлі ушчы́чывыньня зыхацеў есьць. Каб хырашо рукі пріложыў, яно б і ўшчы́чывыньня дзіржалыся б як нада.*

**Ушчычаннік, ушчычываннік** *м.* Той, хто заштукоўвае. *Етыя ушчычáньнікі як возьмуцца, дык зьдзелыюць. Нешта мае ушчы́чывыньнікі сяньня падленівыюцца.* **Ушчычанніца, ушчычыванніца** *ж. Стыряіцца ўшчычáньніца, хочыць зы раз усё кончыць. Ты сыма харошыя ушчы́чывыньніца, нашто табе каго прасіць.*

**Ушчычаць, ушчычываць** *незак.* Заштукоўваць. *Пычаў ушчычáць, а тады гаворіць, сьпіна баліць, зьлез. Хведзька ны зіму́ крепка ушчы́чывыіць пунькі, усюдых пыбаткнець, папторкывыіць.* **Ушчычацца, ушчычывацца** *незак.* 1. Заштукоўваць. *Сяньня старэй лі пунік вазіўся, ушчычáўся. Позна хваціўся ушчы́чывыцца, як са ўсіх бакоў зудуло.* 2. Заштукоўвацца. *Што, сам пляцень ні ўшчычáіцца, нада рукамі брацца? Позна хваціўся ўшчы́чывыцца.* **Ушчыціць** *зак.* Заштукаваць. *Калі ґ зіме усё ўшчыціш, дык ні прыгыдáіш, кýдыса як падніміцца, усюдых напрець, надмець.* **Ушчыціцца** *зак.* 1. Заштукаваць. *Крепка ушчыцілісся, ім цяперя зіма ні страшна.* 2. Заштукавацца. *Ета пуня ў цябе ладна ушчыцілыся.* **Ушчычаный, ушчычоный** *дзеепрым. Ці куря́м бальшэя дзірькі нада, яны і ціріз ушчы́чыный пляцень пралезуць і пырызгрібáюць гряды. Затулы ня дужа ушчычоны, сільным ветрым можыць пывыбівáць.* **Ушчыцёмшы** *дзеепрысл. Ушчыцёмшы пацстрешша, спыкайней будзіш зімуваць, сьнег шчышчáць кажный дзень са столі ня прідзіцца.*

**Ушчэп, ушчэпак** *м.* Прышчэп. *У Антона многа ушчэпыў, ета ён ні сабе, відна, прыдываць будзіць. Адзін ушчэпык уторнуў, ніхай тарчы́ць. Памянш.* **ушчэпік, ушчэпчык.** *Я баюся, ці прімуцца яго ушчэпікі, ён яшчэ ня дужа умеіць ушчыпляць. Ушчэпчыкі хырашо пашлі росьць.*

**Ушывец** *м. абраж.* 1. Вашывец. *Ушы́віц ты, ны табе ж кызяўкі пы пырасёнку поўзыюць.* 2 *перан.* Забіяка. *Ого, якей ушы́віц, к кажныму чыпляіцца.*

**Уюджыванне** *н. неадабр.* Каварнае нагаворванне. *Як табе ні ныдаесьць яго уюджывыньня слухыць, ён жа усё нарошня ныгывáрівыіць.*

**Уюджываннік** *м. неадабр.* Той, хто каварна нагаворвае. *Пасьледній уюджывыньнік твой Кузёмка, во хто ён.* **Уюджываннiца** *ж. Во яшчэ была уюджывыньніца, ёй ні аднаму слову нілізя було веріць.*

**Уюджываць** *незак. неадабр.* Каварна нагаворваць. *Як вам ня стыдна усякыю лухту уюджывыць чылавеку! Бырісоўна ім уюджывыла пры Міхяёнкывых.* **Уюдзіць** *зак.* Каварна нагаварыць. *Што йта зы чылавек, што яму уюдзюць, і ён усьлед як грак пухтыряіць.* **Уюджаный** *дзеепрым. Учора яны удваіх зь ёю стыялі, я знаю, што ім було уюджына.*

**Уязджаць** *незак. перан.* Убівацца (пра стрэмку). *Як шчэпкі бяреш, нада дужа астарожна, ато скабкі уіжджаюць. Пычыла рыскалупывыць, каб дыстаць скабку, а іна глубачэй уіжджаіць.* **Уехаць** *зак.* Убіцца (пра стрэмку). *Скабка кыла нохця уехыла, ды дужа глубока, ніяк ні дыстану.*

**Уялчэць, уялчэцца** *зак.* Зрабіцца ёлкім. *Пару кусочыкыў сала ляжыць, яно дужа уялчэла. Мяса як уялчэіцца, дзелыіцца нісмашным.* **Уялчэлый** *дзеепрым. Уялчэлыя сала нялоўка дываць, унясі кусочык сьвежыга.*

# Х

**Хаванне** *н.* Пахаванне. *Посьлі хуваньня яны пысядзелі нямнога і рызыйшліся. Цяжолыя було хуваньня, плаку дужа многа, бацьку ат малых дзяцей цяжола хуваць.*

**Хадала** *прысл.* Ходу, наўцёкі. *Відзіць, што ні пылыса, дык ён скарей хыдыла аттуля. Даў хыдыла, толька пяткі зыблішчэлі.*

**Хадатальства, хадатальстваванне** *н.* Хадайніцтва. *Во відзіш, ні пымагло нісколька і Антончыкыва хыдатыльства. Ніхто ў яго хыдатыльствых ні нуждаіцца. Раз вінуват, дык якоя можыць быць хыдатыльства. Кылі трошку паможыць, то толька Кісялёнкыва хыдатыльствывыньня.*

**Хадатальстваваць** *незак.* Хадайнічаць. *Па-мойму, яны ні зьбіраюцца хыдатыльствывыць. Каб хыдатыльстывыў, можа б што і пымагло.*

**Хаджэннік** *м.* Той, хто ходзіць. *Што вы, хаджэньнікі, выхыдзілі, відна, с пустымі рукамі вярнуліся. Рысказывылі етыя хаджэньнікі, што іх тама слухыць ні зыхацелі.* **Хаджэнніца** *ж. Сядзелі хаджэньніцы ны бірнушках, аддыхалі посьлі дарогі.*

**Хазяйліва** *прысл.* Гаспадарліва. *Хведзька усігда хызяйліва зьдзелыіць. Разьві ета хызяйліва скошына? — трыва пыт пакосымі, што прівязывыць можна.*

**Хазяйлівасць** *ж.* Гаспадарлівасць. *Ні було ў яго хызяйлівысьці і ня будзіць, усігда нейкій як веціp.*

**Хазяйлівый** *прым.* Гаспадарлівы. *Высіліса была дужа хызяйлівыя, біспырядку ў яе ніхто ня відзіў. Каб ён быў хызяйлівый чылавек, зь ім ба жыць можна було.*

**Хай** *м.* Крык, лямант. *Малыя хай як узьнімуць на вуліцы, гылыгыляць, што усё кругом тряшчыць. У малых столька хаю німа, як у вас, у бальшых.*

**Халадак** *м.* Неакуратны, недагледжаны чалавек. *Нейкій хылыдак із-зу Дубровы ныбіваўся у зяці. Ой, падруга дырыгая, твой мілёнык хылыдак, яго белыя рубашка ні сьціралысь нікыгда.*

**Халадзіна** *м.* і *ж.* Моцны холад. *Такей хыладзіна, а ён у пінжачку выскычыць і выскычыць, ну й пытхваціў прастуды. Ікая сяньня хыладзіна — ня вытрывыць!*

**Халайдра** *м.* і *ж.* Балбатун, хвалько, самахвал. *Узмацн.* **халайдрына.** *Ні рысказывый ёй нічога, ета ж хылайдріна нісусьветныя, што хочыш і айдзе хочыш ляпніць. Павеліч.* **халайдрышча**. *Хылайдрішча як пасьледнія баба, тольк знаіць ізыком тріпаць, большы нічога.*

**Халамідзішча** *ж.* Вялікі, нязграбны рызман, лахман. *Ішоў тутыцька раз, на ём нейкыя хыламідзішча ў палосы, пряма страшныя.*

**Халасцякаванне** *н.* Халасцяцкае жыццё. *Хылысьцікуваньня — ета адно балыўства. Якей толк зь яго хулусьцюкуваньня.*

**Халасцякаваць** *незак.* Жыць халасцяком. *Хваціць хылысьцюкуваць, пыра ачылавечыцца. Усё хылысьцякуіць, гаворіць, ішчэ нявеста ні радзілыся.* **Халасцякавацца** *незак.* Жыцца халасцяком. *Як яму тама хылысьцякуіцца, можа, ныдаела ўжо?*

**Халасцячка** *ж.* Незамужняя жанчына, дзяўчына. *У яе дычка хылысьцячка, ні замужым, ня дужа хто яе разгоніцца браць. Куды-то ныкірувалыся хылысьцячка Пуўлюкоўніна.*

**Халерашнасць, халернасць** *ж.* Вялікая нястрыманасць, нявытрыманасць. *Халерышнысьць зывіряіцца ў чылавеку, куды ні пыкажыцца, што ды што вытвырыць. Ну й халернысьці ж у ём, так і прець ны кажным шагу! Ні прідумыць, куды халернысьць сваю дзівацць.*

**Халерына** *м.* і *ж.* Вельмі нястрыманая, нявытрыманая

асоба. *Чаго ён такей халеріна, ні ў чом яго ні піряпреш. Знаіш, ікая іна халеріна, проста зь ёю ні згаворісься.*

**Халерыя** 1 *ж.* Вялікая нястрыманасць, нявытрыманасць. *Сядзіць у ім нейкыя халерія, ніхто яму ня выгыніць.* 2 *м.* і *ж.* Вельмі нястрыманая, нявытрыманая асоба. *Халерія мушчына, усё сваю мыладосьць ні зубуваіць. Ета халерія была дзеўка, кажныга ўмела нысьмяшыць.*

**Халодный** *прым.* Халодны. **Халодный масцер (майсцер).** Няўмелы выканаўца. *Відна, што ета плёў халодный мáсьцір. У вас тожа такей халодный мáйсцір ёсьць. Работу халодныга мáйсьціра зразу пызнáіш. Памяниш.* **халодненькій, халодненечкій.** *Ня пі халодніынькія вадзічкі, горла прастýдзіш, будзіць балець. Іс погріба дыстала квасу, ён халодніпічкій.* **Халаднаватый.** Халаднаваты. *Ці ні хулуднувáтыя мылако, луччы пыдагрей, а тады ўлі. Памяниш.* **халаднаваценькій, халаднаваценечкій.** *Хуць і сонца, а віцярок хулуднувáцінькій, здорыва прыбірáіць. Хулуднувáцінічкыя ўремя патходзіць, кончылыся лета. Узмацн.* **халадненный, халаднюшчый.** *Хваціліся за рукі, дык яны хыладненныя, як ён толька ні абмарозіўся. Такую хыладнюшчыю ваду нілізя хвытáць, зразу горла прастудзіш і голыс сядзіць.*

**Халупа, халупіна** *ж.* Халупа, старая хата. *Ён ішчэ думыіць сваю халýпіну прыдываць і пірііжджаць у горыд. Памяниш.* **халупка, халупачка, халупінка, халупіначка.** *Самі субугорілі халýпку посьлі вайны і жылі гадоў пяць, а тады ету хáччыну пастроілі. Німудренькыя халýпычка была ў іх, стыяла кылы рыўкá на ўзгорычку. Нічога с тае халýпінкі ня зьдзелыіш, іна стáрінькыя, рýхніш — і пасыпліцца. Іхныя халýпінычка чуць дзяржыцца, праўда, лесу навожына пырядышныга, вясною будуць рубіць.*

**Хамуйла** *м.* Хамула, грубая, некультурная асоба. *Хамýйлу нейкыга прівялі: во вам зяць будзіць. Як ты к людзям с такім хамýйлыю выйдзіш! Павеліч.* **хамуйлішча.** *Зыдáўся хамýйлішча, такога ні пірядзелыіш, із-зы яго і маткі стыдна.*

**Хамут** *м. перан. абраж.* Нявыхаваны чалавек. *Во хамут жывець на сьвеці, толька людзі сьмяюцца. Хамýт ты, большы ніхто. Павеліч.* **хамуцішча.** *Якей жа ён хумуцішча, усё дно як у дзікім лесі рос і людзей у вочы ня відзіў.*

**Харахоненне, харахоранне** *н. іран.* Задаванне. *Ліксандра ні пыглядзіць на іхныя хырахонініньня, жыва баню ат*

*яго палу́чуць. А што мне Іваныва хырахоріньня, я зы яго замуж ні зьбіраюся.*

**Харахоненнік, харахораннік** *м. іран.* Той, хто задаецца. *Ніхто ні на́йдзіцца вы́стрыміць таго хырахоніньніка. Абоя адзіна́кывыя хырахоріньнікі, і большый, і меншый.* **Харахоненніца, харахоранніца** *ж. Гыварілі, што дужа была хырахоніньніца, цаны-меры сабе ні знала, мы яе ня помнім. Некыму апсеч етых хырахоріньніц, яй-богу некыму.*

**Харашэнечка** *прысл.* Вельмі добра, пільна, уважліва. *Хырашэнічка зла́зілі ў сад: біш штанёнык прібег двору, ну я ўжо ні пайду прасіць, сам ідзі. Ты ж хырашэнічка пыглядзі, можа, айдзе ў тряп'е зывыля́ўся ножык.*

**Харашэнне** *н.* Прыхарошванне. *Нічога ні пулучы́лыся с Тымаркіныга хырашэньня: ні прішоў Косьцік. У цябе хырашэньня, як у кошкі.*

**Харашэннік** *м.* Той, хто прыбіраецца, прыхарошваецца. *Пірід вічарінкыю ў хырашэньнікыў многа заботы, адно пыцстрыга́ньня чаго стоіць.* **Харашэнніца** *ж. Ныгла́джывыюцца хырашэньніцы, чупуря́цца, ныска́чуцца сяньня уволю.*

**Харкануць** *зак.* Харкнуць. *Ай, ну яго, дужа нікура́тный, як хырканець — айдзе пупала.*

**Хармузна, хармузіста** *прысл. жарт.* Зграбна. *Ты зьдзелыіш ікраз так харму́зна, як Мікіпырёнык. Харму́зіста ў яго ні палучыцца нічога, ні такей ён масьцір. Памянш.* **хармузненька.** *Хвядон сам харму́зьнінька умеў мысьцяріць.*

**Хармузнасць, хармузістасць** *ж. жарт.* Зграбнасць. *Нешта харму́знысьці твайму тубуреціку ні хвытаіць, зьбіў як козлы. Ты ні глядзі на іхныю харму́зістысьць, на етых калёсых патроху будзіш вазіць.*

**Хармузный, хармузістый** *прым. жарт.* Зграбны. *Хацеў ты, каб у такога масьціра харму́зный услон пулучы́ўся! Можа калі-нібудзь і ты быў харму́зістый, ды толька спорціўся. Памянш.* **хармузенькій.** *Харму́зьнінькія скамеічкі зьбіў, дайжа садзіцца можна.*

**Хароміна** *ж.* Вялікая і багатая хата. *Ныпряёнык сабе ныстыя́шчыю хароміну ставіць. Ого стаіць хароміна, у такіх толька паны раншы жылі. Памянш.* **харомінка.** *Нічога харомінка, можна мыладую жонку весьць.*

**Харчэнне** *н.* Харчаванне. *Ты ж ны харчэньня кідай сабе грошы. Харчэньня яму дорга ня стоіла.*

**Хата** *ж.* Хата. *Памянш.* **хатка, хатачка.** *Як у сваю*

*хáтычку улезіш, тады ўжо спакоін. Што тая хáтычка, калі німа родныя мáтычкі. Зніж.* **хатчына, хаціна**. *Біс сваé хáччыны якей жа ты жыціль. Прыдывацъ хаціну ня думый, ніхай стаіць. Памянш.-зніж.* **хатчанка, хатчонка, хатчаначка, хатчоначка, хацінка, хаціначка, хацёнка, хацёначка**. *Я помню іхнюю хáччынку, стыяла туды, к лесу, сенцы нібальшэя былі пріпя́ты. Пры сваю хаччонку нада патроху думыць, пу чужых вуглах век цігацца ня будзіш. Мáлінькыя хáччынычка, ну чысьцінька, акурáтнінька усё падмыта, прібрáджына. Каб харошый мужык плячом пыдвярнýў, ета б хаччонычка пыляцела. Усё збылі, хацінку прыдáлі, паехылі, нічога ні асталыся, калхоз усядзьбу зысівáіць. Яны доўга у стáрінькый хацінычкі жылі, пакуля на луччыю узьбіліся. Старёнычык хацёнка стыяла кылы самыга балота. Віктыр усё гразіў іхнюю хацёнычку рузуріць: баб, плячом пыдлягу і пірівярну, во што, баб, вам будзіць.* **Хацішча** 1 *ж. Павеліч. ад* хата. *Нашто вам еткыю хáцішчу рызвадзіць, ці вы ўдваіх у жмýркі у ёй гуляць будзіця, ці што.* 2 *н.* Месца, дзе стаяла хата. *Нічога тама ні асталося, дайжа хáцішча рыспыхáлі, голыя поля. Кылы Аўдзеіхіныга хáцішча многа маліны расьцецъ.*

**Хаўканне** *н.* Кароткае гучнае дыханне. *Мы ўсю ноч слухылі яго хáўкыньня, дайжа быяліся ў бальніцу везьць.*

**Хаўкаць** *незак.* Каротка гучна дыхаць. *Ну, кылі хáўкыіць троху, ніхай ляжыць, ні нада трівожыць.* **Хаўкацца** *незак. жарт.* Дыхацца. *Як табе на печы, хáўкыіцца нямножка?* **Хаўкнуць** *зак.* Каротка гучна дыхнуць. *Ты січас зьляціш, што й хáўкнуць ні пасьпеіш. Хáўкнуў разы два дый заціх.* **Хаўкнуцца** *зак.* Дыхнуцца. *Так скыканеш, што табе й ні хáўкніцца.*

**Хаўрусаванне, хаўрусні́чанне** *н.* Цесныя адносіны з несумленнай кампаніяй. *Ні дывядзець ды дыбра ета хаўрýсывыньня, у якую-нібудзь пагібіль самі ўскочуць і яго с сабою увылакýць. Скора іхныя хаўрýсьнічыньня кончыцца, тыкая дружба ні надоўга.*

**Хаўрусавáць, хаўрусавацца, хаўруснічаць** *незак.* Мець цесныя адносіны з несумленнай кампаніяй. *Доўга яны хаўрýсывыць ня будуць. Крепка хуўрусувáлі нескылька гадоў, а тады дружба рыспáлыся. Хуўрусувáўся ж с тымі падлізьнікымі, с Кындрацёнкымі. Яны нядоўга хаўрýсьнічылі. Мы знаім, посьлі чаго яны сталі хаўрýсьнічыць.*

**Хахатун, хахатуннік** *м.* Ахвотнік пасмяяцца. *Во хыхатýн зыдáўся, усюдых яму сьмешна. Ета ўжо чýцін Андрэі-*

*хін хыхатýньнік, нечыга зыліваíцца кыла вербыў. Памянш.* **хахатунок, хахатунчык, хахатунчычак, хахатунічак.** *Ох, хухутунок мáліенькій, лю́біць, каб зь ім зубуўляліся. Во рызыйшоўся хыхатýнчык, як яго цётка нысьмяшыла, ажно есьць ня можыць. Паслýхый, паслýхый, хыхатýнчычык, што дзед рыскзывыіць. Ну рыскажы казку етыму хыхатýньнічку, ён жа сьмяецца, ажно зыліваíцца.* **Хахатуха, хахатунніца** *ж. Калі-то хыхатýхі былі, а ўремя прайшло і ўсё атыйшло. Нешта нашы хыхатýньніцы усё ўремя кіснуць зы шкапым. Памянш.* **хахатушка, хахатушачка.** *Сьціхніця, хыхатýшкі, паслухыйця, што чылавек рыскáзывыіць. Зыдылáся хыхатýшычка ні пы бацьку, ні пы маткі, як гаворюць, ні ў маць ні ў аццá, а ў праеждажыга мылыйцá.*

**Хахканне** *н.* 1. Стомленае ўздыханне. *Не, хáхкыньня ні паможыць, нада кыпаць, ды й сьпяшыць нада.* 2. Спачувальнае ўздыханне. *Цяперя ў яе хáхкыньня, а што йна два дні таму нызад пёрла ны яго.*

**Хахканнік** *м.* 1. Той, хто стомлена ўздыхае. *Не, мае хáхкыньнікі, работыць нада яшчэ большы.* 2. Той, хто спачувальна ўздыхае. *І тэя хáхкыньнікі пыстыялі, пукруцілі галовымі.* **Хахканніца** *ж.* 1. Тая, што стомлена ўздыхае. *Развохкыліся хáхкыньніцы, селі і ні пыдняліся, нямножка лёну астáлыся, ні пыднялі.* 2. Тая, што спачувальна ўздыхае. *Хáхкыньніц многа сыбрáлыся, а помышчы ат іх ніякія німа.*

**Хахкаць** *незак.* 1. Стомлена ўздыхаць. *Нечыга хáхкыць, ты ішчэ ныстыяшчыя работы ня віздіў.* 2. Спачувальна ўздыхаць. *Позна хáхкыць, кылі зьдзелыць нічога нілізя, пра што вы раншы думылі, куды глядзелі.* **Хахкацца** *незак.* 1. Стомлена ўздыхацца. *Нешта вам за дзьве мінуты пычало хахкыцца.* 2. Спачувальна ўздыхацца. *Што ж, што хáхкыіцца, нічога ні паможыш.* **Хахнуць** *зак.* 1. Стомлена ўздыхнуць. *Хáхнуў і грябі, ці віздіш, ікáя туча находзіць.* 2. Спачувальна ўздыхнуць. *І Домніна дычка пыдыйшла хáхнула.*

**Хахоліна** *ж.* Чупрына, клок валасоў. *Хахоліну сваю ніяк ні рашчэшыць. Хахоліна тарчыць у бок, прімáсьлі, каб ліжала. Памянш.* **хахолінка.** *Ты ны яго ныгнáў страху, ажно хахолінкі узьнімáюцца.*

**Хаянне** *н.* Знеслаўленне. *Ніхто вашыга хáіньня ні спужайся. А ну іх зь іхнім хáіньнім, мы і ні такога наслухыліся.*

**Хварасціна, хварасцініна** *ж.* Асобная доўгая галіна,

ссечанае або зламанае дрэўца з галінамі. *Нада було ацьсеч нескылька хвырасьцін пацьсена, ніхай ба зывялі. Ездзіць, а ўсьлед за ім хвырасьцініна цягніцца, мяцець дарогу. Памянш.* **хварасцінка, хварасціначка, хварасцінінка**. *Хвырасьцінкі нада було б заторнуць ад гряд, куры б меншы лазілі ны гарод. Тыкая хвырасьцінычка тута ні паможыць, нада што большыя ацьсеч. Нескылька хвырасьцінінык ляжыць кылы плітня, Ягорька прінёс. Павеліч.* **хварасцінішча.** *Во хвырасьцінішча, такіх трёх пуд увесь стог хваціць пыдысла́ць.*

**Хвароба, хваробіна** *ж.*, **хварабінне, хваробінне** *н. перан. груб.* Незразумелае, невытлумачальнае жаданне, памкненне, выяўленне. *Хвароба нейкыя зь ім тваріцца, чаго ён хочыць, ні знаю. Хвароба іх знаіць, айдзе яны цігаюцца. Хваробы ён хочыць, твой кум. Чаго яго тамыцька хваробіна рызьбіра́іць с крікым зь нісусьветным. Якога яны тут хвырабіньня находзюць, етыя куры? Во ўелыся хваробіньня ў чылавека, ніяк успакоіцца ня можыць. Павеліч.* **хваробішча**. *Хваробішча іх ведыіць, што яны задумылі.*

**Хварсун** *м.* Франт, фарсун. *Тута ні такея хвурсуны́ хадзілі, як ты.* **Хварсуння** *ж.* *Ты хуць ня будзь такою хварсу́ньнію, як твыя сістра. Абея яе дочкі дужа бальшэя хварсу́ньні.*

**Хвастануць** *зак. перан.* Пахваліцца. *Хвыстану́ць яны абоя любюць. Ці я ні знаю, што ён хвыстану́ў, ета ўжо так, гываріць нічога ні хацелыся.*

**Хвастаўство** *н.* Выхвалянне. *Я такога хвыстыўства́ ні люблю. Ну яго зь естым хвыстаўством, паслу́хыць — дык у яго горы нывáліны і ныкла́джыны ўсяго ўсякыга.*

**Хвастун, хвастуннік, хвастала, хвастаннік** *м.* Хвалько, выхваляка. *Каб ты быў меншый хвасту́ньнік, табе б большы верілі. Каб ён ня быў такей хва́стыла, дык, можа б, і паверіла, а так я ні аднаму яго слову ня верю. У яго слыва́х ні на грош праўды німа, хва́стыньнік чышчы некуды. Памянш.* **хвастунок, хвастуночак, хвастунішка, хвастуннічак, хвастунчык, хвастунёнак, хвастунёначак.** *Думыіш, праўда, што ён па столька зырыбляў, ета хвустунок такей, каб пыкызаць сябе: мол я. Ох, якей жа ты хвустуночык, у тваіх слыва́х праўда і ні нучува́ла. Рысхва́стыўся хвустунішка, што яго тама дужа хырашо прінімаюць, за первыга чылавека вядуць. Хвасту́ньнічык быў чылавек, ны кажным шагу хваліўся. А ці я ні пынімаю, што ён хвасту́нчык. Хвустунёнык ты, што пупала трепліш,*

*нійдзе ты ня быў і нічога ня відзіў. Пріехылі нейкія госьці к ёй са свету, мальцы гадоў пы высімнаццыць, адзін сымыстыяцільный, а другей такей ужо хвустунёнычык. Павеліч.* **хвастунішча**. *А хвустунішча ж Мархвін сват, ні прідумыіш якей!* **Хвастуха, хвастуння, хвастунніца, хвастанніца** *ж. Ні знаў я, што ты еткыя хвасту́ха, ато пысаветывыў ба цябе Сёмычку, ён тожа ат такіх ні атхадзіў. Тыкая самыя хвасту́ньня як ста́ршыя, тэя тожа ны кажным шагу усім хва́люцца. Кылі гываріла «хвасту́ньніца», дык ста́рыя Мыланка, тая ўмеіць усяк скызаць. Іна дужа быльшая хва́стыньніца, дужа хваліцца любіць.*

**Хватанне** *н. перан.* Хуткае павышэнне, падскокванне (пра цану). *Такоя хвыта́ньня цаны ат народу, як людзі наедуць, тады большы рызьбіра́юць, і просюць дыражэй.*

**Хватаць** *незак. перан.* Раптоўна павышацца, падскокваць (пра цану). *Як многа наежджых, тады пырысяты хвыта́юць цану. Каровы хвыта́юць цану вясною.* **Хваціць** *зак.* 1. Раптоўна павысіцца, падскочыць (пра цану). *Сьвіньні ў ета скрысеньня хвацілі цану, што ні падумыў ба.* 2. Моцна і вынікова папрацаваць (звыч. з адм. знач.). *Хва́цюць яны, накосюць,— прыкыча́юцца ў хыладку пат кусьцім. Дужа многа хвацілі твае работнічкі, паўсьценкі за дзень закінулі, а мы ўчора цэлый нарожнік пыставілі.* 3. Прыкінуць, памеркаваць (звыч. у форме заг. ладу). *Хвацісь ты, жылі Іван і Пятрок, родныя браты, адзін як вол петывыўся, а другей хадзіў, пасьвістывыў. Ні нада далёка браць, хваціціся вы, як Цімашоны рыспыріджа́ўся.* **Хватануць** *зак.* 1. Раптоўна павысіцца, падскочыць (пра цану). *Етык цэны хвытану́лі ны бызарі, нічога ні дукупіцца.* 2. Моцна і вынікова папрацаваць (звыч. з адм. знач.). *Ну, сяньня вы, відна, хвытану́лі лі стагоў за ўсе дні.*

**Хватком** *прысл.* Хапаючы. *Я думыў, хватком вы́хвычу гвозд. Хырашо пырысяткі ядуць, адзін піріда дным хватком хвытаюць.*

**Хворост** *м.* Ссечанае дробнае галлё, ссечаны хмызняк. *Сырэй хворыст гарець ня будзіць. Памянш.* **хварасток, хварасточак**. *Хвырасток сухенічкій, нада пірянесьць у пуньку. Секла іна, секла хвырасточык, а нехта пад'ехыў і зыбраў, што ўжо кліла йна, пряма сышчыпя́ рукі.* **Хворасце** *н. зб. Многа ныкря́тына хворысьця пат пунію, надоўга хваціць ны ра́стопу, і ў гру́бычку зімою будзіць. Памянш.* **хворасціка**. *Якоя тама хворысьціка, адна ношычка будзіць, кыня гнаць ня стоіць.*

**Хворс** *м.*, **хваршэнне** *н.*, **хварсата, хварсота** *ж.* Франтаўство, форс. *Усе нагледзіліся ны яго хворс, пысьміяліся уволю. Ніхай дужа ня пырьхыіць, хваршэньнім ды зыдываньнім хлеба ні заробіць. У вашых хлопцыў дужа многа хвырсаты́, ажно ні знаюць, куды дзіваць. Ні знаю, каму пыныра́віцца іхныя хварсота.*

**Хвярубіна** *ж.* Лахман, рызман. *Ладна табе і хвярю́біна будзіць. А во нейкыя хвірюбі́на вісіць, можна уськінуць на плечы. Памянш.* **хвярубінка, хвярубіначка.** *Калі йна што харошыя відзіла, у хвярю́бінкых прыхадзіла. Толька што дзяржыцца, ні разьехылыся ета хвірюбінка, раз надзеніш, і ўся будзіць. Нашто табе ета хвярю́біначка, яе нікуды нілізя ныдзіваць. Тады ў нас ні хвірюбінычкі ні асталыся, усё прішлося ныжываць.*

**Хіленне** *н.* Прытулянне. *Як ікая біда, тады яны хілюцца, а як сталі нічога жыць, і ўсё іхныя хіленьня прайшло.*

**Хітанне** *н.* Хістанне. *Я тожа відзіў тама хіта́ньня, а ач чаго — ні знаю. Ня бойся хіта́ньня, лезь, дрябіна ні паедзіць.*

**Хітацца** *незак.* Хістацца. *Кылячок хіта́іцца, а ні выцягыіцца, відна, сучок дзяржыць. Настолька быў слаб, што, бувала, ідзець і ат ветру хітаіцца.* **Хітнуць, хітануць** *зак.* Хіснуць. *Хітнеш клянок і зломіш, во што будзіць, клянок дужа крохкій. Бярёзку нада крепка прівізаць за кольля, ато вецір хітанець, і йна вы́вірніцца, жалься божа будзіць, што ты яе нёс.* **Хітнуцца, хітануцца** *зак.* Хіснуцца. *Думыю, чаго йта сук хітну́ўся ны яблыні, ажно во хто тут хызяйнічыіць. Лесьвіца хітану́лыся, дык я ўжо думыю, ты ляціш.*

**Хітраванне, хітрэнне** *н.* Хітрыкі. *Мы быйстра рызгыда́лі яго хітрува́ньня. Пупадзець табе зы хітрува́ньня, гуляй чэсна, ні абду́рівый. Ніхай ня думыіць, ніякыя хітреньня яму ні паможыць.*

**Хітрамудрый** *прым. іран.* Занадта хітры. *А ты ня будзь такім хітраму́дрым, ёсьць людзі хітрейшыя зы цябе. Ён думыў, што адзін на ўсём сьвеці такей хітраму́дрый. Памянш.* **хітрамудранькій.** *Дужа ты хітраму́дрінькій зьдзелыўся, каб я табе зу пуўцаны́ пацьцёлка аддаў.*

**Хіхікі** *мн.* Хіхіканне. *Ны кажным шагу у яго хіхікі, пряма ня можыць, каб ні пыцьсьміхну́ць каго-небудзь. С хіхікымі век ні прыжывеш, нада сюрьёзна думыць.*

**Хлабазініна** *ж.* Доўгі дубец, галіна. *Дайно пы табе хлыбазі́ніна пла́чыць, січас Максім ацьсякець ны кынаві. Яго каб хлыбазініныю хырашэнька пучустува́ў, тады б*

*ён троху абрузуміўся. Памянш.* **хлабазінінка.** *Хлыбазінінкымі нада зыцягнўць дзірькі ў плятне. Павеліч.* **хлабазінішча.** *Во хлыбазінішча выляіцца, ніхто ні прібярець.*

**Хлабазнуць** *зак.* 1. Хвоснуць. *Як хлыбазьнець лазіныю, ты на етым месьці і саўесься.* 2 *іран.* Выпіць. *Яны хлыбазнўць умеюць, адзін другому ня ўстўпюць, толька каб пыднасіў хто-небудзь.* **Хлабазнутый** *дзеепрым. Як ацскочыш хлыбазнўтый, пірістáніш хадзіць пы гылывáх.*

**Хламіда, хламідзіна** *ж.* Шырокі лахман, рызман. *У цябе ета хламіда скора саўсім рыспаўзецца і с плячэй звáліцца. У сенцых жа пад лесьвіцыю нейкыя хламідзіна выляіцца, можа ты яе і шукаіш. Памянш.* **хламідка, хламідачка, хламідзінка.** *Посьлі бані можна любую хламідку піряќінуць. Во чысьціңькыя хламідычка, вазьмі, надзеніш ны мінутку. Ці ты ня відзіла, я тута ны шасту хламідзінку вешыў, каб сьцікáла, а січас німа. Павеліч.* **хламідзішча, хламідзінішча.** *Усьпёр ны сябе нейкыю хламідзішчу ірваныю і йдзець. Ськінь ету хламідзінішчу, ныт табою усе сьміяцца будуць, што ў таком старье ходзіш.*

**Хлапаватый** *прым.* 1. Падобны да ачосу. *Нейкыя хлупувáтыя мацерія, ш чаго б іна ткана тыкая.* 2 *перан.* Слабы, павольны. *Нешта ён хлупувáтый, піхні — і валіцца, як ны ныгах ні дзяржыцца. Памянш.* **хлапаваценькій.** *Хлупувáціңкыга мыціріялу ні бярі, насіцца ня будзіць. Нешта ты хлупувáціңкій стаў, ты ж ні так даўно хадзіў гогылім.*

**Хлапецтва** *н.* Перыяд у жыцці мужчыны, калі ён дарослы, але яшчэ нежанаты. *Што ўжо ны стáрысьці успымінаць хлапества. Я помню, як ты у хлапестві бегыў зы Адаркыю.*

**Хлапчына** *м.* Хлапчук. *У яе ўжо ладный хлапчына, на від гадоў пітнаццыць будзіць. Памянш.* **хлапчынка, хлапчонка, хлапчуган, хлапчонак, хлапчанок.** *Сяньня кароў пасець Аўсяёўнін зяць і зь ім нейкій хлапчынка, пымыгаіць. Твой хлапчонка адзін дзень можыць у бырынáх пыхадзіць. У Сенькі троя хлупчугáныў, а ён усё хацеў, каб дычка была. Кузьмоў хлапчонык быў учора ў горыдзі, цітрадык сабе ныбраў і маім прівёз. Ты хлыпчанком быў, а яны ўжо ладнымі лабрэтымі пы вічарінкых бегылі.*

**Хлапянэй, хлапяный** *прым.* Выраблены з ачосу. *Хлыпянэя ніткі някрепкія, ня будзіш жа ты шыць хлыпяңкыю. Хлоп прядўць толька ткаць, хлыпяными ніткымі*

*пасьцілкі пытыкаюць. Хлыпяный клубочык астайся і астайся, ткаць я большы ня буду, дык дзеці боб пыдвязывыюць.*

**Хлебануць** *зак.* 1. Хлебянуць. *Сьвіньні елі і сыбака троху хлібануў с карыта.* 2 *перан. іран.* Выпіць. *Што вы, хлібанулі учора з Мысяёнкым?* 3 *перан.* Зведаць. *Я ўсякія жызьні хлібануў, усяго пыспытаў. Як хлібанеш калінебудзь горя, тады і бацьку з маткыю ўспомніш.*

**Хлебнік** *м.* 1. Ахвотнік да хлеба. *Мнець хлебнік ськібку за ськібкыю, толька спруўляйся резыць. Сідзяць хлебнікі на печы, ждуць, пакуля атрежу па ськібычкі.* 2. Карміцель. *Во зыдзярець твой хлебнік бырадў, тады ты пукукўіш. Памянш.* **хлебнічак.** 1. Ахвотнік да хлеба. *Ах, якей ты хлебнічык, усё табе пыдывай і пыдывай, у дзеда ажно рука зыбалела резыўшы.* 2. Карміцель. *Мае хлебнічкі адзін на печы нос руспусьціў, а другей у люлькі пузырі пускаіць, паспробый дажджыся ат іх хлеба.* **Хлебніца** *ж.* 1. Ахвотніца да хлеба. *І ты тыкая самыя хлебніца, як Настычка?* 2. Карміцелька. *Мае хлебніцы ішчэ растуць, самі хлеба просюць.*

**Хлебчык, хлебчычак** *м. памянш.-ласк.* Хлеб. *Ці атрезыць табе ськібычку хлебчыка? Глянь-ка, як смашна Коля есьць хлебчык. Хлебчычык нілізя ськідывыць.*

**Хлехатанне** *н.* 1. Бурлівы шум вады пры цячэнні. *Во ўжо атліў дождж дык атліў, па вуліцы хліхытаньня — у павыдкі так ня бегла выда.* 2 *перан. неадабр.* Бурнае злаванне. *Відна, ні ў век ня ўніміцца ён іс сваім хліхытаньнім. Дужа яго хліхытаньня некыму важна.* 3 *перан.* Узбуджанасць (пра свінню ў ахвоце).

**Хлехатаць** *незак. перан.* Быць у стане ахвоты (пра свінню). *Хляхочыць сьвіньня, нада гнаць на хверму.* **Хлехатацца** *незак. неадабр.* Ахопліваецца бурнай злосцю. *Нешта яму сяньня увесь дзень хляхочыцца.*

**Хлехатня** *ж. неадабр.* Бурнае злаванне. *Горька мне нада яго хліхатню глядзець. А хвытала ў іх хліхатні, як жылі ўкучы.*

**Хлехатун** *м. неадабр.* Той, хто вельмі злуе, гневаецца. *Рызыйшоўся хліхатун, ніяк спакою сабе ні найдзіць.* **Хлехатуха, хлехатуння** *ж. Ніізьвесна па ком зыдылася хліхатуха, нійдзе ціхаміру ёй ні буваіць. Прівядзець сабе хліхатуньню ў хату, пызнаіць, як зь іхным пріродзьдзім жыць, пыкрасуіцца.*

**Хлехаценне** *н.* 1. Бурлівы шум вады пры цячэнні. *Выйшла на вуліцу, ціха кругом, толька нейкыя хліха-*

*ценьня чую, я ўсё абыйшла кругом, пыдыйшла к погрібу — там цякець, за́ ныч повін набегла вады.* 2 *перан. неадабр.* Бурнае злаванне. *Я ні пыгляджў ны яго хліхаценьня, пашлю куды сьледыіць і ўсё.*

**Хлехацець** *незак.* 1. Бурлець. *Раншы тута выда хліхацела, а цяперя саўсім суха стала.* 2 *перан. неадабр.* Бурна злавацць. *Калі ўжо яму збры́дзіць хліхацець, якей ён пасты́лый чылавек стаў!* **Хлехацецца** *незак. неадабр. Зал.-бессуб'ект.* ад хлехацець 2. *Посьлі етыга рызгавора яму доўга будзіць хліхацецца.*

**Хлешчы** 1 *прыназ.* Лепей. *Хлешчы Антоніхі прыздра́віла яго Хрузычка, будзіць знаць, сь кім чыпа́цца. Нявестку прівёз, што сякець хлешчы сьвякровы.* 2 *прысл.* Лепей, мацней. *Адна ўмеіць хырашо, а другая яшчэ хлешчы.*

**Хлёбкаць** *незак.* 1. Хлябтаць. *Ах ты, рызба́лывылыся, ужо мылыка хлёбкыць ня хочыш, ці я табе адны кілбасы буду купляць.* 2 *перан. іран.* Піць, выпіваць. *Ні сьціснякоцца, хлёбкыюць, толька станоў паўлітрікі.* **Хлебтануць** *зак.* Хлебануць. *Сыбака разы два хліптану́ў і пабег — уцёк.*

**Хлёстка** *прысл.* 1. Рэзка. *Хлёстка лупіць на ўсе бакі, ні глядзі, што мыладэй.* 2. Трапна, востра. *Так хлёстка адбрыла Мыкарёнку, што таму і скызаць нечыга.*

**Хлёсткасць** *ж.* Спрытнасць, рэзкасць. *Каб Івану тыкая хлёсткысьць, як у Цімкі, ён ба нікому ні ўступаў, ато варочыіцца, як мядзьведзь.*

**Хліпканне** *н.* 1. Усхліпванне. *Сьціхні іс хліпкыньнім, пупала — і стоіла, ні нада быць такім дасу́жым.* 2. Слабае ўспыхванне (пра святло лямпы). *Што глядзець на хліпкыньня, дуні, ніхай ту́хніць, усё роўна гарець ужо ня будзіць.*

**Хліпкаць** *незак.* 1. Усхліпваць. *Будзіць хліпкыць, хліпкыць, а тады ныпра́ўду зырявець, етыга ён абізацільна дажджэцца.* 2. Слаба ўспыхваць (пра святло лямпы). *Агонь у ла́нпі пычаў хліпкыць. Лампа хліпкыіць, ці ня кнот дужа ныгарэў.* **Хліпкацца** *незак. Зал.-бессуб'ект.* ад хліпкаць 1. *Ад дуроў хліпкыіцца, большы ат нічога.* **Хліпнуць** *зак.* 1. Усхліпнуць. *Нейкыя дзяўчонка хліпнула разы два, а тады большы ня чутна було.* 2. Слаба ўспыхнуць (пра святло). *Агонь у лампі хліпнуў і пыгас, у пацёмкых ужо спаць лажы́ліся.*

**Хлуда** *ж.* Хлуд, буйное смецце. *Пыд ныгамі ўсякыя хлуда́, нада загресьць грыблямі, а тады мятлою мітану́ць.*

*Хлудў сыбяры, сыбяры ды пыдз загнет, я ў печ укіну ура́ньні.*

**Хлуджэнне, хлудзяненне** *н.* Насмечванне галлём, трэскамі. *Няўжэлі ты ня можыш біс хлуджэньня абыйціцца? Як табе ўсігда хлуджэньня ныра́віцца! Я іх січас турнў с хлудзя́ніньнім, што ня будуць знаць, як ляцець.*

**Хлудзіна, хлудзініна** *ж.* Асобная трэска. *То там хлудзіна выляіцца, то там, ня дужа чыста прібраў. За ім дайжа аднае хлудзініны ні найдзіш. Памянш.* **хлудзінка, хлудзіначка, хлудзінінка, хлудзініначка**. *Дробнінькія хлудзінкі асталіся, вы́сып ны я́чыньня, зыпа́шуцца. Каб айдзе хлудзі́нычка асталыся, нічога німа, усё чы́сьцінька. Чыста прібра́джына, нійдзе ні хлудзі́нінкі ня ўвідзіш. Зьмёў хлудзі́нінычкі ў кучку, высыплюцца айдзе-небудзь. Павеліч.* **хлудзінішча**. *Во такея хлудзі́нішчы астаюцца посьлі прібіра́ньніка.*

**Хлудзіць, хлудзяніць** *незак.* Завальваць хламам, смеццем. *Ішоў ба ты хлудзі́ць ны дрыватоньня, ніхай ужо у адным месьці увесь хлуд. Дужа табе хочыцца тут хлудзя́ніць, вазьмі ж тады венічык ды прімяці ўсё ґ загнецьцю.* **Хлудзіцца, хлудзяніцца** *незак.* Завальвацца хламам, смеццем. *За што айдзе ня возьмісься дзелыць, усюдых у цябе хлу́дзіцца. Глядзі, каб меншы хлудзя́нілыся, а не— дык сам зымітай, а я ня буду зы табою кажныю мінуту прібірацць.*

**Хлузіна, хлузініна** *ж.* Дубец, хварасціна. *Каб па іх пы абоіх ладныя хлузіна пыхадзіла, яны б жыва аселіся. Як схвачў хлузі́ніну, ён ня будзіць знаць куды бежч. Памянш.* **хлузінка, хлузіначка, хлузінінка, хлузініначка**. *Трошку хлузі́нык пірясек, яны сухея, будуць гарець. Так вы́сіклі у Рывах, што нійдзе хлузі́нычкі ня ўвідзіш. Ліжалі тут хлузі́нінкі, я іх у печ укінула. Каб хуць якея хлузі́нінычкі былі, нійдзе ніякіх.*

**Хлында, хлындала** *м.* і *ж.*, **хлынданнік** *м.* Той, хто бязмэтна швэндаецца, бадзяецца. *Пашоў хлы́нда пы дзяреўні цігацца, сь кім пыстаіць, сь кім пакуріць — ета яго зыняція такоя. Якея ты работы ат хлы́нды дажджэсься, іна сыма ні прідумыіць, за што б ёй хацелыся ўзяцца. У хлы́ндылы ні к чому рукі ні ліжаць. Ну яй-богу ж ні прідумыіш, у каго етый хлы́ндыньнік удаўся.* **Хлынданніца** *ж. Дзьве хлы́ндыньніцы сыбра́ліся, туды пройдуць, нызад вернуцца,— як ніпрі́ка́інныя.*

**Хлынданне** *н.*, **хлынды** *мн.* Бязмэтнае швэнданне, бадзянне. *Як табе ні ныдаесьцць хлы́ндыньня, як табе людзей*

*ня стыдна дзень прі дні гульма гуляць і ні за што ні брацца! Сколька ўремя ты яго хлы́нды будзіш цярьпець?*

**Хлысканне** *н. перан. іран.* Піццё. *Мы нагледзіліся ны яго хлы́скыньня, ча́рычка зы ча́рычкыю ідзець як у леічку.*

**Хлыскануць** *зак.* 1. Звонка ўдарыць, выцяць. *Дудура́чысься, што дзед ложкыю ціряз лоб хлысканець.* 2 *перан.* Выпіць. *Пырысят ладна прыдалі і хлыскану́лі ня хужы, кра́сьнінькія ехылі.* **Хлыскануцца** *зак.* Звонка ўдарыцца, выцяцца. *Хлыскану́ўся ілбом ап шула, во такей гузі́на ускачы́ў.* **Хлысканутый** *дзеепрым. Ці ладна хлыскану́та? — будзіш знаць, як ба́лывыцца.*

**Хлюндра** *ж.* Неахайная жанчына. *Хлю́ндру піряву́чывыць дужа цяжола, яе к пырядку ніхто ні прілума́іць. Узмацн.* **хлюндрына.** *Ікая ж хлю́ндріна, худзь ба нямножка прігледзіла дзяцей і сыма сябе, дык ніскольна ні глядзіць. Павеліч.* **хлюндрышча.** *Хлю́ндрішча ты, хлю́ндрішча, апушчэнка самыя пасьледнія, як ета так апусьціцца можна!*

**Хлюпканне** *н.* Хлюпанне. *Худзь ба скарей пыцсыха́ла, ныдаела ета хлю́пкыньня. Посьлі хлю́пкыньня хуць на печы мінутку пагреюся.*

**Хлюпкаць** *незак.* 1. Хлюпаць. *Айдзе ні станіш, усюдых хлю́пкыіць, усюдых вадою ныбра́лыся, цяперя луччы у хаці сядзець.* 2. Боўтацца. *Ма́лыя у начоўкых хлю́пкыіць, ку́клі нешта мыіць, уся па вушы мокрыя.* **Хлюпкацца** *незак.* Боўтацца. *Сколька ты будзіш хлю́пкыцца із естым тряп'ём, кынчай скарей, паедзім.*

**Хлюсцік** *м. іран.* Самаўпэўнены і нахабны задавака, ганарлівец. *Такей хлю́сьцік, што зь ім да трёх ні гывары. Ладный быў хлю́сьцік, ты пыгывари пры яго сь Пітракоўныю.*

**Хлябанне, хлябтанне, хлёбканне** *н.,* **хлёбат** *м.* Хлябтанне. *Лянь ты ны яе хліба́ньня: раз хлібанець і кыцінка́ туўха́іць мордыю, каб хліба́ў. Гані ат карыта, ато я пыкажу яму хліпта́ньня. Вон пашоў с хлёпкыньнім, ну пупаду́ я цябе другей раз у сенцых, пряма колым буду лупіць. Стаю кыла печы і чую хлёбыт у сенцых нейкій, выскычыла — а ета Мыксімёнкыў сыбака сядзіць у пырыся́ччый ша́йчкі.*

**Хлябі** *мн.,* **хлябіна** *ж.* Макрэча, мокры снег. *Руспусьціла посьлі мяцелі, хля́бі, ніӣдзе ступіць нілізя, толька різі́нывыя боты нада, а ў різіні халодна січас. Некуды йіціць, хля́біна, вы́тырнісься — зразу пы калені мокір*

*будзіш. Памянш.* **хлябінка**. *Ты хля́бінкі ні баісься, зьбегыіш.*

**Хлянуць** *зак.* Лінуць (пра вялікі дождж), моцна пацячы, паліцца (пра ваду). *Нібальшэнькыя тучка, думылі, пыка́пыіць і сьціхніць, а тады аткуля хмара ўзілася, як хля́нуў, дык усё залі́ў і зытапі́ў. Ладна засы́пылі раўчы́нку, а тады хля́нула выда і размыла ўсё. Хырашэнька апсып, каб выда ў погріб ні хля́нула.*

**Хляп** *выкл.* Пра аднаразовае ляскание. *Дзьвірямі у яе піряд носым хляп, тая стаіць і ні знаіць, што дзелыць. Чую: клямка хляп, я іду, а ён ужо шны́хыріць па сенцых.*

**Хляпанне, хляпканне** *н.* Лясканне дзвярамі. *Калі пачуіш хля́пыньня, выйдзі глянь, можа тама хто будзіць лазіць. Атвяжыся ты ат мяне, ня чуў я ніякыга хля́пкыньня.*

**Хляпаць, хляпкаць** *незак.* 1. Ляскаць (клямкай, дзвярамі). *Ма́лыя ба́лыюцца, хля́пыюць клямкыю, во хто тама. Дзьверi, кажыцца, хля́пкылі, а ці быў тама хто, ці нікога ні було, я ня відзіла.* 2 *перан. груб.* Гаварыць. *Троху і твой Пітрачок хля́пыў губамі, ні сядзелыся яму ціха. Дакуля ты будзіш хля́пкыць ротым?* **Хляпнуць** *зак.* Ляснуць (клямкай, дзвярамі). *Як слова, кля́мкыю нехта хля́пнуў, зірні-ка ў сенцы. Дзьвeрi хля́пнулі, а ў хату ніхто ня йдзець.*

**Хмара** *м. перан.* Пахмурны чалавек. *Чаго ён еткыя хма́ра сяньня? Кублянок хма́ра хма́рыю ходзіць.* **Хмарышча** *ж.* Вялікая хмара. *Бальшэнныя-бальшэнныя хма́рішча су́ніцца, кылі ні грыдыва́я.*

**Хмаранне** *н.* Нахмарванне. *С учыра́шніга хма́ріньня дайжа ні пыка́пыла. Ні ныравіцца мне ета хма́ріньня. З бальшога хмаріньня ма́лый дождж.*

**Хмыленне** *н.* Нахмыльванне. *Ці помніш, як Віктыр атыўча́ў кабылу ат хмы́ліньня? Пу́жкі хырашэнька дай за хмы́ліньня.*

**Хныкала** *м.* і *ж.,* **хныканнік** *м.* Той, хто хныча. *Такей хны́кыла, нюні руспусьці́ў і сядзіць: ні па ём зьдзелына. І большыя і меншыя — абея хны́кылы адзінакывыя. Зма́лку прівык рю́мзыць, цяперя і бальшэй мульчуга́н — хны́кыньнік.* **Хныканніца** *ж. Зыдыла́ся хны́кыньніца, дык і ў дваццыць гадоў будзіць хны́кыць як ма́ліначкыя.*

**Хныканне** *н. перан. неадабр.* Бязмэтнае блуканне, заглядванне ў розныя куткі. *Як толька яму ні ныдаесьцьета бісталковыя хны́кыньня, усё дно як шукаіць ветру ў полі. Я б яе атаўчыла ат хны́кыньня пы двырах.*

**Хныкаць** *незак. перан.* Бязмэтна блукаць, заглядваць у розныя куткі. *Найдзі ты яму якоя-нібудзь зыняція, ато ён зымарі́йся ужо ад гульта́йства, хны́кыіць дзень прі дні і хны́кыіць.*

**Хобат** *м. перан. жарт.* Карак. *Цябе нада хырашэнька за хобыт узяць, каб ты пыцішэй. Хобыт наей гульта́йнічыючы, што яму атходзіць.*

**Холда** *м. асудж.* Несумленны чалавек, падманшчык, круцель, злодзей. *І ты холду веріш, думыіш, ён праўду можыць скызаць. Узмацн.* **холдзіна**. *Холдзіна прыклятый, разьві цябе чылавекым нызваць можна. Павеліч.* **холдзішча**. *Хто ж ня помніць, якей ён холдзішча быў.*

**Хопа, хопанькі, хопачкі** *выкл.* Пра ўставанне, пад'ём. *Хопа, дывай сюда. Хопа, я ўзяў. Хопынькі, хадзі на ручкі. Хопычкі, устаў ма́лінькій.*

**Хопанне, хопканне** *н.* Падскокванне, імклівае ўставанне. *Будзіць хопыньня, як вы́пусьціш з рук і ён ка́хніцца аб зямлю. Хва́ціць ужо, хва́ціць хопкыньня, пысядзі ціха.*

**Хопаць, хопацца, хопкаць, хопкацца** *незак.* Падскокваць, імкліва ўставаць. *Во як ты любіш хопыць! Ня хочыць сядзець, хопыіцца, глядзі, с пасьцелі зваліцца, тады ля́сьніцца. Ёрзыіць, хопкыіць, бярі яго на рукі, ня́нчыся зь ім. Можа, табе ўжо хва́ціць хопкыцца?* **Хопнуць, хопнуцца** *зак.* Падскочыць, імкліва ўстаць. *Так лёгінька хопнуў уверьх. Як хопніць ма́лыга, тэй дужа рад. Ого, як ты хырашэнька хопнуўся.*

**Хохканне** *н.* Кароткае гучнае ўздыханне пры стомленасці. *Пыдажджы́ с хохкыньнім, нада хуць канцы дайціць, тады пысядзім міну́тычку.*

**Хохканнік** *м.* Той, хто каротка гучна ўздыхае пры стомленасці. *Нешта нашы хохкыньнікі чуць шавелюцца, саўсім рукі пупуска́лі.* **Хохканніца** *ж. Ну што, хохкыньніца, пыра аддыхаць, а?*

**Хохкаць** *незак.* Каротка гучна ўздыхаць пры стомленасці. *Што ж хохкыіш, ішчэ работы мнугува́та, нада пыкыпашы́цца.* **Хохнуць** *зак.* Каротка гучна ўздыхнуць пры стомленасці. *Хохнуў ды ўзноў бяры́ся за дзела, яно цябе ждаць ня будзіць.*

**Хракцерный** *прым.* Нявытрыманы, злы. *Астапёнык дужа хра́кцірный, чуць што ні па ём, січас успы́хніць як сьпічка. Калі ці ён, ці іна хра́кцірныя, зь імі нялёхка.*

**Храмаватасць** *ж.* Нязначная, малапрыкметная кульгавасць. *Як ціха йдзець, хрумува́тысьць ня дужа заметна, а як быйстрей, дык ладна ныхра́мывыіць.*

**Храмаватый** *прым.* Крыху кульгавы. *Мушчына ішчэ прыжывець, а хрумуватыя дзейка — ета горя на ўсю жысьць, да гроба горя. Памянш.* **храмаваценькій, храмаваценечкій**. *Пріїжджала Мікілаіхіна дычка і мальчыка прівазіла, ён хрумуваціолькій у яе. Хрумуваціонічкыя дзяўчонычка, і ладна заметна, ножка адна трошку кырацейшынькыя.*

**Храмаць** *незак.* Кульгаць. **Храмаюшчый, храмуюшчый** *дзеепрым. А во так і пражыў усю жызьню хрымаюшчый. Шурка гадоў пітнаццыць таму нызад пріїжджала, у яе быў мужык храмуюшчый.* **Храмуючы** *дзеепрысл. Ня дужа лёхка яму пріходзіцца храмуючы. Храмуючы ды сьляпуючы трудна кыпашыцца.*

**Храмушка** *ж.* Кульгавая жанчына, кульгавая жывёла. *У іх дзяўчонка храмушка, нішчасный чылавек на ўсю жызьню. Пра ўсё пра ета мне Машка-храмушка рысказывыла. Авечка храмушка бегыіць зу тубунком. Памянш.* **храмушачка**. *Як жа тама жывець яе храмушычка? Ты сваю храмушычку пыкармі, ато кряпчэйшыя ціпляты ні даюць ёй пад'есьць.*

**Храпанне, храпканне** *н.* 1. Хрумстанне. *Не, я ўжо як ішла, ня чула хряпыньня. Усё дно як хряпкыньня нейкыя зы плятнём.* 2. Важкі ўдар пры падзенні. *Вот неік жа піряносіць еткыя хряпыньня! Будзіць хряпкыньня, што калекыю калі-нібудзь пріпаўзець двору.*

**Храпаннік, храпканнік** *м.* Той, хто хрумствае. *Дужа етыя хряпыньнікі уляглі у быраньці, нырáвіцца ім хрусьцець. Сядзіць хряпкыньнік з бальшэннью брýквіныю, скрыляіць і есьць.* **Храпанніца, храпканніца** *ж. Як табе, хряпыньніца, сьвежыя гурочыкі, ці нырáвюцца, а пылівáць жа ты ні хацела. Во хряпкыньніца, толька пыдывай ёй хрусты.*

**Храпатанне** *н.* Гучнае хрумстанне. *Узяліся за йгрушы, толька хрыпытáньня чутна.*

**Храпатаннік** *м.* Той, хто гучна хрумстае. *Ах, якея хрыпытáньнікі, нылігáюць ны быранкі.* **Храпатанніца** *ж. Трýдзіцца над брýквіныю хрыпытáньніца, а нож тупуват, ня можыць скрылёк урезыць.*

**Храпатаць** *незак.* Есці з хрумстам. *Віджу, у бульбоўніку ляжыць і храпочыць ціплёнка, забіла б кошку, каб ні ўцікла. Мае хырашо хрыпытáлі пячэньня, любілі.* **Храпатацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* храпатаць. *Як табе храпочуцца дзедывы яблычкі?*

**Храп'е** *н.* Агародная трава, сабраная на корм для сві-

ней. *Сьпірва схаджу у хрáп'я, а тады карову даіць бежи нада. Памянш.* **храп'іца, храп'іка.** *Як укініш пырысятым хрáп'іца, яны ажно хвытаюць — так любюць зелінь. У карзінычкі з ручкыю трошку хрáп'іка асталыся, толька мулувáцінька, нада пыдырваць. Павеліч.* **храп'ішча.** *Пы бырыках хрáп'ішча — хуць касу зыклáдывый. Хрáп'ішчым сала ні нагоніш, мучыца нада.*

**Храставіна, храставініна** *ж.* Крыжавіна. *Хріставіна крепка зьбіта, сьмела вешый крючча, усё выдзіржыць. Хріставіны нада хырашо укріпляць, на іх уся крыша дзяржыцца. Каб дубовыю зьбіў хріставініну, ета была б надзёжныя. Памянш.* **храставінка, храставінінка.** *Зьбі-ка ты яшчэ адну хріставінку, ета, па-мойму, ня дужа надзёжныя. Разьві ета хріставінінка, ны такой нічога ня ўдзержыцца.*

**Храсткі** *мн.* Крыж у спіне. *Ты ныпáрь хырашэнька хрясткі, і табе палýччыіць, папомніш маё слова. Ны хрісткáх высікáлі уцін — так лячылі. Памянш.* **храсточкі.** *А хрясточыкі мае, а што йта ў іх зывіряіцца: пывярнуцца нілізя.*

**Хрaшчэнне** *н. рэліг.* Вадохрышча. *Хряшчэньня шчытáлыся бальшым празьнікым. Як ехылі ны хряшчэньня, з нашыга двыра зыпрігалі пáру саней. Памянш.* **хрaшчэнніка.** *Скора ўжо, знаць, хряшчэньніка, а ты ні зьбіраісься прáзнывыць.*

**Хромка** *ж.* Гармонь з храматычным ладам. *Хромку як возьміць, як різанець, молыдзіж за ім гýжым, гýжым. Нямецкыя мне ні ныравіцца, буду купляць хромку.*

**Хром-хром** *выкл.* Пра хадзьбу кульгавага. *Ідзець хром-хром, у яго, відна, пырáдышныга ногі быляць. Патрошку лі двыра калдыбыіць хром-хром.*

**Хропанне, хропканне** *н.* 1. Рэзкі, храбусткі трэск пры ламанні. *Дам я табе зы такоя хропыньня. Як зáйдуць у кусты, толька хропыньня і чутна, ажно треск стаіць. Ці чуіш хропкыньня ў кыныплях?* 2 *перан.* Удар аб зямлю з трэскам. *Вылізіць яму калі-небудзь бокым такоя хропыньня. Што, ці чýствыіцца хропкыньня?*

**Хропцца, хропсца** *незак.* Храпціся. *Табе ладна храплося посьлі чаркі. Сяньня яму будзіць хропсца, ні бядуй. Пычало яму хропсца, хуць с хаты уцікай.*

**Хруктылiён** *м. жарт.* Велізарны лік. *Ён сам такей грымацей, што можыць да хруктыліёна дышчытáць.*

**Хрупкаць** *незак.* Хрумстаць. *Войцы ахотня такоя цьвёрдзінькыя сена с аблoжык хрýпкыюць. Сухáрікі ней-*

*кія прінёс, дзеці хру́пкыюць.* **Хрупкацца** *незак.* Хрумстацца. *Ці смашна быранькі хру́пкыюцца, можа, яшчэ даць?* **Хрупнуцца** *зак. перан.* Стукнуцца з трэскам, ударыцца. *Каторый ты ета раз хру́пнуўся с крышы?*

**Хруст** *м.* Крэндзель. *Раншы матка як накруціць хрустоў, ныпякець, тады дзеці цэлый дзень ядуць. Памянш.* **хрусцік, хрусцічак, хрусток, хрусточак**. *Лю́біця вы хру́сьцікі, іх жа печ няскора. Ты ж хуць хру́сьцічык зьеж ны дарогу, ато пыбягіш галодный. Ма́лыя хру́пылі і я ўзіла адзін хрусток. Сма́шнінькія хрусточыкі, бярі большы, ні сьцісьняйся.*

**Хрусценне** *н.* Лёгкі трэск, хруст. *Пы сіряну як ідзеш, хрусьценьня далёка чутна, чуць ні зы вярсту.*

**Хрусцецца** *незак.* Злёгку патрэскваць, хрусцець. *Су́шкі у вас дужа ладна хрусьця́цца. Што йта тут січас хрусьцелыся?*

**Хрыбеціна** *ж.* Хрыбет. *Рызбалелыся хрібеціна ніізьвесна чаго, нада у бані крепка вы́пыріцца. Каб цапком пы хрібеціні піріцягнуў хырашэнька, тады б ён меншы адурюва́ў. Памянш.* **хрыбецінка, хрыбцінка**. *Дайно твыя хрібецінка чэшыцца, жалка, што ніхто ні на́йдзіцца пычысаць як сьледыіць. Твыя хрібцінка крепкыя, усё вы́дзіржыць.*

**Хрыпанне, хрыпканне** *н.* Хрыпенне. *Ой, як ныдыі́да́іць тваё хріпыньня, ні зупуска́й балезьні, г' дыктырам абраціся. У яго часта хріпкыньня буваіць, халодныя вады хва́ціць — і пашоў хріпець.*

**Хрыпаць, хрыпкаць** *незак.* Хрыпець. *Халодныя вады глыну́ў са льдом і хріпыіць. Прустудзі́ўся дык і хріпкыіць, ён ніскалька ні бірягецца.*

**Хрыпач, хрыпіла** *м.,* **хрыпілка** *м.* і *ж.* Хрыпун. *Чаго ён такей хріпа́ч, усё рыўна як у яго лёхкіх нешта зывіря́іцца. Узіла сабе нейкыга хріпілу, троху капошыцца ны дваре. Што ты нейкій хріпілка, усё ў цябе ў грудзях гармонікі іграюць. Бягі сустрюкаць сваю хріпілку, ідзець зь мяшком ад быльшыка, пыд'іжджала сь піря́днінцымі.* **Хрыпачка** *ж. Можа, тая хріпа́чка што-небудзь тріпану́ла, зь яе усяго можна ждаць.*

**Хрыпенне** *н. перан.* Жыццё са слабым здароўем. *Ні знаю, што будзіць зь яго хріпеньня, відна, ня вы́кырыбкыцца яму.*

**Хрыпець** *незак. перан.* Жыць са слабым здароўем. *Ішчэ трошку хріпіць, чуць хату піряходзіць, ета ні жы-*

*лец.* **Хрыпецца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* хрыпець. *Як табе, троху хріпіцца на цёплый печы?*

**Хрыстанне** *н.* 1. Зашыванне крыж-накрыж. *Тут ніякыя хрістáньня ні паможыць, нада новый мяшок шыць.* 2 *перан.* Шкуматанне, разрыванне на палосы. *Ты ў мяне жыва палучыш зы такоя хрістáньня.* 3 *перан.* Біццё з размаху. *Я троху відзіла іхныя хрістáньня, іх тама Кыцярініна дычка рызвылáкывыла.*

**Хрыстаннік** *м.* 1. Той, хто зашывае крыж-накрыж. *Куды ж тыкая работа гадзíцца, хрістáньнік, разьві ета зышывáньня, ат'етуля кычаны вы́вылюцца, а ня то бульба.* 2 *перан.* Той, хто шкуматае, ірве на палосы. *Пыдзікýйся на етыга хрістáньніка, што ён тварíць.* 3 *перан.* Той, хто б'е з размаху. *Дзяржыці-ка свае кулакі прі сабе, эйш, хрістáньнікі найшлíся!* **Хрыстанніца** *ж.* 1. Тая, што зашывае крыж-накрыж. *Ікая ж ты хрістáньніца, разьві ж так зышывáюць.* 2. Тая, што шкуматае, ірве палосамі. *Другая хрістáньніца бярецца зы тряпкі, аднае мала було.*

**Хрыстаць** *незак.* 1. Зашываць крыж-накрыж. *Ты ні хрістáй як пупала, а сядзь ды прілáп харошый лáпік.* 2 *перан.* Шкуматаць, ірваць на палоскі. *Нашто ж табе яшчэ большы хрістáць ета шкумáцьця?* 3 *перан.* Біць размашыста. *Як дывай яго хрістáць аднаго ўтраіх, прімылацілі б, каб ні ыскачы́лі нашы мушчы́ны.* **Хрыстацца** *незак.* 1. Зашывацца крыж-накрыж. *Трошку хрістáіцца, на первыя ўремя ладна будзіць.* 2. Шкуматацца, ірвацца на палоскі. *Хырашо ў цябе хрістáіцца, нічога кýчка ўжо гатова.* 3. Біцца размашыста. *Ізьвесна, чаго яны хрістáліся: пыч чаркыю былі.* **Хрыстануць** *зак.* Ударыць размашыста. *Каб ты відзіў, як яго хрістанýў тэй нячы́стыя сіла, зы нішто зы ніякыя ўдáріў.* **Хрыстануцца** *зак.* Ударыцца моцна. *Бег сколька жы́сьці, як хрістанецца ап паплецьця, ажно за грýдзі схваціўся, ці ён ні замеціў, ці ня мог астынавíцца. Крепка ён хрістануўся с крышы, зімля цьвёрдыя, дужа сільна ўдáріўся.* **Хрыстанутый** *дзеепрым. Хрáбра падлез, а тады атлáзіць хрістанýтый,— і больна, і стыдна: сам вінуват.*

**Хрэснік** *м.* Хроснік. *У мяне дужа многа хресьнікыў було, бувала, то тэй, то тэй і завуць кумою, і завýць. Ці часта ж у цябе бувающь тваe хресьнікі? Памянш.* **хрэснічак, хроснічак**. *Ныгываріў, ныгываріў чаго зря, во табе й хресьнічык. Бягі скарей, Мішка пыдвязець, як жа ні пыдвязець, кылі хрёсьнічык.* **Хрэсніца** *ж. Пыглядзі-ка,*

*што мне хресьніца нідаўна прінісла, пріходзіць, гаворіць, наця, мам, ета будзіць ат мяне пыдарык.*

**Хрэст-нахраст** *прысл.* Крыж-накрыж. *Пы адной достычкі хрест-нáхріст прібіта, там дужа нечыму дзіржаць. Во і ў Сямёнывый хаці вокны хрест-нáхріст пызыбівáны, некыму жыць.*

**Худа-бедна** *прысл.* Крыху, сяк-так, больш-менш. *Худа-бедна пріпя́лі тады хáччыну, усё ні пу чужых вуглах цігацца. Худа-бедна сыбрáліся і яны, як людзі, пашлі ны свадзьбу.*

**Худобачка** *м.* і *ж.* Схуднелая асоба, схуднелая жывёла. *Худобычка мáльчык, яму, відна, нечыга нідылігáіць. Абея дзяўчонычкі такея ўжо худобычкі, што я скызаць ні магу. Зыкармілі карову, худобычка стала, стаіць і ат ветру хітáіцца. Ніхай што худобычка, ны траве ат'есца, цялёнык сваё ныбярець.*

**Худэй, худый** *прым.* Худы. *Відзілі мы сяньня Пуўлюка, плёўся ў горыд, дужа худэй, ні знаю, чаго такей, пряма спаў зь ліца. І ты нешта худы́й стаў як палка. Памянш.* **худзенькій, худзенечкій, худзёсенькій, худзёсенечкій, худзюсенькій, худзюсенечкій.** *Відна, ў сьвіньні мала мылыка, худзенькія пырысяткі, нада пріпáівыць. Ху́дзінькія мáлыя, ім зу гульнёю пад'есьць некылі, трошку пііріхвáцюць і пабеглі насіцца па вуліцы. Калі травы німа, скот будзіць худзенічкій. Дзяўчонка Марініна ху́дзінічкыя, іна відна, што хворыя. А якея ж етыя дзеці былі худзёсінькія, толька чар тэй, што дзеці. Ці ты ня корміш етых ціплят, што яны худзёсінічкія, куды іх резыць, такіх дайжа ні апскубеш. Худзю́сінькыя цёлычка, ныўряд, каб зь яе якей толк быў. З бальніцы мы яго зыбралі худзю́сінічкыга, а во ў дваре патрошку пыпрáвіўся. Узмацн.* **худзюшчый.** *Тады ён прішоў худзю́шчый посьлі раненьня, думылі, ці вы́жывіць, а ў дваре хырашо пашло ны пыпрáўку. Памянш.-узмацн.* **худзюшчанькій, худзюшчанечкій.** *Ці ня зь лёхкымі у яго ні ў пырядку, што ён такей худзю́шчынькій. Доўга былі худзю́шчынічкія, а посьлі сталі пупруўля́цца.*

**Хужы, хужэй, худжы, худжэй** *прысл.* Горш. *Ху́жы ні піду́мыіш, як у іх пулучы́лыся. А хужэй ты сплесьць ня мог? Яны тады хужэй усіх жылі ў дзяреўні, а посьлі рівалюцыі зямлю пулучылі, абжыліся. Ху́джы некуды, як пупадзецца ніпутны́й мужык. Мне ні раз яшчэ худжэй пріхадзі́лыся, а я ўсё цярьпела, піріжывáла.*

**Хужэйшый, хужшый** *прым.* Горшы. *Ярі сёліта многа*

*хужэйшыя, чым летыся, чаго б ета? Твой ножык хӯжшый, а мой луччы. Мяшочыкі с хӯжшым ячменім — ета малоць сьвіньням, сабе толька пышаніца малоць. Памянш.* **хужэйшанькій, хужэйшанечкій.** *Хужэйшынькыю моркву кладзі адзьдзельна, карові пойдзіць. Хужэйшынічкія кычáнчыкі крышыць ня стоіць, капусты многа, харошых кычаноў хвáціць.*

**Хуканне** *н.* Дзьмуханне ў складзеныя далоні. *Калі рукі крепка замёрзьлі, ім хӯкыньня ні паможыць, бягі ў хату, атагрей.*

**Хуканнік** *м.* Той, хто дзьмухае ў складзеныя далоні. *Пызыкалелі, хӯкыньнікі, во як вам ні браць вязёнык.* **Хуканніца** *ж. Не, хӯкыньніца, так ні сагрэісься, бягі ў хату ды на под ляж на печы.*

**Хулюганнічанне** *н.* Хуліганства. *Улепюць яму калі-небудзь зу хулюгáньнічыньня, пыскрябець ён затылык.*

**Хулюганнічаць** *незак.* Хуліганіць. *Ты ўжо, знаць, пычынаіш хулюгáньнічыць, нада зы цябе кряпчэй брацца. Німала яны хулюгáньнічылі, нечыга за іх зуступáцца, за гэрчыкыў за еткіх.*

**Хунтоўка** *ж.* Сорт яблынь з буйнымі пладамі. *Ён сабе нысадзіў хунтовык, засыпліцца яблыкымі. Памянш.* **хунтовачка**. *Харошыя хунтовычка сядзіць у Цімоха кыла пуні, ён яе бірягець, дысьпіляіць.*

**Хунты** *мн.* Плата зернем за памол. *Хунты аддасі, трошку распыліцца, дык ат етыга мяшочыка пасьці нічога і ні астáніцца. Памянш. іран.* **хунцікі**. *А нада ж хӯньцікі плаціць, ці ты забыўся?*

**Хуркала, хурканнік** *м.* Буркун, буркліві чалавек. *Я ні знала, што твой старік такей хӯркыла. А ні дывядзі бог зь еткім хӯркыньнікым на сьвеці жыць, ён жа серца ат'есьць.* **Хурканніца** *ж. Ого ікая хӯркыньніца, зь ёю нядзелю пыжыві, дык духі выісьць, зы кажныю мелыч ныгрызецца.*

**Хурканне** *н.* Злоснае бурчанне. *Я наслӯхылыся хӯркыньня, дос, цяперя ты паслухый. Ніхай ён прывáліцца с хӯркыньнім зь яго, каб я туды хуць раз пышла.*

**Хуркаць** *незак.* Злосна бурчаць. *Калі ён пірістáніць хӯркыць, дужа ныдаеў. Усё хӯркыіць і хӯркыіць, худзь ба якую мінуту пумуўчáў.* **Хуркацца** *незак.* Злосна бурчацца. *Каторый дзень табе хӯркыіцца?* **Хуркнуць** *зак.* Злосна забурчаць. *Нешта яму ні пынырáвілыся, хӯркнуў і пашоў за дзьвері.*

**Хурхуленне** *н. перан.* Злаванне. *Іньціресныя у яго хурхуленьня: кіпіць увесь, а віду ні пыка́зывыіць.*

**Хурхуленнік** *м.* Той, хто моцна злуе. *Ці ўняўся тэй хурхуленьнік ай усё уніму яму німа?* **Хурхуленніца** *ж. Ты, як сьвякрова, хурхуленьніца, нада патрошку зьдзержывыць сябе.*

**Хурхулець** *незак. перан.* Моцна злавацьа. *Мы ўжо відзім, што ўзноў хурхуліць, што йта зь ім зывіря́іцца, што німа яму ні разу спакою.* **Хурхулецца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* хурхулець. *Учора ім яшчэ большы хурхулелыся. Як пычанець табе хурхулецца, нячыстыя сіла за рёбры брацць, ты вады зы каўнерь ліні, асты́нь.*

**Хустачка** *ж.* Хусцінка. *Абвяжы́ся хўстычкыю, цяперя́ ішчэ ніхто прыстывалосый ня ходзіць, халодна. Міша хўстычку купіў, а я вышыла.*

**Хуха, хухачкі, хухця** *выкл.* Выгук з уздыханнем у пачатку адпачынку. *Хўха, можна пысядзець мінутычку, зямлю кідаць нялёхка. Хўха, біс прівычкі ажно рукі быляць. Хўхычкі зымаріўся, пірідыхнў трошку. Хўхычкі, як жа ты мне рукі атырваў, цігаючы цябе. Хўхця мне, саўсім пріста́ла, ні магу іціць.*

**Хухканне, хуханне** *н.* Выгукванне з уздыханнем пры стоме. *Некылі с хўхкыньнім, нада скарей дыклыда́ць вазы, дождж вот-вот хлы́ніць. Хва́ціць хўхыньня, нада яшчэ трошку пыкіда́ць.*

**Хухканнік, хуханнік** *м.* Той, хто выгуквае з уздыханнем пры стоме. *Ну што, мае хўхкыньнікі, можа вам крупені ў міску наліць? А-а, хўхыньнікі, нялёхка такея калоды піліць?* **Хухканніца, хуханніца** *ж. Зымыха́лі рукамі хўхкыньніцы: худзь ба ету бульбу сыбрацць, куды тута яшчэ адгыня́ць. Сідзяць хўхыньніцы склаўшы рукі, дужа зымаріліся.*

**Хухкаць, хухаць** *незак.* Выгукваць з уздыханнем пры стоме. *Нечыга хўхкыць, ішчэ работы многа, тута капёшык пяць ныкладзецца. Хўхыюць ды на сонца пыглідаюць, ці скора зайдзіць.* **Хухкацца, хухацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* хухкаць, хухаць. *Нешта вам дужа рана сяньня пычало хўхкыцца. Вам ужо даўно хўхылыся.* **Хухнуць** *зак.* Выгукнуць з уздыханнем пры стоме. *Увосінь ат пагоды дыбра ня жджы, хўхнуў ды ўзноў сыгінайся у быразёнку, выбірай скарей.* **Хухнуцца** *зак. Зал.-бессуб'ект.* ад хухнуць. *Ні хыця хўхніцца, такую я́мішчу вы́бухыўшы.*

**Хуцава** *прысл.* Акуратна. *Ці тыкая матка на́ўчыць*

*што-небудзь дзелыць хуца́ва? Каб у цябе пулуча́лыся хуца́ва, ты нічога была б хызяйка. Памяни.* **хуцавенька, хуцавенечка**. *Нада хуца́вінька прібраць, ні кідаць як зря. Можна ж хуца́вінічка зьдзелыць, а ня роілым, як ты.*

**Хуцавасць** *н.* Акуратнасць. *Ні було ў яго хуца́высьці і ня будзіць ні разу, увы ўсякім дзелі ён як ральлё.*

**Хуцавец** *м.* Акуратны чалавек. *Усе знаюць, якей ты хуца́віц.* **Хуцаўка** *ж. Хуца́ўка ўзілася за дзела, ні снапы пулучаюцца, а ніізьвесна што, рыгазьзё.*

**Хуцавець** *незак.* Рабіцца акуратным. *Нада ж хуцавець хут трошычку, дакуля ты няўрёмішчыю еткім жыць думыіш.* **Хуцавецца** *незак.* 1. Рабіцца акуратным. *Ніскалька ён ні хуцавеіцца, хуць і пыдрыста́іць.* 2. *Зал.-бессуб'ект. ад* хуцавець. *Ці пычало яму нямножка хуца́віцца?*

**Хуцавый** *прым.* Акуратный. *Каб ён быў такей хуца́вый, як меншый, я б словічка ні гываріла. Памяни.* **хуцавенькій**. *Ну ладна, ты дужа хуца́вінькій, цябе й хва́люць.*

**Хыканне** *н.* Сцішанае злоснае бурчанне. *А што ён сы сваім хы́кыньнім зьдзелыіць, пахы́кыіць і ўспакоіцца.*

**Хыканнік** *м.* Той, хто сцішана злосна бурчыць буркун. *Ой, хы́кыньнік узяўся, што ўжо такоя Зьмітрок зьдзелыў, што ён пуўдня хы́кыіць.* **Хыканніца** *ж. Во пыдыбра́лыся па́ра: і іна тыкая самыя хы́кыньніца, як ён.*

**Хыкаць** *незак.* Сцішана злосна бурчаць. *Доўга старік хы́кыў, січас, знаць, сьціх.* **Хыкацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* хыкаць. *Што табе, узноў хы́кыіцца, дужа ты сяньня расхы́кыўся.* **Хыкнуць** *зак.* Сцішана злосна забурчаць. *Па́ру разоў хыкнуў тута і некуды пашоў, ці ня ў лес, шукаў нешта тапорік.*

**Хыркала, хырканнік** *м.* 1. Буркун, непрыемная, бурклівая асоба. *Ета ўжо зыдаўся хы́ркыла, яго ніякій чорт ні пірявúчыць. Ня дужа твой хы́ркыньнік стра́шын, як ты ду́мыіш.* 2. Хрыпун. *Урадзіўся хы́ркыла, пы свайму прі-родзьдзю пашоў.* **Хырканніца** *ж.* 1. Буркуха, непрыемная, бурклівая жанчына. *Як сьвякрова хы́ркыньніца, умеіць пубурчэць.* 2. Тая, што хрыпіць. *Зь дзявоства была хы́ркыньніца, паетыму ніхто і замуж ні браў.*

**Хырканне** *н.* 1. Непрыемнае, злоснае бурчанне. *Няўжэлі ныра́віцца слухыць яго хы́ркыньня?* 2. Хрыпенне. *Лёхкія зыхыладзіў, паетыму і пычалося хы́ркыньня, нада бярежца, а ён ніскалька ні бірягецца.*

**Хыркаць** *незак.* 1. Непрыемна, злосна бурчаць. *Ён*

*тута дойга хыркый, усё нейкія вярёўкі іскаў, хто іх браў калі, тэя вярёўкі.* 2. Хрыпець. *Прастуджын быў, усю зіму хыркый, ён і ў бані выпарівыўся і ныцірала яго Верка, ня дужа пымыгала.* **Хыркацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* хыркаць. 1. *Яму ўсігда дужа ладна хыркыіцца, усігда спакою німа.* **Хыркнуць** *зак.* Непрыемна, злосна буркнуць. *Нешта нейкыя зьдзелыіцца, калі ды хыркніць,— хыркніць і ўспакоіцца.*

**Хырленне** *н.* Змарнеласць, заняпаласць. *Як пычанецца хырліньня, яно няскора атпусьціць. У яго ні січас ета хырліньня, яно даўно яго мучыіць.*

**Хырленнік** *м.* Змарнелы, заняпалы чалавек. *Ай, якей зь яго жыціль, хырліньнік, ні адно, дык другоя, усё нывалііцца ны яго.* **Хырленніца** *ж. Змалку была хырліньніца, а тады пыдрысла і акліяла, цяперя ладныя баба.*

**Хырчэнне** *н.* Стоенае злоснае бурчанне. *Ці вы тута ні наслухыліся ац старыга хырчэньня? Ён сам знаіць, што яму зы хырчэньня можыць быць.*

**Хырчэннік** *м.* Той, хто стоена, злосна бурчыць. *Абоя яны хырчэньнікі ладныя, крепкія нада нервы цярьпець іх.* **Хырчэнніца** *ж. Калі ж ты пасьпела стаць такою хырчэньніцыю?*

**Хырчэць** *незак.* Стоена злосна бурчаць. *Кажыцца ж, саўсім ні було за што хырчэць, дык ён усё роўна найшоў прічыну.* **Хырчэцца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* хырчэць. *Ты мне скажы, за што яму ні хырчэлыся калі-небудзь?*

## Ц

**Цалёвачка** *ж.* Невялікая дошка-цалёўка. *У цябе ж на сенцых цалёвычка ляжыць, і шукаць ні нада. Каб бірнушкой пару ны цалёвычкі руспусьціў, дренна ні було б.*

**Цалічком** *прысл. ласк.* Цалкам. *Ён, знаць, цылічком глыкыіць ягыды, ні жваўшы. Тэй воўк і прыглыціў бальуныга ягнёнычка цылічком.*

**Цалкамі** *прысл.* Цэлымі, неразразанымі (пра бульбу). *Учора пачышчупыла і сяньня ныварила бульбы цылкамі, ахотня мае паелі. Памянш.* **цалочкамі**. *Ах, каб штук пяць бульбін цалочыкымі, во зьелыся б смашна!*

**Цалок** *м.,* **цалкі** *мн.* Цэлая адвараная бульба. *Зьеж хуць адзін цалок, ны дарогу ні пыўрядзіць гырячынькыя. Цалкоў сістра атварыць, пыджарыць сала, мы нымыкаімся, з гуркамі ныядзімся і пашлі. Памянш.* **цалочак.**

*Зьеў ба, зьеў сьвежынькіх цалочыкыў, ды доўга ішчэ ждаць нада.*

**Цалянне** *н.* Пападанне. *Стріляіць у пустый сьвет зь яго цыляньнім. Ну, што с твайго цыляньня пулучылыся?*

**Цантаўра, цантаўрыя** *ж.* Цвінтарэй. *Наша баба усігда цынтаўру зьбірала, ета ў яе було лікарства ат усіх хвароб. А ты зыварі цынтаўріі ды папі троху, гаворюць, іна дужа пымыгаіць.*

**Цапканне** *н.* Хапанне. *А ну цябе с тваім цапкыньнім, ці так курей ловюць.*

**Цапканнік** *м.* Той, хто хапае. *Во ета ныстыяшчый цапкыньнік, раз і гатова, быран у руках.* **Цапканніца** *ж. Відзіш, ікая зь мяне цапкыньніца, лаві ўжо сам, я табе нічога ні пымагу.*

**Цапкаць** *незак.* Хутка хапаць. *Ты зыбігай аттуля, а я зь естыга боку, будзім яго цапкыць. Ні цапкый, нічога тута ні ліжала.* **Цапкацца** *незак.* Хутка хапацца. *Я хацеў зы жардзінку цапкыцца, ды ні дыстаў і пыляцеў тыршма носым.* **Цапнуцца** *зак.* Хутка схапіцца. *Каб ні цапнуўся за сук, сь цябе б тута блін быў с такея вісычыны.* **Цапнутый** *дзеепрым. Ага, ты ўжо цапнут! Ніхай цапнут, а вы яго ўсё рыўна ні зываліця.*

**Цапочак, цапочачак** *м. памянш.* Цапок. *Выріж роўнінькій цапочык ны ніты. У мяне многа цапочыкыў, на клеці зьвязыныя ліжаць. Можа табе етый цапочычык падойдзіць, ён дужа гладзінькій.*

**Царыпанне, царыпканне** *н. жарт.* Хапанне. *Такоя тваё царіпыньня, што кошку ні схваціш, іна ж нікуды ні ўцікаіць, ціхінька пышла і ўсё. Ня дужа яны быяцца твайго царіпкыньня.*

**Царыпаннік, царыпканнік** *м. жарт.* Той, хто хапае. *Я віджу, што ўсе царіпыньнікі зы плятнём схуваліся, ждуць, як ты будзіш іціць. Вылазь, царіпкыньнік, с кустоў, некыга лавіць.* **Царыпанніца, царыпканніца** *ж. Сь цябе, канешня, самыя што ня ёсьць царіпыньніца, ты можыш і зайца сцаріпыць, калі ён будзіць спаць. Бягіць царіпкыньніца, січас паможыць табе лавіць.*

**Царыпаць, царыпкаць** *незак. жарт.* Хапаць. *Ці ня Віцьку вы прігатовіліся царіпыць? Ета ж я так пітуха царіпкыла, чуць ні схваціла, ён вырвыўся, а я брязь.*

**Цацканне** *н.* Важданне, асцярожнае абыходжанне. *Данілыва цацкыньня дужа ныдаела. Ні знаю, чаго табе ныравіцца ета цацкыньня.*

**Цвяканне** *н.* Чвяканне. *Што ў цябе лі ганык усігда*

*цьвя́кыньня, нада ўсё ацскресьць, аткінуць ды пацсы́пыць зямлі, піска.*

**Цвякаць** *незак.* 1. Чвякаць. *Дужа прыпіта́лыся зімля вадою, айдзе ні ста́ніш, усю́дых цьвя́кыіць,— што ты хочыш, еткія дажджы́ лілі цэлыю нядзелю.* 2 *перан.* Біць з гучным чвяканнем. *Ён ба усіх цьвя́кыў,— іш ты яго, гірой якей, глядзі, ці сваю гылаву зносіш.* **Цвякацца** *незак.* 1. Чвякаць. *Пыц саломыю пряма выда стаіць, ідзеш — дык ажно цьвякыіцца.* 2. Падаць з гучным чвяканнем. *Сколька разоў ён тута цьвя́кыўся!* **Цвякнуць** *зак.* 1. Чвякнуць. *Я стаў, дык у етым месьці ажно цьвя́кнула.* 2. Ударыць з гучным чвяканнем. *Цьвя́кнуць пу зубах і зьнясеш, такей прыспалітный.* **Цвякнуцца** *зак.* Упасці, ударыцца з гучным чвяканнем. *Ныла́зіш, што цьвя́кнісься ды пряма ў лужыну, я тады пірідзівацьцябе ня буду.* **Цвякнутый** *дзеепрым.* Ударaный. *Апцёрся цьвя́кнутый і пашоў моўчынька, дыгіройствывыўся.*

**Цвяленне** *н.* Дражненне. *Дзеці, а ўжо цьвя́ліньня як у бальшы́х, што ат узрослых пачуюць, тоя й пухтыря́юць.*

**Целяпеніцца** *незак. неадабр.* Весці гутарку без узаемаразумення. *Будзіш ты зь імі тута цэлый дзень ціляпеніцца. Поп сваё, чорт сваё, столька ўремя ціляпенюцца і да толку ня дойдуць.*

**Целяпеньчык** *м. памянш.* Целяпень. *Во як рызыйшоўся ціляпеньчык, дужа яго Дынілёнык дапёк. А што ж ты аць ціляпеньчыка хочыш, як ён сыбразіць.*

**Целяпнёў** *прым.* Такі, які належыць або ўласцівы целяпню. *Ізьвесныя дзела, ціляпнёва работа, сколька ні глядзі, дык нада пірядзелывыць. Ты мне ціляпнёвы словы ні пірідыва́й, ты мне скажы, што сам думыіш.*

**Целяшок, целяшочак** *м.* Невялікі кавалак бервяна, невялікая калода. *У мяне ёсьць ладный ціляшок ны пыдва́лкі, нада вы́брыць урemя ды завезьць руспусьціць. Нескылька ціляшочыкыў ляжыць пыц стряхою, ні знаю, што ён думыіць зь іх дзелыць.*

**Цеменнік** *м.* Запаленне мозгу ў груднога дзіцяці. *Ціміньнік — дужа плыха́я балезьня, дзеці ні выдзержывыюць, пыміраюць. Мой мальчык сь цеміньніка памёр.*

**Цепануцца** *зак.* Крыху папарыцца. *Схадзі і ты з мушчыныміі ціпаніся, духу многа і вады хва́ціць. Нада було б ціпану́цца, я ўжо даўно быў у бані, цела веніка просіць.*

**Церабільшчыкаў** *прым.* Такі, які належыць церабільшчыку. *Ці ні цірябі́льшчыкыву яду ета панёс у зубах сы-*

*бака?* **Церабільшчыцын** *ж. Во цірябільшчыцына кохтычка астáлыся, зыработылыся, што забыла пра ўсё.*

**Церабіць** *незак. перан.* 1. Катурхаць, турбаваць. *Я ўжо свайго даўно цірябліо, каб ішоў ны магільнік магілкі пыправіў. Цірябі-ка ты іх, цірябі, ніхай сыбяруцца ды ў лес зьезьдзюць, лішнія палка ні звыляіцца.* 2. Есці. *Як селі з ложкымі, як дывай цірябіць кулеш!*

**Церабленне** *н. перан.* Катурханне, турбаванне. *Ня дужа яны слухыюць твайго цірябленьня, што ты скажыш— яны ноль унімáнія.*

**Церассядзельнічак** *м. памянш.* Церассядзёлак. *Вот вешыў жа цірісьсядзельнічык на гвозьдзік і німа, некыму спынáдыбіўся. Ш чаго ты цяперь цірісьсядзельнічык тэй выріжыш, вярёўкыю пыцьцягні і ўсё.*

**Церць** *незак. перан.* Вастрыць. *Як стаў церць тапор, дык большы зутупіў, чым найстріў. Ета ён трець ножніцы, войстріць так.* **Церцца** *незак.* Вастрыцца. *Каб рукамі дзелыў, дык ба і ножык цёрся.* **Цірнуць, церануць** *зак.* Крыху павастрыць. *Цірні бруском лупáтку, лу́ччы будзіць кыпáць. Як цірну́ матычку, іна ў мяне вайстрей становіцца. Нада хуць чым-небудзь цірянуць ножык.* **Цірнуцца, церануцца** *зак.* Крыху павастрыцца. *Каб цірнуліся ножнічкі, луччы б резылі. Як трошку цірянецца ножык, пывайстреіць.* **Цірнутый, церанутый** *дзеепрым. Чýствыіцца, што цірнýтый тыпарок, луччы бярець цісаць. Дайжа і ні пызнаіш, што твой ножык цірянýт.*

**Цеснацішча** *ж.* Вялікая цесната. *Цісна́цішча тыкая была, як яны толька мясьціліся у той хáччынкі. А мы ж столька ўремя жылі у цісна́цішчы.*

**Цесцяный, цесцянэй** *прым.* Ацеслівы, нявыпечаны. *Цісьцяны́й хлеб усігда нісмáшный. Саўсім цісьцянэя прíснакі, пряма як ляміц, як у печы ні былі.*

**Цецерлючонак** *м. перан. абраж.* Недалёкае дзіця. *Ты ж хырашэнька-хырашэнька рысталкýй, ато ціцірлючоныка саўсім у другей бок пойдзіць. Памянш.* **цецерлючоначак.** *Бегыіць ціцірлючонычык, ішчэ ён здорыва нідыпынімáіць.*

**Цецівіна, цецівініна** *ж.* Асобнае каліва націны. *Узяў ціцівíну — іна аршыны два, ня меншы, гоніць і гоніць уверьх. Укінь пырысятым нескылька ціцівінін, ніхай зáймуцца, ні пішчаць. Памянш.* **цецівінка, цецівінінка**. *Ну ета ж ціцівінкі ат морквы, ці ты ні пызнáіш. Тонінькія нейкія ціцівінінкі, пыт такімі харошыя бульбы ня жджы.*

**Цецярлюк** *м.* і *ж. перан. абраж.* Някемлівы чалавек,

дурань. *Ціцярлюк нейкій урадзіўся, зь ім жа ні пра што ні дыгаворісься. Чаго ина тыкая ціцярлюк? Памянш.* **цецерлючок**. *Ціцірлючок ты, я ж ясна скызаў, што бязьмен нада бабі занесьць, а ты каму занёс. Узмацн.* **цецерлючына**. *Во цігаіцца пы дзяреўні ціцірлючына, каб у путнэя рукі, ён ба работыў-работыў. Павеліч.* **цецерлючышча.** *Быў ты ціцірлючышча і астанесься такім, толку сь цябе ні разу ні палучыцца.* **Цецярлючка** *ж. Ну а што ты зьдзелыіш, раз ціцярлючка зыдылася, гываріць зь ёю трудна.*

**Цешаный** *дзеепрым. перан.* Кормлены (пра вепрука). *Дайжа ні скажыш, што твой кыбанчык цешыный, ён як надворный. Во ета відна, што цешыный, яго скора біць можна.*

**Цёпканне, цюпканне** *н.* 1. Хадзьба па гразі. *Табе, відна, ыравіцца ета цёпкыньня пы грязішчы. Мне зы вясну ныдаела цюпкыньня.* 2 *перан.* Квэцанне. *Кынчай-ка ты цёпкыньня, ніхай сохнуць сьцены. Табе цюпкыньня хваціць на ўвесь дзень.*

**Цёпкаць, цюпкаць** *незак.* 1. Ісці, хадзіць па гразі. *Ныўряд, каб ён выпрывіўся цёпкыць пы такой дарогі, січас разу нілізя ступіць, грязь ніпрылазныя. Цюпкылі мы, цюпкылі, чуць дыпляліся.* 2 *перан.* Ляпіць, мазаць. *Як устала, усё сьцены цёпкыіць, наводзіць к празьніку крысату. Пячуркі ўжо ні нада цюпкыць, яны і так ладны.* **Цёпкацца, цюпкацца** *незак.* 1. Ісці па гразі. *Мы ды самыга цімна цёпкыліся, па вушы ў грязі пріцягнуліся. Німа ў мяне бальшыя ахоты пы грязі цюпкыцца у тэя Дуччычы.* 2. Квэцацца. *З гліныю цёпкылыся цэлый дзень, у парогі троху абмазыла. Ці доўга ты зь естыю печчу будзіш цюпкыцца?*

**Цёпла** *прысл. перан.* У дастатку, багата (жыць). *Кулажоньк зажыўся, цёпла сядзіць, усяго у яго хвытаіць. Памянш.* **цёпленька, цёпленечка**. *Чаго ж яны ня будуць цёпліньа жыць, кылі так стыряюцца, а расходыў дужа ніякіх німа. Мыкарёнык цёплінічка акыпашыўся, што яму атходзіць.*

**Цёпцін, цюпцін, цяпцін** *прым.* Такі, які належыць нязграбнай, неакуратнай, нерашучай асобе. *Цёпціна рукадзельля зразу пызнаіш. Яно й відна, што цюпціна работа. Ну канешня, цяпцін пінжак, хто ж другей так пірімажыцца.*

**Цёпця, цюпця, цяпця, цёмця, цямця, цёпця-лёпця, цёмця-лёмця, цямця-лямця** *м.* і *ж.* Нязграбная, неакуратная,

нерашучая асоба. *Цёпця за што ня возьміцца, дык акуратнысьці ня жджы. Відна, што цюпця тыпарішча апцясывыў. Усякій пызнаіць, што цюпця ткала, разьві ета пылатно, ці зь яго можна што-небудзь пашыць. Узілася наша цяпця бліны печ, січас накорміць, усе будуць сыты. Вот скажы ты мне, чаго ты такей цёмця бізгаловый. Іна і ў дзеўкых тыкая самыя цямця была, чаго ты ат яе яшчэ хочыш. Тута зразу пызнаіш, што дзелыла цёпця-лёпця. Во чудак чылавек, думыіць, што яму цяпця-ляпця акуратна што-небудзь зьдзелыіць. Яно й відна, што цёмця-лёмця села за кросны,— можа мяшкоў якіх-небудзь і ныглымыздаіць. Каб ён ня быў цямця-лямця, дык ба можна було усяго дайціць і ўсяго дабіцца. У цямці-лямці ізьвесна якей абед палучыцца: у рот нічога ня возьміш.*

**Цёрла** *н.* Невялікая гліняная конусападобная пасудзіна. *У мяне було харошыя цёрла, ды пабілыся. Просу ссып у цёрла, а ў мяшочык можна яблыкі пірясыпыць.* *Памянш.* **цёрлечка, цёрлачка**. *Сушыныя грібы ці ня ў цёрлічку, малыя тама пірісыпалі. Пыдай-ка мне цёрлычка, я боб сыбяру.*

**Ціва, ціўка, цыва, цыўка** *ж. дзіц.* Куранё, птушанё, наогул птушка. *Ціву нілізя лавіць, ато квакуха будзіць біцца. Ціўкі пабеглі хувацца, яны спужаліся, што ты іх паловіш. Ціўкі ны бярёзкых сідзяць і пяюць. Цыва астаўся адзін, пішчыць, ні знаіць, куды бежч. Пойдзім цывык карміць, яны есьць зыхацелі.* *Памянш.* **цівачка, цывачка**. *Цівычкым халодна, яны просюцца ў хату пагрецца. Цівычкі у гнязьдзечку сідзяць і роцікі пырызіўлялі: есьць хочуць. Цывычка сядзіць у руке ціхінька-ціхінька.*

**Цігра** *ж. перан. гумар.* Сварлівая жанчына. *Каб табе пупалыся цігра, як Пуўлюку, тады б ты знаў, як жыць у сям'е. Дзеўка была ціхыя і спакойныя, а цяпер цігра стала.* *Павеліч.* **цігрышча**. *Во ўзяў Прыкапёнык цігрішчу ны сваю гылаву, зыгрызець яго саўсім.*

**Ціжбішча** *ж.* Надзвычай вялікая колькасць. *У іхным кылгасі людзей ціжбішча, яны выйдуць, як туча, і за дзень увесь лён выбіруць. Куды ета тыкая ціжбішча ідзець?*

**Цілік, ціліліk** *выкл.* Выгук, якім перадаецца ціўканне. *Птушычкі нейкія цілік, цілік ны бярёзкых. Птушкі пяюць ціліліk, цілілік.*

**Цілíканне, ціліліканне** *н.* 1. Ціўканне. *У лес вясною як зайдзіш, цілікыньня са ўсіх бакоў. Мы любілі слухыць цілілікыньня.* 2 *перан.* Тонкі голас (звыч. пра дзяцей).

*Пріехылі унýчкі, цяперя баба наслýхыіцца цілікыньня. Ці ні пырá вам кынчáць цілілікыньня, спаць нада лажыцца.*

**Цілікаць, цілілікаць** *незак.* 1. Ціўкаць. *Нейкія птýшычкі цілікыюць, я ні знаю, як яны завуцца. Кажныя раньня дзьве птушкі цілілікыюць на ліпых.* 2 *перан.* Гаварыць тонкім голасам (звыч. пра дзяцей). *Малыя мыя цэлый дзень цілікыіць, дужа любіць з бабыю рызгывáрівыць. Дзяўчонкі ны скамеічкі пасьці пат поўныч цілілікылі.* **Цілікацца, цілілікацца** *незак.* 1. *Зал.-бессуб'ект. ад* цілікаць, цілілікаць 1. *Як цёпла, і птушкым хырашо цілікыіцца. Чаго ж ня будзіць ластыўкым цілілікыцца, кылі птушнят выівілі.* 2. *Зал.-бессуб'ект. ад* цілікаць, цілілікаць 2. *Зь дзедым яму ладна цілікыіцца. Вам тута знаць, вясёлінька цілілікылыся.* **Цілікнуць, цілілікнуць** *зак.* Ціўкнуць. *Ці ты знаіш, ікая ета птушка цілікнула? Нейкыя нібальшэнькыя птýшычка цілілікнула.*

**Цінятліва** *прысл.* Празмерна ашчадна. *Ты ўжо цінятліва дзелыць ні стыряйся, у цябе ёсьць што у гаршчок укінуць.*

**Цінятлівасць** *ж.* Празмерная ашчаднасць. *Ну каму ж ба пыныравілыся тыкая цінятлівысьць? Ты ўжо меры ні знаіш іс сваёю цінятлівысьцю.*

**Цінятлівый** *прым.* Празмерна эканомны. *Іна баба дужа цінятлівыя, ацьсякець костычку бізь мяса і тую глядзіць, каб пупылáм пірясеч. Ня будзь такою цінятлівыю, прігатоў людзя́м як нада. Памянш.* **цінятлівенькій**. *Ого, Пашка цінятлівінькыя, ня дужа накорміць.*

**Ціняціцца** *незак.* Эканоміць, выдаткоўваючы вельмі ашчадна. *Ні ціняціся так, у цябе ўсяго ёсьць. Каб ты меншы ціняцілыся, ны цябе б так кріва ні пыглідалі.*

**Цінячэнне** *н.* Празмерная эканомнасць. *А ну іх с такім цінячэньнім, яны самі сабе жалеюць куска зьесьць. Калі вобмыль чаго, тады канешня і цінячэньня будзіць.*

**Цінячэннік** *м.* Той, хто празмерна эканоміць. *Дужа акынамістый, пряма цінячэньнік, а ні чылавек.* **Цінячэнніца** *ж. Тыкая ўжо цінячэньніца, кажыцца, драбінку солі і тую разьдзеліць нáпыл.*

**Ціп, ціпец** *м.* Ціпун (хвароба курэй). *Як у куріцы ціп, яе зразу пызнáіш, іна ня есьць, дзюбку разініць і крыльля апýсьціць. Я помню, як у нашых курей разы два ціпец быў, і аткуля ён толька бярецца!*

**Ціпканне** *н.* Падзыванне куранят. *Етыя піскля́ты пужлівыя, яны твайго ціпкыньня ні паслухыюць нізашто.*

**Ціплёнак** *м.* Кураня. *Квакуха дужа строгыя, іна зы ціплёнка пряма ў вочы кініцца. Ураньні пашлі с квакýхыю усе, а к вечыру двух ціплёнкыў німа. Памянш.* **ціплёначак.** *Злавіў ціплёнычка і носіцца зь ім, ішчэ прідáвіць у руках.* **Ціпляты** *мн. Усігда ціплят як насóдзіць, табун повін двор, а тады усадзьбу пыклыдáюць. Памянш.* **ціпляткі, ціплятачкі.** *Ты пыглядзі, айдзе ціпляткі, каб іх тхорь ні пылавіў. Ціплятычкі ні ацстаюць ат квакýхі, усё роўна усьлед бегыюць.*

**Ціпця** *м.* і *ж. дзіц.* Кураня. *Ты ні плач, січас я табе ціпцю злаўлю. Пабегла ціпця пыт палкі хуваццa.*

**Ціска** *прысл.* Цесна. *Ціска пыдбірацьвобуў нілізя, хадзіць ня будзіш, як пысажмець ногі.*

**Ціскій** *прым.* Цесны. *Купіш ціскія бацінкі і будзіш мучыцца. Ціскій пінжак, пряма режыць пыт пахымі.*

**Цісвуць** *незак. перан.* Быць значным, моцным (пра мароз). *Столька ўремя цісьніць марозік, пыра б ужо атпыдáць. Летыся ішчэ такою парою ціснуў мароз.*

**Ціхамір** *м.,* **ціхамірые, ціхамір'е** *н.* Ціхамірнасць. *Калі вам якей ціхамір будзіць, бáлыўнікым такім! Січас вы палучыця ў мяне ціхамірія. Толька прідзіць бацька, ён вам дасьць ціхамірія. Калі йта я ат вас ціхамірья даждуся?*

**Цішыць** *незак.* Суцішаць. *Чаго ты іх патроху ня цішыш, дыла і дыла распýсту, яны твыряць, што хочуць.* **Цішыцца, цішэцца** *незак.* Суцішацца. *Прі бацьку пычалі цішыцца, ато ж уходу нійдзе ні було. Нешта вам мала цішэіцца, відна, узноў лýпкі зыхацелі.*

**Цмактанне** *н.* Смактанне, піццё. *Нада атнімаць пырысят, ато яны сьвіньню на нітычку сьцягнуць зь іх цмыктáньнім, саўсім зывáлюць. Ырáвіцца яму цмыктáньня, узноў нылівай бутылычку і ныцягывый соску.*

**Цмактаннік, цмактун** *м.* Той, хто цмокча. *Ах, якей ты цмыктáньнік! Цмыктáньніка ат кабылы ні атыгнаць. Ці ні заселі у Мітрыхвана вашы цмыктáньнікі? Ладный цмактýн разьдзелыўся, крепкій. Памянш.* **цмактаннічак, цмактунок, цмактунчык.** *Як вам тута, цмыктáньнічкі, сядзіцца, ніхто ні зыбіжáіць? Із бутылычкыю цмуктунок кычаіцца пы сіньнікý. Бяс соскі цмактýнчык і спаць ня хочыць.* **Цмактунніца, цмактуха** *ж. Толькі пусьці ету цмыктáньніцу к карові, будзіць дудоліць. Тыкая быльшая цмактýха, стыдна с соскыю бегыць. Памянш.* **цмактушка, цмактушачка.** *Зынілáся цмактýшка і ня трогый,*

*ніхай ціха пысядзіць. Што, цмактýшычка мыя, абіджаюць, ні даюць есьць?*

**Цмактаць** *незак.* Смактаць. *Ігняты ішчэ цмокчуць айцу. Пырысяткі дужа хырашо цмокчуць адгон. Чаго там гываріць, любюць цмыктáць, ач чáрычкі ні атказывыюцца.* **Цмактацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* цмактаць. *Нешта с тваёю соскыю у яго саўсім ня цмокчыцца. Ім нічога цмокчыцца, выцігнуць пы стыкáнчыку і яшчэ глідзяць.* **Цмактануць** *зак.* Смактануць. *Путпусьці цялёнка, ніхай цмыктанець. Учора ім пыдвязло, троху цмыктанýлі у Ігарёнка.* **Цмактанутый** *дзеепрым. Во тута відна, што нямножка цмыктанýта, цялёнык мордыю торкыў.*

**Цмыганне** *н. неадабр.* Бязмэтны пошук. *Каб хто найшоўся ды нылáіў хырашэнька зы яе цмыгыньня, атаўчыў ба ат етыя прівычкі.*

**Цмыганнік, цмыгун** *м. неадабр.* Той, хто старанна шукае там, дзе не трэба. *Цмыгыньнік як баба, як яму толька ня стыдна. Мушчына, а цмыгýн хужы бабы якея, толька і знаіць бегыць адзь дзьвярей ды дзьвярей.* **Цмыганніца, цмыгуння** *ж. Айт, што ты пры яе будзіш гываріць, ізьвесныя цмыгыньніца. Пышла цмыгýньня лётыць пы дзяреўні, усюдых яе пабýдзіць, пысядзець у дваре некылі.*

**Цмыгунь** *выкл.* Шась. *Перша пышыптáліся, а тады адзін зы адным цмыгýнь сь сянец. Васіль выйшыў, а цірізь мінутку іна цмыгýнь усьлед.*

**Цоканне** *н. жарт.* Цалаванне. *Ці ня посьлі цокыньня ты бягіш такей вясёлінькій? Кынчайця цокыньня, заўтря дыцалýіціся.*

**Цоканнік** *м. жарт.* Той, хто цалуецца. *Сьпяць цокыньнікі зыдраўшы ногі, пыд раньня пришлі.* **Цоканніца** *ж. Айдзе тута наша цокыньніца схувáлыся?*

**Цокаць** *незак. жарт.* Цалаваць. *К табе госьць пріехыў, бягі скарей цокыць. Пашоў цокыць сваю ніныглядныю.* **Цокацца** *незак.* Цалавацца. *Знаць, ды самыга раньня цокыліся лі цяремухі.* **Цокнуць** *зак.* Пацалаваць. *Ці пасьпела ж ты цокнуць сваю куму? Як жа так ты яго атпусьціла і ня цокнула?* **Цокнуцца** *зак.* Пацалавацца. *Бягіця скарей, ато й цокнуцца ні пасьпеіця.* **Цоканый, цокнутый** *дзеепрым. Блішчыць, што медный сумувар, зразу відна, што цокыный. Ну, кылі цокнутыя, то можна йціць.*

**Цурбаліна** *ж.* Ссохлае сцябло буйнога зелля. *Патторні пад дровы нескылька сухенькіх цурбáлін, яны ўміг агнём апхвáцюцца. Памянш.* **цурбалінка**. *Сухея цурбá-*

*лінкі кой-айдзе тырча́ць пы траве, нада пывырыва́ць.* **Цурбалле** *н. зб. Усю зіму́ цурба́льля тарчы́ць пы гароду, нада було пывыкіда́ць з восіні.*

**Цурбоненне** *н.* Наліванне. *Уніміся сы сваім цурбоніньнім, нальлеш усюдых, дык мне пыцьціра́ць некылі, січас пыстаў кружку на места.*

**Цурбоніць** *незак.* 1. Ліць. *Большы вады ні цурбонь сюда, сьвіньні есьць ня будуць.* 2. Ліцца. *Ні ш чаго дождж як улупі́ў, дык цурбоніла ў сенцых нівісь як, дужа крыша рассохлыся. Паслухый-ка, ці ня ў погріб ета выда цурбоніць.*

**Цурбэлка** *ж.* Пасудзіна, якая цячэ. *Ня лі нічога ў ста́рыя вядро, ета цурбэлка. Памянш.* **цурбэлачка**. *Цурбэлычка гаршчонычык, у ём дзірічка зьнізу.*

**Цурганне** *н. неадабр.* Даванне, навязванне. *Атвяжы́ся ты сы сваім цу́ргыньнім, такея-то прісма́кі твае бліны.*

**Цурчэнне** *н.* Гук ад струменя вады. *Паслухый-ка, усё дно як цурчэньня. Не ніякыга цурчэньня я ня чую.*

**Цыбаліна** *ж.* Ссохлае сцябло буйнога зелля. *Усе цыба́ліны сыбярі ды на гонь зынясі. Памянш.* **цыбалінка**. *Во тута нескылька цыба́ліныk аста́лыся.* **Цыбалле** *н. зб. Ну нільзя ж дупускацца, каб цыба́льля пы гароду засела.*

**Цыбулініна** *ж.* Асобная цыбуліна. *Дзьве цубу́ліні ны пасьці пайхунта весым. Памянш.* **цыбулінінка**. *Нада цубу́ліныk пыкрышыць ны скыўраду́, а тады ж жы́жкыю уліць у бульбу, смашней будзіць.*

**Цыганне** *н.* 1. Ціўканне, пішчанне. *Сыпні ты чаго-нібудзь етым ціпля́тым, ныдаела цы́гыньня.* 2 *неадабр.* Стогены пошук. *Як ёй самой ні ныдаесьць ета цы́гыньня, іна ні пынімаіць, што над ёю усе сьмяюцца.*

**Цыгаць** *незак.* Пішчаць (пра кураня). *Бегыюць ціпля́ты біс квакухі, цы́гыюць, а йна ўжо сакочыць, ня будзіць большы вадзіць.*

**Цыліндровый** *прым.* Вальцовы (пра муку). *Немцы як уцікалі, мельніцы кругом пыпалілі, айдзе ты тае цыліндровыя мукі намеліш. Памянш.* **цыліндровенькій** *Каб сьпікла ладык с цыліндровінькія мукі, смашней ба былі́.*

**Цыліндроўка, цыліндра** *ж.,* **цыліндрык** *м.* Вальцовая мука. *У Каробчыні была мельніца, малолі цыліндроўку. Як ёсьць цылі́ндра, дык хырашо, і блін сьпякеш, і кулеш зваріш, с ахоткі зьясі. Мяшочык цылі́ндріку ёсьць, усяго можна напеч. Памянш.* **цыліндровачка**. *Чаго с цыліндровычкыю ня жыць, пякі і варі што хочыш.*

**Цыпа, цыпка, цыпачка** *м.* і *ж. дзіц.* Кураня. *Цы́пу*

*лавіць ні нада, ён дужа ма́лінькій. Цыпкі бегыюць зы квакýхыю, адны ні астаюцца. Зьбіліся цыпычкі ў кучку, ім халодна. Цыпычка адна аста́лыся, пішчыць, шукаіць другіх.*

**Цырканне** *н.* Даенне. *Я знаю, што можыць быць: зыбалбочысься і на ўсё забудзіш, во й будзіць цыркыньня. Карова крічыць, ні дажджэцца твайго цыркыньня.*

**Цырkануць** *зак.* Падаіць спяшаючыся. *Ікая чарка ні надоіцца, а нада цыркану́ць карову. Цыркану́ла сваю малошніцу і пабегла у ягыды зы бабымі — дыгыняць.* **Цырканучца** *зак.* Падаіцца ў спешцы. *Ні цырканецца, а йдзі і падой січас.* **Цырканый, цырканутый** *дзеепрым. Ці цыркына ж карова, ато ты можыш забыць і кінуць так. Каровы цыркану́ты, цяперя вы да вечыра свабодны.*

**Цытра, цытруля** *ж. асудж.* Сварлівая жанчына. *Ніізьвесна па ком цытра ўрадзілыся, нійдзе места ёй ні бываіць. Я паслу́хыў адзін раз: ікая ж цытру́ля, закрый бог і замілый. Павеліч.* **цытрышча**. *Сыма кругом вінувата, а ну другіх нясець што зря, во цытрішча прыклятыя!*

**Цыўканне** *н.* 1. Ціўканне. *Я нідайна чуў цыўкыньня у бурля́ні, можа там тваe ціпляты.* 2. Морганне. *Машка ні пыніла яго цыўкыньня. Пымінутныя цыўкыньня нікрасіва.*

**Цэбер** *м.* Драўлянае вядро для выцягвання вады з калодзежа. *Цэбір у калодзіжы разьбіўся, нада, каб хто пычыніў. Конь дужа піць зыхацеў, поўный цэбір выпіў. Памянш.* **цэбрык**. *Выцігні яшчэ цэбрік, я зынясу ў хату, ніхай стаіць на́ ныч.*

**Цэбернік** *м.* Пасудзіна ёмкасцю ў цэбар. *Два чугуны цэбірнікі купілі сьвіньням па́ріць. Нашто мне цэбірнікі цігаць, нада пыглядзець меншых цугункоў.*

**Цэберный** *прым.* 1. Такі, які мае ёмкасць у цэбар. *Як ты цэбірныя чугуны цігаіш?* 2. Такі, які мае адносіны да цэбра. *Цэбірныя дужка вот-вот пірятрецца, і цэбір можыць калі астацца ў калодзіжы.*

**Цэлый** *прым.* Цэлы. *Памянш.* **цэлінькій, цэленечкій, цалюсенькій, цалюсенечкій**. 1. Цэлы, непашкоджаны. *Во табе цэлінькыя булычка, як браў, так і аддаю. Цэлінічкій пінжак, што зь ім станіць, ён толька да горыда прайшоў і нызад. Цалю́сінькыя рубашка, іна дайжа ці ныдзівана. Цалю́сінічкій твой ячмень, у ім ні аднае куріцы ні було.* 2. Цэлы, поўны. *Цэлінькій дзень мы прытарчэлі на том бызарі і прівязьлі пырысят нызад. Цэлінічкій гырлач мылыка зы раз выпіў. Цалю́сінькыю ноч ні спалі, дайжа*

*вачэй ні зьвялі, думылі, ён нізáштычка ні пірі̂начуіць. Вёдры пыныліваў цалю́сінічкія, як ён пынясець такея.* **Цалюхтанькій, цалюхтанечкій, цалюхтачкій.** Цэлы, поўны. *Цалю́хтынькій месіц хадзілі і нічога ня вы́хыдзілі. Цалю́хтынічкія гырла́чыкі пызывя́зывыла, пыставіла і пышла, ніхай, думыю, ложка сьмітаны будзіць, а прішла — кошка кыкыта́мі пырызырва́ла тряпычкі і пазьлізывыла верьх. Чыріз усё лета цалю́хтычкій дзень пастойка с тубуном, дасца пызьбá. Цалю́хтычкыю нядзелю дождж і дождж, як зырядзіў, так і ні сьціхаіць.*

**Цэпанне, цэпканне** *н.* Квэцанне. *Ты ўжо, знаць, атвыкла ац цэпыньня, у цябе цяперя усё чысьцінькыя. І цэпкыньня ныдыідáіць, нягож ні ныдыідаіць, усё ў грязі і ў грязі.*

**Цэпаннік, цэпканнік** *м.* Квэцаннік. *Відзіш, якоя зыняція найшлі сабе цэпыньнікі. Ніхай-ка цэпкыньнікі ідуць у хату, яны ўжо мокрыя па вушы.* **Цэпанніца, цэпканніца** *ж. Хочыш, січас ета цэпыньніца будзіць сядзець пысярёд лужы. Дывайці-ка, цэпкыньніцы, кынчаць з гліныю, січас Сашкіны ці ні пад'едуць.*

**Цэпаць, цэпкаць** *незак.* Квэцаць. *Ня цэпый ты большы адзёжы, яе тады ні аччысьціць і ні атмыць. Нешта вы пуўдня етый кут цэпкыіця.* **Цэпацца, цэпкацца** *незак.* Квэцацца. *Старік на столі цэпыўся, можа зьлез ды пашоў куды, мне нічога ні гыварій. Ці табе ішчэ ні ныдаела цэпкыцца у етый грязі́шчы?*

**Цэпка** *ж.* Ланцужок. *Нашто табе ета цэпка, нічога ты зь яе ня зьдзелыіш. Нейкыю цэпку пупалі і балыюцца. Памянш.* **цэпачка.** *Цэпычку сабе чыпля́іць на шыю як дзеўка ікая.*

**Цэрква** *ж.* Царква. *Як строілі нашу цэрькву, дык, гыварілі, ішчэ піл ні було, усё тыпырамі дзелылі. Памянш.* **цэркаўка.** *У нашый цэрькыўкі пупа ні було, іс сабора пріійжджай служыць, мы былі саборныга пріхода.*

**Цэтлік, цэйтлік** *м.* Паперка, нязначны дакумент. *Я вун усе цэтлікі у каробку склыдáю. Айдзе-то ліжалі цэйтлікі, зразу і ні нáйдзіш. Памянш.* **цэтлічак, цэйтлічак.** *Во я тута нейкія цэтлічкі ныйшла, ці етыя табе нада. Пыкладзі цэйтлічкі адзьдзельна, можа, калі зныдыбя́цца.*

**Цюкаванне** *н.* Звязванне ў цюкі. *Учора мы ну цюкувáньні зымаріліся, многа було работы.*

**Цюромшчык, цюрэмшчык** *м.* Арыштант або той, хто варты турэмнага зняволення. *Нійдзе цюрёмшчыку спакою німа, пашоў у Бірязуйкі і там пыдняў бітвў. Ён усюдых*

*вядзець сябе як ныстыяшчый цюремшчык.* **Цюромшчыца, цюрэмшчыца, цюромніца, цюрэмніца** *ж. Ета цюрёмшчыца найдзіць якую-небудзь пятлю, ускочыць, так іна ні абойдзіцца. Цюремшчыца ты, ні дырма цябе і мужык кінуў, і матка атрікла́ся. Я б с тою цюрёмніцыю дайжа рызгыварівыць ні стала. Ых, цюремніца ходзіць, ніхто ёй нійдзе места ні дасьць.*

**Цюханне, цюхканне** *н.* Павольная, слабая хада. *Я ўжо здáліку пызнала Адаркіна цю́хыньня. Во відзіш, якоя Пынасыва цю́хкыньня.*

**Цюхкаць, цюхкацца** *незак.* Існі з цяжкасцю, павольна. *Ці знаіш, сколька мы цю́хкылі ат Мідзькыўшчыны ныпрямкі ціряс поля, нійдзе ступіць нілізя. Цю́хкыўся ён пы дзяреўні нідаўна, паплёўся у тэй бок, пыдз Заречча.*

**Цюцька, цюця, цюцік** *м. дзіц.* Сабака. *Цю́цька кусаіцца, нілізя яго трогыць. Січас цю́ця прібягіць і зыбярець твой хлебчык, еж скарей. Цю́ціка ужо німа, спаць лёг і табе пыра лажыцца. Памяншч.* **цюцечка, цюценька, цюцічак.** *Во й цю́цічка бягіць усьлед зы намі. Цю́цінька есьць хочыць, січас мы яго пакормім. Хадзі сюда, цю́цічык, ня бойся, мы цябе біць ня будзім.*

**Цюцькін, цюцькаў, цюцін, цюцеў, цюцікаў** *прым. дзіц.* Такі, які належыць сабаку або мае да яго адносіны. *Нясі-ка цю́цькіну місычку, мы яго січас пакормім. Цю́цькыва хатка цякець, будзім ріманці́рывыць. Цю́ціны сьлядкі, пы грязі́ бегыў кругом хаты. Ці чуіш ты цю́цію голыс, просіцца ў хату пагрецца. Ета цю́цікыва работа, мыш у норку ўскачыла, ён кыпаў, хацеў злавіць. Памяншч.* **цюцічкін, цюцічкаў.** *Дзяржы цю́цічкіну вярёвычку, ніхай пабегыіць, пугуляіць, ато яму ныдаела сядзець. Цю́цічкыву яду ня трогый, можыць разьліцца.*

**Цягаць** *незак. перан.* Накульгваць, з цяжкасцю ступаць. *Ён левыю даўно ціга́іць, ні знаю, што зь ім. Ціга́ў доўга нагу, во ды чаго ба́лыўства дывяло.* **Цягнуць** *незак.* 1. Існаваць. *Мае стырікі пакуля троху ця́гнуць. Я пряма ні прідумыю, па чым ён ця́гніць, нічога ня есьць.* 2. Накульгваць, з цяжкасцю ступаць. *Ладна заметна, што ця́гніць нагу.* 3. Павяваць. *Хулуднува́тый віцярок ця́гніць, пінжак нада браць абізацільна.* 4. Хіліць (на сон). *Ні дыспа́лі, дык ця́гніць на сон, такея зь іх і работнікі сяньня.*

**Цяжалаватый** *прым.* Цяжкаваты. *Памяншч.* **цяжалаваценькій, цяжалаваценечкій.** *Ціжулува́цінькій мяшочык, пакуля дынясеш, дасца. Ціжулува́цінькыя дзяўчонка і*

*ўсё рягочыць. Калодычка ціжулуваціничкыя, ні глядзі што маліникыя.*

Цяжолый: **цяжолая зямля**. Глеістая неўрадлівая глеба. *Лі балота усьцяж цяжолыя зімля, жалься божа, што сеіш, нічога ня родзіць. Ны цяжолый зямле урыджаю ня жджы.*

**Цялёпанне, цялёпканне, целяпанне** *н.* 1. Боўтанне. *Атвяжы свае арелі, ныдаела ета цялёпыньня пысярёд хаты. Ніхай буўтаіцца, кылі табе цялёпкыньня дужа пыныравілыся. Пыдвяжыся акуратней, ціліпаньня у цябе нейкыя збоку.* 2 *перан. неадабр.* Хаджэнне следам. *Я б яго жыва атаўчыла аць цялёпыньня. Як табе ні ныдаесьць яго цялёпкыньня. Зыбярі яго сь ціліпаньнім зь естым, цігаіцца ўсьлед як мышанёнык якей.*

**Цялёпацца** *незак.* 1. Боўтацца. *Нейкыя мутузіна цялёпыіцца ззаду, патторні.* 2 *перан. неадабр.* Хадзіць следам. *Малый цялёпыіцца зы хвастом, ні ны шаг ні ацстаець. Ты будзіш цялёпыцца за Тонькыю, пакуля іна замуж зы каго выйдзіць.*

**Цяліцца** 1 *незак.* і *зак.* Цяліцца (пра карову). *Мыя карова дылжна кылы вялікыдня цяліцца.* 2 *зак.* Нарадзіцца (пра цяля). *Ай, у мяне сёліта узноў бычок цяліўся, каб цёлычка, мы б гудувалі, як-небудзь ба пірікармілі.*

**Цялушка** *ж.*, **цялушонак** *м. ласк.* Падцёлак. *Цялушка мыя, цялушычка, пускубі клівярку. Цілушонык твой пыглядный, мылако далжно быць. Памянш.* **цялушачка, цялушоначак**. *Цялушычка як распрыгыіцца ны вярёўкі, ня ўдзержыш. Цэлый дзень цілушонык прівязын ны дарогі.*

**Цялушканне** *н.* Падзыванне каровы, падцёлка выгукам «цялушка». *Сьціхні ты сь цялушкыньнім, прібягіць твыя цёлка, нійдзе ня дзеніцца.*

**Цялушкаць** *незак.* Падзываць карову, падцёлка выгукам «цялушка». *Як пычанець цялушкыць, зы Сажом пачуіш.*

**Цяменне** *н.* Добрае разуменне. *Бацька быў як нідапечыный і ў сына такоя самыя цяміньня. Ня жду я ўжо ат яго ніякыга цяміньня.*

**Цяміцца** *незак.* Добра разумець. *Меншый ува ўсім цяміўся луччы за большыга. Ні ў чом ён ні цяміцца, нейкій як глумак.*

**Цямка** *прысл.* З добрым разуменнем. *Ні глядзі, што малый, цямка зыпымінаіць усё, усё пухтыряіць, што пачуіць.*

**Цямкасць** *ж.* Здольнасць добра разумець. *Якея ты хочыш цямкысьці ат мальгвы́, што яны пынімаюць. Якей-то як рызівон, ця́мкысьці на нохыць німа.*

**Цямніць** *незак. перан.* Часткова ўтойваць праўду, не выказвацца прама. *Цямніць нешта твой зяцёк, ні гаворіць пра тоя сянцо, а ён знаіць усё. Ім ба, кажыцца, німа чаго цямніць, а воч жа гываріць ня хочуць.*

**Цянькі** *мн.* Прамы ход без дарогі. *Палу́чуцца цянькі, як заблу́дзісься і ня будзіш знаць, куды выйціць, абыйдзі луччы дарогыю.*

**Цяпканне** *н.* 1. Няўмелае перасяканне. *Як пупадзеш пы пальцых тыпаром, будзіць тады ця́пкыньня.* 2 *перан.* Кусанне. *Я табе дам ця́пкыньня, кылі палку хвачу́, носісься ты ўсё з зубамі.*

**Цяпкаць** *незак.* 1. Сячы абы-як, няўмела. *Ця́пкыюць нешта тыпырамі, калі каторый пы наге ні пупадзець.* 2 *перан.* Кусаць. *Кылы ма́ліц̆енькіх пырысят нада дужа астарожна, дайжа самыя ціхыя сьвіньня, буваіць, ця́пкыіць зубамі.* **Цяпкацца** *незак.* Сячыся абы-як. *Што у вас тута ця́пкыіцца, ці нысікіцё хуць на печ?*

**Цярэмуха, цяромуха** *ж.* Чаромха. *Цяремуха вясною дужа красіва цьвіцець. Я сваім мальцым скызала, каб цярёмухі абізацільна пысадзілі.*

**Цярэмухавый, цяромухавый** *прым.* Чаромхавы. *Можна цяремухывыя цаўё у вілкі зьдзелыць. Зыбівай цярёмухывый кол, ён сухей, будзіць дзіржаць.*

**Цярэмушына, цярэмшына, цяромушына, цяромшына** *ж.* Чаромшына. *У Адаркіных пыд вакном быльшая цяремушына сядзела, кажный год дужа сільна цьвіла. Сь цяремшыны нулумай сучкоў зь лісьцім, я ў печ пыстаўлю ў чугуне ды ногі пыпарю. Сь цярёмушыны лісьця апсыпаіцца дужа рана, на ўсіх дзірівáх ішчэ дзяржыцца, а на ёй ужо німа. Зысыхáіць твыя цярёмшына, нечыга нідылігáіць ёй. Памянш.* **цярэмушынка, цяромушынка.** *Вы́кыпыйка ты ету цяремушынку, іна нібыльшая, хырашо прімíцца. Многа цярёмушынык пысадзіў пад вокнымі, як рызрасту́цца, красіва будзіць.*

**Цясаннік, цясальшчык** *м.* Часальшчык. *Ціса́ньніку нада войстрый тапор, абы-якім многа ні нацешыш. Сла́бый ісь цябе ціса́льшчык нада падросьць троху. Памянш.* **цясаннічак.** *Не, ціса́ньнічык, с тыпаром табе ні ў мячыка бегыць, крюкым стыяць ня дужа лёхка.* **Цясанніца, цясальшчыца** *ж. Як мушчына ціса́ньніца, усё дно як Сямён тыпаром мыхаіць. Маша ня хужы цябе ціса́льшчыца.*

**Цясцявый, цесценаватый** *прым.* Крыху ацесліва, нявыпечаны. *Цісьця́вый хлеб і есьць ніпрія́тна, ён ажно ґ зубам ліпніць. Каб ні пулучыўся твой хлеб цісьцінува́тый, ато выцігніш, будзіць як вяз. Памянш.* **цясцявенькій, цесценаваценькій.** *А хто знаіць, чаго етый хлеб цісьця́венькій пулучаіцца. І сяньня твой хлеб цісьцінува́ціснькій, ня ўмеіш ты печ як нада.*

**Цясцянка** *ж.* Цестападобнае рэчыва. *І мука, і бульба, усё ўмесьці пірімішáна, цісьця́нка нейкыя ў цябе пулучылыся. Пуўвідра цісьця́нкі асталыся, пырысятым вы́вірні.*

**Цясьма** *ж.* Тасьма. *Памянш.* **цясёмка, цясёмачка.** *У мяне ёсьць кусочык цясёмкі, я зывяжу. Айдзе ты ўзіла такую красівыю цясёмычку?*

**Цясютканне** *н.* Падзыванне каровы выгукам «цясют». *Ня хочыць іна слухыць твайго цясю́ткыньня, клевір смашней.*

**Цясютканнік** *м.* Той, хто падзывае карову выгукам «цясют». *Не, я па голысу ні пызна́ю, хто йта такей цясю́ткыньнік.* **Цясютканніца** *ж. Я ўжо чую, што ета Марьіна цясю́ткыньніца, яе голыс.*

**Цясюткаць** *незак.* Падзываць карову выгукам «цясют». *Карова вы́рьвіцца і ўцякець ны атаву, а Прося цэлый вечыр цясю́ткыіць.*

**Цяўкала** *м.* і *ж.,* **цяўканнік** *м. перан. груб.* Асоба, якая любіць падкусіць, распусціць чуткі, разбалбатаць сакрэт. *Твой сват ізьвесный ця́ўкыла, любога патку́сіць. С такою ця́ўкылыю нілізя ні пра што гыварíць. Ён усігда такей ця́ўкыньнік быў, с са́мыга хлапества помню.* **Цяўканніца** *ж. А той ба ця́ўкыньніцы нада було сьціхнуць і зумурува́цца, пакуля людзі муўчаць.*

## Ч

**Чабоцік** *м.,* **чабоцікі** *мн. гумар.* Боцік. *У правым чабоціку уся пыдышва ат'ехыла. Пыдажджы, мы табе купім чабоцікі луччы, чым у Маруські. Нешта мала ты пыхадзіў у етых чабоцікых.*

**Чабурдыханне, чабурханне** *н.* 1. Наліванне або вьіліванне адным махам, адразу. *Ат твайго чубурды́хыньня пы́рскі ува ўсе бакі, ажно ды сьцяны дылітаюць. Цішэй ты ш чабу́рхыньнім зь естым.* 2. Кіданне ў ваду. *Ета ж яны скачуць у ваду,— такоя чубурды́хыньня чутна. Будзіць чабу́рхыньня, як ны якей сук узыб'іцёся.*

**Чабурдыхаць, чабурхаць** *незак.* 1. Ліць адным махам, адразу. *Столька вады сюда чубурдыхыць нілізя, гліна будзіць жыдкыя саўсім. Чабўрхыіць вядро зы вядром, і што ты яму скажыш.* 2. Прыгаць у ваду. *Так чубурдыхыць рiскоўна, ты ж ні знаіш, што тама на дне, можыш ны якую палку узьбіцца. Дужа сьмела чабўрхыюць у ваду, ажно страшна.* **Чабурдыхацца, чабурхацца** *незак.* Кідацца ў ваду з плёскам. *Як яны аччáінна чубурдыхыюцца ў ряку, пряма з разгону. Пуўдня зь беріга чабўрхыліся, ня столька касілі, сколька буўталіся.* **Чабурдыхнуць, чабурхнуць** *зак.* 1. Лінуць адным махам, адразу. *Зразу сўды вады у бочку чубурдыхнуў. С пуўвідра чабўрхнуў калі ня большы, а сюда нада було адных дзьве кружкі.* 2. Кінуцца з плёскам у ваду. *Як чубурдыхніць ізь вісычыны, мы думылі, ён ужо ні ўсплувець,— не, усплыў. Смела чабўрхнуў, і ны нізнакомым месьці.* **Чабурдыхнуцца, чабурхнуцца** *зак.* Кінуцца з плёскам ў ваду. *Чубурдыхнуцца ня штука, а во ці вылізіш ты аттуля. Чабўрхнуўся і паплыў на тэй бок у жавіны, тама ў кустах іх дужа многа.*

**Чакуха** *ж.* Доўбня. *Чакўху разьбіў, а пень дайжа ня треснуў, і кліны ні пымаглі. Калі пўсьціць усьлед чакўхыю, ты тады атвўчысься адурювáць.*

**Чапанне** *н.* Павольная слабая хада. *Знаю, якоя ў Напрея чáпыньня, пуўдня будзіць іціць, разоў пяць аддыхнець пы дарогі.*

**Чапацца** *незак.* 1. Ісці павольна. *Куды йта ты, кума, далёка чáпыісься, хадзі-ка пысядзі мінутычку. Пыдзь дзівяноста гадоў, а ішчэ лі хаты чáпыіцца.* 2. Быць у павольнай хадзе. *Як табе чáпыіцца цяперя, можа яшчэ ў грібы ходзіш?*

**Чапацца** *незак.* Задзірацца, паводзіць сябе задзірыста. *Сь кім ты уздўмыў чыпáцца, яны ж саўсім мылахольныя. Сам вінуват, каб ні чыпáўся, і яны б нічога ні гыварілі.*

**Чаплянуцца** *зак.* Зачапіцца. *Ета ж я так у лесі за сук чыплянўўся, рызырваў рукаў да локця. Ні пагледзіў і так чыплянўўся плячом ап прітылку, відна, кожу зьбіў, аж сáдніць.*

**Чапурыць** *незак. гумар.* Прыбіраць, нараджаць. *Чупурі скарей сваю кралю, чужыя хлопцы ідуць ны вічарінку, можа каторый выбіріць. Ты яго чупуріш як жыніха усё роўна.* **Чапуроный** *дзеепрым. Ого, якея чупурёныя сяньня*

*нашы дзеўкі!* **Чапуромшы** *дзеепрысл. Етык чупурёмшы, ты яе зьдзелыїш як кукылку.*

**Чапурэнне** *н. гумар.* Прыбіранне, нараджанне. *Ну што ж, у цябе харошыя чупуреньня пулучаіцца. Уніміціся ш чупуреньнім, ато дам вічарінку.*

**Чапурэннік** *м. гумар.* Той, хто прыбіраецца, нараджаецца. *Адзін пірід адным стыряюцца чупуреньнікі як ныстыяшчыя хлопцы. Памянш.* **чапурэннічак**. *Ты ж, чупуреньнічык, хуць рубашку сабе пыгладзь.* **Чапурэнніца** *ж. Ла́дны ўжо, ла́дны будзіця, чупуреньніцы, пызна́юць вас рылыўскія хлюсты́.*

**Чапухова, чапуховіста** *прысл.* Дрэнна. *Нешта ён чупухова гародзіць, ета прясла само зыва́ліцца. Чупуховіста ў яго пулучаіцца, калі ні масьцір, дык і зы тапор ні бярісся. Памянш.* **чапуховенька**. *Чупуховінька дзелыць мне ні ныравіцца, па мне кылі брацца, дык дзелыць пы-ныстыя́шчыму.*

**Чапяльнічок** *м.* Невялікі чапяльнік. *Паедзіця ў лес, дык чыпільнічок вы́сікіця, етый саўсім пірігарей, скыўраду пыднімаць страшна.*

**Чаранка** *н.* Невялікае дзяржанне, ручка. *Ножык у чыря́нку рышшыта́ўся, нада на новыя ўзьбіць. Сасновыя чыря́нкі сла́бінькія, нада бярёзывыя дзелыць.*

**Чарапашына** *ж.* Чарапок. *У чыріпа́шыну ў якую-небудзь атлі дзёхцю і пымажыш калёсы. Памянш.* **чарапашынка, чарапашачка**. *Ета чыріпа́шынка дужа меліцькыя, нада што-нібудзь глубачэйшыя пушукаць. Зь нейкімі чыріпа́шычкымі дзеці гуляюць, ніхай зубуўля́юцца, каб толька пальцы ні пыбрізáлі.*

**Чарапочак, чарапочачак** *м.* Маленькі чарапок. *Нешта я ніўдзе ні найду кошкін чыряпочык, хацела мылыка ёй цёплыга лінуць. Круць-верць, у чыряпочыку сьмерць* (загадка). *Зу сундуком чыряпочычкыў сколька хочыш.*

**Чарассядзельнічак** *м. памянш.* Церассядзёлак. *Чырісьсядзельнічык павесь на гвозьдзік, каб ні пыціряўся. Як чырісьсядзельнічык пы хрібціні паходзіць, тады ты пурузумнеіш.*

**Чарненне** *н. перан.* Гараванне, вялікае перажыванне. *Нагледзілыся я ны Праскоўіна чарненьня. Нічым ты яе чарненьню ні паможыш.*

**Чарнілка** *ж.* Чарніл͏ьніца. *Дренна було чарнілку насіць у школу, а мы ж насілі гыдамі. Чарнілку трудна вумува́ць, выда зь яе ні вылівáіцца, луччы ўсяго ціріс саломінку вы́ссыць.*

**Чарнобыліна** *ж.* Асобная расліна чарнобылю. *Чарнобыліны парьві і пывыкідывый, ці ты іх будзіш бярежч. Памянш.* **чарнобылінка.** *Нібальшэя чарнобылінкі скосюцца, а стáрыя хуць высікай.*

**Чарнослівіна, чарнаслівіна** *ж.* Чарнасліў (асобнае дрэва). *Быльшая вы́рысла чарносьлівіна, а йшчэ ні цьвіцець. Многа ў іх чырнасьлівін удоўж кылы прясла сядзіць. Памянш.* **чарнослівінка, чарнаслівінка**. *Дзьве чарносьлівінкі ссохлі, ні знаю сам ач чаго. Вы́кінь ты етыя чырнасьлівінкі, луччы б яблыну пысадзіў.*

**Чарнослíўка, чарнаслíўка** *ж.* Чарнасліў (дрэва і плады). *Як садзіў, я думыў, сьліўкі, а ета чарносьліўкі. Цэлыю шапку чарносьлівык прінёс, ныпароў айдзе-то. Памойму, дык адзінакыва, ці сьліўкі, ці чырнасьліўкі. Памянш.* **чарнослівачка, чарнаслівачка**. *Тут і так ужо росьць некуды, а ты ішчэ чарносьлівычку торкыіш. Чырнасьлівычкі нада рыссáджывыць, ім цесна становіцца.*

**Чарнявый** *прым.* Чарнявы. *Памянш.* **чарнявенькій, чарнявенечкій**. *Пріїжджаў Антоныў сын іж жонкыю: чырня́віṅькыя мыладзіца, красівыя. Такея самыя чырня́вінічкія дзяўчонычкі, як сыма, ны яго ніскoлька ні паходжы.*

**Чаропка** *ж. перан. абраж.* Дзяўчына. *Ты луччы сваю чарёпку глядзі, мяне ня трогый. Ён ужо сам ні знаіць, што іс сваімі чарёпкымі дзелыць. Павеліч.* **чаропішча**. *Хто тую чарёпішчу замуж возьміць, каму йна нада.*

**Чартавэй, чартавый** *прым.* Нягодны, нядобры, непрыемны. *Чыртавэй хрáкцір у чылавека. Саўсім чыртавы́й чылавек, с такім ніхто ні ўжывець.*

**Чартакож** *м.* Корт. *Я, бувала, чыртакожу ныбяру, пашыю мáлым на лета і штонікі, і рубашычкі, яны й бегыюць.*

**Чартакожавый** *прым.* Картовы. *Чыртакожывыю рубашычку купі сабе і бýдзіш хадзіць бяз горя, іна носкыя.*

**Чартапхайка** *ж. іран.* Рысорная павозка. *Любіў ба ты ны чыртыпхáйкі рызыіжджáць. Доўга стыяла у нас разломыныя чыртыпхáйка. Памянш.* **чартапхаечка**. *Пыдажджы, я табе січас чыртыпхáічку зыпрягу і пыдганю.*

**Чартаўё, чартоўе, чарцяннё** *н. зб. асудж.* Нягоднікі. *Хто зь еткім чыртаўём пыладзіць, што ты гаворіш. Адно чыртаўё тама, я дайжа іціць ні хачу. Я дык бы біш чартоўя абыйшоўся і ні зваў. А хвытаіць і ў іх чырціньня́, ніхай богу ня грешуць.*

**Чартахвост** *м.* Вычвараннік. *Чыртахвост быў мушчы-*

*на, німала чаго тваріў.* **Чартахвостка** *ж. Думыіш, Мыланка меншыя чыртахвостка? — тыкая самыя, як Трахім, нісколька ат яго ні атхадзіла.*

**Чартовіна** *ж.* Прадмет незразумелага прызначэння. *Нейкыя чартовіна выляіцца, ні знаю, длі чаго іна. Памяні.* **чартовінка, чартовіначка.** *Ні прідумыць, длі чаго етыя чартовінкі пыпрібівáны сюда. Мáлый неткуль кучу якіх-то чартовінычык прівалок.*

**Чарціный** *прым.* Чортаў. *Чарціныя натура у чылавека, яй-богу, чарціныя, хто ж ба ета прідумыў такую дуратý сыпысáць. Толька пупадзіся у етыя чарціныя лапы, хвáціць сь цябе.*

**Чарэмушына, чаромушына** *ж.* Чаромшына. *Вун мáлыя ужо ны чаремушыну узыдрáліся. Чарёмушын большы ні садзі, ім росьць некуды, і так усе вокны зыгырадзілі. Памяні.* **чарэмушынка, чаромушынка.** *Нібыльшая, а так сільна цьвіцець чаремушынка твыя. Я сабе тожа пысадзіў чарёмушынку.*

**Чарэпанне** *н.* Чэрпанне. *Якоя ж чарепыньня, калі вядро пы грязі езьдзіць і ўсё. Я знаю, сколька ў іх будзіць чарепыньня: пуўдня, ня меншы.*

**Чарэпаннік** *м.* Той, хто чэрпае. *Дужа ты доўга, чарепыньнік, возісься, можна було ўжо нычарепыць паўбочкі, а ні пыўвідрá.* **Чарэпанніца** *ж. Тыкая зь яе й чарепыньніца, іна дужа сагнуцца ня можыць.*

**Чарэпацца** *незак.* Зачэрпвацца. *Тута ужо ўся выда, пасьці нічога ні чарепыіцца.* **Чарэпнуцца** *зак.* Зачарпнуцца. *Сколька чарепніцца, столька й дыстывáй, некылі стыяць. Як чарепнулыся, і рыбіна у вядро ўскачыла, выцігнуў з вадою.*

**Часальшчык, часальнік** *м.* 1. Той, хто чэша, расчэсвае. *Ты як дзеўка чысáльшчык, толька астáлыся кудрі зугудуваць. Стыряіцца чысáльнік, дачку прічэсывыіць як ляльку.* 2. Той, хто расцягвае на машыне воўну. *Нашы чысáльшчыкі каб ні зунучувáлі тама, нешта ўсё німа і німа. Чысáльнікі дужа рана паехылі з воўныю, худзь ба ж ужо шчысáлі як-небудзь.* **Часальшчыца, часальніца** *ж.* 1. Тая, што чэша, расчэсвае. *Чысáльшчыцы як сядуць, дык ну пуўдня, ня меншы. Вун яны пыд яблынкыю чысáльніцы, чупуряцца ўсё.* 2. Тая, што расцягвае на машыне воўну. *Зымаріліся чысáльшчыцы, машыну круціць ня дужа лёхка. Пыдажджы мінутку, можа нашы чысальніцы пыдбігаць.*

**Часаннік** *м.* Той, хто чухае, чухаецца. *Што вы, чысань-*

*нікі, скрібіцёся, пыль, грязь, нада баню тапіць.* 2. Той, хто чэша, расчэсвае. *Во як зы ма́лымі чыса́ньнік уха́джывыіць, усіх пырашчэсывыў, пыпрібіра́ў.* 3. Той, хто расцягвае на машыне воўну. *Паехылі мае чыса́ньнікі у горыд, ці шчэшуць воўну, ці не.* **Часанніца** *ж.* 1. Тая, што чухае, чухаецца. *Пычашы яму плечкі, чыса́ньніца.* 2. Тая, што чэша, расчэсвае. *Грябёнкыю чыса́ньніца ару́дыіць, січас рашчэшыцца.* 3. Тая, што расцягвае на машыне воўну. *Прыжда́лі мае чыса́ньніцы пуўдня у Лідагошчы і ні шчыса́лі воўны, нешта машына злумалыся.*

**Часначыніна** *ж.* Зубчык або асобная расліна часнаку. *Чысначы́ніну апчысьці і зьеж. Ета ня пы́рнік, ета чысначы́ніна лезіць, яны ма́ліинькія дужа паходжы. Памянш.* **часначынінка**. *Вазьму с сабою па́ру чысначы́ніныкі, ніхай будуць.*

**Часочак** *ж.* Гадзінка, кароткі адрэзак часу. *Худзь ба ж ты адзін часочык пабыў з ма́лыю, а я б у горыд атвярнулыся. Айдзе ў мяне тэя часочыкі, мне дыхнуць некылі.*

**Часціць** *незак. перан.* 1. Скакаць з частым прытопваннем. *Як выйдуць часьці́ць адна пірід адною, адна луччы другой.* 2 *іран.* Лаяць, ушчуваць. *Сыноў сваіх за нешта часьці́ць Вукулёўна.*

**Чатыраць** *незак.* Пры гульні «У куля» набіраць адразу чатыры ачкі, двойчы падбіўшы куль. *Чытыря́ць і я ўмею, а ты папробый шысьцярні, як Сярёжа.* **Чатырнуць, чацвярнуць** *зак.* Пры гульні «У куля» набраць адразу чатыры ачкі, двойчы падбіўшы куль. *Ты, знаць, адзін раз усяго чытырну́ў. Ні хвалі́ся, што ты чыцьвярну́ў, я піцярну́ў трі разы пыдряд.*

**Чаханне** *н.* Шумныя ўдары, біццё, лупцоўка. *Ух, ча́хыньня, із-зы пліча палку ап калодку абухым лупіць! Глядзі, глядзі, сымаму будзіць такоя ча́хыньня, што ажно задзівісься.*

**Чаханнік** *м.* Той, хто ўдарае, б'е, лупцуе. *Што тэя ча́хыньнікі тама дзелыюць, чаго ім ні сядзіцца. Адзін ча́хыньнік ужо носіцца с пальцымі, разьбіў мылатком, нычáхыў.* **Чаханніца** *ж. Ты ўсіх, ча́хыньніца, зыстра́шыш, усе цябе будуць быяцца.*

**Чахвошчанне, чахвосценне** *н.* Моцная лупцоўка, хвастанне. *Ня дужа ён спужа́ўся твайго чахвошчыньня. Як табе посьлі чахвосьціньня, ці чэшуцца троху плечы? Ты, відна, ўцёк, каб ні пулучыць чахвосьціньня.*

**Чахвошчаннік, чахвосценнік** *м.* Той, хто моцна лупцуе, хвошча. *Тожа мне найшоўся чахвошчыньнік, зы сваімі*

*луччы глядзі. Ну што ты, чахвосьціньнік, слаб ужо дыгыняць іх?* **Чахвошчанніца, чахвосценніца** *ж. Ага, спужаліся яны такея чахвошчыньніцы, ці ты іх зловіш, яны як міціворы. Каб табе каторыга бáлыўніка прівёў, ты была б тады чахвосьціньніца лáдныя.*

**Чахлый** *прым.* Чахлы, змізарнелы. *Памянш.* **чахленькій, чахленечкій.** *Два мульчугáны ў яе і абоя чáхлінькія. Ды самыя арміі быў чáхлінькій, а с арміі вярнуўся здаровый хлопіц. Чáхлінічкія кусьцікі сідзяць, ня хочуць прінімацца.*

**Чахнуць** *зак. перан.* Шпарка пабегчы. *Пацьцёлкі чáхнулі пряма пы ячменю, ці ты іх пірягоніш. Ныпрямкі чáхнуць у ягыды, яны ды абеда пы вядру ныбяруць.*

**Чахоташлівый** *прым.* Туберкулёзны. *Арінін зяць усё дно як чахотышлівый, від у яго саўсім чáхлый. Я б зы чахотышлівыга нізáштычка б ні пышла.*

**Чацвёрка, чацвяртушына** *ж.* Чацвярцінка. *Ніхай ба чацьвёрка пры ўсякій слýчый стыяла. Каб чыцьвяртýшыну ўзяў, саўсім ба другоя дзела було. Ці ні схувала ты айдзе чыцьвяртýшыну? Памянш.* **чацвёрачка, чацвяртушынка.** *Відна, кума табе і чацьвёрычку пыставіла. Я думыў, што ў яе будзіць чыцьвяртýшынка.*

**Чацвярговый** *прым.* Такі, які зроблены, выкананы ў чацвер. *Ета ішчэ ці ні чыцьвярьговыя ладкі ў цябе ліжаць.* **Чацвярговыя ніткі.** Ніткі, якія напрадзены ў чысты чацвер левай рукой і паводле старых уяўленняў валодаюць магічнай сілай. *Я блюдý трошку ну клубочыку чыцьвярьговых нітык.*

**Чачэніць** *незак.* Цягнуць на задаванне. *Чаго цябе етык чачэніць?* **Чачэніцца** *незак.* Задавацца. *Ого, як умеюць чачэніцца, учыць ні нада. Доўга яны чачэніцца ня будуць, скора асядуцца.*

**Чашчэнне** *н.* 1. Частаванне. *Ці давольны ж асталіся госьці яго чашчэньнім? Вясёлінькія пашлі, пыныравілыся Ягорыва чашчэньня.* 2 *перан. іран.* Лаянка, праборка. *Ладныя чашчэньня пулучылі ат кумы.*

**Чаюха** *ж.* Рэшткі заваркі з чаю. *Астáлыся на дне адна чаю́ха, выль у памы́йныя вядро. Чаго ты носісься ш чаю́хыю, вы́трісі ды кружку памый.*

**Чвякала** *м. неадабр.* Той, хто есць з чвяканнем. *Як ты ясі, чвя́кыла, аж на вуліцы чутна.*

**Чмуціць** *незак.* Чмурыць, задурваць. *Ён цябе чмуціў, а ты й веріла, як мáлінькыя. Мяне ты чмуціць ня будзіш, я табе ні Марычка.*

**Чмучэнне, чмуценне** *н.* Чмурэнне, задурванне. *Васіль біс чмучэньня шагу ступіць ня можыць. Хваціць з вас і ўчырашніга чмучэньня. Атыйдзі ты ат,мяне іс сваім чмуценьнім.*

**Чмыханне** *н. перан.* Імгненнае знікненне, уцёкі (пра жывёлу). *Каб хырашэнька ў пугі ўзялі, атвыкла б ат етыга чмыхыньня, ато глядзі, глядзі і ні ўпасеш.*

**Чмыхаць** *незак. перан.* Імгненна знікаць, уцякаць (пра жывёлу). *Дужа ўредныя карова, сколька разоў іна чмыхыла ў клевір, ходзіць, кажыцца, ціхінька, а тады гылаву зыдрала і кытанула.* **Чмыхнуць** *зак.* Імгненна знікнуць, уцячы (пра жывёлу). *Айдзе йта пацьцёлкі, ці ня чмыхнулі яны ў авёс.*

**Чоканне** *н.* Хадзьба з прыстукваннем. *Тымаркіна чокыньня табе дужа ныравіцца.*

**Чокаць** *незак.* Ісці з прыстукваннем. *Чокыць умеіць, толька ці умеіць іна за серп узяцца. Чокылі б пу трутуварых дужа хырашо, каб хто прісмакымі карміў.* **Чокацца** *незак. Зал.-бессуб'ект. ад* чокаць. *Хырашо ім чокыіцца, пакуля сідзяць на бацькывый шыі.*

**Чорканнік, чырканнік** *м.* Той, хто крэсліць, крэмзае. *Узяўся чоркыньнік зы кырындашы, січас нымалюіць — усё пірячоркыіць. Што ета чыркыньнік дзелыіць, нашто ты дыла яму кніжку порціць. Пылажы-ка ты, чыркыньнік, кырындашы ды ні балыйся.* **Чорканніца, чырканніца** *ж. Адбярі ў тае чоркыньніцы кырындашы, ці відзіш, што йна творіць. Сь цябе ладныя чыркыньніца пулучаіцца, усю цітрадку згадзіла. Узілася чыркыньніца за дзела, січас табе нырісуіць што нада.*

**Чубаценне** *н. жарт.* Праборка. *Посьлі чубаціньня абоя як індыкі ходзюць.*

**Чубаціць** *незак. жарт.* Прабіраць, чубіць. *Ты яго чубаціш як мыладога. Пірістань ты ўжо яго чубаціць.* **Чубаціцца** *незак.* Жартам лаяцца адзін з другім. *А што ім атходзіць, чаго ні чубаціцца.*

**Чукава, чукавіста** *прысл.* Бадзёра. *Мікіпыр яшчэ чукава ходзіць, можыць і к вам пыдыйціць. Брацца яны чукавіста бяруцца, толька і астываюць дужа скора. Памянш.* **чукавенька**. *А чаго яму чукавінька ні хадзіць, ці ён вырыбытыўся як другея, ці што. Выш. ст.* **чукавей, чукавісцей**. *Нада чукавей вурушыцца, нечыга пы быках глядзець. Чукавісьцій яго ныўряд каб зыставіў дзелыць.*

**Чукавасць, чукавістасць** *ж.,* **чукавенне** *н.* Бадзёрасць, жвавасць. *Чукавысьці ў яго сколька хочыш і на што хо-*

*чыш. Каб табе тыкая чукáвысьць, як Ныпряёнку! Чукáвістысьці ў яго аднаго ны чыцьвярых хвáціць. Ныйшла ат каго чукавеньня ждаць. Ні гывáрі ты мне пры Іваныва чукавеньня, ці яго хто ні знаіць.*

**Чукавець** *незак.* Рабіцца больш бадзёрым, жвавым. *Відзіш, і Домніна дычка пычыла чукавець, а ты гаворіш. Нешта ты ні чукавеіш, як старэй нейкій капошысься.* **Чукавецца** *незак.* 1. Рабіцца больш бадзёрым, жвавым. *Глянь-ка, як Васіль чукавеіцца.* 2. *Зал.-бессуб'ект.* ад чукавець. *Ніскол*ька ня відна, каб табе чукавелыся, шаволісься як ніжывэй.*

**Чукавый, чукавістый** *прым.* Бадзёры, жвавы. *Кулініна дычка усігда была дужа чукáвыя. Што ж ты скажыш, кылі ціряшчур чукáў зьдзелыўся. Ну хто ж ні знаіць, якей ты чукáвістый. Цірязь меру чукáвіст, каб і ціщэй быў, ні мішала б. Памянш.* **чукавенькій**. *Ні хвалі, ато й так піріхвалілі, ні такей ён чукáвінькій. Выш. ст.* **чукавейшый**. *Сколька ні гывáрі, дык чукавейшыя іна ні станіць. Памянш.* **чукавейшанькій**. *Етыя мальцы чукавейшынькія, ні нада іх гýніць.*

**Чуканне** *н.* Пялегаванне, песты, якія суправаджаюцца падкіданнем і выгукамі «чукі-чукі!». *Хвáціць с табою бáлывыцца, гуляй бяш чýкыньня. Ета табе ні зь дзядзькыю, у мяне ты пра чýкыньня забудзь.*

**Чуканнік** *м.* Той, хто пялегуе, песціць. *Ідзі, дыкасі аборычык, чýкыньнік, посьлі з мáлым будзіш зубуўляцца.* **Чуканніца** *ж. Скажы чýкыньніцы, ніхай пырысятым разводзіць, ажно пуню рвуць.*

**Чукаць** *незак.* Пялегаваць, песціць, падкідаючы ўверх і выгукваючы *«чукі-чук!». Ох, любіш, каб цябе чýкылі.* **Чукацца** *незак.* Песціцца пры падкіданні ўверх. *Што табе, нырáвіцца чýкыцца? Ідзі што-небудзь дзелый, хвáціць ужо зь ім чýкыцца.*

**Чуланчык** *м.* Невялікі чулан. *Старый чулáнчык стыяў у нас, зьверьху як столь було ныклáджына, воўцы ў ім зімували, дужа цёпла було. Памянш.* **чуланчычак**. *Мáлінькій чулáнчычык зьдзелылі, каго ўжо яны туды будуць ставіць.*

**Чумазік** *м.* Замурзаны, счарнелы ад пылу, бруду або копаці чалавек. *Ходзіць чумáзік, ні памыіцца ні разу як нада. Ну што, чумáзік, ці пойдзіш ты сяньня ў баню?* **Чумазка** *ж. Такой чумáзкі толька ны вічарінку іціць.*

**Чунік** *м.*, **чунікі** *мн.* Чуня. *Ськідаіць з нагі чýнік адзін, а тады другей. Каб чýнікі якея зьдзелыла, дык ба бегыў*

*пы хаці. У чўнікых толька дзеці бегыюць, ета длі мáлых вобуў. Памяншь.* **чунічак.** *Айдзе ж ты дзіваў свае чўнічкі, ці ні ставіў у пячўрку?*

**Чупырсканне** *н.* Важкі ўдар. *Ніхто ні спужáўся твайго чупы́рскыньня. Яго быйстра асодзюць ш чупы́рскыньнім.*

**Чупырсканнік** *м.* Той, хто збіраецца або пагражае важка ўдарыць. *Ого, якей чупы́рскыньнік найшоўся, па шыі палучыць і ўніміцца.*

**Чупырскаць** *незак.* Важка біць. *Дык каго ты тама хочыш чупы́рскыць?* **Чупырснуць** *зак.* Важка ўдарыць. *Як чупы́рсьніць чым ціряз лоб, тады ты зразу атлезіш. У яго скора палўчыш, чупы́рсьніць і ўсё будзіць.* **Чупырснутый** *дзеепрым. Ну што ты трілю́дзіш чупы́рснут, ніхто яго ня трогый.*

**Чухаць** *незак. перан.* Шпарка бегчы ў страху. *Прідзіцца табе чўхыць ат'етуля. Чўхыйця, хлопцы, нызтаўнік сюда ідзець.* **Чухнуць** *зак.* 1. Шпарка пабегчы ў страху. *Толька увідзілі Зьмітрыка, чўхнулі куды каторый.* 2. Раптоўна хлынуць. *Прырвáла выда тваю зыгародку і чўхнула ў яму.*

**Чухмень** *м.* Накідка. *Твой чухмень мокрый, ні кідай як зря, павесь на шост, каб прасох. Памяншь.* **чухмянёк, чухменьчык, чухмянёчык.** *Вазьміця с сабою чухмянькі, мала што можыць быць, дождж як пойдзіць, зьмя́кніця. Я твой чухменьчык і ня відзіла і ні прібірала, успомні, айдзе сам кінуў. Чухмянёчык накінь на плечы і пірібягіш ціряз вуліцу.*

**Чханнік** *м.* Той, хто часта чхае. *Во зайшоўся чхáньнік, аж пыкрасьнеў. Ета Максіміхін чхáньнік, я ўжо чую.*

**Чыганне** *н.* Жыццё ў нястачы. *Пыгляджў, пыгляджў на іхныя чы́гыньня дый зынясу гырлáчык мылыка. Каб ужо біда ікая, ну дык ладна, ато ж ад гультайства такоя чы́гыньня.*

**Чыгаць** *незак.* Жыць у нястачы. *Кароўку прыдаў, а цяперя дзеці чы́гыюць біз мылыка. Ац свайго бязрўпыцьця чы́гылі, ні ач чаго большы.*

**Чыканенне** *н.* Майстэрская апрацоўка. *Пылажы ны мінутку сваё чыкáніньня, пымагі поіла вы́нісьць.*

**Чыканіць** *незак.* 1 *жарт.* Рэзаць. *Чыкáніць бруквіну бальшымі кускамі, ныўряд, каб ён яе еў.* 2. Рабіць надзвычайна, адмыслова. *Сядзіць цэлый дзень, граблі чыкáніць. Ты чыкáніш карзінку, усё дно як на выстыўку гатовіш.* **Чыканіцца** *незак.* 1. Рэзацца. *Ня дужа ройна у цябе*

*чыка́ніцца.* 2. Рабіць адмыслова, вазіцца. *Усё з брусочыкымі чыка́ніцца, даводзіць ды ладу, бырану хочыць зьдзелыць.*

**Чыкілянне** *н.* Чыкільганне. *Ох, якоя панельныя чыкіля́ньня! Я ні пыгляджу ны чыкіля́ньня, маты́чку ў рукі дам і ніхай разым лён матычыць.*

**Чыкіляннік** *м.* Той, хто чыкільгае. *Такіх чыкіля́ньнікыў і сьвет ня відзіў, дужа прімудрыў многа.* **Чыкілянніца** *ж. Як жа ты еткыю чыкіля́ньніцу пысылаіш у хрях'я, ёй толька пу трутува́рых хадзіць.*

**Чыкрыжыцца** *незак.* Добра, лоўка пераразацца. *Нешта ў цябе у адзін бок чыкры́жыцца. Каб ты ні пыляніўся нож пы́ттачы́ць, яно б ладна чыкры́жылыся, а так нічога ні пулучаіцца.*

**Чыкрыненне** *н. жарт.* Рэзанне. *Во чыкрініньня, ажно сапець. Аддай-ка ты ножык іс тваім чыкрініньнім, ніхай Паўлік атрежыць.*

**Чыкрыніць** *незак. жарт.* Рэзаць, адразаць. *Хлеб чыкрініць ды ціплятым носіць, во што ён дзелыіць. Па-мойму, Коля тута чыкрініў.*

**Чымся** *зл.* Чым. *Луччы палы́ атреж і ацступіся, чы́мся с такім чылавекым зьвязывыцца. Чымся бегыць цэлыю ноч, ляглі б ды выспыліся хырашэнька.*

**Чырканне** *н.* Чорканне, крэмзанне. *Пу руках палучыш за чы́ркыньня. Каму ты такоя чы́ркыньня будзіш пыказывыць, піріпішы акуратнінька.*

**Чырканўць** *зак. перан.* Хутка напісаць. *Толька пріедзіця, чыркані пару слоў, каб мы зналі, як вы тама даехылі. Усё работа і работа, некылі дайжа пісьма чыркану́ць.* **Чыркануцца** *зак.* Напісацца. *Нескылька слоў пазьней чырканецца.*

**Чыркнуць** *зак.* 1. Правесці вострым, цірнуць. *Чы́ркнуў аб нешта дзіхця́выя, рубец ну рукаве.* 2 *перан.* Напісаць спяшаючыся. *Чыркнеш, як пріедзіш, што тама ў іх тваріцца.* **Чыркнуцца** *зак.* Дакрануцца пры руху. *Чыркнуўся плячом, відзіш, якей шрам.*

**Чырта** *ж.* Плотніцкі інструмент для прыпуску бярвення. *Дай мне чырты́ на нескылька дней, нада баню ськідыць. Чырту́ пад ногі ні кідай, станіш — ці пагнеш, ці нагу праколіш.*

**Чырціць** *незак.* 1. Церціся, пакідаць след пры руху. *Упора нізка апушчына і каток чы́рціць.* 2. Прыпускаць, падганяць (пра бервяно). *Бірьвяно правільна ляжыць, можна чырці́ць.* **Чырціцца** *незак.* 1. Церціся, пакідаць

след пры руху. *Падбіць нада ручкі, усю дарогу каток чырціўся.* 2. Прыпускацца, падганяцца (пра бервяно). *Ты пыглядзі, ці правільна ў яго чырціцца, ато выбіріця паз, а дзірька будзіць ніізьвесна ікая.* **Чырчаный, чырчоный** *дзеепрым.* Прыпушчаны, падагнаты (пра бервяно). *Я толька знаружы правёў чырту, а сь сярэдзіны ішчэ ня чырчына. Ці чырчона ета бірьвяно, я тута нічога ні рызьбяру.* **Чырцёмшы** *дзеепрысл. Ты глядзі, чырцёмшы вядзі як нада, каб тады ні пірячэрчывыць.*

**Чырчэнне** *н.* Трэнне. *Нада пычыніць калёсы, каб ні було етыга чырчэньня. Падушка крівувáта пыдыгнáна, апускаіцца адзін бок ніжы і пулучаіцца чырчэньня.*

**Чырчэннік** *м.* 1. Той, хто крэсліць, крэмзае. *Січас табе чырчэньнік нымалюіць, толька любуйся.* 2. Той, хто падганяе, прыпускае бярвенне. *З мáлыга ішчэ такей чырчэньнік, праверь сам, каб правільна чырта ішла.* **Чырчэнніца** *ж.* Тая, што крэсліць, крэмзае. *Ладна стыряіцца чырчэньніца, усю кніжку пачоркыла ат нычала ды кынца.*

**Чысценне** *н.* Чыстата. *Айдзе ты відзіла у ніряхі чысьценьня. Ня будзіць тута ніякыга чысьценьня ні разу.*

**Чысціна** *ж.* Незарослая мясціна. *У кустах ёсьць ладныя чысьціны, можна сьмела касіць. У яго ны адной чысьціні стаіць капёшка і ну другой нібальшэй вазок будзіць, лісавоя сена дужа ядомыя.* *Памянш.* **чысцінка, чысціначка.** *Айдзе ты відзіў чысьцінку, я яе ні найшоў. Пу Дуброві чысьцінык німа, усё зарошшы. Мáлінькія чысьцінычкі, на іх с калёсымі ня дужа разьвернісься.*

**Чысцюха** *звыч. ж.* Чысцёха. *Стыряіцца чысьцюха, пымыгаіць маткі. Такей жа чысьцюха, усё каб яму було прібрáджына і ўпырячпына.*

**Чытака** *м.* і *ж.*, **чытаннік** *м.* Асоба, якая няўмела чытае. *Пыкыіць, мыкыіць чытáка, нічога ні рызыбраў, што ён прычытаў. Ай, пылажы ты, чытáка, кніжку, ці так чытаюць. Ён дужа прітный чытáньнік, цэлымі днямі гатоў чытаць.* *Памянш.* **чытаннічак.** *Сядзіць чытáньнічык нат кніжкыю, з рук ні выпускаіць, гаворіць, дужа аньціресна.* **Чытанніца** *ж. Што ж ты, чытáньніца, запомніла, што прычытала?*

**Чышчанне** *н.* Ачышчванне. *Ета тваё чышчыньня ны адзін дзень, дождж пройдзіць, пырысяты рыстаўкуць і ўзноў грязь будзіць.*

**Чэп** *м.* Металічная пласцінка з дзіркамі, якая служыць для замыкання дзвярэй. *Мне чэп у кузьні скувáлі. Чапы*

*у лайкі бываюць, нада ўзяць штукі трі. Я на чэп дзьверi вазьму і пышла, ні зымыкаю. Памяниш.* **чапок, чапочак.** *Чапок піряцёрся, саўсім слабінькій, скора саўсім разьедзіцца. Ну сундучку нібальшэнькій чапочык.*

# Ш

**Шабоўканне** *н.* Паданне ў ваду з ціхім успляскам. *Успакой, каб ні балывыліся зь естым шабоўкыньнім, з вадою шуткі дренныя.*

**Шабоўкаць, шабоўкацца** *незак.* Падаць у ваду з ціхім успляскам. *А ён жа два разы шабоўкыў па поіс на льду і два разы ліжаў с успаленіім. Во лоўка яны шабоўкыюцца ў ваду, дайжа ня чутна.* **Шабоўкнуць, шабоўкнуцца** *зак.* Упасці ў ваду з ціхім успляскам. *Ну што, шабоўкнуў брусочык у ваду, дудурачыліся? Шабоўкнуў зь беріга наўзныч, чуць ні зыхліпнуўся. Глядзі, ато шабоўкніцца ў кынаву, будзіш лавіць, а вады тут дужа многа.*

**Шабулдыханне** *н.* Буханне (у ваду). *Як вам ета шубулдыханьня ні ныдаесьць, кажыцца б, ні вылазілі з вады. Уго, як яны любюць шубулдыхыньня.*

**Шабулдыхацца** *незак.* Бухацца (у ваду). *Ты пыглядзі, як яны шубулдыхыюцца, калі голыў самі сабе ні паскручывыюць.*

**Шабуршэнне** *н.* Гучнае шамаценне. *Ён лёг і зразу сьпіць, якоя ён шубуршэньня пачуіць. Думыю, дай пыгляджу, што йта тама зу шубуршэньня.*

**Шабуршэннік** *м.* Той, хто гучна шамаціць. *Узяліся шубуршэньнікі зы работу, ажно пыл ляціць.* **Шабуршэнніца** *ж. Што ж ты, шубуршэньніца, тутыцька творіш?*

**Шабуршэць, шабуршэцца** *незак.* Гучна шамацець. *Аткуль жа я знаю, што тама шубуршыць, сам пыглядзі. Нешта шубуршэла пыц саломыю, каб вілкымі пукулупаў. Нічога тама ні шубуршэлыся, ета вы выдумывыіця.*

**Шабуціла, шабуцілка, шабуценнік** *м.* Той, хто падымае шум, крыкун. *Ён тады шубуціла, калі відзіць, што можна пушубуцець, а другей раз сядзіць як клоп у шчэліні. Во ты хвацісь, ужо Пынасіхін сын стаў шубуцілкыю. Ого, якей шубуцілка быў Дзёма, к яму, бувала, бяс хвігі ні пытхадзі. Каб хто найшоўся, хырашэнька ўспакоіў шубуценьнікыў еткіх, яны б так ні рызыряліся.* **Шабуценніца** *ж. Ты становісься такою шубуценьніцыю, як твой Кіріла быў.*

**Шабуціць, шабуціцца** *незак.* Шумець, крычаць, буяніць. *Кідайця, хлопцы, шубуціць, ета можыць дабром ня кончыцца. Ці ты ня чула, чаго тамыцька Мікіпырiняты шубуціліся.*

**Шаваленне** *н.* Варушэнне. *Глянь-ка вун туды, нейкыя шываленьня ў траве. Цішэй вы з вашым шываленьнім.*

**Шаваленнік, шавяленнік** *м.* Той, хто варушыцца. *Ляжыця ўжо, шываленьнікі, усё вам спакою німа. Якей ета шывяленьнік тута поўзыіць?* **Шаваленніца, шавяленніца** *ж. Я сiчас уніму шываленьніц, калі яны самі ня ўнімуцца. Чаго ета шывяленьніца усё крўціцца?*

**Шаваліцца** *незак.* 1. Варушыцца. *Сiчас пат хворыстым нешта шывалілыся, яй-богу, тама ці ня тхорь сядзіць.* 2 *перан.* Праяўляць актыўнасць. *Ці шаволіцца ж троху Пыраскін зяць, ён зьбіраўся многа чаго зьдзелыць.* **Шавальнуць** *зак.* 1. Варухнуць. *Нада будзіць сена шывальнўць кыла бедыў, яно скарей пацсохніць.* 2. Закрануць, надаць актыўнасці. *Ня дужа ты шывальнеш такога гультуя́, варочыіцца з боку на бок і большы нічога.* **Шавальнуцца** *зак.* 1. Варухнуцца. *У кустах што-то шывальнўлыся, ці ня ёжык тама капошыцца. Я гыварю, а ён каб шывальнўўся.* 2. Праявіць актыўнасць. *Ня дужа твой Мішычка шывальнецца, ён выліжыцца любіць.* **Шавальнутый** *дзеепрым.* 1. Варухнуты. *Шывальнўтыя сьвірепка пасьці сўха, а лібідá як кінута кріцыю, так і ляжыць.* 2. Закрануты, актывізаваны. *Шывальнўтыя, яны б трошку вурушыліся, а ні пычшывялёмшы ні за што ня возьмуцца.* **Шавалёмшы** *дзеепрысл.* 1. Варушачы. *Шывалёмшы хворыст, выгнуў крысу, ды здаровыю-здаровыю.* 2. Актывізуючы. *Яны такея, што ні шывалёмшы, нічога ня зьдзелыюць, прысьпяць пут кустамі.*

**Шагавістый, шагавітый** *прым.* Такі, які шырока крочыць (звыч. пра каня). *Я люблю, каб конь быў шыгавістый. Помніш, у нас тады шыгавістыга кыня укралі, зялезныя путы пірярезылі. Етый конь ня дужа шыгавітый.*

**Шаламшыцца** *незак. іран.* Гаварыць попусту з дурнем. *Як табе ня стыдна шыламшыцца с такім чылавекым, ты ж сымыстыяцільный мушчына.*

**Шаламшэй, шаламшуй** *м.* і *ж. іран.* Някемлівая, няўмелая, нязграбная асоба. *Бувала, прідзіць ны вічарінку тэй шыламшэй, усе сьмяюцца кылы яго. Іна ўсігда як шыламшэй, што ты ёй скажыш. Ні зьвязывыйся ш шыламшўім, толька людзей ныстрáміш. І іна тыкая самыя*

*шыламшу́й, як мужык, чорт ні адну пару лапцей стыптаў, пакуля іх сыбраў. Узмацн.* **шаламшэіна, шаламшуіна.** *Шыламшэіна ты бізгаловый, што ты ныгывper пры маіх дзяўчонык? Во вы́рыс шыламшу́іна, і ат людзей сьмех, і ад бога грех. Павеліч.* **шаламшэішча, шаламшуішча.** *А чаго ж Кіріліхіна шыламшэішча туды пабегла? Нашто ім етый шыламшу́ішча, ат яго чаго хочыш ждаць можна.* **Шаламшэйка, шаламшуйка** *ж. Шыламшэйка тая мыгла тріпану́ць пры Аріміных, іна міма йшла. Ну як жа ён шыламшу́йку мог паслухыць, айдзе у яго свыя гылыва сядзіць, ны плічах ці яшчэ айдзе-то? Памянш.* **шаламшэечка, шаламшуечка.** *Ну што, шыламшэічка, калі свае па́міці німа, дык хуць людзей паслухый. Стаіць шыламшу́ічка, вушамі хлопыіць.*

**Шаламшэнне** *н. іран.* Пустая размова з дурнем. *Як табе ні ныдаесьць такоя шыламшэньня. Рызьвядуць шыламшэньня, а ты слухый.*

**Шаланне** *н.* Бадзянне, швэнданне. *Яму й сымаму́ відна, ныдаела шыла́ньня ета, біспріту́льля. Ён ужо сядзіць у дваре посьлі шыла́ньня.*

**Шаланнік** *м.* Бадзяга. *Зыяві́ўся ўчора Кліміхін шыла́ньнік, пышыла́ўся, пышыла́ўся, ды, відна, ніўдзе ні работыўшы хлебым ня кормюць.* **Шаланніца** *ж. Ах, ізьвесныя дзела шыла́ньніца, толку німа.*

**Шалапутнасць, шалапутства, шалапучанне, шалапутнічанне, шалапутстваванне** *н.* Паводзіны шалапута. *Шылапу́тнысьці ніхто ня вы́гыніць, ета ўжо у яго ў косьці ўелыся. Ні знаіць, куды дзівацца іс сваёю шылапу́тнысьцю. Дужа многа ў яго шылапу́цтва, а ныстраміць некыму, каб троху асеўся. Хто тольк ні нагледзіўся на іхнія шылапу́чыньня. Марья дужа ўмела выгыняць шылапу́тнічыньня, і многа ні гаворіць, бывала, два словы скажыць — і любэй ася́дзіцца. А хва́ціць шылапу́цтвывыньня, яго ў вас дужа многа, пряма ні знаіця, куды дзівацца.*

**Шалапутнік, шалапучаннік** *м.* Шалапут. *Пра што ты будзіш іш шылапу́тнікым дыгыварівыцца, кылі ён усігда як вецір. Ізьвесный шылапу́чыньнік, што пры яго большы будзіш гыварыць.* **Шалапутніца, шалапучанніца** *ж. Во ўжо шылапу́тніца дык шылапу́тніца, разьві ета іна праўду гаворіць. А сьціхні ты, шылапу́чыньніца, тваё рызгаворы слухыць — дык вушы вя́нуць.*

**Шалапуціць** *незак.* 1. Шалапутнічаць. *Хрымянкі даўно шылапу́цюць, ціха яны ня могуць.* 2. Вымушаць шалапутнічаць. *Яго ўжо каторый год шылапу́ціць, нешта німа*

*ў іхный жызьні ніякыга толку.* **Шалапутнічацца** *незак.* Шалапутнічаць. *Раз пычаў шылапу́тнічыцца, то сям'і ня будзіць. Яны ўсе сы трыда́ шылапу́тнічыюцца, ета пріродзьдзя такоя.*

**Шалаханне** *н.* Ціхі шорах. *Ці ета хто ходзіць па сенцых, усё дно як нейкыя шыла́хыньня. Ня чую я ніякыга шыла́хыньня, ета табе пыдалося.*

**Шалахвосце** 1 *м.* і *ж.* Задавака: *Ого, Марінін зяць шылахвосьця, у яго і ны сасьне ду́лькі сьпеюць. Іна ўсігда была шылахвосьця, сколька мы яе знаім.* 2 *н. зб.* Задавакі. *Путнога чылавека німа, адно шылахвосьця. Шылахвосьця сыбярецца і адзін піріда дным ні знаюць як выхвыля́цца.*

**Шалдабан** *м. асудж.* Неразумны ганарлівы чалавек. *Айт, ны шылдыба́на я ішчэ буду любува́цца, ня дужа ён мне аньціресін.* **Шалдабанка** *ж. Пышла шылдыба́нка, вы́рідзілыся, як іна толька ні прідумыла рогі ны сябе ушчапіць.* **Шалдабанне** *н. зб. Я віджу, што сыбралыся адно шылдыба́ньня, пывярнуўся і пашоў.*

**Шаленне** *н. перан.* Буйныя, вар'яцкія паводзіны. *Нагледзіліся мы на Віктырыва шаленьня, ішчэ дзіцямі былі, бувала, із горыда пріедзіць п'яный і за жонкыю з дугою гыняіцца.*

**Шалуджэнне, шалудзівенне** *н. перан. іран.* Задаванне, вычваранне. *У іх і так шулуджэньня хвыта́іць, а ўжо кылі чарку возьмуць, тады самі ні знаюць, пы якому сьвету яны ходзюць. Пыглядзі, кылі хочыш, і ты ны яго шулудзівіньня, кылі дужа ныра́віцца.*

**Шалудзівець, шалудзівецца** *незак. перан.* 1 *гумар.* Абжывацца. *А што, быў-быў зумухры́шка, а цяперя пычаў шулудзівіць, відзіш, якую хату сабе пыставіў. Відзіў, як Івыняты шулудзі́вюцца, столька скыта ны зіму кідаюць, ладна абжылі́ся.* 2 *іран.* Задавацца, вычварацць. *Адзін ён тама шулудзі́віў, ты ж знаіш, якея ў яго ґіморы. Нечыга шулудзівіцца, двору пайдзём, а тама бацька с табою пыгаворіць.*

**Шалудзяк, шалуднік, шалудзівец, шалудлівец** *м. іран.* Задавака, вычвараннік. *Якей жа шулудзя́к етый брат Варычкін, так і цыля́іць к каму-нібудзь прічапіцца. Што йта зы шалу́днік твой Кузёмка, ён жа ўсякыю дурату́ вытвыря́ў у Дзіснакітых. Пашлі шулудзіўцы кучыю некуды пыд Мазылыва, нійдзе ім уталону німа. Сядзь, шулудлівіц, я цябе як аблу́пліныга знаю, нечыга сябе пыказывыць. Памянш.* **шалудзіўчык, шалудліўчык**. *Яны аста́-*

*ліся любувацца на тых шулудзіўчыкыў, а я атвярнўлыся і пышла, дужа яны мне вáжны. Ета ізьвесна чый шулудліўчык. Узмацн.* **шалудзіна.** *Ну й німа ж твайму шулудзіну места нійдзе, пакуль ны сваіх нарьвецца ды ўнімуць як сьледыіць.* **Шалудзячка, шалудніца, шалудзіўка, шалудліўка** *ж. Каб я знала, што йна тыкая шулудзячка, век ба зь ёю ні зьвязывылыся. Ах, шалўдніца, нáўгрудкі к Пынасёнку лезіць. Што* ты ныйшла угыварівыць чорта, іна *ж вешныя шулудзіўка была. Пыглядзі ты на ету шулудліўку, паслухый, што йна гаворіць. Памянш.* **шалудзівачка, шалудлівачка.** *Шулудзівычка Лыўріноўніна пыказывыіць сябе. Ну й шулудлівычка ж ета Манічка, чаго толька зь яе ня дзеіцца.*

**Шалудный, шалудлівый, шалудзівый, шалудзіўлівый, шалудзівістый** *прым. перан. іран.* Такі, які задаецца, вычварае. *Зь ім ба можна було дыгываріцца, а йна дужа шалўдныя, і ўсё яго пудззуджáіць. А што мне дзелыць, кылі ён шалўдный, сыма яго ныстрамі хырашэнька. Чаму ж ён ня будзіць шалўдлівый, кылі ёсьць у каго учыцца. Ці ён усігда такей быў, ці толька січас стаў шалўдлівый? Што ты будзіш гываріць іс такім шулудлівым. Настолька шулудліў, што спасу німа, ідзі сыма угыварівый, кылі хочыш. Хто яго будзіць прізнывáць, калі ён шулудзівый. Ні хачу я с такім шулудзіўлівым знацца. Сколька я помню, ён усігда быў такей шулудзівістый. Памянш.* **шалудлівенькій, шалудзівенькій.** *Шулудлівінькій і Сумусёнык, чаго там гываріць. Якей жа ён шулудзівінькій, твой зяць. Абея былі шулудзівінькія, толька стáрыя Праскоўя іх трошку унімала.*

**Шалудства** *н.,* **шалуднасць, шалудлівасць, шалудзівасць, шалудзіўлівасць, шалудзівістасць** *ж. перан. іран.* Задаванне, вычваранне. *Еткыя шалўдзтва, як у Дзёмы було, ныўряд, ці ўвідзіш у каго. Большы ў іх нічога німа зу душою, во толька шалўднысьці многа. Кідай сваю шалўдлівысьць, кылы цябе увесь народ сьмяецца. Шулудлівысьці большы некуды сколька. Шкарпэт шкарпэтым, а шулудзівысьці — дык пряма ні знаіць, куды дзівaць. Ні ат кога ён ні ныбраўся, ета ат пріродзьдзя тыкая шулудзіўлівысьць, ці помніш, як бацьку яго усё ні було нійдзе места. Ні за што б ні падумыў, што ў Мырчынка можыць столька шулудзівістысьці быць.*

**Шалупаіна** *ж.* Шалупайка. *Тама ці ні шулупáіна пріліпла ў чугуне, вы́кінь. Шулупáіны сып уместа, спáрюц-*

*ца. Памянш.* **шалупаінка.** *Пыдмяці шулупáінкі, ніхай ні выляюцца.*

**Шалупашына, шалупашка** *ж.* Ачыстка ад цыбулі. *Шулупáшыны ў цябе усюдых выляюцца. Кідай ны загнет шулупáшкі, я січас у печ зымятý. Памянш.* **шулупашынка.** *Шулупáшынкі пыпрілiпáлі к пальцым.* **Шалупаха** *зб. Шулупáхі нусурíў усюдых твой памошнік.*

**Шалушка** *ж. памянш.* Шалупінне. *Зынясі шалýшку цёлычкі, іна дужа яе любіць, пряма хвытаіць.*

**Шалушына** *ж.* Шалупайка. *Во ікая доўгыя шулушы́на, усю бýльбіну кругом абрезыў. Ікая шулушы́на, дык яны выкідаюць.*

**Шалушыцель, шалушыцельнік** *м. неадабр.* Ветранік, бяздумны чалавек. *Нічога ты ш шулушы́цілім ні пыгаворіш, ён цябе дайжа слухыць ні станіць. Ці ета чылавек, ета шулушы́цільнік, ён табе чаго хочыш натрепліць.* **Шалушыцельніца** *ж. Шулушы́цільніца як веціp, зь ёю разумный чылавек дайжа рызгывáрівыць ні станіць.*

**Шалушыцца** *незак. перан. іран.* Задавацца, шумна выхваляцца. *Дужа любіць шулушы́цца, увесь тата, тэй тожа такей быў, ні знаў, пы якой зямле ходзіць.*

**Шалушэнне** *н. іран.* Задаванне, шумнае выхвалянне. *Кіряёнык ні пыглядзіць ну шулушэньня, зы карык возьміць і вы́тыўкніць с хаты.*

**Шаляванне** *н.* Абіванне шалёўкамі. *Калі ты пычанеш сваё шулювáньня? Ду шулювáньня мне ішчэ далёка, я сам ні знаю, калі шалёўкі чы́сьціць, усё ўремя німа.*

**Шаляваннік** *м.* Той, хто шалюе. *Сідзяць шулювáньнікі, раскýрівыюць, відна, ня дужа ім хочыцца зы работу брацца.*

**Шамаватый** *прым.* Дурнаваты. *Як ты ў яе спросіш, кылі йна саўсім шымывáтыя. Дурнэй ні дурнэй, ну шумувáтый здорыва. Памянш.* **шамаваценькій.** *Табе харош будзіць і шумувáцінькій, ікраз пáра пыдбярецца што нада.*

**Шаматанне, шаманне, шамканне** *н.* Шамаценне. *Мы ніякыга шымытáньня ня чулі, можа там ніхто і ні шымытáў. Ці чуіш ты ў сені шáмыньня, што, як там зьмія зупуўзлá ды ўкýсіць? Мы ўсе зразу пачулі шáмкыньня, пыцскачылі, глядзім, што ета такоя можыць быць.*

**Шаматаннік, шаманнік, шамканнік** *м.* Той, хто шамаціць. *Во яны шымытáньнікі, ты думыў, ніізьвесна хто тута лазііць. Ні пужай, я знаю, якей тама шáмыньнік. Што тэй шáмкыньнік хочыць вы́пырыць?* **Шаматанніца,**

**шаманніца, шамканніца** *ж. Січас мы найдзім шымытáньніцу, ат нас ні схуваіцца. Айдзе ж мыя шáмыньніца схувалыся, нейдзі шавеліцца і ні найду ніяк. Вылáзь ужо, шáмкыньніца, я віджу цябе зу кустом.*

**Шаматаць, шаматацца, шамкаць, шамкацца** *незак.* Шамацець. *Мышы шымытáлі, хто там яшчэ мог лазіць. У етым вуглу нешта шамочыць. Ну-ка пылядзім, хто тут шамочыцца. Ціхінька шáмкыіць зы саломыю, мы яго цап с абоіх бакоў. Можа тама ня кот, а воўк шáмкыўся?*

**Шамачок** *м. памянш.* Дурнаваты чалавек. *Айт, жаніх тэй шымачок нейкій, як выранёнык, на ўсіх глядзіць, а, а.*

**Шамаччо** *н. зб.* Дурнаватыя асобы. *Куча шымыччá сыбрáлыся, ці ат іх добрыя словы пачуіш, хочыш, ні за што ні пра што аблаюць і гывbooрі тады зь імі.*

**Шантрап'ё** *н. зб.* Нікчэмныя людзі. *Сыбярецца шынтрап'ё і пашлі ізыкамі чысаць. Іш шынтрап'ём німа мне пра што тулкуваць, зь імі пы-чылавечыску ні пыгаворіш.*

**Шапатнуць** *зак.* Сказаць таемна, шэптам. *Нешта табе дужа аньціресныя шыпатнýла швагреня. Нарошня шыпатнець, а тады глядзіць, што ты станіш дзелыць.*

**Шарабаненне** *н.* Моцная лупцоўка. *Твае рёбры даўно просюць шырыбáніньня, і ты палучыш, ажно задзівісься.*

**Шарабаніць** *незак.* Моцна лупцаваць. *Цябе калі ні шырыбáніць хырашэнька, толку ня будзіць. За што цябе матка шырыбáніла ўчора?*

**Шаранне** *н.* Стараннае абмацванне, шуканне. *Ты пыглядзі-ка ны яго шáріньня, што йта, ты думыіш, ён шукаіць.*

**Шарахаць, шархаць, шорхаць** *незак.* Шараваць, церці з шумам. *Ты так ні шырáхый пы касе, ато трошку ня ў тэй бок паверніш і раскоціш рукý. Ці ты сьцяну шáрхыў, ці што, увесь пінжак у нейкый цьвілі. А ня шорхый ты большы етыя скамейкі, ладны яны будуць.* **Шархацца, шорхацца** *незак.* Шаравацца, шарахацца. *Ні шáрхыйся кыла печы, мел дужа бярецца. Нейдзі ж во шорхыўся, сьпіна грязныя, апчы́сьціцца нада.* **Шархнуць** *зак.* 1. Ціргнуць. *Па дзёхцю шáрхнуў рукавом, цяперя ні атмыіш і ні ацскрябеш.* 2 *перан.* Разануць. *Резыў палку, а нож сыскачы́ў і ён пу руке шáрхнуў, глубока рызваліў.* **Шархнуцца** *зак.* Ціркнуцца. *Шáрхнісься і будзіш грязный, а то й пырваць рубашку можыш.* **Шархнутый** *дзеепрым. Во зь естыга боку шáрхнута нечым грязным, здорыва заметна.*

**Шарахоненне** *н. іран.* Дзейсная падрыхтоўка. *Трош-*

*ку апала яго шырахоніньня, пацішэў. Усё сваё шырахоніньня ня кідыіць.*

**Шарахценне** *н.* Шамаценне, шарханне. *Каб було якоя шырахценьня, я пачула б, я доўга ні спала.*

**Шарахценнік** *м.* Той, хто шамаціць, шархае. *Што тэя шырахценьнікі дзелыюць у кладоўкі?* **Шарахценніца** *ж. Шырахценьніца с кулямі возіцца, пірістыўляіць на нешта.*

**Шарахцець** *незак.* Шамацець, шархаць. *Чым ты шырахцеў у клеці? Што тута шырахціць усё уремя, усё рыўна, як хто поўзыіць.*

**Шарлупіна, шарлупашына, шарлупашка, шкарлупашына, шкарлупашка** *ж.* Шалупайка ад яйца. *Айдзе зря ні кідáй шурлупіны, усё ў чугунок трясі, выкініцца. У печ укінь шурлупáшыну, нашто йта, каб вылялыся. Тут во яшчэ адна шурлупáшка астáлыся, на, выкінь. Пряма пыд ныгамі шкурлупáшына ляжыць, і вы топчыціся па ёй. За ножкыю пуд услоным астáлыся шкурлупáшка, зыхваці венікым. Ета ж тожа шкурлупáшка ляжыць, мяці г дрывáм. Памянш.* **шарлупінка, шарлупашынка, шарлупашачка, шкарлупашынка, шкарлупашачка**. *Што ты ш шурлупінкымі носісься, вытрісь у кашолычку, посьлі высыплюцца. Куры дужа любюць шурлупáшынкі, ны ляту хвытаюць і нясуць дзюўбаць. У цябе ішчэ ны стале астáліся шурлупáшынкі, зьмяці чысьцінька. Мяці хырашэнька, нікрасіва, як шурлупáшычкі выляюцца. Шурлупáшычку аббярі, ато мáлый ішчэ ў рот запхнець. Пыдз загнет сыпні шкурлупáшынкі, заўтря у печ зымятуцца. Зьмяці шкурлупáшычкі сы стыла, ніхай чысьцінькій стол будзіць.* **Шарлупаха, шкарлупа, шкарлупаха** *зб. Курям ні дывай шурлупáху, ато яны тады статуць яйцы дзюўбáць. Нікрасіва, як шкурлупá усюдых выляіцца, прібірáць нада зы сабою. Кідай шкурлупáху ны загнет, ня будзіць выляцца айдзе зря. Памянш.* **шкарлупка, шкарлупачка**. *Вынісі шкарлýпку пряма з бумажкыю ды вытрісі ны дваре, куры пыдзіўбáюць. На й ету шкарлýпку кінь ны агонь. У цябе ўжо шкарлýпычка ны сіньнікý насуріна, нашто ты дзіцям у пасьцель пыдаеш, ніхай к сталу ідуць.*

**Шарпанне** *н.* 1. Шкуматанне, раздзіранне. *Укоцюць табе за ета шáрпыньня, нашто ты ўсё пыдряд шкумутáіш.* 2 *зб.* Лахманы, рызманы, парванае адзенне. *Зь естыга шáрпыньня нечыга выбіраць. Куча шырпáньня ляжыць, цэлыга тута нічога німа.*

**Шарпацца** *незак.* Шкуматацца, рвацца. *Шáрпыіцца ўсё на іх, як гаріць. У другіх цэла, а ны табе шырпáіцца,*

*што зышываць ні спрáвісься.* **Шарпануцца** *зак.* Парвацца. *Шырпанýлыся рубашка уцэла ат пліча і ўніз, знаць, за нейкій сук зычапіўся.*

**Шаруджэнне** *н.* Катурханне, падахвочванне. *Ці пымыгаіць Ганьніна шуруджэньня, яны цяжолы ны пад'ём.*

**Шаруджэннік** *м.* Той, хто катурхае, падахвочвае. *Нешта мала ім пымыгаіць твой шуруджэньнік, дренна яны варушуцца.* **Шаруджэнніца** *ж. Ета шуруджэньніца як пыдыгнала, дык пашло дзела ны лад.*

**Шарудзіць** *незак.* Катурхаць, падахвочваць. *Што ж ты іх ні шурудзіш, ніхай ба патрошку бралíся за стройку. Пёкла іх крепка шурудзіла.*

**Шарханне, шорханне** *н.* Шараванне, шоргат. *Што ты ні глядзіш ніскольқа, шáрхыньня — ніхай шáрхыньня, табе ўсё ройна, тут жа грязь кругом. Ці ня ўзноў сыбака лазіць па сенцых, чуіш, нейкыя шорхыньня.*

**Шаршчэнне** *н.* Знішчэнне, забіванне. *Ні быяцца куры твайго шаршчэньня, узноў узваліліся ны гарод кучыю.*

**Шастка, шатка** *прысл.* Спрытна, хутка, жвава. *Ох, як іна шáстка круціцца, ета карова, так і глядзі, пырянець рыгамі. Як возьміцца, ён дужа шáтка работыіць, у Мархвы пуньку дзелылі, дык тыпыра з рук ні выпускаў.*

**Шасткасць** *ж.* Спрытнасць, хуткасць, жвавасць. *Каб вам еткыя шáсткысьць, як у Прыкапёнка! Шáсткысьці ім абоім хвытаіць.*

**Шасткій, шаткій** *прым.* Спрытны, хуткі, жвавы. *Дужа шáсткыя на ўсё, і ў рабоці, і ў гульне. Ні ўсігда ён такей шáсткій як сяньня. Каб ты быў такей шáткій, як Толік, табе б ніхто слова ні гыварíў. Памянш.* **шасткенькій.** *Шáсткінькій мальчонка, як узяўся з грыблямі, быйстра сагрёб і ў кучу зьдзьвінуў.*

**Шастуха** *ж. жарт.* Шостая дачка ў сям'і. *Вязець нашыму Пынасу, ужо шастýха у хаці курняўкыіць.*

**Шасціна** *ж.* Шост. *Высікіця ў лесі роўнінькыю шасьціну, нада павесіць, як ета так біш шыста ў хаці. Памянш.* **шасцінка.** *Яловінькыя шасцінка харошыя, як апчысьціш, іна дужа гладкыя.*

**Шасціны** *мн.* Памінанне нябожчыка праз шэсць тыдняў пасля смерці. *Усе людзі спруўляюць цяперя шэсьць нядзель, нада будзіць і нам шасьціны справіць. Учора мы ны шасьціных былі ў Дзянісывых, пырядышна людзей пызвалі.*

**Шасцісценка** *ж.* Хата з дзвюма прыбудовамі. *У нас редка хто шысьцісьценку ставіў, ета ў горыдзі часьцей*

*дзелылі. Памяніш.* **шасцісценачка.** *Прыдаецца зы Сажом шысьцісьценычка, Даніла гывапріў, хаткі ня дужа бальшэя, новыя, гады два пыжылі, і нядорга просюць.*

**Шасцярнуць** *зак.* Падбіць чатыры разы «куль» (пры гульні «У куля»). *Я січас адгуляюся зразу, шысьцярну і ўсё будзіць. Шысьцярнуць ты ні сумееш.* **Шасцярнуцца** *зак. Зал.-бессуб'ект. ад* шасцярнуць. *Сколька гулялі, у цябе ні разу ні шысьцярнулыся, ты ня лоўкій.*

**Шаткаўня, шаткоўніца** *ж.* Шаткоўня. *Шыткаўню мог ба ты і сам зьдзелыць, нібыльшая мўдрысьць. Хто табе будзіць шыткаўню вайстріць! Нехта ў мяне браў шаткоўніцу, і ня ўспомню хто.*

**Шаўлюжына** *ж.* Слабы або стары конь. *Шаўлюжыну запрёг, дык чуць к цёмныму пріехылі зь лесу. Памяніш.* **шаўлюжынка.** *Ны шаўлюжынкі многа ні прівязеш, ёй толька калёсы цягнуць.*

**Шаханне** *н.* 1. Размашыстае сцябанне, біццё. *Шаўлюжка чуць ногі пірістыўляіць, іна ўжо шахыньня ні баіцца. Нічога с твайго шахыньня ня будзіць, дубіна так ні піряломіцца.* 2. Размашыстае рэзанне. *Тута нада акуратнінька резыць, а с такога шахыньня нічога ў цябе ня будзіць.*

**Шаханнік** *м.* 1. Той, хто размашыста сцябае, б'е. *Рызыйшоўся шахыньнік, зьдзержу німа. Глядзі, каб шахыньніку сымамў ні ўляцела.* 2. Той, хто размашыста рэжа. *Дыбалывыўся шахыньнік, рыскаціў руку.* **Шаханніца** *ж.* 1. Тая, што размашыста сцябае, б'е. *Будзіць етый шахыньніцы, як карова кініцца з рыгамі.* 2. Тая, што размашыста рэжа. *Носіцца шахыньніца с пальцымі: сыма сабе парезыла.*

**Шахаць** *незак.* 1. Размашыста сцябаць, біць. *Шахыіць кыня пугыю, а тэй бежч ня хочыць. Ты любіў ба шахыць, ды глядзі, каб сымамў ні пупала.* 2. Размашыста рэзаць. *Тупым нажом сколька ні шахый, ні атрежыш.* 3. Шугаць (пра маланку). *Мылыдня да поўнычы шахыла, я быялыся спаць лажыцца, усё сядзела.* **Шахацца** *незак.* Ударацца моцна, з размаху. *Упацёмкых ён ні раз ап саху шахыўся.* **Шахнуць** *зак.* 1. Размашыста сцебануць, ударыць. *Як шахну лазіныю, ты на месьці саўесься. Ні пыглядзіць, што ты такей джогій, шахніць зрызмаху, што пыляціш.* 2. Размашыста разануць. *Шахнуў пу руке, ды касьці рызваліў. Глядзі, каб сымаго ні шахнулі, такога атлёта.* 3. Шугануць (пра маланку). *Мылыдня шахнула і гром як ударіў, аж у вушах зызьвінела.* **Шахнуцца** *зак.* Ударыцца

моцна, зразмаху. *Прігінайся, ато тут ілбом можыш шáхнуцца.* **Шахнутый** *дзеепрым.* 1. Ударaный моцна, зразмаху. *Ажно зывярцеўся шáхнутый.* 2. Размашыста разануты. *Нажом уцэла шáхнута, яно ж ясна відна, што нажом.*

**Шах-мах** *прысл.* Спешна, як папала. *Яго работа шах-мáх — гатова, зьдзелына. Я работы шах-мах ні люблю, калі ўзяўся, дзелый як нада.*

**Швагрэня** *ж.* Швагерка. *Нешта мылыдая іс сваёю швагренію ні ладзіць. А ніхай швагреня ні ляніцца ды паможыць. Памянш.* **швагрэнька, швагрэнечка.** *Што ж табе швагренька рысказывыла посьлі свадзьбы? Швагренічка цябе дужа любіць, ніяк ні ныхваліцца.*

**Швірганне** *н.* Шпурлянне. *Ні рысхадзіся, ніхто ішчэ твайго швірьгáньня ні спужаўся. Успакою січас іш швірьгáньнім, асядзісься.*

**Швірганнік, швыраннік** *м.* Той, хто шпурляе. *Тожа мне швірьгáньнік найшоўся, вазьмі сам зьдзелый, калі я ні ўладзіла. Пу руках дай швырáньніку, дык пыцішэіць.* **Швірганніца, швыранніца** *ж. Швірьгáньніца як мама была, той тожа Пятрок уладзіць ня мог. Места нійдзе етый швырáньніцы німа.*

**Швіргаць, швырaць** *незак. перан.* 1. Валіць клубамі (пра дым). *Сільный веціp, дык дым швірьгáіць іс коміна ны хату. Віджу, дым швірьгáіць із-за пуні: мáлыя салому зыпалілі і глідзяць. Ох, як сільна ат'етуля дым швыряў!* 2. Штурхаць, адкідваць. *Мáлыя лезуць, а ён іх швірьгáіць аць сябе. Цябе Косьцік ні раз швыряў.* **Швіргнуць, швірганyць** *зак.* 1. Шпурнуць. *Швіргні мне скарей вожкі, чаго я тут стыяць буду. Ёмкыю палкыю швірьганýў у курей, жалка, што ні пупаў.* 2. Паваліць клубамі. *Сьпірва дым швірьгнýў угору, а тады іскырья пасыпылыся. Бальшэй клуб дыму як швірьганець уверьх.* 3. Штурхнуць, адкінуць. *Як швірьгнець яго аць сябе, тэй пыляцеў уверьх тырмáшкымі. Падлезіш — і другей раз швірьганýць, ні пыглідзяць ны цябе.*

**Швіргунь** *выкл.* 1. Пра шпурлянне. *Швірьгýнь камнім у вакно, балонка рассыпылыся. Швірьгýнь аттуля пяском чуць ня ў вочы.* 2. Пра выбіванне (дыму). *Дым клýбым швірьгýнь, мне пыкызалыся, што з гумна.*

**Шворка** *ж.* Вяровачка, завязка. *Якою-небудзь шворкыю зывяжы мяшок. Сюда крепкыю шворку ні нада, прімякнуць толька. Памянш.* **шворачка.** *Во ету шворычку зычапі ў бязьмен і звáжыш сваю воўну.*

**Швэнданне** *н.* Бадзянне. *Як яму ні ныдаесьць швэндыньня. Я етыга швэндыньня цярьпець ня буду.*

**Швэнданнік** *м.* Бадзяга. *Калі ж вашы швэндыньнікі прiцягнуліся сяньня?* **Швэнданніца** *ж. Ікраз як мальцы швэндыньніца, штоб такой ніпутной дзяўчонкі быць!*

**Шкаленне** *н.* Ушчуванне, праборка. *Як урадзіўся шкарю́днік, дык ніякыя шкаліньня яго ні пірядзелыіць.*

**Шкаленнік** *м.* Той, хто ўшчувае, прабірае. *Узяўся шка́ліньнік зы высьпіта́ньня,— позна ты бяресься, калі яны пітухамі пяюць.* **Шкаленніца** *ж. Нешта ў Дзім'янёнкывый шка́ліньніцы нічога ні пулучаіцца.*

**Шкаліць** *незак.* Ушчуваць, прабіраць. *Сколька ты яго ні шкаль, толку ні пулучаіцца. Даўно Анісіха свайго мальца шка́ліць.*

**Шкарадзь** *ж.* Вельмі нахабная, задзірыстая асоба або група людзей. *Другей раз уродзіцца шка́рідзь, дык ба вочы ны яго ні глядзелі. Ох, ікая шка́рідзь дзяўчонка, апсом у вочы кідаіцца. Усякыя шка́рідзь сюда сыбіраіцца, а я тады ухаджывый ды кармі.*

**Шкаруда** *м., рэдка ж.,* **шкараднік, шкаруддлік, шкаруджаннік** *м.* Вельмі задзірысты, упарты чалавек. *Нічога ты еткыму шкарю́дзі ні дыкажыш. Ён такей шкарю́да, што ні прівядзі бог. Шкарю́да ба́ба, папробый-ка зь ёю пыгывары. Зыдаўся шка́рiднік і будзіць цярьпець зь ім матка, а посьлі жонка ныгарю́іцца. А што ты луччыя хацеў увідзіць ач шкарю́дліка? Ніхто ж ба ні падумыў, што Косьцікыў сын можыць быць такей шкарю́джыньнік.* Узмацн. **шкарудзіна.** *Што йта зы шкарю́дзіна такей, чаго ім усе любуюцца, ніхто атпору ні дасьць. Павеліч.* **шкарудзішча.** *Во ўжо шкарю́дзішча ніпутнэй, места яму нійдзе німа.* **Шкарудка, шкарудніца, шкаруджанніца** *ж. Ты думыіш, такой шкарю́дкі што-небудзь дыкажыш? Яго баба еткыя шка́рідніца, што ні прівядзі бог дайжа ува сьне увідзіць такую. Дычка чы́шчы маткі шкарю́джыньніца, мужык піряд ёю ны адной масьнічыні ходзіць і ня можыць уладзіць.*

**Шкаруджанне, шкаруднічанне, шкарыднічанне** *н.* Задзірыстасць, упартасць. *Аткуля ў ім столька шкарю́джыньня, і бацька ні такей быў, і матка спакойныя баба. Ні знаіць, куды дзівацць сваё шкарю́днічыньня, яно так і прець зь яго хвынта́нымі. Такоя шка́рiднічыньня кажныму б ныдаела. К яго шка́рiднічыньню ды каб яшчэ сілу, ён ба ніізьвесна што вытвыряў.*

**Шкарудзіць, шкаруднічаць** *незак.* 1. Выклікаць жа-

данне паводзіць вельмі задзірліва, упарта. *Чаго іх так шкарю́дзіць, чаго ўгамоньня ніякыга ні на́йдуць? Яго як станіць шкарю́днічыць, тады ніякія ўгаворы ні пымыгаюць.* 2. Паводзіць сябе вельмі задзірліва, упарціцца. *Во ніхто ні атвучыць іх шкарю́дзіць. Ты ж знаіш, хто тамыцька мог шкарю́днічыць.* **Шкарудзіцца, шкаруднічацца, шкарыднічаць, шкарыднічацца** *незак.* Паводзіць сябе вельмі задзірліва, упарціцца. *Мыланкін большый усё шкарю́дзіўся, пыказывыў сябе. Ох, і ўмеюць жа шкарю́днічыцца, усё дно як учыліся на ета гыдамі. А што, ён будзіць шка́рідничыць, а Хвенька цярьпі? — не, хырашо зьдзелыла, што ўсё рыскызала. Мішычка шка́рідничыўся ня меншы, ета толька што Анюта муўчала, сыма ўсё пірінасіла.*

**Шкарудства** 1 *н.* Задзірыстасць, упартасць. *Пряма ні знаіць, куды дзівацъ сваё шкарю́дзтва,* 2 *м.* і *ж.* Вельмі задзірысты, узарты чалавек. *Шкарю́дзтва чылавек, ён ні прідумыіць, пы якому сьвету ходзіць. Іна ня меншыя шкарю́дзтва, чым Трахім.* 3 *н. зб.* Вельмі задзірыстыя, упартыя асобы. *Сойдзіцца шкарю́дзтва, тады ўжо адзін аднаму сябе пыказывыюць.*

**Шкарэнджаннік** *м.* Той, хто упарціцца, вычварае. *Узяў ба за шкырку етыга шкаренджыньніка, тріхануў хырашэнька, зь яго б уся ду́рысьць пасыпылыся. Ня будзь шкаренджыньнікым, дзелый, што табе гаворюць.* **Шкарэнджанніца** *ж. Манічка іх шкаренджыньніца была, ні знаю, як іна з мужуком ладзіць.*

**Шкарэнджанне** *н.* Упартасць, вычваранне. *Хведзька ны яго шкаренджыньня доўга любуваціца ні станіць.*

**Шкарэндзіць** *незак.* Выклікаць імкненне упарціцца, вычвараць. *Дакуль яго тута будзіць шкареньдзіць.* **Шкарэндзіцца** *незак.* Упарціцца, вычвараць. *Трошку выпілі ў Ціханёнка, дык доўга шкареньдзіліся на вуліцы, усё пыказывылі сябе.*

**Шкваранне** *н.* 1. Смажанне, скваранне. *А яны там у хаці іш шква́ріньнім возюцца.* 2. Смажанае, скваранае. *Я ўсё шква́ріньня піріложыла ны тарелку, скарей прасты́ніць.*

**Шквараннік** *м.* Той, хто смажыць, скварыць. *Жонку завёз у бальніцу, а сам стаіць ш чыпялою кыла печы — шква́ріньнік.* **Шкваранніца** *ж. Доўга тваё шква́ріньніцы возюцца, утрёх можна скарей кончыць.*

**Шкварыць** *незак.* Смажыць, скварыць. *Калі я табе шква́ріць буду, сырога сала атреж кусочык ды зьеж.*

**Шкварыцца** *незак.* Смажыцца, скварыцца. *Я чую, што ў цябе нешта смашнінькыя шква́ріцца.* **Шкваранный** *дзеепрым. Ныставіла сваім гысьцям і жа́рінига, і шква́рінига — усякыга.*

**Шкецік, шкецічак** *м. памянш.* Шкет. *Куды твой шкецік пабег? Есьць ні зыставіш, усё зу гульнёю некылі, яблыка сырваў і пабег, шкецік шкецікым носіцца. Во ета Насьцін шкецічык бягіць.*

**Шкілеціна** *м.* і *ж. перан.* Схуднелая, змізарнелая асоба. *Чаго ён так высых? — ныстыяшчыя шкілеціна пы зямле ходзіць. Сілы ў тае шкілеціны як у мухі. Сухенькыя як шкілеціна, ат ветру хітаіцца.*

**Шклянка** *ж.* Аскабалак шкла. *Глядзі, во шкля́нка выляіцца, станіш і нагу парежыш. Шкля́нкі зьмяці, ну лупатычку ды зынясі ў ямку. Памянш.* **шкляначка.** *Ці ўсе ж вы шкля́нычкі пыдыбралі? Павеліч.* **шклянішча.** *Глянька, ікая шкля́нішча, аткінь у кусьця.* **Шклянне, шляннё** *н. зб. Шкля́ньня кідаюць айдзе зря, такея нісызнацільныя людзі. Нада дужа астарожна хадзіць, шкляньнё усюдых выляіцца. Пу кустах многа шкліньня́, таго й глядзі, што станіш.*

**Шкробаты** *мн.* Стары, разношаны абутак. *Я шкробыты узьдзену і лі двыра топыю. Ты толька грязь ні вылачы ў хату зы шкробытымі.*

**Шкрэд** *м.* Задзіра. *Ну хто ж такога шкреда ні знаіць. Такей шкред ішчэ лезіць ніізьвесна чаго, хочыць пулучыць па шыі. Памянш.* **шкрэдзік.** *Каб ты, шкредзік, ні чыпайся ні сь кім, куды б луччы було. Узмацн.* **шкрэдзіна.** *Ну разьві ня шкредзіна ета: лезіць ґ большым хлыпцам, гатоў зь імі біцца. Павеліч.* **шкрэдзішча.** *Во яшчэ шкредзішча, к кажныму чыпляіцца.*

**Шкуматанне** *н.* 1. Ірванне на кавалачкі. *Ён пулучыў ужо зу шкумута́ньня, січас яшчэ дыбайку палучыць.* 2. Лахманы. *Куча шкумута́ньня ляжыць, худзь ба прібраў куды-небудзь.*

**Шкуматаннік** *м.* Той, хто шкуматае. *Нешта нейкыя дрэнчыць твайго шкумута́ньніка, ні сядзіцца яму ны адном месьці.* **Шкуматанніца** *ж. Узілася шкумута́ньніца зы работу, ажно пух ляціць.*

**Шкумаціць** *незак.* Рваць, шкуматаць. *Шкума́ціць ма́лый усё пыдряд, што пупадзець.* **Шкуматнуць** *зак.* Парваць, пашкуматаць. *Як шкуматнець ету рубашку, іна чуць ні на́пыл,— во табе пыдарык.*

**Шкураджанне, шкурадзенне, шкурадства** *н. іран.* За-

даванне, куражанне. *Некыму іх атвучывыць ач шкуря́джыньня. Чылавек таго з нохыць, а шкуря́дзіньня сам ні прідумыіць, куды дзівать. Можа вам і Краўчонкыва шкуря́дзтва дужа ныравіцца, дык сходзіця пулюбуйціся.*

**Шкураджаннік, шкурадзеннік, шкураднік** *м. іран.* Задавака, куражаннік. *Нашто мне твой шкуря́джыньнік, сыма зь ім талкуй сколька хочыш. Ты думыіш, Пуўлюкоў меншый шкуря́дзіньнік? — тыкая самыя халерія. Мы знаім, якей ён шкуря́днік, наглядзіліся за трі гады.* **Шкураджанніца, шкурадзенніца, шкурадніца** *ж. Як ета так, што б дзеўкі такой шкуря́джыньніцы быць. Каму еткыя шкуря́дзіньніца нада, ніхто яе ні сватыў і сватыць ні станіць. Была йна шкуря́дніца і астаніцца такою.*

**Шкурадзёрства, шкурадзёрнічанне** *н.* Жорсткасць, бязлітаснасць. *А ці вы ні знаіця, якоя зь яго шкурадзёрства тварілыся. Што зуслужыў, тоя й пулучыў зу шкурадзёрнічыньня.*

**Шкурадзёрыць, шкурадзёрнічаць** *незак.* Праяўляць жорсткасць, бязлітаснасць. *Як толька прішлі немцы, ён і пабег у паліцыю, шкурадзёрій. Гад з гадыў быў, сколька ён шкурадзёрнічыў, етыга ні рыскажыш.*

**Шкурадзіць** *незак. іран.* Выклікаць імкненне задавацца, куражыцца. *Ён абыйціцца як усе людзі ня можыць, яго ўсігда шкуря́дзіць.* **Шкурадзіцца** *незак.* Задавацца, куражыцца. *Етыга ўчыць ні нада, сам умеіць шкуря́дзіцца чышчы любога-ўсякыга.*

**Шкураціна, шкураціціна** *ж.* Абрэзак выраблена скуры. *Каб прішыў якую-небу́дзь шкура́ціну, тут ба ішчэ троху дзіржалыся. Ета шкураціціна вісіць, атырвалыся збоку. Памянш.* **шкурацінка, шкураціначка, шкураціцінка.** *Ныкладу лапічык іш шкура́цінкі, кряпчэй будзіць дзіржацца. Атарвыіцца ета шкураці́нычка, тута не ў чым дзіржацца. Можа ў цябе айдзе-небудзь выляіцца шкураціцінка, мне нібальшэй кусочык нада.*

**Шкурбацінка** *ж.* Абрэзак, лахман. *Зь естых шкурбацінык нічога ня выбіріш, кідай усё ў печ камком. Ці ты ўжо такую шкурбацінку будзіш на людзі выдзівацць?* **Шкурбацінне** *н. зб. Зьвізала усё шкурбаці́ньня у вузёл і пыклала ны паліцу. Бярі шкурбаці́ньня, выбірай, што табе нада.*

**Шкур'е** *н. зб.* 1. Шкуры. *Усякыя шку́рья у лаўкі прінімаюць і нічога, гаворюць, плоцюць.* 2 *перан. асудж.* Прадажныя асобы. *Усякіх я людзей сустрюкаў, ну такога шку́рья ня відзіў.*

**Шкур'ё** *н. зб. асудж.* Прадажныя асобы. *Шкур'ё свылатноя, яны ны кажным шагу любога прыдадуць. Шкурьё, а ня людзі, айдзе йта хуць капля совісьці, штоб такоя скызаць пры чылавека.*

**Шкурышча** *м.* і *ж. перан. асудж. павеліч.* Прадажная асоба. *Ну й шку́рішча ж быў чылавек, усю жызьню прыдываўся. Ахота мне с тою шку́рішчыю зьвязывыцца.*

**Шкырка** *ж.* Шыварат. *Нада було тріхану́ць за шкы́рку, каб троху асеўся. Бяруць яго за шкы́рку: ну-ка, пайдзём з намі!*

**Шлапак** *м.* Слабак. *Што іш шлыпаком брацца, у яго сілы як у кымыра.* *Памянш.* **шлапачок.** *Шлыпачок ты ма́ліనькій, табе толька с Колію боріцца нада.* **Шлапачка** *ж. Я ж табе гыварю, што іна шлыпа́чка.*

**Шыпух** *м.* Пупышка. *Шыпухі большыюць, ні дырма вясною пахніць. Вот-вот дзерівы зызілянеюць, шыпухі ужо бальшэя.*

**Шытнік** *м.* Той, хто шые. *Бярецца шытні́к за ніткі, ён табе, кылі хочыш, новыю шубу аткоціць.* **Шытніца** *ж. Зь яе тыкая шытні́ца: як палучыцца, усё дно ызад ні пынясеш, возьміш.*

**Шытнэй, шытный** *прым.* Прызначаны для шыцця. *Шытнэя ніткі куды зря ні траць. Ужо нібальшэнькій клубочык шытны́х нітык астаецца, нада пытпрясьць яшчэ. Шытны́я ніткі я бірягу, ні даю расходывыць.*

**Шыхаванне** *н.* Шумная падрыхтоўка, зборы. *Ніякыга ў іх шыхува́ньня ня будзіць, сыбяруцца, пы чаркі вып'юць і паедуць.*

**Шыхаваннік** *м.* Той, хто шумна рыхтуецца, збіраецца. *Дужа ўсхадзіліся шухува́ньнікі, шурока рызмахывыюцца.* **Шыхаванніца** *ж. Сядзіць шухува́ньніца склаўшы рукі, ня едуць госьці.*

**Шыхавацца** *незак.* Шумна рыхтавацца, збірацца. *Кандыбіны шыху́юцца к свадзьбі, даўно гатовюцца. Нечыга мне шухува́цца, такея-то госьці Сярьгеівы ма́льцы.*

**Шэльма** *м.* і *ж.* Хітрэц, махляр, круцель, ашуканец. *Узмацн.* **шэльміна**. *Ну й шэльміна іхный ма́ліц, чаго толька ён ня ўтворіць. Шэльміна Мыксімёнкыва дзяўчонка, ета ж іна пыдгываріла дзевык пысьміяцца над Міцію. Павеліч.* **шэльмішча**. *Ах ты, шэльмішча, ты ж мяне пуддуріў!*

**Шэрсцень** *м.* Шэршань. *Шэрсьцінь калі ўжо укусіць, ты места сабе ні на́йдзіш. Ета ці ня шэрсьні тама гняздо сабе зьвілі?*

# Э

**Эгэй** *выкл.* Гэй. *Эгэй, мы тута, выхадзі пряма па сонцу! Нідайна збоку нейкія людзі крічалі «Эгэй!»*

**Эгэйканне** *н.* Галёканне. *Мы чулі нейкыя эгэйкыньня кыла бедый, доўга нехта некыга звай.*

**Эгэйкаць** *незак.* Галёкаць. *Не, мы ня чулі, каб хто эгэйкый.* **Эгэйкнуць** *зак.* Гукнуць «эгэй!» *Нехта ззаду ў нас адзін раз гэйкнуў, мы ні аддзывáліся.*

**Эйканне** *н.* Выгукванне. *Хто іх знаіць, хто айдзе, кругом чутна эйкыньня і ні пызнáіш, каторый адззываіцца.*

**Эйканнік** *м.* Той, хто выгуквае. *Ты, эйкыньнік, ні мішай другім, саб'еш толька і могуць зублудзіцца.* **Эйканніца** *ж.* *Ці ты ні пызнáіш, чыя тама эйкыньніца гукаіць?*

**Эйкаць** *незак.* Выгукваць. *Ета ні нашы эйкыюць, так нейкія, чужыя.* **Эйкнуць** *зак.* Выгукнуць. *Па-мойму, Пятрок эйкнуў у том баку, толька чаго б ён туды пупаў.*

**Эйш** *выкл.* Пра незадаволенасць, асуджэнне. *Эйш ты яго, якей хітрец! Эйш ты іх, усё у гарод пыглідáюць. Эйш ды чаго дадумыўся: міняйся зь ім ны кароў, ён тріплоціць,— а мне яго падла дырма ні нада.*

# Ю

**Юджанне** *н.* Пад'юджванне. *Кыласкоў — сюрьёзный мушчына, ю́джыньня ён слухыць ні станіць. Нылáіла яго, нылáіла за ю́джыньня і пышла.*

**Юджаннік** *м.* Той, хто пад'юджвае. *Хто йта ўжо найшоўся такей ю́джыньнік, наплёў Сямёніхі, тая сустрюкаіць с кріўдыю.* **Юджанніца** *ж.* *Ня меншыя ю́джыньніца і Таічка была, дырма што кажыцца ціхінькыя.*

**Юдзіць** *незак.* Наюджваць, нагаворваць. *Плюнь ты яму ў вочы, кылі станіць узноў ю́дзіць. Ты, знаць, і сяньня нешта ю́дзіла Бырысінятым?*

**Юленне** *н.* Выдыганне, падладжванне. *Як пыглядзіш ны яго юленьня, дык ажно брыдка дзелыіцца.*

**Юрыць** *незак.* Паводзіць сябе юрліва. *Пычалі твае хлопцы юріць, ты іх патроху унімай. Вы ў мяне пірістаніця юріць, як атпіряжу ремінь.*

**Юрэнне** *н.* Юр, юрлівасць. *Во ны старысьці і Мікілая юреньня рызьбіраіць. Юреньня ў ім ціряшчур многа, а вы́гнуць некыму.*

# Я

**Яблышнік** *м.* Ахвотнік да яблык. *Во мой я́блышнік, толька б і еў мідунічкі. Пыглядзіш, што етыя я́блышнікі як злазілі ў садок.* **Яблышніца** *ж. Ідзі-ка ты, я́блышніца, пад'еж крупені, дык троху здыравей будзіць, чым зеліньню зытыха́цца.*

**Явар, явер** *м.* Аер. *Дзеці дужа любюць мыладзенькій я́выр, ён смашный, салодзінькій. Пу пуку́ я́віру нясьлі: калі яны яго пыядуць. Ны я́вірі і хлеб пякуць, і пад ногі яго сьцелюць на мост.*

**Явaрына, яверына** *ж.* Асобная расліна аеру. *Што ты зь я́вырінью носісься, аблупіў, зьеў і ўсё. Вырьві нескылька я́вірін, я зынясу дзіцям. Памянш.* **яварынка, яверынка.** *Ужо і ны нашым аборку я́вырінкі сталі росьць. Я́вірінкі ірвуць дзеці, пы халодный вадзе лазюць.*

**Явіць** *незак.* Заяўляць. *Ты ўсігда любіў явіць, усігда любіў паткусывыць. Можыш явіць сколька хочыш, цябе ніхто ні быя́ўся і ні баіцца.*

**Ягадзіна** *ж.* Асобная ягада. *Во тута пы чысьцінкі дужа буйныя я́гыдзіны. Памянш.* **ягадзінка, ягадзіначка.** *Дай і ма́лыму нескылька я́гыдзінык. Ужо красныя я́гыдзінкі пупыдаюцца. Ета ж у цябе, знаць, я́гыдзінычкі? Ігадзінычка на льдзінычкі, а я ны біряґу, кінь мне кладку, ігадзінычка, к табе пірібягу.*

**Ягаднік** *м.* Ахвотнік да ягад. *Айдзе ж я табе тых ягыд вазьму, я́гыднік ты мой.* **Ягадніца** *ж. Дужа быльшая я́гыдніца, пряма гырсьця́мі бярець і ў рот піхаіць.*

**Ядзенне** *н.* Яда (працэс). *Ну й ядзеньня ў цябе як у ма́лыга, абліваісься, пы быpадзе ажно зы выратнік цякець.*

**Ядзеннік** *м. жарт.* Той, хто есць, ядун. *Кладзіці-ка вы ложкі, ядзеньнікі, хва́ціць вам буўтацца.* **Ядзенніца, ядуння, ядуха** *ж. Стыряіцца ядзеньніца, ні ацстаець ад бабы. З маімі зубамі абычайныя яду́ньня, два зубы ў році і тэя шытаюцца. Дывай, яду́ха, скарей шываліся, німа ўремя ждаць.*

**Ядранецца** *незак.* Ядранець. *На ноч ідрянеіцца і віцярок резкій цягніць, к раньню каб марозіка ні було.*

**Языкаватасць, языкастасць, языкатасць, язышлівасць** *ж. неадабр.* Балбатлівасць. *Ізукува́тысьці ў яго ціряшчур многа. Нада апсікаць ету ізыкува́тысьць. Пряма ні прідумыіць, куды дзівaць сваю ізыка́стысьць. Чаго-чаго, а*

*ізыка́тысьці у іх хвытаіць. Уніміся іс сваёю язы́шлівысьцю, як ты толька сьпіш моўча!*

**Языкаватый, язышный** *прым. неадабр.* Балбатлівы. *Ну і ўзяў жа сабе цацу, тыкая ізыкува́тыя, што замілуй бог. Чаго ён такей ізыкува́тый, як баба ікая. Абея дужа язы́шныя, нічога ня ўтоюць, ніхай толька пупадуць ны язык, січас па ўсёй акругі рызьнясуць. Памянш.* **языкаваценькій**. *Ну што ж, трошку ізукува́цінькыя, алі бярі, пызна́іш, якея ца́цы ў іхным раду буваюць.*

**Языпнік** *м. неадабр.* Балбатун. *Ніхто б ні паверіў, што Нісьцярёнык еткій язы́шнік.* **Языпніца** *ж. Во ўжо язы́шніца дык язы́шніца, як мылацілка, тряшчыць. Язы́шніцу ні кармі і ні паі, а дай ізыком пыбрязкыць.*

**Яй-права** *паб. сл.* Далібог. *Ій-пра́ва, ета Кірілёнык пашоў, я пы паходкі яго пызнаў. Дыска́чысься ты, хлопіц, ій-пра́ва, дыскачысься, што харошыю лу́пку палучыш.*

**Якатанне** *н.* Енчанне. *Ня столька тэя болі, сколька ікыта́ньня. Ляжы ты ўжо ціха іс сваім ікыта́ньнім.*

**Якатаннік, якатун** *м.* Той, хто енчыць. *Як тама твой ікыта́ньнік шавеліцца, ці палу́ччыла яму троху? Вун ікату́н у пуні на сені кычаіцца, кызаў, сяредзіна баліць — спа́су німа.* **Якатанніца, якатуння, якатуха** *ж. Айдзе ты там, ікыта́ньніца, можа табе ча́рычку на печ пыдаць, кроў, рызагреіцца і ногі балець піріступуць. Заві-ка і ікату́ньню, ніхай зьлізаіць ды сірбанець троху гырячыга. Нешта нашый ікату́хі крепка нідылігаіць, рызыкыта́лыся, а так іна ціръпялі́выя.*

**Якатацца** *незак.* Енчыцца. *Як табе тута якочыцца? Учора табе, знаць, меншы ікыта́лыся.*

**Якей** *займ.* Які. *Якей тут ба́лыўнік прыгыіць? Я дык і ні знаю, якей сяньня дзень. Якоя позныя ўремя, а іх німа і німа. Памянш.* **якенькій, якенечкій**. *Якенькыя тая морква, яе яшчэ рана ірваць. Нечыга тама іскаць і глядзець, гурочыкі во якенічкія, адна за́візь.*

**Якоў** *займ.* Які, у якім стане. *Якоў етый лён, ці сохніць ён хут троху? Ну, ікыва́ сяньня капуста, ці можна есьць? Ты пыглядзі, ікаво вакно, нада ж так пызадзелывыць балонкі! Ікавы́ сяньня грібы, можа я іх трошку нідысаліла?*

**Ялчыць** *незак.* Выдаваць ёлкім. *Тваё сала пычынаіць ялчы́ць, во вазьмі кусочык у рот. Ета кылбыса, кажыцца, ялчы́ць.*

**Ямка** *ж. перан.* Бакавая ніша пры ўваходзе ў печ. *Пашчу́пый ны я́мкі, тама былі кырабкі. У мяне ў я́мкі*

*посыд, што пад рукі нада, ён усігда сухенічкій стаіць і чысьцінькій.*

**Яўканне** *н.* Высокае адрывістае ўскрыкванне. *Мы чулі яўкыньня зу гумном, ну ні пызналі, што там такоя. Сідзяць як мышы, і яўкыньня ня чутна.*

**Яўкаць** *незак.* 1. Брахаць з віскам. *Нешта сыбака яўкыіць ны дваре, можа хто-небудзь ідзець. 2 перан.* Падаваць голас. *Як твой Мікіпыр, ці яўкыіць троху на печы?* **Яўкнуць** *зак.* 1. Забрахаць з віскам. *Ці ні сыбака ета яўкнуў?* 2. Падаць голас. *Як пріграділі хырашэнька, дык ціхінька сядзеў, худзь ба яўкнуў. Пріцісньць зы гырлянку, дык ты і ні яўкніш, во што табе будзіць.*

**Яўленне** *н.* Заява. *Ні таго ты надумыўся пужаць яўленьнім, ён цябе так нупужаіць, што ты зашыісься. Ета калі-то ў модзі було яўленьня.*

**Яўленнік** *м.* Той, хто заяўляе. *Чаго етыя яўленьнікі нывязывыюцца к чылавеку?* **Яўленніца** *ж. Сядзі ты, яўленьніца, ціха, ня трогый людзей, калі яны цябе ня трогыюць. Сьвіньня пройдзіць, і тая рюхніць, а ета яўленьніца атвырачыіцца.*

**Яхіднік** *м.* Яхіда. *Гыварілі, што яе сын дужа яхіднік. Ого, ты выспрабуй с такім яхіднікым пыгывbooріць.* **Яхідніца** *ж. Нада ж удацца такою яхідніцыю, так і цыляіць, каб путкусіць каго.*

**Яхідні́чанне** *н.* Яхіднасць. *Ніхай во Зьмітрок рыскажыць, ён луччы знаіць Маркыва яхідні́чыньня.*

**Яхканне** *н.* Сабачы брэх на паляванні. *Як пачуіш яхкыньня, тады глядзі, заіц можыць пулію прыляцець. Пад вечыр мы чулі яхкыньня за гумнымі.*

**Ячменіна** *ж.* Асобнае каліва ячменю (расліна і зерне). *Пы пышаніцы кой-айдзе ячменіны сідзяць. Нада ячменіны выбрыць, курям выкінь. Памянш.* **ячменінка**. *Мякіну сюда высыпылі і тут ячменінкі узыйшлі.*

**Яшчаркін** *прым.* Такі, які мае адносіны да яшчаркі. *Яшчыркіны норкі пыць сьцяною, яшчыркі сюда лазіюць.*

